# ІВАН МЕЛЕЖ

## ТОМ 8

## ЖЫЦЦЁВЫЯ КЛОПАТЫ

Артыкулы,
эсэ, інтэрв'ю

РЭДАКТАР ТОМА
А. С. ЯСКЕВІЧ

ПАДРЫХТОЎКА ТЭКСТУ І КАМЕНТАРЫІ
Э. А. ЗОЛАВАЙ

**Мінск**
**«Мастацкая літаратура»**
**1983**

АД АЎТАРА[1]

*У гэтай кнізе надрукаваны розныя творы. Розныя па зместу, па жанравых асаблівасцях, па памеру.*

*Разнастайныя і пытанні, якія ўздымае аўтар у кнізе.*

*Пры ўсім тым, кніга гэта, па майму перакананню, мае сваё адзінства. Думаю, што кожны ўважлівы чытач гэта адчуе. Як і тое, што, сабраныя разам, творы гэтыя па сутнасці становяцца своеасаблівым дзённікам. І пэўным чынам справаздачай пісьменніка перад чытачом.*

*Я палічыў за лепшае падаць творы ў асноўным у храналагічным парадку. Такім чынам, спадзяюся, лепш захаваецца непасрэднасць жывога жыцця.*

*Першы з твораў, якія ўвайшлі ў кнігу, быў напісаны ў 1947 годзе, апошні — у 1973-м. Амаль усе творы асобным выданнем выходзяць упершыню. Многія публікуюцца наогул упершыню.*

*Іван Мележ*

---

[1] Напісана Іванам Мележам замест прадмовы да асобнага выдання: Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты: Артыкулы, эсэ, інтэрв'ю.— Мн.: Маст. літ., 1975.— 608 с.

## ЛЮБІМЫ НАРОДАМ

Мне не раз даводзілася бачыць, з якою любоўю чыталі і слухалі вершы Крапівы нашы людзі. У вёсцы, дзе я вучыўся, бадай ні адзін вучнёўскі вечар не абыходзіўся без таго, каб хто-небудзь не прачытаў байку Крапівы. Простыя, зразумелыя, па-народнаму дасціпныя і вострыя, яны знаходзілі дарогу да сэрцаў нас, сялянскіх дзяцей і нашых бацькоў. Многія радкі ўвайшлі проста ў побыт людзей, сталі своеасаблівымі прымаўкамі.

Пазней мы пазнаёміліся з п'есамі Кандрата Крапівы. Яны таксама ніколі не пакідалі нас абыякавымі. Мы палюбілі Крапіву-драматурга, як любілі раней яго вершы.

«Партызаны», «Хто смяецца апошні», «Проба агнём» сталі здабыткам беларускага тэатра.

Сын працоўнага народа, Кандрат Кандратавіч Крапіва ўвесь час, усе гады творчай дзейнасці быў звязаны з народам, верна служыў яму. Ён добра ведае, чым жывуць працоўныя людзі, ведае іх думкі і надзеі, умее выказаць іх у дасціпным сваім слове.

Наш народ ацаніў і талент пісьменніка, і шчырасць яго слова, і сумленнасць творчай працы — імя Крапівы стала адным з самых любімых пісьменніцкіх імён у Беларусі.

Хочацца пажадаць слаўнаму пісьменніку, каб ён і далей нястомна ішоў тым шляхам, якім ішоў дваццаць пяць год — шляхам сыноўняга, натхнёнага служэння нашаму народу, нашай Радзіме.

*1947*

# НАШЫ ЗАХОДНІЯ БРАТЫ

Адна з самых цікавых галін гісторыі нашага народа — як і народаў рускага, украінскага — узаемаадносіны з заходнімі славянамі.

Калі азірнуцца назад, можна прыгадаць цэлы рад выдатных падзей, якія сведчаць аб гэтай вялікай сувязі. Пяцьсот гадоў таму назад на грунвальдскім полі ішлі поруч на ворага чэхі пад вадзіцельствам Яна Жыжкі, палякі, рускія, беларусы. Праз сто гадоў у Празе, звязаўшыся з перадавымі людзьмі тагачаснай Чэхіі, друкаваў першыя беларускія кніжкі Георгій Скарына.

Ужо зусім нядаўна мы бачылі, з якою прыхільнасцю шанавалі ў той жа Празе Янку Купалу і Якуба Коласа, іншых дзеячаў беларускай культуры.

Аднак ніколі дружба нашага народа са славянамі, што жывуць на Захадзе, не была такой моцнай і блізкай, як у гады Вялікай Айчыннай вайны. У агні вайны, што стала выпрабаваннем нашай дружбы, мы ўбачылі, якое трывалае гэта яднанне; мы з радасцю даведаліся, што ад цяжкіх удараў вайны сувязі нашы не толькі не рвуцца або аслабляюцца, а, наадварот, мацнеюць.

Цяпер яны замацаваны назаўсёды. Яны з'яднаны гарачай крывёю ўсіх славян, якія абаранялі сваё права на свабоднае жыццё.

Нашы славянскія браты ніколі не забудуць, што іх жыццё і свабода выратаваны народамі вялікай савецкай краіны, у першую чаргу — рускім, украінскім, беларускім.

Але і мы таксама не забудзем таго, што ў смяротнай барацьбе з фашыстамі ў нас былі баявыя саратнікі за мяжою. Мы памятаем, што ў той час, калі немцы былі пад Сталінградам, партызаны Чарнагорыі, Сербіі, Харватыі білі гітлераўцаў у іх глыбокім тыле.

Цяпер, пасля вайны, нашы народы яднае творчы ўздым, напружаная аднаўленчая праца, якой жывуць новыя славянскія дэмакратычныя краіны. Нам блізкі па духу і зразумелы той масавы гераізм, які паказалі 80 тысяч югаславаў, што збудавалі ў цяжкіх горных умовах чыгунку Брчко — Бановіцы.

Не выпадкова ў апошні час у нашай літаратуры з'явіўся рад твораў, прысвечаных гераічнай барацьбе ў славянскіх краінах, тэме дружбы славянскіх народаў — аповесці Т. Хадкевіча «Братэрства», Ю. Рудзько «Пястаўская зямля», яго п'еса «Слава дружбе», вершы М. Танка, К. Кірэенкі і інш.

Баявое і гаспадарчае супрацоўніцтва было той асновай, на якой вырасла і ўзмацнілася братэрства нашых літаратур.

Руская літаратура заўсёды выклікала захапленне ў заходніх славян, але ніколі яна не была такой блізкай ім, як у ваенныя і пасляваенныя гады.

Разам з гэтым узрасла цікавасць да ўкраінскай і беларускай літаратур. У польскіх, чэшскіх, югаслаўскіх і балгарскіх газетах побач з творамі рускіх пісьменнікаў нярэдка друкуюцца творы Янкі Купалы, Міколы Бажана, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, Петруся Броўкі, Леаніда Первамайскага, Максіма Танка і іншых пісьменнікаў.

Трэба, аднак, прызнаць, што з дасягненнямі беларускіх пісьменнікаў заходнеславянскі чытач пакуль яшчэ мала знаёмы. Пятро Глебка, якому давялося прысутнічаць на Першым пасляваенным усеславянскім кангрэсе ў Белградзе, гаворыць, што югаслаўскія журналісты скардзіліся на адсутнасць матэрыялаў аб Беларусі.

Наш абавязак — дапамагчы нашым сябрам на Захадзе мець гэтыя матэрыялы. Трэба, каб Саюз савецкіх пісьменнікаў Беларусі і іншыя культурна-асветныя арганізацыі дапамаглі журналістам і пісьменнікам славянскіх краін сістэматычна атрымліваць паведамленні аб найбольш важных нашых літаратурных падзеях. Трэба таксама наладзіць абмен кнігамі, газетамі, часопісамі.

Добра было б, каб на славянскім Захадзе былі знаёмы не толькі з творамі нашых старэйшых пісьменнікаў-класікаў, а і з пісьменнікамі, якія выраслі ў савецкія гады. Няхай сябры нашы ведаюць, што беларускі

народ умее не толькі гераічна змагацца за сваё права на незалежнасць і свабоднае жыццё, але ўмее таксама ствараць дасканалыя мастацкія творы, вартыя яго мужнага сэрца.

Разам з гэтым мы павінны пазнаёміць са славянскімі пісьменнікамі нашых чытачоў. Тут таксама перад намі немалая праца. Калі пераклады з польскіх пісьменнікаў, і часамі і з чэшскіх, з'яўляліся на старонках мінскіх часопісаў, то паэты і пісьменнікі іншых краін яшчэ мала друкаваліся на беларускай мове.

Час пачаць працу па выданні на нашай мове лепшых твораў заходнеславянскіх пісьменнікаў, у першую чаргу такіх, як Адам Міцкевіч, Юльюш Славацкі, Генрык Сянкевіч, Ян Колар — славацкі паэт-гуманіст, Хрыста Боцеў — вядомы балгарскі паэт-трыбун. Няхай загучаць па-беларуску Вук Караджыч, які адкрыў для сусветнай культуры найбагацейшыя скарбы сербскага фальклору, Ян Неруда — вялікі нацыянальны чэшскі пісьменнік, паэт, публіцыст, заснавальнік навейшай літаратуры Чэхіі.

Трэба абавязкова выдаць у Мінску палымянае «Слова перад смяротным пакараннем» Юліуса Фучыка — чэшскага журналіста і камуніста, яснае жыццё якога абарвалася ў 1943 годзе.

Трэба перакласці творы славутага харвацкага пісьменніка Уладзіміра Назора, пісьменніка-салдата, які, нягледзячы на сямідзесяцігадовы ўзрост, змагаўся ў радах гераічных партызан Ціта.

Нас цікавіць і тое, з чым выступаюць сучасныя югаслаўскія паэты Радаван Зогавіч, Фердо Козак, сучасныя пісьменнікі Чэхаславакіі, Балгарыі, Польшчы.

Беларускія пісьменнікі павінны бліжэй пазнаёміцца з сучасным жыццём у славянскіх краінах.

*1948*

# ПАЭЗІЯ ІНДУСТРЫІ

Асноўнай прыкметай, па якой можна вызначыць правільнасць кірунку нашай пісьменніцкай працы, я лічу, з'яўляецца тое, як праўдзіва мы адлюстроўваем найбольш важныя падзеі і з'явы, як глыбока пранікаем у жыццё, як чула заўважаем новае. На супастаўленні задач, якія ўзнімае наша савецкая рэчаіснасць, і вырашэння іх у літаратуры лепш за ўсё можна ацаніць нашы поспехі, выявіць недахопы і памылкі.

Якія ж найбольш важныя падзеі адбыліся за пасляваенныя гады? Як мы, пісьменнікі, справіліся з задачамі, што паставіла перад намі савецкае жыццё?

Апошнія чатыры гады, як вядома, былі часам вялікай, усенароднай будоўлі, напружанай геранчнай працы. Наша краіна залечвала цяжкія раны, што засталіся ад вайны. Стваральная праца была ва ўсіх галінах гаспадаркі, ёю жылі людзі ў кожным горадзе Беларусі, у кожнай вёсцы. Праца гэта была цяжкая і самаадданая, яна патрабавала ад людзей вялікіх намаганняў і гатоўнасці да подзвігаў. Дзякуючы працы мільёнаў рабочых і сялян наша краіна хутка адбудоўваецца.

Да 30-й гадавіны ўтварэння Савецкай Беларусі наш народ прыходзіць з выдатнымі поспехамі.

Вялікая роля ў гэтым рабочага класа рэспублікі. Прамысловасць развіваецца асабліва бурна. У нас не толькі адноўлены разбураныя заводы, але і пабудаваны новыя. У Беларусі сталі развівацца галіны індустрыі, якіх не ведала раней рэспубліка. Акрамя аўтамабільнага, трактарнага, веласіпеднага — заводаў-гігантаў — у рэспубліцы будуюцца заводы лакамабільны, інструментальны, шарыкападшыпнікавы. Гэтыя заводы абсталяваны самай высокай тэхнікай.

Разам з ростам прамысловасці пашырылася армія рабочага класа. Выраслі тысячы новых рабочых, майстроў розных спецыяльнасцей.

Усё гэта не магло не адбіцца на нашай літаратуры. Частка беларускіх пісьменнікаў сталі працаваць над творамі аб гераічных справах рабочага класа, аб навабудоўлях.

Макар Паслядовіч напісаў аповесць «Цёплае дыханне», Аляксей Кулакоўскі стварыў аповесць «Гартаванне», Іван Грамовіч надрукаваў кніжку нарысаў «Агні пяцігодкі», Янка Брыль — апавяданне «Лазунок». Сістэматычна выступалі ў часопісах і газетах з нарысамі на індустрыяльную тэму Аляксандр Міронаў, Павел Кавалёў, Макар Паслядовіч і інш. Трэба сказаць, што нарыс у апошні час стаў займаць значнае месца ў літаратуры. Асабліва гэта прыкметна ў творах аб індустрыі. Калі параўнаць абедзве аповесці і апавяданні з нарысамі, напісанымі на гэту тэму, то нельга не заўважыць, што ў нарысах жыццё рабочага класа паказана больш разнастайна і шырока, чым у «чыста мастацкіх» жанрах.

Пашырэнне індустрыяльнай тэматыкі прыкметна таксама ў паэзіі. Тут можна адзначыць вершы «Агні Мінска», «Дружба» Максіма Танка, «Архітэктар» Петруся Броўкі, вершы Кастуся Кірэенкі «Ля вітрын», «Вуліца», «Цягнік», нізку вершаў Анатоля Вялюгіна пра трактараград, паэму Эдзі Агняцвет «Дарога ў будучыню», нізку вершаў Міколы Аўрамчыка аб Данбасе — «Легенда пра залатую зямлю» і іншыя.

У аповесцях, нарысах і вершах пісьменнікі імкнуцца вырашыць актуальныя пытанні, якія паставіла наша вялікае будаўніцтва.

Паслядовіч прысвяціў сваю аповесць паказу будаўніцтва аўтазавода. Пісьменнік намаляваў карціну ўсенароднай будоўлі. Ён убачыў і праўдзіва паказаў асаблівасці гэтай будоўлі, якая ўзнікла на былым пустыры і воляю партыі, воляю народа пераўтварае яго. У будаўніцтве ўдзельнічае ўся рэспубліка. Сюды прыязджаюць рабочыя з Полацка і Ліды, з Мазыра, Брэста і Оршы. Большасць з іх маладыя хлопцы і дзяўчаты, якія прыйшлі з пуцёўкамі райкомаў камсамола.

Паслядовіч паказвае, што будаўніцтва з самага пачатку ішло пры братняй дапамозе ўсёй савецкай краіны. «Дрэва прывозілася з поўдня і поўначы, жалеза і шкло — з усходу — з далёкага Урала і Сібіры. З Масквы, з Чэлябінска, з Магнітагорска і Горкага з'яўляліся інжынеры і тэхнікі, спецыялісты электразваркі, май-

стры аўтагенаў — пасівелыя разважлівыя знаўцы будаўнічых спраў».

Дарэчы, гэтая характэрная асаблівасць нашага будаўніцтва знайшла даволі шырокі водгук і ў многіх паэтаў (верш К. Кірэенкі «Цягнік», паэма Э. Агняцвет «Дарога ў будучыню» і інш).

Але савецкая краіна прыйшла на дапамогу беларускаму народу не толькі ў будаўніцтве заводаў; яна дапамагала стварыць свае кадры спецыялістаў. Гэта паказаў у сваёй аповесці Кулакоўскі. Яго герой Васіль Патрончык вучыцца майстэрству ў Сталінградзе.

Як аб дасягненні трэба сказаць, што пісьменнікі сталі глыбей паказваць гераічную працу нашых рабочых. Ёй прысвячаюцца цёплыя, хвалюючыя радкі. Старонкі, дзе Паслядовіч малюе, з якім уздымам працуе Саламака, знатны муляр будаўніцтва, як вучыцца ў яго Сямён, з якім уздымам Бярозка кладзе сцяну ў першы раз самастойна,— бадай лепшыя ў аповесці. Саламака і Бярозка — людзі, якія аддана любяць працу.

Вялікаю мараю аб любімай працы, аб прафесіі рабочага жыве і сялянскі хлопец з вёскі Пруцікі Васіль Патрончык, герой аповесці «Гартаванне». Кулакоўскаму ўдалося добра расказаць аб гарачай любові да працы, якая жыве ў сэрцы хлопца з Пруцікаў і вядзе яго наперад. У працы, у барацьбе з цяжкасцямі, якія стаяць на шляху да майстэрства, гартуецца характар Васіля.

Тэма працы знайшла свой адбітак і ў вершах. Прага працы на карысць Радзімы, жаданне аддаць усе сілы для аднаўлення нашых заводаў і гарадоў — гэтай мэтаю жыве лірычны герой многіх нашых паэтаў.

Вось аб чым марыць лірычны герой Максіма Танка:

...Прыслухайся толькі да сказаў людзей
І пабачыш, які будзе горад прыгожым,
Камунізма пабачыш палаючы дзень,
Што да нас па шляхах пяцігодак ідзе,—
І ад шчасця вачэй ты адвесці не зможаш.
Будзеш камень драбіць, класці цэглу, бетон,
Слоў нястомных шукаць нержавеючых, вечных,
Што ў напевах краіны звінелі б, як звон,
Былі б варты сустрэць славу будучых дзён
І вянком на курганы на брацкія легчы.

Тая ж мара хвалюе герояў Анатоля Вялюгіна:

Мы хутка ўбачым на дзялянцы новы цэх,—
Сказаў сваёй брыгадзе ўвечары салдат.

Да позніх зор звінеў навостраны тапор.
На лысых лядах думаў брыгадзір,
Што забудуе ён усёй зямлі прастор,
Каб толькі быў на ўсёй зямлі заўсёды мір.

Трэба адно пажадаць, каб гэтыя жыццёвыя матывы, свет герояў паэзіі ў далейшым былі паглыблены. Трэба сардэчным, прачулым словам славіць гераічную працу нашых рабочых.

Змяняючы навакольны свет, жыццё разам робіць папраўкі і змены ў старых уяўленнях. Змяняецца і сэнс, змест тэрміна «індустрыяльная тэматыка».

Трэба, дарэчы, сказаць, што ў цэлым тэрмін «індустрыяльная тэма» мне здаецца штучным. Я лічу, што наогул падзел: калгасная і індустрыяльная тэматыка — вельмі ўмоўны, фармальны.

Гэты падзел асабліва ўмоўным становіцца цяпер. Індустрыялізацыя рэспублікі выяўляецца не толькі ў тым, што растуць заводы-гіганты, што яны абсталяваны новай тэхнікай. Працэс індустрыялізацыі, калі прыгледзецца ўважліва, не абмяжоўваецца адным горадам, ён закранае ўсё мацней і вёску. Уся краіна — ад буйнога горада да самай малой вёскі — у той ці іншай меры — індустрыялізуецца. У нас пабудаваны тысячы малых прадпрыемстваў, вялікая частка з іх належыць калгасам. Пабудаваны сотні сельскіх электрастанцый. Да канца пяцігодкі будуць электрыфікаваны ўсе МТС, саўгасы і трэцяя частка калгасаў.

Гэта не магло не адбіцца і на саміх людзях. У калгасах усё больш з'яўляецца людзей, якія маюць усе прычыны стаяць побач з рабочымі — трактарысты, электратэхнікі, камбайнеры.

З'явілася, можна сказаць, калгасная індустрыя, і разам з ёй законна нараджаюцца аповесці і вершы, якія, маючы непасрэднае дачыненне да вёскі, сталі разам з тым вельмі блізкімі «сваякамі» індустрыяльных твораў.

У якасці твора, дзе ўлоўлены гэтыя новыя з'явы, можна назваць новую аповесць М. Паслядовіча «Святло над Ліпскам», у якой расказваецца аб цяперашніх працэсах у нашай вёсцы. Аповесць, на жаль, яшчэ не надрукавана, я прачытаў яе ў рукапісе і таму не буду расказваць пра яе падрабязна.

Аднак, хоць ёсць некаторыя поспехі, трэба сказаць,

што мы, пісьменнікі, пакуль што ў вялікім даўгу перад жыццём, перад рабочым класам.

Індустыяльная тэматыка не займае яшчэ належнага месца ў літаратуры. Творы, якія напісаны, уздымаюць толькі нязначную частку новых пытанняў і праблем, якія паставіла перад намі жыццё горада, індустрыяльнае будаўніцтва.

Твораў пра горад пакуль што вельмі мала, гэта факт. Але гэта знешняя адзнака. Бяда не толькі ў тым, што твораў аб рабочым класе мала па колькасці. Горш тое, што творы гэтыя яшчэ — пры ўсіх іх станоўчых якасцях — ніяк не могуць задаволіць нашых патрабаванняў. У іх ёсць істотныя недахопы.

Калі прыглядаешся да таго, што зроблена паэтамі, то бачыш, што ўсе поспехі іх толькі ў галіне лірыкі. Эпічны жанр — амаль не кранутае поле. У эпічным жанры, па сутнасці, не створана ніводнага буйнога твора. Мы можам пакуль што гаварыць толькі аб паэме Эдзі Агняцвет «Дарога ў будучыню».

Твор гэты патрэбны. У ім пастаўлены многія актуальныя пытанні нашага часу.

Аднак вырашэнне іх, на жаль, не заўсёды можа задаволіць нас. Усё тут нібы і правільна зроблена, але, калі чытаеш твор, даволі часта ўзнікае думка, што гэта ўжо нам вядома, мы ўжо чулі гэта. Можна сказаць, Эдзі Агняцвет знайшла мала сваіх адзіных слоў.

Героі паэмы маюць мала жывых рыс. Вельмі цяжка, напрыклад, уявіць воблік яе галоўных герояў — Ігната Высокага і Алесі. Паэтэса паведаміла нам пра іх фактычна самыя агульныя весткі. Алеся — спачатку няўдала шліфавала фрэзы, а потым навучылася, яна працуе «не для славы, а для нашай справы», такіх нямала мае камсамол. Гавораць героі таксама агульнымі словамі. Ігнат, напрыклад, гаворыць каханай:

> І я адчуў нанова
> Усю радасць існавання.
> Майго жыцця аснова —
> У нашым будаванні.

Паэма «Дарога ў будучыню» мае значныя недахопы. Яны зніжаюць вартасць патрэбнай паэмы.

«Дарога ў будучыню» — пакуль што адзіны эпічны паэтычны твор аб рабочых.

Як агульную хібу ўсёй нашай паэзіі павінны адзначыць, што ў ёй вельмі мала разгорнутых сюжэтных твораў. Я ўжо не гавару, што паэзія наша пакуль не можа пахваліцца вобразамі, роўнымі па сіле Зарудnаму са «Сцяга брыгады», Кацярыне ці Януку Сялібе,— вобразаў рабочых, больш-менш выразных, можна сказаць, наогул няма. Трэба дадаць, што тэматыка вершаў пра горад, заводскія справы вельмі абмежаваная; амаль усе вершы напісаны пра аўтамабільны і трактарны заводы ды аднаўленне Мінска, быццам Беларусь канчаецца адразу за ўскраінамі сталіцы, на першых кіламетрах Магілёўскай шашы.

Відаць, гэта гаворыць аб тым, што і прадстаўнікі нашага паэтычнага атрада не надта ведаюць жыццё рабочых, што ім, як і празаікам, варта сур'ёзна прыглядзецца да таго, што адбываецца ў фабрычных ды заводскіх цэхах, у кватэрах і інтэрнатах індустрыяльных раёнаў і пасёлкаў.

Яшчэ горш у гэтым сэнсе нашы справы ў драматургіі.

З драматычных твораў мы маем толькі п'есу В. Палескага «Песня нашых сэрцаў». Яна дагэтуль не надрукавана, не пастаўлена на сцэне.

Калі знаёмішся з нашай прозаю аб рабочых, кідаецца ў вочы адна акалічнасць: нашых аўтараў больш за ўсё цікавяць маладыя рабочыя, якія толькі што ўсталёўваюцца, абжываюцца на новым месцы. Вядома, гэта ў пэўнай меры тлумачыцца тым, што на нашых заводах большасць рабочых — моладзь, вясковыя хлопцы. Але мімаволі прыходзіць думка, што такая ўвага да маладых тлумачыцца і тым, што нашы празаікі самі пакуль падобны на тых маладых хлопцаў з вёскі, якія надумаліся развітацца з мясцінамі і людзьмі, што знаёмы з маленства, і ступілі ў новы нязвыклы свет. Світкі на іх дамашнія, ім незнаёма многае навокал... Наша проза, як і героі аповесцей, толькі ўвайшла ў заводскія цэхі. Яна яшчэ адчувае сябе тут няўпэўнена, як навічок.

Характэрнай асаблівасцю нашай «рабочай» прозы з'яўляецца тое, што ў іх па сутнасці толькі індустрыяльны фон — абстаноўка, пейзаж, а ўнутраная атмасфера, «душа» гэтай прозы мала чым адрозніваецца ад прозы пра калгаснікаў. Асноўныя героі такіх твораў — не рабочыя, а калгаснікі, сяляне, якія ўчора сталі да

станка. Сямён Бярозка з «Цёплага дыхання» тры тыдні на будаўніцтве, ён працуе падручным ў майстра, потым вучыцца, «як класці рошчыну, блокі альбо цэглу». Сямён пра сябе думае: «Ён звычайны земляроб; такія яго былі прадзед, дзед, бацька».

Толькі што пачынаецца біяграфія рабочага і ў Васіля Патрончыка — з аповесці Кулакоўскага. Мы бачым толькі пачатак яго новага жыцця. Ён яшчэ вельмі часта ўспамінае свае Пруцікі і параўновае Сталінград з Маладзечнам.

Я зусім не збіраюся дакараць Паслядовіча і Кулакоўскага за тое, што яны выбралі героямі маладых рабочых. Выбар гэты зусім правамерны, іх творы патрэбныя. Я магу кінуць папрок аўтарам толькі ў тым, што яны так нясмела падступаюцца да гарадскіх рыштаванняў і заводскіх цэхаў, што яны спыніліся на самым пачатку дарогі. Няпростая задача паказаць перадавога, кадравага рабочага, нашага сучасніка — паранейшаму стаіць наперадзе.

Я добра разумею тыя цяжкасці, якія стаяць перад аўтарамі, што бяруцца рашаць нязвыклую для нашай літаратуры задачу. За пасляваенныя гады воблік нашых рабочых змяніўся, гэта людзі, за якімі не толькі вопыт вайны, але і новы вопыт мірнага часу. Іх гэты час навучыў багата чаму. Яны выраслі, навучыліся абыходзіцца з самымі складанымі станкамі і машынамі. Але гэта не ўсё. Для таго пакалення рабочых, што працуе цяпер на заводах і фабрыках, стала прывычным спалучэнне сур'ёзных тэарэтычных ведаў з працоўным вопытам.

Лепшыя рабочыя, што цяпер становяцца кадрамі прамысловасці,— людзі значнай творчай культуры, яны ўдасканальваюцца ў сваім імкненні авалодаць сучаснай тэхнікай, што сама па сабе ў той ці іншай меры ўплывае на характар і стыль іх жыцця і паводзін. У гэтым свеце пісьменнікаў чакае многа нязвыклага, нязнанага раней. Задача пасцігнуць і раскрыць глыбока гэтых людзей, такім чынам, патрабуе немалой смеласці і, вядома, належных ведаў ад пісьменнікаў. Але пакольві вобраз новага рабочага заваяваў сабе значнае месца ў беларускім народзе, трэба, каб ён быў сваім чалавекам і ў нашых творах.

Спробы намаляваць кадравага рабочага былі. У аповесцях М. Паслядовіча і А. Кулакоўскага хоць і на дру-

гім плане, ёсць рабочыя, якія багата гадоў працавалі на заводзе і з'яўляюцца цяпер кіраўнікамі і настаўнікамі моладзі. Іх у творах нямала. Начальнік будаўніцтва Кораб, інжынер Хадароўскі, тэхнік Шайбак, муляр Саламака — у аповесці «Цёплае дыханне», Янук Дукора, майстар-сталінградзец Андрэй Давыдавіч — у аповесці Кулакоўскага.

Удаўся Паслядовічу Шайбак. Шайбак — жывы чалавек, са сваімі поглядамі, сваімі звычкамі і правіламі.

Але тып такога рабочага не надта новы для нашай літаратуры, ды і, на мой погляд, ён мала характэрны для цяперашняй катэгорыі рабочых. Ён, можна сказаць, крыху ўстарэў. Шайбак — чалавек практыкі. Яго ўнутраны свет абмежаваны, погляды, хоць і своеасаблівыя, вельмі ж старамодныя. Ён прадстаўнік той старой гвардыі, якая складвалася ў гады першай пяцігодкі. За гэты час багата якія таварышы Шайбака выраслі, а ён, якім быў, такім і застаўся.

«Вопыту стары тэхнік надаваў большае значэнне, чым тэарэтычнай вучобе. Можа, гэта ішло ад таго, што ён ніякіх тэхнікумаў, акрамя кароткатэрміновых курсаў па будаўніцтву, не канчаў, а да многага дайшоў сам, прыглядаючыся, як працуюць другія, чытаючы без усялякага разбору і падбору самыя разнастайныя кнігі».

Аўтар нідзе не выказаў сваіх адносін да поглядаў Шайбака.

У аповесці ёсць і новыя людзі, якія раслі з часам і набылі за гэты час значны чалавечы і прафесійны вопыт. З іх варта адзначыць двух — начальніка будаўніцтва Кораба і інжынера Хадароўскага. Яны — прадстаўнікі перадавой часткі рабочага класа, яе кіруючы склад. Вобразы іх новыя ў беларускай літаратуры.

Біяграфія Хадароўскага — тыповая для людзей гэтага складу. Па словах Паслядовіча — Дняпроўская электрастанцыя і мінскі Дом урада, Горкаўскі аўтазавод і Гомсельмаш бачылі на сваіх рыштаваннях Віктара Паўлавіча. Ён у былым — актыўны партыйны работнік, па камандзіроўцы райкома ездзіў у вёскі праводзіць калектывізацыю. Хадароўскі прайшоў шлях ад чорнарабочага да інжынера вялікага будаўніцтва. Як відаць, Паслядовіч меў намер стварыць цікавы, значны вобраз.

Але добрая задума, на жаль, засталася задумаю. Хадароўскі, а таксама і Кораб, намаляваны бледна. Крыху вырысоўваецца вобраз Хадароўскага ў сцэнах, дзе інжынер на сваёй кватэры размаўляе з Сямёнавым або калі ён разбурае сцяну, якую няправільна склаў малады муляр. У цэлым мы вельмі мала ведаем пра яго. Мала сказаць пра яго, што ён любіў запрашаць дамоў людзей, што ў яго з гэтага заўсёды было ў хаце поўна гасцей, як у заезджым доме, што ён па натуры рамантык і што ён можа быць і добрым, і сярдзітым. Пра будаўніка многіх заводаў, кіраўніка вялікага будаўніцтва сказаць гэта — недаравальна мала.

Аб Корабе нам вядома, што ён мае добрую памяць, што на яго грудзях Залатая Зорка Героя, што ён можа і выпіць. Гэтага — таксама мала. Хочацца бачыць, як Хадароўскі і Кораб арганізоўваюць людзей, як выхоўваюць іх, уздымаюць на барацьбу з цяжкасцямі, вядуць за сабою. Мы хочам бачыць іх рэальнымі, жывымі людзьмі — не гасцямі выпадковымі, а гаспадарамі, якія па праву займаюць пачэснае месца ў творы.

Мне здаецца, мала раскрыты і майстар Андрэй Давыдавіч у аповесці «Гартаванне». Вобраз гэты статычны, ён амаль не дзейнічае. Таму ён і застаўся цьмяным абрысам. Яго трэба дапісаць.

Заўвагі, якія ўзнікаюць з гэтымі вобразамі, датычацца не толькі двух аўтараў. Іх можна зрабіць і іншым нашым пісьменнікам.

У цэлым — стварылася ў нашай літаратуры пра рабочых такая сітуацыя, што новага, багатага душой і розумам заводскага чалавека мы не навучыліся паказваць, на першым месцы часцей аказаліся людзі, якія ніякіх тэхнікумаў не канчалі, людзі наіўныя, недалёкія, якія не бачаць далей свайго станка. У выніку, незалежна ад нашага жадання, выходзіць так, што мы збядняем, прыніжаем вобразы рабочых людзей.

Прычына такога становішча, зноў хочацца паўтарыць, перш за ўсё ў тым, што мы, і паэты, і празаікі, мала ведаем сённяшніх рабочых. Што ўсе мы — у тым ліку і тыя, што пішуць на індустрыяльную тэму,— жывём успамінамі маленства, не заўважаем таго, што ўспаміны ашукваюць, што многае змянілася.

Гэта — галоўная прычына, але не адзіная. На маю думку, асэнсоўваць належным чынам новыя з'явы перашкаджаюць нам і ўстарэлыя традыцыі. Мы з імі звы-

каемся і не заўважаем, што яны ўжо нам не падыходзяць, што з імі трэба развітацца, адкінуць іх.

Сур'ёзнай заганай некаторых твораў, напрыклад, з'яўляецца тое, што пісьменнікі, следуючы старой традыцыі, паказваюць рабочага як нейкага героя-адзіночку, штучна ізалююць ад іншых такіх жа герояў. Мы як бы заплюшчваем вочы на тое, што ў жыцці такое становішча проста немагчыма, што ў сапраўднасці нашы героі дзейнічаюць абавязкова ў рабочым калектыве, што з ім іх звязваюць разнастайныя адносіны. Толькі ў калектыве рабочы можа знайсці сваё месца. Толькі лічачыся з калектывам, спалучаючы з ім свае жаданні, рабочы можа працаваць з поспехам.

Галоўны недахоп аповесці Кулакоўскага, мне здаецца, у тым, што Патрончык у ёй — фактычна адзіночка. Ён і ў брыгадзе трымаецца асобна, і на працы — сам з сабою.

Можна сказаць: мы забываемся, што існуе такі цікавы і значны герой — калектыў.

У дзейнасці рабочага ў калектыве вялікае значэнне, як вядома, маюць партыйная, камсамольская арганізацыі. Але прыходзіцца прызнацца, што парторгам і камсоргам у нас пакуль што не шанцуе. Як праўдзіва і ярка намаляваны вобраз парторга Залкінда, камсамольцаў у рамане хабараўскага пісьменніка Ажаева «Далёка ад Масквы», надрукаваным у апошніх нумарах «Нового мира»! І як часам скупа і цьмяна падаём іх мы! У нашых творах, на жаль, парторгі і камсоргі нібы госці важныя, якіх мы запрасілі — з павагі ці абавязку — да сябе, але з якімі мы не ведаем, як абыходзіцца...

Вялікая роля калектыву ў росце рабочага прыводзіць да змены старых, ужо ўсталяваных поглядаў на чалавечыя паводзіны. Жыццё ў калектыве выпрацоўвае, па сутнасці, новыя нормы паводзін, новую этыку.

Гэтую тэму закранае ў сваёй аповесці М. Паслядовіч. Саламака імкнецца высока трымаць не толькі свой асабісты гонар, але і гонар усёй брыгады, ён перажывае кожную няўдачу тых, хто ў яго малым калектыве, радуецца кожнаму іх поспеху. Саламака працягвае руку дапамогі Сямёну Бярозку, калі таго спасцігла няўдача ў першы дзень самастойнай работы, па-таварыску вучыць. «Як салдаты-гвардзейцы палкавы сцяг, так абе-

рагаў Саламака гонар сваёй брыгады, першынство, заваяванае ўпартай штодзённай працай»,— як бы падкрэслівае Паслядовіч.

Хачу сказаць некалькі слоў пра наш нарыс.

Нарыс — вельмі важны як жанр, які дае магчымасці пісьменніку хутка, аператыўна адгукнуцца на самыя новыя падзеі. Ён карысны і для пісьменніка, бо вядзе ў гушчыню турботнага жыцця, абвастрае ўвагу, назіральнасць.

Нарыс, я лічу, трэба ўсяляк падтрымліваць. У літаратуры аб рабочым класе нарысы займаюць значнае месца. Рад нашых таварышаў — Іван Грамовіч, Аляксандр Міронаў, Павел Кавалёў — сістэматычна выступаюць з нарысамі. Трэба вітаць добры пачын Івана Грамовіча, які падрыхтаваў кніжку нарысаў. Вельмі дзіўна адно, што выдавецтва на працягу некалькіх месяцаў затрымлівала кнігу, замест таго каб хутчэй даць яму дарогу да чытача. Відаць, значэнне нарыса яшчэ не ўсім у выдавецтве зразумела.

Трэба сказаць усё ж, што добрых нарысаў у нас пакуль мала. Можа быць, ад таго, што ў нас няма пакуль патрэбнага вопыту. Але, напэўна, і таму, што мы легкавата ставімся да гэтага жанру. Між тым напісаць добры нарыс не лягчэй, чым добрае апавяданне. А мы, беручыся за нарыс, падобна, забываемся аб гэтым. Дарэчы, здаецца, заганай большасці нарысаў з'яўляецца тое, што яны вельмі далёкія ад апавядання, часта нагадваюць сухі, паспешна перададзены рэпартаж. У нарысах рэдка дзейнічаюць жывыя людзі. Багата лічбаў і газетнай — у горшым разуменні слова — публіцыстыкі.

Што нам патрэбна зрабіць у далейшым, каб справіцца з задачамі, якія стаяць перад нашай літаратурай у гэтай важнай галіне?

Усім вядома: самае асноўнае — ведаць жыццё тых, пра каго пішам, людзей прамысловасці, вывучаць яго — не па кнігах і газетах, а, як гаворыцца — па першакрыніцах. Гэта — старая ісціна, але ісціна нязменная. Нікому з нас не варта забываць пра яе.

Нястача жывых вобразаў, канфліктаў, сюжэтаў у нашых творах пра рабочых, мне здаецца, тлумачыцца якраз тым, што ведаем мы недастаткова.

Таварышы, дваццаць гадоў назад Паўлюк Трус, памятаеце, марыў:

Край балот,
Тугі, азёраў наскіх,
Край цішы
І громаў-навальніц...
. . . . . . . . . . .
Край палёў...
О, край,—
Калі ж ты станеш
Краем фабрык дымных
І машын?..

Паэт марыў пра той час, калі зазвініць на вуліцах Мінска трамвай і пачуецца музыка Асінстрою.

Мара паэта даўно збылася.

Тэма рабочага класа неаднаразова прыцягвала ўвагу беларускіх пісьменнікаў. Аб рабочых было напісана нямала таленавітых апавяданняў, вершаў, п'ес, раманаў. Але чытаючы іх цяпер, параўноўваючы з нашым часам, мы востра заўважаем, наколькі драбнейшымі былі маштабы будаўніцтва ў той час, наколькі вузейшым быў свет тых людзей — іх мары аб будучыні.

З таго часу багата што змянілася. У гарадах і рабочых пасёлках нашай рэспублікі, як і ва ўсёй краіне, вырасла вялікая армія, што загартавана ў баях і ў гераічнай працы некалькіх пяцігодак.

Нам дадзены вялікія магчымасці. Куды большыя, чым у нашых папярэднікаў.

Але даўшы нам большыя магчымасці, народ разам з тым прад'яўляе нам большыя патрабаванні. Нам трэба адказаць на гэтыя патрабаванні добрымі мастацкімі творамі. Мы павінны ярка, праўдзіва паказаць тыя вялікія змены, якія адбыліся ў нашых гарадах, на нашых заводах, у вобліку нашай рэспублікі. Мы павінны адчуць хараство, паэзію індустрыі, што з нечуванай сілаю гучыць над нашымі прасторамі, і навучыцца перадаваць яе ў нашых творах. Мы павінны стварыць вобраз новага рабочага такім, каб ён быў годны нашых дзён!

*1948*

# ПРА ТВОРЧАСЦЬ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА

## I

У маі 1923 года ў газеце «Савецкая Беларусь» з'явіўся першы празаічны твор Кузьмы Чорнага, апавяданне «На граніцы».

На працягу пачатковых трох-чатырох гадоў Кузьма Чорны выступаў амаль выключна як аўтар апавяданняў, мастацкіх эцюдаў. Апавяданні гэтага перыяду былі аб'яднаны ім у зборнікі: «Апавяданні» — 1925 г., «Срэбра жыцця» — 1925 г., «Хвоі гавораць» — 1926 г., «Пачуцці» — 1926 г., «Па дарозе» — 1926 г.

Праца над апавяданнямі мела вялікае значэнне для далейшай творчай дзейнасці маладога пісьменніка. Яна ўзбагаціла Чорнага неабходным літаратурным вопытам, навучыла валодаць словам, абвастрыла назіральнасць — гэта значыць была добрай падрыхтоўкай для будучага раманіста. Некаторыя апавяданні пісьменніка былі як бы замалёўкамі да яго буйных твораў. Тэмы, вобразы, настроі многіх з гэтых апавяданняў вельмі блізкія да тых, з якімі чытач знаёміцца ў яго першых раманах.

У апавяданнях упершыню акрэсліваюцца асаблівасці творчай манеры маладога Кузьмы Чорнага, якія ў больш скандэнсаванай, закончанай форме выяўляюцца ў ранніх вялікіх творах.

Апавяданні ў большасці ўяўляюць з сябе асобныя замалёўкі, своеасаблівыя эцюды. Тут можна пазнаёміцца з асобнымі праявамі жыцця сялян у гады грамадзянскай вайны («Буры», «На пыльнай дарозе», «Начлег у вёсцы Сінегах»), з працэсамі, якія адбываліся ў сялянскім асяроддзі ў пасляваенны час («Максімка», «Хвоі гавораць»). Часамі з апавяданняў паўстаюць малюнкі гарадскога быту, ваенных будняў чырвонаармейцаў. Героі гэтых эцюдаў нярэдка нагадваюць адзін аднаго — часцей за ўсё ў іх жывуць працавітыя сціплыя вясковыя людзі.

Сярод ранніх герояў асабліва дарагія пісьменніку — прываблівыя, прызвычаеныя з самага маленства да цяжкай працы хлапчукі.

Вось адно з найбольш цікавых апавяданняў — «Максімка», напісанае ў 1925 годзе. Галоўны герой твора — сціплы, асцярожны, зацяты ў сабе вясковы чалавек, вобраз вельмі характэрны для ранніх апавяданняў Чорнага.

Максімку трэба везці падатак у горад. Гэтая, здавалася б, звычайная падзея выклікае трывогу ў Максімкі. «Яго браў страх ад таго, што ён выбіраецца ў горад за сорак вёрст. Чаго яму было страшна, ён сам ніколі не мог бы растлумачыць, ён не разумеў гэтага». Гэта — недавер'е селяніна да горада, якое засталося ў спадчыну ад буржуазнай рэчаіснасці.

Апавяданне напісана ў пачатку нэпа, калі ў горадзе яшчэ моцна трымаліся капіталістычныя элементы. Аднаго з прадстаўнікоў гэтага асяроддзя, асуджанага на пагібель, К. Чорны вельмі ярка паказвае ў вобразе ўладальніка заезджага дома Гірша Дрэйзіна, «вёрткага вострабародага і хуткага чалавека». Выразна намаляваў пісьменнік яшчэ некалькі вобразаў насельнікаў заезджага дома, асабліва двараніна Франца Уманіцкага, узнагароджанага некалі медалём за ўсмірэнне сялянскага паўстання ў 1905 г., ён цяпер канчаткова дэградаваў, разлажыўся, стаў дробным злодзеем. Быт заезджага дома, у якім знаходзяць прытулак спекулянты і злодзеі, цёмныя цені мінулага, палохае і адштурхоўвае ад сябе селяніна.

Але вось Максімка апынуўся ў Доме селяніна, напалоханы заезджым домам Гірша Дрэйзіна, ён рашыў тут «забіцца дзе-небудзь у куток, нікому не пападацца на вочы, як-небудзь ціхенька перадрамаць ноч і назаўтра скарэй ехаць дадому».

Аднак ён заўважае хутка, што абстаноўка ў Доме селяніна зусім іншая, чым у доме Дрэйзіна. Тут «сяляне хадзілі смела, як у сябе дома». К. Чорны скупа, але пераканальна паказвае, як у душы селяніна знікае страх перад горадам.

Максімка бачыць, што гэты горад, з якім ён знаёміцца ў Доме селяніна, друг вёскі, ён клапоціцца аб дабрабыце вёскі. Максімка прыходзіць да вываду аб існаванні ў адным горадзе двух розных асяроддзяў. І знайшоўшы між гэтых двух асяроддзяў сваё, блізкае

і зразумелае яму, Максімка пачынае адчуваць давер'е і павагу да новага горада.

«Не знаў я, дзе шукаць свайго горада...» — гэтыя словы, сказаныя Максімкам, выяўляюць радасць селяніна, які вызваліўся ад прыкрага страху, які глянуў на горад прасветленымі, яснымі вачамі.

Паказаўшы, як знікае ў Максімкі варожасць да горада, К. Чорны адкрыў перад чытачом пачатак працэсу нараджэння новага чалавека.

Да гэтай тэмы — узаемаадносін горада і селяніна — К. Чорны вярнуўся пазней, у рамане «Люба Лук'янская». Апавяданне «Максімка» з'яўляецца як бы папярэднікам аднаго з найбольш спелых твораў пісьменніка.

Ужо ў гэтым апавяданні можна ўбачыць, з якой удумлівасцю глядзіць малады пісьменнік у жыццё, адзначаючы першыя парасткі новага. Характэрна, што нават у ранніх творах К. Чорны перш за ўсё цікавіцца не знешнімі падзеямі, а псіхалогіяй, «дыялектыкай душы» чалавека, тымі асаблівасцямі, якія вызначаюць яго раманы. Варта адзначыць, што ўжо ў гэтым творы адчуваецца імкненне маладога празаіка да пастаноўкі і вырашэння важных, вялікіх праблем.

К. Чорны, як правіла, асноўвае канфлікт твора на якім-небудзь звычайным выпадку. Ён амаль ніколі не бярэ выключных, няхай сабе яркіх, але нетыповых з'яў. Аднак беручы за аснову простае, будзённае, пісьменнік бачыць пад знешняй звычайнай будзённасцю глыбокі сэнс. Гэтая асаблівасць вельмі характэрна для творчай манеры К. Чорнага ў ранні перыяд; ёю адзначаны і творы пісьменніка перыяду сталасці, калі ім ствараліся лепшыя раманы.

У апавяданні «Начлег у вёсцы Сінегах» пісьменнік падае невялікі абразок з сялянскага жыцця перыяду грамадзянскай вайны. Чырвонаармеец, герой, ад імя якога вядзецца апавяданне, начуючы ў вясковай хаце, чуе раніцаю, як маці будзіць свайго малога сына пасвіць жывёлу. Сын ніяк не можа адолець сну, просіць, каб яна дала яшчэ трохі паспаць. Чырвонаармеец, які чуе ўсю гэту размову, заступаецца за малога: няхай хлапчук яшчэ крыху паспіць.

Маці адказвае чырвонаармейцу словамі глыбокага ўнутранага болю: «Ну, а што я зраблю?.. Што я зраблю, што я адна параджу? Гаспадара няма, гаспадар

ваюе. А сёння мне трэба хоць трохі авёс пачаць жаць, дастаць дзе каня ды хоць возік жыта прывезці — абаб'ю як-небудзь, хоць пранікам, а вечарам у жорнах змялю, калі падсохне за дзень на печы, дык назаўтра хлеб расчыню...» Маці смуткуе і трывожыцца пра другога сына, якога белапалякі выгналі ў абоз, шкадуе меншага, якога ніяк нельга разбудзіць.

Сэрца маці поўна любові да чырвонаармейца. «Накапала ўчора зранку картопель трохі, малы яшчэ, дык пад вечар салдат накарміла — ідуць босыя, галодныя, абарваныя, абшарпаныя... Можа, думаю, і мой там дзе-небудзь, небарак...»

Усё проста, будзённа ў абразку. Але над простымі, звычайнымі турботамі і словамі жанчыны паўстае велічны вобраз маці-працаўніцы. Ёй вайна прынесла многа трывогі, смутку, усклала на жаночыя плечы нязмерны цяжар розных гаспадарчых і сямейных абавязкаў, але яна не сагнулася, вытрымлівае ўсё. Такі сэнс апавядання. У маленькім, звычайным здарэнні пісьменнік убачыў вялікі змест. Не выпадкова ў канцы апавядання К. Чорны называе сваю гераіню — «вялікая гарадзеньская жанчына».

Вельмі многа агульнага з гэтым эцюдам маюць апавяданні «Буры», «На пыльнай дарозе». Героі гэтых замалёвак — дзеці, якім дачасна прыйшлося пазнаёміцца з бядотамі жыцця, дачасна пасталець. Дзеці, падобна маці з папярэдняга апавядання,— натуры моцныя, валявыя.

Прывабны вобраз такога дзіцяці асабліва добра напісан у замалёўцы «На пыльнай дарозе». Дванаццацігадовы хлопчык адчувае і разважае як сталы, ацэньваючы падзеі, разуменне якіх звычайна да людзей прыходзіць з гадамі. Клапоцячыся пра маці, ён са сталай удумлівасцю заяўляе пра нялюбага айчыма: «Дык жа ён чуць і мацеру ў труну не ўвагнаў — азіят нейкі быў, а не чалавек». «...Шкода маткі,— гаворыць ён у другім месцы,— бо яна нездараўчаная вельмі. Хто яе ведае, ці пажыве яна доўга на свеце. Мы то (сыны.— *І. М.*) не прападом — мы ж усе ўжо ўзняліся на ногі, але яна як... Мы ж яшчэ яе нічым не пацешылі...» [1].

К. Чорны падкрэслівае ў характары свайго героя

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы.— Мн.: ДВБ, 1947.— с. 48. Далей цытуецца па гэтым выданні.

рысы сталасці, цвёрдасці, загартаванасці. «Гаварыў ён стала, як дарослы. І відно было, што пражытыя на свеце дванаццаць год навучылі яго многаму, паказалі яму многа бакоў жыцця, накалілі яго і давялі да вострай цвёрдасці...» «Ён забаўляўся ідучы і разважаў стала: і наглядаў, і абдумваў. Твар яго, у лішаях ад сонца і ветру, меў на сабе ўсе адзнакі халоднай сталасці і прывычкі — вялікае лічыць часам малым...» Апавядальніку, адчуваецца, дае асалоду «глядзець на гэты сталы не па-дзіцячаму твар».

Такі ж дзіцячы вобраз К. Чорны развівае пазней у сваіх раманах. У прыватнасці, многа агульнага мае з гэтымі вобразамі малы Міхал Тварыцкі з «Трэцяга пакалення».

Ідэя апавядання «На пыльнай дарозе» выказана ў наступных словах: «Я сядзеў на каменнях і думаў аб маленькіх і нязначных здарэннях, якія слабым здаюцца вялікімі і страшнымі, і аб вялікіх і страшных здарэннях, якія моцным здаюцца маленькімі і нязначнымі. І ад таго, што гэтае дзіцянё не сагнулася і не сагнецца і ідзе сабе моцна па дарозе,— стала мне радасна і думна».

Трэба сказаць, што Чорнага наогул цікавяць моцныя, з адчуваннем годнасці сваёй людзі. Героі асобных апавяданняў пісьменніка нагадваюць герояў Горкага. У гэтых творах адчуваюцца горкаўскія матывы. Вось дзядзька Язэп з апавядання «Хвоі гавораць». Спакойна, стрымана, з годнасцю, не скардзячыся нікому, перажывае Язэп вялікае гора — смерць сына Міхала. Разважаючы над прычынамі таго, чаму Язэп так стрымана перажывае гора, апавядальнік выказвае думку, што чалавек павінен быць і ў горы моцным, не траціць годнасці. «Тады (назіраючы за Язэпам), я лішні раз упэўніўся: чалавек можа быць гордым перажытымі пакутамі, у час жа гора, калі ён пачынае стагнаць перад другімі, ён тады — увасабленне мізэрнасці. Вось чаму дзядзька Язэп маўчыць» [1].

Усе героі ранніх апавяданняў, як і героі пазнейшых раманаў,— людзі працы. Іх думкі і пачуцці звязаны з працаю, якая напаўняе сэнсам іх жыццё. У працы загойваецца рана Язэпа, сціхае яго смутак па сыне, працоўныя клопаты пераплятаюцца ў душы апавядальніка

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 48.

з абразка «Хвоі гавораць» з неразздзеленым каханнем да Язэпавай дачкі Досі. У працы сталеюць, гартуюцца героі з твораў «Буры», «Начлег у вёсцы Сінегах», «На пыльнай дарозе».

Тэма працы, працоўнага чалавека, якая стане пазней адной з важнейшых у яго раманах, бярэ вытокі тут, у ранніх апавяданнях, замалёўках.

Чорнага найбольш цікавіць вясковы працоўны чалавек. Ужо ў першых творах малады празаік паказаў і багатае веданне сялянскай псіхалогіі, і вострую назіральнасць. У апавяданнях многа трапных бытавых дэталей. Ужо з першых тоненькіх кніжак маладога аўтара можна было меркаваць, што ў літаратуру ўвайшоў пісьменнік з вялікімі творчымі магчымасцямі.

Аднак трэба сказаць, што не ўсё было дасканала ў ранніх творах празаіка. Не адразу і да яго прыйшло майстэрства ў поўнай меры. Некаторыя апавяданні былі залішне перагружаны бытавымі дэталямі, не заўсёды ўдавалася выпукла акрэсліць нават асноўныя вобразы. Дзеянне ў апавяданнях часам развівалася замаруджана, недастаткова дынамічна. Такія хібы, у прыватнасці, уласцівы апавяданню «Хвоі гавораць», хоць яно і з'яўляецца ў цэлым бясспрэчным дасягненнем для маладога пісьменніка. Часамі пісьменнік залішне захапляўся псіхалагічным аналізам, падмяняючы рэалістычны паказ у дзеянні паказам цэлых звенняў пачуццяў. Адно з такіх яго апавяданняў мае характэрную назву «Пачуцці».

Героі ранніх апавяданняў Чорнага нярэдка людзі мала дзейныя, як бы скаваныя рэфлексіяй. Яны — характэрна — вельмі многа гавораць, многа разважаюць, назіраюць, але амаль не дзейнічаюць. Такім у апавяданні «Хвоі гавораць» выступае дзядзька Язэп, намаляваны пісьменнікам з павагай і сімпатыяй, такім уяўляецца нам і сам лірычны герой, апавядальнік, які назірае за ўсім і паступова, непаспешліва ўсё занатоўвае. Апошні апавядае пра ўсё з нейкім лёгкім ценем журботнасці. Гэтае ўражанне ўзмацняецца тым, што каханая дзяўчына Дося, дачка Язэпа, не падзяляе яго прыгожага пачуцця, хіліцца да прыезджага студэнта-каморніка, з прычыны чаго наш герой аддаецца ціхай журбе. Дзядзька Язэп раіць яму: «Што ў цябе ад яе (ад Досі.— *І. М.*) неспакой, дык хто ж табе вінаваты — зараз жа ідзі на вуліцу, у бок каморніка, адсадзі яго к

чорту — і справе канец». Аднак герой зрабіць гэта нямоцны. Ён моўчкі кахае і журыцца.

На гэтым можна было б не спыняць увагу, калі б такі вобраз быў адзінкавы,— але ён сустракаецца ў ранніх апавяданнях вельмі часта. Падобныя ж героі жывуць і на старонках першага закончанага рамана Чорнага «Зямля».

## II

Ад асобных эцюдаў, апавяданняў Кузьма Чорны неўзабаве пераходзіць да стварэння буйных мастацкіх твораў аб сучасных яму падзеях.

Раманы «Сястра» і «Зямля» значаць сабою пачатак новага этапу ў развіцці пісьменніка. Гэта першыя паспяховыя спробы пісьменніка даць грунтоўную, шырокую карціну жыцця. Гэта першыя творы, якія сведчаць аб прыходзе ў літаратуру пісьменніка-раманіста.

Апавяданні для пісьменніка былі добрай, карыснай школай авалодання літаратурным майстэрствам. Вынікі гэтай вучобы адчуваюцца ў рамане «Зямля», які сведчыць аб вельмі хуткім росце К. Чорнага, аб развіцці яго багатых творчых магчымасцей. Многія старонкі рамана (на пашы, адчуванні Юркі ў дзень смерці маці, перажыванні Ганны, у душы якой гасне любоў да Алеся, развітанне Ганны з родным дваром і інш.) напісаны з вялікім веданнем чалавечай душы, з сапраўдным майстэрствам.

Пісьменнік стварыў рад цікавых вобразаў — Тамаша, Алеся, Ганны, Юркі, Мікалая Крываносага, Юліка Барановіча. Умела карыстаецца ён дыялогам, пры дапамозе якога выяўляе і настроі людзей, іх погляды і развівае сюжэт. У адрозненне ад пазнейшых твораў К. Чорны тут шчодра малюе вясковыя пейзажы, паказваючы добрае веданне і адчуванне роднай прыроды.

Раман «Зямля» мае многа агульнага з папярэднімі апавяданнямі. У ім жывуць і дзейнічаюць тыя ж людзі, аб якіх пісаў К. Чорны ў апавяданнях «Максімка», «На пыльнай дарозе», «Хвоі гавораць». Аднолькавы ў іх вясковы быт, многа падобнага ў іх развагах і поглядах.

Цікава адзначыць, што аснова рамана, расстаноўка асобных вобразаў у «Зямлі» не з'яўляюцца зусім арыгінальнымі. Нельга не заўважыць, што сюжэт і асоб-

ныя героі апавядання «Хвоі гавораць», напісанага за два гады да рамана, нагадваюць сюжэт і герояў «Зямлі».

Герой апавядання, як вядома, кахае Досю, дачку дзядзькі Язэпа. Аднак на шляху яго шчасця становіцца прыезджы студэнт-практыкант, каморнік, якому таксама падабаецца Дося. Адбыўшы практыку ў вёсцы, каморнік жэніцца на Досі. Абое едуць у горад. Такія ж самыя адносіны складваюцца і ў героя рамана — Алеся, які любіць Ганну. На кватэры ў бацькі Ганны жыве практыкант-каморнік, пазнаёміўшыся з якім дзяўчына пачынае аддаляцца ад Алеся. Каморнік таксама жэніцца, абое перaязджаюць у горад. Гэтая лінія — адна з цэнтральных у рамане.

Дзея і ў рамане, і ў апавяданні адбываецца ў адзін час, увосень. Пейзажы аднолькавыя па настрою.

Гэтае параўнанне, відаць, гаворыць аб тым, што задума і асноўныя абрысы рамана акрэсліваліся або ў перыяд напісання апавядання «Хвоі гавораць» (май 1926 г.), або неўзабаве пасля гэтага.

Па свайму характару «Зямля» з'яўляецца раманам-хронікай. Паступова, адзін за адным разгортвае пісьменнік перад чытачом малюнкі жыцця невялікага беларускага мястэчка.

Жыхары мястэчка — людзі зямлі, іх жыццё і ўсе іх клопаты звязаны з вясковай працай.

Цяжкае, скупое гэтае жыццё. Многім героям прыходзіцца задавальняцца мінімумам неабходнага. Нават для Тамаша святочная падзея — пашыўка ботаў. Алесь, кіраўнік ячэйкі, жыве ў старой, цёмнай хаце. Шматлікімі прыкладамі К. Чорны як бы пацвярджае ленінскую думку пра тое, што дробным, аднаасобным сялянскім гаспадаркам з галечы не выйсці.

У выніку цяжкага, гаротнага жыцця без пары старэюць і гінуць людзі. Гіне сястра Мацвея Наталля, паміpae яго жонка. З ранніх гадоў вымушан працаваць сын Мацвея Юрка.

Цяжка хворы і Тамаш, які толькі цяпер, у грамадскай працы знайшоў радасць. Успамінаючы былое, ён прызнаецца: «Пражыў век — дабра не бачыў. Па смалакурнях, па балотных равах, па панскіх маёнтках усю маладосць пражыў. Не агледзеўся, калі прайшло ўсё. А з жонкаю як жыў? Ты думаеш, добра жыў гэта я? Як жыў? Ні я ёй не люб, ні яна мне. А чаму! Бо галота

страшная, бядота несусветная. Часам і кавалка хлеба ў хаце не было. Нічога не было чым пражываць...»

Нястача, галеча калечылі чалавечыя адносіны, у тым ліку і адносіны між роднымі. Тамаш правільна разважае: «Тут яно што важна? Што чалавек ад чалавека далёка, што чужым ён робіцца другому. От хоць бы і ў мяне. Часамі кашулі не было пераменіцца. Ты паверыш? Было тое, што вошы заядалі. Яна, бывала, наваліцца, што я жыць не ўмею, што я няўдалы, а я — што ты ёй на гэта скажаш і чым ты ёй дагодзіш? Лаяцца? Пробаваў і гэта... Так яно вот і пражылося. Пасля, я ж кажу, дзеці павырасталі, пайшлі ў людзі. А як яны выраслі? Ці гэта гэтак трэба чалавеку вырастаць?! Нават і цяпер часам старэйшы возьме ды ўспамяне: мы, кажа, пры табе ніколі дабра не бачылі. Як бы гэта я тут вінаваты ў чым. Малодшы дык усё вучыцца хацеў. Намагаўся, аж страх. А тым часам дзе ў мяне той дастатак для гэтага? Мне яго і шкода было, і тады, і цяпер. Я дык усё адмоўчваўся перад ім. Раз толькі не вытрымаў, сказаў нешта груба, а ён мне ў адказ: калі, кажа, на гэткае жыццё, дык на чорта ты мяне на свет пусціў. А ты ведаеш, што гэта значыць, калі дзіця папракае бацьку, што ён яго на свет пусціў?»

Пісьменнік неаднойчы праўдзіва і з хваляваннем паказвае, як прыватнаўласніцкае жыццё калечыць адносіны між людзьмі, надае гэтым адносінам пачварныя формы. Паводзінамі большасці герояў кіруе скрыты і яўны эгаізм, незычлівасць у адносінах да суседзяў. Заможны селянін Сабастыян адмаўляецца дапамагаць свайму хвораму брату Мацвею, які жыве ў вялікай беднасці. Сабастыян і Мацвей з непрыхільнасцю адносяцца да цяжка хворай сястры Наталлі. Мацвей «даў бы ёй раз хамутом у плечы». Без догляду, без лячэння яна без пары паміраe.

У асяроддзі сялян часта ўзнікаюць па розных прычынах — значных і дробных — сваркі. Шырока бытуе пляткарства. Чаго толькі не гавораць жанчыны пра Ганну, якая палюбіла каморніка і выйшла замуж за яго. Пазней з-за гэтага, прыехаўшы на некалькі месяцаў з горада да бацькі, Ганна вымушана думаць толькі пра тое, каб як-небудзь хутчэй вырвацца з вёскі.

Людзі зайздросцяць шчасцю ці поспеху свайго бліжняга. Іменна гэтая зайздрасць выклікае жаданне

ў Сабастыяніхі, Вашыновічыхі і іншых нагаворваць на Ганну.

Зайздросцяць «галетніку» хвораму Мацвею за тое, што камітэт дапамогі беднаце адпусціў яму бясплатна шэсць пудоў аўса. Зайздросцяць і злуюцца, хоць і адчуваюць, што рашэнне камбеда правільнае. Зайздрасць выступае тут як своеасаблівае праяўленне чэрствасці і эгаізму ўласнікаў.

Уласніцкія тэндэнцыі развіваюць у людзей скупасць. Юлік Барановіч, якога ніяк нельга назваць бедняком, пакутуе ад таго, што пераплаціў нанятаму работніку сорак капеек. Ён не спыняецца перад ашуканствам, каб вярнуць гэтыя капейкі.

Але, напэўна, самым вялікім злом у асяроддзі сялян, намаляваных Чорным у рамане, можна лічыць іх кансерватызм. Значная частка сялян неахвотна прымае ўсякае наваўвядзенне, нават калі яно накіравана на паляпшэнне іх жыцця. Так, яны непрыхільна адносяцца да перамеру зямлі, які праводзіць сельсавет, каб упарадкаваць землекарыстанне, не хочуць падтрымліваць ініцыятыву Тамаша аб будаўніцтве грамадскіх алейні і сыраварні. «Жылі добра, кажа, і так»,— пярэчыць адзін. «Мала, што яно добра,— падтрымлівае другі.— Добрага на свеце шмат, усяго не паробіш».

Намаляваўшы ярка старое, змрочнае ў вобліку вёскі, Кузьма Чорны паказвае, як сярод адвечнага злога ўсё настойлівей і смялей прабіваюцца парасткі новага. За гэтае новае змагаюцца і сакратар партыйнай ячэйкі, былы чырвонаармеец Алесь, і стары, хворы Тамаш, кіраўнік сельсавета, якія мараць аб тым, каб «перарабіць усё» ў мястэчку.

Вобразы гэтыя цікавыя і вельмі важныя для твора. Людзі розных пакаленняў, аб'яднаныя адной светлаю марай аб будучыні, яны ўвасабляюць у сабе лепшыя рысы перадавых людзей мястэчка.

Калі Алесь пазнае прывабнасць новага жыцця маладым, поўным нерастрачаных жыццёвых сіл, то Тамаш аддае новай справе свае апошнія дні. Захоплены грамадскаю працаю, поўны розных планаў, адчуваючы, якія шырокія перспектывы раскрыліся перад сялянствам, ён з запалам заяўляе: «Каб быў я малодшым, дык я тут бы цяперашнім светам чорт ведае чаго нарабіў бы».

Ён паўстае перад чытачом як натура вельмі дзей-

ная, актыўная. Гэта ён разам з Алесем арганізоўвае перамер зямлі, наперакор такім сялянам, як Барановіч. Ён упарта дабіваецца арганізацыі грамадскай алейні і сыраварні. Ён актыўна ўдзельнічае ў рабоце камітэта беднаты. Тамаш чула адносіцца да запатрабаванняў беднякоў. Па яго ініцыятыве камітэт дапамагае Мацвею.

У Тамаша нямала агульнага з іншымі сялянамі. Як і іншыя, ён цяжка працуе на сваёй гаспадарцы, добра знаёмы са свайго жыцця з беднасцю, ён таксама пакутуе ад чэрствых адносін да сябе з боку сына, які не разумее яго. Аднак пры ўсім гэтым Тамаш уздымаецца значна вышэй за іншых сялян — ён разумее сэнс сучасных падзей, адчувае перспектыву будучых дзён. Гэта акрыляе Тамаша і адначасова прымушае яго крыху журыцца — яму не ўдасца ўбачыць тых светлых дзён. Тамаш з пяшчотай глядзіць на малога сына Мацвея Юрку, бачачы ў ім чалавека, якому суджана дажыць да запаветных дзён. «Нічога, сынку,— кажа ён абнадзейліва Юрку,— перажывецца. Выгадуешся, падрасцеш, будзеш жыць. Лепш будзеш жыць за нас усіх».

Алеся, маладога хлопца, набліжае да Тамаша аднолькавасць поглядаў на жыццё. Як і Тамаш, Алесь актыўна ўдзельнічае ў арганізацыі перамеру, падтрымлівае парасткі новага. Для Алеся характэрна шырыня поглядаў. Ён добра разумее, што перамер — гэта толькі часовая мера для паляпшэння жыцця беднаты і серадмякоў. «Мы неўзабаве возьмем ды зноў перамер будзем рабіць, толькі іншы ўжо. Ніякіх нікому кліноў, усё будзе ўсіх.

— Гэта камуну, значыць, зрабіць?

— Камуну,— адказвае Алесь».

Алесь намаляваны як валявая, моцная натура. Ён поўны веры ў свае сілы, у перамогу таго новага, за якое ён змагаецца ў мястэчку. «Усё пераваярну,— гаворыць ён пераканана пасля смерці Тамаша.— Мікалай Крываносы на вясну пойдзе куды-небудзь вялікай работы шукаць. А гадоў праз тры ці пяць зноў, казаў, з'явіцца тут. Дык каб не пазнаў ён тады ні вуліц гэтых, ні людзей. Маладое пакаленне падрастае, лягчэй ваяваць усё робіцца» [1].

---

[1] Чорны К. Зямля.— Мн.: ДВБ, 1928, с. 326. Далей цытуецца па гэтым выданні.

Цікава, што гэтым адчуваннем вялікіх змен, незадавальненнем існуючымі адносінамі жывуць і іншыя героі. Мікалай Жыгунец, або як яго называюць у мястэчку «Крываносы», збіраючыся ісці ў горад «на работу якую вялікую прымацавацца», такімі словамі выказвае свой настрой: «Надакучыла. Размаху якога-небудзь хочацца, а то што гэта! Нічога няма цікавага. Цупай гэтым цэпам, і знаку ніякага няма. Тут каб аж гуло ўсё! Гэта дык была б работа. А то што! Як той казаў, саматужніцтва» [1].

Апошнія старонкі рамана азораны святлом жаданай будучыні. Яны прыдаюць гэтаму суроваму, часта змрочнаму твору аптымістычнае гучанне.

На жаль, праявы новага Кузьма Чорны не здолеў паказаць з такою сілаю, як застарэлы патрыярхальны быт. Паказваючы старое, Чорны стварыў багата вельмі моцных старонак, у якіх адчуваецца выдатнае разуменне людзей і жыцця. Гэтыя старонкі вылучаюцца дакладнасцю паказу, яркасцю фарбаў. Там жа, дзе Чорны гаворыць аб новым, аб планах Тамаша і Алеся, яго фарбы прыкметна бляднеюць. Тут пісьменнік часта гаворыць адцягненымі, абстрактнымі выразамі. Толькі ў агульных рысах мы можам уявіць, якой бачаць сабе будучыню Алесь і Тамаш. Пісьменнік тут нібы асцерагаецца канкрэтнасці: ён амаль не гаворыць, напрыклад, якія пытанні вырашаюць Алесь і іншыя камуністы на сходах ячэйкі.

Скупа і малаканкрэтна пададзены ў творы і вобразы людзей, якія дапамагаюць Алесю. Амаль нічога нам невядома аб грамадскіх справах мястэчковых камсамольцаў, няма і саміх паўнакроўных вобразаў камсамольцаў. Так, у чыста бытавым плане намаляван Клемусь, пра якога, як пра камсамольца, пісьменнік і не сказаў амаль нічога.

Недаацаніў малады пісьменнік і вобраз Волькі, які мог бы атрымацца вельмі цікавым і значным. Чорны вельмі сцісла, у некалькіх словах расказаў пра яе грамадскую працу, якая характарызуе Вольку як зусім новы тып жанчыны. Не разгорнуты таксама цікава задуманы вобраз каморніка — студэнта Андрэя.

У пачатку рамана ёсць дэталь — за акном спрачаюцца аб нечым камсамольцы. Гэтая дэталь, можна ска-

---

[1] Чорны К. Зямля, с. 323.

зацъ, сімвалічная: новае ў паказе пісьменніка нярэдка адбываецца недзе ўбаку, «за акном».

Тут найбольш слабыя месцы рамана. Гэтая акалічнасць не з'яўляецца выпадковаю. Яна, вядома, тлумачыцца перш за ўсё тым, што не толькі сам пісьменнік, але і ўся маладая беларуская савецкая літаратура яшчэ толькі пачынала асэнсоўваць і ствараць вобраз станоўчага героя. Тут Чорнаму прыходзілася ісці па новаму, мала даследаванаму шляху. Гэтая слабасць рамана магла мець прычынаю і тое, што пісьменнік у пэўнай меры недаацаніў значэння для твора новых вобразаў.

Крытыкі рамана як слабасць твора неаднойчы адзначалі невыразную класавую дыферэнцыяцыю герояў. Сапраўды, аўтар не дае акрэсленай класавай характарыстыкі сваім героям, абмяжоўваецца амаль выключна паказам іх быту. У выніку героі атрымаліся трохі ніверліраванымі, прыроўненымі. Юлік Барановіч, заможны чалавек, які наймае парабкаў, і бядняк, «галетнік» Мацвей сваімі паводзінамі мала чым адрозніваецца адзін ад аднаго. Тамаш у гаворцы з Алесем мімаходам заўважае: «Ворагаў мы шмат з табою нажылі. Каб, скажам, палякі ці што якое іншае, дык хоць і мне старому ўцякай — са свету зжывуць. Барановіч першы ўзяўся б за мяне...» [1]. Такім чынам, з гэтых слоў можна меркаваць, што ў асобе Юліка Барановіча перад намі скрыты вораг, які толькі вымушаны быць знешне лаяльным, адчуваючы асуджанасць, нетрываласць, вораг хітры.

Аднак тое, як у цэлым пададзены Юлік Барановіч у рамане, наводзіць на думку, што Кузьма Чорны зусім не збіраўся паказваць у гэтым вобразе кулака. Пісьменнік адносіцца да Юліка, ва ўсякім разе, без рэзкай антыпатыі. Цёпла, сардэчна намалявана дачка Юліка Ганна, якая любіць і паважае свайго бацьку. Ёсць у рамане ў словах самога Юліка заўвага: «Мяне раней усе лічылі кулаком, цяпер лічаць серадняком» [2]. На пытанне Юліка, серадняк ён ці бядняк, Алесь адказвае: «Па-мойму, серадняк».

У агульнай ацэнцы вобраза Барановіча, на маю думку, можна гаварыць пра тое, што вобраз гэты не прасветлены дастаткова. Перад намі дзве зусім розныя

---

[1] Чорны К. Зямля, с. 152.
[2] Тамсама, с. 72.

характарыстыкі Барановіча — Тамаша і Алеся, і мы так да канца і не высвятляем сабе, якая з іх больш правільная. Вядома, у паказе Барановіча, як і ў іншых, Чорны імкнуўся пазбягаць аднабаковасці, спрашчэння, і ў гэтых адносінах яму ўдалося стварыць вобраз складаны, супярэчлівы. І ўсё ж гэтаму вобразу не хапае цэльнасці ці завершанасці. Ствараецца такое ўражанне, быццам і сам аўтар не вызначыў да канца свае адносіны да яго.

Вобразу Барановіча, як і некаторым іншым, не стае актыўнасці і таму класавай выразнасці.

Жыццё ў мястэчку наогул паказана крыху мірным, за будзённасцю яго праяў нярэдка як бы глухне напал сацыяльных супярэчнасцей. Між тым у вёсцы і ў гэты час абстаноўка была напружаная.

У гэтых адносінах для разумення эвалюцыі пісьменніка багата дае параўнанне рамана «Зямля» з пазнейшымі раманамі К. Чорнага «Бацькаўшчына» і «Трэцяе пакаленне». У гэтых творах пісьменнік рэзкімі фарбамі малюе праявы класавай барацьбы на вёсцы, раскрывае звярынае нутро прадстаўнікоў кулацтва, скуратовічаў, сурвілаў і ім падобных.

На жаль, у рамане «Зямля» К. Чорны не даў яркіх малюнкаў класавай барацьбы, і ў гэтых адносінах «Зямля» ўступае яго пазнейшым буйным творам. Карціна жыцця сялян напярэдадні калектывізацыі атрымалася ў рамане, на жаль, няпоўнай.

Як ужо гаварылася вышэй, самыя лепшыя старонкі атрымаліся ў пісьменніка там, дзе ён паказваў будзённае сялянскае жыццё. Тут, на гэтых старонках, К. Чорны паказаў сябе бліскучым знаўцам сялянскай псіхалогіі і вясковага быту. Яго ўвагу, як і ў апавяданнях, прыцягваюць да сябе звычайныя, штодзённыя клопаты, падзеі, якія, нягледзячы на сваю будзённасць, цікавяць і хвалююць нас, бо пісьменнік расказаў пра іх з любоўю, шчыра і праўдзіва. Возьмем для прыкладу хоць бы адзін з пачатковых — другі раздзел, дзе расказваецца, як, сабраўшыся восенню ў полі, сяляне разважаюць, спрачаюцца аб розных вясковых падзеях. Тое, аб чым яны гавораць, вельмі звычайнае, нібы дробнае, але гавораць сяляне так усхвалявана і горача, што настрой герояў перадаецца і нам, чытачам, цікавіць і хвалюе нас. Мы пачынаем спачуваць Юрку, які стыне на халодным восеньскім ветры ў падраным кажушку.

Хочам заступіцца за Тамаша, якога Павел несправядліва абвінавачвае ў тым, што ён праз меру старанна аддаецца сельсавецкім справам, забывае сваю гаспадарку. Калі пачынаецца спрэчка, ці правільна, што камітэт аказаў дапамогу бедняку Мацвею, пісьменнік нібы ўцягвае нас у гэтую спрэчку, робіць прыхільнікамі Тамаша, які заступаецца за Мацвея.

Добрых малюнкаў сялянскага жыцця ў рамане многа. Выдатна напісаны сцэны, дзе пісьменнік паказвае адносіны Юркі і маці, якая хавае сваю любоў да сына за маскай уяўнай суровасці. Вобраз маці, напісаны нібы проста, толькі ў бытавым плане, бясспрэчна, адзін з самых лепшых у рамане. Вобраз гэты — вельмі характэрны, поўны драматызму і хараства тып сялянскай жанчыны, што ў нягодах жыцця выказвае вялікую цярплівасць і вялікую сілу.

Пісьменнік напісаў яго выключна моцна. Непатрабавальная і няўважлівая да сябе, яна цярпліва трывае цяжкую хваробу, не скардзячыся і не стогнучы. Урач, да якога яна звяртаецца, раіць ёй нічога не рабіць у гаспадарцы і спакойна ляжаць. Але такая ўмова — самая цяжкая для маці. Як яна можа ляжаць, калі на ёй усе клопаты пра сям'ю, пра дамашнюю гаспадарку, якіх няма каму за яе рабіць. Добры знаўца чалавечай душы, Кузьма Чорны паказвае, што ў паводзінах маці ёсць і іншыя, глыбейшыя матывы. Вялікую праніклівасць выяўляе тут малады пісьменнік. Маці Юркі, адзначае ён, не можа ляжаць яшчэ і таму, што яна прывыкла з самага маленства дзень у дзень непасільна працаваць. Жыццё без працы хоць на некалькі дзён ёй нязносна. І яна не выконвае парад урача, набліжаючы дзень сваёй смерці.

Чорны дакладны ў перадачы самых розных бытавых дэталей. Многія з іх, дробныя на першы погляд, у яго паказе напоўнены глыбокім сэнсам. Вось ідзе ў горад дзяўчына. Яна ідзе басанож, трымаючы чаравікі за плячамі. Гэтыя чаравікі яна абуе толькі перад самым горадам. Дэталь мімаволі наводзіць на думку аб беднасці сялянства таго часу, што вымушана было берагчы, як святочныя падарункі, самыя звычайныя рэчы ўжытку. Такую ж бытавую дэталь — боты — дае Чорны і ў іншым месцы, ужо ў дачыненні да вобраза Тамаша. Хворы Тамаш марыць аб тым, каб пашыць сабе добрыя боты. Тая ж самая бытавая дэталь набы-

вае іншы змест, гучыць інакш. «Я, можа, іх (боты — *І. М.*) і не пашыю,— гаворыць Тамаш,— можа, і Мацвей не пашые, а хлапчук яго, што унь босы за нежывою маткаю ў царкву прыйшоў,— той пашые. І такія боты, пра якія ніхто з нас ніколі і не сніў. Чуеш? Пашые! Шкада, што не дажыву, хоць паглядзець на яго тыя новыя боты...» [1]

Тут звычайная бытавая дэталь напоўнена глыбокім драматызмам. У ёй ёсць асаблівая важкасць, сімвалічнасць.

Як і ў ранейшых апавяданнях, у рамане добра выпісан быт дзяцей. Са спачуваннем піша К. Чорны аб тым, як Юрка з маленства мерзне ў полі, пасвячы каня, якім адзінокім адчувае сябе пасля смерці маці, як вымушаны дачасна рабіць мужчынскую працу, упраўляецца па гаспадарцы (сам узараў усё бацькава поле). Чорны паказвае Юрку ў двух планах: як хлапчука, які ўсёй душой можа аддавацца бесклапотным, свавольным заняткам яго ўзросту (малюнак — Юрка гуляе са сваім сябрам Юзікам), і як малога мужчыну, які ўжо досыць паспытаў горычы жыцця. Дзякуючы такому паказу вобраз Юркі паўстае перад намі жыццёва-складаным. Можна дадаць, што малюнкі жыцця Юркі маюць глыбокі падтэкст, гавораць пра тое, як ва ўмовах дробнаўласніцкай гаспадаркі калечыцца дзяцінства.

Цікавыя сцэны вячорак у Чучанах, на якія ходзіць Алесь. У гэтых сцэнах, намаляваных з этнаграфічнай дакладнасцю, многа здаровага народнага гумару, весялосці, яны асветлены ясным адчуваннем маладосці. Малюнкі вячорак узмацняюць аптымістычнае гучанне апошніх раздзелаў рамана.

Трэба, аднак, сказаць, што малады пісьменнік не заўсёды быў патрабавальны пры адборы матэрыялу для твора. Невядома, для чаго расказвае пісьменнік аб выпадковай «сувязі» Алеся і Волькі, аб іх маральным падзенні, якое зніжае гэтыя прывабныя, чыстыя вобразы. Раздзел гэты, акрамя ўсяго, выпадае з сюжэта, ён ніяк не звязан з іншымі.

Часам трапляюцца натуралістычныя, непатрэбныя дэталі, падобныя да наступных: «Мікалай цыкнуў праз зубы слінаю, папаў якраз на свой левы бот. Падняў

---

[1] Чорны К. Зямля, с. 119—120.

нагу, падкурчыў, выцер аб халяву правага бота і пайшоў да сянец, ківаючыся з нагі на нагу і паварушваючы плячамі». Або: Юлік «няўдала плюнуў, абцёр бараду рукавом і падаўся на вуліцу».

У далейшым К. Чорны адбірае матэрыял больш строга, аддае ўсю ўвагу характэрнаму, тыповаму. Канцэнтруючы ўвагу на галоўным, ён, як правіла, адкідвае натуралістычныя падрабязнасці.

Раман «Зямля» — выдатная з'ява і ў творчасці Кузьмы Чорнага і ў цэлым у маладой беларускай прозе. Малады пісьменнік з поспехам вытрымаў экзамен на права працаваць у самым складаным жанры прозы — эпічным рамане.

## III

Цэнтральная тэма рамана «Бацькаўшчына» выказана пісьменнікам у назве твора. У рамане Кузьма Чорны ставіць адну з важнейшых філасофскіх праблем чалавечага быцця.

Натуральна, праблему сваю пісьменнік вырашае праз мастацкія вобразы.

У рамане дзейнічае некалькі герояў. Яны выпісаны з рознай выразнасцю і маюць рознае значэнне. Але амаль у кожнага з іх свая роля, яны разам даюць пісьменніку [магчымасць] асвятліць галоўную праблему рамана з розных бакоў.

Раман пачынаецца з вобраза Леапольда Гушкі. Гэты вобраз найбольш выпісан Чорным.

Усё сваё жыццё бедны селянін вымушан служыць парабкам у пана, быць у вечнай залежнасці ад яго, ад панскіх паслугачоў.

Аднойчы, аручы панскае поле, ён паспрачаўся з аканомам і ў выніку — застаўся без працы. Гушка абышоў усе навакольныя двары, выпрошваючы работу, але з той прычыны, што парабка выгналі з двара, работы яму нідзе не далі. Гушка, па сутнасці, страціў права не толькі на працу, але і на месца ў жыцці. Яму няма дзе жыць, бо прыходзіцца пакінуць пакой, у якім раней жыў у маёнтку. З цяжкасцю ён выпрасіў у пана дазвол пабудаваць хацінку на пустыры.

Пабудаваўшы хацінку, бядняк жыве надзеяю на тое, што купіць хоць бы дзесяціны дзве зямлі. Зямля

ўяўляецца быламу парабку як сродак да вызвалення з няволі. Погляды яго на зямлю ідэнтычныя поглядам героя «Новай зямлі» Якуба Коласа — Міхала, які, як вядома, таксама марыў: «Купіць зямлю, прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут».

Але Гушка не можа набыць сваёй зямлі. Не можа таму, што ён не мае рускага падданства. Яго радзіма не Беларусь, а Сілезія, адкуль бацька Леапольда, радавіты ткач, вымушаны быў эміграваць пасля разгрому паўстання ткачоў.

Кулакі Сурвіла і Мазавецкі купляюць у пана зямлю, дзве дзесяціны з якой, горшыя, камяністыя, «даюць» Леапольду Гушку. За гэту зямлю Гушка часткова плоціць, часткова абавязваецца адпрацаваць. Маючы фармальны кавалак зямлі, ён па-ранейшаму застаецца па сутнасці парабкам, з той толькі розніцай, што гне спіну цяпер не на пана, а на кулака Сурвілу.

Такі ж самы гаротнік, як і многія навакольныя сяляне, Гушка разам з тым адчувае сябе быццам ён у горшым, чым іншыя, становішчы: ён чалавек без бацькаўшчыны.

Пасведчанне аб падданстве, нарэшце, усё ж прыходзіць. Ён шчаслівы, ён, нарэшце, перастаў быць адзінокім. Ён мае бацькаўшчыну.

Але ў той жа дзень, калі да Гушкі прыйшло такое шчасце, яму паведамляюць, што пачалася вайна.

І вось, ледзь атрымаўшы права лічыць сябе падданым новай бацькаўшчыны, Леапольд Гушка павінен паслаць свайго сына Адася на абарону яе.

Такім чынам, сутыкнуўшы гэтыя дзве падзеі, Чорны развівае праблему бацькаўшчыны далей. Бацькаўшчына дае не толькі правы, але і прад'яўляе абавязкі. Бацькаўшчыну трэба абараняць. Прыглушаны, як і ўсе, нечаканым паваротам лёсу, Гушка пакорліва выконвае свой абавязак. Ён аддае Адася на вайну.

Аддаўшы такую вялікую ахвяру Расіі, Леапольд Гушка трывожыцца за лёс сына і карае сябе як вінаватага за такі сынаў лёс. У ім, спачатку глуха, выспявае пакутлівае пытанне: ці варта яго бацькаўшчына такой ахвяры?

Цікавая і важная размова адбываецца між ім і Сурвілам ужо ў першую восень вайны.

Сурвіла гаворыць Гушку пра тое, што за зямлю трэба «павіннасць несці», што «вайна — гэта і ёсць тая

самая павіннасць за яе. Абараніць яе трэба». На гэта Гушка рэзка адказвае:

«— Я яшчэ з яе карысці не бачыў, каб ужо абараняць яе».

Ахвяраваўшы сынам, набыўшы абавязкі, Гушка не атрымлівае нічога ўзамен. Больш таго, карыстаючыся сваім становішчам, Сурвіла эксплуатуе яго яшчэ горш. Калі спынілася адступленне рускіх войск і фронт устанавіўся, Сурвіла патрабуе ад Гушкі ачысціць тую зямлю, якую ён, Гушка, «набыў» і абрабіў. Цяжкі жыццёвы вопыт прыводзіць Гушку да думак:

«Мой сын не ваюе? Не гніе ён у акопах, ліха ведае за каго і за што? За што ён ваюе? За тое, каб тут Сурвіла мяне з хаты выкідаў? За тое, каб я з торбаю, пасля вечнага парабкоўства, па свеце пайшоў? Гэта ён адваёўвае мне права дажываць веку старцам у ярме? За што ён ваюе?»

Такім чынам, Гушка адчувае, што, набыўшы падданства, ён так і не набыў Бацькаўшчыны.

Пісьменнік паставіў бы пытанне вузка, калі б абмежаваўся лёсам Гушкі. Усё ж лёс гэты выключны.

Кузьма Чорны зрабіў шырокія абагульненні, ён паказаў, што бацькаўшчыны няма не толькі ў нашчадка сілезскіх ткачоў, але і ў адвечных працоўных абарыгенаў Беларусі, знаёмых Гушкі.

Таксама ж, як і Гушка, гаруюць і бедныя сяляне з навакольных вёсак. Як і Гушка, яны паддаюцца на хітрыкі Сурвілы і Мазавецкага і трапляюць у кабалу да іх. Як і Гушка, яны бяздольныя і бяспраўныя.

Кузьма Чорны робіць яшчэ больш шырокія абагульненні. Малюючы вялікі рух войск на беларускай зямлі, ён, хоць і скупа, паказвае, што і іншыя салдаты — былыя сяляне — былі ў такім жа становішчы. Салдат, які разам з Нямірам дэзерціраваў з царскай арміі, гаворыць: «Я ўжо раз траха не памёр, немаведама чаго, за каго і за што». З радасцю дачуўшыся, што адбылася рэвалюцыя, салдаты не даюць гаварыць генералу, які заклікае іх ісці на фронт, абвяшчаючы: «Расія ў небяспецы!»

Многімі лёсамі і вобразамі Кузьма Чорны даводзіць, што ва ўмовах царскай Расіі працоўныя не мелі бацькаўшчыны.

Леапольд Гушка, марачы знайсці бацькаўшчыну, доўгі час памыляецца і ў іншым плане. Не маючы ра-

дзімы, тут, у Расіі, ён доўга цешыць сябе думкай, што ў яго ўсё ж ёсць сапраўдная маці-радзіма. Яна недзе там, дзе раней жыў бацька. Ён думае, што яму даводзіцца гараваць толькі таму, што ён на чужыне. «У цяжкія хвіліны жыцця ён сумысля выклікаў у памяці сваёй гэтую сваю радзіму: на чужыне цяжка жыць. І ён распальваў у сабе тугу».

Ён чуў пра гэту радзіму з апавяданняў нябожчыка-бацькі. Сам Гушка амаль не помніў гэтай радзімы, ён быў зусім малы, калі бацька эміграваў.

«Пра якую радзіму ты гаворыш?» — пытаецца яго Павел Няміра. «Пра якую радзіму? Пра тую радзіму... пра тую... што я не ведаю яе, але няўжо ж і там гэтак усё?..»

Радзіма ўяўляецца Гушку вельмі абстрактна, ён зусім не ведае яе. Але вобраз яе Гушка песціць у сабе, ён трымаецца за гэты светлы і няясны вобраз, як за надзею. Даведзены да адчаю бесчалавечнай эксплуатацыяй Сурвілы, ён гаворыць з болем: «Можа, каб я кінуў, рынуў тады быў тут усё ды туды, на радзіму, вярнуўся, адкуль бацька мой уцёк тады сюды,— можа б, там я не ведаў бы гэтакага гора, гэтакага здзеку».

Аднак пісьменнік развенчвае гэтую ілюзію-мару Гушкі. Гушка знаёміцца з палонным Эдвардам Ляверам, які ўвесь час жыў у тых мясцінах, дзе быў некалі бацька Гушкі.

Лявер добраахвотна здаўся ў палон. Гушка з вуснаў свайго суайчынніка чуе, што і ў Лявера няма радзімы, якую трэба было б абараняць і адстойваць. «Чаго я падаўся ў палон? А за што я ваяваць буду? За што я галаву сваю складаць буду, за што я гніць у акопах буду? Каб я ведаў, што ад гэтага маёй сям'і там будзе лепей жыць, што я гэтым здабываю шчасце сваёй сям'і, сабе самому, дык і ішоў бы біцца. А то — сям'я там бадзяецца па гарадах, галодная, голая, спрацаваная гэтак, як і скрозь, заўсёды было мне і маім таварышам, што са мною разам у палон падаліся. Нехта там мае капальні, нехта там з таго вугалля, што я капаў век свой, багацее, а я кавалку хлеба жадзен, ды яшчэ ваяваць я павінен? Мне кажуць — ратаваць бацькаўшчыну. Дык няхай гэтакая бацькаўшчына праваліцца скрозь зямлю, калі ў ёй я павінен не жыць, а гніць!»

Словы Эдварда Лявера ідуць з глыбіні яго душы. Страсныя, яны дасягаюць вялікай сілы сваёй яснасцю

і лагічнай паслядоўнасцю. Лявер рашуча заяўляе, разбіваючы ўшчэнт мару-ілюзію Гушкі:

«Гэтакую бацькаўшчыну трэба самому старацца збыць з свае галавы. Не трэба мне ні бацькаўшчыны гэтакае, ні вайны, ні акопаў гэтых, нічога гэтага! Мой дзед у турме кончыўся за тое, што не сцярпеў голаду і абазваўся, а я горшы за дзеда, што павінен слухаць і маўчаць, калі мяне мучаць? За што мне ваяваць?!»

Так гіне мара-ілюзія Гушкі. Эдвард Лявер, па выразу пісьменніка, «прымусіў яго больш не гаварыць пра «радзіму».

Апошні факт нас цікавіць і таму, што К. Чорны, давёўшы праўдзіва, што працоўны чалавек ва ўмовах царскай Расіі не меў бацькаўшчыны, развіўшы гэты тэзіс, паказаў словамі Лявера, што бацькаўшчыны не мелі і працоўныя ў іншых краінах, у прыватнасці, у кайзераўскай Германіі.

Натуральна, што і рускія, і нямецкія салдаты ў аднолькавай ступені не жадаюць весці зусім не патрэбную ім, імперыялістычную вайну. Ёсць у рамане сцэна з вялікім сэнсам — у адзін дзень здаюцца ў палон рускія і немцы, якія не хочуць праліваць кроў невядома за што. Лявер пра гэту падзею расказвае наступнае: «За што мне ваяваць! І з кім мне ваяваць! Прыйшлі былі, укінуліся ў наш акоп расійскія салдаты. За што, кажуць, мы будзем ваяваць з вамі? У нас дома дзеці малыя, мы іх страціць не хочам. І пайшлі ў палон. А я падумаў сабе — ну, а я чаму павінен страціць сваіх дзяцей? Яны ад гэтага шчаслівейшыя стануць? Ім хлеба ад гэтага больш будзе, калі я галавы дамоў не прынясу? Дык я ў той жа дзень пайшоў у палон. Ваяваць за бацькаўшчыну? А калі я на гэтай бацькаўшчыне дабра ніколі не бачыў, дык тады як?»

Пражыўшы доўгі час без бацькаўшчыны, страціўшы веру ў існаванне ідэальнай радзімы там, дзе быў калісьці бацька, Леапольд Гушка, нарэшце, знаходзіць сапраўдную бацькаўшчыну.

Гэтую бацькаўшчыну дае селяніну-бедняку Кастрычніцкая рэвалюцыя. Яе заваёўвае і адстойвае сын Леапольда — бальшавік Адась Гушка. Гэтая новая бацькаўшчына вуснамі Адася Гушкі заклікае: «Даволі вайны. Зямлю сялянам! Фабрыкі рабочым!»

Гэтая бацькаўшчына ажыццяўляе запаветныя мары

Леапольда Гушкі. І не толькі яго, але і мары іншых падобных Леапольду сялян.

Яна дае Леапольду і іншым сялянам зямлю, вызваляе іх з путаў розных сурвілаў, змятае адразу гаспадаранне паноў і падпанкаў. Цяпер зусім інакшы змест набывае абавязак — абарона бацькаўшчыны. У працоўных людзей ёсць бацькаўшчына, і ўсе іх думкі і жаданні накіраваны на тое, каб адстаяць Радзіму ад ворага. Павал Няміра, які дэзерціраваў з фронту імперыялістычнай вайны, цяпер добраахвотна ўступае ў рады Чырвонай Арміі, ідзе ваяваць за Радзіму. Маці аддае чырвонаармейцам апошні, пазычаны акраец хлеба. Супраць ворагаў, што хочуць задушыць сацыялістычную бацькаўшчыну, Леапольд Гушка са зброяй у руках ваюе ў партызанах.

Гушка ведае, за што ён ваюе. Вярнуўшыся з партызан, ён у першы ж дзень, калі яго папрасілі чырвонаармейцы, запрагае свайго адзінага коніка, каб везці для арміі, што наступае, снарады. «Добра, зараз,— сказаў адно Леапольд»,— гэтай кароткай рэмаркай пісьменнік паказвае, што селянін ні хвіліны не вагаўся, адчуваючы грамадзянскі абавязак дапамагчы чырвонаармейцам.

Леапольд Гушка не ашукаўся ў сваіх спадзяваннях на новую бацькаўшчыну. Савецкая краіна стала для яго і яго дзяцей сапраўднай Радзімай. Адась, які праваяваў да канца грамадзянскай вайны, служыць камандзірам у Чырвонай Арміі, паступае ў ваенную акадэмію. Другі сын Антусь, скончыўшы рабфак, вучыцца далей і хутка будзе інжынерам. Павал Няміра, муж Гушкавай дачкі і былы бядняк, выявіў добрыя арганізатарскія здольнасці, ладзіць гаспадарку ў калгасе, суседнім з тым, дзе працуе Леапольд. Леапольд Гушка стаў кіраўніком калгаса, з радасцю аддае сваю сілу і вопыт людзям, вялікай сваёй сям'і. Ён прымае ўдзел і ў кіраўніцтве рэспублікай: Гушку выбіраюць дэлегатам Усебеларускага з'езда Саветаў.

У Савецкай краіне знаходзіць бацькаўшчыну і перабежчык з Польшчы, паплечнік Леапольда, Сымон Чуйка.

Але ў той час, калі пісьменнік ствараў раман, беларускі народ падзяляла несправядлівая мяжа. Польскія магнаты, скарыстаўшы цяжкае становішча савецкай

краіны, знясіленай інтэрвенцыяй і вайною, гвалтам адарвалі заходнія вобласці Беларусі.

Мяжа падзяліла вёску, у якой адбываецца дзея рамана. Яна падзяліла лёсы герояў, разарвала звыклыя сувязі людзей.

Па той бок мяжы, у панскай Польшчы, засталіся стары Няміра, бацька Паўла Няміры; адарваны ад сына, ён жабраком дажывае апошнія дні. Па той бок жыве і працуе рэвалюцыянер Рыгор Чуйка, уздымае народ на барацьбу супраць паноў і белай Польшчы.

Тэма граніцы, што гвалтам падзяліла народ, родную краіну, многія гады хвалявала К. Чорнага. Не выпадкова ёй прысвечана першае апавяданне пісьменніка «На граніцы». Пасля гэтага К. Чорны неаднойчы звяртаецца да гэтай балючай і важнай тэмы. Незабыўныя падзеі верасня 1939 года, які назаўсёды ліквідаваў шматгадовую несправядлівасць, Кузьма Чорны з уздымам адлюстраваў у цэлым шэрагу твораў — п'есе «Ірынка», апавяданні «Дарагуся» і іншых.

У рамане «Бацькаўшчына» К. Чорны паказвае, што тыя героі, якія засталіся ў панскай Польшчы, па-ранейшаму не маюць радзімы. Таксама, як і ў нядаўняй царскай Расіі, у Польшчы гаспадараць багацеі — фанабэрыстыя асаднікі ды вяльможныя магнаты. Па-ранейшаму тут пануюць сурвілы ды мазавецкія. Народ жа вымушан гібець у цяжкай працы і нястачы, не маючы фактычна ніякіх правоў.

Але вопыт рэвалюцыі ў Расіі не прайшоў без знаку. Працоўны народ у белай Польшчы не хоча мірыцца з уціскам і няволяю. «Што ж, цяпер народ жыве як на пораху,— гаворыць адзін з герояў твора.— Спадыспаду, значыць, порах, і сухі вельмі. Народ чакае нечага. Народ рабіць нешта збіраецца... Што, гэта на тое рэвалюцыя была, ды і не адна, каб пан з войтам правілі на маёй галаве свае права?»

Людзі добра разумеюць, што неабходна змагацца, што толькі ў барацьбе яны змогуць завяваць волю. Яны ведаюць, што адзіная сапраўдная радзіма для працоўных — сацыялістычная бацькаўшчына. Так праблема бацькаўшчыны ў рамане набывае сваё выразнае філасофскае завяршэнне.

У рамане добра выказана ідэя інтэрнацыянальнага братэрства народаў у агульнай барацьбе за сваё вызва-

ленне. Палонны, нямецкі падданы Эдвард Лявер, не стаіць у баку ад рэвалюцыйных падзей, якія адбываліся ў беларускім гарадку. Калі беларускія працоўныя ідуць на дэманстрацыі, немец Эдвард Лявер ідзе разам з імі, пад чырвоным сцягам. Вярнуўшыся пасля вайны дамоў, у лісце да Леапольда Гушкі ён піша, што яго таварышы, нямецкія рабочыя, «выказалі пратэст супраць новага астрожнага рэжыму ў Польшчы».

Пісьменнік у сваім рамане выказвае перакананне, што ў барацьбе з падпальшчыкамі новай вайны народы будуць змагацца разам. У тым жа лісце да Гушкі Эдвард Лявер заяўляе: «Мяне цяпер на вайну больш не пагоняць. А пагоняць, дык на сваю галаву. Гэта самае сказалі і ўсе на нашым мітынгу — і амерыканцы, і палякі, і нашы землякі...»

Леапольд Гушка не выпадкова стаў адным з галоўных вобразаў рамана.

Гушка — адзін з тых характараў, якія асабліва любіў маляваць Кузьма Чорны. Найбольш важнымі чалавечымі рысамі ён нагадвае многія іншыя вобразы са шматлікіх твораў пісьменніка. Ад іх Леапольд Гушка адрозніваецца найбольш, бадай, толькі сваёй незвычайнай радаслоўнай.

Як і іншыя блізкія Чорнаму героі, Леапольд Гушка нястомны і «цягавіты ў працы» чалавек. З незвычайнай упартасцю апрацоўвае ён камяністы, непрыгодны для поля, кавалак зямлі і, нарэшце, дабіваецца таго, што зямля пачынае радзіць. Працавітасць упартая — адна з самых важных для пісьменніка рыс, ён заўсёды вылучае гэтую рысу ў вобразах, падобных Леапольду. Такімі ж рысамі характарызуюцца і жонка Леапольда, і дачка Марылька. Усе яны перш за ўсё — людзі *працы*.

Панскі парабак, чалавек, які паспрабаваў усю «прывабнасць радавітага парабкоўства», Леапольд Гушка, імкнучыся выбіцца з залежнасці ад паноў, марыць набыць *сваю* зямлю. Кузьма Чорны выдатна паказвае, з якім замілаваннем Гушка думае пра гэта найвышэйшае для яго шчасце — мець сваю зямлю: «Ён бы даглядаў яе (зямлю.— *І. М.*), угнойваў бы, урабляў. Ён быў бы сам сабе панам».

Праблема зямлі ў рамане — і гэта вельмі важная адзнака яго — непарыўна пераплятаецца з праблемай бацькаўшчыны. Зямля ў паказе К. Чорнага ў рамане набывае як бы значэнне сіноніма бацькаўшчыны. Зям-

ля, адносіны да яе перш за ўсё вызначаюць характар і пазіцыі герояў.

Адносінам селяніна да зямлі пісьменнік прысвячае наогул многія старонкі сваіх раманаў, аповесцей, апавяданняў. Тэма зямлі — адна з самых важных у Чорнавай творчасці.

Лічачы, што зямля можа дапамагчы вызваліцца ад панскай кабалы, Леапольд Гушка не шкадуе нічога, каб набыць яе. Верачы ў яе сілу, Гушка за ўдзірванелы, безнадзейны кавалак яе ўлазіць у пастку кулака Сурвілы, аддае за яе ўсе грошы, якія збярог за жыццё катаржнай працай. Прадае рэчы са сваёй хаты, застаецца амаль без вопраткі і абутку.

У драме «Бацькаўшчына», напісанай К. Чорным паводле рамана, ёсць вельмі выразная і моцная сцэна. Дзея адбываецца на кірмашы. Леапольду Гушку не хапае чатырох рублёў, каб выплаціць Сурвіле, які прыняў яго ў «кампанію» на куплю панскай зямлі, свой грашовы ўзнос. Але Гушка прадаў ужо ўсё, што мог. Што рабіць? Гушка кліча перакупшчыка, здымае з ног боты і кідае яму. Старыя, разбітыя боты перакупшчык і глядзець не хоча. Тады Гушка здымае пінжак, а калі гэтага аказваецца мала, каб атрымаць патрэбныя чатыры рублі, не вагаючыся, скідае камізэльку, шапку і аддае перакупшчыку. Гушка аддаў усё, што мог, толькі б ажыццявіць сваю надзею — набыць зямлю.

Атрымаўшы дзве дзесяціны камяністай зямлі, якая спрадвеку ніколі не ведала плуга, Гушка, не шкадуючы ні сябе, ні жонкі, ні дачкі, апрацоўвае яе. Яму здаецца, што ён хутка стане «сам сабе панам»!

Кузьма Чорны крок за крокам развейвае гэтую ілюзорную веру селяніна ў зямлю. Пісьменнік паказвае, як з самага пачатку, калі былому парабку здаецца, што ён, нарэшце, пачаў станавіцца вольным гаспадаром, Леапольд Гушка трапляе ў пастку, пастаўленую прагавітым і драпежным Сурвілам.

Забраўшы ў свае рукі Гушку, Сурвіла бязлітасна эксплуатуе яго, знарок затрымлівае афармленне рускага падданства.

Чым далей, тым мацней трымае Гушку ў сваіх руках Сурвіла. Усё больш мацнее залежнасць Гушкі ад кулака.

Трэба адзначыць, што Гушка апынуўся ў такім ста-

новішчы не адзін. «Цяпер можна сказаць уся вёска і робіць — і коньмі, і рукамі — Сурвілу і Мазавецкаму».

Як ні ўпарціцца Гушка, ён, нарэшце, вымушан прызнаць крушэнне сваіх лепшых спадзяванняў. «Гэта я яму зямлю купіў, а не ён мне!» — гаворыць з болем і адчаем ён пра Сурвілу. Найбольшага напалу трагедыя Гушкі набывае тады, калі Сурвіла спрабуе адабраць апрацаваную былым парабкам зямлю і загадвае перабрацца на пустыр.

«Дзякуй яму за ласку! Адсюль ён мяне не зганіць! — заяўляе рашуча Гушка.— Я на гэтым кавалку ўсе свае сілы паклаў! Я ссівеў тут, камяні гэтыя руйнуючы. Няхай прыйдзе з прыставам ды жыўцом за горла бярэ, і то я пачну праўды даходзіць. Што, я ад пана ўцёк на тое, каб век вечны Сурвілу за парабка быць? Можа, мне не варта было спачатку брацца за гэтую справу, але што ж, запазна я агледзеўся».

Пісьменнік паказвае, што вялікая Гушкава мара ажыццяўляецца нарэшце ў калгасе. Станаўленню калгаса стары Гушка аддае свой вялікі працоўны вопыт і сілы.

На жаль, апошні перыяд жыцця Леапольда Гушкі пісьменнік падаў вельмі скупа. Вобраз Гушкі, намаляваны спачатку Кузьмой Чорным надзвычай жыва і моцна, не мае такога ж грунтоўнага мастацкага завяршэння. Тут мастацкі паказ падмяняецца паспешлівым пералікам з'яў.

Аналізуючы вобраз Леапольда Гушкі, нельга не адзначыць, што пісьменнік больш упэўнена адчуваў сябе там, дзе маляваў Гушку-працаўніка, гаротніка, ахвяру хцівага кулака. Там жа, дзе трэба было паказаць Гушку як новага чалавека, як кіраўніка калектыўнай гаспадаркі, як грамадзяніна сацыялістычнай бацькаўшчыны, у раманіста, падобна, не хапіла належных фарбаў. Гэта, на жаль, зніжае мастацкую вартасць вобраза, у цэлым цікавага і значнага.

З вобразаў, блізкіх да Леапольда Гушкі, найбольш акрэслены стары Няміра, які з прычыны трагічных акалічнасцей застаецца па той бок мяжы, вымушаны апошнія гады свайго жыцця батракаваць. Расказваючы аб жыцці старога Няміры, параўноўваючы яго лёс з лёсам Гушкі, пісьменнік, натуральна, падмацоўвае асноўную думку рамана.

Як вядома ўжо, адзін з любімых вобразаў К. Чор-

нага — жанчына-працаўніца, маці. Вобразы такіх жанчын можна знайсці ў многіх творах пісьменніка. З сімпатыяй намаляваны яны і ў рамане «Бацькаўшчына». Гэта — жонка Леапольда Гушкі і яго дачка Марылька.

Жонка Гушкі ўвесь час непакоіцца, турбуецца пра дзяцей — Адася, Антуся, пра свайго мужа. Вобраз гэты паўстае ў рамане глыбока чалавечым і паэтычным.

У сапраўднай велічы раскрываецца прыгожая душа маці ў сцэне, дзе яна, маючы галодных дзяцей, сама галодная, аддае галодным чырвонаармейцам толькі што пазычаны хлеб, пакідаючы для сваёй сям'і невялікі акрайчык. «Калі чырвонаармеец пайшоў — жанчына ўзяла з стала хлеб, пакруціла яго ў руках, пасля адламала на нюх табакі, паклала ў рот, паволі перажоўваючы, і думала, што рабіць з гэтаю рэштаю, ці яе есці, ці глядзець на яе».

І маці, і Марылька — людзі працы. Яны дапамагаюць Леапольду Гушку, не шкадуючы сілы. Маці, хворая, знямоўжаная, усяляк стараецца перамагчы сваё бяссілле, з апошніх сіл намагаецца зрабіць усё, што трэба для сям'і і гаспадаркі.

Надмерная праца зусім надрывае яе здароўе. «Якое дзіва, што яна ўсе сілы свае страціла,— гаворыць са спачуваннем Леапольд Гушка.— Гэтулькі яна тут адных камянёў папацягала, гэтулькі дзірвану гэтага пападрала».

Звыклая ўсё жыццё працаваць, бачачы ўвесь сэнс жыцця ў гэтым, яна не можа жыць без працы. Нават калі ў часе баёў ёй даводзіцца сядзець у хаце, яна нудзіцца — нельга працаваць. У вайну яе, працоўную сялянку, больш за ўсё ўражвае тое, што палі стаяць нязжатыя. «Не жнуць людзі, нічога не робяць...» — сумна адзначае яна.

Вельмі падобны да гэтага вобраз Кузьма Чорны малюе пазней у рамане «Вялікі дзень».

Важнае месца ў творы займаюць Адась Гушка і Рыгор Чуйка. Адась Гушка вядзе рэвалюцыйную работу спачатку ў сваіх родных мясцінах, пазней на фронце. Ён вяртаецца ў родны горад і стварае бальшавіцкі рэўком, абвяшчае лозунгі рэвалюцыі. Пазней, калі родны край займаюць белапалякі, ён абараняе заваёвы Кастрычніка на фронце. У канцы твора мы даведваемся, што ён вучыцца ў вайсковай акадэміі.

Рыгор Чуйка ўдзельнічае ў партызанскай барацьбе з белапалякамі. Вымушаны застацца ў панскай Польшчы, Рыгор арганізуе забастоўкі сярод рабочых і парабкаў, уздымае іх на барацьбу з памешчыкамі і капіталістамі. На жаль, абодва гэтыя вобразы ў рамане не набылі яскравага аблічча, ім нестае жывых фарбаў. Пісьменнік аддаў ім мала ўвагі.

Кузьма Чорны, відаць, сам адчуваў, што гэтыя вобразы трэба было б падаць глыбей і паўней. Аб гэтым гаворыць той факт, што ў п'есе «Бацькаўшчына» вобраз Адася Гушкі пісьменнік абмаляваў з вялікай увагай. Вобраз Адася ў п'есе стаў фактычна адным з галоўных.

У п'есе Адась — яркі, паўнакроўны вобраз, адзін з самых лепшых вобразаў бальшавікоў у творах Кузьмы Чорнага. Ён стаў тут вялікай творчай удачай пісьменніка. Трэба сказаць, п'еса ў цэлым засведчыла значны творчы рост пісьменніка. Яна засведчыла разам і тое, што пісьменнік сам крытычна асэнсоўваў свае памылкі і пралікі.

Цікава задуман аўтарам рамана вобраз Эдварда Лявера. Лявер, нямецкі салдат, унук такога ж ткачапаўстанца, як і бацька Леапольда Гушкі, мае многа супольнага з Гушкам. У паказе Чорнага Лявер бачыцца намі як родны брат Гушкі. З самага маленства яны ішлі нібы паралельнымі шляхамі, з той розніцай, што Лявер працаваў у Сілезіі, на здабычы жалезнай руды, а потым у вугальных капальнях.

Як і ў Гушкі, у Лявера працоўная, незабяспечаная сям'я. Жонка Лявера — работніца з трыма дзецьмі — вымушана ездзіць з горада ў горад у пошуках работы. Як і Гушка на сваім полі, Лявер на фронце задумваецца над тым, за што яму прыходзіцца ваяваць. Ён таксама адчувае, што ў яго няма сапраўднай бацькаўшчыны, што вайна вядзецца ў інтарэсах капіталістаў. «Нехта там мае капальні, нехта там з таго вугалля, што я капаў век свой, багацее, а я кавалку хлеба жадзен, ды яшчэ ваяваць я павінен? Мне кажуць — ратаваць бацькаўшчыну... Не трэба мне ні бацькаўшчыны гэтакай, ні вайны, ні акопаў, нічога гэтага!»

І Лявер, разумеючы антынародную сутнасць імперыялістычнай вайны, сам здаецца ў палон рускім. У часе рэвалюцыйных падзей Эдвард Лявер ідзе разам з рускімі. Лявер удзельнічае ў рэвалюцыйнай дэман-

страцыі. «Ён ішоў непадалёку ад сцяга, разам з усімі, гэты палонны салдат «варожай» арміі»,— адзначае пісьменнік, выказваючы вобразам Лявера, яго ўчынкамі ідэю братэрскага яднання працоўных розных нацыянальнасцей у агульнай рэвалюцыйнай барацьбе.

Вярнуўшыся ў кайзераўскую Германію, Лявер актыўна ўдзельнічае ў рабочым руху, у забастоўках. Ён вядзе ў Германіі тую ж работу, якой аддае сваю маладосць у Заходняй Беларусі беларус Рыгор Чуйка. Абодва працуюць у імя стварэння сацыялістычнай бацькаўшчыны на родных землях. Шкада, што гэтая, магчыма, найбольш цікавая старонка біяграфіі Лявера пададзена раманістам толькі інфармацыйна, вобраз Лявера, як і вобраз Адася ў кнізе, не мае вартага завяршэння.

Вобраз Эдварда Лявера — зусім новы як у творчасці К. Чорнага, так і наогул у беларускай прозе.

Значна ярчэй, глыбей намаляваў К. Чорны кулака Сурвілу. Сурвіла — драпежнік і хцівец, усе пачуцці якога падпарадкаваны аднаму — нажыве. Бесчалавечна эксплуатуе Сурвіла не толькі Леапольда Гушку, ён і шляхціц Мазавецкі паступова завалодваюць усёй вёскай.

Сурвіла звычайна глядзіць на сялян вачамі драпежніка, з усяго, што можа цікавіць жывую істоту, яго хвалюе найбольш адно: як з каго можна пажывіцца. Захапіўшы, аблытаўшы ахвяру, Сурвіла не выпускае яе з сваіх рук датуль, пакуль не вып'е апошнія сокі.

Сваё драпежнае нутро Сурвіла, аднак, маскіруе пад дабрадушным, спагадлівым выглядам. Ён прыкідваецца і няшчасным, і бедным, і пакутнікам. Ён крывадушна скардзіцца на вайну, хоць за час яе нажыў вялікае багацце; ён на словах спачувае людзям, хоць у душы непакоіцца толькі пра сябе. Ён зазывае ў сваю хату людзей, хаты якіх папалілі яго абаронцы, белапалякі, стогне над людской бядою: «небаракі-людзі гэтак пакутуюць. Дзе ім цяпер дзецца».

Кузьма Чорны бязлітасна выкрывае гэтага чалавека-звера, ганьбіць яго чорныя задумкі і ўчынкі.

З вобразаў, што акружаюць Сурвілу, пісьменніку больш удаліся шляхціц Мазавецкі, які пазней становіцца апорай панскай Польшчы ў гарадку, і сын Сурвілы. Малады Сурвіла становіцца правай рукой Мазавецкага, працягваючы і падмацоўваючы справу бацькі.

Кузьма Чорны праўдзіва намаляваў аблічча сваіх герояў, даў кожнаму з іх з пазіцый савецкага пісьменніка выразную сацыяльную ацэнку.

«Бацькаўшчына» — раман эпічны; падзеі, якія ў ім разгортваюцца, ахопліваюць вялікі прамежак часу, прыблізна дваццаць год. Дзея першых старонак твора адбываецца гады за два напярэдадні вайны 1914 года, апошнія старонкі малююць перад намі пачатак трыццатых гадоў.

Эпоха, пра якую расказвае К. Чорны,— адна з самых багатых і складаных у гісторыі беларускага народа, яна характарызавалася вялікімі сацыяльнымі зменамі.

Ствараючы свой раман, К. Чорны пракладваў ім у беларускай літаратуры дарогу эпасу.

IV

Раман «Трэцяе пакаленне» Кузьма Чорны скончыў у 1934 годзе.

Час, у які стварыўся раман,— першая палова трыццатых гадоў — гэта гады першых пяцігодак, калі савецкая краіна небывалымі ў гісторыі тэмпамі ішла наперад, ліквідуючы сваю шматвяковую адсталасць. Час гэты, як ніякі другі, быў насычаны значнымі падзеямі.

Краіна дробных сялянскіх гаспадарак, местачковых рамеснікаў, старых, тэхнічна адсталых заводзікаў і фабрык станавілася краінаю перадавой індустрыі, буйной калектыўнай гаспадаркі, імклівага росту ў самых розных галінах жыцця.

Ішло напружанае спаборніцтва дзвюх сістэм — сацыялістычнай і капіталістычнай. Сацыялістычны лад у барацьбе з рэшткамі панурага мінулага заваёўваў адну за адной асноўныя пазіцыі ва ўсіх галінах гаспадаркі. Ішло разгорнутае пераможнае наступленне сацыялізма па ўсяму фронту.

Гэты час адзначаны і новымі перамогамі ў савецкай літаратуры.

Леанід Лявонаў стварае раман «Соць» — адзін з першых у нашай літаратуры твораў пра сацыялістычную перабудову, Валянцін Катаеў піша «Час, наперад!» («Время, вперед!»), крыху пазней, у 1938, Аляксандр Малышкін — «Людзі з захалусця» («Люди из захо-

лустья»). У адным радзе з гэтымі і іншымі такімі творамі трэба паставіць і раман Кузьмы Чорнага «Трэцяе пакаленне».

Калі параўнаць гэтыя творы, то можна заўважыць, што ў іх змесце і кірунку думкі, пры ўсіх індывідуальных якасцях, якія надаюць кожнаму твору своеасаблівае аблічча, багата падобнага, блізкага. Блізкія, падобныя клопаты людзей, іх спадзяванні. Блізкія людзі.

Усё гэта творы — аб сацыялістычным наступленні, якое ішло не толькі ў гаспадарцы, у эканоміцы, але і ў псіхіцы людзей, у іх паводзінах, у іх адносінах між сабою і адносінах да працы, да навакольнага свету.

Змянялася не толькі аблічча краіны, змянялася аблічча чалавека. Аджывала старое, што стагоддзямі ўкаранялася ў душы чалавека, нараджаліся новыя рысы. Нараджаўся новы чалавек, новы герой.

«Трэцяе пакаленне» — твор пра барацьбу старога і новага ў псіхалогіі людзей, пра нараджэнне новага героя. Іменна ў гэтым — асноўная асаблівасць рамана.

Паказ нараджэння новага, барацьбы са старым, аджылым складае змест кнігі, вызначае яго кірунак, яго думкі і яго фарбы.

Гэта задача вызначае вобразную сістэму рамана. З найбольшай увагай Кузьма Чорны малюе вобраз Міхала Тварыцкага.

Пісьменнік пільна сочыць за ім, паказвае, як фарміруецца светапогляд і характар гэтага чалавека.

З маленства, працуючы пастушком у кулака Скуратовіча, адчуваючы над сабою ўладу прагнага эксплуататара, назіраючы пакуты бацькі, атручанага на вайне, Міхал прыходзіць да жорсткага вываду:

«...круціцца бязлітасная і халодная штука. Яна бяздушная. І ўсё, што трапляе пад яе, яна душыць і крышыць» [1].

Гэтая бяздушная машына раздушыла бацьку, без часу звяла яго ў магілу.

Гэтая машына можа раздушыць і яго, Міхала. Трэба асцерагацца, каб не трапіць пад яе.

Разам з гэтым да Міхала прыходзіць ад бацькі і з вопыту працы ў Скуратовіча другі важны, страшны

---

[1] Чорны К. Трэцяе пакаленне.— Мн.: ДВБ, 1946, с. 47. Далей цытуецца па гэтым выданні.

вывад: усе людзі — ворагі, можна спадзявацца толькі на сябе.

Гэта прымушае Міхала жыць, насцярожана азіраючыся, не верачы нічому, што вакол яго, жыць нацята і насцярожана. Ужо з першых дзён працы ў кулака Міхал пачынае баяцца і Скуратовіча, і яго хутара. За гэтыя часы «Міхалка прывык глядзець на ўсё з падазронасцю»,— піша аўтар.

У Міхала вельмі моцна развіваецца пільная назіральнасць. Прыйшоўшы да вываду аб жорсткасці жыцця, ён з патаемнай злараднасцю сочыць за кожным крокам чорнай, скрозь зманлівай дзейнасці свайго гаспадара.

Ён хутка пранікае ў таямніцы Скуратовічавых спраў, бярэ ў свае рукі ключы ад іх. Скуратовіч пабойваецца свайго праз меру дапытлівага пастушка. Міхал ловіць гэта, чуе ў сабе дужасць ад усведамлення невядомай раней сваёй сілы. «Ты раней са мной нават не гаварыў па-людску, а цяпер дагаджаеш мне, каб я маўчаў»,— думае ён пра Скуратовіча.

У яго душы спее злосць. Ненавідзячы сваё рабскае існаванне, ён, падобна Макару Дзевушкіну Дастаеўскага, думае з асалодай пра тое, як прымусіць свайго прыгнятальніка «патрапятацца».

«Падазронасць мучыла Міхалку. Ён думаў: «Цяпер-то Скуратовіч са мной добра, а як раней быў. Каб пайшоў сказаў, што палавіну ўсяго з поля ён звёз да Сцепуржынскага, от бы патрапятаўся б ён у мяне. От бы я яму падстроіў штуку!»

І ён пачаў усміхацца і гаварыць сам сабе пра Скуратовіча:

— Тады папаскакаў бы. Папаенчыў бы. От бы папагнуўся б!

Памаўчаў, чмыхнуў носам, стрымліваючы смех, і зноў:

— От папабожкаў бы тады!» [1]

Міхал цешыцца радасцю помсты. У гэтай радасці яго пратэст супраць рабскага свайго становішча.

Але калі Скуратовіч, пачуўшы ўночы гэтае мармытанне і не разабраўшы слоў, пытае з другога пакоя: «Што ты кажаш?» — Міхал «спалохаўся і прыліп да пасцелі».

---

[1] Чорны К. Трэцяе пакаленне, с. 45,

Пратэст яго нясмелы. Нявольніцкі страх, пачуццё прыгнечанасці перамагае. Яго пратэст — не той пратэст, з якім выступае супраць Скуратовіча, супраць старога, чорнага, таварышка Міхала па працы парабчанка Зося. Міхал баіцца старога, пазбягае барацьбы з ім.

Імкнучыся адпомсціць забойцам бацькі і брата, Зося, праўда, сваёй смеласцю і цвёрдасцю падымае на час і Міхала, вядзе на смелы ўчынак — выкрыццё бандыцкай дзейнасці Скуратовіча.

Але ўчынак гэты не становіцца нормай жыцця Міхала Тварыцкага. Ён — толькі ўзлёт, зроблены пад уплывам больш высокага чалавека. Разарваўшы свае зносіны са Скуратовічам і нават пайшоўшы супраць яго, Міхал Тварыцкі не можа канчаткова вызваліцца ад таго чорнага, што пераняў ад кулака-хутараніна і чаму навучыла яго адвечная філасофія.

Паступова, крок за крокам Кузьма Чорны паказвае, як у душы былога парабка ўсё больш і больш усталёўваецца і мацнее старое, аджылае, якое збліжае яго са Скуратовічам.

Са сваім жорсткім вывадам — «бязлітаснае і халоднае жыццё душыць і крышыць усё, што пападаецца»,— Міхал Тварыцкі выходзіць на самастойны шлях.

Ён нічога не бачыць навокал. Жыццё здаецца яму поўным страшных нечаканасцей. Ён увесь у трывозе перад жыццём.

Непакоіць яго і сучаснае, і будучыня. Над ім увесь час вісіць прывід страшнай, «чорнай часіны» — вайны.

Ён не ведае чалавечай радасці і здавальнення.

Міхал упэўнен, што вызваліць яго ад смяротнай небяспекі — быць раздушаным, можа толькі сваё багацце, свая маёмасць. Чатырнаццацігадовым хлапчуком, працуючы парабкам у горадзе, ён марыць: «Кажуць, зямлю будуць даваць, то і я на ўсю нашу сям'ю вазьму. Буду рабіць і абжывацца».

І ён з незвычайнай настойлівасцю імкнецца зарабіць грошай, каб «абжыцца». Ён увесь у гэтым сваім імкненні.

Запрацаваўшы грошай, ён абжываецца. Будуе новую хату, хлеў, купляе каня, арэ зямлю. Ён працуе, не адпачываючы сам, і не дае адпачыць сваёй жонцы. Скнарыстасць яго неймаверная — хоць навокал многа млыноў, ён прымушае жонку малоць збожжа ў жорнах,

каб толькі не «раскідаць грошы». Дбаючы пра дзіця, ён у той жа час уздымае крык з-за таго, што Зося, яго жонка, узяла два рублі, каб паправіць дзіцяці туфлікі.

Думкі аб сваёй уласнасці, аб грашах выпальваюць у яго душы чалавечыя пачуцці.

У вобразе Міхала Кузьма Чорны паказаў, як у абстаноўцы сацыялістычнага будаўніцтва траціць сілу старая мараль, ламаюцца старыя звычкі, нараджаецца новае.

Чорнага больш за ўсё цікавіць тое, як Міхал робіцца новым чалавекам.

У вялікіх пакутах нараджаецца новы Міхал.

Панура, насцярожана глядзіць ён спачатку на свет, на акаляючае яго жыццё, не заўважаючы, што час змяніўся і ўсё навокал зусім іншае, чым раней, калі жыў яго бацька, калі сам ён працаваў у Скуратовіча.

Старыя погляды, перанятыя ад нябожчыка-бацькі, ад усяго таго мінулага, у якім ён рос у гады бязрадаснага маленства і першай сталасці, уступаюць у вострую супярэчнасць з новым жыццём, з новымі людскімі звычаямі.

Сышоў у нябыт жыццёвы прынцып — чалавек чалавеку вораг — галоўны прынцып адносін між людзьмі ў старым буржуазным грамадстве. Але Тварыцкі гэтага не заўважае. Ён па-ранейшаму трымаецца даўнейшых поглядаў. «Кожны сабе зарваць стараецца, а ты думаеш, што ўсе добранькія»,— дакарае ён жонку.

Перастала ў абстаноўцы сацыялістычнага будаўніцтва пагражаць Тварыцкаму рэальная небяспека «чорнай часіны», а ён усё ніяк не можа пазбыцца страху перад ёй, фактычна атручвае сабе ўсё жыццё. Ад гэтага неспакою перад «чорнай часінай» ён палохаецца сучаснага і будучыні.

Схаваўшыся ў сваёй вузкай, каравай нары, у вечным неспакоі за сваё жыццё, Міхал Тварыцкі такі глухі да праяў навакольнага новага жыцця, што абудзіць яго, перайначыць ніяк не можа нават жонка.

Між Міхалам Тварыцкім і Зосяю распальваецца канфлікт, які, нарэшце, выводзіць іх на зусім розныя шляхі.

Дробнаўласніцкая закасцянеласць прыводзіць Міхала да лагічнага канца — Тварыцкі становіцца не толькі адшчапенцам, але і злачынцам перад новай рэчаіснасцю, перад людзьмі, якія будуюць яе.

Не хочучы таго, вядома, ён робіцца пасобнікам ворагаў, што прыйшлі ў нашу краіну з заграніцы рабіць сваю злую справу. Сын кулака, выкрытага Зосяю разам з Міхалам і расстралянага па заслугах, Толік Скуратовіч і былы «панскі сырнік» Стафан Седас па заданню замежных гаспадароў абакралі банк, забралі вялікую суму грошай, прысланых для буйнога будаўніцтва. З-за нястачы грошай будаўніцтва зрываецца. Сотням рабочых некалькі месяцаў не плоцяць зарплату.

Следчыя органы імкнуцца знайсці сляды злачынства. Ёсць адзін чалавек, які мог бы дапамагчы раскрыць гэтае заблытанае, таямнічае здарэнне,— Тварыцкі. Ён гэта добра разумее.

Але ён маўчыць, тоіць, таму што яму выпадкам здараецца знайсці тыя грошы, якія ўкралі бандыты. З-за гэтых грошай, з-за клопату толькі пра сваё малое, эгаістычнае існаванне ён робіць злачынства.

Тут вышэйшы пункт, завяршэнне шляху Тварыцкага-ўласніка. Шлях гэты канчаецца трагічна. Тварыцкі становіцца ворагам, пападае на лаву падсудных, траціць сям'ю.

У чым сэнс трагедыі Міхала Тварыцкага?

Пісьменнік дае на гэта выразны адказ. Па-чорнаўску філасофска абгрунтаваны.

Трагедыя Міхала ў тым, што хоць ён «з народа, але стаў адшчапенцам і ў такім выглядзе ворагам народа» [1]. Тварыцкі ішоў не магістральным шляхам, якім ішоў увесь народ, што працаваў на будоўлях пяцігодкі, ён ішоў старымі, крывымі сцежкамі, упарта трымаючыся за старое, уласніцкае, ставячы вышэй за ўсё свае асабістыя эгаістычныя інтарэсы.

Глыбока раскрыўшы сутнасць псіхалогіі Тварыцкага, яе шкоднасць і небяспечнасць у наш час, Кузьма Чорны разам з тым паказаў і шлях для Тварыцкіх у новае жыццё. Моцна, сурова вучыць Тварыцкага наш суд, наша савецкая рэчаіснасць. І Тварыцкі ўрэшце прыходзіць да разумення прычын сваёй жыццёвай трагедыі:

«Усё ўпала, рушылася; у фальшывай дарозе ішлі першыя маладыя гады; навакол чаго трымаліся калісьці цэлыя гады мары — ёсць непатрэбнасць. Не прыма-

---

[1] Чорны К. Трэцяе пакаленне, с. 136.

юць гэтыя людзі таго, чым раней думаў усё жыццё трымаць, чым думаў ратавацца і ратаваць блізкіх сваіх. Няма хцівасці, няма скупасці, няма ў аднаго да другога нянавісці» [1].

Тварыцкі пойдзе па магістральнаму шляху, ён увальецца ў вялікую армію новых людзей — будаўнікоў сацыялістычнага грамадства.

Акрамя вобраза Міхала Тварыцкага Кузьма Чорны ў рамане намаляваў яшчэ некалькі глыбокіх, паўнакроўных вобразаў. Гэтыя вобразы адрозніваюцца адзін ад другога як сваімі характарамі, так і жыццёвым вопытам, адносінамі да навакольнага свету.

Але яны падзяляюцца не толькі па сваіх непаўторных, індывідуальных асаблівасцях. Пісьменнік праводзіць між імі больш глыбокую мяжу, вызначае іх класавую прыналежнасць, класавыя ідэалы. Героі рамана «Трэцяе пакаленне» складаюць дзве процілеглыя групы: з аднаго боку — прадстаўнікі рабочага класа і працоўнага сялянства, з другога — кулакі. Між гэтымі групамі герояў ідзе непрымірымая класавая барацьба.

З аднаго боку — былы чырвонаармеец, цяпер буйны савецкі работнік Назарэўскі, начальнік будаўніцтва Несцяровіч, жонка Міхала — Зося Тварыцкая, «кажушаны кравец», з другога боку — Скуратовічы, Сцепуржынскі, Наўмыснік.

Кузьма Чорны глыбока паказаў звярынае нутро кулакоў, якія любымі сродкамі імкнуцца сарваць сацыялістычнае будаўніцтва. Найбольш ярка ўвасоблены метады дзейнасці і «філасофія» ворагаў у вобразе Скуратовіча. У паказе пісьменніка Скуратовіч — усё самае горшае, што засталося нам у спадчыну ад капіталізму.

Скуратовіч — чалавек-звер. У барацьбе за сваё існаванне, за сваю ўласнасць ён гатовы ісці на любыя сродкі. Ён не спыняецца ні перад чым. «Час такі брыдкі цяпер, няпэўны, страшны неспакой, войны, рэвалюцыі ўсялякія. Чалавек цяпер азвярэў. Што ж, кожны ратуецца, як можа, кожны жыць хоча».

Звярыная сутнасць Скуратовіча выяўляецца ў яго паводзінах. Звонку ж ён стараецца прыхаваць сваё нутро маскаю дабраты, кволасці, прыгнечанасці. Ён увесь

---

[1] Чорны К. Трэцяе пакаленне, с. 199.

двудушны. Гэта Чорны ярка паказаў у сцэне рэквізіцыі ў кулака збожжа і ў адносінах між Скуратовічам і яго сынам. Толік Скуратовіч па бацькавай указцы робіць жахлівую расправу над бацькам Зосі, які паведаміў, што стары Скуратовіч хавае лішкі збожжа. Старэйшы Скуратовіч пасля прыязджае на месца расправы і крывадушна жахаецца: «Ай, што робіцца. То гэта ў вуліцы, сярод людзей. А як мне, на адзіноце».

Скуратовіч — хітры, небяспечны звер. Каб схаваць сляды сваіх злачынстваў, ён ідзе нават на тое, што паліць свой уласны хлеў, вазоўню, склеп. Чорны паказаў Скуратовіча бязлітасным і страшным ворагам, які не спыніцца ні перад чым у сваёй нянавісці да савецкага жыцця. Фізічнае знішчэнне гэтага звера ўспрымаецца як адзіна правільны сродак ухіліць небяспеку, якую ён тоіць у сабе.

Кузьма Чорны намаляваў вобраз Скуратовіча з вялікай мастацкай сілаю.

Толік Скуратовіч, працягваючы шлях бацькі, канчае сваё жыццё тым, што ідзе ў савецкую краіну замежным шпіёнам. З замежнай разведкаю звязвае свой лёс і Сцепуржынскі, што пад чужым прозвішчам Наўмысніка пралез на будаўніцтва шкодзіць і помсціць.

Скуратовічы і сцепуржынскія, пры ўсёй іх хітрасці, урэшце, зазнаюць паражэнне, бо супраць іх народ, савецкія людзі. Чорны выводзіць у рамане некалькі прывабных вобразаў савецкіх людзей, сярод якіх па пластычнай рэльефнасці і яркасці фарбаў вылучаюцца вобразы Зосі і асабліва — «кажушанага краўца».

Вобразы Назарэўскага і Несцяровіча — кіруючых савецкіх работнікаў — пісьменніку ўдаліся менш. Яны пададзены эскізна і не маюць закончанасці. Аднак і ў іх ёсць жывыя, трапныя рысы, якія гавораць пра мастацкія ўдачы Чорнага. Як прыклад гэтаму можна прывесці тыя старонкі, дзе пісьменнік паказвае адносіны Несцяровіча да Наўмысніка. Перад намі паўстае постаць савецкага работніка — сумленнага, разважлівага і пільнага.

Назарэўскі запамінаецца нам асабліва па першай частцы рамана, калі ён прыязджае ў родны горад на папраўку пасля ранення. Моцнае ўражанне робіць яго глыбокая, гарачая прамова на судзе, калі ён гаворыць пра «асобу з нявольніцкай душой». У гэтай сцэне Назарэўскі паўстае перад намі як чалавек, які ўмее рабіць

значныя абагульненні, умее далёка бачыць і ўсім сэрцам ненавідзіць старое, нявольніцкае.

Цёпла, з любоўю намаляваў пісьменнік сястру Кандрата Назарэўскага Ірыну. Ірына ў савецкім жыцці знаходзіць шырокі светлы шлях і хоча аддаць свае сілы справе «выкарчоўвання эксплуататарства, нявольніцтва і душы».

Больш увагі Кузьма Чорны аддае вобразам Зосі Тварыцкай і краўца. Лёс Зосі спачатку мае многа агульнага з лёсам Міхала Тварыцкага. Разам працавалі яны ў Скуратовіча, а пасля ў горадзе разам будавалі сваю хату, сваё жыццё. Але Зося не перажывае такога пакутнага разладу між сваімі ідэаламі і новым жыццём.

У чым прычына гэтаму? Што яе розніць з Міхалам?

Як і Міхалавы, Зосіны паводзіны грунтуюцца на яе асабістых чалавечых якасцях, на жыццёвым вопыце і на пэўных перакананнях, што выходзяць з гэтага вопыту.

Жыццёвы вопыт і ў Міхала, і ў Зосі ў галоўным аднолькавы. Значыцца, прычыну таго, што яны пайшлі празнымі шляхамі, трэба шукаць у асабістых якасцях іх, у іх перакананнях.

Пісьменнік на многіх прыкладах паказвае, як паразнаму глядзяць і ідуць у жыцці Міхал і Зося. Супастаўленне гэтых двух шляхоў і лёсаў дае Чорнаму высветліць абодва вельмі важныя для рамана вобразы.

Розніца між Зосяю і Міхалам у тым, што яна як чалавек — больш чулая і смелая. Яна востра адчувае праявы новага, смела ідзе насустрач ім. Яна ахвотна адмаўляецца ад чорнай, цеснай хаты і беспрасветнага, бязрадаснага жыцця на адзіноце, у сваёй «нары». «Яна бачыла, што можа быць заўтра. Магла здагадвацца, як яно пойдзе на паслязаўтра». Яна цягнецца душой да светлага, да новага. Гэта і дапамагае прыйсці ёй да новага простай і яснай дарогай.

«Кажушаны кравец» — своеасаблівы тып былога беларускага селяніна, які адарваўся ад зямлі і жыве толькі сваім рамяством. «Я паўвека свайго прахадзіў па свеце, шыючы кажухі. Там было так — што зарабіў, тое і сцерабіў». Ён і ў хаце ўласнай бывае, можа, некалькі дзён на год. Хадзіў па вёсках і шыў кажухі ён у акрузе «на вёрст больш як сто». Гэта чалавек прыгнечаны і прыніжаны жыццём, слабавольны, чалавек, які звык падпарадкавацца і пабойвацца. Ён перад усімі

гнецца і з усімі хутчэй згаджаецца. У яго няма адчування чалавечай годнасці.

Чалавечую годнасць абуджае ў ім наша савецкае жыццё. На будоўлі электрастанцыі ён упершыню пачынае бачыць сябе чалавекам. «Колькі я на сваім вяку меў над сабою гаспадароў, а сам чалавекам ніколі не быў»,— гаворыць пра сябе Кравец, працуючы на будаўніцтве. Усведамленне сваёй годнасці краўцом пісьменнік добра паказвае ў апошняй частцы рамана. Характэрнай у гэтых адносінах з'яўляецца яго сустрэча з Наўмыснікам — кулаком Сцепуржынскім. Спачатку, па забытай звычцы, ён памкнуўся падаць руку, але хутка схамянуўся і ўзвысіў голас. Пісьменнік скіроўвае ўвагу чытача на тое, што «гэты чалавек гаворыць вельмі смела і адкрыта, не аглядаючыся назад».

Тут, у сям'і такіх жа, як сам ён, рабочых людзей упершыню ў жыцці кравец з годнасцю глядзіць у заўтрашні дзень. Вельмі кранае сэрца тое, як, быццам толькі што нарадзіўшыся, проста па-дзіцячы радуецца ён харастcву людзей і жыцця.

Гэты вобраз — адзін з самых прывабных і глыбокіх не толькі ў рамане, але і ва ўсёй творчасці Кузьмы Чорнага.

Ёсць яшчэ адзін герой у «Трэцім пакаленні», аб якім, на жаль, не ўспамінае ніхто з даследчыкаў рамана.

Герой гэты займае даволі значнае месца ў апошняй частцы рамана, ён надзелены ўсімі рысамі новага. Ён — шматфарбны вобраз людзей, што робяць на будаўніцтве, калектыў. Пісьменнік, малюючы вобраз калектыву, аблічча і ўзаемаадносіны рабочых, вылучае як важную рысу мінулага гэтых людзей тое, што раней кожны з іх жыў паасобку, зашываючыся ў сваю нару. Цяпер стварылася новае асяроддзе, з'яднанае, дружнае, у якім кожны чалавек адчувае сябе часткай адной вялікай сям'і. Варта ўспомніць, як адгукаецца гэты «герой» на няшчасны выпадак, што здарыўся з муляром, былым краўцом. Варта ўспомніць і сцэну звароту краўца дамоў пасля бальніцы, якая напісана пісьменнікам узрушана, з замілаваннем.

Кравец у калектыве знаходзіць сваю долю і месца ў жыцці. Ён разам з усімі робіць адну вялікую справу.

«Цябе тут мы шануем таксама,— гаворыць Несцяровіч краўцу,— як і ўсіх гэтых людзей, што тут цяпер

з табой сядзяць, за адно. Ты кажаш, што ты мураваў. Мільён людзей, скажам, працуе. Адзін муруе, другі цэглу робіць, трэці дрэва чэша, чацвёрты зямлю арэ. Кожны робіць сваё, а разам гэта адна справа».

У рамане, які называецца «Трэцяе пакаленне», пра трэцяе пакаленне гаворыцца параўнаўча мала. Галоўнае месца ў ім займаюць прадстаўнікі першага пакалення (Скуратовіч, Сцепуржынскі, кравец) і асабліва другога пакалення (Міхал і Зося Тварыцкія, Кандрат Назарэўскі, Ірына і іншыя).

Трэцяе пакаленне ў рамане прадстаўляе дачка Зосі і Міхала — Слава. У эпілогу Славе Тварыцкай — восем год. Яна толькі што ўступае ў жыццё. Мы бачым яе самыя першыя жыццёвыя крокі.

Кузьма Чорны ў рамане, такім чынам, толькі пачаў гісторыю трэцяга пакалення. Як вядома з эпілога кнігі, Чорны меў намер напісаць новую кнігу аб вялікай дружбе паміж Славай Тварыцкай і Зосяй Назарэўскай — людзьмі двух пакаленняў. Там, трэба думаць, тэма трэцяга пакалення была б разгорнута і паглыблена.

Аднак, нягледзячы на гэта, тэма трэцяга пакалення мае сваё значэнне і ў гэтай кнізе. Немалая частка рамана прасякнута клопатам аб трэцім пакаленні. Раман накіраваны ў будучыню, галоўныя яго героі багата думаюць і непакояцца пра лёс трэцяга пакалення. Клопат пра яго лёс становіцца ад сярэдзіны твора і да канца як бы новым лейтматывам, які надае раману своеасаблівы накірунак.

Які будзе лёс у гэтага пакалення? Як забяспечыць яму лепшае жыццё?

Над гэтым думаюць не толькі героі рамана. Гэта роздум аб будучыні пакалення і самога аўтара твора. У гэтым роздуме адна з найважнейшых філасофскіх канцэпцый Кузьмы Чорнага ў творы.

Асаблівасці аўтарскай канцэпцыі можна добра высветліць, прасачыўшы за поглядамі на гэтыя пытанні Міхала Тварыцкага.

Міхал Тварыцкі зыходзіць з таго, што над Славай, як і над кожным чалавекам, з першых дзіцячых дзён вісіць небяспека «чорнай часіны». «Ты ніяк пра дзіця не дбаеш,— гаворыць ён жонцы,— ты думаеш, што дзень пражыў, то і дзякуй богу. А што наперадзе? Ты думаеш, вайны не будзе? Яшчэ, можа, прыйдзецца

дзіцяці голаму і босаму па дарогах бадзяцца, без бацькі і маткі паміраць з голаду».

Міхал Тварыцкі ўбівае дзіцяці ў галаву, што не трэба глядзець спакойнымі, яснымі вачамі на жыццё, трэба баяцца «чорнай часіны», уводзіць у дзіцячую душу страх перад будучыняй. Ён як бы вучыць глядзець на свет праз цёмнае шкло, якое робіць усё навакольнае страшным.

«Філасофія» Міхала несла ў сабе вялікую небяспеку для дзіцяці. Яна павінна была немінуча скалечыць дзіця, змалку пазбавіць яго радасці жыцця, прыглушыць лепшыя чалавечыя пачуцці, зрабіць душу малой дачкі нявольніцкай.

Асуджаючы жыццёвыя погляды Міхала Тварыцкага, Кузьма Чорны адмаўляе і яго погляды на выхаванне дзіцяці, на лёс таго пакалення, да якога належыць Слава. Чорны рашуча асуджае культ нявольніцтва і страху перад жыццём. Ён за чалавечую радасць, за здаровае жыццё змалку.

Савецкае жыццё, якое выратавала Зосю і Ірыну, адхіліла ад Славы небяспеку «чорнай часіны». Пісьменнік упэўнен: трэцяе пакаленне ў жыцці не толькі не павінна, але і не будзе ведаць тых праклятых чорных дзён, якія зазналі першыя пакаленні. Слава ідзе ў жыццё бадзёрым, упэўненым чалавекам, глядзіць у будучыню яснымі, шчаслівымі вачамі.

Як бачым, раман «Трэцяе пакаленне» і асаблівасцямі вобразаў, і жыццёвымі асновамі, і філасофскімі матывамі мае нямала агульнага з папярэднімі творамі Кузьмы Чорнага. Разам з тым гэты раман увёў у творчасць пісьменніка і многа новага: і самой праблематыкай кнігі, і турботамі яго герояў, і новымі абсягамі жыцця, якія аўтар заўважыў і паспрабаваў грунтоўна даследаваць.

Па жыццёвасці, значнасці праблем і па мастацкіх вартасцях раман «Трэцяе пакаленне», бясспрэчна, адно з найбольшых дасягненняў і самога пісьменніка і ў цэлым тагачаснай беларускай літаратуры.

## V

Аповесць «Люба Лук'янская» — другі твор з задуманага Чорным цыкла — напісана ў 1936—1937 гадах.

Па свайму зместу аповесць блізкая да «Трэцяга пакалення». Як і ў «Трэцім пакаленні» тут пісьменніка найбольш цікавіць працэс росту чалавека ва ўмовах савецкага жыцця. Праўда, гэты працэс пададзен тут не так шырока, як у папярэднім творы. У цэнтры ўвагі пісьменніка тут адзін герой, яго клопаты, яго ўчынкі і погляды.

Люба Лук'янская, галоўны герой аповесці,— родная «сястра» Зосі Тварыцкай. У іх вобразах вельмі многа агульных рыс. І Люба, і Зося ў маленстве і юнацтве сваім спазнаюць досыць «свінцовай мярзоты».

Люба, страціўшы сям'ю, згубіўшы бацьку, які змагаецца недзе ў арміі з ворагамі, працуе за наймічку ў млынара.

Цяжкая, беспрасветная паднявольная праца прыглушае ў Любе лепшыя чалавечыя пачуцці. Яна звыкае з абыякавасцю і чэрствасцю людзей. Таму праявы чуласці і спагады Сашкі Стафанковіча, стальмаха з Даўгабродскай вуліцы ў Мінску, робяць на яе асабліва моцнае ўражанне. Яна ўпершыню ў жыцці не адчувае адзінокасці. Уся яе істота цягнецца да кахання, да радасці: «Млынар бачыў як бы нейкую змену ў гэтай дзяўчыне, быццам яе існаванне, поўнае дагэтуль толькі цягавітасці ў працы, набыло адразу нейкі сэнс, быццам новыя інтарэсы абудзіліся ў яе».

Але Сашка ашукаў яе. Ашукаў жорстка. Цяжарную, млынар выганяе Любу з хаты, пазбаўляе працы. Люба ідзе ў Мінск, шукаць бацьку свайго дзіцяці. Той, даведаўшыся, што Люба ў Мінску і цяжарная, схаваўся. Настаюць, бадай, самыя цяжкія дні ў жыцці жанчыны.

Але Люба не сагнулася ад гора і жыццёвых бядот. Яна, хоць і нялёгка, адольвае горкае і цяжкае выпрабаванне. Пісьменнік вылучае як асноўныя рысы яе характару — настойлівасць і стойкасць. Ёй дае дужасць і тое, што на дапамогу ёй прыходзяць савецкія людзі. З іх падтрымкаю Люба становіцца пісьменнай, гадуе і выхоўвае сына, выбіваецца з галечы. У савецкай краіне, паказвае аўтар, праца чалавека высока цэніцца,— добрая праца Любы на фабрыцы прыносіць ёй славу і пашану. Праца дае ёй усё неабходнае для жыцця і выхавання сына.

Жыццёвы шлях Любы Лук'янскай — не ёсць штосьці выпадковае, нехарактэрнае. Такім шляхам ішлі ў той

час тысячы, дзесяткі тысяч людзей, якія толькі пры савецкай уладзе змаглі «людзьмі звацца». Кузьма Чорны падае шлях Любы як адну з самых тыповых з'яў жыцця.

У Любы няма такога трагічнага разладу між кірункам сваіх імкненняў і ўмовамі жыцця, які быў у Міхала Тварыцкага. Люба ахвотна вызваляецца ад праклятай спадчыны — цемры, забітасці, атупеласці, з радасцю скідвае яна з сябе тыя чорныя лахманы, што дасталіся ад млынара. У процівагу Тварыцкаму, які ўпарта не хацеў скідваць сваёй чорнай світы, Любе даюць шчасце тыя хвіліны, калі яна апранае чыстую бялізну.

Сцэна «пераадзявання», што на першы погляд можа здацца малазначнаю, вельмі важная. У ёй глыбокі і вельмі чалавечны сэнс. Не выпадкова пісьменнік напісаў яе так усхвалявана; у ёй Чорны выказаў тонкае веданне душы чалавека. «І перад тым як пакласці яго (сяннік.— *І. М.*) назад на ложак, зняла адтуль кучу лахманоў — тых, што раней былі заместа пасцелі. Тут былі яшчэ і тыя (іх было найбольш), што прынесла ад млынара. Цяпер яны ляжалі каля парога вялізнай кучай. Яна выкінула іх у сенцы ў самы цёмны кут. Ужо без лахманоў паклала на ложак сяннік, накрыла яго новым прасцірадлам, нацягнула на падушку новую навалачку, паклала коўдру з новым падкоўдранікам. Пасля пачала мыць галаву, маючы асалоду ад паху мыла. Скінула з сябе зрэбную і палатаную бялізну і надзела новую, тонкую. Адзеўшыся, яна памыла і адзела сына, села на ложак, перажываючы ўсім целам вялікую лёгкасць ад чыстай бялізны. У той меры як спадалі яны з яе, яна быццам нанава нараджалася на свет. Нязведанае ніколі за ўсё жыццё адчуванне лёгкай і чыстай бялізны запоўніла яе ўсю, першае, можа, на жыцці адчуванне чыстаты туманіла галаву» [1].

Так жа хораша і чалавечна паказаў Кузьма Чорны тыя хвіліны, калі Люба ўпершыню чытае, калі яна ўпершыню адчувае, што ёсць у яе сапраўдны друг, што адзінокасць сышла назаўсёды. У гэтым росце чалавека, «ачышчэнні» яго — пафас аповесці «Люба Лук'янская».

Трэба, аднак, сказаць, што рост Любы Лук'янскай

---

[1] Чорны К. Люба Лук'янская.— Мн., 1937, с. 97—98.

Кузьма Чорны паказаў няпоўна. Рабочы калектыў, у якім расла Люба і які памагаў ёй уздымацца, вызваляцца ад лахманоў мінулага, новая праца, якая не няволіла Любу, а развівала ў ёй пачуццё годнасці і гонару, пададзены вельмі бегла, у кароткіх аўтарскіх заўвагах і ў словах гераіні. Гэта збядняе вобраз Любы.

Відаць, пісьменнік сам адчуваў гэта, бо ў канцы аповесці, як бы імкнучыся выправіць свой пралік, словамі Любы гаворыць аб вялікім значэнні ў яе рабочым жыцці працы. «З кожным годам я прывыкала да новай гэтай мне працы і ўцягвалася ў яе...» [1] і г. д. Але гэтага вельмі мала.

З іншых вобразаў рамана больш вызначаюцца Сашка Стафанковіч, яго бацька, Вэня Шпулькевіч, партызан Рыльскі, бацька Любы — камандзір артылерыйскага палка Лук'янскі, настаўніца Валя Іваноўская.

Малады Стафанковіч і Шпулькевіч — прадстаўнікі той агіднай часткі абывацеляў, якія імкнуцца, карыстаючыся працаю другіх, прабіць сабе кар'еру, зрабіць лёгкае, бесклапотнае жыццё. «Ён (Сашка.— *І. М.*) стаў папулярным немаведама за што. Здаецца, ён быў душой усіх спраў, а каб хто запытаўся, што ён і дзе такое зрабіў. Ні ён і ніхто на гэта ніколі не сказаў бы і слова. Заўсёдная яго работа называлася «кіраўнічая работа», але што гэта было за кіраўніцтва. Кіраваў ён шмат чым, але толькі там, дзе льга было абысціся без «кіраўнічай кваліфікацыі» і дзе не пахла глухім кутком, з якога трэба было сапраўднай кіраўнічай працай выганяць дух глухога застою».

Стафанковіч — тып палітычнага авантурыста, які ўсю сваю дзейнасць падпарадкоўвае не інтарэсам справы, а асабістай карыслівасці. Праца яго цікавіць толькі ў той меры, у якой яна можа прынесці яму якую-небудзь выгаду. Бяздушны кар'ерыст, ён нязменна імкнецца выставіць усюды сваю асобу на віднае месца. Пісьменнік з'едліва малюе, як ён нахабна лезе ў ганаровыя прэзідэнты.

Яшчэ больш агідным тыпам паказан Вэня Шпулькевіч, былы агент «свінога купца Хурса», спекулянт, які маральна натхняе Стафанковіча ў яго паганых справах. Гэтыя вобразы Чорны падае ў востра сатырычным плане. Сатыра пісьменніка часта набывае ха-

---

[1] Чорны К. Люба Лук'янская, с. 170.

рактар гнеўнага выкрыцця, ёю Чорны ўсхвалявана выказвае нянавісць і гнеў да бруднага, подлага ахвосця, што прыстасоўваецца да нашага жыцця, хітра карыстаецца ім.

Савецкае жыццё, дае адчуць Чорны, не тое асяроддзе, дзе могуць расці і развівацца такія пачвары. Таму зусім правамерна паказана ў рамане, што абодва авантурысты, пратрымаўшыся немалы час на паверхні жыцця, аказаліся, нарэшце, выкрытымі, і іх кар'ера ганебна скончылася.

Абодва вобразы мелі бясспрэчнае пазнавальнае значэнне. Не страцілі гэтага значэння яны і сёння, бо стафанковічы і шпулькевічы, вядома, не перавяліся...

Лук'янскі многімі сваімі рысамі напамінае Кандрата Назарэўскага з «Трэцяга пакалення». Як і Кандрат, Лук'янскі ўвесь час грамадзянскай вайны знаходзіўся на перадавых пазіцыях, актыўна ўдзельнічаў у баях з ворагамі савецкай улады.

У Лук'янскага — вялікае асабістае няшчасце: ён страціў сям'ю. Доўгі час ён жыве, не ведаючы, што з сям'ёю. Толькі выпадковая сустрэча з партызанам Рыльскім — знаёмым Любы, праз многа год пасля вайны, наводзіць яго на след дачкі.

Лук'янскі ў паказе Чорнага — чалавек чысты, сціплы, адданы ўсёй душой савецкай краіне. Ён напісан пісьменнікам з вялікай павагай і любоўю.

Паказ трэцяга пакалення і ў гэтым творы мае другараднае значэнне. Таму гэту аповесць нельга лічыць працягам «Трэцяга пакалення», тым творам, у якім пісьменнік збіраўся паказаць вялікую дружбу двух пакаленняў. «Люба Лук'янская» стаіць побач з першым раманам цыкла, вырашаючы *на іншым матэрыяле* тую ж тэму — лёс і шляхі другога пакалення. Гэта кажа пра тое, што маштабы эпапеі, якую Кузьма Чорны пачаў ствараць, былі надзвычай вялікія...

## VI

Пасля з'яўлення ў друку «Любы Лук'янскай» (1937 г.) пісьменнік, як заўсёды, плённа працаваў. Ён настойліва працягваў працу над задуманай эпапеяй.

«Цяпер я заканчваю раман «Судны дзень»,— пісаў Кузьма Чорны ў «Аўтабіяграфіі»,— і адначасова працую над п'есай на тэму аб вызваленні з-пад панска-

польскага панавання народаў Заходняй Беларусі — на тэму аб вялікіх гістарычных падзеях восені 1939 г. Пасля скканчэння гэтых твораў буду працаваць над сканчэннем рамана «Вялікае выгнанне», які ў большай частцы ўжо напісаны».

П'еса, аб якой піша К. Чорны, нам вядома. Гэта, бясспрэчна, «Ірынка». Раманы ж не захаваліся — і «Судны дзень», і «Вялікае выгнанне», і, па некаторых вестках, яшчэ «Простыя людзі»,— загінулі ў адным з пажараў, што лютавалі ў Мінску ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. Да нас дайшоў толькі невялікі ўрывак з рамана «Судны дзень». Урывак быў надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» 11 ліпеня 1940 г. пад назваю «Свая хата».

Наступны і вельмі важны раздзел у багатым творчым жыцці Кузьмы Чорнага складаюць творы, напісаныя ім ужо ў гады вайны. І ў гэты, вельмі неспрыяльны для пісьменніцкай працы час, Чорны працаваў з выключнай энергіяй. Ім напісаны былі за гэтыя гады шматлікія публіцыстычныя артыкулы, нарысы, апавяданні.

Мне здаецца найбольш важным сярод іх раман «Вялікі дзень».

Твор застаўся няскончаным — ранняя смерць пісьменніка спыніла працу над раманам задоўга да яе завяршэння.

Раман «Вялікі дзень» па задуме пісьменніка, як сведчыць яго жонка Р. І. Свераноўская, павінен быў складацца з трох частак. Чорны паспеў напісаць толькі дзве першыя часткі: «Пошукі роднай зямлі» і «Спустошанне», з трэцяй часткі нам вядомы адзін раздзел.

План усяго рамана не захаваўся, і таму тое, як збіраўся разгарнуць пісьменнік вобразы сваіх герояў у трэцяй частцы, нам невядома. Гэта, бясспрэчна, стварае значныя цяжкасці для даследчыкаў рамана.

Відаць, незавершанасць рамана ў пэўнай меры зніжае яго вартасці. Але тое, што паспеў ужо напісаць Чорны, дае падставы лічыць, што «Вялікі дзень» — адзін з самых значных, самых спелых у ідэйна-мастацкіх адносінах яго твораў.

Раман вызначаецца вялікай эпічнай шырынёю. Падзеі, якія разгортваюцца ў рамане, бяруць свой пачатак у 1910 годзе, канчаюцца першымі месяцамі вайны. Такім чынам, падзеі, што ўвайшлі ў раман, ахоплі-

ваюць больш чым трыццацігадовы шлях нашай гісторыі.

Шырынёю вызначаецца і круг герояў, якія дзейнічаюць у рамане. Перад намі паўстаюць вобразы, якія розняцца адзін ад аднаго як па сваёй класавай прыналежнасці, сваіх класавых сімпатыях, так і па сваіх чалавечых асаблівасцях, характарах. Багаты некалі пан Гальвас, які «незадоўга да першай імперыялістычнай вайны пачаў бяднець у сваім вялікім маёнтку», былы панскі парабак, затым — панскі арандатар, што пачаў хутка багацець, Ксавэр Блецька, яго сын Адам, упраўляючы гальвасаўскай гаспадаркай немец Тоўхарт, сын Тоўхарта Генрых, «ціхманы і цягавіты ў працы чалавек» Максім Астаповіч, таварыш Максіма — партызан Кірыла Вялічка, камандзір-пагранічнік Уладзімір Вялічка і салдат Мішурын, удзельнікі абароны Брэста, Марына — дачка Максіма — вось далёка не поўны пералік асноўных герояў рамана К. Чорнага. Можна сказаць, што да гэтага ў беларускай прозе не было твора, роўнага па шырыні ахопу падзей і багаццю вобразаў.

«Вялікі дзень» — гэта раман, як і абодва папярэднія, аб барацьбе старога і новага. Ад папярэдніх твораў, разгледжаных намі, «Вялікі дзень» вылучаецца тым, што тут працэс барацьбы новага і старога паказан не ў псіхалогіі аднаго, двух, трох вобразаў, а ў напружаным, жорсткім змаганні розных класаў, розных класавых імкненняў. Не трэба спрашчаць вядома: і ў «Трэцім пакаленні», і ў «Любе Лук'янскай» пісьменнік, сочачы за ўнутранай эвалюцыяй сваіх герояў, паказваў класавыя вытокі чалавечай псіхалогіі, таксама як і класавы характар асяроддзя, што акружала герояў і ўплывала на іх. У рамане «Вялікі дзень» К. Чорны таксама дае разгорнутыя характарыстыкі ўнутранага руху вобразаў. Але акцэнт, галоўную ўвагу пісьменнік у «Вялікім дні», на нашу думку, у большай, чым раней, меры засяроджвае на паказе супярэчнасцей і барацьбы розных грамадскіх груп, што ўвасабляюць у сабе рысы старога або новага. У гэтым нам бачыцца важная асаблівасць новага твора, якая вылучае яго шырокай эпічнасцю ў параўнанні з ранейшымі творамі, асабліва з «Любай Лук'янскай». Наогул, эпічнасць, як істотная асаблівасць, уласціва і «Любе Лук'янскай», і яшчэ больш «Трэцяму пакаленню», але ўсё ж эпічны размах у іх багата меншы, чым у «Вялікім дні».

Разам з гэтым у апошнім творы набывае асабліва вялікае гучанне тэма, якую пісьменнік уздымаў толькі ў рамане і п'есе «Бацькаўшчына»,— тэма абароны савецкай Радзімы, абароны новага свету. Мы бачылі ў ранейшых творах Чорнага, як, пераадольваючы пережыткі былога, фарміраваўся і рос новы чалавек, як ён, радуючыся новаму, аддана працаваў на карысць савецкай Радзімы. Тут мы бачым, як чалавек, што вырас ва ўмовах нашага новага жыцця, абараняе вялікія здабыткі сваёй працы. Любімы герой аўтара, сціплы працавіты чалавек, тут выступае найперш як абаронца Радзімы, салдат, народны мсцівец.

Гэтая асаблівасць збліжае раман Чорнага з яго апавяданнямі перыяду Айчыннай вайны, сабранымі ў зборнік «Вялікае сэрца».

У апавяданнях зборніка пісьменнік стварыў шэраг вобразаў змагароў з нямецкімі захопнікамі. Можна сказаць, што ў зборніку змешчаны нібы эскізныя малюнкі, якія былі пазней пашыраны, разгорнуты ў рамане. Так, вобраз Пархвена Катлубовіча з апавядання «Вялікае сэрца» надзвычай падобны да вобраза Максіма Астаповіча, аднаго з галоўных герояў рамана. Ёсць падабенства і ў бацькі (апавяданне «Бацька») з Антонам Цвіркам, што дзейнічае ў «Вялікім дні». У апавяданнях і ў рамане сустракаюцца блізкія, часам і аднолькавыя сітуацыі. Але блізкасць апавяданняў і рамана не толькі ў гэтым, а — куды больш важна — і ў тым, што і апавяданні, і раман прасякнуты адным, галоўным матывам — нянавісцю да прыгнятальнікаў і прагай барацьбы з імі да пераможнага канца.

Раман «Вялікі дзень» прысвечаны паказу першых двух год Айчыннай вайны. Пра гэта гаворыць і падзагаловак твора: «Вайна 1941—1942 гг.». Аднак уся першая частка — «Пошукі роднай зямлі» — апавядае пра падзеі, вельмі далёкія да пачатку Айчыннай вайны. Вузлы, што завязваюцца ў гэтай частцы, бяруць пачатак за некалькі год перад першай імперыялістычнай вайной.

На самых першых старонках пісьменнік выводзіць у творы вобраз памешчыка Гальваса, «ні то графа, ні то барона».

Гальвас незадоўга да вайны «пачаў беднець у сваім вялікім маёнтку». Падобна многім сваім братам па кла-

су, Гальвас займаўся тым, што піў і гуляў у карты, усё больш залазячы ў даўгі. Каб мець грошы, ён распрадае зямлю. Чорны ярка паказвае нікчэмнасць і жыццёвую непатрэбнасць Гальваса.

Падобны да гэтага вобраз у свой час неаднойчы малявалі выдатныя рускія пісьменнікі — М. Салтыкоў-Шчадрын, Гл. Успенскі, М. Горкі. Аднак К. Чорны не паўтарае класічныя вобразы, у вобразе Гальваса ён паказвае далейшую эвалюцыю прадстаўнікоў класа памешчыкаў, звязвае гэты вобраз з блізкай нам рэчаіснасцю. Такім чынам, Чорны развівае даўні вобраз, панаватарску дапаўняе яго новымі рысамі. Трэба сказаць і пра тое, што пісьменнік уводзіць гэты вобраз не з простай цікаўнасці, вобраз гэты неабходны раману, без яго гісторыя перадваенных год была б збедненай, няпоўнай.

Гальвасы — гэта «апошнія магікане» класа, які распадаўся і гінуў. У вобразе старога пана і яго сына пісьменнік паказаў працэс паступовага змізарнення і як вынік — канчатковага духоўнага вымірання памешчыцкага класа. Цэзары Гальвас — сын старога Гальваса — яшчэ больш нікчэмная і пустая істота, чым яго бацька. Ён не здольны ўжо ні на якую карысную справу, усё яго жыццё праходзіць у бязмэтным, нялюдскім бадзянні. Ён не мае ніякіх моцных жаданняў, у яго душы жыве толькі адна бясконцая нуда і абыякавасць да ўсяго, што акаляе яго. «Дзіўная рэч, але ён не памятаў у твар ніводнага простага чалавека»,— такой простай і трапнай дэталлю падкрэслівае пісьменнік бескарыснасць Гальваса-сына.

У паказе дэградацыі Цэзарыя Гальваса адна рыса, мне здаецца, для Чорнага мае асаблівае значэнне. Відаць, у гэтым і асноўная прычына той увагі, якую надае пісьменнік гэтаму вобразу. Кузьма Чорны вобразам Гальваса паказвае, што такая спустошаная істота непазбежна губляе і самае галоўнае ў чалавеку пачуццё — пачуццё радзімы. «Гэта было існаванне нуднае і бескарыснае,— гаворыць пісьменнік пра Цэзарыя Гальваса,— і ніякіх карэнняў яно не мела і на той зямлі, на якой расло і трымалася, і на той, якую льга было бачыць з вокан міжнародных вагонаў. Цэзары Гальвас не ведаў тае зямлі, сокі якой кармілі яго... Яму было ўсё роўна, якую траву мне капытамі яго конь, на якім ён кожны дзень выязджаў на спацыр, яму было ўсё роў-

на, якія колеры ляжаць на вяршалінах дрэў, калі заходзіць ціхае асенняе сонца»[1].

Кастрычніцкая рэвалюцыя вымятае гальвасаў, як непатрэбнае смецце. Яны ўцякаюць за мяжу, ратуючыся ад гневу паўстаўшых людзей. Разам з іх ад'ездам гіне і памяць пра іх. «І ніхто ніколі не ўспомніў, дзе і як жывуць Гальвасы і ці жывуць яшчэ яны».

У тым свеце, у якім жывуць Гальвасы, яшчэ адна асоба прыцягвае вялікую ўвагу пісьменніка.

Гэта асоба, праўда, не радавіты памешчык, а, на думку пана, звычайны мужык Ксавэр Блецька.

Ксавэр Блецька — адзін ■ важных вобразаў рамана і адна з найбольшых удач пісьменніка.

У вёсцы ідзе хуткі працэс расслаення. У той час як большая частка сялян бяднее і разараецца, другая, нешматлікая — акулачваецца, прыбіраючы ў свае рукі чужую зямлю і маёмасць. Расце і багацее сярод сабе падобных і Ксавэр Блецька, былы панскі паслугач.

Ксавэр Блецька некаторымі сваімі рысамі ў пэўнай меры нагадвае Міхала Тварыцкага. Адрознівае іх спачатку, бадай, найбольш тое, што Блецька пачынае сваю «кар'еру» ў іншых умовах, у дарэвалюцыйны час, ва ўмовах, якія спрыялі ажыццяўленню яго ўласніцкіх планаў.

Як і ў паказе Тварыцкага, Чорны засяроджвае ўвагу чытача на тым, якім спосабам нажывае сабе багацце Блецька.

Як і Тварыцкі, Ксавэр Блецька пачынае з таго, што імкнецца сарваць у свайго гаспадара пана Гальваса ўсё, што можна. Спачатку ён «ціхом цягнуў сабе ў кішэню адусюль, адкуль толькі мог, замест таго каб дбаць аб кожнай гальвасаўскай саломіне». Злоўлены на крадзяжы панскага дабра, ён вымушан пакінуць цёплую сваю службу ў пана і займаецца дробным гандлем. Аднак неўзабаве Блецька даведваецца аб тым, што панская ахмістрыня — цяжарная ад пана і што пану Гальвасу вельмі хочацца збыць яе куды-небудзь. Ксавэр Блецька з уласцівай яму жвавасцю думкі мігам ацэньвае тыя магчымасці, якія мае ў сабе гэта вострая для пана «сітуацыя», і рашае зараз жа скарыстаць яе. Паабяцаўшы

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 296.

ахмістрыні жаніцца, ён выпраўляе яе да пана з наказам, каб яна вымагала «дзеля будучага панскага сына» добры кавалак зямлі — пяцьдзесят дзесяцін.

Пісьменнік бліскуча перадае хцівасць і нахабства гэтага прайдзісвета. Блецька загадвае ахмістрыні патрабаваць не абы-які, а самы лепшы, любімы і пану кавалак зямлі. Пан Гальвас не згаджаецца на гэта патрабаванне брыдкай цяпер каханкі. Ён дае ахмістрыні грошы, але рашуча адмаўляецца даць зямлю. Блецька аднак настойвае, каб ахмістрыня пайшла зноў да пана з патрабаваннем. Тая не наважваецца ісці зноў, і тады Блецька ідзе да пана сам. Не такі ён, каб адступіць там, дзе чуе спажыву.

Неймаверная прага да ўласнасці заглушыла ў Блецьку звычайныя чалавечыя пачуцці. Без якіх-небудзь ваганняў, тым больш без нейкіх пакут сумлення, усё прыносіцца ў ахвяру спажыве. Любы метад добры, дзе можна здабыць багацце. Бязлітасна націскае Блецька на пана, валодаючы тайнай, якую той, добра разумее Блецька, хоча схаваць што б там ні было. «Што гэта будзе вашай ласцы за інтэрас,— нахабна кажа Блецька пану,— калі на ўсю акругу пойдзе пагаласка, што ваш сын, скажам, ці дачка гадуецца ў нейкага Ксавэра Блецькі. Нашто ж каб на вашу ласку пальцамі тыцкалі» [1].

Якое тонкае, хітрае ў гэтых словах спалучэнне быццам спачування і проста-такі здзеку. Востры, дакладна разлічаны ўдар у самае чулае панскае сэрца!

Цікава, што ў тлумачэнні нахабства, з якім дабіваецца Блецька свайго, пісьменнік дае прычыну, якая была ім выказана некалі ў «Трэцім пакаленні», дзе сілу малы Міхал адчувае, адкрыўшы Скуратовічаву тайну. І тут моц Блецьку дае валоданне панскай тайнай. «А як жа! Ён (Блецька.— *І. М.*) быў гаспадаром гальвасаўскай тайны!»

Ксавэр Блецька з трыумфам дабіваецца свайго — купляе ў пана зямлю, і якраз той, самы лепшы, аблюбаваны кавалак. Ды яшчэ як! За панскія ж грошы, тыя грошы, якія толькі што, каб адкупіцца, пан даў ахмістрыні і якія Блецька прыбраў сабе. Выдатная, проста бальзакаўская дэталь!

«...Блецька як мае быць таргаваўся і трымаўся быц-

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 290.

цам у сябе ў хаце. А як жа! Ён быў гаспадаром гальвасаўскай тайны. Такім парадкам ён за гальвасаўскія грошы, перададзеныя яму Аміляй, купіў у Гальваса пяцьдзесят дзесяцін самай лепшай зямлі, на скрыжаванні Нясвіжскай і Лечашынскай дарог»[1].

Кузьма Чорны бязлітасна, да канца выкрывае бесчалавечнасць Блецькі-ўласніка. Выдатна характарызуе звярыную сутнасць Блецькі падзея, якая следуе пасля таго, як Блецька купіў зямлю. Скарыстаўшы панскую «тайну», стаўшы гаспадаром панскай зямлі, Блецька загадвае жонцы забіць панскае дзіця, якое павінна нарадзіцца. Яно больш не патрэбна.

Добра выяўляюць вобраз Блецькі ў цэлым узаемаадносіны Блецькі з жонкай. Жаніўшыся па разліку, ён ненавідзіць яе ўсёй душой і абыходзіцца з ёю не толькі без якой-небудзь павагі да яе, але з нялюдскай чэрствасцю і жорсткасцю. Ён не толькі не шануе яе матчыну любоў да першага сына, а з нянавісцю здзекуецца і з яе і з яе старэйшага сына. Ён фактычна ўрэшце зводзіць яе ў магілу.

Страціўшы чалавечае ў сабе, ён калечыць не толькі жыццё Амілі, але і дзяцей. Эксплуатуючы нялюбага старэйшага сына Антона, ён прычыняе бяду і малодшаму Адаму. Вядома ж, ён вінаваты ў тым, што выпешчаны ім нашчадак Адам падымае руку на Антона і забівае яго.

Так расце і мацнее кулак, чалавек-звер. Новыя часы зрываюць яго намеры. Стаіўшы злосць, ён робіцца ціхім, нават нібы перайначваецца, робіцца старанным кааператарам. Ён так добра вядзе ролю няшчаснага і лагоднага чалавека, што яму нават спачуваюць. Чорны выдатна паказвае, што Блецька і сам зжываецца з новай сваёй роллю. Быццам зусім траціць ранейшыя свае звярыныя якасці, згаджаецца з прысудам новага часу.

Праўда, прыедзе з Германіі Адам, намякне пра вайну, і перад намі зноў паўстане былы Ксавэр Блецька.

Пісьменнік, выкрываючы затоеныя блецькавы думкі, як бы папярэджвае: не верце зверу.

У цэлым добра пададзена ўся сям'я: і жонка Аміля, і абодва сыны. Усё гэта жывыя, праўдзівыя вобразы. Але найбольш цікавы з іх, бадай, меншы сын Блецькі Адам. Чорны шчодра малюе яго вобраз, пільна сочыць

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 290.

за яго шляхам, адчуваннем і думкамі. Ён добра напісаў тыя пачуцці, якія хвалююць Адама пасля забойства брата, пасля таго, як Адам пераходзіць мяжу і прыладжваецца служкаю да маладога Гальваса, едзе з ім у Германію да сябра Цэзарыя Генрыха Тоўхарта. У вобразе Адама Чорнаму добра ўдалося паказаць дыялектыку злачыннага і чалавечага, і таму такім па-мастацку пераканальным выйшаў у пісьменніка шлях Адама ад крымінальнага злачынцы да здрадніка Радзімы, паслугача акупантаў.

Упершыню, відаць, Чорны паказвае тут непасрэдна перадваеннае жыццё ў Германіі. Гэтым сцэнам не хапае дакладных дэталей, быт Германіі паказан скупа, малаканкрэтна, і гэта натуральна. Але абодва немцы Тоўхарты маюць свае жывыя рысы. Калі старэйшы — бацька — намаляваны найбольш у час яго службы ў Гальваса некалькімі рыскамі, то сына яго — Генрыха — мы бачым у развіцці, разгорнута. Бачым, як з акуратненькага, ціхага гімназісціка з залапленымі штанамі вырастае «высокі і грузны ў плячах» здаравіла, спелы ў сваіх перакананнях фашыст. Гэта адкормлены бугай тады, як з ім сустракаецца малады Гальвас, ужо не марыць, а верыць, што разам са сваімі паплечнікамі ён «рана ці позна паставіць свой жалезны п'едэстал над усім светам. На п'едэстале будзем мы, а пад ім казюлі і чэрві» [1].

У вобразе Генрыха Тоўхарта пісьменнік малюе, як у перадваенны час уздымаліся будучыя прэтэндэнты на сусветнае панаванне.

У гэтым вобразе ён паказвае, як узнікала фашысцкая пагроза для мірнага жыцця савецкіх людзей.

Побач з гэтымі Кузьма Чорны малюе вобразы людзей, што сталі будаўнікамі новага жыцця.

З вялікай любоўю малюе пісьменнік вобразы тых, хто ў мірных, будзённых клопатах робіць самае прыгожае, што можа рабіць чалавек,— ствараюць жыццё, хараство на зямлі, чалавечае шчасце.

Сярод гэтых вобразаў — Марына, яе дачка Настачка, Максім Астаповіч, Уладзя і Кірыла Вялічкі і нямала іншых.

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 312.

Гэта — галоўныя героі рамана і, як паказвае пісьменнік, адзіныя сапраўдныя, законныя гаспадары зямлі. Не Гальвасы, не Блецькі, не Тоўхарты, а Астаповіч і Вялічка і ім падобныя, даводзіць Чорны, павінны ўладаць зямлёй. У іх на гэта ўсе правы: яны адваялі яе («знайшлі»), апрацавалі і зрабілі яе ўрадліваю.

З любоўю піша Кузьма Чорны пра зямлю, на якой жывуць блізкія душы яго героі. Багатае настроямі эпічнае апавяданне пісьменніка, у якім нямала і горычы, і болю, і з'едлівасці там, дзе ён малюе родную зямлю, гучыць з сардэчным паэтычным замілаваннем. «Тут усюды было прасторна. І ўсяго тут было многа. Многа было дрэў, і зямлі, і травы, і вады, і неба. Зямля тут радзіла добра. Хвойныя лясы пракідаліся градой дубу і грабу. Бярозавыя гаі стаялі ў ясную восень, як у золаце. Здавалася тады, што калі зойдзе сонца, праменне яго астаецца на ўсю ноч ляжаць на ціхіх дрэвах. Улетку спеў на полі поўны колас і пахла яго салома, і трава, і кара дрэў, і вецер» [1].

На гэтай, такой любай пісьменніку зямлі жывуць дарагія яго сэрцу людзі. І тут, як і ў некаторых ранейшых творах Чорнага, вельмі моцна чуецца ўлюбёны яго матыў еднасці прыроды і чалавека.

Прыроду і чалавека яднае праца. Усе лепшыя людзі Чорнага жывуць з прыродаю, на ёй і з ёю карчуюць пні, робяць поле, будуюць хаты, гадуюць дзяцей. Моцнымі працоўнымі клопатамі звязаны з прыродаю ў рамане Марына, Настачка, Максім Астаповіч, бацька і сын Вялічкі.

Найбольш уважліва выпісан Чорным Максім Астаповіч. Вобраз гэты галоўнымі рысамі нагадвае многія ранейшыя вобразы пісьменніка, асабліва Леапольда Гушку, з якім у Астаповіча агульныя нават жыццёвыя акалічнасці.

З замілаваннем піша Кузьма Чорны пра нястомную і таленавітую працавітасць Астаповіча. Чаго толькі не рабілі на вяку здатныя на ўсё яго рукі. «...Максім Астаповіч, зусім яшчэ малады хлопец, хадзіў з бацькам па людзях і капаў калодзежы. Ва ўсёй шырокай навакольнасці ўсе калодзежы тут былі выкапаны старым і маладым Астаповічамі. Максім Астаповіч навучыўся

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 316.

быць і мулярам. Ён умеў ставіць ветракі. Ён нанава адрамантаваў гальвасаў вадзяны млын. Ён стаў пчаляром, садаводам і агароднікам. Так, шукаючы, як ён казаў, таленту, каб жыць, ён шмат што пераняў і многа чаго ўмеў» [1].

Чорны паказвае, як багата гора даводзіцца зазнаць гэтаму чалавеку. Памірае, надарваўшыся ў надмернай працы, любая «несвіжанка»-жонка, панскія паслугачы ў час белапольскай акупацыі раскідаюць амаль збудаваную хату, але Астаповіч перагорвае ўсё. Прыходзіць, як піша Чорны, блаславенны час, вяртаецца савецкая ўлада, і Астаповіч зноў будуецца і будуе: паштовую кантору, сельсавет, школу.

Чорнаму ўдалося паказаць Астаповіча як жывую істоту. Пісьменнік не тоіць яго чалавечых слабасцей, незвычайнай даверлівасці, што даходзіць часам да слепаты: Астаповіч ніяк не можа раскусіць Блецьку, лічыць яго нават дабрадзеем, дзякуе яму. Не хапае Астаповічу і самастойнасці ў поглядах: «Астаповіч змалку і дагэтуль быў чалавек мяккі і падатлівы чужому слову». У ім ёсць не толькі мяккасць, але і ўседаравальнасць. «Можа, што іншае, а судзіць каго-небудзь — ніколі не было ў яго натуры».

Яго сябар і паплечнік Кірыла Вялічка — характар больш цвёрды, ваяўнічы.

Пакрыўджаны ў дні панскай акупацыі разам з Максімам, Кірыла Вялічка не бядуе так, як яго сябра. Вялічка разам з сынам ідзе ў лес і помсціць пану Гальвасу за крыўду — паліць набітае поўна снапамі панскае гумно. Паміраючы ў лесе ад варожай кулі, Кірыла Вялічка ў апошнюю хвіліну навучае сына: «Жывучы — рабі ўсё сам і май натуру, каб не надакучаць нікому і каб ніхто ніколі не папракнуў цябе, што ты з чужога жывеш. Няхай лепш да цябе горнуцца людзі як да чалавека, які здолен зрабіць што трэба». Ён наказвае сыну: «І барані цябе божа, выносіць на сваім карку крыўду» [2].

Сын Кірыла Вялічкі — Уладзя — не адразу знаходзіць свой шлях. У паказе яго жыцця пасля смерці бацькі ёсць у рамане нейкая недадуманасць. Нематываванa, ненатуральна бесклапотнае жыццё Уладзі ў

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 318.
[2] Тамсама, с. 342—343.

Слуцку, у цёткі. Як бы выпадковым прымаецца кароткае паведамленне, што Уладзя нарэшце «прыстаў да чырвонаармейскай часці». І ўсяго праз некалькі радкоў заключнае: «І так ён прабыў з часцю да самага канца вайны».

Яшчэ ў першай частцы рамана Чорны пачынае галоўную тэму рамана — тэму народа і вайны.

Вайна, паказвае Чорны,— вялікае няшчасце для народа. У першай частцы ў лёс герояў рамана ўрываюцца першая сусветная вайна, белапольская акупацыя.

Першая сусветная вайна перапыняе працу Астаповіча, блытае яго планы. Нішчыць яго мары стварыць «рай на адваяванай ад лесу зямлі», калечыць Максіма. Пакуль Максім вымушан быў ваяваць, яго жонка памірае ад непасільнай працы, а гаспадарка прыходзіць у заняпад.

Трэба сказаць, што ў рамане пісьменнік амаль не паказаў сутнасць вайны, абышоў факт пераутварэння вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую. Па старонках рамана як далёкае водгулле праходзіць такая вялікая падзея, як Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі. Вялікая рэвалюцыйная навальніца прайшла як бы старанoй ад Максіма.

Вобраз Максіма ў першай частцы рамана падан больш сам па сабе, ён мала звязан з гістарычнай абстаноўкай. Гэта, вядома, у значнай меры звужае жыццёвае багацце вобраза.

Лепш намаляваў К. Чорны Максіма Астаповіча ў часы белапольскай акупацыі. Узрушана, жывымі праявамі пісьменнік расказвае пра тое, як Гальвас і яго аканом, вярнуўшыся з акупантамі, бесчалавечна зганяюць сялян з зямлі, раскідваюць збудаваныя імі новыя хаты. Тут можна папракнуць пісьменніка хіба ў тым, што ён амаль не паказаў супраціўлення народа акупантам і здзекам. Толькі адзін чалавек — Кірыла Вялічка — паўстае, бунт яго носіць адзіночны, стыхійны характар. Натуральна, што гэты бунтар-адзіночка нічога амаль не змог зрабіць; падпаліўшы панскае гумно, ён гіне ад выпадковай кулі.

Чорны добра разумеў бяссілле такога адзіночнага бунтарства. Не выпадкова ў рамане ёсць эпізод, дзе смяротна ранены Кірыла Вялічка гаворыць са шкадаваннем свайму сыну Уладзіку:

«Чутно па людзях, што там, пад Слуцак, людзі па

лясах туляюцца, дома не сядзяць. Я цяпер адумаўся, што мне трэба было пашукаць гэтых людзей, а не ўміраць тут сабе на боль і табе на пакуту».

Шкада, што такія людзі не з'явіліся на старонках твора. Мала што мяняе ў гэтых адносінах сцэна, у якой пісьменнік робіць Уладзю Вялічку сведкам таго, як белапалякі караюць слуцкіх партызан. Сцэна сама па сабе ўражвае, але яна амаль нічога не дадае да нашых уяўленняў аб народным змаганні супраць тагачасных акупантаў.

Узаемаадносіны — вайна і народ — складаюць аснову і змест другой часткі твора — «Спустошанне».

Згодна ■ гістарычнай праўдаю Чорны светлымі фарбамі малюе апошнія перадваенныя дні, напоўненыя шчасцем чалавечага быцця, мірнымі жыццёвымі клопатамі.

Самыя харошыя, паэтычныя радкі прысвячае пісьменнік унучцы Астаповіча Настачцы, прадстаўніку таго пакалення, для якога Гальвас быў «нейкі таемны і невядомы пан», а імя дзеда Кірыла Вялічкі было легендай.

Вобраз Настачкі добра дапаўняе галерэю прывабных дзіцячых вобразаў, якую стварыў Кузьма Чорны ў сваіх раманах. Настачка многімі рысамі нагадвае Славу Тварыцкую і сына Любы. Пісьменнік паказвае шчаслівае маленства Настачкі, якой пакуль не давялося ведаць «страшнай праўды» мінулага.

Новае жыццё выбавіла Настачку ад цяжкай долі, якую зазнавала кожнае сялянскае дзіця ў мінулым. Гэта было шчаслівае маленства. «Яна не цягалася цэлымі днямі на полі за каровамі, не прабівала босых ног аб палявое каменне і травяністыя карчы, яна не ўставала разам з сонцам і не ведала страшнай дзіцячай пакуты, калі ў галаве стукае боль ад бессані і лягчэй адысці ў нябыт, чым адарвацца ад сну».

Праз бязвоблачны свет Настачкі мы адчуваем і радасць яе жыцця і радасць жыцця яе маці Марыны і яе дзеда Астаповіча.

Але ўжо ў той час, калі пісьменнік апавядае пра дзіцячыя радасці і клопаты Настачкі, мы ведаем, што над шчасцем яе навісла смяротная пагроза. Перад гэтым, у самым пачатку другой часткі рамана, пісьменнік расказаў ужо, як на мірную нашу зямлю фашысцкім дыверсантам вяртаецца Адам Блецька. У рамане

добра перададзена адчуванне вялікай навалы, што павінна пачацца са дня на дзень.

Яна вось-вось пачнецца, абрыне на нас, гэта навала, вайна. Вось яна, яшчэ неймаверная мяжа між мірам і вайною, між шчасцем і горам.

З хваляваннем, з нервовым запалам піша Чорны малюнкі першых дзён вайны. Нават праз радкі адчуваецца боль, з якім гаворыць пісьменнік пра нечуваныя пакуты людзей, якіх заспела знянацку вайна. «Раз-пораз імчаліся нізка над зямлёй нямецкія самалёты і секлі кулямі зямлю. Натоўп жанчын і дзяцей пачаў разбягацца па полі, і тады аўтаматчыкі з лесу далі залпы. Праз гул самалётных матораў чуліся крыкі і енкі» [1].

Ёсць нешта апакаліптычнае ў тым, з якой шырынёю малюе пісьменнік народную бяду. Такой шырыні малюнкаў у Чорнага, бадай, не было раней. Наогул, другая частка рамана вылучаецца шырынёй бачання падзей вайны, імкненнем ахапіць народную бяду шырокім позіркам. Малюючы асобныя вобразы, пісьменнік імкнецца стварыць вобраз народа. І бяда для яго — не бяда асобных людзей, а бяда для ўсіх, народа.

Так, раман «Вялікі дзень» набывае эпічны размах, і гэта імкненне да эпасу ў творы вельмі адчуваецца.

Кузьма Чорны паказвае, з якім гераізмам і самаадданасцю савецкія людзі абараняюць сваё права на жыццё, на незалежнасць, шчаслівую будучыню для дзяцей. Малюнкі першых баёў з гітлераўцамі, і асабліва ўпартых баёў у Брэсце, адносяцца да найбольш драматычных старонак рамана. Тут Чорны, бадай, упершыню ў сваёй творчасці з такім запалам і так шырока малюе батальныя карціны. Аб баях ён неаднойчы пісаў і раней, але ніколі батальны жанр не хваляваў так пісьменніка. У рамане «Вялікі дзень» Чорны піша пра баі з незвычайнай дасюль падрабязнасцю, імкнецца паказаць вайну ва ўсёй яе трагічнай складанасці. Можна сказаць, у «Вялікім дні» ўсе батальныя сцэны намаляваны з эпічнай шырынёй і маштабнасцю. У гэтых адносінах раман «Вялікі дзень» — значны крок наперад у параўнанні з папярэднімі творамі.

Для батальных сцэн пісьменніка характэрна, што Чорны паказвае падзеі бою не з вонкавага боку, не як

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 389.

старонні назіральнік, а праз адчуванні сваіх герояў. Так, напрыклад, бой у Брэсце ўвесь пададзен праз пачуцці Вялічкі. Гэта прыдае малюнкам бою большую жыццёвую пераканальнасць і ўражлівасць.

Трэба, праўда, адзначыць, што той, каму даводзілася непасрэдна быць у баі, заўважыць, што адчуванні чалавека ў баі Чорны паказвае даволі агульна, прыблізна. Прыкметна, што пісьменніку не хапала жывых назіранняў. Гэта, напрыклад, можна заўважыць і ў тым, як пісьменнік перадае адчуванні Уладзіміра Вялічкі і як паказвае яго дзейнасць як камандзіра. Калі ў паказе чалавечых паводзін Вялічкі ёсць жывыя рысы, хоць і не хапае жывых дэталей, то як камандзір Вялічка амаль ніяк не выяўлены. А тое, што пісьменнік паказвае ў ім камандзірскае,— ёсць вельмі павярхоўнае.

Гэтыя слабасці твора, думаецца, амаль непазбежныя. Трэба лічыцца [redacted] тым, что Чорны пісаў свой твор аб вайне адным з першых, ды і з прычыны хваробы не мог глыбей пазнаць тонкасці вайсковай справы. Відаць, на гэтых асаблівасцях твора адбілася і тое, што пісаўся ён у нялёгкіх умовах ваеннага часу.

І Вялічка, і яго байцы паказаны Чорным як мужныя, цвёрдыя людзі, якія не шкадуюць жыцця ў барацьбе з ворагам. Пісьменнік амаль не гаворыць пра патрыятычныя пачуцці байцоў, але тое, як яны ваююць, як абараняюць горад, лепш за любыя рытарычныя развагі расказвае нам пра іх любоў да Радзімы, пра іх вялікі патрыятызм.

Пачуццё нянавісці да захопнікаў, прагі барацьбы [redacted] ворагам у Вялічкі моцнае. Нават тады, калі ён, пасля мнагадзённых баёў у Брэсце, ляжыць цяжка паранены, на мяжы між жыццём і смерцю, ён імкнецца да барацьбы.

«Было і яшчэ ў яго адчуваннях: яму штосьці рупела, быццам ён стараўся ўспомніць тое важнае, ад чаго залежаў яго лёс. І нарэшце гэтае адчуванне стала непераможным жаданнем зрабіць смерць хоць бы яшчэ аднаму немцу, але так, каб ён доўга мучыўся. На доўгі час пачыналася яго нянавісць і жудасная сваімі памерамі пагарда»[1]. Гэтае вялікае пачуццё параненаму і знясіленаму Вялічку надае сілы, уздымае яго.

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 377.

Кузьма Чорны чула заўважыў, што ў цяжкіх выпрабаваннях вайны памацнела, як жыццёва неабходнае, адчуванне Радзімы. Як натуральнае памацнела ў нашых людзях, адзначае пісьменнік, імкненне шырока бачыць свет, разбірацца ў сэнсе складаных падзей, у якія ўцягнула людзей усенародная барацьба супраць ворага. Важную думку выказвае Чорны, малюючы савецкага камандзіра Вялічку ў той момант, калі ён толькі што вырваўся з абложанага ворагам Брэста, дзе яго ўзвод дзевяць дзён біўся з наступаючымі немцамі.

«Уладзімір Вялічка быў просты чалавек. Ён зусім, і асабліва ў гэты час, не ўсвядоміў сабе ўсяго значэння той справы, з якой толькі што выйшаў. У жыцці Вялічка займаў малое месца. Можа быць, яго свет быў абмежаваны тым месцам, дзе ён жыў, і тым, што ён калі бачыў. Але ў гэтыя хвіліны, калі ён разам з новым сваім другам Андрэем Мішурыным ляжаў у гарачыні жытняга поля і пакутаваў ад раны ў плячы і ад свайго вялікага смутку, у гэтыя хвіліны, а можа, і пасля ўжо назаўсёды, ад яго так званай, як мы сказалі, абмежаванасці да ўсяго таго, што льга назваць усеабдымнай чалавечай асобай, быў толькі адзін крок. Душа яго раскрылася для пазнання свету, яна шукала гэтага пазнання» [1].

На жаль, трэба сказаць, гэтая пісьменніцкая развага застаецца ў рамане ў значнай меры толькі дэкларацыяй. У мастацкім пісьменніцкім паказе характар адчуванняў і думак Вялічкі застаецца звычайна абмежаваны. Ён думае амаль толькі аб блізкім, асабістым, аб Марыне, аб дачцэ Настачцы. Правільна зазначыўшы, што пагляды Вялічкі сталі больш шырокімі, «усеабдымнымі», аўтар рамана не падмацаваў гэта, не паказаў канкрэтна, як пашырыўся яго ўнутраны свет. Унутраны свет камандзіра ўзвода Вялічкі па сутнасці застаецца вузкім, замкнёным у цесны сямейны круг.

Вобразам савецкіх людзей у рамане супрацьпастаўлены вобразы ворагаў і іх прыслужнікаў. Тут мы зноў сустракаемся з Генрыхам Тоўхартам, з Адамам Блецькам, закінутым у родныя мясціны ў ролі фашысцкага

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 375.

дыверсанта, знаёмімся з гітлераўскім салдатам Эмілем Клеберам. У абліччы Генрыха Тоўхарта Чорнаму ўдалося стварыць адзін з першых у беларускай літаратуры вобразаў буйных фашысцкіх дзеячаў.

Адкормлены гітлераўскі чын, спецыяліст па рускіх пытаннях Тоўхарт становіцца ўпраўляючым захопленай немцамі вялікай вобласці. Ён займае той маёнтак, дзе яго бацька быў панскім паслугачом, сам становіцца яго гаспадаром. Не выпадкова поўна глыбокага значэння тое, што Тоўхарт займае месца Гальваса.

З хваляваннем, з нянавісцю Чорны паказвае бесчалавечнае аблічча акупантаў. Самыя першыя іх крокі на савецкай зямлі заліты людской крывёю, адзначаны масавымі забойствамі. Ярка расказаў пісьменнік, як нямецкі дэсант бязлітасна забівае мірных людзей — дзяцей і жанчын, што ўцякаюць ад нашэсця, як фашысцкія самалёты паляць і руйнуюць хаты, вёскі, гарады. Гэтыя малюнкі напісаны пісьменнікам, які глыбока любіў родны народ і разам з ім перажываў яго бяду.

У вобразе Эміля Клебера Чорны намаляваў аднаго з мільёнаў узброеных акупантаў. Гэта жорсткая і бяздушная істота, якая прыйшла ў нашу краіну для разбою. Як і ўся звярыная зграя яе паплечнікаў, істота гэта непахісна засвоіла, што ўсё будзе «ўзята для нямецкай радасці», што трэба быць бязлітасным у адносінах да заваяваных.

Клебер — жорсткае, нялюдскае стварэнне, гатовае на любое злачынства па загаду свайго фашысцкага начальства. З яго душы, паказвае пісьменнік, выгнаны ўсе чалавечыя пачуцці. Позіркам забойцы глядзіць Клебер на савецкую зямлю.

«Перад ім была зямля, якую ён упершыню бачыў, хоць пра якую і вельмі многа чуў раней. Незвычайнасць яго стану не кранула яго душы. Далягляд, над якім паднялося сонца, нічога не гаварыў яго сэрцу. Лес, які быў навокал яго, не вабіў яго» [1].

Як бы падкрэсліваючы асноўную рысу ў характары Клебера, пісьменнік піша: «Клебер [2] глядзеў на ўсё гэта (на савецкіх людзей.— *І. М.*), як на цэль, у якую трэба

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 395.
[2] Тамсама, с. 396.

было б страляць...» Трапная, дакладная псіхалагічная дэталь!

Разам з нямецкімі захопнікамі выступаюць здраднікі — Адам і Ксавэр Блецькі. Адам — крымінальны злачынца, што забіў брата, дапамагае фашысцкім захопнікам асталявацца ў яго родных месцах, выдае гітлераўцам людзей, якія хаваюцца ў млыне. Ён расчышчае дарогу і для свайго бацькі Ксавэра Блецькі.

Ксавэр Блецька тут вельмі цікава намечан. У вобразе яго адчуваецца вялікая псіхалагічная праніклівасць пісьменніка. Нават пры тым, што ён толькі пачаты, вобраз Блецькі адзін з найбольш цікавых у гэтай частцы.

Другая частка рамана «Вялікі дзень» канчаецца падзеямі першых дзён вайны. Вайна ўвайшла ў савецкую краіну, захапіла ўсіх герояў, паставіла кожнага з іх перад вялікім выпрабаваннем.

Раман абрываецца на самым пачатку вялікай усенароднай бітвы. Карціна, так шырока разгорнутая, засталася напісанай толькі, можа быць, у невялікай меры. Наперадзе павінны былі нас чакаць вялікія і крутыя павароты чалавечых лёсаў, народнага лёсу.

Пісьменнік не ўправіўся расказаць пра гэта. Але і тое, што ён управіўся зрабіць, дае падставы залічыць раман «Вялікі дзень» да значных здабыткаў прозы Кузьмы Чорнага і ўсёй беларускай літаратуры.

Раман «Вялікі дзень» — адна з вяршынь у багатай творчай спадчыне Кузьмы Чорнага, адзін з паказчыкаў таго, з якімі болем, любоўю і надзеяю думаў пісьменнік пра народ у часіну смяротна небяспечнай фашысцкай навалы.

## VII

Ува ўсёй творчасці Чорнага вельмі акрэслены круг вобразаў і круг праблем, якія яго хвалююць.

Ад ранніх апавяданняў да апошніх раманаў яго вызначае цікавасць да пэўных катэгорый людзей і праблем.

Можна сказаць, што між героямі ўсіх яго твораў існуе нейкае сваяцтва. Часам гэта сваяцтва вельмі блізкае, часам далейшае, але яно нязменна звязвае яго творы — раманы, аповесці, апавяданні. Ёсць блізкасць і ў тых праблемах, якія турбуюць увесь час пісьменніка і якія ён вырашае.

Самы любімы герой Чорнага — просты, ціхі чалавек. Упершыню ўвайшоўшы ў раннія замалёўкі, ён заняў самае важнае месца, вызначыў сабою рух падзей і клопатаў ува ўсіх значных творах пісьменніка.

Герой гэты не робіць знешне вялікіх спраў. У яго найбольш звычайныя практычныя жаданні, гаспадарчыя, бацькоўскія яго клопаты, як правіла, не ідуць далей сваё сям'і, сваёй вёскі. Ён працуе не хапаючыся, упарта і ў працы цярплівы незвычайна. Ён не майстар гаварыць, але пры тым ён — філосаф, схільны разважаць і аб практычных справах, і аб вечных ісцінах. Звычайна героя гэтага свайго Чорны малюе са шчырай, элегічнай замілаванасцю. Калі трэба, судзіць яго са шкадаваннем.

Ад ранніх твораў Чорны выказаў пільную ўвагу да ўнутранага жыцця свайго героя, і гэта стала адметнай асаблівасцю пісьменніцкага стылю. Чорны нязменна выступае як уважлівы даследчык чалавечай душы, глыбокі псіхолаг. Параўноўваючы, як з часам змяняецца герой К. Чорнага, мы можам убачыць, што герой гэты расце, па крайняй меры, па дзвюх лініях: і як мастацкі вобраз і як тып жывога жыцця. У першым выпадку, відаць, усё вызначалася ростам жыццёвага вопыту, паглыбленнем светапогляду, удасканаленнем майстэрства, што ўсё разам давала бачыць чалавека больш праніклівa, усебакова. У другім выпадку — рост героя вызначала сама рэчаіснасць, што фарміравала і ўдасканальвала чалавека як асобу. Героі Чорнага жылі ў гады, у якія адбываліся надзвычайныя змены і ў навакольным свеце, і ў адносінах між людзьмі, і ў душах людзей.

На маю думку, гэта тое, што яднае і што робіць своеасаблівымі такіх чорнаўскіх герояў, як Тамаш і Вольга («Зямля»). Леапольд Гушка і Павал Няміра («Бацькаўшчына»), Міхал Тварыцкі і Кравец («Трэцяе пакаленне»), Максім Астаповіч і Уладзімір Вялічка («Вялікі дзень»).

Прыглядаючыся да ўнутранага свету сваіх герояў, Кузьма Чорны нязменна сочыць за тым, як у душы чалавека ідзе змаганне светлага і цёмнага, добрага і злога, старога і новага. Тое, як ідзе змаганне гэтае ў душы чалавека, што перамагае ў ёй, вызначае ў аснове адносіны Чорнага да Чалавека. Увесь клопат пісьменніка ў тым, каб перамагала светлае, чалавечнае, новае.

Уся творчасць Кузьмы Чорнага, можна сказаць, поўніцца клопатамі пра перамогу добрага, новага ў чалавеку, пра ўсталяванне светлага, вартага чалавека жыцця. Творы пісьменніка прасякнуты святлом нараджэння новага.

Любячы добрае, светлае ў чалавеку, Чорны быў непрымірыма варожы да ўсяго, што калечыла ці прынізала яго. З асаблівай нянавісцю ён адносіўся да такіх заган чалавека, як эгаізм, скнарлівасць, імкненне жыць за кошт другіх, прага да ўласнай нажывы. Ён заўсёды пільна прыглядваўся да чалавека-ўласніка.

Адносіны да ўласнасці былі для Чорнага той меркай, па якой ён вымяраў вартасць чалавека.

У вобразах Скуратовіча, Блецькі, Сцепуржынскага Чорны выкрыў найбольш злосных прадстаўнікоў уласніцтва, якія ў імя нажывы і ў імя абароны сваёй уласнасці гатовы пайсці на любое злачынства. У вобліку Міхала Тварыцкага Чорны паказаў, як прага да ўласнасці нявечыць чалавека і, змярцвяючы яго душу, робіць панурым, пазбаўляе чалавечай радасці.

Тэма заняволення чалавека і калечання яго прагай да нажывы, прыватнай уласнасцю і іншымі заганамі змрочнага мінулага — адна з самых важных у творчасці многіх пісьменнікаў розных краін дарэвалюцыйнага часу. Тэма гэта хвалявала неаднойчы і савецкіх літаратараў.

Варта прыгадаць хоць бы, з якой настойлівасцю даследавалі гэтыя праблемы такія вялікія пісьменнікі XIX стагоддзя, як Ф. Дастаеўскі і Л. Талстой, як А. Бальзак і Э. Заля, а пазней, у пачатку нашага стагоддзя — А. Чэхаў і М. Горкі. У наш савецкі час гэтыя, трансфармаваныя ў многім заганы знайшлі сур'ёзных даследчыкаў у асобе Л. Лявонава і Ф. Гладкова, А. Галаўко і К. Крапівы.

Тут Кузьма Чорны выступае як паплечнік іншых савецкіх пісьменнікаў, прадаўжальнік вялікіх традыцый класічнай рускай і сусветнай літаратуры.

Варта адзначыць пры гэтым адну цікавую дэталь. Пісьменнікі мінулага нярэдка паказвалі трагедыю людзей, якія, выйшаўшы з бядняцкага асяроддзя, пазней, захапіўшыся прагай багацейства, нажывы, праніклісяпсіхалогіяй эксплуататараў. Гэта тэма знаходзіць сваё вырашэнне і ў творах К. Чорнага. Міхал Тварыцкі, сын бедняка і сам бядняк, змалку ахвотна пераймае кулац-

кую «філасофію» Скуратовіча. Кандрат Назарэўскі, выступаючы з абвінаваўчай прамовай на судзе, гаворыць пра Міхала: «Наш барадаты малады чалавек любіць з гонарам гаварыць пра тое, што ён калісьці служыў за парабчука ў кулака Скуратовіча. А от, скажам, цяпер, затаіўшы вялікую суму дзяржаўных грошай, ператварыўшы іх у якія-небудзь матэрыяльныя каштоўнасці і прычакаўшы якое-небудзь, скажам, падумаем на хвіліну, прыходу іншай улады, не Савецкай, не наняў бы ён тады сабе парабкаў, як той самы Скуратовіч? Наняў бы, бо не мог бы ж ён адзін управіцца з сваім багаццем. А як гаспадар любіць парабка, ён ведае з сваёй уласнай практыкі» [1].

Дарэвалюцыйная літаратура ў адпаведнасці з рэальнасцю паказвала, што ў калечанні асобы вінаваты былі ўмовы жыцця чалавека, сацыяльныя законы існавання эксплуататарскага ладу. Як лейтматыў, які тлумачыў трагедыю герояў многіх твораў дакастрычніцкай літаратуры, гучаць словы Ільі Лунёва з горкаўскай аповесці «Трое»: «Толькі жыць па-чалавечы няма ніякай магчымасці».

Але героі Чорнага жывуць у іншы гістарычны час, чым героі старой класічнай літаратуры. Кузьма Чорны, вельмі ўважлівы даследчык жыцця, пісьменнік, здатны і да глыбокіх назіранняў і да шырокіх філасофскіх абагульненняў, бачыў, што ўзаемаадносіны асобы і асяроддзя ў наш час прынцыпова змяніліся.

Чорны добра бачыў, што сацыялістычнае грамадства мае зусім іншую якасную ролю ў адносінах чалавечай асобы. У тым канфлікце, які ўзнік між Міхалам Тварыцкім і калектывам, грамадствам, Чорны паказвае — праўда не на баку асобы, Міхала, а на баку грамадства. Чорны выдатна паказвае, што прынцыпова новае, сацыялістычнае грамадства не толькі не нявечыць, а ўздымае чалавека, дае яму жыццёвую сілу, ачышчае яго ад усяго змрочнага, вяртае яму радасць. Ёсць глыбокі філасофскі сэнс у тым, што Міхал Тварыцкі не наняў парабкаў, як Скуратовіч, а стаў рабочым на сацыялістычнай будоўлі, стаў чалавекам новага свету. Шчасце Тварыцкага і падобных да іх, паказвае пісьменнік, у тым, што яны жывуць у новым грамадстве, у аснове якога гуманнасць і справядлівасць.

---

[1] Чорны К. Трэцяе пакаленне, с. 136.

Калі капіталістычнае грамадства разбурала асобу, што так яскрава паказала літаратура мінулага, наша грамадства, на многіх прыкладах па-мастацку давёў К. Чорны, спрыяе станаўленню і духоўнаму здароўю яе.

Чорны паказаў, што сацыялізм высока ўздымае чалавечую годнасць. У нас чалавек акружаны вялікаю ўвагаю і клопатам. Вельмі характэрна ў гэтым сэнсе тое, што паказу клопатаў аб чалавеку Чорны прысвяціў многія старонкі, сагрэтыя шчырым хваляваннем і радасцю. Варта ўспомніць, для прыкладу, як сустракаюць Краўца з бальніцы. «Што я такое рабіў на свеце, што вы так да мяне...— гаворыць Кравец, расчулены таварыскаю ўвагай і клопатам.— Я паўвека свайго прахадзіў па свеце, шыючы кажухі. Там было так — што зрабіў, тое і сцерабіў. Толькі ад таго і асталося, што ўспамінаць, ні сабе, ні людзям. А тут — хіба я тут што такое зрабіў? Ну, я мураваў, цэглы клаў».

«Цябе мы шануем таксама, як і ўсіх гэтых людзей, што тут цяпер з табой сядзяць, за адно»,— адказвае яму Несцяровіч.

Лепшыя старонкі сваіх раманаў Чорны аддае паказу чалавечай радасці. Цяпер няма ніякай патрэбы даводзіць беспадстаўнасць сцвярджэння А. Кучара, які гаварыў у артыкуле пра «Трэцяе пакаленне». «...ён (Кузьма Чорны.— *І. М.*), папраўдзе, часамі бывае крыху рэакцыянерам у дачыненні да радасных фарбаў жыцця, ён вельмі ўжо трымаецца за сваё звычнае для яго кола вобразаў людзей, ахопленых сілай уласнасці, або ціхіх маўклівых пакутніц з ліку жаночага тыпажу».

Чорнаму блізкімі і дарагімі былі горкаўскія погляды на быццё чалавека як на творчасць, «мэта якой — безупыннае развіццё каштоўнейшых індывідуальных здольнасцей чалавека для перамогі яго над сіламі прыроды, для яго здароўя і даўгалецця, для яго вялікага шчасця жыць на зямлі, якую ён адпаведна несупыннаму росту яго патрэб хоча апрацаваць усю, як духоўнае жыллё чалавецтва, аб'яднанага ў адну сям'ю».

Ва ўсіх творах Чорнага праца выступае як неадменная аснова чалавечага жыцця і разам — як аснова мастацтва. Без працы няма не толькі жыцця герояў, але і не было б саміх твораў Чорнага ў тым выглядзе, у якім яны ёсць. У чалавечай працы Чорны бачыць вялі-

кі жыццёвы сэнс. Для яго праца гэта не толькі адзін з неадменных заняткаў чалавека, неабходных для таго, каб жыць, але і той найважнейшы крытэрый, меркай якога вызначаецца вартасць чалавека.

Не выпадкова ўсе самыя прывабныя героі Чорнага — людзі вялікай працы. Першы і самы важны абавязак чалавека — працаваць, жыць сваёй працай.

Калі пасля смерці Вялічкі Максім Астаповіч бярэ апеку над Уладзікам, ён лічыць першым абавязкам — навучыць хлопца працаваць. «Ты ў мяне, бадзячая душа, у два дні будзеш умець класці сцяну ў гладкі вугал. І ўсё ты будзеш умець рабіць сваімі рукамі, раз твой бацька мне цябе прыпаручыў».

Паэтызуючы ў тым жа рамане «Вялікі дзень» вобраз Максіма Астаповіча, Чорны з непрытоеным захапленнем піша, як многа ўмеў і многа рабіў ён за сваё жыццё. Капаў калодзежы, ставіў ветракі, умеў рабіць мулярскую справу, мог быць і пчаляром, і садаводам, і агароднікам. Ёсць нешта па-гогалеўску паэтычнае ў тым, з якой узнёсласцю піша Чорны, колькі хат і розных іншых будынкаў склаў Максім Астаповіч у наваколлі, колькі пасадзіў ён садоў, колькі дарог абсадзіў дрэвамі.

Можна сказаць, што старонкі пра разгон астаповічаўскай працы, бадай, самыя паэтычныя ў рамане «Вялікі дзень».

Такою ж працавітасцю надзелена пісьменнікам у «Вялікім дні» і жонка Астаповіча — «несвіжанка». Праца ў паказе Чорнага, акрамя ўсяго,— тая аснова, якая збліжае і родніць іх, у працы яны адчуваюць радасць сумеснага жыцця.

Як ужо гаварылася вышэй, праца, на думку Чорнага,— як бы пробны камень, на якім вызначаецца вартасць, якасць людзей. Паказваючы розніцу між Астаповічам і Блецькамі, Чорны скіроўвае нашу ўвагу перш за ўсё на іх адносіны да працы. Блецькі любілі карыстацца чужою працай, «здолелі, як яны казалі, галавой дайсці да жыцця», а Астаповіч з «несвіжанкай» «елі свой хлеб з натруджаных рук».

Вызначаючы працу як аснову быцця, пісьменнік-рэаліст Чорны бачыў і выразна паказаў, што стары свет, які скалечыў многія чалавечыя вартасці, калечыў і самую аснову іх — працу. К. Чорны выдатна даводзіць гэта многімі вобразамі сваіх твораў.

Згадаем хоць бы, з якой нечалавечай намогліваспю вымушан Максім Астаповіч асталёўваць сваё «аселішча», ірваць, здзіраць спрадвечны дзірван. Згадаем, што гэта непасільная праца забірае ад яго самага дарагога чалавека — жонку.

Чорны паказвае, што ў капіталістычным грамадстве, дзе вынікі працы спажываюць не тыя, хто яе робіць, а тыя, хто купляе, працоўнага чалавека пазбаўляюць нават «права аўтарства». «Максім Астаповіч многа чаго зрабіў на доўгія часы па ўсёй акрузе, але гэта не быў паўнапраўны майстар. Гэта быў толькі падзённік. У кутку, дзе ён радзіўся і вырас, усе дарогі асталіся навек высаджаны ім дрэвамі. Змяніўся твар усёй мясцовасці, але дарогі належалі Гальвасу, яму асталася і слава за іх. Максім Астаповіч атрымаў за работу, што далі, спажыў і зноў астаўся такім, якім радзіўся на свет.

У пастаўленых ім ветраках людзі малолі збожжа, раней бацькі, а пасля іх дзеці, але ніхто і не думаў пра Максіма Астаповіча. Было падобна, што існуе на свеце нейкі невядомы і не бачны магутны майстар, а Астаповіч толькі наймаецца ў яго на чорную работу» [1].

Як відаць ужо з гэтых заўваг, у творах Кузьмы Чорнага пастаўлены вельмі важныя праблемы чалавечага быцця і як праявы нядаўняй гісторыі і як праявы нашай сучаснасці.

## VIII

Кузьма Чорны — выдатны майстар слова. Пісьменнік заўсёды з вялікай увагай адносіўся да работы над словам, нястомна ўдасканальваў сваё моўнае майстэрства.

Якуб Колас пісаў, што творчасць Чорнага з'яўляецца «вельмі паказальнай у адносінах моўнай дбайнасці, чыстаты, цікавай пабудовы сказаў». Колас заклікаў пісьменнікаў вучыцца ў Чорнага: «Літаратурная спадчына гэтага, так рана памёршага мастака, патрабуе самай пільнай увагі з боку як літаратурнай моладзі, так і сталых пісьменнікаў. Там ёсць шмат чаму цікаваму павучыцца: пісьменнік умеў адкрыць новае гучанне слоў, умеў выказаць усё, што турбавала яго, з вялікай дакладнасцю».

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 318.

Работу над мастацкім словам Кузьма Чорны разглядаў як адзін з самых важных абавязкаў пісьменніка. «Сачыце за чыстатой свае мовы. Займайцеся заўсёды сваёй беларускай мовай,— пісаў Чорны аўтару гэтай працы.— Ведайце, што мова гэта аснова літаратуры».

Уся творчасць пісьменніка — яркі прыклад стараннай і ўпартай работы над мовай.

Але мова Кузьмы Чорнага, як і мова іншых пісьменнікаў, не была адзінай і нязменнай на ўсім творчым шляху. Робячы назіранні над мовай пісьменніка, нельга не заўважыць, што яна з цягам часу змянялася, развівалася. Асобныя рысы, уласцівыя мове К. Чорнага ў ранні перыяд, пазней знікалі, другія, наадварот, узмацняліся і акрэсліваліся больш выразна.

Толькі прасачыўшы, як развівалася мова пісьменніка, можна па-сапраўднаму зразумець асаблівасці стылю і мовы Кузьмы Чорнага, тыя законы і нормы, якіх ён трымаўся ў рабоце над словам.

Спынім увагу перш за ўсё на асаблівасцях мовы ранняга перыяду, якія пазней пачалі знікаць. У ранніх творах Чорнага заўважаецца схільнасць пісьменніка да лірычна-паэтычнага спосабу апавядання. Ранняя проза яго па стылявых асаблівасцях прыкметна адрозніваецца ад прозы пазнейшых гадоў, напісанай у суровай і простай манеры, без якіх-небудзь акрас лірыкі.

Вобразна можна сказаць, што творы пачатковай пары пісала адначасова рука празаіка і паэта.

Не выпадкова, што многія з твораў гэтага перыяду маюць, падобна вершам, лірычнага героя. Ад імя гэтага лірычнага «я» часта і вядзецца апавяданне, настроем, думкамі яго ацэньваюцца і асвятляюцца падзеі. Гэты лірычны герой жыве і ў замалёўках «Буры», і «На пыльнай дарозе», «Начлег у вёсцы Сінегах», і ў разгорнутым апавяданні «Хвоі гавораць». Ён ідзе па дарозе з хлапчуком, які пасталеў да часу («На пыльнай дарозе»), і з павагай, з радасцю слухае разважлівую, дарослую гаворку малога. Развітаўшыся з хлапчуком, ён у форме лірычнага маналога выказвае свой настрой, што ўзнік пад уплывам падзеі: «І ад таго, што гэтае дзіцянё не сагнулася і не сагнецца і ідзе сабе моцна па дарозе,— стала мне радасна і думна.

Было жаданне спяваць што-небудзь моцнае і цягучае, спяваць яго доўга без слоў і без лішняй тут весялосці.

...Ён, малы, вырасце і таксама, як цяпер, моцна і горда пройдзе па зямлі, па дарозе...

У такіх думках я сяджу на каменнях...» [1]

У ранніх апавяданнях і раманах Кузьмы Чорнага можна сустрэць цяжкія, манерныя, знарок загадкавыя выразы, якія нярэдка нават цяжка зразумець. «Смех — часта дзындра сумных настрояў і сталых думак. Адгэтуль я праводжу раўналежнасці пры маіх разгадках усяго...» [2]

Пісьменнік, які пазней будзе імкнуцца да прастаты і дакладнасці ў мове твораў, у пачатку шляху, відаць, не давяраў характву прастаты. Напэўна, адсюль ішло яго тагачаснае імкненне гаварыць «прыгожа», «кучарава», ненатуральна. Вось сказ з ранніх апавяданняў: «Я быў малады, і *ў маёй сталасці былі некаторыя элементы надуманасці*. Часамі яны неўзаметку пачыналі сплываць» [3]. Паказваючы, што чалавек мала хваляваўся, пісьменнік гаворыць: «хвалі душы не былі вялікімі». Выраз «у хвіліны неспакою» перадаецца зваротам: «У хвіліны бур і вострых пакут духу».

У рамане «Зямля» пра тое, як Ганна з сумам адчувае, што пачынае знікаць каханне да Алеся, аўтар піша наступным чынам: «І цяпер *цвілі ў душы піжмы і палыны. Бездапаможнасць і нават безнадзейнасць панавалі над ёю*» [4].

Далей пісьменнік так перадае стан душы гераіні:

«Сум, журба, захапленне — выраслі ў душы дзяўчыны. *Цвілі ружы ў дзяўчыніным сэрцы, чарнелі і вялі іх пялёсткі і зноў змяняліся і ружавелі.*

Маладосць і каханне поўнілі дзяўчыну. *І цяжкасці чалавечых бур паведамлялі ўжо ёй аб нязведанай глыбіні свету*» [5].

У маладога Чорнага можна знайсці абстрактныя, малаканкрэтныя выразы. Выбіраючы словы, пісьменнік тады глядзеў часам, відаць, не столькі на іх канкрэтна-сэнсавыя значэнні, не столькі на тое, каб ужыць

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 49—50.
[2] Тамсама, с. 51.
[3] Тамсама, с. 55—56.
[4] Чорны К. Зямля, с. 78.
[5] Тамсама, с. 208.

іх як мага больш дакладна, колькі на гукавое, арнаментальнае значэнне іх. Моўны матэрыял у такім выпадку выкарыстоўваўся найперш не для таго, каб напісаць канкрэтны малюнак, а каб стварыць пэўны настрой, адпаведна творчай задуме аўтара. Тады з-пад пяра пісьменніка з'яўляліся абстрагіраваныя, імпрэсіяністычна настроевыя малюнкі-мелодыі. «На хмурых дарогах надоўга асталявалася восень. Жыла ў неабдымнасцях свету і цешылася радасцю зямлі.

Збіралася ўміраць восень! І ў павольным скананні яе хваляваліся буры і кіпелі імкненні. І ў пажоўклай траве была радасць гэтых і ўсякіх дзён; жыла і кіпела — у пахучай зямлі, у каменнях, у лісці» [1].

Імкнучыся ствараць лірычна афарбаваныя малюнкі, Чорны вымушан быў, натуральна, рытмізаваць мову, набліжаць яе да вершаванай. Вось прыклад аднаго ранняга твора: «Каржакаватыя хвоі, чырвонаагнявыя асіны і жоўтыя бярозы, і пад імі шумяць кусты.

Шумяць... Шумяць!

І ядлоўцам пахне над полем.

Густа паўсходзіла жыта, і ўсё таксама смяюцца яму ясныя дні.

Праляцелі ўжо гусі і жураўлі, чорныя дзікія птушкі клююць сакаўную рабіну і, журацца дні над свежай раллёю і над балотнай сухой асакою...

Мы выбіраем познюю бульбу» [2].

Малюючы свет, у якім жывуць яго героі, пісьменнік часта не надта клапоціцца пра тое, каб перадаць рэальныя, канкрэтныя прыкметы гэтага свету. Як можна меркаваць ужо з папярэдняга прыкладу, ён часта імкнецца не так да канкрэтызацыі, як да абагуленай паэтызацыі малюнка. Восень жыла «ў неабдымнасцях свету і цешылася радасцю зямлі»; «у павольным скананні яе (восені.— *І. М.*) хваляваліся буры і кіпелі імкненні».

Трэба адзначыць, што абстрактна-паэтызаваны характар часам маюць не толькі асобныя замалёўкі, але і паказ псіхалагічнага стану ці настрою герояў. Вясковы хлопец, слухаючы галасы камсамольцаў, якія спрачаюцца «над кнігаю тэорый Дарвіна», і прадчуваючы

---

[1] Чорны К. Зямля, с. 225.
[2] Чорны К. Выбраныя творы, с. 64.

набліжэнне ў сельскай гаспадарцы часу машын, думае пра гэта такім чынам: «Гэта прэлюдыі да будучай індустрыяльнай вайны з прыродаю» [1]. У другім раздзеле: «І я раптам адчуў у сабе і вакол сілу дзейнасці і размах чалавека на нязначным атаме свету — зямлі» [2].

Кузьма Чорны вельмі рана адчуў неправамернасць такіх паэтычных абстракцый для перадачы чалавечых пачуццяў, таму ўжо ў рамане «Зямля» іх непараўнана менш, чым у ранніх апавяданнях. Пісьменнік у рамане імкнецца шукаць дакладныя, простыя словы для перадачы чалавечых пачуццяў.

Мова ранніх твораў Кузьмы Чорнага, у тым ліку ў пэўнай меры і рамана «Зямля», вызначаецца багатай метафарычнасцю. Малады пісьменнік вельмі часта ўжывае метафарычныя выразы: «Дзяўчаты звіняць смехам», «мякка абдымае зямлю празрыстая ноч» (апавяд. «Хвоі гавораць»), «Вуліца была сухая, з пагадлівым тварам», «дзень ужо пачаў брацца з вечарам» (у сэнсе: набліжаўся вечар), «цёмны і пусты быў вечар», «сінія вочы яе слаўна абвеялі яго жаночаю пяшчотаю». Асабліва багата метафарычных выразаў у пейзажных малюнках: «У садах і агародах зелянелася сцябло пачарнелага на марозах зелля, *барвенак* на градах і пад дрэвамі ў садах *весела распаўзаўся* па зямлі. *Плакалі стрэхі*, і моцна пахлі намоклыя непілованыя дровы». *«Сонца хварэла блёклым святлом»*.

У ранніх творах, больш за ўсё ў апавяданнях, Чорны любіць ужываць выразы-сентэнцыі, прычым гэтыя выразы павінны мець у сабе, па задуме аўтара, асабліва важны змест. У іх пісьменнік часта сцісла выказвае ідэю твора ці нейкае надзвычайнае меркаванне пра людзей і свет. Ідэя апавядання «Буры» выкладзена, напрыклад, у першым выразе-сентэнцыі: «У ціхіх скаргах непрыбранага жыта чуў я вялікія буры». Апавяданне «Начлег у вёсцы Сінегах» пачынаецца такім жа выразам: «Вялікі паход скупы на адпачынак». «Смех — часта дзындра сумных настрояў і думак» — пачатак апавядання «Хвоі гавораць». Ужо сам факт паўтарэння гэтага прыёму ў розных творах сведчыць аб тым, што ён не выпадковы. Характэрна, што ў боль-

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 53.
[2] Тамсама, с. 66.

шасці выпадкаў пісьменнік імкнецца ўжываць незвычайныя, часам малазразумелыя сентэнцыі, стараючыся як бы ўразіць, заінтрыгаваць чытача.

Гэта выклікана, відаць, недавер'ем маладога аўтара да хараства прастаты. У далейшым пісьменнік адмаўляецца ад гэтага прыёму. Ужо ў рамане «Зямля» Чорны стараецца не ўжываць падобных выразаў-сентэнцый.

Часта карыстаецца ў ранніх творах Чорны клічнымі інтанацыямі, амаль не ўласцівымі стылю пісьменніка ў перыяд сталасці. Схільнасць да клічных інтанацый у ранняй творчасці Чорнага ідзе, не інакш, ад узнёсласці яго тагачаснай лірычна-паэтычнай плыні.

Юрка «падышоў да насыпанага над зямлёю жвіру, як стары, аглядзеў яго і кінуўся на яго тварам...

Пахнуў пясок, і трава каля яго, і восень, і зямля. Як жа яна пахла — зямля!» [1]

«Якія дарогі ў полі ляжаць! І якія туманы ўстаюць над зямлёй! Неба — халоднае і звонкае, як сонечны дзень. Ветры дзьмуць над дарогамі.

Што гэта — сонца і мяккая зямля?! Што гэта — прастор і вецер! І трава, і дрэвы, і паўтоптваны ў зямлю жоўты ліст!» [2]

Кузьма Чорны паступова пачынае адыходзіць ад гэтага лірычна-паэтычнага стылю. Ужо ў рамане «Зямля» сляды гэтага стылю, можна сказаць, не вызначаюць характар твора, раман напісаны ў аснове ў строга рэалістычнай манеры. Паэтычныя акрасы ёсць яшчэ ў «Зямлі» як знак пошуку ў маладога аўтара, як рэшткі яшчэ не адоленага.

Тут яшчэ часам ужываюцца такія «смелыя» метафары: «Юнацкі твар каморніка ўпаў у акно на вуліцу» [3], што павінна значыць у звычайнай мове: каморнік зірнуў у акно на вуліцу.

Вось яшчэ адзін з прыкладаў маладой моўнай задзірыстасці Чорнага ў рамане «Зямля»: «Вясёлай вільгаццю пахнуў ток, і мышынаю цішынёю (!) гучэлі (!!) саламяныя куткі ў гумне» [4].

Шукаючы ў жывой практыцы свайго стылю, вызначаючы сабе яго асаблівасці, Чорны як бы ўсё больш

---

[1] Чорны К. Зямля, с. 121.
[2] Тамсама, с. 249.
[3] Тамсама, с. 76.
[4] Тамсама, с. 165.

пераконваецца ў правільнасці пушкінскіх поглядаў: «Точность и краткость — главные достоинства прозы». Чым далей, тым з усё большай непрыхільнасцю пачынае адносіцца Чорны да ўсякага знешняга ўпрыгожання, да якіх бы там ні было праяў, як ён пазней назаве, «сантыментальнага стылька».

Аналізуючы твор аднаго маладога пісьменніка, Кузьма Чорны праз дзесяць гадоў напіша: «Аўтару трэба дамагацца прастаты і выразнасці ў кожнай фразе, у кожным слове, таксама як і не дапускаць у свой стыль элементаў сантыменталізму... «Цёплы сонечны праменьчык пяшчотна казытаў шчаку». Гэта гучыць больш чым прыкра. Гэта рэшткі дрэнных уплываў сантыментальнага стылька, які калісьці вельмі задзёрыста стараўся падняць галаву ў нашай літаратуры і з якім так цяжка было змагацца» [1].

Сталы, вопытны літаратар Чорны вучыў, што ў аснове празаічных твораў павінен быць «суровы стыль». «Гэта той стыль, які заўсёды дазваляў майстрам літаратуры ствараць чалавечыя вобразы. Гэты стыль не можа мець у сабе нават самых найменшых элементаў сантыменталізму. Сантыменталізм гучыць як фальш» [2].

Выпрацоўваючы сталы «суровы стыль», Чорны ўпарта і цвёрда адольваў звычкі і ўплывы «сантыментальнага стылька», неканкрэтнасць і манернасць ранняй сваёй мовы.

Стыль рамана «Зямля», як было ўжо відаць, яшчэ далёка не ва ўсім адпавядае патрабаванням «суровага стылю» сталага Чорнага, але ён ужо мае ў сабе многія важныя адзнакі гэтага стылю.

Па сваіх моўных вартасцях «Зямля» — адзін з самых цікавых і значных для ўсяго пісьменніцкага шляху твораў. І ў моўных адносінах твор гэты — паказчык вельмі хуткага сталення багатага чорнаўскага таленту.

У рамане «Зямля» пісьменнік настойліва шукае дакладнага слова, звяртаючы перш за ўсё ўвагу на яго сэнсавае значэнне.

Вось некалькі характэрных узораў ужо з мовы рамана «Зямля», выбраных на дзвюх старонках: «Яшчэ досвіткам пачыналі *цупаць* у таках *цапы*», «Сабакі

---

[1] ЛіМ, 22 чэрвеня 1938.
[2] Т а с с а м а.

«Ўсю ноч *заходзіліся* брэхам на агародах і паплавах», «...*Калівы шчуплае і* вясёлае *травы*, што зрэдку дзе *высоўвалася з-пад чорнага лісця, перамешанага з мокрым снегам*, весялілі людское вока», «У дварох *пылілі церніцы, грызучы перасохлы лён...*», «*Шасталі сячкарні*» [1].

Пісьменнік імкнецца як можна дакладней перадаць асаблівасці працэсу працы, гукі, адметныя якасці прадметаў. З усіх дзеясловаў, якія маглі абазначыць гук удару цэпа: — стукаць, ляскаць і г. д., выбран самы дакладны: цапы *цупалі*. Вельмі канкрэтна абазначае шум сячкарні дзеяслоў *«шасталі»*.

Каб дасягнуць найбольшай дакладнасці, пісьменнік нярэдка выкарыстоўвае дзеясловы ў метафарычным, але ўжо канкрэтным значэнні: церніца *грызе* лён. Або: «Алесь *прыгалубіў* Маню, гладзіў па валасах» [2].

Набываюць дакладнасць і выразнасць эпітэты, якія выкарыстоўвае пісьменнік: «Калівы *шчуплае* і вясёлае *травы*». Эпітэт, як бачым, добра характарызуе асаблівасць позняй асенняй расліны.

Чорны заўсёды ахвотна карыстаўся багаццямі жывой народнай мовы, імкнуўся выполваць моўнае літаратурнае пустазелле. Ён шчодра ўводзіў у свае творы сакавітыя народныя словы, трапныя пагаворкі, прымаўкі, своеасаблівыя ідыёматычныя звароты. Іх вельмі многа ўжо ў рамане «Зямля».

«Дык я тут табе скажу, што каб яго зрабіць іншым, дык трэба капыл новы» (43), «Бачыла, што (Юзік) аціраецца каля ганка» (48), «Нічога не ведаеш, а язык так і матляецца за вушамі» (176), «Каб твае словы ды богу ў вушы» (181), «Ну, дык можаш... гібець сабе пры сваім, сваёю нішчымніцаю душыцца» (192), «Я ж ужо і гаспадар дома так сабе, прышый, як той казаў, кабыле хвост» (223), «Хоць ты яму кол на галаве чашы, усё роўна ты яго не перайначыш» (237), «Не можаш памагчы, дык лепш памаўчы» (297) і г. д.

У стылі фальклорных плачаў напісан маналог развітання сястры з нябожчыкам Тамашом:

«Ды бывала ж ты малы босы і голы мёрз.

«Ды бывала ж ты і галодным быў.

«А ці памятаеш ты, братка, як ты ў маладосці хво-

[1] Чорны К. Зямля, с. 262—263.
[2] Тамсама, с. 328.

рым ляжаў, а не было табе на макавае зерне чым паправіцца.

«А калі ты, Тамашка, хадзіў па суседзях шэсць злотых палучыць на падатак.

«А як не дастаў гэтых шасці злотых і нудзіў, на парозе седзячы...

«Дый малады ж ты быў, дый прыгожы.

«А дзе ж твая прыгажосць дзелася.

«А куды ж твая сіла ўцякла» (319).

Усе гады творчай дзейнасці, усё жыццё ў Чорнага не сціхала любоў да жывой народнай мовы, захапленне моўнай творчасцю народа.

Жывая мова народа — гэта крыніца, якая ўсё жыццё шчодра давала пісьменніку моўныя вобразы, лексічныя формулы, звароты.

Мове Кузьмы Чорнага, пісьменніка яркай індывідуальнасці, натуральна ўласцівы некаторыя свае, спецыфічныя, асаблівасці. Прыглядаючыся да мовы яго твораў, можна лёгка заўважыць, што пісьменнік любіць спалучаць з дзеясловамі назоўнікі, утвораныя ад дзеясловаў і прыметнікаў. «Канец лета *прынёс* большую *прывыкласць*, а восень — адзнакі лёгкага суму, як бы па нечым далёкім, што толькі паманьваецца, ніколі не прыйдзе, бо, можа, і не існуе, і *прыносіць* семнаццацігадовай дзяўчыне *няведанне*, чаго яна сама хоча» («Зямля», стар. 161).

«Хоць сапраўды ён, можа, і ўзвышаецца ў гэты момант над многім і многімі, але тое, што яго *акружае* цяпер, *прыгнечанне*, якое падае на яго душу,— усё гэта *можа паставіць* чалавека ў план *бязвольнасці, слабасці* і гнілой *мяккасці*» («Люба Лук'янская», стар. 56), «Вялікі цяжар душы. *Узняцце* вострых *думак* ападала да бязум'я» («Люба Лук'янская», стар. 66), «Самое ж акно яшчэ ўсё было ў водсветах захаду, на ім яшчэ добра *трымалася яснасць*» («Трэцяе пакаленне», стар. 171), «Наглядальны чалавек адразу сказаў бы, што яго нешта мучыць, можа, нават часамі цяжкае *прыгнечанне* кладзецца на яго душу» («Вялікі дзень» — «Выбраныя творы», стар. 414).

Такія формы сустракаюцца ў раманах вельмі часта.

Варта сказаць, што, часта ўжываючы складана-залежныя сказы, Чорны амаль ніколі не бярэ дзеепрыслоўных і дзеепрыметнікавых зваротаў, якія, на яго думку, мала ўласцівы беларускай мове.

Выдатны знаўца роднай мовы, яе багацця, яе найтанчэйшых асаблівасцей, Чорны чым далей, тым больш набліжаў сваю мову да жывой, гутарковай народнай мовы. Ён нібы бярэ за ўзор мудрую прастату жывой народнай гутаркі, следуе гэтаму ўзору.

У мове яго ўсё больш пераважаюць простыя, кароткія сказы. Ужываючы складана-залежныя сказы, пісьменнік імкнецца, як можна, скандэнсаваць іх, спрасціць іх структуру, пазбягае цяжкіх, шматступенных перыядаў.

У адпаведнасці з асаблівасцямі гутарковай мовы К. Чорны вельмі эканомна ўжывае эпітэты, пакідае ў сказе толькі самыя неабходныя. Часам са сказа, як у гутарковай мове, выпадаюць дзейнікі.

Як адзнакі дрэннага густу, Чорны настойліва ўнікае кніжнай гладкасці, а таксама пявучай рытмічнасці. У творах яго няцяжка знайсці ў адным сказе некалькі займеннікаў. Ён нібы знарок піша сказы няроўныя, шурпатыя. Але за гэтай вонкавай шурпатасцю добра праглядваецца імкненне пісьменніка надаць найбольшую энергію сказу, слову. І яму ўдаецца гэта. Шурпатая чорнаўская фраза звычайна мае ў сабе вялікую энергію.

Вось адзін з характэрных прыкладаў мовы К. Чорнага перыяду яго сталасці:

«Пад дом падышла яна баючыся. Каб не дзіця, яна, можа, і зусім не пайшла б сюды. У вокнах цёмна. Яна пхнула дзверы — яны замкнёны. Падняла руку — ключ, як заўсёды, схован над дзвярыма. Увайшла ў хату, пакарміла дзяўчынку, паклала спаць. «Славачка, дачушка, спі, расці здарова. Будзь шчаслівa...» Славачка заснула, паклаўшы кулачок на губы. Зося пайшла з хаты» («Трэцяе пакаленне», 118).

Унікаючы кніжнасці, імкнучыся да натуральнасці жывой гаворкі, К. Чорны часта ўжывае пабочныя сказы, выразы: «Да гэтага раптам пачалі далучацца ўсякія чуткі і гаворкі. (*Трэба яшчэ раз сказаць*, што хоць не ўсё, а шмат што з гэтых гаворак праз пэўны час пацвердзілася, як чыстая праўда). Пачалі гаварыць, што *нібыта* дзён таму назад дзесяць хтосьці з гэтай мясцовасці быў, з прычыны *нейкіх там* сваіх інтарэсаў (*здаецца*, па гонту ездзіў), па той бок litарадка, адсюль, *значыцца*, вёрст за шэсцьдзесят, *калі* не больш» («Трэцяе пакаленне», 87).

«Там, дзе поблізу чутны ў людской гаворцы гарады Нясвіж і Слуцк, незадоўга да першай імперыялістычнай вайны пачаў біднець у сваім вялікім маёнтку пан Гальвас. *Гаварылі*, што ён меў тытул не то графа, не то барона, але дакладнасць гэтай справы не вельмі цікавіла тутэйшых людзей. *Куды цікавей* было тое, што Гальвасу прыйшла патрэба прадаць частку сваёй зямлі, якое ў яго было *так тысяч дзве* дзесяцін. Маёнтак яго пачаў занепадаць яшчэ раней, але да продажу пяці сот дзесяцін ён дадумаўся тады, калі пачаў піць і гуляць у карты. Праз карты, *казалі*, ён і залез у даўгі» («Вялікі дзень») [1].

Як важную асаблівасць трэба адзначыць у мове Чорнага цікавую, выразную публіцыстычную плынь. Старонкі публіцыстыкі ў творах Чорнага вызначаюцца вастрынёю думкі і страснай усхваляванасцю, у іх нярэдка гучыць прамоўная інтанацыя.

Узорам такой публіцыстыкі, думаецца, можна лічыць прамову Кандрата Назарэўскага ў час суда над Міхалам Тварыцкім, адну з мацнейшых па ідэйнай глыбіні і страснасці старонак у рамане «Трэцяе пакаленне».

«Перад намі цёмная і прыглушаная асоба, якая выйшла з гора. Дадамо яшчэ сюды такое слова: асоба з нявольніцкай душой. А вунь на стале ляжыць яго вопратка, у якую ён зашыў пачак грошай, рыхтуючыся іх траціць. Глянем на гэтую адзежыну. Яна парваная, каравая, смярдзючая, хоць і дала, а можа, і не раз давала прытулак вялікім грошам. Такая ж каравая і тая хата, сапраўдная нара, у якой жыў гэты чалавек. Такое ж было і яго маленства, гэта факт. Што трэба, значыцца, рабіць такому чалавеку — любіць усё гэта ці ратавацца ад яго? Ратавацца, гэта ясна. Але мы тут бачым вынік іншага кірунку гэтага ратавання... Усё навакольнае — страшнае, нікому і нічому не вер, вер толькі сабе, спадзявайся толькі на сябе, калі можаш — крышы ўсё, што не ты, ваюй з усім. Але ты адзін, а перад табою ўвесь свет, адкрытай вайны тут быць не можа. З'яўляецца і вырастае хітрасць, хцівасць, машэнства, несумленнасць, панурасць самога ў сабе, злобная недаверлівасць сябелюбства, неспачуванне нікому» [2] і г. д.

---

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 287.
[2] Чорны К. Трэцяе пакаленне, с. 135.

Кузьма Чорны, дзе трэба, смела ўжывае публіцыстычныя выразы: «...затаіўшы вялізную суму дзяржаўных грошай, ператварыўшы іх у якія-небудзь матэрыяльныя каштоўнасці», «сваю нявольніцкую душу ён любіць, яна ў яго стала гарманічнай, ён узвёў яе на пастамент святасці і рад», «ён гатоў падтрымаць прыход усялякіх цёмных сіл, гатоў прадаць усялякую вялікую справу» і г. д.

У адпаведнасці з асаблівасцямі прамоўнага стылю К. Чорны ўжывае тут разгорнутыя, шматперыядныя складаныя сказы, многа аднародных сказаў.

Такія ўзоры публіцыстыкі, што звычайна перадаецца вуснамі якога-небудзь героя, ёсць і ў раманах «Бацькаўшчына», «Люба Лук'янская», «Вялікі дзень».

Ёсць у раманах К. Чорнага і публіцыстычныя адступленні. Вось адно з іх: «Дзевяцідзённая абарона горада, які прыняў на сябе першы ўдар нямецкага войска ў момант, калі яно яшчэ было поўна энергіі і заўзятай упэўненасці ў сваёй непераможнасці і ў хуткай перамозе над Савецкім Саюзам, была адным з тых вялікіх эпізодаў Айчыннай вайны, якія пасля выраслі ў шматлікія эпапейныя моманты»[1] і г. д.

У публіцыстычным адступленні аўтар, як відаць, тлумачыць ваенна-стратэгічнае і маральнае значэнне геraічнай абароны горада і крэпасці Брэста, у якой удзельнічаюць героі. Але адступленне гэта мае ў сабе не толькі неабходныя весткі, пад гэтым павярхоўным можна заўважыць — пісьменнік вырашае дзве глыбокія і важныя творчыя задачы. Па-першае, ён адразу шырока паказвае размах гістарычных падзей, удзельнікамі якіх выпала быць яго героям, і гэтым надае шырокае, эпічнае гучанне самому твору. Па-другое, такі шырокі і значны зачын раздзела з першых старонак узбуйняе яго вобразы, надае гэтым вобразам эпічную значнасць.

Трэба, аднак, сказаць, што публіцыстычных адступленняў у творах Чорнага небагата.

## IX

Асаблівасці пейзажу ў творчасці К. Чорнага змяняліся ў асноўных рысах у тым жа кірунку, што і яго творчая манера.

[1] Чорны К. Выбраныя творы, с. 374.

Пейзаж ранняга перыяду творчасці пісьменніка вызначаецца сваёй ярка выражанай лірычнасцю, настроевасцю. Ствараючы пейзажны малюнак, пісьменнік не столькі імкнецца да таго, каб як можна канкрэтней акрэсліць, перадаць рысы і фарбы гэтага малюнка, колькі стварыць пэўны настрой. Таму такім малюнкам уласціва некаторая абстрактнасць, умоўнасць.

Пейзаж у гэты час пісьменніку патрэбен найчасцей для таго, каб узмацніць адпаведны настрой. Апавяданне «На пыльнай дарозе» заканчваецца малюнкам, які адпавядае радасна-задуменнаму настрою героя: «Пры пыльнай дарозе шумяць палыны, і *вясёлыя плачуць* наводдаль каліны».

У адпаведнасці з такой функцыяй пейзаж адухоўліваецца. У тым жа апавяданні: «Моцна *думаюць* голыя яшчэ кусты», «Вецер прынёс аднекуль сухі жмут аўсянай саломы, прыпёр да быльнікава куста, растрасае патроху і разганяе па саломіне ў полі, салома звонка шалясціць і *навявае задуменнасць* вялікай далечыні», «Дарога — ад таго, што шырокая, ветраная і пыльная,— *вясёлая*» і г. д. Зусім натуральна, што гэтыя асаблівасці ранняга пейзажу К. Чорнага абумовілі сабой і стыль мовы ў пейзажных замалёўках, якая нагадвае вершаваную, рытмічную прозу.

Трэба сказаць, што лірычна-паэтычная плынь, уласцівая ранняй творчасці К. Чорнага, была асабліва ўстойлівай якраз у пейзажы. У рамане «Зямля», у якім пісьменнік упарта адольваў прынады лірычнага стылю, лірычная плынь яшчэ захоўваецца дзе-нідзе ў пейзажах, хоць лепшыя ў рамане малюнкі прыроды выпісаны ўжо ў дакладнай манеры «строгага стылю». Вось характэрныя ўзоры лірычнага пейзажу ў рамане «Зямля»:

«Хмары ўсё плылі на высокім небе. Гусціліся на даляглядах, сінелі і цямнелі над зямлёй. *Гойдаліся вятры на дрэвах, зямля маўчала, слухала ў чулай дрымоце і вострай чуласці. Поле пахла ветрам і шырынёю сваёй жадала сонца. Сінелі лясы, ціха і нявінна. Так па-дзіцячаму свецяцца конскія вочы на палявых дарогах»* (224).

У гэтых малюнках, як і ў ранніх апавяданнях, пісьменнік часта ўжывае ўзнёслыя, клічныя інтанацыі. «Якая трава маўчала на полі! І ў якіх жа туманах

вырастала яна і сохла! Пыльнае сцябло было ў травы! Абпыленае летняю гарачынёю, размахамі асенняе волі. Веснавымі вятрамі, сонцам і нястрымнасцю дарог. Ляжалі дарогі, беглі ў свет. І гойдалася трава каля іх» (224).

Але ўжо ў рамане «Зямля» К. Чорны часта адыходзіць ад такога метаду падачы пейзажу. Ён імкнецца, ствараючы пейзажныя замалёўкі, быць як можна больш канкрэтным і дакладным. Многія пейзажы ў рамане «Зямля» набываюць пластычную рельефнасць і яркасць, вызначаюцца багаццем і сакавітасцю фарбаў. У іх знікаюць абстрактныя, арнаментальнага характару выразы, узнёслыя інтанацыі, рытмічнасць. Яны — строгія і простыя.

Трэба адзначыць адну вельмі характэрную асаблівасць пейзажаў К. Чорнага. Пісьменнік амаль заўсёды падае іх у сувязі з працэсамі працы. Часам прырода з'яўляецца фонам, на якім працуюць людзі, але нярэдка праца і прырода жывуць разам, як роўныя, непадзельна з'яднаныя. «І шмат дзён было такіх — хмурных, снегавых і мокрых. Мокры снег не ўвесь растаў. Ляжаў пад куп'ямі ў ямах. Зямля была пярэстаю. Але ўсё памерла пад гэтым снегам; на траве снег не растаў.

Яшчэ досвіткам пачыналі цупаць у таках цапы. Пасля ўвесь дзень стукала імі ўся вуліца, і на ўсю ж вуліцу пахла пылам з растрэсеных снапоў. Каля адчыненых гуменных варот бялела салома і з'яўляліся людзі з абпыленымі тварамі, чорнымі вусамі і барадамі. Чуючы цеплыню на дварэ, у хлявах рыкалі каровы і пад вечар каля калодзезяў здзіўлена абнюхвалі снег. У дварах іржалі коні. У дварах жа стаялі драбіны з чорнымі ад прамёрзлай гразі калясьмі. І побач з імі наладжаныя сані чакалі свайго хуткага часу» [1].

Адным з першых у беларускай літаратуры К. Чорны стварае малюнкі індустрыяльнага пейзажу. Індустрыяльны гарадскі пейзаж мае віднае месца ў раманах «Трэцяе пакаленне», «Люба Лук'янская». Некалькі паслядоўных малюнкаў прыроды ў раёне Двух хат («Трэцяе пакаленне») даюць нагляднае ўяўленне пра тое, як мянялася аблічча балотнай мясцовасці, у якой жывуць і дзейнічаюць героі. Малюнкамі прыроды

---

[1] Чорны К. Зямля, с. 262.

К. Чорны паказвае, як людзі перарабляюць, змяняюць зямлю.

У адпаведнасці з жыццёвай праўдай пісьменнік многія пейзажныя малюнкі разгортвае ў дзейныя карціны масавай калектыўнай працы.

«Чыстае неба спускалася на гэты зялёны ўзгорак, увесь купчасты ад хмызнякоў... Налева ледзьве відна была хатка. Паміж ёю і абрывам, на вялікай разлегласці ўсяго ўзгорку (кіламетраў паўтара), варушыліся чалавечыя постаці. Іх было многа. Дзе-нідзе яны былі па некалькі чалавек, часта — вялікім гуртам... Беспярапынна спускаліся ўніз і падымаліся ўгору прымацаваныя к канатам бочкі і звычайныя ручныя насілкі, падаючы на рыштаванні цэглу і гліну» [1] і г. д.

Нярэдка пісьменнік карыстаецца пейзажам для таго, каб глыбей і ярчэй выявіць пачуцці чалавека. Пейзаж, такім чынам, дапамагае вырашаць важную задачу глыбокага раскрыцця вобраза.

Вось як у рамане «Вялікі дзень» пейзажным малюнкам выяўляе пісьменнік псіхалогію ворага Клебера: «Пачынаўся дзень. На ўсходзе, праз рэдкае хвойнае стволле, ён убачыў на небе агністае святло: маладое сонца стаяла над краем зямлі і плыло ўгару, і здавалася, што яно стаіць на адным месцы і толькі змяншаецца яго круг. Клебер не быў ні лірык, ні рамантык, і асабліва тут. Перад ім была зямля, якую ён упершыню бачыў, хоць пра якую і вельмі многа чуў раней... Лес, які быў навокал яго, не вабіў яго... Абочынамі дарогі пачалі ісці групы чырвонаармейцаў: стомленыя, ішлі адзін за адным. Пасля зноў прайшлі жанчыны з дзецьмі. Клебер глядзеў на ўсё гэта, як на цэль, у якую трэба было б страляць, каб ён быў тут у іншых умовах» [2].

Цяжка паранены ў плячо пры абароне Брэста Уладзімір Вялічка, убачыўшы каля сябе расліну, якая спадабалася яму, пачынае думаць аб тым, што варожая навала прынесла смяротную пагрозу ўсяму самаму роднаму і дарагому. Вялічка з новай сілай адчувае, як моцна звязаны ён з роднай краінай.

Часам Чорны ўжывае пейзаж як паэтычную паралель чалавечым пачуццям. Алесь (раман «Зямля») ад-

---

[1] Чорны К. Трэцяе пакаленне, с. 157.
[2] Чорны К. Выбраныя творы, с. 395—396.

чувае, што яго каханая дзяўчына Ганна пачынае быць абыякавай да яго, і гэта выклікае ў хлопца трывогу. Адчуванне страты кахання пісьменнік узмацняе пейзажам позняй восені. Той дзень, калі Алесь адчуў, што Ганна ўжо не любіць яго, быў «адным з апошніх цёплых дзён». Павевы блізкіх халадоў, голыя дрэвы ў садах, асенні вецер — усё гэта адпавядае настрою Алеся.

Трэба таксама адзначыць, што пейзаж у творах Чорнага часам удзельнічае ў руху сюжэта, у развіцці інтрыгі. Тварыцкі працуе каля хвойнага лесу, пасярод якога цячэ рэчка. Крык мноства варон над лесам прыцягвае ўвагу Тварыцкага, ён ідзе ў лес і знаходзіць труп Седаса. Гэтым малюнкам завязваецца інтрыга ў другой частцы рамана «Трэцяе пакаленне».

Чорны неаднойчы выкарыстоўвае пейзаж для ўзмацнення інтрыгі. Спрабуючы высветліць абставіны загадкавай гісторыі з забойствам Седаса, Тварыцкі пільна аглядае лясныя мясціны, па асобных адзнаках — зламаны сук алешыны, патаптаны мох і г. д.— разгадвае некаторыя акалічнасці драмы. Але разгадаць удаецца яму далёка не ўсё. Ён напружана думае над тым, што ўбачыў, ён заінтрыгаваны. Заінтрыгаваны і чытач.

Такім чынам, роля пейзажу ў творах Чорнага і значная, і разнастайная. Прырода — вельмі важная частка вялікага творчага свету выдатнага пісьменніка беларускага народа.

*1946—1948*

## АГНІ НАД РУІНАМІ

Багата якім салдатам і афіцэрам Трэцяга Беларускага фронту, мабыць, добра помніцца невялікая беларуская вёска Судзілавічы. Яна размешчана каля вялізнага Асінаўскага балотнага абшару. У дні, калі ішла вялікая бітва за Беларусь, гэтая вёска больш за паўгода была «нічыёй» зямлёй. Помным чэрвеньскім днём 1944 года, калі пачаўся славуты пяты ўдар, Судзілавічы былі першым населеным пунктам, у які ўвашлі нашы танкі і стралкі.

Страшны малюнак убачылі салдаты. Вёска была так разбурана, што амаль немагчыма было вызначыць тое месца, дзе некалі стаялі хаты. У вёсцы не ўцалела ні адной пабудовы, ні аднаго дрэўца. Ніхто не выйшаў насустрач байцам, у вёсцы не было ні аднаго жыхара — гітлераўцы часткай пагналі іх у няволю, часткай знішчылі. Здавалася, вёска сцёрта з зямлі назаўсёды.

Нядаўна мне давялося пабыць у Судзілавічах зноў. Я не пазнаў знаёмых мясцін. Там, дзе чатыры гады таму быў перарыты снарадамі і мінамі пустыр, стаялі ў два рады хаты. Яны былі, можа, часам малаватыя і не зусім дабудаваныя, але гэта былі сапраўдныя хаты. Палі, дзе некалі, закапаўшыся ў зямлю, стаялі нашыя войскі, залаціліся спелым жытам, зелянелі бульбоўнікам. Толькі акопы і хады злучэння, якія сустракаліся ўсюды на ўзлессі і ўзболатку, нагадвалі аб нядаўнім.

Калі я думаю пра Беларусь, мне часта згадваецца гэтая вёсачка. Ёсць нешта сімвалічнае ў яе вобліку, у яе лёсе. Дзе б вы ні былі на Беларусі, вы ўсюды ўбачыце яшчэ акопы — у лясах, у пясках, у балотах, яны паўзасыпаліся, затравелі. Яшчэ можна бачыць горы ламачча на ўзлессях пад Бабруйскам, дзе ў катле кіпелі нямецкія палкі. Яшчэ на цэлыя кварталы страшэннымі ранамі зеўраюць пустыры ў Гомелі, Оршы, Віцебску.

У пейзажы Беларусі цяпер вельмі багата кантраstaў, але ў ім з кожным днём усё шырэй, усё ярчэй вылучаюцца колеры будоўлі, колеры жыцця. І ўсё менш рэжуць вочы жахлівыя сляды разбурэння.

Зроблена ўжо шмат. Адноўлены тысячы прадпрыемстваў; праз зашклёныя вокны чуецца неўтаймаваны гул машын; над абшарамі часам клічуць заводскія гудкі, і на іх голас спяшаюцца да ўваходных варот заклапочаныя натоўпы рабочых... Ужо амаль няма ў Беларусі зямлянак. Адбудаваны сотні тысяч новых дамоў. У трох лясных раёнах Палесся — Лельчыцкім, Капаткевіцкім, Даманавіцкім — гітлераўцы ад бяссільнай злосці супраць партызан спалілі амаль усе вёскі, знішчылі ўсе калгасныя пабудовы. Цяпер на месцы папялішчаў зноў стаяць хаты. Палі, спустошаныя вайной і зарослыя бур'яном і пустазеллем, зноў заараны і засеяны.

Дзве галоўныя рысы аднаўлення, якое разгарнулася ў нас, кідаюцца ў вочы — гэта хуткія тэмпы і вялізныя маштабы працы. Аблічча шмат якіх месц мяняецца літаральна на вачах. Прычым характэрна, што тэмпы будоўлі з кожным годам растуць.

Аднаўляючы, у нас не паўтараюць таго, што было да вайны. Рабочыя, калгаснікі хочуць бачыць свае заводы, фабрыкі, калгасы лепшымі, больш магутнымі і больш дасканалымі, чым да вайны. Рабочыя гомельскага станкабудаўнічага завода імя Кірава ганарацца тым, што ліцейны цэх цяпер у два разы мацнейшы, чым да вайны. Абсталяванне ў ім таксама лепшае, самае новае. У Беларусі пабудаваны і будуюцца прадпрыемствы, якіх ніколі раней не было ў нас. Асаблівай пашанай у нас карыстаюцца Мінскі аўтамабільны і трактарны заводы. Гэта наш гонар. У будаўніцтве іх бярэ ўдзел увесь народ. У цэхах і карпусах заводаў можна сустрэць хлопцаў і дзяўчат з любога раёна рэспублікі. Аўтазавод асвойвае новыя складаныя вузлы. Нядаўна скончана падрыхтоўка да выпуску задняга моста. Цяпер на чарзе — рэдуктар. На трактарным заводзе пачалі серыйны выпуск пускавога матора. У пачатку наступнага года пачнецца масавы выпуск дызеляў. Хутка самазвалы МАЗ-205 Мінскага аўтазавода і беларускія трактары выйдуць на дарогі і палі краіны.

Такія поспехі былі магчымы толькі таму, што аб Беларусі ўвесь час клапоціцца ўрад нашай краіны, што

ёй дапамагаюць братнія народы. Новым прыкладам клопатаў аб беларускім народзе з'яўляецца пастанова Савета Міністраў СССР «Аб мерах дапамогі сельскай гаспадарцы Беларускай ССР у 1949 годзе». Пра яе ж сведчаць шматлікія эшалоны, якія штодня ідуць па нашых дарогах з Масквы і Ленінграда, Урала і Каўказа. Ленінград і Масква, Грузія і Сібір удзельнічаюць у аднаўленні беларускай зямлі.

Па трамвайных маршрутах Мінска імчацца чырвоныя вагоны з надпісам «Працоўным Мінска ад працоўных горада Леніна». Гэта падарунак нашаму гораду ад гераічных ленінградцаў — красамоўны знак братняй салідарнасці. У Маскве вучыліся высокаму рамяству маладыя мінскія аўтазаводцы. Сталінград дапамог падрыхтаваць спецыялістаў для трактарнага завода. Мінскія будаўнікі спаборнічаюць з будаўнікамі Сталінграда. Нядаўна мы сустракалі дэлегацыю сталінградцаў у нас у Мінску. Яны вельмі ўважліва знаёміліся з поспехамі нашых будаўнікоў. Сталінградцы адчувалі сябе не толькі гасцямі, але і гаспадарамі — яны ўсё па-гаспадарску ўзважылі, далі каштоўныя заўвагі мінчанам. Праўда, і сталінградцы павучыліся таму-сяму ў нас... Можна было б прывесці багата прыкладаў усенароднай увагі да Беларусі.

У працы выраслі новыя героі. Народ, які паказаў вялікую мужнасць у партызанскіх бойках, не страціў сваёй славы ў працы, у будаванні.

У гэтыя гады мужнасць была часам не менш неабходна, чым на вайне. Нялёгка было аднаўляць на спустошанай зямлі. Рабочым даводзілася манціраваць першыя станкі пад адкрытым небам, у злыя зімнія халады і ў асеннія дажджы. У калгасах часта насенне збіралі па зярняці, мяшкі з насеннем насілі ў поле на сабе, не было коней.

Герояў багата. Немагчыма ў невялікім артыкуле не толькі расказаць аб іх, але нават пералічыць. Ёсць сярод іх імёны, якія вядомы на ўсю Беларусь, але многіх ведаюць толькі свая вобласць, свой завод, свой цэх. Гэта і зразумела, таму што гераічных учынкаў так многа, што запамінаюцца толькі самыя выдатныя.

У перадсвяточныя дні мне пашчасціла пабыць на буйнейшай у рэспубліцы папяровай фабрыцы «Герой

працы». Гэтая фабрыка адна з перадавых, яна датэрмінова, да 18 лістапада, выканала гадавы план. Тут, як і на другіх фабрыках, вельмі шануюць лепшых людзей. Няхай ведаюць пра іх толькі ў фабрычным калектыве, але гэта сапраўдныя героі. Многа слаўных спраў у гэтых, на першы погляд, непрыкметных людзей. Майстар папяровых машын Цярэнцій Кузьміч Бізюк працуе на «Героі працы» амаль дваццаць год. У час вайны, калі немцы наблізіліся да Добруша, ён эвакуіраваў свае машыны ў тыл. Там усе гады вайны майстар думаў пра родную фабрыку, клапатліва бярог свае машыны. І калі горад быў вызвалены, зноў вярнуўся з імі на «Героя працы». Фабрыка была ў руінах. Яшчэ над цэхам не было даху, а абсталяванне, якое захаваў т. Бізюк, было зноў устаноўлена. Цэх папяровых машын пачаў жыць. Зараз т. Бізюк адзін з лепшых стаханаўцаў завода.

У цэху каландравых машын выдатна працуе 62-гадовы майстар Сямён Аляксеевіч Садоўнікаў. Ён пенсіянер, але хіба ён мог сядзець склаўшы рукі, калі быў так неабходны на фабрыцы. Як толькі ў горад увайшлі савецкія байцы, ён заспяшаўся на пусты фабрычны двор. Стары майстар разам з моладдзю мужна перанёс усе цяжкасці першых месяцаў аднаўлення, не шкадаваў сілы, працаваў. Нядаўна міністр узнагародзіў С. А. Садоўнікава значком выдатніка сацыялістычнага спаборніцтва.

Такіх людзей на фабрыцы многа. Іх нямала на кожным заводзе, у кожным калгасе. Дзякуючы іх працы, іх гераізму Беларусь паўстае з руін, упэўнена ідзе насустрач будучыні.

У гэтым годзе ў Мінску пачалося будаўніцтва новай Савецкай вуліцы. Новая Савецкая зменіць аблічча горада, зробіць яго прыгажэйшым. Новая магістраль зусім не падобна на вузкую крывую вуліцу, якая была раней. Шырокі, саракавасьміметровы бетаніраваны праспект у цэнтры горада прамы, як страла. На ім пакуль толькі некалькі новых будынкаў ды рад стройных прыгожых мачт для ліхтароў. Яшчэ вакол яго груды руін, што адгароджаны платамі.

Але ў горадзе ўжо стала прасторней, святлей. Па першых абрысах можна ўжо выразна ўявіць сабе будучыню гэтай прыгожай магістралі. Так па абрысах,

якія вырысоўваюцца сёння перад нашымі вачамі, можна ўявіць воблік будучыні Беларусі. Чым больш гэтых адзнак — новых пабудоў, тым ярчэй паўстае будучыня, выразней перспектыва. У вітрынах мінскіх магазінаў у перадсвяточныя дні выстаўлены эскізы будучых будынкаў. Мінчане збіраюцца перад імі, уважліва разглядаюць, абмяркоўваюць. Мы ведаем, што гэта хутка будзе зроблена, мы прымаем гэта часта не як мару, а як рэальнасць. У Беларусі цяпер асабліва любяць глядзець наперад. Мы жывём цяперашнім і будучым. У Акадэміі навук вучоныя нядаўна абмяркоўвалі план асушэння вялізных тэрыторый Палескай нізіны, выкарыстання яе багаццяў. Асушэнне балотных абсягаў на сотні тысяч гектараў павялічыць пасяўныя плошчы рэспублікі, зменіць аблічча Палесся. Наша рэспубліка вельмі бедная выкапнямі. У нас няма ні вугалю, ні нафты, ні жалеза. Але ёсць торф, ён нам замяняе вугаль. Торф рухае турбіны многіх нашых электрастанцый, у тым ліку і самай буйной — Асінаўскай ДРЭС. Яна была разбурана немцамі і цяпер адноўлена. У Беларусі пачаліся работы па стварэнню трох магутных энергасістэм: Мінскай, Усходняй і Паўднёвай, якія павінны забяспечыць фабрыкі, гарады і калгасы энергіяй.

Будуць працаваць для чалавека і рэкі. У Беларусі мноства рэк і азёр. Азёр асабліва багата на поўначы. Акаймаваныяляснымі берагамі, яны надаюць асаблівую прывабнасць беларускаму пейзажу. Многа ў нас рэк — звілістыя, бясконца пятляючы, павольна цякуць яны сярод палёў, лясоў, балот, нясуць свае воды ў Днепро, у Нёман, у Дзвіну. Рэкі будуць служыць будучыні. Ужо пачалося будаўніцтва буйных гідраэлектрастанцый: Асіповіцкай, Мсціслаўскай, Гарадзішчанскай. Будуць таксама пабудаваны тысячы дробных электрастанцый для саўгасаў і калгасаў. Яны дадуць святло 2500 калгасам.

Землі нашы няшчодрыя на ўраджай, ім патрэбны руплівы догляд, багата ўгнаення. Калгаснікі старанна абрабляюць палі, даюць зямлі ўсё неабходнае. Цяпер усюды можна бачыць, як па зімняй дарозе цягнуцца фурманкі, нагружаныя торфам. Калгаснікі рыхтуюцца да вясны.

Людзі жывуць думкамі і сэрцам у будучыні. Гэта да яе імкнецца майстар дрэваапрацоўчага цэха Мінскага аўтазавода В. Сафронаў, які 22 кастрычніка скончыў

восьмую гадавую праграму. Зараз т. Сафронаў працуе за 1956 год. Ліцейшчыкі Добрушскай папяровай фабрыкі да Дня Канстытуцыі скончылі выкананне пяцігодкі.

Начамі ў сталіцы Беларусі відаць, як за горадам у цемры снежаньскага неба палае трапяткое зарыва. Гэта — аўтазавод. Лявей яго зіхаціць агнямі трактарны. Усю ноч, ад вячэрніх прыцемкаў і да раніцы, гараць агні. Днямі і начамі працуюць заводы.

Таксама напружана жыве і ўся рэспубліка. Яна ідзе да будучыні. Яшчэ няма трактараў на Мінскім трактарным. Але яны будуць. Яшчэ не на ўсю магутнасць адноўлена Асінаўская ДРЭС. Яна будзе адноўлена поўнасцю. Яшчэ ў гарадах руіны. Іх неўзабаве не будзе...

Будучыня! Яна зіхаціць перад намі, як агні аўтазавода і трактарнага. Яна кліча, вабіць да сябе. Яна ўдзень і ўначы няспынна гарыць у сэрцы беларускага народа, які жыве клопатам вялікага будавання.

*1949*

## ІДЭАЛЬНЫ ВОБРАЗ РУСКАГА ПІСЬМЕННІКА

Сто гадоў назад, 27 ліпеня 1853 года, у Жытоміры нарадзіўся выдатны рускі пісьменнік Уладзімір Галакціёнавіч Караленка.

Караленка пачаў друкавацца ў 1878 годзе і да апошніх дзён свайго цяжкага і багатага вынікамі жыцця, да 1921 года,— больш за 40 гадоў — нястомна, аддана служыў на карысць і на славу вялікай рускай літаратуры.

40 гадоў яго творчай і грамадскай працы з'яўляюцца адной з самых яркіх і самых прывабных старонак літаратуры. «Усё жыццё,— пісаў А. М. Горкі,— цяжкім шляхам героя, ён ішоў насустрач дню, і немагчыма злічыць усё, што зрабіў Караленка для таго, каб паскорыць світанне гэтага дня».

Караленка пачаў сваю творчасць тады, калі Расія перажывала жорсткую пару рэакцыі,— яго мужны, поўны глыбокай веры ў народную сілу голас, голас, які не маглі ні задушыць, ні заглушыць царскія турмы, доўгія гады ссылак, быў тым светлым клічам, які ў змроку ночы клікаў наперад і прарочыў за змрокам ясны дзень будучыні.

Праз усё сваё жыццё пранёс пісьменнік вялікую сыноўнюю любоў да народа, любоў да простага чалавека і высакародную нянавісць да ўсялякай несправядлівасці, да ўсяго, што гне і калечыць чалавека. У апавяданнях, нарысах, аповесцях — «Сон Макара», «Рака гуляе», «Без языка», «Сляпы музыка», у многіх і многіх іншых — і ў сваім галоўным творы «Гісторыя майго сучасніка» пісьменнік паўстае перад намі як шчыры друг гаротных, калечаных жыццём, як іх смелы і надзейны абаронца. Караленка ў адрозненне ад многіх сваіх папярэднікаў праўдзіва паказаў, што гэты просты, прыгнечаны чалавек церпіць толькі да пары, што ў ім жыве, не гасне бунтарская іскра.

Нельга не дзівіцца таму, як шырока, разнастайна

цячэ жыццё ў творах пісьменніка, як многа з'яў сучаснай яму рэчаіснасці здолеў ён заўважыць і ўвекавечыць. Родная яго Валынь з нашым родным Палессем, прастор Паволжа, суровы, своеасаблівы, неабсяжны мацярык, амаль невядомы датуль рускай літаратуры — Сібір, блізкая Румынія і далёкая, бязлітасная, жорсткая да чалавека працы Амерыка, якую пісьменнік, можна сказаць, па сутнасці, адкрыў мастацкай рускай прозе,— вось тыя прасторы, на якіх жывуць, пакутуюць і мараць яго героі, тыя прасторы, непаўторным пахам, каларытам якіх вее ад твораў выдатнага чалавеказнаўцы і жывапісца.

Творы Караленкі вельмі разнастайныя не толькі па тэматыцы, але і па стылю, і па жанрах.

Але Караленка дарагі нам не толькі як майстар, які стварыў многа праўдзівых апавяданняў і аповесцей, мы вельмі цэнім і яго высакародную грамадскую і публіцыстычную дзейнасць.

Караленка быў узорам пісьменніка, у якім непадзельна зліты літаратар і грамадзянін у самым лепшым значэнні гэтых слоў. Караленка не прайшоў міма ні адной падзеі, якая, на яго думку, на меру яго сумлення, патрабавала яго ўмяшання. Трэба толькі прыгадаць такія факты гісторыі, як Мултанскі працэс, справы Бейліса і Філонава, выступленне супраць царскіх распраў у гады рэакцыі — у артыкуле «Бытавая з'ява», які Леў Талстой лічыў важнейшым за любы трактат і любы раман.

Караленка — пісьменнік-патрыёт. Інтарэсы Радзімы, любоў да Радзімы былі тым вялікім жыватворным цяплом, якое сагравала яго ў самую цёмную пару і памнажала сілу ў слаўнай яго працы.

У 1893 годзе, падарожнічаючы за мяжой, па Англіі, Швецыі, Амерыцы, ён пісаў: «Бог з імі, з Еўропамі і Амерыкамі! Няхай сабе працвітаюць на здароўе, а ў нас лепш! Калі мы (Караленка з прыяцелем) ехалі спачатку, усё адзначалі, што лепш у другіх народаў. А цяпер усё шукаем, што лепш у нас. І многа ў нас лепш. Лепш рускага чалавека, яй-богу, няма чалавека на свеце».

Такі ў асноўных рысах воблік Уладзіміра Галакціёнавіча Караленкі, выдатнага чалавека — працаўніка, дэмакрата, грамадзяніна,— чалавека, які быў, па словах Горкага, ідэальным вобразам рускага пісьменніка.

1953

# НАШ РАМАН І ЯГО КРЫТЫКІ

Таварышы! На з'ездзе пісьменнікаў — у дакладзе П. Броўкі і ў некаторых выступленнях — правільна адзначалася, што адной з самых радасных з'яў нашай працы за перыяд між двух з'ездаў ёсць развіццё рамана. Раман заняў віднае месца ў нашай літаратуры, узбагаціў нашу літаратуру, крануў у літаратуры новыя пласты жывога жыцця, адкрыў нябачныя яшчэ некалькі год назад прасцягі і далягляды.

Нашы поспехі ў гэтай галіне асабліва радасныя таму, што мы штурмуем адну з самых цяжкадаступных вяршынь мастацтва.

Я тут хацеў бы перш за ўсё адзначыць такія творы нашай прозы, як «Сустрэнемся на барыкадах» П. Пестрака і «Векапомныя дні» М. Лынькова — творы, у якіх пісьменнікі паставілі і вырашылі асабліва складаныя задачы. Чытачы, а вельмі часта і літаратары, якія не любяць задумвацца над тым, што значыць напісаць той ці іншы твор, бачаць толькі тоўстыя кнігі з многімі старонкамі і не хочуць бачыць за гэтымі старонкамі многіх і многіх — куды больш шматлікіх — дзён упартай працы, пакутлівых сумненняў, роздуму, нецярплівых пошукаў, блуканняў з поспехам і без поспеху, хвілін і дзён вялікай радасці ўдач і гора няўдач. Вельмі шкада, што мы часта не ўмеем бачыць гэта.

Паяўленне такіх раманаў, як «Векапомныя дні» і «Сустрэнемся на барыкадах», вялікіх эпічных палотнаў — з'ява не выпадковая. Аб тым, што хацеў напісаць і напісаў Пестрак ці Лынькоў, можна было расказаць па-сапраўднаму — шырока, маштабна, глыбока — толькі ў вялікім жанры, толькі ў эпапеі. Вялікія гістарычныя падзеі з жыцця нашага народа — Айчынная вайна і дваццацігадовая барацьба беларусаў заходняй часткі нашай краіны за ўз'яднанне — чакалі сваіх гісторыкаў, чакалі людзей, якія б раскапалі тое незвы-

чайнае багацце вельмі важнага, некранутага матэрыялу, якія б праўдзіва расказалі аб думках, радасцях і горы не аднаго-двух чалавек, а народа, далі шырокую карціну вялікіх гістарычных з'яў з жыцця народа, з'яў, у якіх удзельнічалі масы людзей і якія вырашалі лёс гэтых людзей на многія гады.

Трэба разам з тым сказаць, што нашы раманісты не былі тут пачынальнікамі зусім новых дарог. Яны выступілі як прадаўжальнікі той традыцыі, якую яшчэ ў даваенныя часы распачалі Якуб Колас і Кузьма Чорны. Хіба «Новая Зямля» — твор, які, дарэчы, можна з поўным правам лічыць раманам у вершах і які як вершаваны твор па грунтоўнасці сваёй не мае нічога роўнага не толькі ў беларускай, але і ў многіх братніх літаратурах,— хіба «Новая Зямля» не з'яўляецца бясспрэчным узорам эпічнага твора? А прыгадайце, як марыў Кузьма Чорны стварыць мнагатомную эпапею гісторыі беларускага народа — задуму, якую ён ажыццявіў толькі часткова.

Шкада, што наша крытыка не зразумела ці не хацела зразумець *сутнасці* з'яўлення ў нас новых эпічных твораў, што яна не змагла правільна асэнсаваць гэтыя творы. Нашым крытыкам, наогул, яшчэ нярэдка не хапае ўменне падняцца над асобным фактам, звязаць гэты факт з іншымі, глянуць на яго як на з'яву няспыннай гістарычнай плыні. А калі яны і бяруцца за гэта, то, не маючы дастатковых шырыні і глыбіні поглядаў, робяць важную справу вельмі павярхоўна і вельмі прыблізна, а таму і без належнай аб'ектыўнасці.

Мне здаецца, што памылка, якую зрабіў здольны крытык Палітыка ў сваім артыкуле ў «Звяздзе», у якім ён разбірае раман Пестрака, тлумачыцца тым, што наша крытыка яшчэ ці слаба разумее, ці не ўлічвае асаблівасці вялікай эпічнай прозы. Тав. Палітыка дакарае Пестрака: «Часам здаецца, што сюжэтным цэнтрам стане лёс аднаго з галоўных герояў — Андрэя Касцевіча, але ўжо праз рад старонак адбываецца дэцэнтрацыя — Андрэй Касцевіч адсоўваецца на другі план, і ў цэнтры папераменна становяцца то Паддубны, то таварыш Васіль, то Вера, то нават Апанас Хмель».

Мне думаецца, што гэты тэзіс тав. Палітыкі няправільны.

Леў Талстой у дзённіку за 1876 г. пісаў: «Каб твор

быў добрым, трэба любіць у ім галоўную, асноўную думку. Так у «Анне Карэнінай» я люблю думку *сямейную,* у «Вайне і міры» любіў думку *народную»*.

Нетрываласць закідаў тав. Палітыкі, на мой погляд, якраз тлумачыцца тым, што ён, ацэньваючы раман, не ўлічвае галоўную думку аўтара. А галоўная думка Пестрака, думка, якая пранізвае ўвесь твор, гэта, карыстаючыся выразам Талстога,— *«мысль народная»*. Іменна гэтым тлумачыцца тое, што ў цэнтры твора становіцца то Андрэй, то Паддубны, то іншыя прадстаўнікі народа, рэвалюцыйнага падполля, якія і дапамагаюць аўтару стварыць шырокую карціну сапраўды народнага руху за вызваленне, за ўз'яднанне з савецкай краінай.

Дзе пісаны такія законы, што ў цэнтры эпічнага твора павінен стаяць абавязкова *адзін* герой, што ўсё дзеянне павінна групавацца вакол адной асобы? Мне здаецца, што эпічны раман часта даказвае якраз адваротнае. Сапраўды, калі цэнтральным героем, напрыклад, «Ціхага Дона» мы можам, з рознымі агаворкамі, яўна збядняючы змест і сэнс эпапеі, лічыць Грыгорыя Мелехава, то паспрабуйце адказаць, хто галоўная дзеючая асоба «Вайны і міру» — Андрэй Балконскі, П'ер Бязухаў, Наташа Растова ці мудры, дзіўнаваты фельдмаршал Кутузаў?

Далей — тав. Палітыка папракае Пестрака за тое, што «ў аўтары нібы змагаюцца гісторык і мастак». Мне здаецца, што папрок гэты таксама неправамерны, бо гістарычна-пазнавальная вартасць кнігі не можа зніжаць яе вартасць як мастацкага твора. Хіба, напрыклад, у «Блуканні па пакутах» таксама не змагаюцца гісторык і мастак, па выразу тав. Палітыкі?

Я гавару аб гэтым таму, што няяснасць такіх пытанняў замінае нам у працы, а бывае, што можа і дэзарыентаваць пісьменніка. На жаль, мы ў Саюзе рэдка спрачаемся, дыскутуем аб праблемных пытаннях пісьменніцкага майстэрства, аб законах жанру, напрыклад, мнагапланавага рамана — інакш кажучы, аб тэарэтычных праблемах. А пагаварыць аб гэтым трэба.

Варта было б абмеркаваць і такое пытанне. У нас крытыкі нярэдка папракаюць пісьменніка за публіцыстычнасць, за інфармацыйнасць асобных абзацаў —

пры гэтым не ўлічваецца тое, якую задачу мае той ці іншы выраз, абзац.

Той-сёй з крытыкаў нашых як бы забывае, што ў творы ўсё павінна быць мэтазгодна. Што пісьменнік павінен быць эканомным. Ён не павінен затрымліваць увагу чытача непатрэбнымі для агульнай задумы падрабязнасцямі, дэталямі — вось тут і прыходзіць на дапамогу інфармацыя. Яна ўжываецца не таму, што пісьменнік, як думаюць некаторыя здагадлівыя людзі, проста не мог развіць выраз у цэлы раздзел, а таму, што такі раздзел пісьменніку непатрэбен.

Я гавару пра такую простую рэч таму, што яна ў нас не ўсім яшчэ зразумела. Мяне адзін рэцэнзент у «закрытай» выдавецкай рэцэнзіі, напрыклад, папракаў у тым, што я ў рамане павярхоўна, скупа намаляваў Бабруйскую аперацыю, дакараў, што «аўтар збіваецца на інфармацыйны тон».

Я павінен сказаць, што ў мяне было многа матэрыялаў пра Бабруйскую аперацыю, на цэлую аповесць, але я ўсё ж стрымаўся, каб не адхіляцца ад галоўнага, не парушаць кампазіцыю.

Нядаўна я прачытаў запісныя кніжкі П. Паўленкі, апублікаваныя ў «Знамени», і звярнуў увагу на такую нататку: «Да рамана («Працаўнікі міру»). У кожны раздзел трэба абавязкова ўводзіць інфармацыю палітычную, ці ў выглядзе эпіграфа, ці ўнутранага тэксту». Згодзен з гэтым: там, дзе ідзе размова аб гісторыі, дзе, гаворачы пра людзей, развіваючы сюжэт, неабходна маляваць гістарычную абстаноўку, інфармацыя проста неабходна.

Пісьменнік не толькі мае права, а і павінен усё браць на ўзбраенне. Мы не можам адмаўляцца і ад добрай публіцыстыкі і ад інфармацыі, якая, вядома ж, патрэбна там, дзе трэба адным-двума-трыма сказамі сказаць многае. Хацелася б, каб пра гэта падумалі тыя, хто інфармацыі наогул адмаўляе ў праве жыцця ў мастацкім творы.

Тут не выпадкова так многа горкіх слоў сказана ў адрас крытыкі. Як ні прыкра гэта, наша крытыка пакуль што далёка не ўзнялася на ўзровень іншых жанраў літаратуры. Няправільна думаць, што ў нас гавораць столькі непрыемнага пра крытыку таму, што не любяць яе. Кожны з пісьменнікаў рад быў бы паслухаць разумнае, справядлівае слова крытыка, які зразу-

меў бы яго, дапамог бы яму, дапамог бы чытачу лепш зразумець твор.

Але, на жаль, такое слова даводзіцца чуць пакуль вельмі рэдка. Вазьміце бадай любы значны твор нашай прозы і вы, прыгадаўшы гісторыю яго станаўлення, абавязкова знойдзеце які-небудзь крыўдны, несправядлівы выпад супраць яго. Тут гаварылі пра раман Пестрака, пра Шамякіна, можна было б далучыць да гэтага і нямала іншых твораў. Думаючы пра тое, як некаторыя творы прабівалі сабе шлях у літаратуры, мімаволі ўспамінаеш жарт вялікага рускага пісьменніка: «*Нягледзячы* на ўсе намаганні ўрачоў, хворы выздаравеў».

Праўда, выздаравелі не ўсе. Не ва ўсіх аўтараў хапіла цвёрдасці, перацярпеўшы ўдар, паправіўшы, што трэба, прадоўжыць працу над карысным творам. У свой час В. Вольскі працаваў над аповесцю пра жлобінскіх маладагвардзейцаў «Высокі бераг». Пасля разносу, зробленага ў нашай дарагой «Літаратуры і мастацтве», пісьменнік паставіў кропку на творы. На творы, у якім было разам з дрэнным і нямала карыснага. Паставіў кропку і падаўся зноў у фальклор, за які яго хваліў Пракоф'еў,— у свет казак і легенд, у царства зуброў — нетры Белавежскай пушчы. Я не спрачаюся з тым, што ў аповесці былі значныя недахопы, але іх можна было і трэба было выправіць, і трэба было дапамагчы аўтару зрабіць гэта, давесці да ладу патрэбны, патрыятычны твор.

Нашы крытыкі, беручыся за справу, здаецца мне, не заўсёды помняць пра адказнасць за сваю працу. Не заўсёды крытыкамі нашымі, здаецца мне, кіруе імкненне да пазнання ісціны, да правільнага разумення сэнсу той ці іншай літаратурнай з'явы.

Дзіўныя рэчы часамі здараюцца з некаторымі таварышамі, такія дзіўныя, што проста немагчыма зразумець, чаму яны развучыліся чырванець у адпаведных выпадках. Тав. Бурносаў калісьці прачытаў у рукапісе раман «Мінскі напрамак» і з абурэннем накінуўся на аўтара за тое, што ён разам з іншымі героямі вывеў вобраз танкіста-гандляра: «Калі ты дасі такі вобраз, я першы цябе разнясу! — сказаў ён мне з пагрозай.— Гэта паклёп!» Праз тыдні два, калі пачалося наступленне супраць тэорыі бесканфліктнасці, ён зноў спат-

каў мяне і кажа: «Не выкрасліў?» — «Не».— «Глядзі. Будзеш лакіраваць — разнясу!»

І хоць бы пачырванеў, хоць бы задумаўся!

Нельга так, нельга быць флюгерам, які ўвесь час мяняе напрамак, ледзь падзьме ветрык з іншага боку.

Хочацца сказаць яшчэ пра адно, пра нашу *пісьменніцкую прынцыповасць*. Іншы раз даводзіцца чуць скаргі: я напісаў бы добра, але не дала крытыка: збілі з толку, не далі напісаць так, як хацеў, як лічыў праўдзівым.

Што крытыка перашкаджае часта — гэта горкая праўда, але хочацца сказаць і пра іншае: хіба ж можна мяняць так погляды ў залежнасці ад таго, што нехта скажа, напіша? Дзе ж наша перакананне ў сваёй праўдзе, прынцыповасць, якая і робіць лепшыя творы нашай літаратуры значнымі і важнымі? Успомніце, як адстойваў свой «Ціхі Дон» М. Шолахаў, якія атакі вытрымаў ён, аберагаючы свой твор,— вытрымаў, збярог у вельмі цяжкай барацьбе, паказаў мужнасць і сумленнасць, якія ўровень яго таленту!

На кнізе стаіць прозвішча аўтара. На кожнай з нашых кніг стаяць нашы імёны, і — будзем жа несці святую адказнасць за гэтыя імёны, за іх годнасць!

Некалькі слоў пра тую галіну літаратуры, якую называюць «ваеннай тэмай». Мяне турбуе прыкметны халадок у адносінах да ваеннай тэмы з боку нашых выдаўцоў. Не магу сэрцам згадзіцца, што літаратура пра нядаўнюю вайну — гэта нешта другараднае, непатрэбнае, з'ява толькі гісторыі.

Мы жывём у час, калі над светам віснуць чорныя хмары, калі многія паведамленні з-за мяжы пахнуць порахам. Чаму перад вайной творы пра армію, пра баявое геройства былі ў пашане, як творы найважнейшыя, чаму яны ў такой непавазе цяпер?

Мы, выступаючы за мір, павінны рыхтаваць народ, моладзь да бітвы, павінны выхоўваць у моладзі баявы патрыятычны дух, імкненне да геройства ў імя Радзімы.

Кнігі пра вайну рана здаваць у архіў!

Тав. Кавалёў правільна тут гаварыў пра тое, што мы павінны рэкамендаваць нашы кнігі выдавецтвам Масквы для перакладу.

Я згодзен з гэтым: мы павінны рэкамендаваць кні-

гі выдавецтвам. Але я хацеў бы дапоўніць прамову тав. Кавалёва. Разам з нашымі рэкамендацыямі павінны рэкамендаваць сябе належным чынам і самі нашы кнігі. Я нават думаю: перш за ўсё — самі кнігі.

Мы жывём не адны. Мы працуем у сям'і літаратур. Гэта і дапамагае нам і павышае адказнасць, патрабаванні. Мы павінны быць на ўзроўні ўсесаюзнай літаратуры.

Мы не маем права пісаць горш, чым рускія, украінскія пісьменнікі.

Таму наша творчае правіла павінна быць такое: ніякіх скідак! Будзем вартыя саюзнай літаратуры, вартыя савецкага народа.

*1954*

# ВЯЛІКІ КЛОПАТ

У рабоце Другога ўсесаюзнага з'езда пісьменнікаў, мне здаецца, значная ўвага павінна быць удзелена пытанням мастацкага перакладу, у прыватнасці перакладу з моў братніх народаў на рускую мову. Гэта — заканамерна, таму што гады, якія прайшлі пасля Першага з'езда, характарызуюцца бурным ростам усіх жанраў нацыянальных літаратур нашай вялікай краіны — асабліва прозы, што ў цэлага шэрагу народаў і народнасцей набрала сіл іменна ў гэтае дваццацігоддзе. Той, хто сочыць за развіццём савецкай літаратуры, не мог не заўважыць, што ўсё найбольш значнае і цікавае, створанае пісьменнікамі на мове свайго народа, перакладзена на рускую мову, выдадзена ў Маскве, атрымала вялікага чытача, стала здабыткам усёй савецкай літаратуры.

За гэтыя гады назапашаны вялікі вопыт у справе перакладаў — вопыт, які, на жаль, яшчэ амаль не вывучаецца,— вырасла нямала майстроў — перакладчыкаў прозы, паэзіі, драматургіі. Многа і паспяхова папрацавалі над тым, каб данесці да чытачоў усёй краіны першародную свежасць і хараство беларускіх арыгіналаў, Міхаіл Ісакоўскі, Аляксандр Твардоўскі, Самуіл Маршак, Аляксандр Пракоф'еў, Яўген Мазалькоў, Якаў Хелемскі, Арсеній Астроўкі і іншыя таварышы, іх высакародная праца дала другое, большае жыццё шматлікім зборнікам вершаў, анталогіям, апавяданням і аповесцям пісьменнікаў Беларусі.

Цікава, што са значных рускіх пісьменнікаў перакладамі займаюцца толькі паэты — цяжка прыгадаць выпадак, каб узяўся за пераклад з беларускай мовы хто-небудзь з відных празаікаў. Чым гэта тлумачыцца, сказаць цяжка. Ці не праяўляюцца ў гэтым факце непераадоленыя, больш ці менш зняважлівыя адносіны да перакладу прозы як да справы простай, рамесніцкай?

Мне здаецца, у нас яшчэ мала цэняць добры пераклад празаічнага твора; відаць, іменна таму няшмат можна назваць добрых, па-майстэрску зробленых перакладаў беларускай прозы; са шматлікіх сінонімаў, якія перадаюць сэнс слова ў арыгінале, паспешліва запісваецца або — яшчэ часцей — без якога-небудзь напружання памяці дыктуецца машыністцы першае, што трапіла пад выпадак, сцёртае, прыблізнае. У выніку твор, захаваўшы вобразы і кампазіцыю, усё ж траціць мастацкую прывабнасць, становіцца дрэннай копіяй арыгінала.

Паказальна, што творчае супрацоўніцтва ў большасці беларускіх — ды і не толькі беларускіх! — празаікаў з тым ці іншым перакладчыкам звычайна спыняецца пасля першага вопыту сумеснай работы. Рэдка пакуль што ўзнікае трывалая творчая дружба. Аповесць Я. Брыля «У Забалоцці днее» перакладалі тры літаратары, але толькі апошні пераклад, зроблены А. Астроўскім, задаволіў аўтара і чытача.

Дарэчы, два пераклады з трох былі аўтарызаваныя. Гэта гаворыць пра тое, што сістэма аўтарызаваных перакладаў далёка не заўсёды дае добрыя вынікі. Дрэнны пераклад нельга зрабіць добрым аўтарызацыяй, яго можна толькі падправіць, трохі палепшыць. Лягчэй перакласці нанава, чым перарабляць дрэнную работу, да таго ж у аўтара часам для гэтага няма дастатковага ведання рускай мовы. Сістэма аўтарызацыі не апраўдвае сябе яшчэ і таму, што яна плодзіць безадказнасць, абязлічку, бо перакладчык, прыкрываючыся подпісам аўтара, фактычна адказвае за сваю работу толькі часткова.

Мне здаецца, карысным быў бы для павышэння якасці перакладаў такі парадак, пры якім лічылася б абавязковым ухваленне кнігі аўтарам, але ўсю адказнасць за якасць, за дакладнасць перакладу нёс бы перакладчык.

Вельмі добра было б, каб у рэдакцыях пераклады ўважліва рэцэнзаваліся людзьмі, якія ведаюць арыгінал, могуць зверыць яго з перакладам.

Добра было б, каб больш увагі якасці перакладу ўдзяляла наша крытыка, нашы органы друку. Ці ж гэта правамерна, што на старонках газет і часопісаў даўно не з'яўляліся артыкулы пра майстэрства перакладу з моў братніх народаў, артыкулы з падрабязным —

крэтным — разборам перакладу, з разборам удач і няўдач, памылак? Трэба сказаць, размова пра якасць перакладу з замежных моў, і размова сур'ёзная, узнімалася неаднойчы, а ўдумлівых, грунтоўных артыкулаў аб рабоце перакладчыкаў з украінскай, беларускай або грузінскай мовы даўно не было.

Нельга не адзначыць, што сустракаюцца факты самавольства і грубага гвалту над тэкстамі твораў. Некалькі гадоў назад Дзяржлітвыдавецтва выпусціла ў свет аднатомнік аднаго з лепшых пісьменнікаў Беларусі Кузьмы Чорнага. Гэта першае выданне, у якім зроблена спроба прадставіць пісьменніка ў розных жанрах, і можна было б вітаць выдавецтва, што зрабіла добры пачын, калі б кніга не была сапсавана некаторымі нядобраякаснымі перакладамі, адвольнымі скарачэннямі. Раман «Трэцяе пакаленне», які ў нас даўно ўжо стаў хрэстаматыйным, прызнаным за ўзор майстэрства своеасаблівага пісьменніка, у перакладзе М. Шамбадала перацярпеў такія «палепшанні», што стаў на адну трэць карацейшы і амаль зусім страціў арыгінальнасць стылю.

Усе гэтыя факты сведчаць пра тое, што з перакладчыцкай працай у нас яшчэ далёка не ўсё ў парадку, і добра было б, каб Другі ўсесаюзны з'езд пытанням перакладу мастацкай літаратуры ўдзяліў пільную ўвагу.

*1954*

## МЫ ПОМНІМ

Нам, і немаладым, і маладым людзям, добра знаёма аблічча вайны. Многія з нас бачылі, як палалі падпаленыя бомбамі, скінутымі з фашысцкіх бамбардзіроўшчыкаў, нашы вёскі і гарады, як за некалькі жахлівых хвілін бесчалавечна нішчыўся плён гадоў і нават цэлых стагоддзяў. Мы добра помнім, як душыць горла горкі ўедлівы дым на палаючых вуліцах, мы добра помнім, як родныя палі з залатым морам жытоў тапталі прагнымі гусеніцамі злавесныя варожыя танкі. І таму, што ўсё гэта ярка жыве ў нашай памяці, мы, як адзін чалавек, заяўляем тым, хто песціць і ўзбройвае зноў учарашніх забойцаў, што мы не прымірымся з іх крывавымі замысламі, з іх бесчалавечнымі намерамі, пад якой маскаю яны не хаваліся б.

Мы не просім міру. Мы патрабуем яго. Толькі недалёкія, не надзеленыя дастаткова розумам ваяўнічыя стратэгі на паперы могуць наіўна разлічваць, што нас можна запалохаць пагрозамі, націскам з пазіцыі сілы. Дэкларацыя, падпісаная ў Маскве міралюбівымі еўрапейскімі краінамі разам з Савецкім Саюзам, ясна паказвае ўсім любіцелям крывавых спраў, што народы Еўропы не дадуць больш ашукаць сябе дыпламатычнымі выкрутамі і ні ў якім разе не прымірацца з тым, каб зноў ажыў, узброіўся, узмацніўся люты фашысцкі звер, які прынёс мільёнам людзей нязмерныя пакуты і незлічоныя чалавечыя ахвяры.

Мы, людзі, якія дзесяць гадоў назад насілі ваенныя шынялі, помнім не толькі пажары і магілы забітых жанчын і дзяцей. Мы таксама помнім пыльныя гарачыя дарогі, што здрыгаліся ад магутнага поступу савецкіх танкавых злучэнняў, нябёсы, запоўненыя армадамі самалётаў з чырвонымі зоркамі, помнім артылерыйскія падрыхтоўкі, агонь якіх сціраў з зямлі самыя

дасканалыя гітлераўскія ўмацаваныя паясы. Мы помнім бясконцыя панурыя натоўпы зняверaных палонных захопнікаў, што пакорліва брылі па дарогах Міншчыны, пад Бабруйскам, у Прыбалтыцы. Мы помнім гэта і таму ведаем сваю сілу. Не шкодзіла, каб аб гэтым — пакуль не позна — успомнілі тыя, што пагрозна размахваюць зброяй у наш бок.

*1954*

# ВАКОЛ ПРЫВЫЧНЫХ ІМЁН

Тут вельмі правільна была ўдзелена такая вялікая ўвага цяжкасцям, якія перашкаджалі і яшчэ перашкаджаюць развіццю ваенна-мастацкай літаратуры. Пераадоленне перашкод на шляху гэтага роду літаратуры, безумоўна, павінна паслужыць справе новага ўздыму літаратуры на ваенныя тэмы.

З выступленняў прамоўцаў я адчуў, што становішча ў нас, на Беларусі, у гэтых адносінах вельмі падобна на становішча ў іншых рэспубліках. У нас таксама да апошняга часу літаратура пра вайну лічылася справай амаль непатрэбнай — яе неахвотна выдавалі, часопісы зачастую адмаўляліся такія творы друкаваць. Цяжкасці работы ў гэтай галіне мне добра вядомы па асабістаму вопыту. Першую кнігу майго рамана «Мінскі напрамак», пасля таго як яна была разаслана па магазінах, знялі з продажу, больш як паўгода трымалі на складах, без выразных прэтэнзій да аўтара, падобна, проста баючыся, «каб чаго не выйшла». Вельмі цяжка працаваць яшчэ і таму, што матэрыял, які нам патрэбны, не даследаваны, знаходзіцца ў недаступных архіўных схованках.

Але, адзначыўшы гэтыя і іншыя цяжкасці работы, мы, мне здаецца, недастаткова ўвагі ўдзялілі станоўчаму вопыту работы вялікай групы літаратараў, прычым размова вялася амаль выключна вакол твораў, якія ўжо атрымалі прызнанне ў чытача і крытыкі. На выстаўцы ў вестыбюлі можна ўбачыць нямала кніг новых аўтараў, невядомых або малавядомых, а тут, у гэтай зале, іх быццам і не ўбачылі. Мы прайшлі міма іх, не знайшлі часу для іх. Некаторыя, праўда, як, напрыклад, т. Рудны, гаварылі і пра гэтыя кнігі, т. Рудны казаў пра Пікуля, пра яго кнігу, але, на жаль, мімаходзь, скупа. Сапраўднай, сур'ёзнай размовы пра гэтую кнігу, як і пра многія, да яе падобныя, не адбылося. Размова вялася ўсё вакол вядомых, прывычных імён.

Яшчэ больш сур'ёзны папрок нашай нарадзе можна зрабіць вось у чым. Тут гаварылі пра ненармальна слабыя сувязі з літаратурамі краін народнай дэмакратыі, пра неабходнасць узмацнення іх. Правільна гаварылі. Але, на жаль, мы маем не толькі гэты недагляд. Чамусьці здарылася так, што з поля ўвагі многіх крытыкаў зніклі пытанні дружбы і нашых народаў, баявога братэрства народаў нашай краіны. Падобна на тое, што не выпадкова на гэтай нарадзе і ў дакладах, і ў выступленнях большасці прамоўцаў не знайшлося часу для размовы пра развіццё ваеннай літаратуры ў братніх рэспубліках. Гэта ж факт: гаворка пра такую вялікую літаратуру, як украінская, звялася галоўным чынам да пераказу недарэчнасцей з рамана Васіля Кучара. На жаль, гэты факт не выпадковы. У артыкуле ў «Литературной газете» т. Тарасенкаў, гаворачы пра ваенна-патрыятычную літаратуру ў краіне, як быццам наогул не заўважае існавання братніх літаратур. Гэта стала ўжо быццам своеасаблівай традыцыяй. Даходзіць да кур'ёзаў: у трохтомным выданні «Апавяданні савецкіх пісьменнікаў» няма ніводнага апавядання літаратараў з рэспублік.

Гэта тым больш дзіўна, што ў Грузіі, на Украіне, у Латвіі, у Азербайджане, на Беларусі ёсць нямала пісьменнікаў, якія сур'ёзна і даўно працуюць над творамі ваеннымі. Вось некаторыя з іх: Рачыя Качар, аўтар шэрагу цікавых ваенных апавяданняў і рамана — у Арменіі, Абдурахман Абсалямаў — аўтар двух раманаў, што палюбіліся чытачу,— у Татарыі, Міхась Лынькоў, Аляксей Кулакоўскі, Мікола Ткачоў, Іван Шамякін — у Беларусі, Дзмітрый Гусараў — у Карэла-Фінскай рэспубліцы. Такіх імён і твораў многа. Але праца гэтых і многіх іншых літаратараў да гэтага часу не атрымала вартай ацэнкі. Ды і наогул якой-небудзь увагі не ўдзелена ім. Такія адносіны не могуць не здзіўляць і не засмучаць, асабліва таму, што многія з іх стварылі раманы і апавяданні добрыя.

У гэтых адносінах нарада не зусім апраўдала назву. Яе, па сутнасці, нельга з поўнай падставай назваць усесаюзнай нарадай, яна, аглядаючы літаратуру, як правіла, абмяжоўвалася гарадскімі межамі Масквы.

Гэты недахоп можна выправіць. Зрабіць гэта зможа камісія па ваенна-мастацкай літаратуры [...]

*1955*

# БЫЦЬ У ПЕРШЫМ ЭШАЛОНЕ

Кожны, хто ў думках акіне позіркам шлях савецкай літаратуры з дня яе нараджэння да нашых дзён, не можа не заўважыць адной яе характэрнай асаблівасці: выключнай увагі да тэмы подзвігу, гераічнай барацьбы ў імя Радзімы, да так званай ваеннай тэмы. Яна вызначыла вялікі перыяд творчасці Дзям'яна Беднага, заўсёды хвалявала і натхняла Маякоўскага, пафасам яе прасякнута творчасць Твардоўскага, Суркова, Куляшова, Броўкі і многіх іншых паэтаў.

Ёй абавязана лепшымі сваімі дасягненнямі і савецкая проза. Гэта яна нарадзіла выдатны фадзееўскі «Разгром» з яго непаўторнай атмасферай народнай вайны на Далёкім Усходзе, шчыры і мужны, як салдацкая песня, «Жалезны паток» Серафімовіча, фурманаўскага «Чапаева», што глыбока палюбіўся ўсім і стаў сапраўды народным. Сюды ж з поўным правам можна аднесці «Ціхі Дон» Шолахава — непараўнаны па праўдзівасці і яркасці фарбаў летапіс крывавай бітвы за новы свет, і трылогію А. Талстога «Блуканне па пакутах»,— захапляюча шырокую мастацкую панараму цяжкіх, незабыўных гадоў.

З ваеннай тэмай звязаны таксама вялікія творчыя перамогі ў галіне гістарычнага жанру. Пра гэта красамоўна сведчаць буйныя ваенна-гістарычныя раманы, прысвечаныя воінскай доблесці рускіх салдат,— «Севастопальская страда» Сяргеева-Цэнскага, «Порт-Артур» Сцяпанава, «Цусіма» Новікава-Прыбоя.

Галоўнае, чым жыла савецкая літаратура ў гады Вялікай Айчыннай вайны, вызначалася агульнай народнай задачай: усё для фронту, усё для перамогі. Натуральна, што ў гэты час ваенная тэма стала найважнейшай у савецкай літаратуры. Франтавыя нарысы пра гераізм салдат і афіцэраў, замалёўкі, апавяданні былі гарачымі аператыўнымі водгукамі на патрабаванні су-

ровага часу. Аўтары гэтых твораў былі самі, па сутнасці, салдатамі, абставіны на фронце вымагалі ўменне працаваць хутка, выказваць думкі коратка, гранічна сцісла. Усё гэта садзейнічала надзвычай бурнаму развіццю так званага малога жанру.

Аднак ужо ў гэты час з'явіліся і такія буйныя творы, як «Сцяг брыгады» А. Куляшова, раздзелы з «Васіля Цёркіна» А. Твардоўскага, што друкаваліся ўпершыню на старонках франтавой газеты, «Фронт» А. Карнейчука, «Народ бессмяротны» В. Гросмана, раздзелы з раманаў К. Чорнага і М. Лынькова.

Першыя пасляваенныя гады былі, як вядома, адзначаны з'яўленнем у савецкай літаратуры шэрагу цікавых, таленавітых твораў на ваенныя тэмы. Цікава адзначыць, што побач з кнігамі «чыста» мастацкімі, такімі, як «Сцяганосцы» А. Ганчара, «Звязда» Э. Казакевіча, паявілася цэлая серыя кніг мемуарнага характару, разнастайных запісак. Гэтыя кнігі значна ўзбагацілі нашу літаратуру, зрабілі сур'ёзную справу, перадаючы масам важны вопыт, выпакутаваны ў вайне.

Нельга не заўважыць адну характэрную асаблівасць у развіцці ваеннай тэмы тых гадоў: у кожным з ваенных раманаў у думках герояў, у іх уяўленні пра будучае жылі вобразы міру, мірнай працы. Разам з тым у шэрагу твораў, прысвечаных мірнаму жыццю, тэма міру арганічна перапляталася з ваеннымі вобразамі і падзеямі; гэта двухбаковая сувязь як бы адзначала сабой асаблівасці пераходнага перыяду ў жыцці нашай краіны. У творах пра мірныя дні мы сустракалі героя, шмат у чым падобнага на героя ваенных кніг, але ўжо заклапочанага новай справай на новым этапе.

Развіццё ваеннай тэмы ў беларускай літаратуры ў пасляваенны перыяд мела некаторыя свае асаблівасці. Калі ва ўсёй савецкай літаратуры на гэтую тэму галоўным героем быў воін Савецкай Арміі, які адстаяў у баях Радзіму, дык увага беларускіх пісьменнікаў засяроджана была амаль выключна на вобразе народнага мсціўцы, на вобразе мірнага насельніцтва, што ўзнялося на барацьбу з акупантамі. Гэтыя вобразы і гэтыя абставіны вызначаюць сабой змест амаль усіх прысвечаных вайне празаічных твораў.

Вялікую цікавасць беларускіх пісьменнікаў да такой найважнейшай і слаўнай старонкі гісторыі нашага на-

рода, якой з'яўляецца партызанская вайна супраць фашысцкіх прыгнятальнікаў, вядома, нельга не прызнаць правамернай. Беларускі і ўсесаюзны чытач з пачуццём удзячнасці адзначыў тыя сур'ёзныя поспехі, якіх дасягнула беларуская літаратура, што мае ў актыве такія творы, як раманы «Векапомныя дні» М. Лынькова, «Глыбокая плынь» І. Шамякіна, «Згуртаванасць» М. Ткачова, «Расстаёмся ненадоўга» А. Кулакоўскага, п'есы А. Кучара, А. Маўзона, паэма «Янук Сяліба» М. Танка, аповесці Ул. Карпава, Ул. Шахаўца, апавяданні Я. Брыля, У. Краўчанкі.

Аўтары гэтых твораў паспяхова прадоўжылі тую высакародную традыцыю, пачатак якой паклалі Я. Колас аповесцю «Дрыгва» і К. Крапіва драмай «Партызаны».

Працягваючы гэтую традыцыю, беларускія пісьменнікі зрабілі многа новага, каб разгарнуць годную карціну ўсенароднага подзвігу ў суровыя ваенныя гады. Пісьменнікам перш за ўсё ўдалося паказаць, як выяўляліся патрыятычныя пачуцці савецкага чалавека ў цяжкіх абставінах фашысцкай няволі, паказаць непарыўную сувязь Камуністычнай партыі з народам, што асабліва ярка выявілася ва ўмовах самаадданай барацьбы з ворагам. Гэтыя якасці ўласцівы таксама і нашым мемуарным творам — успамінам В. Казлова «Людзі асобага складу» (у літаратурным запісе А. Кулакоўскага), В. Лівенцава «Партызанскі край» (літаратурны запіс Р. Няхая), успамінам партызанскага журналіста Г. Шчарбатава.

З'яўленне ўсіх гэтых твораў сведчыць пра тое, што беларускія пісьменнікі нямала папрацавалі, каб выканаць свой абавязак перад народам, замацаваць у творах мастацтва яго баявы подзвіг.

Аднак нельга не заўважыць, што развіццё ваеннапатрыятычнай тэмы ў беларускай літаратуры ў пасляваенныя гады мае прыкметна аднабаковы характар. Калі вобраз народнага мсціўцы разгорнуты тут увогуле шырока і шматгранна, дык вобразу салдата, вобразу воіна, мужнасць і баявая праца якога перш за ўсё забяспечылі вызваленне савецкай зямлі, вырашылі зыход вайны, у беларускай літаратуры, асабліва ў прозе, не пашанцавала. Мы былі і застаёмся ў вялікім даўгу перад нашай вялікай арміяй, што паказала ў баях цуды гераізму і адданую сыноўнюю любоў да Радзімы. Гэты

доўг пакуль застаецца нясплачаным, нягледзячы на тое, што мы маем такія творы, як «Сцяг брыгады» А. Куляшова — адну з лепшых паэм пра вайну ў савецкай літаратуры, хвалюючую «Брэсцкую крэпасць» К. Губарэвіча, шэраг выдатных вершаў П. Панчанкі, П. Броўкі, М. Танка і іншых.

Пэўнае адставанне на гэтым кірунку беларускай літаратуры, перш за ўсё прозы, можна было заўважыць і ў даваенны час. У даваенныя гады наша літаратура, праўда, дала некалькі добрых вершаў і апавяданняў, цікавую паэму «Праз горы і стэп» П. Броўкі, але яна ўсё ж не стварыла ні аднаго буйнога твора пра армію, роўнага тым, што з'явіліся ў рускай або ўкраінскай літаратуры.

Гэты недахоп у пасляваенны час стаў яшчэ больш прыкметны. Ён быў асабліва прыкметны ў параўнанні з тым багаццем вельмі значнага матэрыялу, які дала мастакам эпапея ўсенароднай вайны, у параўнанні з вялікімі поспехамі ўсесаюзнай літаратуры.

Між тым сярод пісьменнікаў да апошняга часу бытавала думка, што пісаць пра Айчынную вайну — значыць займацца справай амаль непатрэбнай, што работа над такім творам азначае ледзь не адыход ад надзённых задач дня «ў гісторыю». Гэтыя творы нярэдка супрацьстаўляліся творам пра сённяшняе жыццё народа, іх адводзілі, кажучы ваеннай мовай, у другі эшалон літаратуры, да літаратурных тылоў. Сёй-той з літаратараў прытрымліваўся думкі, што барацьба за мір — адна з высакароднейшых тэм савецкай літаратуры — ужо сама па сабе амаль выключае неабходнасць і нават мэтазгоднасць развіваць «ваенную» літаратуру. Не выпадкова творы пра вайну звычайна сустракалі больш чым халодны прыём у рэдакцыях часопісаў і ў Дзяржаўным выдавецтве Беларусі. Зрэшты, трэба сказаць, што і цяпер, пасля выступленняў па гэтаму пытанню «Праўды», у выдавецтве такія адносіны да ваенна-патрыятычнай тэмы яшчэ не змяніліся.

Ці трэба даказваць, якія гэта беспадстаўныя, памылковыя думкі. Пра які адыход «у гісторыю» можна гаварыць, калі ў нашы дні, сёння жывуць наваяўленыя прэтэндэнты ў сусветныя дыктатары, пагражаюць атамнай бомбай і спрабуюць гаварыць з нашай краінай і з краінамі народнай дэмакратыі з «пазіцыі сілы». Як можна адводзіць творы пра народны подзвіг, воінскую

доблесць у другі эшалон літаратуры, калі неабходна, як ніколі, мацаваць армію, здольную абараняць вялікую нашу савецкую справу, выхоўваць народ у духу баявой гатоўнасці. Наша барацьба за мір і наш клопат пра армію — гэта паняцці роднасныя. Мне здаецца, што пісаць — асабліва ў прозе ці ў драматургіі — пра мір, не звяртаючыся да нядаўняй вайны, дзе ў пакутах і крыві нараджаўся мір, дзе людзі асабліва моцна адчулі харастcovo міру, проста немагчыма. Здаецца, што іменна гэтым тлумачыцца не адна творчая няўдача нашых празаікаў, якія спрабавалі вырашаць тэму міру. Па сутнасці дэзарыентаваныя насцярожанымі адносінамі да ваенный тэматыкі, яны, імкнучыся вырашаць тэму міру, адыходзілі ад роднай зямлі, адпраўлялі сваіх выдуманых герояў, прадстаўнікоў розных рас і нацый, у далёкія краіны, якіх аўтары самі, як правіла, не ведалі.

Зусім мала ў нас твораў пра сучаснае жыццё Савецкай Арміі. Пра жыццё арміі ў мірных умовах, пра вучэбныя будні пісалі толькі паэты М. Калачынскі і П. Прыходзька ды празаік падпалкоўнік А. Алешка, аўтар увогуле цікавай аповесці пра ваенных лётчыкаў, што вучацца лятаць і ваяваць на рэактыўных самалётах. Аповесць А. Алешкі, нягледзячы на мастацкія пралікі, вабіць навізной матэрыялу, які аўтар добра ведае, цікавымі назіраннямі. Гэта першая і пакуль што, на жаль, адзіная ў беларускай літаратуры аповесць пра сучасную армію. Прыходзіцца шкадаваць, што яна, хоць напісана некалькі гадоў таму назад, яшчэ не выйшла асобным выданнем.

Пра армію напісалі творы нашы рускія пісьменнікі — афіцэры — Пранякін, аўтар аповесці «Курсанты», і А. Іваноў, які выступіў з раманам «На Далёкім Усходзе». Сябрам-лётчыкам прысвечаны зборнік вершаў Н. Шамава «Дзяжурнае звяно». Можна было б назваць яшчэ два-тры творы, у асноўным закончаныя, пакуль не апублікаваныя.

Аднак усё гэта не зменіць таго факта, што беларускія пісьменнікі пакуль недаравальна мала зрабілі, каб паказаць салдацкую доблесць у мірных умовах.

Такое становішча нельга лічыць нармальным. І для таго каб яго выправіць, патрэбна не толькі арганізацыйная работа, каб скіраваць увагу пісьменнікаў да тэмы арміі, але яшчэ ў большай меры глыбокая і ня-

лёгкая вучоба. З той пары як скончылася вайна і многія пісьменнікі знялі шынялі, прайшло нямала год, якія надзвычай змянілі армію. Пісаць пра сучасную армію, карыстаючыся ўспамінамі мінулага, ужо немагчыма.

Усесаюзная нарада па ваенна-мастацкай літаратуры, што была нядаўна ў Маскве, заклікала пісьменнікаў мацаваць сувязь з арміяй, ствараць новыя творы, вартыя вялікіх спраў нашых войск у мінулым і засяроджанай, мужнай працы ў сённяшнія мірныя дні. Хацелася б запэўніць нашых чытачоў, што пісьменнікі Беларусі не пашкадуюць ні сіл, ні часу для таго, каб свой абавязак перад Савецкай Арміяй выканаць з гонарам.

*1955*

# ЧОРНЫЯ СІЛУЭТЫ

Чытаючы № 1 часопіса «Беларусь», я натрапіў на некалькі чарговых чорных сілуэтаў з кароткімі вершаванымі подпісамі-характарыстыкамі пад імі [...]

Тут можна даведацца, што народны артыст Савецкага Саюза кампазітар Яўген Цікоцкі зусім і не кампазітар — бо які ж ён кампазітар, калі ён «гняце сваю ліру»? «Гняце» ў гэтым кантэксце лёгка зразумець як далікатны сінонім дзеяслову «мучыць». Можна даведацца пра тое, што артыстка В. Пола, відаць, незаслужана атрымала Дзяржаўную прэмію за ўдзел у спектаклі «Пяюць жаваранкі», бо з даўніх часоў, калі стварыла вобраз Агаты ў «Паўлінцы», яна, бачыце, не зрабіла ні кроку наперад: «ні тудэма, ні сюдэма»!; што рэжысёр К. Саннікаў спіць на рэпетыцыях, што А. Куляшоў «прыстаў» у «Грознай пушчы» і г. д. ... Многа «цікавага» падрыхтаваў часопіс на новы год чытачам...

З гэтага ж аддзела я даведаўся, што раман «Мінскі напрамак» горшы за апавяданне «У завіруху», напісанае шмат год назад. Праўда, часопіс у свой час (1953, № 6) даў раману добрую ацэнку. Зараз ён, відаць, змяніў свой погляд і рашыў пра гэта паведаміць чытачам, апынуўшыся, такім чынам, у становішчы вядомай удавы, якая сама сябе адлупцавала.

Займацца падобнымі практыкаваннямі, вядома, нікому не забараняецца. Але зусім не да твару часопісу ўсе гэтыя «паэтычныя забавы» размнажаць у многіх тысячах экземпляраў.

З'яўленне чорных сілуэтаў выглядае тым больш кантрастным, што ў гэтым жа нумары ў рэцэнзіі «Для самых юных» рукой услужлівага К. Іванюка намаляваны ружовы сілуэт самога рэдактара часопіса.

Пажадаем часопісу ў далейшым знаёміць сваіх чытачоў з сапраўдным абліччам дзеячаў літаратуры і мастацтва, а не з іх чорнымі сілуэтамі.

*1956*

# СІЛА БРАТЭРСТВА

За год перад вайной на адным з ленінградскіх вакзалаў выйшаў з вагона няраслы сціплы хлопец. Ішоў ён па шумлівым праспекце, па тратуарах, запоўненых рухавымі людзьмі, ішоў не спяшаючыся, няўпэўнена азіраючыся. Кожнаму сустрэчнаму чалавеку няцяжка было заўважыць, што хлопец у горадзе ўпершыню, што тут для яго ўсё новае, нязвычнае.

Тады, вядома, ніхто і не здагадваўся, што гэтаму сціпламу хлопцу з ціхай беларускай вёсачкі пад Магілёвам наканавана стаць адным з самых славутых абаронцаў Ленінграда, звязаць назаўсёды сваё кароткае юнацкае жыццё з жыццём вялікага горада. Амаль адразу з вучнёўскай лаўкі, са школы фабрычна-заводскага навучання пайшоў Федзя Смалячкоў на фронт, што падступіў да самых ускраін горада. Ён зрабіў усё, каб затрымаць, не дапусціць ворага ў горад Леніна. У дождж і ў мароз выходзіў ён са снайперскай вінтоўкай, гадзінамі пільна ўглядаўся ў пярэдні край праціўніка. Забіўшы некалькі соцень варожых салдат, ён загінуў сам, абараняючы Ленінград, які стаў яму родным, абараняючы некалі далёкія паўночныя палі.

Трэцім ваенным летам, перад пачаткам грандыёзнага наступлення савецкіх войск у Беларусі, рускі хлопец Юрый Смірноў, такі ж юны, як Федзя Смалячкоў, быў захоплены ворагам у палон. У юнага аўтаматчыка спрабавалі выведаць, дзе і калі будзе наступаць яго часць. Ні пагрозы, ні катаванні не зламалі ўпартага маўчання салдата, ён памёр у страшэнных пакутах за беларускую зямлю.

У радах войск, што вызвалялі зняволеную зямлю роднай Беларусі, ішлі побач рускія і беларусы, узбекі і казахі, грузіны і башкіры. У іх былі не толькі аднолькавыя гімнасцёркі і шынялі, іх сэрцы былі напоўнены аднымі пачуццямі і імкненнямі, адным горам і рада-

сцю. Яны разам [redacted] намі горача, усёй душой радаваліся вызваленым гарадам і таксама ж, як мы, для каго гэтыя гарады былі з дзіцячых год знаёмыя, сурова, з затоеным салдацкім болем глядзелі на папялішчы.

Гэта былі цяжкія, суровыя гады, і, можа, тады ўпершыню мы так глыбока, так удзячна адчулі, што такое братэрства, што такое дружба людзей і цэлых народаў. Тады, у бядзе, мы асабліва моцна адчулі, якая важная для нас, якая неабходная нам гэтая дружба. У ёй былі наша сіла і нашы надзеі.

У гарачых партызанскіх баях побач з беларусамі нярэдка змагаліся палякі і славакі, чэхі і венгры. Калі цяпер успамінаеш тыя дні, уяўляеш сардэчныя размовы ля вогнішчаў, начныя паходы, агульныя нягоды, якія ўсім прыходзілася перажываць разам, дык міжволі прыходзіць думка — ці не там, ці не тады з новай сілай ажылі, умацаваліся братнія сувязі, якія цяпер трывала аб'ядноўваюць нас з народамі-суседзямі?

Мінск выйшаў з вайны амаль цалкам разбураны. Усё, што было ў горадзе найбольш прыгожае і важнае, было ўзарвана і спалена. Цяпер, калі глядзіш на вырадатныя ансамблі галоўнага праспекта сталіцы, на карпусы велізарнага аўтамабільнага завода, на дзесяткі іншых вуліц і заводаў, мімаволі здзіўляешся магутнасці жыцця, што так хутка пабудавала ўсё гэта на руінах і выпаленых пустках.

І тады зноў думаеш пра сэнс, пра сілу братэрства. Мы бачылі, як вярталася гэтае жыццё ў наш горад, як яно мацнела. Мы памятаем усё. Памятаем, як ішлі ў галодны, спакутаваны горад аўтамашыны з мяшкамі мукі, як прыйшоў першы эшалон са шклом, з будаўнічым інструментам — падарункам рабочых волжскага горада Горкага, першыя трамваі з Ленінграда і Урала. Мы не забылі тых масквічоў і чэлябінцаў, якія вучылі збіраць першыя беларускія аўтамабілі і трактары, будаўнікоў Сталінграда, якія па-братняму дзяліліся вопытам з будаўнікамі Мінска.

Братэрства, якое выратавала нас у вайне, дапамагло нам, выбавіла нас у вялікім пасляваенным аднаўленні, у нашай стваральнай працы.

На палях Беларусі цяпер спее збажына, шумяць маладыя, пасаджаныя пасля вайны, сасоннікі. У рыштаваннях, у новабудоўлях — пасёлак Васілевіцкай электрастанцыі, адной [redacted] буйнейшых у нашай рэспубліцы.

У рыштаваннях новабудоўляў, у звыклых сілуэтах незлічоных пад'ёмных кранаў, штабялях цэглы — многія кварталы Гомеля і Мазыра, Гродна і Барысава. З дня ў дзень прыгажэе беларуская зямля.

У нас вялікія планы, ажыццявіць якія будзе нялёгка. Але нашы людзі ўпэўнена глядзяць у свой заўтрашні дзень. Яны ведаюць, што яны не адны, што ў іх багата сяброў у велізарнай Савецкай краіне, што іх заўсёды, ва ўсім падтрымаюць, заўсёды ім дапамогуць. Бо мы жывём у краіне, дзе галоўным законам жыцця народаў стала братэрства.

*1957*

## СТАРАЖЫТНЫ І МАЛАДЫ

Над Мінскам шумяць халодныя восеньскія вятры. Неба то засінее між разарваных ветрам воблакаў, то зноў надоўга знікне за шчыльнай заслонай нізкіх цяжкіх хмар. Збітае дажджамі і вятрамі жоўтае лісце ліп высцілае мокры, з цьмяным бляскам асфальт праспектаў, плошчаў, сквераў. Імкліва праносяцца аўтамабілі, праплываюць поўныя пасажыраў тралейбусы, людна ў магазінах. Прыгожы ў гэты час наш горад, нібыта пастражэлы, нейк па-асабліваму засяроджаны. У такі час асабліва адчуваем, што гэта не проста вялікі прыгожы горад, а горад-воін, горад-працаўнік, які мужна перанёс за сваё доўгае жыццё многа гора, выстаяў, перамог.

Мінск — адзін са старажытнейшых гарадоў нашай Радзімы. У гэтым годзе яму споўнілася 890 год. Ён бачыў крывавыя сечы часоў княжацкіх міжусобіц. Яшчэ ў «Слове аб палку Ігаравым» старажытны рускі пясняр успамінаў паўнаводную Нямігу-раку, што цяпер схавана ў падземны калектар. Мінск памятае часы Паўночнай вайны, нашэсце Напалеона.

Мінск ведаў і іншыя бітвы, бітвы рэвалюцыі. Тут жылі дзекабрысты М. Мураўёў і А. Бястужаў-Марлінскі. У Мінску, у сціплым драўляным доміку на беразе ціхай рачулкі Свіслачы, адбыўся Першы з'езд РСДРП, што паклаў пачатак сацыял-дэмакратычнай партыі Расіі. У баях 1905 года рабочыя Мінска паказалі ўзоры пралетарскай салідарнасці. Яшчэ ніколі да гэтых дзён мінскія вуліцы не ведалі такіх магутных забастовак, такіх зацятых сутычак.

Асаблівай напружанасцю і размахам вызначаліся ў Мінску падзеі вялікага семнаццатага года. Мінск тады быў не толькі цэнтрам Беларусі, але і цэнтрам аднаго з асноўных раёнаў канцэнтрацыі рускіх войск — Заходняга фронту. У Мінску была моцная бальшавіц-

кая арганізацыя, на чале якой стаялі такія таленавітыя кіраўнікі, як М. В. Фрунзе і А. Ф. Мяснікоў. Моцны быў і вораг, ён абапіраўся на рэакцыйнае афіцэрства, пры штабе фронту, у арміях, на ашуканыя часці. Мінскі Савет, якім кіравалі бальшавікі, узяў уладу яшчэ 7 лістапада. Але гэта было толькі пачаткам барацьбы, драматычнай, бязлітаснай барацьбы, што ў рэшце рэшт прывяла да разгрому контррэвалюцыі.

Калі гаворка заходзіць пра Мінск, якім ён быў пасля грамадзянскай вайны, дык звычайна гавораць пра тое, як ён рос, прыгажэў, добраўпарадкоўваўся. Так, у гэтыя гады аблічча Мінска вельмі прыкметна змянілася. У Мінску былі пабудаваны такія буйныя прадпрыемствы, як радыёзавод, дзяржаўная электрастанцыя, гарбарны завод «Бальшавік», друкарня. У гэтыя гады пачала працаваць першая ў гісторыі нашага народа Акадэмія навук Беларусі, якая аб'яднала ў сваіх інстытутах многіх беларускіх вучоных. Пуцёўку ў вялікае жыццё даваў выхаванцам створаны ў 1921 годзе Беларускі універсітэт, для якога быў пабудаваны цэлы гарадок, што непазнавальна змяніў выгляд усяго прывакзальнага раёна горада. Іменна ў гэтыя гады ўпрыгожылі горад строгі, велічны Дом урада, Палац піянераў і многія іншыя будынкі.

Але была ў тыя гады адна асаблівасць, што адрознівала Мінск ад большасці савецкіх гарадоў. Гэта быў горад-пагранічнік, горад-вартавы. Смаленск, Масква, Урал, уся краіна бязмежна распасціралася за ім. Ён прыкрываў яе, ён быў яе фарпостам. Да вызвалення заходніх абласцей Беларусі граніца вілася ў сіняватых пералесках за трыццаць кіламетраў ад сталіцы рэспублікі. Блізкасць граніцы вызначала свой асаблівы лад жыцця ў горадзе. Ён жыў сурова, насцярожана, пасалдацку.

Як вартавы-пагранічнік, падобна да тых пагранічнікаў, якія па трывозе кінуліся з аўтаматамі і вінтоўкамі на абарону родных рубяжоў, Мінск адным з першых стаў на шляху фашысцкіх полчышч. Армады «юнкерсаў» абрушылі на яго вуліцы тоны фугасных і запальных бомб. Але змучаны, сплываючы крывёю, Мінск не скарыўся і пасля таго, як у яго ўварваўся вораг.

Не было дома, дзе б інтэрвенты маглі адчуваць сябе спакойна. Не было гадзіны, калі б не пагражала ім ка-

раючая рука падпольшчыка. Дастаткова сказаць, што ў Мінску дзейнічала 79 баявых груп, на рахунку якіх больш за 1600 знішчаных гітлераўскіх чыноўнікаў і афіцэраў. У Мінску да сённяшняга дня захаваўся асабняк на адной з цэнтральных вуліц, у якім адважнымі партызанамі быў пакараны вярхоўны нямецкі «правіцель» Беларусі, гітлераўскі гаўляйтэр Кубэ.

Гэта была барацьба неймаверна цяжкая, гераічная, смяртэльная, яна і ад нас забрала вялікія ахвяры. Да канца, да апошняга дыхання засталіся верныя свайму абавязку перад Радзімай Вячаслаў Нікіфараў, Уладзімір Амельянюк, Васіль Жудро, сям'я Воранавых і многія, многія іншыя, што загінулі ў гэтай бітве.

Зорка вызвалення Мінска, як і заўсёды раней, узышла на ўсходзе. Калі 3 ліпеня 1944 года танкісты і пяхота Трэцяга і Першага Баларускіх франтоў увайшлі ў горад, іх позірку адкрыліся бязмежныя руіны і пустыры, яны то зараслі ўжо бур'янам, то яшчэ дыміліся галавешкамі.

...Прайшлі гады. Горад-працаўнік узняўся з попелу, расправіў магутныя плечы. Мінска цяпер не пазнаць. Нават самыя гарачыя галовы наўрад ці маглі ўгледзець загадзя, што праз які дзесятак з невялікім гадоў ён стане такім велічным і прыгожым. Выдатныя ансамблі, што радуюць строгасцю, прыгажосцю формаў, выраслі ўсцяж галоўнай магістралі горада. Да іх ужо прывыклі. Прывыклі і да стройных радоў ліп, красунь беларускіх лясоў, прапісаных у новым, жыццярадасным горадзе. А вось свіслацкія берагі, што апранаюцца ў граніт,— гэта не зусім звыклае, тут яшчэ не закончаны работы.

Змяняе сваё аблічча былая Камароўка, у нядаўнім мінулым адна з самых брудных мінскіх ускраін. Ад плошчы бярэ пачатак вуліца Якуба Коласа, вуліца новабудоўляў. Шырокай, вялікай магістраллю, што злучае цэнтр Мінска з найважнейшым прамысловым раёнам, стала раней нічым не адметная Даўгабродская вуліца. Абапал яе ўзнімаюцца новыя жылыя дамы, толькі што заселеныя, яшчэ не абжытыя, яшчэ ў рыштаваннях. Далей, ля моста, перакінутага над чыгуначнымі рэйкамі, што кіруюць да Масквы, узвышаюцца белакаменныя карпусы завода аўтаматычных ліній і завода запасных трактарных дэталей. Магістраль імкне далей, да Мінскага трактарнага завода і яго пасёлка. За

імі вуліца праразае сінявата-бронзавы гушчар лесу, любімага месца адпачынку рабочых, выходзіць да Магілёўскай шашы. Тут побач — гонар Мінска, аўтазавод.

У даваенным Мінску не было прадпрыемстваў, роўных трактарнаму або аўтазаводу. Мінск нашых дзён — гэта горад многіх магутных сучасных прадпрыемстваў, што даюць Радзіме самую разнастайную прадукцыю.

Мабыць, няма ў нашай краіне такой будоўлі, такога значнага прадпрыемства, дзе б не працавалі вынослівыя, моцныя МАЗы са знаёмай усім эмблемай — лабастым зубрам. У Бірме, Індыі, Уругваі — больш чым у дваццаці краінах чатырох кантынентаў можна ўбачыць беларускія трактары. Усёй краіне добра вядомы мінскія радыёпрыёмнікі і станкі, тканіны і падшыпнікі. Далёка па свеце разышлася добрая слава аб Мінскупрацаўніку.

На фабрыках і заводах сталіцы выраслі выдатныя майстры, такія, як сталявар аўтамабільнага завода Барашкін, муляр Булахаў, электразваршчык з трактарнага завода Антонік. Многія з цяперашніх знаўцаўмайстроў сваёй прафесіі прыйшлі зусім нядаўна з вёсак. Мінск, яго заводы былі для іх працоўнай школай. Стварэнне моцных калектываў, цэлай арміі рабочых — гэта, бадай, адно з самых вялікіх дасягненняў.

У сталіцы Беларусі працуюць значныя вучоныя, выдатныя майстры мастацтва. Зараз, напярэдадні саракагадовага юбілею Радзімы, і ў навуковых установах, і ў творчых арганізацыях людзі мастацтва і навукі працуюць з асаблівым уздымам. Новыя спектаклі да вялікага свята рыхтуюць Акадэмічны тэатр драмы імя Янкі Купалы, рускі тэатр імя Горкага, малады, поўны творчага запалу Тэатр юнага гледача, які адкрыўся толькі год назад, але палюбіўся ўжо многім школьнікам і дарослым мінчанам. У тэатры імя Янкі Купалы прынята да пастаноўкі новая работа буйнейшага беларускага драматурга, народнага пісьменніка К. Крапівы «Людзі і д'яблы» пра мінскае падполле ў час мінулай вайны. Рускі тэатр імя Горкага пачаў працаваць над гісторыка-рэвалюцыйнай драмай К. Губарэвіча «Галоўная стаўка». Здымае фільм «Нявестка» кінастудыя.

Жыве, працуе Мінск, адзін з самых старажытных і самых маладых гарадоў Савецкай Айчыны.

*1957*

# СЛОВА ПРА ЯКУБА КОЛАСА

У паэме «Сымон-музыка», творы, які ўвабраў у сябе запаветныя думкі Коласа пра мастацтва і ў якім ён гаворыць пра лёс таленавітага чалавека ў старой Беларусі, ёсць журботныя радкі пра незлічоныя таленты з народа, што загінулі ў невядомасці, «неапетыя і неаплаканыя» нікім:

Колькі талентаў звялося,
Колькі іх і дзе ляжыць,
Неапетых, непрызнаных,
Не аплаканых нікім,
Толькі ў полі адспяваных
Ветру посвістам глухім.

Колас не зазнаў той долі, якую зазналі многія яго паплечнікі-папярэднікі, зламаныя і загубленыя жорсткім жыццём.

Але ў першапачатковым лёсе яго, тым лёсе, якім пазначаны першыя гады свядомага жыцця паэта, яго творчасці — нават пры беглым позірку — можна ўбачыць многа агульнага з лёсам і жыццём героя яго паэмы, дапытлівага, цікаўнага хлопчыка Сымона.

Бацька Коласа, селянін-бядняк, не мог пракарміць сям'ю са сваёй гаспадаркі, вымушаны быў шукаць заработку «на старане» і служыў леснікам у адным са шматлікіх лясніцтваў магната Радзівіла. Яшчэ ў дзіцячыя гады, слухаючы расказы сялян, што прыязджалі да бацькі з навакольных вёсак, і сам прыглядаючыся да жыцця, будучы паэт адчуў, што свет пабудаваны далёка не найлепшым чынам, што ў ім многа несправядлівага. «З самых малых гадоў запала ў душу маю варожасць да паноў; з цягам часу яна ўмацавалася»,— успамінаў пазней Якуб Колас.

Вучыўся Якуб Колас спачатку ў вандроўнага настаўніка — дарэктара, пасля — у народным вучылішчы ў Мікалаеўшчыне і ў настаўніцкай семінарыі ў Нясвіжы. Гады вучобы былі вельмі важным этапам у

жыцці Якуба Коласа. У семінарыі ён пачуў першае слова пра свае яшчэ нясмелыя літаратурныя спробы, якое акрыліла сціплага юнака, тут упершыню пазнаёміўся ён з беларускімі творамі — вершамі паэта-дэмакрата Янкі Лучыны і запісамі народных песень. Вялікае ўражанне на яго зрабіла руская літаратура ў асобе Някрасава, Пушкіна, Крылова. Колас пісаў пазней: «Крылоў доўгі час быў маім богам. Поўны збор яго баек я вывучыў ледзь не на памяць. Маімі першымі літаратурнымі спробамі былі байкі».

Але гады гэтыя былі для маладога паэта не толькі гадамі літаратурнай вучобы. Колас з дапытлівай увагай услухоўваецца, углядаецца ў першага свайго настаўніка, глыбокую павагу да якога ён захаваў назаўсёды,— у жыццё! Гады вучобы ў семінарыі дапамаглі паэту паглыбіць і значна пашырыць свае жыццёвыя веды: ён знаёміцца з юнакамі, што прыехалі ў семінарыю ледзь не з усіх паветаў і губерняў Беларусі, а праз іх з настроем самых розных пластоў насельніцтва.

Гэта быў па сутнасці толькі пачатак, толькі першая ступень вучобы ва «універсітэце жыцця», вучобы цяжкай, поўнай нястач і сумненняў. Закончыўшы семінарыю ў Нясвіжы, Колас едзе працаваць у глыбокую палескую глуш. Пільна ўглядаючыся ў жыццё гэтага прыгожага і беднага краю, ён пакутліва шукае адказу на самыя надзённыя пытанні сучаснасці. «Беларускае гора-нядоля стукала ва ўсе куткі маёй душы, але я не мог высветліць сабе яго прычыны»,— пісаў пра гэты час Якуб Колас.

У пошуках адказу на гэтыя пытанні малады палескі настаўнік пачынае горача цікавіцца нелегальнай палітычнай літаратурай.

Тут у гэтыя гады Колас піша адзін з першых сваіх вершаў — «Не пытайце, не прасіце», які з'явіўся своеасаблівым творчым крэда паэта.

Не пытайце, не прасіце
Светлых песень у мяне,
Бо як песню заспяваю,
Жаль вам душу скалыхне.

У вершах паэта, створаных у гэтыя гады, вельмі добра выказана дэмакратычнае спачуванне пакутам працоўнага чалавека. Праўда, у асобных яго творах можна заўважыць глыбокую тугу і часам — безнадзейнасць,

аднак па меры сталення таленту рэвалюцыйны дух паэта мацнее і робіцца ўсё больш мэтаімкнёным.

Колас услаўляе мужнага, моцнага чалавека, чалавека-змагара, цвёрдага ў сваіх рэвалюцыйных імкненнях. Не выпадкова адзін з вершаў, у якім паэт стварае свой ідэальны вобраз, пачынаецца заклікам: «Будзь цвёрды!» Падобна да свайго героя, Колас ад імя народа смела кідае ў твар ворагам словы нянавісці і непрымірымасці, што гучаць мужна, рашуча і выключаюць якія б там ні было кампрамісы:

Багачы і панства,
Нашы «дабрадзеі»,
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі!

Чыімі рукамі
Вы дабро збіралі?
На чые вы слёзы
Дабрабыт куплялі?

...Ўжо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць,
І па вас асіны
Слёзы праліваюць.

У вершы «Мужык», напісаным у цяжкія гады рэакцыі, герой Якуба Коласа заяўляў, што ён маўчыць і трывае толькі да пары, што ён хутка кіне заклік: «Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

15 верасня 1908 года Якуб Колас быў на тры гады пасаджаны ў мінскую турму. Фармальна паэта асудзілі за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе, па сутнасці ж, гэта была расправа з непакорным беларускім паэтам-рэвалюцыянерам, які прычыняў столькі клопату царскім уладам. Але і ў турме Якуб Колас не спыняе напружанай творчай працы. Верш за вершам перасылае паэт на волю, сябрам, і слова яго, як і раней, стукаецца ў цёмныя ваконцы курных бядняцкіх хат, будзіць свядомасць, кліча да барацьбы. Сюды, у турэмныя засценкі, сябры паэта перасылаюць першы зборнік яго вершаў «Песні жальбы». Падзея гэтая глыбока радуе і акрыляе Коласа, ён бярэцца за ажыццяўленне самых смелых сваіх паэтычных задум, напружана абдумвае і робіць першыя накіды, пачынае пісаць першыя раздзелы буйных эпічных твораў — паэм «Новая зямля» і «Сымон-музыка».

Выйшаўшы з турмы, у гады, калі значная частка

інтэлігенцыі, зняверыўшыся ў рэвалюцыі, пачала ўпадаць у роспач, песімізм, Колас па-ранейшаму не траціць веры ў рэвалюцыю, у перамогу яе справядлівай справы. Ён упэўнена заяўляе:

...Я веру цвёрда ў тое,
Што наш засеў у полі дзікім
Гневам вырасце вялікім
І затопіць усё злое,
Ўсё няшчасце векавое.

У вершы, датаваным 1912 годам, ён заклікае рэвалюцыю «грымнуць дужэй».

З пачатку імперыялістычнай вайны да 1921 года — каля шасці гадоў — Колас жыў у эвакуацыі, сярод рускага народа, які ён шчыра паважаў і любіў. Настаўніцкая праца ў Пермі, у Маскоўскай губерні, пад Курскам, армейская служба ў Маскве, удзел у вайне на Румынскім фронце, дэмабілізацыя з арміі па дэкрэту Савецкай улады для работы ў школе, зноў настаўніцкая праца ў Курскай губерні — вось этапы біяграфіі Коласа за гэтыя шэсць год, шэсць год вельмі насычаных, складаных, незвычайных. Якраз у гэтыя гады ў жыцці Коласа, як і ў жыцці многіх мільёнаў людзей Расіі, адбыўся найвялікшы пераварот, што паклаў пачатак новаму шляху, новаму жыццю.

Усё лепшае, што створана Коласам, створана тады, калі ён вярнуўся ў Мінск. Праз два гады пасля звароту ён заканчвае і друкуе адзін з самых дасканалых сваіх твораў — паэму «Новая зямля», якую па справядлівасці можна назваць энцыклапедыяй сялянскага жыцця ў Беларусі ў гады, што папярэднічалі першай рускай рэвалюцыі. Тут жа, у Мінску, неўзабаве выходзіць другі буйны паэтычны твор Якуба Коласа — паэма «Сымон-музыка».

Колас у гэтыя гады працуе не толькі ў жанры паэзіі. Ён заваёўвае сэрцы беларускіх чытачоў і як празаік. Прозу Колас пачаў пісаць яшчэ ў дарэвалюцыйныя гады, яго першы зборнік апавяданняў быў выдадзены ў 1912 годзе, але сапраўдны росквіт празаічнага таленту пісьменніка пазначаны дваццатымі гадамі, савецкім часам. Акрамя шматлікіх замалёвак у прозе, навел і апавяданняў Якуб Колас з поспехам працуе ў буйных празаічных жанрах. Ён стварае аўтабіяграфічныя аповесці «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся» — праўдзівы расказ пра палескага настаўніка, што цярпліва

шукае шлях да лепшай будучыні для народа; пра народ, працавітых і гордых палешукоў. Гэтыя дзве аповесці разам са створанай у апошнія гады аповесцю «На ростанях» склалі палескую трылогію Коласа — яго, бясспрэчна, лепшы празаічны твор.

Але калі ў палескіх аповесцях Колас як бы ў думках аглядваецца на перажытае, тое, што стала ўжо гісторыяй, то ў шэрагу іншых празаічных твораў пісьменнік імкнецца адгукнуцца на пытанні і праблемы, што абпальваюць сэрца сваёй навізной, гарачым подыхам сучаснасці. У 1926 годзе ён стварае ўсхваляваны твор пра савецкую моладзь, пра маладое імкненне да ведаў, да працы на карысць народа — аповесць «На прасторах жыцця», у 1932 годзе публікуе аповесць «Адшчапенец» — пра калектывізацыю ў Беларусі. У 1933 годзе беларускі чытач атрымаў таленавітую аповесць «Дрыгва» — пра ваяўнічага палешука-партызана Талаша, пра партызанскую барацьбу супраць белапольскіх акупантаў.

У перадваенныя гады Якуб Колас выступае таксама і як драматург з п'есай «Вайна вайне», у якой ён вяртаецца да тэмы, што хвалявала яго ўсё жыццё,— тэмы вайны і рэвалюцыі.

Побач з вялікай творчай працай пісьменнік вядзе і напружаную грамадскую і навуковую дзейнасць, аддае гэтаму нямала часу і душэўных сіл. Трэба адзначыць, што Колас быў адным з першых навуковых работнікаў Беларускага універсітэта, створанага ў Мінску ў першыя гады Савецкай улады.

Як выкладчык і навуковы работнік Колас працаваў ва універсітэце з дня яго адкрыцця, з 1921 года да 1930 года. Многія гады пісьменнік супрацоўнічаў у Акадэміі навук Беларусі, з часу заснавання Акадэміі навук і да апошніх дзён жыцця ён быў яе нязменным віцэ-прэзідэнтам.

Вайна, што раптоўна абрушыла на мірныя, у багатай збажыне палі, на сёлы і гарады Беларусі агонь і смерць, прымусіла паэта другі раз на доўгія гады пакінуць родны дом. У гэтыя цяжкія гады Якуб Колас ніколі не траціў сувязі са сваім народам, што пакутаваў, змагаўся, што паўстаў на смяротны бой з гітлераўскімі захопнікамі. Годны паплечнік тых, хто змагаўся ў партызанскіх атрадах і падпольных групах на паднявольнай роднай зямлі, ён вёў з ворагам бязлітасную барацьбу

бу сваёй зброяй, зброяй паэта, прамоўцы, публіцыста.

Уся яго творчасць гэтых гадоў прасякнута заклікам да бязлітаснай барацьбы, гарачым імкненнем разграміць ворага, вызваліць родную зямлю. Гэтым пачуццём напоўнены і яго вершы, і апавяданні, і артыкулы, і буйныя яго паэтычныя творы — «Суд у лесе» і «Адплата», што славяць адвагу і справядлівую справу беларускіх партызан.

Толькі пасля пераможнага заканчэння вайны, вярнуўшыся ў Мінск, Колас зноў кладзе на пісьмовы стол рукапіс, работа над якім была перапынена вайной. У 1947 годзе паэт завяршае вялікую эпічную паэму «Рыбакова хата». Разам з трэцяй часткай палескай трылогіі «На ростанях» паэма «Рыбакова хата» — значная творчая перамога пісьменніка ў апошнія гады, годнае завяршэнне яго вялікага працоўнага жыцця.

Больш як паўстагоддзя нястомна мысліў, тварыў неспакойны, мудры, здавалася, невычэрпны талент паэта, працавалі яго дужыя, змалку звыклыя да працы рукі. Паэт, празаік, драматург, вучоны, публіцыст — няма, здаецца, у беларускай літаратуры такога жанру, няма ў яе гісторыі на працягу паўстагоддзя такой старонкі, дзе б не ззяла слаўнае імя Якуба Коласа, не праявілася б якая-небудзь грань яго шчодрага таленту.

Чалавек, што прайшоў вялікі творчы і жыццёвы шлях, Колас быў як бы жывым увасабленнем паўвекавога руху гісторыі беларускай літаратуры, яе ўступлення ў рэвалюцыю, яе пошукаў, яе перамог.

Усе гэтыя паўстагоддзя Колас нязменна быў з народам. Тыя, хто ведаў Якуба Коласа, адчувалі гэтую блізкасць яго да народа ва ўсім — у яго неспакойнай думцы, у яго справах, у яго трывогах і радасцях.

Ён быў чалавекам надзвычай цэласным. Мабыць, нідзе так хораша не адчуваў сябе пісьменнік, як у родных беларускіх вёсках, сярод родных людзей.

Каля яго гарадскога дома, над якім шумелі з маленства мілыя яму сосны, непадалёку ад вокан яго рабочага пакоя кожны год спела маленькае поле — лапікі жыта, пшаніцы. Гэта было не дзівацтва, не прыхамаць, гэта было неабходнае для жыцця, тое, што поўніла яго і радавала.

У калгаснай беларускай газеце быў надрукаваны яго агранамічны артыкул, у якім ён дзяліўся з хлебаробамі сваім вопытам вырошчвання жыта. Незадоўга да смерці сваёй ён выступіў з заклікам ачысціць беларускія палі ад камення, што засмечвае палі, не дазваляе выкарыстоўваць тэхніку.

У доме творчасці «Каралішчавічы», дзе нам давозілася сустракацца, бывала, кожны дзень, ён з пільнай, здзіўляючай увагай сачыў за небам, за надвор'ем. Ён трывожыўся, калі надвор'е не спрыяла ўраджаю, і радаваўся, калі яно дапамагала працаўнікам палёў.

Колас жыў з народам, тварыў з народам і для народа, для яго шчасця і славы. У гэтым Колас бачыў сэнс свайго жыцця.

Колас аддаў увесь свой талент народу, у гэтым — яго хараство і веліч.

Ён жыў у цяжкі, але справядлівы час, ён не зазнаў лёсу сваіх неапетых і неаплаканых паплечнікаў, падобных да героя паэмы «Сымон-музыка», ён выйшаў на неабсяжныя «прасторы жыцця», і голас яго загучаў не толькі для свайго разняволенага народа, але і стаў чуцён па ўсёй савецкай зямлі.

Не, не глухі посвіст ветру апяваў паэта, калі яго праводзілі ў апошні шлях. Гэта была вялікая, горкая страта, яна адгукнулася смуткам у многіх і многіх сэрцах, для якіх дарагая наша літаратура, наша вялікая справа...

Колас пакінуў вялікую спадчыну, гэта спадчына — яго вершы, паэмы, апавяданні, аповесці, артыкулы, гэтая спадчына — прадаўжальнікі яго традыцый, яго шматлікія вучні, беларуская савецкая літаратура, для якой ён разам з Янкам Купалам быў роданачальнікам, старэйшынай.

Некалі, гадоў 45 назад, Якуб Колас напісаў верш пра адзінокі колас, што «спее-даспявае сіратой». Можна спрачацца пра тое, у якой ступені алегарычны і аўтабіяграфічны гэты верш, але бясспрэчна, што зерні, пасеяныя ў родную зямлю нашым Коласам, далі выдатны ўраджай, з іх вырасла багатая ніва беларускай савецкай літаратуры, што хораша расквітнела сярод вялікага калектыўнага поля братніх савецкіх літаратур. У нашай ніве колас, вырашчаны вялікім пісьменнікам, будзе заўсёды прыкметным, значным, выдатным!

*1957*

## РАДУЮСЯ І ГАНАРУСЯ

Нямала давялося пабачыць, паспытаць у ваенныя гады. Але ці не самае хвалюючае, пякучае — радасць і гора ўсюды,— памяць пра лета сорак чацвёртага. Зноў, пасля доўгай ростані, родная зямля пад нагамі. Нямыя, страшныя руіны Гомеля, жахлівы — ад вакзала да самага парку — пустыр... З Гомеля да Хойнік па хісткіх рэйках паравоз сунецца ціха, асцярожна, як бы вобмацкам. Мы — пасажыры, ваенныя і цывільныя,— на тэндары. Паязды не ходзяць...

У Хойніках — тое ж, што і ў Гомелі,— чорныя выгары пустыроў. У адным выгары загінула школа, якая помнілася звонам маладых шчаслівых галасоў. Каля выгара адно высяцца абгарэлыя старыя таполі... Смуткам сустракае і роднае сяло — палова Глінішч спалена, адно дзе-нідзе сіратліва чарнеюць хлявы. Спалены суседнія вёскі — Алексічы, Каранёўка, многія другія. Куды ні зірнеш — усюды абгарэлыя печышчы, скалечаныя дрэвы, пустэча... Потым — Мінск, тыя ж самыя пустыры, толькі большыя, страшнейшыя — на цэлыя кіламетры дзікія горы, ґарбатыя глыбы камення, пакручаныя паржавелыя рэйкі. Пустыя вуліцы без адзінага трамвая, маўклівыя заводы... Якая сіла, здавалася, зможа вярнуць жыццё, зрабіць усё такім, якім было да вайны!.. Тое, што было перад вайной, малявалася ў той год нам казкай, цудоўнай, далёкай казкай.

І вось — казка стала нашым жыццём. Адбудаваліся, разрасліся жоўтымі сасновымі хатамі Глінішчы, тысячы палескіх вёсак, ажыў, напоўніўся рухам, задыміў трубамі заводаў Гомель, вырас у такой красе, якая раней не чулася нам і ў казках, слаўны наш Мінск. Закрасавала, заяснела на ўвесь свет у вялікім харастве, у маладой бязмежнай сіле дарагая наша зямля. Слава яе заводаў, яе калгасаў, яе вучоных, яе песняроў ідзе па ўсёй шырыні неабсяжных прастораў вялікай Радзімы, ідзе ў Індыю, у Афрыку і ў Аўстралію.

У гэтыя дні ў асаблівай велічы паўстае подзвіг мільёнаў працавітых сыноў і дачок нашай зямлі, што дзень за днём працавалі, тварылі, уздымаючы дамы, засяваючы палі, росцячы сады, праслаўляючы працу ў песнях. З асаблівай удзячнасцю думаеш пра слаўную Партыю камуністаў, якая вяла народ праз усе выпрабаванні і прывяла да такой выдатнай перамогі.

Ордэн Леніна, другі ордэн Леніна, будзе зіхацець на чырвона-зялёным сцягу Беларусі як самая высокая ацэнка вялікага працоўнага подзвігу нашага народа. Радуюся разам з усімі і ганаруся, што маю шчасце жыць і працаваць сярод такой слаўнай сям'і.

*1958*

# НАПЕРАД І ЎВЫСЬ!

Я быў адным з тых, каму прыйшлося пачаць ваенную дарогу ў першы дзень вайны. Разам з таварышамі — артылерыстамі з прыгранічнага горна-артылерыйскага палка — давялося мне ісці па бяскрайніх, поўных смутку і болю дарогах адступлення. Ніколі не забыць, як шчодра зелянелі гаі на схілах Карпат, як шумелі патокі ў цяснінах, як гарэла нафта ў чарнавогненным начным Барыславе. Не забыць, як паліла боты гарачая зямля ўкраінскага стэпу, дзе моўчкі, нібы застыўшы ў журбе, залацілася мора надзіва багатай пшаніцы. Мы ішлі, змучаныя бамбёжкамі, абстрэламі, тугою палаючых гарадоў, не акопваючыся, адбіваліся ад аўтаматчыкаў і танкаў ворага, што насядалі на нас. Усё больш і больш таварышаў гублялі мы на пыльных дарогах, у жыце, якое гарэла на палях, а шлях адступлення ўсё не канчаўся. Лістоўкі, скінутыя з фашысцкіх самалётаў, страшылі, патрабавалі: «Вы пераможаны, супраціўляцца бессэнсоўна, здавайцеся...»

У тыя горкія дні як ніколі гарэла ў нашых сэрцах мара, прага наступлення. Але прагу гэтую мы не скора змаглі спатоліць. Сталінградская перамога дала нам не толькі вялікае салдацкае шчасце, яна была для нас падзеяй, якая гаварыла пра тое, што настаў час здзяйснення нашай мары, спатолення нашай прагі. Па марозных, заснежаных прасторах ад Волгі і Каўказа мы ішлі ўперад, гонячы полчышчы фашысцкіх заваёўнікаў, што злосна адбіваліся. Так, наша прадчуванне не падманула нас: шлях наш ішоў уперад і ўперад. Пачаўшы ўлетку ў парослых сурэпкай ды травой, зрытых акопамі і бліндажамі палях і вёсачках каля Курска і Арла, ён прывёў нас да Дняпра, на дарагія кручы Кіева, да Гомеля і Мазыра, да родных палескіх мясцін, што цэлую вечнасць сумавалі па волі.

1944 год быў годам, калі наша армія біла, крышыла, гнала армію ворага на ўсіх участках, на ўсіх напрамках. Наступленне на поўначы змянялася наступальнымі аперацыямі на поўдні, на цэнтральных франтах. Увесь свет узрушана сачыў за тым, як магутна рушылі наперад савецкія войскі, бачыў у гэтым нечаканым руху неймаверна ўзрослую магутнасць нашай арміі, нашага народа.

1944 год быў годам, калі лікавалі, святкавалі радасць вызвалення сотні гарадоў, многія тысячы вёсак і сёл. Лікавала спакутаваная ў няволі, гордая, непакораная беларуская зямля. Багушэўск і Магілёў, Беразіно і Мінск са слязамі перажытага гора і доўгачаканага шчасця абдымалі загарэлых, запыленых, стомленых у імклівых маршах і баях вызваліцеляў — родных, блізкіх, дарагіх людзей.

Яшчэ грымелі гарматы і страчылі аўтаматы на палях непадалёку ад Мінска, дзе спрабавалі вырвацца з акружэння фашысцкія дывізіі, а вызваліцелі, не спыняючыся, ішлі ўперад, на захад,— іх яшчэ чакалі Навагрудак, Брэст, Варшава...

Вясна Перамогі была нашым найвялікшым народным трыумфам. Ніколі яшчэ да тых дзён свет не глядзеў на нас з такой павагай і з такой цікаўнасцю, ніколі яшчэ не ззяла так ярка і так высока слава нашай Радзімы.

Наша слава і наша магутнасць, якая выклікала бурную радасць у мільёнаў людзей усіх кантынентаў, адазвалася ў многіх генералаў і міністраў на Захадзе няпрыхаванай трывогай і страхам. Гледзячы на нас, што святкавалі Перамогу, яны стараліся заглушыць трывогу сваю падлікамі нашых страт, цешылі сябе відовішчам бяскрайніх руін, якія знявечылі нашу зраненую зямлю.

Так, мы многа страцілі. У дні пераможнай урачыстасці не было сярод нас многіх сяброў, таварышаў — працавітых, разумных, таленавітых. Былі зруйнаваны многія заводы, інстытуты, цэлыя гарады.

Радасная раніцай 3 ліпеня 15 гадоў назад нас акружалі ў Мінску руіны: ледзь не ўвесь старажытны горад, што пражыў амаль 900 год, быў ператвораны ў гурбы цэглы і попел. Усе лепшыя будынкі былі ўзарваны і спалены, вынішчаны агнём і выбухамі лепшыя вуліцы; жыццё, здавалася, назаўсёды пакінула

іх, завяршыўшы шматвяковую цяжкую гісторыю горада.

У руінах былі Лельчыцы, Гомель, Орша, уся беларуская зямля. Здавалася, ніколі ўжо не зазелянее яна ў былой красе, ніколі не зазвініць над яе палямі і пералескамі з былой весялосцю песня.

Але яна зажывіла раны, родная зямля. На былых папялішчах шумяць цяпер пятнаццацігадовыя бярозы, глядзяць у свет чыстымі вачамі вокан новыя і ўжо не новыя, пацямнелыя пад сонцам і дажджамі пасляваенных гадоў хаты ў калгасных сёлах. Апошнія гады прынеслі беларускім працаўнікам добры дастатак, і песня шырэй, званчэй загучала над нівамі.

У родных Глінішчах, за Прыпяццю, дзе, вярнуўшыся з балот, некалі горкімі слязамі плакалі над неастылымі папялішчамі аднавяскоўцы, цяпер спяваюць так хораша, як, можа, раней ніколі не спявалі. Песні з палескай вёскі слухалі і ў Гомелі і ў Мінску, іх песні гучалі на ўсю рэспубліку.

Нават людзям з самай багатай фантазіяй, якія бачылі руіны Мінска, цяжка было ўявіць, як зменіцца неўзабаве наш горад. У першыя гады агульным для кожнага мінчаніна было гарачае імкненне, выказанае ў клятве: «Мы адновім цябе, наш родны Мінск!»

І вось, праз паўтара дзесятка год, мы ідзём па горадзе, па яго шырокіх прасторных праспектах, міма стройных гмахаў дамоў, міма знаёмых, прывычных радоў ліп, і мімаволі думаецца: не, гэта не адноўлены горад, гэта новы горад — такім прыгожым, як цяпер, Мінск ніколі не быў! Не было ніколі раней у ім такіх выдатных праспектаў і плошчаў, такіх дасканалых заводаў, як нашы аўтамабільны і трактарны, як многія, многія іншыя, не было такога кіпення жыцця ў цэхах, аўдыторыях, на плошчах і вуліцах!

Гэта — горад, народжаны нанава вялікім нашым рухам наперад, горад, народжаны ў новую эпоху, створаны гэтай эпохай, якая, як маці, не магла не перадаць яму свае рысы, асаблівасці свайго аблічча, свайго тэмпераменту і душы.

Наша шчасце, што мы жывём у такой магутнай Айчыне, як Савецкі Саюз. На кожным з нас водбліск той славы, якой ззяюць над светам спадарожнік і касмічная ракета, у сэрцы кожнага з нас часцінка магутнасці нашай Радзімы. Магутнасць гэтая і энергія напаўняюць

і жыццё роднай Беларускай рэспублікі. Разам з усёй краінай, пад мудрым кіраўніцтвам партыі ідзе цяпер яна, квітнеючая, працавітая, па шляхах, намечаных XXI з'ездам, па вялікіх шляхах сямігодкі.

Углядваючыся ўдалячынь, мы бачым, як усё шырэй разгортваюцца перад намі, вабячы нас, прасторы жыцця, мы поўныя надзей, мы ведаем, што надзеям гэтым суджана спраўдзіцца,— мы ў вялікім наступленні, ідзём наперад і ўвысь, да цудоўнага блізкага — да камунізма!

*1959*

## КАЛІ ГАРТАЕШ СТАРОНКІ...

Апавяданні «Сустрэча» і «Апошняя аперацыя», якімі пачынаецца гэтая кніга,— першыя мае празаічныя творы.

Напісаны яны далёка ад роднай зямлі, у ваенным Тбілісі, увосень, калі варожыя салдаты падыходзілі да Сталінграда і Каўказа. Я ляжаў у шпіталі ранены: правае плячо было разбіта асколкам бомбы. Рука, якую ледзь не адрэзалі, як нежывая вісела на падвязачцы з марлі, рана зажывала марудна. Я спрабаваў пісаць левай рукой.

Аловак не хацеў слухацца. Пісаць не правай рукой з непрывычкі аказалася задачай надзіва цяжкай. Але куды цяжэй было пераказваць паперы тыя пачуцці, якія не давалі спакою мне, юнаку, якому здавалася тады, што ўсё зведана, пражыта...

Гэтыя крымзолі ў зялёным рэчавым мяшку пераплылі Каспійскае мора, жылі са мной у трывожным заволжскім гарадку Бугуруслане, у ціхім падмаскоўным пасёлку Сходня. Там, у Сходні,— не ў першы раз — апавяданні былі перапісаны ў новы сшытак і трапілі на суд чуламу, шчодраму чалавеку — Кузьме Чорнаму.

Мне потым пашанцавала некалькі разоў з ім сустрэцца, гаварыць. Аб гэтых сустрэчах, я расказаў пазней у апавяданні-нарысе «Чулае сэрца».

Балюча ўспамінаць — апошні раз з дарагім пісьменнікам давялося сустрэцца ўжо на старонках газеты. У тым жа нумары «Звязды», дзе яго імя было абведзена жалобнай рамкай, паявілася ў друку першае маё апавяданне, якое ён бласлаўляў у свет. Яно называлася «Сустрэча»...

Апавяданне «У завіруху» большай часткай было напісана летам у Глінішчах, роднай вёсцы, у якую я вярнуўся пасля доўгай разлукі. На месцы нашага дома, які сніўся мне ўсе гэтыя гады, чарнела адно халоднае ву-

голле ды сівеў прыбіты дажджамі попел. Бацькі жылі ў чужой хаце. Стала ў пакоі не было, і пісаць прыйшлося на скрыні, адзіным сямейным скарбе з набытку, што, закапаны ў зямлю, уцалеў ад ваеннай навалы. На гэтай скрыні пісаў я цераз год і сваю першую аповесць «Гарачы жнівень» — і па сённяшні дзень адзін з самых мілых мне твораў.

Пішу пра гэта я не таму, што лічу такія згадкі вельмі важнымі чытачу, а таму, што ўспаміны самі адразу ажываюць, шчымяць у сэрцы, ледзь кранеш рукой даўнія старонкі. Пры ўсім тым я думаю, што і чытачу такія «падрабязнасці» наўрад ці будуць зусім нецікавыя — у іх жа, няхай дробныя, кропелькі жывога жыцця літаратуры...

Не буду расказваць пра «гісторыю» іншых твораў. Хачу толькі зрабіць маленькую заўвагу пра нарыс «Дарогі на ўсход і на захад». Твор гэты, які паўтара дзесятка гадоў назад друкаваўся пад назвай «Заўсёды наперадзе», быў як бы разведкай перад пачаткам работы над раманам «Мінскі напрамак». Напісаў яго я ўвосень 1947 года і адразу ж пачаў працаваць над раманам. «Дарогі на ўсход і захад» — твор ад пачатку да канца дакументальны, і я быў вельмі абмежаваны, сціснуты вузкімі рамкамі дакументаў. Задача яшчэ ўскладнялася тым, што нікога, акрамя самога героя, я не змог пабачыць і распытаць. Усё гэта не магло не адбіцца на творы...

Апошняя ў кнізе рэч — «Ліпень у дарозе» — напісана ў 1956 годзе. Але, рыхтуючы кнігу на суд чытачоў, я зноў вярнуўся да амаль усяго напісанага, дзе трэба было, паправіў, што трэба было, выкрасліў, перапісаў нанова. Такім чынам, можна сказаць, у гэтай кнізе, з вялікімі ці малымі «перапынкамі», якія аддадзены раману і п'есам,— больш як пятнаццацігадовая дарога.

Дарога гэта мае свае ўздымы і спады, свае павароты. Ёсць людзі, якія лічаць, што творчасць пісьменніка павінна быць простай, няспыннай дарогай угору. У жыцці так бывае — калі толькі бывае! — рэдка. Нават шасэ, як яго ні стараюцца раўняць, амаль ніколі не сцелецца роўным абрусам. Творчая ж дарога, мне здаецца,— гэта дарога ў полі між лесу, дарога цераз высыпы і брады, дарога па звычайнай зямлі. Можна засыпаць на ёй ямы і калдобіны, зрабіць грэблі цераз брады,

але адзнакі спаду і ўздымаў, сляды таго, хто ішоў тут, застануцца на ёй для пільнага вока назаўсёды.

У кнізе гэтай мая ўжо няблізкая, горкая, але любая сэрцу маладосць, няўпэўненыя першыя крокі. У ёй сумненні і пошукі, развагі і роздум, прыкметныя здалёк пралікі і — здагадкі, што радуюць і цяпер. Няпроста, няроўна ішла дарога, але, можна сказаць, ішла ўсё ж наперад. Жыццёвы вопыт і гады працы зрабілі сваё: крокі сталі, здаецца, больш цвёрдыя, позірк больш удумлівы...

Нарадзіўся я ў 1921 годзе. Радзіма мая — вёска Глінішчы — прыляпілася двума радамі хат на самым беразе нешырокай, але доўгай паласы трывалай зямлі, што цягнецца між бяскрайніх балот ад Хойнік да Юравіч, вялікага сяла каля Прыпяці. Глінішчы — цераз кіламетр ад шляху. Я помню за вёскай цудоўныя гаі і дубровы, бор удалечыні. Цяпер жа ў бок шляху і за шляхам шырокае поле. Дарогі і поле. На ўездзе ў вёску вырас цэлы пасёлак калгасных пабудоў — фермы, свірны, магазін. Ад іх да самага шляху бягуць роўныя рады саду...

Вучыўся я ў Глінішчах, у суседнім сяле Алексічы, у Хойніках, былым мястэчку, што падступае да краю вялікага бору-хвойніку. У Хойніках я пачаў працаваць у райкоме камсамола. Вучыўся крыху ў Маскве — у інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры, служыў у арміі ў Данбасе і на Карпатах. Вайна заспела ў карпацкім гарадку пры самай граніцы. Адступаючы на поўдні ўкраінскімі стэпамі, трапляў некалькі разоў у акружэнні варожых войск, удзельнічаў у цяжкіх баях. Летам 1942 года быў ранены, лячыўся ў шпіталях. Потым працаваў выкладчыкам ваеннай падрыхтоўкі і вучыўся. Скончыў аспірантуру Беларускага дзяржаўнага універсітэта, але дысертацыі не напісаў — замест яе напісаў некалькі кніжак прозы.

З усяго, што выдадзена за мінулыя гады, больш прыкметнымі здаюцца мне апавяданні «У завіруху», «Спатканне за горадам», «У гарах дажджы», «Што ён за чалавек», тры невялікія аповесці — «Гарачы жнівень», «Зямля, якую любіш», «Дом пад сонцам», раман «Мінскі напрамак», п'есы «Пакуль вы маладыя», «Дні нараджэння».

Цяпер, калі пішу гэтыя радкі, на стале побач ляжыць папка з новым раманам «Людзі на балоце». Ра-

ман ужо блізкі да завяршэння. Калі стане сілы, напішу некалькі раманаў, звязаных адзін з адным, якія ахопяць трыццаць гадоў палескага жыцця. Цыкл, мусіць, будзе называцца «Куды ідуць дарогі». Акрамя гэтых раманаў хачу напісаць кнігу аб маіх равесніках, пакаленні хлопцаў, якім у дваццаць гадоў давялося ўзяць на свае грудзі ўдар страшнай ваеннай навалы. Вельмі многія таварышы мае асталіся ляжаць у гарачай зямлі сорак першага года, і я, каму пашчасціла больш, адчуваю абавязак расказаць пра іх.

Ёсць нямала і іншых задум. Пражытае жыццё і тое, якое кіпіць навокал цяпер, дае вялікі прастор для творчасці. Мару аб тым, каб ажыццявіць хоць частку задуманага.

*1961*

## ДОБРАЯ ПАРА!

Надзіва пагодная выдалася сёлета восень. Цяжка прыгадаць другі такі цёплы і сонечны кастрычнік — ні халадоў, ні бясконцай дажджлівай імжы. Быццам адчуваючы віну за хмурнае лета, быццам жадаючы парадаваць людзей, расшчодрылася звычайна не вельмі ветлівая ў гэтую пару прырода.

Задумліва шамаціць лісце на асфальце бульвараў і на дарожках паркаў. У шырокіх палях, што жаўцеюць пожняю і цямнеюць квадратамі свежага ворыва, раніцай і пад вечар далячынь зацягвае лёгкая сіняватая восеньская смуга. У адвечна журботнай восеньскай цішыні палёў далёка чуваць бадзёры працавіты басок трактараў.

Па шашы праносяцца машыны, гружаныя яблыкамі, капустай, лесам, мэбляю, маторамі. У аўтобусах поўна людзей, яны спяшаюцца некуды са сваімі клопатамі і турботамі. Амаль не змаўкае над горадам, што шырока раскінуўся на пагорках, рокат самалётаў — ляцяць на поўдзень, на ўсход, на захад — да Варшавы, да Прагі... Над заводскімі комінамі на ўскраіне горада не растае пеляна дыму. Пад'едзеш бліжэй да карпусоў — і пачуеш за шырокімі вокнамі цэхаў галасы станкоў, музыку напружанага працоўнага жыцця.

Восень поўная руху, клопатаў, працы. Радасцямі мірнага жыцця поўняцца старонкі газет: ленінградскія караблебудаўнікі ў гонар з'езда здалі датэрмінова некалькі гандлёвых і прамысловых караблёў, перавыканалі абавязацельствы шахцёры Кузбаса. Вось яшчэ адна не абы-якая радасць: уступіла ў строй самая доўгая ў свеце электрамагістраль Масква — Байкал. Першым святочным поездам прыехалі на XXII з'езд дэлегаты ад некалькіх цалінных абласцей...

Сярод добрых вестак, што прыносяць у гэтыя дні газеты і радыё, нямала і нашых, беларускіх. Некаторыя

з іх урываюцца не толькі радкамі газет або голасам дыктара — вось над горадам плаўна і лёгка плыве прыгажун «АН-10», мірны голас яго як прывітальная сяброўская гамонка, як музыка да дыктарскага тэксту. Самалёт ляціць у Маскву, ён у некалькі разоў скараціў адлегласць да яе, яшчэ больш наблізіў да яе наш горад, нашы хаты, нашы сэрцы...

Адна вестка асабліва хвалюе. Яна выклікае ўспаміны пра багаты ўражаннямі, радасны і значны дзень твайго асабістага жыцця. Гэтае асаблівае хваляванне адчуў я, даведаўшыся пра тое, што рабочыя і інжынеры Беларускага аўтамабільнага завода напярэдадні з'езда выпусцілі першы ўзор новага магутнага самазвала. Мне давялося бачыць 27-тонны першынец у пару яго нараджэння ў заводскім цэху, калі вакол яго завіхаліся яшчэ рабочыя і майстры, калі толькі па велічыні рамы ды па чарцяжах можна было ўгадаць маштабы і аблічча будучай машыны.

І вось новая машына, больш эканамічная, больш манеўраная, выходзіць у дарогу. Пройдзе нямнога часу, і дзесяткі, а потым і сотні такіх самазвалаў пойдуць з варот маладога завода на будоўлі і прадпрыемствы нашай краіны, у многія краіны свету.

Хутка бяжыць час. На такіх заводах, як новы гігант, што вырастае побач са сціплымі хатамі былой звычайнай беларускай вёскі Жодзіна, бег часу адчуваеш асабліва выразна. Ці даўно, здаецца, распачаў жыццё другі ў Беларусі аўтазавод, а машыны яго працуюць ужо і на Ангары і ў Сакалова-Сарбайскіх кар'ерах, і на зямлі Кубы. Завод з дня ў дзень набірае сілу, расце, мацнее. У тыя дні, калі сакратар партбюро завода, былы марак і вопытны партыйны работнік В. Р. Новікаў, паказваў нам Беларускі аўтамабільны, рабочыя канчалі аддзелку новага цэха. Прасторны, надзвычай светлы і чысты, з добрым ацяпленнем і асвятленнем, гэты цэх быў падобны на велізарную спартыўную залу.

Заводскі пасёлак, што размясціўся недалёка ад цэхаў,— гэта няхай сабе пакуль невялікі, але ўжо прыгожы, сучасны горад. І дамы, і магазіны, і малады бульвар, які злучае завод і Палац культуры, нічым не горшыя за мінскія. Калі ідзеш па пасёлку, здаецца, што ты ў Мінску. Зрэшты, Палац культуры ў завода такі, што яму маглі б пазайздросціць сталічныя рабочыя калектывы. Ці ж дзіўна, што культурнае жыццё

тут нічым не бяднейшае, чым у сталіцы,— мінскія тэатры тут нярэдкія госці, а заводскія спевакі і танцоры сваім майстэрствам і запалам могуць паспрачацца з любымі мінскімі...

Добрая восень, цудоўная восень ідзе па нашай зямлі, восень года Гагарына і Цітова, восень года XXII з'езда КПСС. Яна цудоўная, сёлетняя восень, нават нягледзячы на хаўтурнае выццё, што даносіцца з-за мяжы, дзе мараць пра рэваншы, пагражаюць «сілай пракласці дарогу ў Берлін», бомбамі і супербомбамі. Яна цудоўная, гэтая пагодлівая, цёплая восень, нягледзячы на тое, што многім нашым салдатам і сержантам, якім увосень выпадала вярнуцца да мірных заняткаў, прыйдзецца пакуль затрымацца, падзяжурыць ля лакатараў, ля гармат, ля ракетных установак.

Праўда, у халодным, ледзяным ветры, што пранікае да нас з краін ваяўнічага лагера НАТА, пачынаюць выразна адчувацца і іншыя павевы. Нядаўна лейбарысцкі штотыднёвік «Трыбюн» надрукаваў «Пісьмо брытанскаму народу» вядомага пісьменніка Джона Осбарна — «правадыра» літаратурнай групы «сярдзітых маладых людзей». Осбарн у сваім пасланні, надзвычай характэрным для настрояў перадавой часткі англійскай інтэлігенцыі, піша: «Гэтае пісьмо поўнае нянавісці. Яно адрасуецца вам, мае суайчыннікі. Яно адрасуецца тым, хто здрадзіў маёй краіне. Людзям з пальцамі маньякаў, якія штурхаюць у магілу аслепленае, бездапаможнае і прададзенае цела маёй Радзімы. Вы забойцы, і ні пра што іншае, акрамя гэтага, я не магу думаць... Мне толькі хацелася б, каб усе тыя, хто быў дэмакратычна выбраны ў парламент, сапрэлі ў сваіх крэслах у Вестмінстары, а разам з імі, па крайняй меры, сем з дзесяці амерыканцаў... У сваім сэрцы я нашу нож для кожнага з вас, для вас, Макмілан, і асабліва для вас, Гейтскел... Я праклінаю цябе, Англія. Ты ўся прагніла і хутка зусім знікнеш!»

Пісьмо гэтае падтрымалі многія маладыя пісьменнікі Англіі, таварышы Осбарна, але што асабліва цікава, спачувальна аднеслася да яго і такая ваяўнічая газета, як «Дэйлі мэйл», якая раней прыклала нямала намаганняў, каб напаліць адносіны паміж Захадам і Усходам, раздуць ваенна-тэрмаядзерную гарачку. У перадавым артыкуле, прысвечаным пісьму Осбарна, «Дэйлі мэйл» палічыла разумным заявіць: «Гэта крык

чалавека, які павінен абудзіць краіну... Ядзерная палітыка занадта небяспечная, каб і надалей заставацца ў руках цяперашніх дзеячаў. Таму разумныя людзі павінны публічна выступіць, аказаць максімальны націск на ўрад, самі стаць палітыкамі. У рэшце рэшт лёс міру можа вырашыць толькі сам народ».

Той трывожны роздум, які, можа, трохі своеасабліва выказаў сярдзіты англічанін, як відаць, непакоіць цяпер на Захадзе не аднаго яго. Ці ж не гэты роздум адбіўся на выніках работы англійскай лейбарысцкай канферэнцыі ў Блэкпулі, дзе большасць дэлегатаў, насуперак кіраўніцтву партыі, прагаласавала супраць размяшчэння ў Англіі баз амерыканскіх падводных лодак з ракетамі «Палярыс», супраць заходнегерманскіх баз? Зрэшты, новыя абнадзейваючыя ноткі з'явіліся і ў галасах некаторых амерыканскіх палітыкаў, накшталт сенатара Фулбрайта, які ўзначальвае камісію па замежных справах. Новыя ноткі іншы раз улоўліваюцца і ў голасе амерыканскага прэзідэнта, хоць ён пакуль яшчэ занадта прыслухоўваецца да ваяўнічых клічаў састарэлага заходнегерманскага канцлера...

Аднак наш настрой мала залежыць ад прамоў і настрояў тых, хто вяршыць палітыку ў тым свеце. Наш настрой вызначаецца перш за ўсё тым, як ідуць справы ў нас. Справы нашы ідуць добра — таму і добры, выдатны настрой. Добрага настрою дадаў нам праект Праграмы Камуністычнай партыі нашай краіны, прасякнуты вялікай верай у шчаслівы заўтрашні дзень, што адкрывае цудоўныя, хвалюючыя сваёй канкрэтнасцю, відавочнасцю, прасторы камуністычнай будучыні. Не толькі сэрцы савецкіх людзей — сэрцы ўсіх працоўных людзей свету прынялі трэцюю Праграму нашай партыі як песню надзеі, песню трыумфу грамадства, дзе не будзе сацыяльнай няроўнасці, прыгнечання, войн, дзе законам жыцця народаў будзе Мір, Праца, Свабода, Роўнасць і Шчасце. Непахіснай упэўненасцю ў перамозе вялікай справы камунізма прасякнуты заключныя словы праекту Праграмы, якія гучаць як клятва партыі народу, чалавецтву:

«Пад выпрабаваным кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, пад сцягам марксізма-ленінізма савецкі народ пабудаваў сацыялізм.

Пад кіраўніцтвам партыі, пад сцягам марксізма-ле-

нізма савецкі народ будуе камуністычнае грамадства.

Партыя ўрачыста абвяшчае: цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме!»

У гэты дзень, калі ў вестыбюлі новага Крамлёўскага палаца з'ездаў, што зззяе шклом і мармурам, пачнуць сыходзіцца дэлегаты і госці з усяго свету, пачнецца самы значны час нашай восені, нашага года. Увесь свет думкаю будзе ў шырокай, урачыста прыціхлай зале Палаца, калі старшынствуючы аб'явіць аб адкрыцці дваццаць другога з'езда, калі да трыбуны будуць выходзіць дакладчыкі, прамоўцы. Увесь свет будзе слухаць дваццаць другі з'езд.

Ад усяго сэрца поспеху вам, таварышы — дэлегаты XXII партыйнага з'езда!

*1961*

## ПРА ПРАВЫ І ПРА АБАВЯЗКІ

У святле рашэнняў XXII з'езда сталі асабліва прыкметнымі некаторыя, можна сказаць, характэрныя слабасці немалой часткі нашай літаратуры. Быў час, калі не адзін з нас маляваў жыццё як нейкую дарогу для лёгкіх і прыемных шпацыраў, дарогу, на якой нашага — звычайна вясёлага — спадарожніка чакаюць адны добрыя падарункі, радасці, удачы. Захопленыя хараством нашага часу, мы на розныя лады паўтаралі, якія правы мае наш чалавек, і звычайна забывалі пры гэтым сказаць, што ў чалавека ёсць не толькі правы, але і такая неабходная рэч, як абавязкі. Абавязкі перад таварышамі, перад калектывам, перад краінай. Калі ў вядомай песні спяваюць, што чалавек мае права «на ученье, отдых и на труд», то ў дачыненні да апошняга хочацца сказаць, што праца чалавечая — гэта не толькі права — якім, дарэчы, іншыя маладыя людзі і не вельмі жадаюць карыстацца,— а перш за ўсё абавязак, вялікі, неад'емны абавязак кожнага. І кожны дарослы чалавек, здольны працаваць, павінен яго выконваць.

Там, дзе ідзе гаворка аб працы, галоўнае, што павінна кіраваць чалавекам,— гэта ўсведамленне неабходнасці сваёй працы для людзей, для народа. Чалавек камуністычнага грамадства тым найперш і адрозніваецца ад абывацеля, што ўсведамленне неабходнасці сваёй працы будзе асноўным законам яго паводзін, яго жыцця, як яно стала законам жыцця ўжо для многіх і многіх нашых сучаснікаў.

Тут трэба, дарэчы, сказаць, што літаратура наша дагэтуль нярэдка паказвае працу непраўдзіва, залішне святочна, знарок абыходзячы будзённы, цяжкі бок працы. А праца ж — гэта такі працэс, які нават пры

камунізме заўсёды будзе патрабаваць ад чалавека немалой мабілізацыі разумовых і фізічных сіл, напружання волі. У наш час праца перастала быць праклятцем чалавечага жыцця, цяпер знішчана ўсё бруднае, што наліпла на працу ў свеце эксплуатацыі, але гаварыць аб ёй нават у будучым як аб нейкай лёгкай прагулцы — гэта значыць гаварыць няпраўду, дэзарыентаваць нашых — асабліва маладых — людзей.

Мне здаецца, што цяпер як ніколі важнае значэнне набывае эстэтычнае выхаванне працоўных. Камунізм нельга ўявіць без вялікай эстэтычнай культуры жыцця, быту, поглядаў кожнага чалавека. У нашай краіне ідзе небывалая па сваім размаху работа па эстэтычнаму выхаванню мільёнаў людзей, і ўсё ж нельга не заўважыць, што з эстэтычнай культурай у нас далёка не ўсюды добра. Вельмі ж вялікім, крыўдным поспехам карыстаюцца некаторыя невысокай мастацкай пробы фільмы, спектаклі, кнігі, вельмі ж часта яшчэ аддаецца перавага якому-небудзь спекулятыўнаму дэтэктыву перад добрай і разумнай прозай, лёгкаму і прымітыўнаму ігрышчу перад глыбокай тэатральнай працай. Вядома, тут вінаваты і пісьменнікі, і кінаработнікі, і тэатры, якія нярэдка быццам забываюць аб сваім высокім прызначэнні — выхоўваць, вучыць. Як ні сумна, прыходзіцца часам заўважаць, што клопаты некаторых дырэктараў устаноў культуры зведзены амаль цалкам да выканання фінансавых планаў.

Не ўсё добра ў нас і з культурай у рабоце, якая павінна рабіць прыгожым чалавечы быт. Варта зайсці ў любы магазін адзення, прыгледзецца да радоў пашытых беларускімі фабрыкамі касцюмаў, і вы заўважыце, што цудоўныя тканіны нашых фабрык рэдка трапляюць у рукі сапраўдных майстроў шыцця. Не выклікае радасці і многае з таго, чым запаўняюць магазіны мэблевыя фабрыкі. Рэдка, вельмі рэдка цешыць вока іх прадукцыя, мала, надзіва мала даюць яны таннай, лёгкай і прыгожай мэблі — куды часцей іх шафы, канапы, серванты — і дарагія, і нязграбныя, і такія старасвецкія, што мімаволі думаеш: ці ёсць на мэблевых фабрыках людзі са звычайным мастацкім густам? Выстаўка мэблі, якая была адкрыта летам у Доме фізкультуры, нібы наглядна паказала, што ледзь не ўся мэбля нашых фабрык самай нізкай эстэтычнай якасці.

А рэчы ж гэтыя павінны акружаць чалавека, быць з ім у жыцці многія гады!

Хочацца тут сказаць аб тым вялікім доўгу, які яшчэ не сплацілі чытачам наша беларускае літаратуразнаўства і крытыка. Пасля XX з'езда КПСС наша навука многа і плённа працавала над тым, каб выправіць памылкі, каб па-новаму, праўдзіва асвятліць гераічны шлях савецкага народа да цяперашніх перамог. Няма ніякай патрэбы напамінаць тут, што зроблена за гэтыя гады вучонымі краіны, у тым ліку і беларускімі вучонымі. Усё ж нельга не сказаць, што пры ўсіх добрых поспехах лепшых нашых крытыкаў і літаратуразнаўцаў мы дасюль не маем грунтоўнай калектыўнай працы, якая б па-новаму, праўдзіва і глыбока паказвала гісторыю беларускай літаратуры. «Нарысы гісторыі савецкай беларускай літаратуры», выдадзеныя ў 1954 годзе, дасюль застаюцца асноўнай калектыўнай кнігай па гісторыі нашай літаратуры савецкага часу. Між тым кніга гэта паказвае гісторыю беларускай літаратуры не толькі павярхоўна, але па сутнасці і неаб'ектыўна, бо складаны і багаты змест літаратурнага працэсу ў ёй надзвычай збеднены, спрошчаны. Творчасць толькі некалькіх пісьменнікаў прааналізавана ў гэтай працы з належнай увагай, сур'ёзны ж аналіз творчай працы многіх і многіх нашых пісьменнікаў падменены скорагаворкай, жангліраваннем імёнамі і назвамі. Факты гісторыі мераюцца рознымі меркамі — адна для адной катэгорыі пісьменнікаў, другая — для іншых.

Думаецца, што Саюзу пісьменнікаў і Інстытуту літаратуры Акадэміі навук БССР трэба нямала папрацаваць разам, каб паказаць чытачам гісторыю беларускай літаратуры такой багатай, шматфарбнай, цікавай, якой яна была ў жыцці. Думаецца, на карысць справы было б, каб у гэтай гісторыі менш думалі аб стварэнні некалькіх асобных манументаў-манаграфій, якія па майму перакананню, толькі перашкаджаюць шырокаму і стройнаму паказу магутнай плыні літаратуры, а больш думалі б аб тым, каб намаляваць гісторыю літаратуры ў адпаведнасці з праўдай. Хочацца спадзявацца, што тая кніга-гісторыя нашай літаратуры, якую мы, нарэшце, атрымаем, будзе на ўзроўні часу.

У заключэнне я хацеў бы ўзняць такое пытанне.

Мне здаецца, наспела пара нам мець сваю энцыклапедыю, энцыклапедыю беларускага народа.

Нацыянальныя энцыклапедыі ўжо ёсць на Украіне, у рэспубліках Прыбалтыкі, выходзяць у іншых рэспубліках. Наспела пара стварыць і энцыклапедыю ў Беларусі.

Мне здаецца, узровень нашай культуры дастатковы для таго, каб быць упэўненым, што гэтая вялікая і адказная праца, якая датычыць усіх галін навукі, будзе зроблена на належным узроўні.

У неабходнасці такога выдання, думаю, ні ў кога няма сумнення.

*1961*

# ЗАЎВАГІ Ў СПРЭЧКАХ

Мне здаецца, што спрэчкі на нашым пленуме разгортваюцца цікава, што ў іх выказана ўжо нямала важных разваг.

Я хацеў бы выказаць таксама некалькі думак, якія, на мой погляд, варты ўвагі.

Перш за ўсё я хацеў бы далучыцца да тых таварышаў, якія кранулі пытанне аб справядлівасці ацэнак тых ці іншых з'яў літаратуры.

Тут гаварылі пра тое, што ацэнкі, якія выказваюцца ў розных крытычных артыкулах, нярэдка не адпавядаюць рэальным вартасцям. Я хацеў бы падтрымаць гэтых таварышаў, але ўвагу вашу я маю намер скіраваць не на асобныя артыкулы, а на такую важную і стабільную з'яву нашага жыцця, як асвятленне літаратурнага працэсу ў нашых грунтоўных навуковых працах. Гэта значыць, на «Гісторыю беларускай савецкай літаратуры» і на «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры».

Само з'яўленне гэтых твораў — значная падзея ў нашым жыцці. Яна сведчыць пра тое, што нашы крытыкі-літаратуразнаўцы імкнуцца выходзіць да шырокіх абагульненняў, імкнуцца звязаць асобныя з'явы літаратуры ў шырокую панараму літаратурнага жыцця.

На жаль, гэтыя кнігі паказалі не толькі некаторыя поспехі, але і значныя няўдачы.

У чым гэтыя няўдачы? Галоўная з іх, на маю думку, ідзе ад заганнага па сваёй аснове неаб'ектыўнага погляду на літаратурнае жыццё.

Неаб'ектыўнасць гэта выяўляецца ў тым, што з'явы літаратуры нашымі аўтарамі вызначаюцца як бы не адным крытэрыем. Такое ўражанне, быццам на з'явы літаратуры аўтары гэтых нашых работ глядзяць то адным бокам бінокля, то другім. Эфект гэтых спосабаў разгляду вядомы: пры такім разглядзе ў адным

выпадку з'явы набліжаюцца, павялічваюцца так, што можна разгледзець кожную травінку, пры другім — аддаляюцца і змяншаюцца так, што дрэва становіцца падобным на травінку, а травы і наогул не відаць. У другім выпадку бывае наогул разабраць што-небудзь немагчыма.

Па такому спосабу падаецца ў нас літаратура. Творчасць дзесяці — дванаццаці чалавек — пісьменнікаў у большасці сапраўды значных — разглядваецца ў нашых «Гісторыі» і «Нарысах» тым кірункам бінокля, калі можна разгледзець усё (нават часам павялічана), а дзейнасць іншых — адваротным кірункам, калі ўсё зліваецца ў шэры фон.

Агульны фон у «Гісторыі» і «Нарысах» напісаны да таго шэра, што робіцца няёмка за нашу Акадэмію навук, за тое, што на вокладцы грыф гэтай паважанай установы.

Пры гэтым трэба адзначыць, што рад гэтых вылучаных для асаблівага разгляду надзіва трывалы, як бы ўзаконены, хоць і невядома кім. Калі прыглядваешся да гэтага рада, узнікае і такое пытанне: чаму ў гэтым радзе не знайшлося месца, напрыклад, Янку Маўру, пісьменніку сапраўды выдатнаму, пісьменніку, які ўвёў у нашу літаратуру новыя матывы і новыя прасторы, які, без перабольшання, стварыў беларускую дзіцячую літаратуру.

Але галоўнае, што выклікае ў мяне сумненні, гэта тое, што такі метад неаб'ектыўнага разгляду сам па сабе неправамерны. Ён як бы дзеліць літаратуру на дзве часткі: на нейкую літаратурную арыстакратыю і чорнарабочых ад літаратуры. Ён, поўнячыся павагай да адных, знарок ці незнарок выказвае непавагу да іншых, змяншае плён іх працы. Ён нараджае нячуласць да многіх, неімянітых, пісьменнікаў і разам з гэтым нячуласць да таго новага, карыснага, што яны вядуць у літаратуру. Яму не хапае добрага дэмакратызму, ён дапускае ў ацэнку літаратурных з'яў барскае верхаглядства.

Я лічу, што ў гэтых работах выявілася такая загана нашых даследаванняў, якую можна назваць крытычным кансерватызмам. Вучоныя нашы як бы не лічацца з тымі зменамі, якія робіць хуткае наша жыццё, як бы не давяраюцца яго фактам.

У выніку ўсяго карціна развіцця і жыцця нашай

літаратуры ў гэтых працах аказалася далёкай ад праўды. Можна сказаць, працы гэтыя даюць скажоны малюнак таго, што было і ёсць. Яны часам не так памагаюць разабрацца ў праўдзе, колькі заблытваюць яе, і па гэтых кнігах вучаць гісторыю літаратуры студэнты нашых ВНУ, студэнты Маскоўскага універсітэта, краін народнай дэмакратыі.

Я зусім не думаю заклікаць да ўраўнілаўкі ў ацэнцы заслуг пісьменнікаў; наадварот, я заклікаю да таго, каб здабытак кожнага быў вартым чынам ацэнены. Гэта ж магчыма толькі тады, калі здабыткі кожнага будуць узважвацца на адзіных, справядлівых вагах.

Я цалкам падтрымліваю пафас А. Адамовіча, які бачыць нашу літаратуру як «багацце творчых індывідуальнасцей». Сапраўды, наша літаратура багатая талентамі, і трэба яе так бачыць і такой паказваць. Дык навошта ж мы сябе збядняем?

Лічу, што нашы вучоныя павінны ў цэлым пашыраць поле грунтоўных даследаванняў творчасці пісьменнікаў. Час больш выяўляць творчае развіццё пісьменнікаў, што робяць сучасную літаратуру. Відаць, пакуль вучоныя будуць разважаць пра тое, як будаваць «гісторыю» літаратуры, жывому літаратурнаму працэсу маглі б памагчы часопісы, друкуючы такую форму даследаванняў літаратурных з'яў, як «літаратурныя партрэты».

Хачу выказаць некалькі думак пра сувязі літаратуры са школай.

У выхаванні школьнікаў, усім вядома, мастацкай літаратуры належыць выключная роля. Важнае значэнне тут мае класічная літаратура, савецкая літаратура мінулых гадоў. Хачу, аднак, падкрэсліць, што выхаванне літаратурай, плённасць гэтага выхавання ў немалой меры будзе залежаць ад таго, наколькі да вялікай справы выхавання будзе прылучацца літаратура сучасная. Сучасная літаратура вядзе ў школу сучасныя праблемы, ставіць і з тым ці іншым поспехам вырашае надзённыя пытанні, якія хвалююць нашу моладзь. Вядома, тут павінны ўлічвацца мастацкі ўзровень гэтых твораў, пераканаўчасць іх вобразаў і рашэнняў. Не можа быць, канечне, зніжэння патрабаванняў да такіх твораў.

Ці маем мы такія творы? Па-мойму, маем. Ці карыстаюцца імі нашы школьныя падручнікі? Не. Школь-

ныя падручнікі і школьныя праграмы застаюцца многія гады нязменнымі. У іх амаль не адбіваецца жывое жыццё літаратуры. Яны недаравальна адстаюць ад жыцця і разам — ад яго патрэб.

Складваецца ўражанне, што органы народнай асветы, у тым ліку Міністрэства асветы, у цэлым няўважліва ставяцца да выкладання ў школах беларускай літаратуры, якасць выкладання яе нярэдка невысокая. Аб гэтым неаднойчы пісала «Літаратура і мастацтва», гаварылі пісьменнікі на розных сходах. Фактаў такіх даволі. З імі нельга не лічыцца.

Не можам пахваліцца належнай увагай да беларускай літаратуры і з боку выдавецтва вучэбна-педагагічнай літаратуры Міністэрства. Выдавецтва, як кажуць, не надта туліць да сябе нашу літаратуру. У сваёй дзейнасці яно, падобна, кіруецца прынцыпам выдаваць толькі тое, што не выдаваць нельга. Гэта значыць, выдае толькі тое, што належыць па цесных школьных праграмах кнігі дзесятка аўтараў. Любоў, аднак, кажуць выяўляецца там, дзе нешта робіцца без прымусу, па ахвоце. Дык вось, не па абавязку, а па ахвоце, па-за праграмамі выдавецтва вучэбна-педагагічнай літаратуры выдала ні мала ні многа дзве кнігі. За дзесяць гадоў! І пры гэтым з надзвычайнай шырынёю душы, каласальнымі тыражамі выдавецтва штампуе, завальвае школьныя бібліятэкі выданнямі тыпу «Капитана Сорвиголова». І робіць гэта штогод, з вартым страху пастаянствам! Яны тлумачаць, што рабіць гэта павінны дзеля грошай. Вялікая сіла — грошы! Але няўжо ў імя грошай мы павінны пастунацца турботамі аб выхаванні? Пакуль выходзіць так, што клопат пра грошы перамагае.

Так, даводзіцца далучыцца да тых, якія лічаць, што адносіны між Саюзам пісьменнікаў і Міністэрствам асветы яўна ненармальныя. Не выпадкова тое, што на пленуме ніводнага прадстаўніка Міністэрства.

Хачу выказаць некалькі думак пра пытанне, якое ўзнялі тут некаторыя прамоўцы і якое, бясспрэчна, хвалюе ўсіх нас. Аб стаўленні ў цэлым да беларускай літаратуры і мовы.

У гэтым пытанні, як кажуць факты, ёсць нямала такога, што не можа не турбаваць нас. Я ўжо гаварыў пра адносіны да нашай літаратуры ў вучэбна-педагагічным выдавецтве. Многа фактаў няўвагі і непавагі да

твораў беларускай літаратуры, як вядома, у тых, хто распаўсюджвае нашы кнігі ў магазінах. Гэта ж проста злачынства, што кнігі гадамі і горамі ляжаць на складах, гніюць і плеснеюць. А нікчэмныя тыражы «ЛіМа»! Тут папракалі, што некаторыя пісьменнікі не выпісваюць. Гэта — кепска, але хіба гэта — галоўная бяда. Газету нашу не выпісваюць тысячы бібліятэк, гарадскіх і сельскіх! Гэта значыць, што газета наша не даходзіць да многіх тысяч чытачоў.

Цяжка быць абыякавым да таго, што роднае слова не гучыць з тэатральнай сцэны ў Гомелі, Гродна, Магілёве, Брэсце.

Грунтуючыся на фактах, мусім гаварыць аб праявах непаважлівых адносін да беларускай літаратуры і мовы. Аб праявах нігілізма да іх. Гэтыя ж факты гавораць пра тое, што нігілізм гэты — выразна мясцовы, што яго найбольш дзейсныя выразнікі пухавіцкія ці багушэвіцкія «нашынскія» актывісты, якія, каб далі ім волю, з лёгкім сэрцам, з радасцю растапталі б усё, што стварыў вялікім трудом народ наш за многія вякі. Дзіўная і дзікая гэта з'ява, гэтыя сучасныя дзікуны, якія, аднак жа, непахісна лічаць, што яны ўзышлі на самыя вышыні сучаснай культуры і з гэтых вышынь могуць з натуральнай іх стану грэблівасцю глядзець на культуру народа.

Ёсць адзін надзейны спосаб супраць падобных з'яў — ленінскія прынцыпы нацыянальнай палітыкі нашай партыі. Гэтыя прынцыпы мы і ўхваляем, падтрымліваем іх ад сэрца. Будзем працаваць, каб ажыццяўляць іх.

*1961*

# АДКАЗНАСЦЬ ПЕРАД НАРОДАМ

Некалькі гадавін нашай арміі мне давялося сустракаць па-салдацку. Былі гэта гады неспакойнай перадваеннай маладосці і франтавыя незабыўныя гады. Яны даўно адышлі ў мінулае, але памяць пра іх жыве ў сэрцы і заўсёды выклікае адчуванне роднаснай сувязі з арміяй, з тымі, хто цяпер служыць пад яе сцягамі. Вось ужо шмат гадоў чалавек цывільнай прафесіі, я заўсёды адзначаю свята Савецкай Арміі як сваё асабістае свята. У гэты дзень быццам зноў вяртаешся да маладосці, зноў адчуваеш сябе ў шынялі, сярод такіх жа, якім ты быў сам, зноў — салдатам.

Ужо больш як паўтара дзесятка гадоў жыву я ў Мінску. Я бачыў горад у тую пару, калі на месцы яго амаль усюды былі хаатычныя груды бітага каменя, пачварных глыб цэменту, пакручанага жалеза. Страшны быў выгляд гэтых руін, пустэч, якія рабілі горад падобным на вялізныя могілкі. Рэдка ў той час тут сустракаліся людзі, ды і былі яны ў большасці сумна засяроджаныя, самотныя...

Я бачыў, як з дня ў дзень, з году ў год знікалі руіны, знікалі чорныя сляды вайны, адыходзілі смутак і скруха. Людзі капалі катлаваны пад першыя дамы, раслі чырвоныя цагляныя сцены, і застываў асфальт на першых метрах старых і новых мінскіх вуліц. Я назіраў, як выходзілі на вуліцы, на строгі суд людзей першыя мінскія самазвалы і трактары. На маіх вачах набіраліся сіл ліпы на вуліцах, выраслі паркі і скверы, на маіх вачах падлеткі станавіліся юнакамі, студэнтамі — раслі майстры такарнай справы, майстры мастацтва.

З году ў год рос горад, расло, шырылася, набірала сілы жыццё ў ім. І хоць ён працягвае расці надзіва хутка, я не магу сказаць, што вырас ён, як у казцы. Шмат нястач і цяжкасцей давялося перажыць тым, хто

будаваў жылыя дамы, карпусы заводаў у пасляваенныя гады. Ведаю, колькі працы ўкладзена ў стадыёны і тэатральныя будынкі горада, у яго веліч і красу. Праца многіх тысяч, соцень тысяч людзей — у яго кварталах і плошчах.

Але людзі ў Мінску, як і ў любым горадзе, заняты не толькі працай. Багатае і разнастайнае жыццё нашых людзей, якія ўвечары запаўняюць глядзельныя залы і каткі, адпачываюць дома ў сям'і, чытаюць, займаюцца хатнімі справамі, мараць.

У стваральнай працы неяк асабліва ясна, можна сказаць, наглядна адчуваеш разнастайнасць і веліч нашага часу. Мімаволі думаеш, якое прыгожае і значнае наша жыццё, тое, што ніколі не заціхаючы, напаўняе ўсе гарады і пасёлкі, Поўнач і Поўдзень, Сярэднюю Азію і Сібір, усе неаглядныя прасторы савецкай зямлі. Багата клопату і надзей, яркіх чалавечых лёсаў умяшчае ў сабе наша вялікая Радзіма.

Калі думаеш пра жыццё, адчуваеш і вялікую адказнасць за гэта жыццё. Мы добра бачым тую небяспеку, якая пагражае людзям, і трэба зрабіць усё для таго, каб адвесці яе.

У свеце трывожна, але людзі і ў маім родным Мінску, і па ўсёй краіне натхнёна працуюць, спадзяюцца, мараць.

Людзі Савецкай краіны без страху глядзяць у будучыню. Яны ўпэўнены ў сіле роднай арміі, у сіле краіны, у мудрасці партыі, упэўнены, што кожны воін заўсёды памятае пра сваю вялікую адказнасць перад народам, добра ведае сваю справу.

*1962*

## СЛАВА ПАЭТУ

Сёння мы сышліся тут, каб ушанаваць памяць аднаго з лепшых песняроў беларускага народа — Максіма Багдановіча.

Тут, у Ялце, у гэтым доме, ля якога мы сёння сабраліся, прайшлі яго апошнія дні. Тут, у гэтыя вокны, ён у апошні раз глядзеў на вечнае сіняе неба, на маладыя кіпарысы, на недалёкае, але ўжо недасяжнае мора...

Ён паміраў вясной. Ён пакінуў гэты цудоўны свет вясною свайго жыцця, вельмі маладым, амаль юнаком, поўным жаданняў, поўным планаў, якім не суджана было здзейсніцца.

Ён не сказаў усяго, што мог бы сказаць. Яму было толькі дваццаць пяць гадоў. Талент яго не паспеў разгарнуцца ва ўсю моц. Але і па тым, што ён паспеў зрабіць, па тым, як умеў размаўляць са светам малады паэт, мы можам адчуць, якая вялікая, незаменная гэта страта, аб якой вось ужо сорак пяць гадоў журацца беларуская літаратура, беларускі народ.

Гэта быў без перабольшання магутны талент. Ёсць нешта лермантаўскае — па сіле таленту — у творчасці нашага выдатнага песняра. Па-лермантаўску багатае, гарачае думкамі, пошукамі і яго кароткае жыццё, што трагічна абарвалася ў самым пачатку творчага росквіту.

Жыццё паэта застаецца ў радках і старонках яго кніг. У томе лірыкі, які пакінуў людзям М. Багдановіч, ёсць нямала радкоў, якія бяруць за душу сваімі смуткам, журбой, разуменнем немінучасці блізкай гібелі. «Я бальны, бескрыдлаты паэт»,— з гаркатою піша пра сябе юны Багдановіч. У адным з вершаў ён асуджана піша: «Шмат у нашым жыцці ёсць дарог, а вядуць яны ўсе да магілы».

Аднак дзеля справядлівасці трэба сказаць — усё ж

не гэтыя вершы, якія ні горкія яны, вызначаюць танальнасць цудоўнай лірыкі паэта. Кожнага, хто чытае яго вершы, не можа не ўразіць — перш за ўсё — дзівосная, непаддатная бядзе, непераможаная нічым — закаханасць паэта ў жыццё. Можна без перабольшання сказаць: амаль уся паэзія Багдановіча — гэта гімн зямному хараству, гімн хараству прыроды, хараству кахання, гімн светламу вечна, пераможнаму вечна жыццю... Вось як бы праграмны верш паэта:

Маладыя гады,
Маладыя жаданні.
Ні жуды, ні нуды,
Толькі шчасце кахання...

Гэты гімн завяршае гарачы заклік:

Будзь жа, век малады,
Поўны светлымі днямі.
Пралятайце, гады,
Залатымі агнямі!

Багдановіч — найшчырэйшы лірык, быў разам паэтам-грамадзянінам. Клопатам пра родны беларускі народ, болем за яго гаротнае, цяжкое жыццё, марай пра лепшае будучае напоўнены многія вершы паэта.

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, светлага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Колькі ў хмарах залётных агня...
...Ты не згаснеш, ясная заранічка,
Ты яшчэ асветліш родны край.
Беларусь мая, краіна-браначка,
Ўстань, свабодны шлях сабе прымай!

Мара паэта збылася. Беларусь — Савецкая рэспубліка — дачакалася светлага часу. У наш час — з асаблівым значэннем паўтараем мы бессмяротныя радкі паэта:

Будзь жа, век малады,
Поўны светлымі днямі.
Пралятайце, гады,
Залатымі агнямі!

Слава вялікаму паэту беларускага народа! Шчырае беларускае дзякуй Украіне, братняй зямлі, Ялце — за памяць пра паэта, за пашану да слаўнага сына Беларусі.

*1962*

# ТРОХІ ЗГАДАК І ДУМАК

Ёсць у кожнага свой мілы сэрцу куток, які з бегам гадоў не толькі не цьмее ў памяці, а становіцца як бы яснейшы, даражэйшы. Багата можа быць у чалавека за жыццё іншых куткоў, і больш слаўных, і больш выдатных, але гэты куток, і не слаўны, і не выдатны, можа, нічым, не забываецца, не адступае ўдалеч; сярод іншых дарагіх, хвалюючых успамінаў — ён самы дарагі, самы шчымлівы! Куток гэты — тая хата, дзе мы вучыліся хадзіць, дзе чулі цеплыню матчыных рук і матчынага сэрца, куток нашага маленства.

З радасцю і болем пад'язджаю я кожны раз к родным сваім мясцінам. Ад Гомеля ці ад Мазыра — гледзячы па тым, з якога боку ідзе дарога к роднаму кутку,— пачынаюцца гарады, станцыі, вёскі, на якія не магу ўжо глядзець без хвалявання. Рэчыца, Васілевічы, Мазыр — для мяне не проста назвы паселішчаў, а як бы жывыя істоты, таварышы маладосці... Чым бліжэй вядзе дарога к Глінішчам, тым бліжэйшыя, даражэйшыя таварышы выходзяць насустрач — Юравічы і Хойнікі, Княжыца і Тунеўшчына. І нарэшце — родныя Глінішчы, дзе ўжо выходзяць насустрач такія таварышы, якія не названы на самых дасканалых картах, але якія моцна, на ўсё жыццё прапісаны ў сэрцы. Луцішчы, Тур'я, Канапельскае, Казекава, Перавельскі круг, Паўлаў круг, беразняк, балота, выганы. Гайкі гэтыя даўно сцёрты з зямлі так, што і пнёў не асталося, у рацэ вады па костачкі, «кругі» многія высахлі нашчэнт — і ўсё ж яны жывуць успамінам у сэрцы, шчымлівай, непатрэбнай тугой страты.

Ніколі не забуду, як я сустрэўся з роднымі мясцінамі неўзабаве пасля вызвалення. Вочы мае бачылі раны такія страшныя і такія свежыя, што хацелася стагнаць, у грудзях увесь час ныла штосьці балючае, нясцерпнае, бясконцае. Ад самага Гомеля гарэў ва мне гэты боль — і ў Хойніках, і ў Алексічах, і дома. У све-

це ўвесь час нехта памірае, але гэта не перашкаджае нам жыць усімі чалавечымі радасцямі; глыбока раняць нас блізкія страты. Многа пабачыў я за вайну, многае адазвалася болем у сэрцы, але тое, што апякло мяне ў тыя дні, калі зноў убачыўся са спаленай, пачарнелай радзімай сваёй, не параўнаць ні з чым. Мне расказвалі, як немцы спалілі стрэламі са шляху частку Глінішчаў, сярод іншых і нашу хату — перад самым вызваленнем: калі бацька і матка вярнуліся, галавешкі яшчэ дыміліся, тлелі... Глінішчы немцы спалілі як бы гуляючы, а к Алексічам і Каранеўцы прыкацілі — годам раней — з вялікай сілаю, з гарматамі і кулямётамі, з падраздзяленнямі аўтаматчыкаў; помсцячы за дружбу з партызанамі, акружылі вёску, пратупацелі шалёнай гайнёю з агнём, і выбухамі гранат, з аўтаматнымі чэргамі па дварах, па хатах, па полі — не абмінулі ні старых, ні груднога дзіцяці. Доўга-доўга звозілі людзі з навакольных вёсак трупы, збіралі абгаркі касцей у попеле пажарышчаў.

Цяпер і Каранеўка і Алексічы адбудаваліся, але сляды вайны відны мне, пякуць сэрца і цяпер — за новымі платамі і хатамі, што стаяць цяпер, я бачу старыя, векавечныя, тыя, што памерлі ў адзін дзень. Бачу тых людзей, якія ніколі не вернуцца к нам, якіх ніхто не заменіць...

Аб чым і аб кім ні стаў бы ўспамінаць, непазбежна ступіш на гарачы, вечна пякучы прысак той вялікай, усеабдымнай навалы.

Успомніш пра тую печ, дзе грэўся зімовымі вечарамі, тую хату, дзе сляпіў вочы над букваром, над першымі кніжкамі — і ажыве шкадаванне: няма тае печы, няма таго стала, той хаты — згарэла ў вайне. Успомніш таварышаў, з якімі бегаў басаנож, з якімі лазіў па балоце,— зноў заные боль страты: няма тых таварышаў. Мала-мала каму пашчасціла пераЖыць навалу. Няма многіх таварышаў, з якімі абганяў картоплю, з якімі хадзіў у школу ў Алексічы, з якімі вучыўся ў Хойніцкай дзесяцігодцы... Вайна была!

Праз заваложу вялікай нягоды-вайны ўспамінаю я сваё не беднае радасцямі і бядой жыццё. У жыцці гэтым, як і ў жыцці кожнага чалавека, было і сваё адметнае, непаўторнае, было і такое, што робіць яго падобным на жыццёвую дарогу многіх маіх аднагодкаў. Сваё, толькі мне ці маім найбліжэйшым прыяцелям

знаёмае — гэта той куп'істы выган ля балота за глінішчанскімі могілкамі ці ўзболатак каля Луцішчаў, дзе мы найбольш пасвілі коней і свіней, дзе ішлі першыя дні нашага «бесклапотнага, залатога» маленства. У многіх, мабыць, ёсць свае Луцішчы, свае ўзболаткі, але яны завуцца інакш; значыць, Луцішчы, Перавельскі круг — гэта толькі нашае, глінішчанскае, толькі маё.

Ва ўсім жа астатнім маленства было звычайным маленствам сялянскага хлопца: яшчэ соннага маці будзіць гнаць свіней; торба цераз плячо, у торбе — акраец хлеба, гурок, у лепшыя дні — кавалачак сала; у халодныя дні — на плячах даматканая світа...

Торбе гэтай і даматканай світе мы павінны быць да канца жыцця ўдзячны: хадзілі яны з намі потым доўга, верна — не толькі на свіныя выганы, але і ў школу першай ступені, у школу калгаснай моладзі. Толькі што пазней світа была звычайна пафарбавана маткаю ў чыгуне, а ў торбе з акрайцам хлеба мясціліся «Лемантар» ці «Родная літаратура». Як адзнаку перамен можна дадаць, што на пазнейшай торбе часта можна было бачыць фіялетавыя чарнільныя плямы.

Цяпер сам з гонарам думаеш: колькі папамераў нагамі зямлі, ідучы «ў навуку» — спачатку недалёка, на другі канец Глінішчаў, потым — з пятага класа — на далёкі канец Алексіч, паўз могілкі, цераз грэблю, цераз усё доўгае сяло. Мераў кожны дзень — і ў студзеньскі сівер, і ў красавіцкае разводдзе, калі, дабраўшыся да ганка школы, чуў, як вада хлюпае ў лапцях, абцінае горача анучы. Цяпер сам здзіўляюся той — ад бацькоў і дзядоў, пэўна,— цярплівасці, з якой тады браў усе нягоды: не толькі не наракаў калі-небудзь, але нібы і не заўважаў іх. Маці потым, помню, дзівілася, са спачуваннем і задавальненнем: кожны дзень, ва ўсякае надвор'е, мокры, скалелы — у школу, са школы!

Папамераўшы дарогу ў Алексічы тры гады, я пасля сёмага класа паспрабаваў выйсці ў шырэйшы свет: падаў заяву на рабфак. Загадзя аберагаючыся ад неспадзяванай няўдачы, паслаў я не адну, а дзве заявы. У Навабеліцу — на рабфак пры запалкавай фабрыцы, і ў Мінск — на рабфак пры Інстытуце народнай гаспадаркі. Гэта быў першы самастойны мой выхад у жыццё, поўны і вялікіх, вострых ураженняў і абурэння чалавечай чэрствасцю. Ні ў Навабеліцы, ні ў Мінску са мной

не сталі нават гаварыць толькі таму, што для паступлення на рабфак — па закону — мне не хапала аднаго года: я нарадзіўся ў 1921 годзе, у той час мне было толькі чатырнаццаць, а прымалі не маладзей як пятнаццацігадовых!

Каб не траціць года марна, бацька прывёз мяне ў Хойнікі, у якіх я жыў потым чатыры гады — вельмі дарагія і вельмі важныя для мяне гады. У мяне з'явіліся новыя таварышы, новыя настаўнікі, жыццё паказала мне новыя, большыя патрабаванні. З першых дзён давялося адчуць, што вучыцца тут багата цяжэй, як дасюль,— асабліва па некаторых прадметах. Толькі к канцу года выраўняўся я з вучнямі гарадскіх школ. Вучыўся ў ахвоту, амаль усе прадметы даваліся мне добра, і ў дзевятым, дзесятым класах я быў ужо сярод выдатнікаў. З выдатным атэстатам закончыў і школу.

Але школа дала мне багата больш. Мусіць, не было ў школе такой справы, у якой мне не хацелася б удзельнічаць. Усю восень і вясну амаль штодня гуляў я ў валейбол, ганяў мяч на футбольным полі ў парку, потым там жа спрабаваў лятаць на планёры. Самы чынны ўдзел браў я ў рабоце школьнага літгуртка, пісаў вершы, многа маляваў, удзельнічаў у школьных спектаклях. Бясспрэчна, такі быў не я адзін: у многіх з нас тады жыла надзіва нястрымная прага ўсяго паспытаць, ва ўсім паспрабаваць сваю сілу...

Між тым жылося тады нялёгка. Цяжка было з хлебам — з паўночы даводзілася іншы раз стаяць у чарзе перад магазінам. Потым дома захварэла сястра — нягледзячы на ўсе намаганні бацькоў, чэзла, паміpала павольнай, страшнай смерцю дванаццацігадовага дзіцяці; давялося жыць так галадна, што падгіналіся ногі ад слабасці і кружылася галава. Я стаў працаваць вечарамі рэпетытарам.

Усё ж гэтыя гады ўспамінаюцца мне як вельмі дарагія і шчаслівыя. І як яны могуць успамінацца інакш: былі мы тады такія маладыя, такі ясны свет быў перад вачамі, столькі радасці абяцала жыццё, якое зычыла «маладым усюды ў нас дарогі». Дарог было так многа, што я — пры той раскіданасці жаданняў — не без сумненняў і ваганняў выбраў сваю. Нарэшце атэстат накіраваў у Маскву, у Інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры.

Пасля цяжкай пары экзаменаў добра, усмак было

жыць без клопату, без трывог. Доўга не турбавала дзіўнае маўчанне выбранага інстытута; толькі ў сярэдзіне жніўня, не дачакаўшыся ніякіх вестак з Масквы, з выпадковым спадарожнікам — дзядзькам з Глінішчаў — рашыў выбрацца ў свет сам. Нечаканая, грымотная, агромністая Масква ашаламіла: я разгубіўся ў блытаніне бясконцых вуліц, у мітусні незлічоных людзей. Яшчэ больш разгубіўся я, трапіўшы ў інстытут, у натоўпы бойкіх, бывалых кандыдатаў у студэнты. У канцылярыі ж далікатны, незразумелы, недасяжны малады чалавек у акуратным касцюмчыку збіў здзіўленым пытаннем — чаму я прыехаў без выкліку? У момант ацаніўшы маю правінцыяльную нясмеласць, ён за гэтым сказаў, што прыняць мяне ў інстытут не «прадставілася магчымасці», конкурс вельмі вялікі, і камісія, азнаёміўшыся з дакументамі, вымушана была часова ўстрымацца... Я цяпер добра разумею, што гэта была несправядлівасць, папросту кажучы — велікасвецкае хамства: ва ўсякім разе, павінны былі выклікаць, пагутарыць, перш чым выносіць прысуд свой, але тады я толькі апусціў галаву і моўчкі выйшаў з пакоя. Паспрабаваў паступіць у другі інстытут, але было позна.

Суджана было зноў вярнуцца ў Хойнікі. Без болю, з палёгкай ішоў я па ціхіх, мілых мне вуліцах з таполямі, па драўляным тратуары; толькі каля школы стала пагана, як бы пачуў дакор сабе са знаёмага двара, з-за шырокіх вокан. У райкоме камсамола спаткалі не толькі без папрокаў, але нават узрадаваліся: сакратар прапанаваў пайсці працаваць да іх загадчыкам аддзела піянераў. Я згадзіўся. Стаў камсамольскім работнікам.

З радасцю, з удзячнасцю ўспамінаю гэты чацвёрты год свайго жыцця ў Хойніках, год, які мацней звязаў мяне з партыяй, які навучыў шырокаму погляду на жыццё, навучыў жыць радасцямі і клопатамі многіх людзей. Цяпер я часта сустракаўся з работнікамі райкома партыі, з работнікамі другіх раённых арганізацый, часта быў у абкоме камсамола, падружыўся з журналістамі. Многа дзён прайшло ў паездках па раёне — мала такіх вёсак у «маёй акрузе», дзе б я не пабыў хоць дзень, дзе б не пазнаёміўся з цікавымі людзьмі. Магу сказаць, непахісна ўпэўнены: гэты год даў мне багата больш, чым любая вучоба ў любым інстытуце.

Гэты час дарагі яшчэ і таму, што ў студзені 1939 года быў надрукаваны першы мой верш. Напісаны камсамольскім работнікам, ён і надрукаваны быў у камсамольскай газеце «Чырвоная змена». Можна сказаць, у літаратуру ішоў я з камсамольскай пуцёўкай.

У тым жа годзе я зноў падаў заяву ў інстытут, у той самы, які быў недасяжны мінулым летам. На гэты раз выклікалі ў Маскву, са мной гаварыў член прыёмнай камісіі, прыслалі паведамленне, што прыняты. Пад верасень я зноў прыехаў у Маскву, стаў жыць у Сакольніках, у старым, дачнага стылю доміку, за якім ціха высіліся сосны. Вулічка наша называлася не вуліцаю, а «лучевым просеком»...

Мне пашанцавала трапіць у цікавае асяроддзе, сярод таварышаў было многа таленавітых хлопцаў, некаторыя з якіх сталі потым вядомымі паэтамі. Тут былі кіяўляне, і ленінградцы, людзі з добрай адукацыяй, і гутаркі, жыццё з імі былі вельмі карысныя для мяне, яны памаглі глыбей разабрацца ў з'явах літаратуры, добра падзейнічалі на мой літаратурны густ. Мы былі частымі гасцямі ў Літаратурным інстытуце, часта збіраліся ў кафэ, чыталі вершы, слухалі, спрачаліся горача, непахісна.

Нядоўгая была тут мая вучоба, але след яна пакінула немалы. Доўга потым — ужо салдатам артылерыйскага палка — на днявальстве ў канюшні ці ў рэдкія і кароткія вячэрнія хвіліны я ўспамінаў гэтыя гутаркі-спрэчкі, чытаў пісьмы сяброў, якія пісалі аб экзаменах, аб заліках, аб студэнцкім жыцці. З армейскімі сваімі таварышамі я чысціў коней, вучыўся абыходзіцца з гарматай, вучыўся ўскакваць ноччу «па трывозе», рабіць доўгія начныя пераходы, цярпець зімовыя маразы з пранізлівым данецкім ветрам. У першую пасля вызвалення заходняй украінскай зямлі зіму дывізія наша пераехала ў Карпаты, пад самую граніцу. З гэтай дывізіяй мы летам 1940 года перайшлі ўброд Чорны Чарамош, удзельнічалі ў вызваленні Паўночнай Букавіны...

Вайна заспела нас каля самай граніцы, незадоўга да той пары, калі мы марылі зноў вярнуцца ў інстытуты. Хоць нас загадзя папярэджвалі, што вайна непазбежна, хоць мы і самі ў думках рыхтавалі сябе да яе — яна аказалася ўсё ж нечаканай, незвычайнай, непараўнанай ні з чым страшнай бядою. Доўга, балюча гнёў душу

разлад паміж нядаўняй лагоднасцю, маладой любоўю да зямлі, да жыцця — і жорсткасцю бамбёжак, страхоццем першых пажараў і першых смерцяў. Адзін за адным паміралі таварышы-студэнты, хлопцы-калгаснікі, рабочыя людзі; смерць цікавала з кожнай дарогі, з кожнага поля, з чыстага, яснага неба. Былі цяжкія дарогі адступлення, крывавыя баі на Збручы, дзе наша батарэя цэлы дзень білася з нямецкімі гарматамі і мінамётамі, з нямецкімі бронемашынамі і танкамі. Мы тады так і не адступілі, пакуль не прыйшоў загад. Былі ўпартыя баі пад Уманню, дзе мы ўпершыню ўбачылі, як немцы кідаюць зброю і ранцы. Былі потым баі ў акружэннях, адным, другім, трэцім. Месяц стаялі на Дняпры, пад Сінельнікавам, адбівалі немцаў, што спрабавалі прарвацца цераз Дняпро на ўсходні бераг. Халоднай восенню мы вызвалялі Растоў, зімой бралі Лазавую і Барвенкава...

Летам наступнага года мяне раніла. Я трапіў у светлыя, трывожныя пакоі шпіталяў, у добрыя, клапатлівыя рукі ўрачоў і сясцёр. Дзякуй таму растоўскаму хірургу Антонаву, які, паспачуваўшы маладому палітработніку, сам узяўся рабіць аперацыю, выратаваў маю правую руку, ужо асуджаную на смерць другімі ўрачамі. Рука гэта так спатрэбілася потым, так памагла мне ў працы!..

Першыя апавяданні пісаў я ў Тбілісі — левай рукой, цяжка, пакутліва. Пісанне гэта было цяжкім удвая: ад таго, што я толькі пачынаў пісаць, што словы былі такія непаслухмяныя, і ад таго, што непаслухмяны быў аловак у няўпраўнай левай руцэ... Тады я з нейкай асаблівай яснасцю адчуў, што такое творчасць празаіка і што такое горыч і радасць творчай працы...

Пра «гісторыю» першых сваіх апавяданняў, першых крокаў у літаратуры я пісаў ужо ў прадмове да кнігі «Што ён за чалавек» і, каб не паўтарацца, скажу толькі, што [redacted] Тбілісі — па прычыне нягоднасці да вайсковай службы — я атрымаў білет у тыл. Восенню я быў у Бугуруслане, вучыўся завочна ў педінстытуце (разам з эвакуіраванымі малдаўскімі студэнтамі), вучыўся і працаваў. У той год я пабачыў, як жыў у вайну наш тыл; успаміны пра тую зіму і тую вясну і цяпер для мяне — сярод самых яркіх, важных уражанняў ваенных год. Я бачыў, як жылі сёстры і маткі салдат, як працаваў райком партыі, сустракаўся з лётчыка-

мі — курсантамі і інструктарамі. Дасюль адна з самых пачэсных узнагарод маіх — грамата райкома камсамола за добрую арганізацыю работы ў інстытуце. У Бугуруслане ўдзельнічаў я ў рабоце літгуртка пры раённай газеце, тут было надрукава некалькі маіх вершаў.

З вялікай прагай да жыцця, з вялікім запалам, на ўсё маладую сілу жыў я ў той год: вясной я скончыў завочна ўжо другі курс інстытута.

Там, у заволжскіх краях, не было, мусіць, такога дня, каб не думаў я пра родных сваіх, што былі ў невядомай, страшнай акупацыі, пра мілую, найдаражэйшую зямлю нашу. Я рваўся душой дадому. І калі аднойчы ў «Правде» трапілася мне на вочы аб'ява, што ў Сходні пад Масквой пачынае работу наш Беларускі універсітэт, рашэнне паявілася ў момант: падаць заяву туды.

Мяне прынялі, і ў канцы кастрычніка сышоў я на пероне Казанскага вакзала ў Маскве, углядаўся ў суровае аблічча сталіцы на чацвёртым годзе вайны. Сходня — дачны пасёлак за Хімкамі — была нібы маленькім кутком Беларусі: усюды сустракаліся беларускія хлопцы і дзяўчаты, студэнты і партызаны — душу цешыла беларуская гаворка. Гора і бяда, якія ішлі па роднай зямлі, тут чутны былі, як нідзе; яны чуліся не толькі ў гаворках, а і ў шуме сходненскіх сосен і бяроз, такіх падобных на нашы беларускія.

Для вучобы далі нам стары драўляны будынак на два паверхі побач з чыгункай, па якой беглі цягнікі на Ленінград, а жылі мы між тых самых сосен і бяроз у даваеннай раскошы — на дачах. Цудоўна было ў іх цёплымі асеннімі днямі, але з надыходам марозаў «вілы» нашы сталі дружна пусцець: дачы былі летнія, халодныя, і студэнты перабіраліся ў абжытыя хаты сходненцаў.

Нялёгкае і цікавае жыццё было тут: паволі, адзін за адным з'язджаліся студэнты, доўга звычайным быў такі малюнак, калі перад выкладчыкам сядзелі дватры студэнты. Нярэдка можна было тады бачыць і такое: прафесара слухаў адзін-адзіны слухач. Хлопцы і дзяўчаты не толькі вучыліся: па чарзе працавалі на кухні, у сталоўцы, якая радавала галаднаватых наведвальнікаў сваім цудоўным крапіўным баршчом — казалі, надзвычай багатым каштоўнымі вітамінамі. Ездзілі — разам з выкладчыкамі — у лес, нарыхтоўвалі

самі дровы, самі пілавалі іх, самі разгружалі вагоны з бульбай. Самі рабілі ўсё, нічому не здзіўляючыся, ні на што не наракаючы.

Помню гэты час як час вялікай, радаснай дзейнасці. Вучыўся на трэцім курсе і працаваў сакратаром універсітэцкай партарганізацыі. Калі згадаеш, колькі часу, акрамя ўсяго, даводзілася прастойваць у магазінных чэргах, аддаваць уладкаванню няхітрага, але няпростага тады сямейнага быту (са мной былі тут жонка і дачка), здзіўляешся, як яшчэ ўдавалася выкройваць час для пісання ці перапісвання апавяданняў.

Настрой у Сходні быў хоць і трывожны, але ўсё ж цудоўны: нашы войскі ішлі ўжо беларускаю зямлёю — беларускім поўднем. Позняй восенню пачуў я з рэпрадуктара вестку, што вызвалены мае родныя мясціны, напісаў першы за многія месяцы ліст дадому. А на пачатку наступнай восені мы ехалі ўжо ў Мінск, з эшалонам, у таварных вагонах якога было поўна кніг, скрынак з лабараторным абсталяваннем, матрацаў — універсітэцкай маёмасці.

З той пары скончыліся мае бадзянні: жыву ўвесь час у Мінску. Усё пасляваеннае жыццё горада ішло перад маімі вачамі. Я быў маленькай часткай горада. Тут скончыў універсітэт, скончыў потым аспірантуру, працаваў выкладчыкам беларускай літаратуры. Тут было надрукавана ў «Звяздзе» (у лістападзе 1944 года) першае маё апавяданне, тут працаваў у часопісе «Полымя», у Цэнтральным Камітэце партыі; выдаў першую, а потым і другую кніжкі апавяданняў. Тут напісаў я раман «Мінскі напрамак», якому было аддадзена больш як пяць гадоў часам вельмі цяжкай працы, тут пабачыў на сцэне першыя свае п'есы. Збольшага тут быў напісан і апошні раман — «Людзі на балоце». Удачы і няўдачы, радасці і нягоды спазнаў я ў гэтым горадзе, які стаў мне другім родным кутком.

Азіраючыся назад, здзіўляешся, як хутка праляцелі амаль два дзесяткі гадоў! Памяць ставіць побач падзеі, між якіх былі дні, месяцы, гады клопатаў, сумненняў, трывог.

Здаецца, проста на вачах забудаваўся, вырас зноў горад. Выраслі, пасталелі дзеці, новыя пакаленні, падобныя і багата ў чым не падобныя на нас. Добра помніцца той момант, калі, як страхотная маланка, зіхнула, расшчапіла свет вестка пра амерыканскую атамную

бомбу ў Хірасіме. Далёка гэты момант не толькі па часе — мы ўжо звыклі да думак аб сваіх атамных рэактарах, атамных электрастанцыях, атамных падводных лодках. На нашых вачах век матораў стаў векам атамнай энергіі, векам ракет, з касмічнай хуткасцю ён становіцца векам касмічных узлётаў.

Нам пашчасціла быць сведкамі і ўдзельнікамі вялікіх, дзівосных перамен, стаць на парозе новага веку. Ніколі яшчэ, мабыць, справа аднаго — звычайнага — чалавека не выглядала такой малой у параўнанні з веліччу часу, веліччу народнай справы. Але якое ні дробнае тое, што робіць кожны з нас, думаецца — у ім ёсць і зерне вялікага: з безлічы такіх дробных спраў і ствараецца дзівоснае, векавечнае... Гады гэтыя былі ў маім жыцці і багатымі і небагатымі на падзеі. Было многа сходаў, канферэнцый, некалькі пісьменніцкіх з'ездаў, часам на іх і я выступаў, а найбольш слухаў другіх, больш вопытных, дасведчаных, мудрых. Няма дзён — і хмурных, і сонечных — мінула за пісьмовым сталом, над рукапісамі, нямала недаспаных начэй — з сумненнямі, з роздумам, з пошукамі. Сярод гэтай аднастайнасці — паездкі ў родныя мясціны, якія заўсёды ўздымалі буру ўспамінаў, самых розных пачуццяў; паездкі ў Маскву, Ленінград — амаль заўсёды па справах; у Кіеў — на з'езд, у Крым, дзе многае ўжо знаёма: тут адпачываў і лячыўся. Некалькі разоў турыстам ездзіў за мяжу: быў у Чэхаславакіі, у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, у Францыі, Англіі, Італіі.

З падзей, што маюць дачыненне да літаратурнай працы, для мяне самае дарагое — пісьмы чытачоў, якія саграваді сэрца, натхнялі, поўнілі добрым усведамленнем, што праца не пайшла на вецер. Радасна бачыць на пісьмах назвы гарадоў Алтая, Сібіры, Прымор'я, іншых мясцін, у якіх, можа, і быць ніколі не давядзецца,— далёка, шырока ідзе па краіне пісьменніцкае слова!..

Хутка будзе два з паловай дзесяткі год з таго часу, як паявіўся ў газеце першы мой твор. Мяне часта турбуе разуменне таго, што за гэты час зроблена вельмі і вельмі мала. Два дзесяткі апавяданняў, тры маленькія аповесці («Гарачы жнівень», «Дом пад сонцам», «Зямля, якую любіш»), дзве п'есы («Пакуль вы маладыя» і «Дні нашага нараджэння»), два раманы «Мінскі напрамак» і «Людзі на балоце»), некалькі артыкулаў аб лі-

таратуры, крыху больш публіцыстычных артыкулаў — гэта ўвесь мой ураджай за столькі часу.

Асабліва востра адчуваеш, як мала зроблена, калі, азіраючыся, бачыш, што зроблена навокал людзьмі, часам.

Ніколі не ляцела жыццё з такой хуткасцю, як цяпер, і літаратуры, відаць, суджана быць у вечным даўгу перад ім, перад людзьмі. Што ж, урэшце, гэты доўг няхай не страшыць: можам цешыць сябе, што, пакуль ён ёсць, у кожнага з нас будзе наперадзе жаданая вярста, новыя і новыя вёрсты, якія будуць нас зваць і зваць наперад. Буду старацца ісці гэтай дарогай не ветрагонам, а працаўніком, з добрай, поўнай ношай, са сваім шчырым словам — працаваць стала, сумленна.

Некаторыя лічаць, што пісьменнік павінен ледзь не пра адно дбаць — управіцца на ўсё як мага хутчэй адгукнуцца. Вядома, нічога паганага няма ў тым, каб і адгукнуцца як найскарэй, калі гэтае слова прачулае, узрушанае, здольнае ўсхваляваць чалавечае сэрца. Разам з тым, мне здаецца, не варта забываць, што ў літаратуры і жыцця не простае сваяцтва.

Калі я пачынаў працу над раманам «Людзі на балоце», калі пісаў — многа думаў пра тую загадку, аб якой столькі было (і дасюль не ўціхаюць) спрэчак — аб праблеме сучаснасці. Мне здаецца, што разуменне сучаснасці літаратурнага твора вельмі звужаецца, спрашчаецца настолькі, што яно часам замінае пісьменнікам добра працаваць. Яшчэ нярэдка і цяпер над сучаснасцю твора ў нас разумеюць толькі сучаснасць матэрыялу: сённяшні дзень, сённяшняе жыццё. Пярэчыць супраць таго, што матэрыял твора мае сваё значэнне, няма патрэбы, але зводзіць усё разуменне сучаснасці да яго — значыць, вельмі памыляцца. Я не ведаў больш сучасных твораў у гады мінулай вайны, чым «Вайна і мір» і «Ціхі Дон». Не разумею, ніяк не магу зразумець, як можна лічыць цяперашнія кнігі пра гераізм людзей на вайне гістарычнымі, не сучаснымі — у наш час, калі ў свеце амаль заўсёды пахне ваеннай навальніцай. Думаецца, што не варта пагарджаць і кнігамі, якія расказваюць пра ўчарашні дзень: сучасным маладым людзям вельмі не шкодзіць ведаць, як здабывалася бацькамі шчасце для іх, колькі поту і крыві яно каштавала. Не ведаючы таго, што расло ўчора на на-

шай зямлі, нельга зразумець таго, што расце сёння, убачыць загадзя, што будзе заўтра, нельга любіць па-сапраўднаму сваю зямлю, свой дзень!..

Сучаснасць твора вызначае перш за ўсё, па-мойму, яго ідэйная накіраванасць, адпаведнасць сённяшнім патрэбам людзей тых маральных, духоўных пачуццяў, якія абуджае, выклікае, выхоўвае твор. Таму сучасным можа быць твор на матэрыяле рознай даўнасці. Гэта маё перакананне.

З усяго, што напісана, мне найбольш дарагія рэчы, з героямі якіх я жыў, у падзеях якіх я сам быў удзельнікам, перажытыя мной самім («У завіруху», «Гарачы жнівень», «У гарах дажджы», некаторыя раздзелы «Мінскага напрамку», «Людзі на балоце»). Відаць, трэба пісаць перш за ўсё аб тым, што асабліва дорага душы, што яе хвалявала і хвалюе — што стала дарагой часткай тваёй асабістай біяграфіі. Гэта асаблівасць творчасці патрабуе разам з тым, каб пісьменнік жыў з людзьмі, каб іх надзеі і трывогі былі яго надзеямі і трывогамі, каб біяграфія пісьменніка была натуральная, непарыўна зліта з біяграфіяй свайго народа. Без гэтых дзвюх якасцей рэдка каму ўдаецца напісаць добры твор; хіба што талент выцягне.

З гадамі ўсё больш адчуваю я няўхільную справядлівасць таго закону творчасці, аб якім сказаў неяк Твардоўскі:

> Вся жизнь в одном-единственном завете:
> То, что скажу, до времени тая,
> Я это знаю лучше всех на свете,
> Живых и мертвых. Знаю только я...

Як я шкадую, што часам браўся за тое, што не вельмі добра ведаў, браўся, хоць проста не меў права...

Думаю ў бліжэйшыя гады працаваць найбольш над раманам пра Палессе — прадаўжаць работу, пачатую «Людзьмі на балоце». Даўно мару ўзяцца за кнігу аб сваім пакаленні, аб сваіх аднагодках — школьніках перадваенных год, дачасных салдатах і цяперашніх працаўніках. Не буду, вядома, цурацца і іншых задум: даўно-даўно рукі цягнуцца пераказаць на паперы народжаныя ўжо ў сэрцы апавяданні, замалёўкі, падзяліцца з чытачом думкамі аб літаратуры, аб жыцці, няспынным, неўціханым, цудоўным.

*1962*

# БЕРАГЧЫ ВЯЛІКІЯ СКАРБЫ

У беларускай літаратуры абстракцыянізм і фармалізм амаль не пусцілі карэнняў у глебу; можна заўважыць толькі асобныя фармалістычныя кветачкі ў двух-трох маладых паэтаў. Аднак хваравітыя, некарысныя для здаровага росту літаратуры тэндэнцыі ўсё ж былі. Напорыста, самаўпэўнена, як пустазелле, стала лезці на літаратурнае поле лжэнаватарства, нейкі ідэйны анархізм, абывательская пагарда да народнага ў літаратуры.

Хваравітыя гэтыя з'явы ў нашай літаратуры былі пакуль што, па сутнасці, у стадыі тэарэтычных абгрунтаванняў, «распрацовак», яны праявіліся выразна, рэзка ў палемічных выступленнях шэрагу маладых літаратараў у нядаўняй вялікай дыскусіі «Пісьменнік і час», што ішла на старонках «Літаратуры і мастацтва». Палеміка з самага пачатку набыла рэдкую для беларускай літаратуры вастрыню: нягледзячы на адсутнасць «баявога вопыту», на малалікасць, добраахвотнікі ад «наватараў» павялі надзвычай ваяўнічыя атакі супраць усяго традыцыйнага, што склалася ў літаратуры. Такіх ваяўнічых воклічаў, трэба прызнацца, даўно не чуваць было на палях беларускай літаратуры.

Я збіраўся спачатку падрабязна расказаць пра тыя абвінавачванні і заклікі, што чуліся з боку атакуючых, але яны, як дзве кроплі вады, падобны на тыя, што добра знаёмы кожнаму масквічу і ўкраінцу, кожнаму пісьменніку. Барацьба ішла пад тымі ж лозунгамі: за наватарскія пошукі, супраць «традыцыйнасці», за славуты «новы стыль», прычым іменна гэтыя прыкметы, на думку выступаючых, павінны быць вызначальнымі — мае ці не мае права на жыццё твор. У некаторых выступленнях нечакана прагучала адкрытая пагарда да такой выдатнай якасці беларускай літаратуры, як народнасць, глыбокая сувязь многіх і многіх

кніг нашай прозы, паэзіі, драматургіі з трывогамі, радасцямі і надзеямі працоўных людзей нашай зямлі.

Новыя павевы, мусіць, найбольш яскрава праявіліся ў артыкуле немаладога ўжо чалавека, перакладчыка Ул. Жыжэнкі. Артыкул называецца «Аднаго таленту мала!», але назва гэта яўна няўдалая, недакладная, куды бліжэй да ісціны было б назваць яго «Далоў ланцугі традыцый!». Хвалячы ўсяляк «наватараў» з ліку некаторых, дарэчы вельмі розных, маладых пісьменнікаў, аўтар цвёрда адмяжоўвае ад іх Паўстоўскага, Федзіна, Стэльмаха як прадстаўнікоў старога напрамку ў літаратуры. Што ж датычыць майстроў беларускай прозы, дык тут Ул. Жыжэнка наогул не цырымоніцца, тонам абвінаваўцы заяўляе, што, «ахоўваючы свае ўласныя традыцыі», яны *«спрабуюць увогуле адмаўляць пошукі»!*

Ул. Жыжэнку, пэўна, брала спакуса стаць тэарэтыкам новага напрамку ў беларускай літаратуры: многа ўвагі і энергіі патраціў ён у сваім артыкуле, вельмі блытаным, абгрунтаванню «новага, сучаснага стылю». У марных спробах растлумачыць «сучасны стыль» Ул. Жыжэнка прыпісвае яму якасці, якімі здаўна славіцца сапраўдная літаратура: лаканізм, псіхалагічны аналітызм і г. д.,— але выдае гэта як заваёвы толькі новай літаратуры, твораў апошніх гадоў. Відаць, разумеючы ненадзейнасць сваіх тлумачэнняў, ён займаецца «вынаходніцтвам»: прыпісвае сучаснаму стылю не проста псіхалагічны аналітызм, а ўзмоцнены псіхалагічны аналітызм! Аўтар рэкамендуе ўкладваць сучасную прозу ў вельмі жорсткія, цесныя рамкі: «У крайнім абмежаванні дзеяння ў часе, у геаграфіі, у засяроджанасці яго вакол аднаго асобнага эпізоду, аднаго або невялікай колькасці персанажаў» бачыць аўтар ідэальнае выкананне патрабаванняў новага стылю. Калі чытаеш такое, мімаволі прыходзіць у галаву, што самым ідэальным узорам новага стылю для гэтых тэарэтыкаў магла б стаць класіцыстычная драма з яе славутым трыадзінствам!

У імя справядлівасці трэба сказаць, што такога роду «тэорыі» ствараліся людзьмі, якіх ніяк нельга аднесці да галоўных сіл нашай літаратуры. Цвяроза, горача абаранялі рэалістычныя асновы літаратуры ў час дыскусіі лепшыя нашы пісьменнікі — празаікі Іван Навуменка, Аляксей Кулакоўскі, Піліп Пестрак. Нель-

га не адзначыць з задавальненнем, што і лепшыя сілы нашай крытыкі праявілі выдатную сталасць, прынцыповасць, недвухсэнсоўна выказаўшы свае адносіны да «модных» павеваў; заслугоўвае вялікай павагі праца крытыкаў Н. Пашкевіча, Р. Бярозкіна, У. Юрэвіча, Р. Шкрабы, Ф. Куляшова і многіх іншых.

Усё ж нельга не прызнаць, што мітусня, узнятая «наватарамі», парушала здаровую творчую атмасферу, уздымаючы непатрэбныя спрэчкі, адводзіла часам увагу пісьменнікаў ад галоўнага, выклікала хістанні ў часткі моладзі. Яна прыгнятала многіх з нас, таму што ідэалагічная накіраванасць гэтых настойлівых агульных наскокаў на «старое» мастацтва, на «старыя» метады паказу жыцця прыкрывалася сцягам барацьбы з вынікамі культу асобы, рашэннямі XX і XXII з'ездаў. Іменна гэтыя «наватары» і лічылі сябе найбольш рашучымі і паслядоўнымі барацьбітамі з культам асобы, найбольш чулымі і найбольш вернымі выканаўцамі волі партыйных з'ездаў.

Гісторыя з «наватарамі» напомніла нам, што ў пытаннях абароны асноў нашага мастацтва нельга лібералънічаць, бо калі той-сёй з пісьменнікаў, якія працавалі ў класічнай традыцыі сацыялістычнага рэалізму, гатовы быў, так сказаць, суіснаваць з фармалістамі, з «наватарамі», дык яны, па сутнасці, і ў думках не дапускалі суіснавання. Яны ж лічылі, што рэалісты-«традыцыяналісты» — мёртвае мінулае мастацтва, яны, па сутнасці, не прызнавалі за рэалістычнымі традыцыямі права на жыццё не толькі ў будучым, але і сёння. Яны адвяргалі не толькі Рэпіна, але і ўсіх, хто хацеў бы ісці за ім услед.

«Наватары» часта з пагардай і абурэннем гаварылі пра «нарматыўную крытыку»... Але дзіўна — ледзь адчуўшы сілу, многія з гэтых праціўнікаў «нарматыўнай крытыкі», па сутнасці, самі сталі нарматыўнымі крытыкамі: суд іх над тымі, хто ім прыходзіўся не да густу, быў бязлітасны і безапеляцыйны.

Здаецца, ніколі не было столькі легкаважных, безадказных выступленняў, як тыя, што паявіліся ў нашым літаратурным асяроддзі ў апошнія гады. Мімаволі ствараецца ўражанне, што хто-ніхто ўспрыняў тыя новыя абставіны, якія склаліся пасля XX і XXII з'ездаў, як благаславенне гаварыць і пісаць усё, што прыйдзе ў галаву. Пры гэтым у многіх выступленнях прыкметна

была тэндэнцыя — гаварыць абавязкова не тое, з чым згодны іншыя, абавязкова спрэчнае, а яшчэ лепш — супрацьлеглае. Здаецца, ніколі не свярбела так самалюбству некаторых з пачаткоўцаў у літаратуры ад неадольнага імкнення праславіцца смелымі.

Смеласць — вялікая доблесць; яна заўсёды была, і заслужана, у пашане ў кожнага з народаў нашай краіны. Мы разумеем і высока цэнім смеласць Пушкіна, смеласць Чарнышэўскага, смеласць Талстога. Агульнапрызнана смеласць Шолахава, праяўленая ў цяжкі час. Вялікі гонар — стаць у шэрагу смелых.

Але ці дастаткова справядліва папаўняем мы гэты вялікі рад некаторымі нашымі сучаснікамі? Ці не лішне часта, ці заўсёды заслужана ўзнагароджваюцца гэтым вялікім словам — смеласць — некаторыя творы нашай літаратуры, асабліва ў апошні час? Ці не занадта шчодра выдаецца гэты пачэсны медаль?

У сувязі з гэтым хочацца напомніць і пра тое, што смеласць, як вядома, бывае розная. Розныя прычыны яе і розныя яе вынікі. Ёсць смеласць, выклікаяая клопатам пра народ, пра вялікую літаратуру, і смеласць, выклікаяая клопатам пра сябе. Можа, пахваламі за смеласць мы часам цешым хваравітае самалюбства? Можа, за смеласцю часам хаваецца проста анархізм, свавольства індывідуаліста?

Мы — за смеласць, але за смеласць, выкліканую сур'ёзным грамадзянскім пачуццём, клопатам пра дабро для народа. За смеласць, якая ўзвышае літаратуру, смеласць значных прынцыпаў. Мне здаецца, што сапраўдная смеласць абавязкова павінна спалучацца з такімі адметнымі асаблівасцямі нашай работы, як высокая грамадзянскасць, прынцыповасць, праўдзівасць...

Не магу не сказаць пра тое адчуванне, якое гняце душу, калі бачыш, з якой лёгкасцю некаторыя абыходзяцца з прадметамі, што патрабуюць асаблівай асцярожнасці і адказнасці. Калі чытаеш некаторыя бойкія вершы або артыкулы пра культ асобы, так і хочацца сказаць іх аўтарам: не забаўляйцеся гэтым, гэта — не для забаў, асабліва — літаратурных, у гэтым — вялікі боль. На гэта трэба мець асаблівае права — права выпакутаванасці, права сталага сэрца і сталай мудрасці! Тым больш гэтым нельга ні какетнічаць, ні спекуляваць!



Іван Мележ у родных мясцінах. *1970*



Іван Мележ і Сяргей Залыгін у Ялце. *1966*

У творчых спрэчках, што разгарнуліся ў нашай літаратуры, вельмі часта з боку маладых раздаваліся заклікі, якія ў той форме, у якой яны гучалі, не маглі не здавацца нам дзіўнымі. У прыватнасці, узяць хоць бы заклікі — да пошукаў, якія вымаўляліся з такім выглядам, быццам гэтыя пошукі толькі цяпер павінны пачацца. Маўляў, новая літаратура жыць не можа без пошукаў. Калі чуеш гэтыя заклікі, мімаволі думаеш: а чаму, зрэшты, літаратура павінна пачынаць іх; сапраўдная літаратура, з таго часу як яна існуе, заўсёды ў пошуках; без пошукаў літаратура не можа, не магла ніколі жыць, ні адзін значны твор ніколі не паяўляўся без пошукаў. Паэзія, літаратура заўсёды былі «ездой в незнаемое». Ці не больш правільна гаварыць — аб прадаўжэнні пошукаў, аб прадаўжэнні нязменнай традыцыі любой літаратуры, асабліва савецкай, якая заўсёды вылучалася самымі напружанымі пошукамі?

Вельмі часта даводзіцца чуць ад тых, хто імкнецца вызначыць, што такое новы стыль, гаворку пра тое, што адна з важнейшых, адметных асаблівасцей гэтага стылю — інтэлектуалізм. Літаратура новая, маўляў, строга інтэлектуальная, інтэлектуальнасць — галоўнейшая, адметная асаблівасць яе героя. Вядома, тут адразу ўзнікае ў нас пярэчанне такога роду: так, інтэлектуальнасць — важная якасць, аднак жа мастацкая літаратура — не навука, у мастацтве не менш важная і іншая, спрадвечная якасць мастацтва — эмацыянальнасць. Колькі памерла і памірае так званых інтэлектуальных раманаў і аповесцей, не сагрэтых гарачым сэрцам, гарачым чалавечым дыханнем!

Але мяне больш закранаюць гэтыя размовы пра інтэлектуальнасць — як пра адметную рысу «новага стылю» — па другой прычыне. Мне здаецца зусім неапраўданым меркаванне пра інтэлектуальнасць як пра нейкую зусім новую рысу літаратуры. Дзіву даешся, слухаючы такое, думаеш: ды ці азіраюцца назад некаторыя нашы «тэарэтыкі», ці абапіраюцца яны ў сваіх вывадах на вопыт, набыты літаратурай за многія дзесяткі год? Дзіву даешся, як можна — хаця б у падтэксце — выказаць сумненне ў вялікай інтэлектуальнасці ўсіх лепшых твораў нашых літаратур? Савецкая ж літаратура — з самых першых дзён сваіх — заявіла пра сябе як літаратура ў вышэйшым сэнсе інтэлектуальная. Хі-

ба не інтэлектуальныя і Чапаеў, і Левінсон, і шолахаўскі Штокман, і не вельмі пісьменны Рыгор Мелехаў, які пакутліва шукае сваёй дарогі ў заблытана-складаным, бязлітасным жыцці? Інтэлектуальныя не толькі Давыдаў, але і Майданнікаў, і каваль Шалы. Па-народнаму мудры, інтэлектуальны і стары палескі дзед-партызан з аповесці «Дрыгва» Якуба Коласа, многія і многія героі раманаў Кузьмы Чорнага, Міхася Лынькова, героі п'ес Крапівы. А ці трэба даказваць інтэлектуальнасць Паўкі Карчагіна і герояў-маладагвардзейцаў?

Думкі пра інтэлектуальную перавагу новага героя, якія вельмі ўпарта адстойваюць нашы апаненты, мне здаюцца і няправільнымі, і несправядлівымі, далёкімі ад ісціны. Адчуваецца ў іх нешта абразлівае; непавага, а часам і, падобна, пагарда да нашых бацькоў і матак, да тых, чыімі працай і розумам карыстаемся мы цяпер. Як быццам яны былі непаўнацэннымі інтэлектуальна!..

Я нарадзіўся ў палескай вёсцы. Мая маці — амаль непісьменная і цяпер; але калі я прыязджаю дадому, калі я гавару з ёю пра складанейшыя з'явы жыцця, мяне заўсёды здзіўляе і ўражвае правільнасць яе меркаванняў, глыбіня яе разумення жыцця і людзей. У звычайнай, нічым асабліва не прыкметнай маёй роднай вёсцы Глінішчы вы можаце сустрэць нямала людзей, размова з якімі ўзбагаціць вашу душу і розум. Адкуль жа гэтае пачуццё інтэлектуальнай перавагі над «продкамі», якое проста лезе з некаторых маладых людзей?

Яно, магчыма, абапіраецца на глыбакадумнае супастаўленне такіх меркаванняў: чалавек раней быў слаба адукаваны, літаратуру калі і ведаў, дык пятае цераз дзесятае, у навуцы зусім быў цёмны; ён нават і думаць не думаў дабрацца да такіх вышынь чалавечага розуму, як кібернетыка або тэорыя адноснасці...

Так, малады герой нашага часу адукаваны. Недарэчна адмаўляць тыя велізарныя змены, што адбыліся ў нашых людзях дзякуючы вялікай рэвалюцыі ў галіне культуры, здзейсненай у Савецкай краіне. І ўсё ж — вярэдзяць душу гэтыя гаворкі пра інтэлектуальную перавагу, выклікаюць пратэст! І хочацца сказаць тым, хто спрачаецца з табой: адукацыя і інтэлект — не адно і тое ж. Высокі быў інтэлект — «розум, разважлівасць, мысліцельная здольнасць» — у нашага папярэдніка,

у коннагвардзейца часоў грамадзянскай вайны або будаўніка эпохі першых пяцігодак! І яшчэ які быў інтэлект у гэтых, часта амаль непісьменных, людзей, калі і без вялікай адукацыі яны выдатна, беспамылковым чуццём, распазнавалі тое, да чаго глухія і ў чым блытаюцца высокаадукаваныя нашы малодшыя таварышы і равеснікі нашы!

Мне здаецца, сёй-той дарэмна забывае, што інтэлект узбагачае не толькі акадэмічная цішыня аўдыторый і бібліятэк, але не ў меншай меры вецер вялікіх дарог, клопат ліпеньскіх палёў, грукат новабудоўляў, віраванне жывога жыцця. У нашых бацькоў і старэйшых таварышаў былі свае універсітэты, няхай цяжкія, але выдатныя універсітэты. Як тут не прыгадаць: «Мы диалектику учили не по Гегелю, бряцанием штыков она врывалась в стих!..» І скажам шчыра: дыялектыку — не па Гегелю — вывучылі нашы бацькі цудоўна; нярэдка — лепш, на жаль, чым хто-ніхто з нас!

Горка і крыўдна, але як часам не хапае іншым з нас, вельмі адукаваным, разумення некаторых як быццам простых, але вельмі важных ісцін, з якімі і «цёмныя» людзі тых дзён (як і многія ў наш час) выглядалі проста мудрацамі! Хочацца, у заключэнне гэтай думкі, сказаць, што інтэлект зразумець можна толькі канкрэтна-гістарычна, з улікам сацыяльных умоў жыцця людзей. І — канечна ж — інтэлектуальнасць была заўсёды і — будзе заўсёды найважнейшай якасцю сапраўднай літаратуры; будзе заўсёды і — была заўсёды. Гаварыць іншае — значыць, мне здаецца, проста не разумець літаратуры...

Таварышы, беларускія пісьменнікі ў апошнія гады стварылі нямала добрых кніг, што знайшлі шлях да сэрца тысяч і тысяч чытачоў, палюбіліся народу. Нас радуе, што сярод іх ёсць кнігі, створаныя маладымі пісьменнікамі.

З вялікай увагай сочым мы за тым, як расце, набіраецца вопыту і сілы маладое пакаленне беларускай літаратуры. У большасці сваёй гэта таленавітыя людзі, улюбёныя ў літаратурную справу, людзі, якія шчыра імкнуцца служыць народу. Вострай цікавасцю да жыцця народа, імкненнем сказаць праўду пра жыццё, пра сучасніка прасякнута іх творчасць. У практыцы работы сваёй яны імкнуцца прадаўжаць лепшыя традыцыі нашай літаратуры, што заўсёды вызначалася глыбокай

народнасцю, высокай грамадзянскасцю. Гэта з поўным правам можна сказаць і пра Сачанку, і пра Барадуліна, пра Пташнікава і Стральцова, пра многіх іх равеснікаў. Тое, што яны ўжо зрабілі, дае падставы мець на іх вялікія надзеі.

Супрацьстаўленне пакаленняў: маладых і «старых» несправядлівае, штучнае. Вельмі добра высмеяў яго Пімен Панчанка ў вершы «Размова з нашчадкамі», не так даўно ў перакладзе апублікаваным у «Известиях». Мае рацыю паэт, калі гаворыць пра адзінства лёсаў і сэрцаў, пра сплаў пакаленняў. Усе пакаленні, уся наша літаратура пасля XX з'езда, можна сказаць, сталі маладзейшымі. Маладосцю павявае не толькі ад творчасці маладых, тых, хто прыйшоў у літаратуру ў апошняе дзесяцігоддзе, але і ад тых, хто працуе даўно.

У нас адзіная крыніца творчасці — багатае жыццё народа, адзіны чытач і суддзя — народ; у нас — вялікі друг і дарадчык — Камуністычная партыя. У нас багатая спадчына, наша мэта ясная. У нас ёсць усё для таго, каб з упэўненасцю глядзець у наша творчае заўтра.

*1963*

# ПЕРАД ПЕРШАЙ СТАРОНКАЙ

Рэдакцыя часопіса «Вопросы литературы» вырашыла звярнуцца да шэрагу савецкіх пісьменнікаў з просьбай расказаць пра значэнне і асаблівасці работы, якая папярэднічае рабоце за пісьмовым сталом. Рэдакцыя просіць адказаць, поўнасцю або выбарачна, на наступныя пытанні:

Якую работу робіць пісьменнік да таго, як ён сядзе за пісьмовы стол? У выніку якіх жыццёвых уражанняў узнікае задума? Якія тыя стымулы, што прымушаюць пісьменніка ўзяцца за ажыццяўленне гэтай задумы?

Адным словам, што папярэднічае напісанню першай старонкі новага твора?

Уявім сабе размову:

— Скажыце, што робіць аўтар перад тым, як пачне пісаць першую старонку?

Відаць, кожны пісьменны чалавек, не доўга думаючы, скажа:

— Вядома — што: ён захапіўся новай задумай, збірае матэрыял, абдумвае характары герояў, сюжэт. Потым садзіцца за пісьмовы стол...

— Добра. А калі, на вашу думку, пачынаецца падрыхтоўка да першай старонкі?

Гэтае пытанне здасца ўжо настолькі простым, што можа выклікаць здзіўленне:

— Як — калі? Канечне ж, не раней чым паявіцца новая задума. Паявілася новая задума, аўтар і пачынае думаць, як яе ажыццявіць, рыхтуецца па ўсіх напрамках...

Далёка не кожны чытач ведае, якая памылковая гэтая думка, нібыта такая грунтоўная, бясспрэчная. Гэта выглядае як парадокс, гэта амаль неверагодна: пад-

рыхтоўка аўтара да першай старонкі новай кнігі пачынаецца задоўга да таго, як узнікла яе задума.

І тым не менш — гэта не жарт, не парадокс. Гэта — праўда!

Мне здаецца, мы часта перабольшваем значэнне непасрэднай, канкрэтнай падрыхтоўкі новай старонкі. Мы разумеем яе, калі можна так сказаць, занадта утылітарна. Яна асабліва прыцягвае нашу ўвагу таму, што яна вельмі адчувальная, што ў ёй у гэтую хвіліну наш галоўны клопат і наша надзея, яна перад гэтай старонкай асабліва актуальная, значная.

І ўсё ж — не яна перш за ўсё вырашае лёс будучай першай старонкі будучай кнігі. Яна адыгрывае, на маю думку, прыватную, падпарадкаваную ролю: вельмі важную, вядома, але ўсё ж падпарадкаваную.

Калі азіраешся назад, калі ўспамінаеш, як нараджалася кожная старонка, бачыш, якія непадобныя іх радаслоўныя: кожная ішла ў свет сваёй, асаблівай дарогай. У кожнай былі свае цяжкасці, свае радасці, свой лёс: адны створаны аўтарскім вымыслам, другія — як рэха таго, што ўбачыў, пачуў, трэція — жывая плоць некалі перажытага. Ва ўсіх гэтых старонках, якія б розныя яны ні былі, ёсць адно агульнае — пачуццё, погляд аўтара.

У кожнай старонцы, якую стварае пісьменнік, акрамя канкрэтных, спецыяльна падрыхтаваных ведаў, непрыкметна, можа, але непазбежна, удзельнічае яго жыццёвы вопыт, эмацыянальны, маральны, грамадзянскі: іменна гэты вопыт, найскладанейшая дыялектыка яго поглядаў, яго светаразумення і абумоўлівае незлічоныя ацэнкі пісьменнікам людзей, падзей, фактаў, разнастайных праблем мастацкага майстэрства. Няхай вопыт, погляды гэтыя як быццам і не маюць прамога, цвёрдага дачынення да старонкі, яны непазбежна, праз няўлоўную сувязь асацыяцый уплываюць на пісьменніка. Можна сказаць, кожную старонку пісьменнік рыхтуе, па сутнасці, усё жыццё, што было да яе.

Гэтая шматгадовая падрыхтоўка праяўляецца ўжо тады, калі нараджаецца ідэя, калі — яшчэ цьмяна, невыразна — пачынаюць праступаць абрысы будучага твора, яго старонак. Іменна «падрыхтоўка» гэтая дапамагае ўзбагаціць «агульнае аблічча» задумы тымі ці іншымі жывымі падрабязнасцямі, непаўторнай канкрэтнасцю, своеасаблівасцю, праўдаю, якая ўражвае

чытача. Чым багацейшыя жыццё, сэрца і розум мастака, тым багацейшыя яго кнігі, яго старонкі.

Тое, што пісьменнік часта «выдумляе», зусім не змяняе становішча: вымысел у самым крэўным сваяцтве з жыццёвым вопытам аўтара, з яго поглядамі. Вопыт гэты ўладна кіруе аўтарам і пры спецыяльным вывучэнні матэрыялу для кнігі: ён кіруе адборам герояў, вызначае разуменне, ацэнкі людзей, ацэнкі падзей. Кожны пісьменнік ведае, якую важную ролю адыгрывае ў працэсе работы інтуіцыя; інтуіцыя таксама ўся — у вопыце.

Можна было б прывесці багата прыкладаў таго, які часам доўгі шлях пісьменніка да першай старонкі кнігі. Ёсць нямала такіх прыкладаў і ў маім творчым вопыце; у прыватнасці — вельмі доўгай была «падрыхтоўка» да рамана «Людзі на балоце». Задума рамана пачала хваляваць мяне гадоў дзесяць назад, але «матэрыял», які ўвайшоў у яго, быў часткова «адабраны» за многа гадоў да задумы, уласна, нават да таго часу, як я наогул навучыўся пісаць. З уражанняў далёкага маленства ўвайшлі ў раман, вядома, сплавіўшыся з вымыслам, такія, напрыклад, малюнкі, як выезд куранёўцаў на сенакос, як святкаванне каляд. Больш познія «загатоўкі» дапамаглі мне пісаць сцэны першых спатканняў маіх герояў — Васіля Дзятла і Ганны. Сцэны вясковых сходаў, будаўніцтва грэблі, малюнак кірмашу. Увайшлі ў раман многія мае землякі — знаёмыя тых гадоў. Многа прыкладаў такога роду я мог бы прывесці амаль з кожнага свайго твора; зрэшты, такіх фактаў колькі хочаш у кожнага пісьменніка.

Так, усё жыццё пісьменнік рыхтуецца да сваёй новай, першай старонкі: новая, не напісаная яшчэ старонка — заўсёды і першая, адзіная. Рыхтуецца — штодзённа, штогадзінна, усё жыццё, нават калі яшчэ не бачыць яе ў сваім уяўленні. Лёс старонкі залежыць перш за ўсё ад таго, што ў пісьменніка за душой: якое ў яго сэрца, якое вока, якая памяць,— што запісана ў яго памяці, чаму навучылася яго сэрца.

*1963*

## АДКАЗ НА АНКЕТУ «ПРАВДЫ»

Пішу раман пра час вялікага пералому на Палессі. Гэта будзе другая кніга маёй «Палескай хронікі».

У ёй мне хочацца расказаць, які складаны, цяжкі і вялікі быў шлях нашых людзей да сённяшняга дня. Героі мае — простыя людзі звычайнай палескай вёскі. Я хачу паказаць, як моцна звязана жыццё гэтых людзей паміж сабою і з вялікім жыццём савецкага свету, што ўсё больш змяняе жыццё і душы людзей Палескага краю.

Хачу напісаць кнігу ў поўным сэнсе народную, кнігу, якая славіла б народ, яго падзвіг, была прасякнута вялікай павагай да яго.

*1963*

# З ДУМКАЮ ПРА НАРОД

Ёсць ісціны — знаёмыя, старыя, якія, здаецца, заўсёды трэба памятаць, адчуваць.

Даўно вядома, напрыклад, што пісьменніку трэба вывучаць жыццё. Ісціна як быццам вельмі банальная, вядомая школьнікам. Але гэтая старая ісціна разам з тым і вечна новая і заўсёды актуальная. Ні адзін твор, добры, сапраўдны твор, можна сказаць, не з'явіўся без вялікага, глыбокага ведання, вывучэння жыцця.

Прычым веданне, якое неабходна пісьменніку, павінна быць шырокім. Як мага больш шырокім, грунтоўным. Чым больш значныя, аб'ёмныя гэтыя веды, тым мацнейшы пісьменнік.

На любую кнігу ўплывае ўвесь вопыт пісьменніка. Ён уплывае на выбар тэмы, матэрыялу для кнігі, на выбар герояў для кнігі, на адносіны да герояў, на паказ герояў. На ўсім, пра што піша пісьменнік, адбіваецца не толькі той вопыт, які пісьменнік рыхтуе непасрэдна для гэтай кнігі, але і ўвесь яго маральны, жыццёвы вопыт, усё тое, што ён перажыў, пачынаючы літаральна з першых крокаў па зямлі, з першых дзён яго свядомага жыцця.

Я гэта мог бы сказаць, абапіраючыся на свой асабісты вопыт, у прыватнасці на вопыт работы над раманам «Людзі на балоце».

У гэты раман увайшлі назіранні тых гадоў, калі я і не думаў, што стану калі-небудзь пісьменнікам. Выходзіць, памяць як бы рабіла запас матэрыялу ў тыя часы, калі я не мог і думаць пра тое, што буду калі-небудзь пісаць раман пра Палессе.

Я гэта кажу да таго, што пісьменніку вельмі важна — жыць заўсёды са сваім народам, кожны дзень, кожную гадзіну. Толькі гэтая арганічная, цесная сувязь з народам, штодзённая, штогадзінная, і дае пісьменніку крылы, дзякуючы якім ён зможа падняцца высока,

ствараць сапраўдныя кнігі, хваляваць сэрцы чытачоў, мільёнаў чытачоў.

Роздум зноў і зноў вяртае да думкі пра тое, што пісьменніку трэба заўсёды памятаць: справа яго — не толькі яго асабістая, прыватная справа,— гэта справа народная. Па сутнасці сваёй пісьменнік — чалавек, які гаворыць з народам, працуе разам з ім дзеля агульнага дабра і славы.

Мне заўсёды дарагія пісьмы чытачоў. Яны як бы даюць адчуць біццё сэрцаў многіх і многіх людзей, жыхароў Сібіры, Каўказа, Урала, блізкіх і далёкіх куткоў нашай неабсяжнай краіны.

Пісьмы чытачоў — гэта ацэнка пісьменніцкай работы. Гэтая ацэнка заўсёды вельмі важная для нас. Яна важная таму, што ў рэшце рэшт народ — галоўны суддзя нашай работы.

Мы дзеці свайго народа, і ўсё, што мы робім, па майму перакананню, павінна быць прасякнута думкай пра дабрабыт і шчасце народа, пра пераможнае завяршэнне той справы, дзеля якой народ пераадолеў самыя цяжкія выпрабаванні.

Той, хто не думае пра народ, пра нашу вялікую справу, пра яе перамогу, па майму перакананню, проста не мае права брацца за пяро, гаварыць з народам.

Народнасць і партыйнасць — гэта душа, сэрца кожнай добрай кнігі. Без іх кніга не можа фактычна жыць, гэтак жа, як не можа жыць чалавек без сэрца.

У новым рамане, над якім я працую, я хачу, як і ў «Людзях на балоце», расказаць пра тое, які доўгі, цяжкі, складаны і разам з тым вялікі шлях прайшоў наш народ за гады Савецкай улады [...]

Галоўная думка, якая вызначае сэнс маіх кніг — і той, якая выйшла, і той, над якой я працую,— гэта, калі карыстацца словамі Л. М. Талстога, думка народная.

Я хачу, каб героямі маіх кніг былі людзі з народа, каб, чытаючы мае кнігі, людзі адчувалі, што народ наш заслужыў права на вялікую любоў і на вялікую павагу. Хачу, каб пра гэта ведалі, памяталі заўсёды мае чытачы.

Думка пра народ, пра народнае шчасце жыве ў сэрцы кожнага з нас, беларускіх пісьменнікаў. Гэта думка вядзе нас у рабоце, натхняе на тое, каб працаваць з поўнай аддачай. Яна павінна прывесці нас да новых добрых кніг.

*1963*

# ВЯЛІКАЯ ДАЧКА УКРАІНЫ

Багатае праявамі і з'явамі чалавечае жыццё паддаецца, як паказвае вопыт, кароткім адзначэнням. Яго можна адзначыць няхай прыблізнымі, але характэрнымі рысамі.

Калі такімі рысамі паспрабаваць вызначыць жыццё Лесі Украінкі, то самымі справядлівымі, на нашу думку, будуць дзве: трагічнасць і веліч. Трагічнасць чалавечага быцця і веліч духу, здзейсненага.

Які жорсткі быў да яе лёс, што так бязлітасна пакараў малую дзяўчынку за звычайнае дзіцячае легкадумства. Прымусіў чалавека ўвесь век пакутаваць ад невылечнай хваробы, якая ўрэшце і давяла зняможаную жанчыну да магілы. І якая цярплівасць, мужнасць, мужнасць незвычайнага чалавека стала на змаганне з бядою, і якая моц духу дала ёй адолець усё, прайсці годна праз усе няшчасці, што наканавала ёй доля.

Угледзьцеся ў яе аблічча, у яе твар: русявая, кволая, з далікатнымі рысамі жанчыны, з позіркам светлым і журлівым. Столькі чулага, жаноцкага бачыцца ў яе твары. І ўспомніце яе вершы, балады, паэмы: якая незвычайная творчая сіла ва ўсім і які пал душы ў кожным радку.

Гэта яна, кволая, са светлым, добрым позіркам жанчына, з адметнай неўтаймоўнай яе вымоглівасцю да сябе, з ваяўнічай мэтаімклівасцю прагнула:

Слово, чому ти не твердая криця,
Що серед бою так ясно Іскриця,
Чом ти не гострий, безжалісний меч,
Той, що здійма вражі голови з плеч!

Такое прагненне магло нарадзіцца толькі ў сэрцы змагара, байца. І яна была байцом, адважным і мужным байцом з днём учарашнім за дзень заўтрашні. Была байцом — адзначым — тады, калі быць ім было ня-

проста, калі многія паддаліся неадольнаму адчаю, бязвер'ю. Яна была байцом — згадаем — у ліхія дні рэакцыі, што пасля рэвалюцыі 1905-га ўпэўнена святкавала сваю перамогу.

Яна цалкам заслужыла тыя цудоўныя словы, якія сказаў пра яе адзін з яе вялікіх паплечнікаў Іван Франко. «Гэта быў, бадай, адзіны мужчына ў тагачаснай нашай паэзіі». У гэтых словах, што гучаць першы момант як парадокс,— вялікая праўда. Гэта лепшая адзнака яе жыцця і яе значэння для літаратуры, для народа.

Мы, беларусы, ганарымся, што нялёгкае жыццё яе асветлена шчасцем харошага сяброўства з нашым суайчыннікам — мінскім марксістам Сяргеем Мяржынскім. Нам дарага, што яна была ў нашым горадзе, і мы шкадуем, што ў Мінску ёй давялося зазнаць гора, пабачыць, як пакідае яе і жыццё дарагі ёй, смяротна хворы чалавек. Але мы разам з гонарам помнім і пра тое, што гэтыя трагічныя дні былі разам і днямі, якія засведчылі нам хараство вернасці яе сэрца.

Мы, як і вы, ганарымся слаўнай дачкой Украіны. Леся Украінка жыве і ў нашых сэрцах. Таксама, як і ў вашых. Яна з намі, наша, таму што вялікія людзі належаць не толькі свайму народу. Яны належаць усім народам нашай краіны. Яны — дзеці чалавецтва.

*1963*

# НЯХАЙ ЖЫВЕ ДРУЖБА

У жыцці маім многае звязана з братняй украінскай зямлёю, з людзьмі Украіны. Пачаць хоць бы з таго, што нарадзіўся я ў вёсцы, у якой не надта бывалыя ў свеце палешукі лічылі паездку ў Кіеў нечым амаль звычайным. Раён наш мяжуе з Украінай, з Кіеўшчынай, і хіба ж трэба дзівіцца таму, што ў госці да нас нярэдка прыходзілі браты з другога берага Прыпяці, што ў нас добра чулі ўкраінскія песні. Праўду кажучы, песні і на тым і на гэтым баку былі часта амаль што аднолькавыя, толькі што вымаўляліся па-рознаму. Але мелодыі ў іх былі вельмі падобныя, вельмі падобнымі былі іх задуменнасць, сардэчнасць, шчырасць, пявучасць...

Адным з дарагіх успамінаў маленства было знаёмства з «Кабзаром», які трапіў да нас у хату невядома як — чытаны-перачытаны, без першых і без апошніх старонак. Чытаць мне было няпроста: украінскай мовы я не ведаў, але ўсё ж я зразумеў галоўнае, песні Кабзара ўсхвалявалі мяне незвычайна, казачнае хараство мовы яшчэ ўзмацніла чароўнасць таго ўражання, якое зрабіла на мяне Шаўчэнкава кніжка.

Шаўчэнка, Гогаль, Куінджы, украінскія песні навучылі нас любіць Украіну яшчэ да таго, як сваімі вачамі, увачавідкі, убачылі мы хараство крутых дняпроўскіх берагоў і асмужаную, бяскрайнюю красу стэпавых даляў. За два гады да вайны трапіў я на Украіну — з салдацкім эшалонам, у цяплушцы, ад якой веяла рамантыкай паходаў грамадзянскай вайны, прыехаў я ў Данбас, у Арцёмаўск. Тут, у Арцёмаўску, чырвонаармейцам артылерыйскага палка пачынаў я салдацкую службу і новае, непасрэднае, не кніжнае, знаёмства з украінскай зямлёю. Знаёмства гэта было прадоўжана праз паўгода на новых, нядаўна вызваленых, аснежаных, чароўных сваёй нязвыклай красою прадгор'ях

Карпат. З прадгор'яў летам наш полк пераехаў у глыб гор, у глыб гуцульскага краю, дзе так добра пачынаеш чуць сэрца і душу франкоўскай паэзіі і прозы. Гэты час быў для мяне, акрамя ўсяго, часам знаёмства, захаплення ўкраінскай паэзіяй і прозай, украінскай літаратурай. Я навек удзячны дружбе сваёй з цудоўным хлопцам з Данбаса Іванам Карабутэнкам, з якім мы разам прачыталі столькі зборнікаў украінскіх вершаў, якія так памаглі мне ўвайсці ў свет пачуццяў і вобразаў Стэфаніка, Табілевіча, Ольгі Кабылянскай, у свет Тычыны і Яноўскага, Галаўко і Рыльскага.

Я бачыў Украіну ў бядзе. Там, у Карпатах, на самай граніцы застала нас вайна. На Украіне вялі мы цяжкія баі па той бок Збруча, пад Уманню, у Новай Адэсе, прарываліся з варожага акружэння на поўнач ад Нікалаева. Звонкім і трывожным вераснем пад станцыяй Іларыёнаўкай адбівалі мы атакі асатанелых гітлераўцаў, што рваліся цераз Дняпро з-пад заняволенага тады Днепрапятроўска... Трывогі і баі, пакуты і боль параднілі навек нас, салдат-артылерыстаў, і мяне сярод іх, з украінскай зямлёю, з мілай і дарагой сястрою, як параднілі многіх украінцаў з «сінявокай сястрою», Беларуссю маёй.

Я ў Кіеве цяпер нярэдкі госць. Прызнаюся, пры кожным зручным выпадку, я ахвотна еду сюды. Хіба ж можна не паддацца спакусе — пахадзіць па люднаму вірліваму Крашчаціку, пастаяць, палюбавацца з Уладзімірскай горкі на задняпроўскія далі, пасядзець у шчырай, таварыскай бяседзе з кіеўскімі сябрамі-пісьменнікамі. Не буду таіцца, мне прыемна, што дзякуючы перакладчыку Аляксандру Іванавічу Пятроўскаму я цяпер маю магчымасць гаварыць з дарагім мне ўкраінскім чытачом на ўкраінскай мове: нядаўна на Украіне выйшаў мой раман «Людзі на балоце».

Вось і хочацца скончыць гэтае сваё слова падзякай сябрам за іх шчырасць, за іх дружбу. І хочацца сказаць: няхай больш будзе сяброўскіх кніг у нас, няхай часцей будуць сустрэчы, няхай мацнейшай будзе дружба наша — дружба братоў!

*1963*

# СЛОВА ДА ТАВАРЫША, ЯКОЕ Я ХАЦЕЎ БЫ СКАЗАЦЬ НА ЮБІЛЕЙНЫМ ВЕЧАРЫ

Дарагі юбіляр! Дарагі Аляксей Мікалаевіч! Дарагі — хочацца сказаць проста — Алёша!

Мы ведаем, што ты не любіш лішняй фамільярнасці, але ў такі вечар, як гэты, асабліва добра адчуваецца, як багата ўжо пройдзена разам дарог і сцежак, як багата разам перажыта радасці і трывог, як багата яднае нас агульных пасяджэнняў і нарад...

І гэта чуліць сэрца, гэта вядзе на асаблівую шчырасць, асаблівую сардэчнасць, дарагі Алёша!

Дарагі Алёша, мне ўспомнілася няблізкая пара нашага першага знаёмства.

Я, мабыць, не памыляюся: упершыню мы пахадзілі разам і пагаварылі як мае быць у Маскве, на першай пасляваеннай нарадзе маладых пісьменнікаў. (Мы тады былі маладымі пісьменнікамі — як гэта цудоўна гучыць!) Я і цяпер помню халаднаваты Арбат, першы поцемак між старых арбацкіх камяніц. Ты хадзіў тады не ў пінжаку, і я не ведаў, якія далікатныя будуць у цябе, заўсёды адпрасаваныя, без маршчынкі, белыя каўнерыкі, якія дасканалыя будуць вузельчыкі тваіх шляхетных гальштукаў. Тады, я добра помню, нават у паліто чулася пастава, выпраўка ваеннага чалавека, афіцэра. Мне помніцца, як добра сядзела на табе шарсцяная гімнасцёрка, як звыкла туга перацягваў яе афіцэрскі рэмень, помніцца, які ты ўвесь быў пругкі і цвёрды ў хадзе, у кожным руху — чалавек, які аддаў арміі і фронту багата дзён і багата душы, які яшчэ жыў арміяй, яе вывучкай.

Усе даўно звыклі ўжо да тваёй даўняй і нязменнай цывільнай шляхетнасці, якая так натуральна прыстала да аблічча сялянскага хлопца са Старобіншчыны, што таму, хто не бачыў цябе раней, ты і не можаш пабачыцца іншым. Дык от я і хачу нагадаць твой вайсковы воблік, хачу, каб і на гэтым вечары хоць на момант, хоць у тым не надта яскравым бачанні, якое

дае ўяўленне, хоць бы трохі ўведалі цябе такім, якім ты ішоў у літаратуру, маладым пісьменнікам, маладым нашым таварышам.

Мая павага да цябе пачалася з таго вечара, калі я пачуў пра твае ваенныя дарогі, калі я, які сам пабыў у тым агні, падумаў, што мусіў перажыць, перабыць камандзір стралковага ўзвода, камандзір штрафной роты, франтавік, лёгкія якога прашыла варожая куля. Думаю, што, прыгадваючы тое добрае, што ты зрабіў на зямлі, мы па абавязку сумлення і праўды найперш павінны сказаць дзякуй за тваю салдацкую працу, за якую заўсёды будзе наша першая пашана да цябе.

Як гэта добра, што той самы небяспечны міг твайго жыцця быў шчаслівы, што куля прайшла міма сэрца, што ты вярнуўся з вайны, што ты — сярод нас. Цяпер мы можам сказаць, што міг (колькі іх было на вайне іншых!) быў шчаслівы не толькі для цябе, тваіх блізкіх — ён быў шчаслівы для тысяч і тысяч тваіх чытачоў, якія палюбілі цябе за тваё слова, за твае апавяданні, аповесці, раманы.

Я ўспамінаю твае творы «Сад», «Гартаванне», «Перад усходам сонца», «Нявестка», «Дванаццаты, жорсткі», «Расстаёмся ненадоўга», «Сустрэчы на ростанях»... Я не буду разбіраць іх, пра гэта гаварылі і яшчэ больш будуць гаварыць крытыкі. Я скажу толькі пра галоўнае: нямала радасці прынёс ты сваім чытачам, усёй нашай, даўно ўжо не беднай літаратуры, якая дзякуючы табе стала шырэйшая і багацейшая. Поле, якое ты араў і засеяў,— добрае, дбайнае, каласістае.

Шлях твой у літаратуры быў нягладкі, нялёгкі, як і ў кожнага пісьменніка з неспакойным, дапытлівым, чулым талентам. Можна дадаць — з сапраўдным талентам.

Ты часам, як і кожны, хто хоча ісці нятоптанай сцежкаю, памыляўся: сёй-той з нас, мабыць, мог заўважыць, што ёсць у тваім характары такая рысачка — лішняя гарачнасць. Нецярплівасць. Яны на творчай дарозе давалі табе нямала прыкрасці — крытыкі судзілі як калі: калі — лагодна, калі — так, што ў цябе, здаецца, рукі апускаліся.

Я заўсёды сачыў за тваёй працай з увагай і цікавасцю: я заўсёды адчуваў — пра што б ні пісаў ты (ці радуючыся ад душы, ці гневаючыся так, што на цябе паглядвалі насцярожана) — у цябе добрае сэрца.

Дабрата ж сапраўдная не толькі ў тым, каб радавацца добраму; дабрата таксама і ў тым, каб абурацца злым! І я разумеў, што, маючы гарачае сэрца і гарачую галаву, не заўсёды хапае цярплівасці, каб узважыць такую тонкую мудрасць, як прапорцыі!

Думаю, я не памыляюся, што і твае ўдачы і няўдачы былі заўсёды на адной дарозе — да праўды. Ты, вядома, разумеў, што з усіх мастацкіх вартасцей самая першая і самая нязменная, неабходная — праўда. Імкненне да яе і вяло цябе ў няспынных пошуках, прага яе жыве заўсёды ў тваім сэрцы, сэрцы камуніста і савецкага патрыёта.

Мы, мабыць, не заўсёды ўмеем угледзець за падзеямі, якія відны нам адразу, тыя прычыны, што нарадзілі гэтыя падзеі, не бачым, што схавана пад гладкай ці неспакойнай паверхняй. Як часта нас радуе больш за неспакой ціхая лагоднасць, як часта мы не бачым, што за спакоем тоіцца ўрэшце чэрствасць да людзей, абыякавасць да вялікіх спраў нашых, неахвота глыбока і сур'ёзна рабіць, імкненне ўхіліцца ад няўдзячнай, чорнай працы...

Я веру табе, бо ведаю цябе з таго часу, калі ты ўваходзіў у літаратуру, ведаю тваю «зямную» і творчую дарогу больш як паўтара дзесятка гадоў. Я веру табе, бо ведаю, што ты любіш людзей, з якімі жывеш, радуешся і турбуешся; што тваё сэрца поўна самым вялікім клопатам жыць для іх, родных, для іх дабрабыту, для іх радасці, для іх жыцця. Іменна гэтай любоўю да людзей і сагрэты твае кнігі; іменна ў гэтым і самае вялікае іх хараство [...]

Я помню: тады, арбацкім вечарам, ты сказаў з жалем, што ўжо немалады, што на плячах багата гадоў. Тады табе было трыццаць тры. Цяпер, я думаю, ты разумееш, як памыляўся, залічваючы сябе да заўчасных старых. Мне думаецца, што, каб потым не каяцца ў лішніх памылках, не варта табе самахоць прыстройвацца ў гэты рад і цяпер. Тым больш што, мяркуючы па тых артыкулах, нарысах, апавяданнях і раманах, якія ты выдаеш «на-гара» ўсё з большым імпэтам, ты яшчэ набіраеш дужасць. Я і хачу сказаць наастатак: няхай яшчэ доўга красуе твая цяперашняя маладосць, няхай не старэе неспакойнае сэрца, не стамляецца рука, якая трымае пяро!

*1963*

## НЕ ЗАСТАЦЦА Ў ДАЎГУ

Многім з тых, хто мяне ведае, здалося нечаканым, што я ўзяўся за кнігу пра Палессе, пра старую вёску.

Даведаўшыся, пра што я пішу, яны здзіўлена разводзілі рукамі. Маўляў, не пра гэта трэба сёння пісаць.

Але мой раман «Людзі на балоце», як любая іншая кніга, з'явіўся не выпадкова. Ён мае сваю гісторыю, сваю біяграфію.

Сам я з Палесся. Нарадзіўся і да семнаццаці гадоў жыў у вёсцы. Я не збіраў уражанняў. Усё, што я бачыў, магло здацца, сыходзіла без следу. І калі пакідаў вёску, и не здагадваўся, што забіраю з сабой сваё мінулае. Я быў упэўнены, што яно разам з балотамі і зараснікамі засталося ззаду.

І сапраўды, хваля за хваляй набягалі на мяне новыя ўражанні, мінулага як быццам і не было. А потым пачалася вайна...

Нядаўна ў адным са сваіх старых блакнотаў я знайшоў запіс, зроблены ў 1946 годзе, калі зноў вярнуўся ў родныя мясціны: «Напісаць аповесць пра Палессе». Адразу ўспомнілася, пра што збіраўся тады пісаць — пра пасляваеннае Палессе, пра меліяратараў, пра асушку балот.

Аднак я пачаў пісаць не пра Палессе, а пра вайну, якою быў поўны ўвесь. Так нарадзілася кніга «Мінскі напрамак». Потым напісаў дзве п'есы, некалькі нарысаў і апавяданняў. Усе яны вельмі не падобныя адно на другое. Можа здацца, што пісаў іх не адзін чалавек, а розныя людзі. Тыя гады былі для мяне гадамі пошукаў свайго жанру, свайго стылю.

Так падыходзіў я да кнігі пра Палессе. Чым больш я думаў пра яе, тым больш адчуваў: трэба пачынаць здалёк, з вытокаў, з «самага пачатку». Але мяне бра-

лі сумненні: ці варта варушыць мінулае? Ці многіх зацікавіць сёння лёс вясковага хлопца ў такія далёкія гады? Я сумняваўся, але не пісаць не мог.

Пісалася і цяжка і лёгка.

Лёгка — бо раман нарадзіўся не ў выпадковых камандзіроўках, а ў сэрцы. Само жыццё доўгія гады як быццам рыхтавала мяне да гэтай кнігі.

Цяжка — бо хацелася выказацца без астатку, данесці да чытача тое, што вельмі дарага. Хацелася пісаць праўдзіва, мужна і чалавечна. Баяўся, што імкненне да мужнасці пяройдзе ў сухасць, а любоўператворыцца ў сентыментальнасць.

Вельмі замінала няўпэўненасць, што твор такі патрэбны людзям. Перад вачамі не-не ды і ўзнікала постаць крытыка-суддзі, што абрушвае на маю галаву папрокі за адыход ад сучаснасці.

Тут, здаецца, мне варта сказаць пра некаторыя свае думкі, звязаныя з гэтымі сумненнямі.

Па-мойму, у нас ёсць не толькі права, але і абавязак — вяртацца да нашага мінулага — вяртацца не дзеля мінулага, а ў імя будучыні. Таму што зразумець глыбока працэсы, якія адбываюцца ў душах сённяшніх людзей, можна толькі тады, калі стануць зразумелыя вытокі гэтых працэсаў.

Вярнуцца неабходна было і для таго, каб сказаць усю праўду пра тое, што раней недагаворвалася або замоўчвалася зусім.

Мне хацелася паказаць, як няпроста нараджалася новае жыццё, як нялёгка, у змаганні і пакутах, нараджаўся новы чалавек.

У некаторых нашых кнігах, беларускіх у прыватнасці, усё гэта, бывала, паказвалася спрошчана. Чалавек як бы вырываўся з жывой рэчаіснасці і пераносіўся дыктатарскай воляй пісьменніка ў штучныя, загадзя зададзеныя, вызваленыя ад жыццёвай складанасці ўмовы.

Я імкнуўся не хаваць слабасцей і недахопаў, якія бачыў у сваіх герояў, родных і блізкіх мне людзей. З самага пачатку, напрыклад, я адкрыта пісаў пра супярэчлівасць Васіля Дзятла. Цягавітасць не па гадах, упартасць, ранняя сталасць. Без скаргі ўзваліў на свае яшчэ дзіцячыя плечы цяжар клопатаў пра цэлую гаспадарку. Чысціня першага кахання. І разам з тым — колькі ўжо цёмнага, нядобрага ў душы юнака,

які толькі ўступае ў жыццё. Жорстка калечыць Васіля яго бядняцкае становішча, яго эканамічная безабароннасць перад нягодамі! Яны, па сутнасці, у самым пачатку ламаюць яго жыццё, прымушаюць адрачыся ад першага кахання.

Найбольшая ж бяда, трагедыя Васіля ў тым, што ён не бачыць правільнага шляху ў жыцці.

Ганна глядзіць на свет больш ясным позіркам. Яна, бадай, і смялейшая за Васіля. Але і ў яе не хапае сіл вырвацца з палону звычаяў, забабонаў, няпісаных векавечных законаў. Гэтыя законы здаюцца ёй непахіснымі, яна падумаць яшчэ не можа, што супраць іх можна паўстаць, што іх трэба зламаць.

Не раз, калі я выступаў перад студэнтамі, мяне папракалі за тое, што я дазволіў Ганне, нягледзячы на яе каханне да Васіля, выйсці замуж за нялюбага сына кулака.

Папрокі такія наіўныя. Не трэба падганяць герояў мінулага пад сучасныя меркі. Многае змянілася з часоў рэвалюцыі да нашых дзён не толькі ў сферы эканомікі, адбыліся вялікія змены і ў свядомасці людзей, у іх псіхалогіі, маралі.

Людзей проста нельга зразумець, калі не ўлічваць духу іх часу. Як правіла, учынкі іх, калі хочаце, суразмерныя іх часу, вызначаны іх часам.

Я хацеў паказаць, як старыя законы калечаць сэрцы і душы, раскрыць антыгуманнасць і бесчалавечнасць гэтых законаў. Іменна ў гэтым сутнасць трагедыі, якую перажываюць у найлепшую пару свайго жыцця Васіль і Ганна.

У рамане ёсць элементы аўтабіяграфічнасці. Перш за ўсё, можна сказаць, аўтабіяграфічныя пейзажы, карціны палескай прыроды. Аўтабіяграфічныя бытавыя і жанравыя сцэны: напрыклад, паездка Ганны на кірмаш, сцэны касавіцы і асушэння балот. Калі Ганна едзе на кірмаш — па сутнасці, не яна едзе, еду я, не яна ходзіць па кірмашы, усяму здзіўляючыся,— хаджу, здзіўляюся я. І калі Васіль да знямогі косіць або робіць грэблю — гэта не ён косіць і робіць грэблю, а я. Мне самому прыходзілася ў дзяцінстве працаваць, ды так, што ад стомы часам рукі не маглі не тое што касіць, трымаць касу.

Аўтабіяграфічны і эпізод малацьбы і нават сцэна вяселля. Мне давялося пабыць на многіх вяселлях.

Есць факты, якія цалкам перайшлі ў раман з успамінаў маленства. Такі ў першым раздзеле эпізод, калі брат Васіля Валодзька што б там ні стала хоча паехаць на сенакос. Не слухаючы старэйшых, бяжыць ён за возам, дабіваецца, каб яго таксама ўзялі. Нешта падобнае некалі было і са мной.

У рамане паказаны людзі, якія жывуць і цяпер, некаторых я нават вывеў пад сапраўднымі імёнамі.

Жыццё маіх герояў, хоць яно простае і звычайнае, па майму глыбокаму перакананню, варта самага высокага мастацтва. Нашы палёты ў космас пачыналіся не сёння і не ўчора. У гэтых палётах праца і далёкіх палескіх, арлоўскіх і гжацкіх сялян. Многае добрае ў нашым цяперашнім жыцці пачыналася імі.

Цяпер я працую над працягам рамана. У ім я раскажу пра калектывізацыю, пра вялікі пералом у вёсцы.

Пра калектывізацыю напісана многа. Але, мне здаецца, сказана пра яе далёка не ўсё. Хочацца глыбока і праўдзіва паказаць гэты важны паварот у жыцці вёскі. У цяжкія трыццатыя гады брала пачатак не толькі добрае, але і злое. У тым, што адбывалася тады, было нямала такога, што выклікала непатрэбную вастрыню адносін, нараджала несправядлівасці, крыўды, прыводзіла да неапраўданых ахвяр.

У новай кнізе я вярнуся да ранейшых герояў. Пакажу, як руйнаваўся стары лад жыцця і старыя звычаі, як змяньваліся, з'іначваліся погляды людзей.

Асабліва важны для мяне канфлікт між двума персанажамі, адзін з якіх у першай частцы адыгрываў другарадную ролю, а другі толькі цяпер выходзіць на першы план, канфлікт між Апейкам і Башлыковым.

Апейка — камуніст-ленінец. Ён адчувае і складанасць і значнасць таго, што неабходна для стварэння і ўмацавання калгасаў. Ён востра рэагуе на ўсё нездаровае, што звязана з пагоняй за парадным выглядам зводкі, да якога імкнецца Башлыкоў.

Найбольш буйныя падзеі рамана так ці інакш звязаны з думкай пра адказнасць чалавека за справу, якую ён робіць па даручэнню партыі, Радзімы, па ўласнаму жаданню. Няправільнае разуменне жыцця ў яго агульнай складанасці, у розных яго ўзаемных залежнасцях, а ў выніку і няправільныя дзеянні, я перакананы, прыводзяць да таго, што справе наносіц-

ца шкода. Гэтую шкоду потым цяжка паправіць. А часам і нельга паправіць.

Не ўтойваю, я вельмі і вельмі трывожуся, ці ўдасца мне з дастатковай глыбінёй паказаць узаемасувязі паміж часам і чалавекам.

Зрэшты, новая кніга — гэта заўсёды «езда в незнаемое». Ніколі не ведаеш, у якой ступені ўдасца рэалізаваць добрыя намеры і спадзяванні.

Як я працую над раманам?.. Я люблю працаваць раніцай. Раніцай я звычайна сяджу за пісьмовым сталом. Стараюся не прапускаць дарэмна час работы, напісаць хаця б паўстаронкі, хаця б некалькі радкоў. Усё ж у рабоце нярэдка бываюць перапынкі, звязаныя з роздумам, пошукамі, сумненнямі. Але і тады, калі не ўдаецца напісаць нават радка, звычайна ў думках не расстаешся з раманам. Ёсць у мяне сшытак, запісная кніжка, якія папаўняюцца нататкамі. Часта езджу на Палессе, падтрымліваю з маімі землякамі сталую сувязь.

Как глыбей асэнсаваць час, паводзіны герояў, я зноў перачытаў творы Леніна, вывучыў мноства дакументаў, разнастайных навуковых прац, якія датычацца праблем, што мяне хвалююць.

Некалькі слоў хочацца сказаць у сувязі з дыскусіяй, якая ў мінулым годзе разгарэлася на сімпозіуме еўрапейскіх пісьменнікаў у Ленінградзе, пра лёс рамана. Спрэчкі прымусілі мяне задумацца аб сваёй асабістай пазіцыі.

Я ўпэўнены, што лёс літаратуры і лёс рамана залежаць ад таго, наколькі жыццёвыя праблемы, якія хоча вырашыць пісьменнік, наколькі сур'ёзна даследуе пісьменнік матэрыял жыцця; ад здольнасці пісьменніка пранікнуць у душу герояў.

Самі па сабе пошукі формы, па-мойму, не маюць такой важнай ролі ў лёсе рамана. На маю думку, праблеме пошукаў новага стылю ўвогуле надаецца празмернае значэнне. Гавораць, напрыклад, пра лаканізм як самамэту, пра тое, што неабходна ўкладваць вялікі змест у малы аб'ём. Але ж лаканічным можа быць і вялікі раман, і расцягнутым — маленькае апавяданне. Мне здаецца наіўным ставіць у прамую залежнасць імклівасць тэмпаў жыцця і колькасць старонак у кнізе.

Не разумею я тых, хто лічыць, што пейзажы нале-

жыць выганяць з сучаснай прозы. Я асабіста не люблю доўгіх апісанняў, але для мяне несумненна, што добры пейзаж уносіць у кнігу неабходныя «падрабязнасці жыцця», паэзію. Выкіньце пейзажы з «Вайны і міру» або з «Ціхага Дона» — і яны страцяць нешта вельмі істотнае. Наогул, проза Льва Талстога і Міхаіла Шолахава, па майму перакананню,— самая сучасная проза.

Гэта зусім не азначае, што я супраць пошукаў. Пошукі трэба весці. Іх нельга не весці, уся сапраўдная літаратура створана ў пошуках; але не трэба пры гэтым грэбаваць вопытам нашых вялікіх і малых папярэднікаў.

Не сумняваюся, што развіццё рамана будзе ісці па самых розных напрамках. Некарысна гэта і, я ўпэўнены, немагчыма — уціснуць жыццё ў нейкі адзіны стыль, адзіную форму. Усё ў рэшце рэшт залежыць ад матэрыялу, ад таго, што хоча выказаць пісьменнік. Што ж датычыцца размоў пра тое, што раман аджыў або аджывае свой век, дык я ўпэўнены, што хаўтурныя прычытанні чуюцца занадта рана. Той, каго збіраюцца хаваць, яшчэ моцны і, чаго добрага, надоўга перажыве тых, хто спяшаецца праспяваць яму адыходную. Не выпадкова ў нас няма больш папулярнага жанру, чым раман. Няма пакуль другога жанру, які мог бы так шматфарбна, аб'ёмна перадаваць паўнату жыцця.

Не маюць падстаў размовы пра тое, што зжыла сябе эпапея. Мы жывём у эпоху, калі збліжаюцца гарады і кантыненты, калі ў свет чалавека ўваходзіць свет цэлай планеты. Мы жывём у эпічны час. Наш час, як ніякі іншы, патрабуе эпапеі. Эпапея — вяршыня пісьменніцкага майстэрства. Яе стварэнне вымагае велізарных творчых затрат. Мне думаецца, што адна з важнейшых задач савецкай літаратуры — стварыць эпічныя творы пра наш сённяшні свет. Тое, што пасля вайны ў нас мала з'явілася эпічных твораў, павінна трывожыць нас.

Кожны з нас, пісьменнікаў,— даўжнік перад людзьмі, перад часам. Мой клопат — як і клопат маіх таварышаў, беларускіх пісьменнікаў,— у тым, каб доўг гэты аддаць спаўна.

*1964*

# ПРЫКЛАД ШОЛАХАВА

Да гэтага часу помню, як ашаламілі мяне старонкі трывожнага жыцця Грымячага Лога, якія я ўбачыў упершыню вясковым хлопчыкам,— старонкі, што, можа, упершыню адкрылі, якая суровая, жорсткая і якая цудоўная рэч — жыццё. Помніцца, параіў прачытаць «Паднятую цаліну» паважаны чалавек, старшыня калгаса, заўсёды заняты справамі, які амаль нічога не чытаў, акрамя газет і распараджэнняў.

Пазней прыйшло знаёмства з «Ціхім Донам». Ніколі не забыць неспакойную цішыню ў растоўскім шпіталі, дзе галоўны ўрач — хірург Антонаў — асабіста ўзяўся аперыраваць параненага франтавіка. У перапынках паміж бамбёжкамі, забываючыся на неадступны, несціханы ні на імгненне боль у плячы, у руцэ, хадзіў я па горкіх дарогах Грыгорыя Мелехава, кахаў разам з Аксінняй і пакутваў з Наталляй, трывожыўся вялікай, поўнай непадзельнай тугі і надзеі, трывогай маці — Ільінічны.

Гэта было незвычайнае чытанне: слова Шолахава, якое само па сабе мае дзіўную сілу, хвалявала асабліва — я яшчэ жыў трывогамі фронту, адчуваннем невываласці франтавога спакою, адчуваннем вялізнасці вайны і вялізнасці чалавечай бяды, што захапіла ў сябе мільёны лёсаў: недзе — пад нямецкай няволяй — была мая родная палеская вёска, і недзе выглядвала, чакала мяне мая Ільінічна, мая маці. Усё незвычайна ўражвала яшчэ і таму, што перад гэтым бачыў я і данскія стэпы, і вясновае неба над імі, чуў на сабе, браў вуснамі напоены данской вільгаццю і стэпавымі пахамі вецер.

Са шпіталя ў Тбілісі, атрымаўшы водпуск на шэсць месяцаў, не выпадкова павёз я з сабою ў пустым

рэчавым мяшку, разам з пайком і зменай бялізны, тры тамы «Ціхага Дона»,— усё, што ўдалося дастаць. Гэтыя тры тамы былі маімі спадарожнікамі ўсю вайну.

«Ціхі Дон» па сённяшні дзень — самы вялікі і самы разумны мой сябар. Бясконца магу слухаць яго, размаўляць з ім, ніколі не астываючы ў сваёй любові да яго, ніколі не перастаючы адчуваць недасягальную глыбіню, шырыню, мудрасць яго...

Шолахаў увайшоў у жыццё многіх з нас як асабісты знаёмы, як разумны дарадчык, як сябар, што ведае, здаецца, усё. У Беларусі Шолахаў любімы з тых ужо даўніх дзён, калі да нас дайшлі першыя кнігі юнага аўтара «Ціхага Дона». З тых часоў — амаль чатыры дзесяцігоддзі — Шолахаў трывала ўладарыць у сэрцах беларускіх чытачоў, кожнае слова пісьменніка — ад раздзела з новага рамана да артыкула, да выступлення на сходзе калгаснікаў — сустракаецца з вострай, нязменнай цікавасцю.

Грыгорый Мелехаў, Аксіння Астахава, Кандрат Майданнікаў, Лушка, Сакалоў — даўно ўжо, як свае, як добрыя знаёмыя, жывуць у беларускіх хатах і гарадскіх кватэрах. Шолахаў даўно ўжо і ў нас стаў сапраўды народным пісьменнікам, народным не па званню, а па сутнасці сваёй, па сваёй злітнасці з народам, па тым прызнанні, якое заваяваў ён у сэрцах у нашай краіне і на ўсёй зямлі нашай.

Ужо і гаварыць не прыходзіцца, наколькі бяднейшая была б наша літаратура, калі б не было ў ёй Шолахава, цяпер без Шолахава яе і ўявіць немагчыма. Але думаецца мне, што значэнне Шолахава не толькі ў саміх яго кнігах, у тым, што яны далі народу, што прынеслі ў літаратуру. Вялікае, неацэннае значэнне прыкладу, які паказаў выдатны сын Расіі пісьменнікам.

Кожны значны пісьменнік уплывае не толькі на «простых» чытачоў, але і, няхай часамі непрыкметна, на сваіх братоў па творчасці. Гэта ўжо бясспрэчна: з сучасных савецкіх пісьменнікаў ніхто не зрабіў такога ўплыву на літаратуру — на многіх і многіх літаратараў розных краін, як Шолахаў. Уплываюць і на чытачоў і на сваіх братоў па пяру пісьменнікі, як заўважана, па-рознаму: часамі добра, з карысцю, часа-

мі — чаго грэх таіць — на шкоду,— у залежнасці ад таго, што значыць сабой асоба, якая ўплывае. Уплыў Шолахава на літаратуру не толькі вельмі шырокі, але і, што, мне думаецца, яшчэ важней, вельмі плённы.

Пісаць праўду, быць з народам, жыць для народа; любіць усім сэрцам і ненавідзець усім сэрцам; быць чулым і быць мужным; бачыць шырока і далёка — многаму добраму вучыць выдатны шолахаўскі прыклад.

*1965*

## ПОРЫ ГОДА

Цяжкая была ў нас у гэтым годзе вясна. Доўга не адважваліся яблыні выпускаць з пупышак цвет, амаль на месяц пазней чым звычайна зацвілі сады. Цяжка ішла сяўба, спазняючыся ў параўнанні з іншымі гадамі: у маі і раз, і два насоўваліся на палі небяспечныя замаразкі. Лета дажджлівае, хмурнае ўпачатку разам з трывогай усяляла нецярплівую надзею: добра, у рост, набірала сілы збажына, асабліва азімыя.

Восень жа была радасная, бадай, для ўсіх працаўнікоў палёў: збожжавых сабрана амаль у паўтара раза больш, чым у мінулым годзе.

З добрым пачуццём успамінаецца мне асенняя паездка ў родныя мясціны. Прыемна было чуць, як не вельмі ахвочыя на захапленні землякі дзяліліся сваёй радасцю: даўно не ведалі ў нашых месцах такога шчодрага ўраджаю.

Добра, лепш чым у мінулыя гады, папрацавалі людзі. I зямля не засталася ў даўгу. Успамінаючы ветлівыя твары сваіх аднавяскоўцаў, бачу абсіверані, смуглявы, з вельмі жывымі, амаль гарэзнымі вачамі твар маладога старшыні калгаса, былога камсамольскага работніка В. М. Гапоненкі, што памяняў кабінет у райцэнтры на турботную дзейнасць у вялікай і даволі-такі запушчанай гаспадарцы...

Многа людзей, ледзь толькі азірнешся назад, ажывае ў памяці, многа ўспамінаецца падзей; падзей, прыкметных табе аднаму ці тваім сябрам, і падзей, вядомых усёй рэспубліцы, усёй краіне. Нярэдка здараецца і так, што вялікія падзеі маюць для цябе асабісты характар. Не з газетных паведамленняў ведаю я, як цярпліва працавалі беларускія геолагі ў розных раёнах Палесся, шукаючы нафту. Не раз у родных сваіх мясцінах поблізу і наводдаль бачыў я незвычайныя ў тутэйшых краях нафтавыя вышкі. Яны ўзнікалі

ў розных кутках Палесся. Геолагі шукалі нафту, шукалі многія гады без асаблівых удач, нямала горкіх дзён давялося перажыць нашым настойлівым шукальнікам. Але нарэшце настойлівасць і пошукі прывялі да поспеху: забіў фантан нафты, адкрыта багатае радовішча яе.

Палеская зямля, галоўным багаццем якой яшчэ нядаўна лічыўся торф, дае цяпер «чорнае золата». Больш за дваццаць тысяч тон яго здабыта нафтавікамі Палесся да гэтых дзён.

Разам з новым адлічваннем гадоў, устаноўленым Кастрычнікам, даўно ўвайшло ў звычку і новае адлічванне года — ад 7 лістапада да 7 лістапада. Ён адзначае нібы дарожным указальнікам рубяжы пройдзенай, што адышла назад, дарогі. Багаты падзеямі і важнымі справамі і 48-ы рубеж.

Дзесяткамі новых заводаў, што выраслі ў розных кутках беларускай зямлі, новымі мікрараёнамі светлых дамоў, новымі прасторамі раскарчаванай, вызваленай ад кустарнікаў урадлівай зямлі адзначыў сябе 48-ы год рэвалюцыі. Ён стаў змястоўнай старонкай нашай гісторыі — адзін год вялікай работы народа, які працуе, натхнёны ідэямі Камуністычнай партыі, пад яе кіраўніцтвам. Ёсць у гэтым годзе ў нас, беларусаў, і свая асаблівая адзнака: на восем месяцаў раней намечанага тэрміну прамысловасць рэспублікі выканала сямігодку па аб'ёму прамысловай вытворчасці. Ужо не першы месяц многія заводы Беларусі даюць Радзіме станкі, машыны, прыбытак звыш сямігадовага плана.

Успамінаючы пражытае, з асаблівым хваляваннем думаеш пра святкаванне 20-годдзя нашай вялікай перамогі. Шырокім, сапраўды ўсенародным было гэтае святкаванне, у якім неяк па-асабліваму ярка, уражліва заззяла перад намі веліч зробленага ў гады вайны. Святкаванне перамогі стала як бы знакам усенароднай удзячнасці тым, каму мы абавязаны шчасцем сённяшніх дзён, тым, хто і цяпер побач з намі, і тым, што даўно ляжаць у зямлі Беларусі, Польшчы, Чэхаславакіі, хто жыве ў нашай неспакойнай памяці.

Многімі новымі сустрэчамі і новымі знаёмствамі запомніцца сёлетні год. У верасні ўся Беларусь, як братоў, сустракала пасланцоў Балгарыі і Чэхаславакіі. У кастрычніку нашымі гасцямі былі сябры з ГДР.

Як з самай звычайнай камандзіроўкі, вяртаюцца з далёкіх краін таварышы і знаёмыя, з кожным годам усё скарачаюцца адлегласці, скарачаюцца не толькі паміж гарадамі і рэспублікамі, але і між дзяржавамі і кантынентамі.

Яшчэ якія-небудзь паўтара-два дзесяткі гадоў назад як далёкая экзотыка чуліся многім і Індыя і афрыканскія дзяржавы. А сёння боль іх і радасць іх уваходзяць у нашы сэрцы. І гнеў в'етнамца поўніць гневам сэрца беларуса. Калі на джунглі і хаціны Паўднёвага В'етнама, на школы і плошчы Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам сыплюцца бомбы, скінутыя лётчыкамі ЗША, гэта адчуваецца як блізкая, як свая бяда.

Блізкай стала далёкая Куба. Ужо як звыклае бачыцца, калі сярод беларускіх юнакоў і дзяўчат сустракаюцца смуглявыя хударлявыя юнакі ў берэтах зялянковага колеру. Не першы год разам працуюць і вучацца на заводах і ў інстытутах Мінска. Гэтае яднанне з вялікім светам увайшло ў жыццё самых малых і нядаўна яшчэ ціхіх вёсачак, у хаты, якія ў мінулыя часы жылі толькі спрадвечнымі сялянскімі турботамі.

Аднак, скараціўшы адлегласці і зблізіўшы кантыненты, час, быццам пацвярджаючы вялікую сілу законаў дыялектыкі, не толькі не зменшыў у нашых сэрцах значэнне таго, што мы называем родным, адзіным, але быццам узмацніў яго. Не, не стала яна меншай, родная, наша зямля. Не, не здрабнела да яе наша сыноўняя любоў, не, не сталі менш дарагія нам яе палі і лясы. Час, скараціўшы адлегласці, як бы сканцэнтраваў нашы пачуцці. Наблізіўшы іншыя землі, ён быццам больш выразна адкрыў нам незаменнае хараство роднай зямлі, ■ якой і наша жыццё і самыя лепшыя нашы надзеі.

Мы верым, што надзеі нашы збудуцца. У нас ёсць багатае баявое і працоўнае мінулае, наша любоў да зямлі, наша імкненне працаваць для роднай краіны, што яшчэ такая маладая.

*1965*

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПАПЯРЭДНЕ

«Людзі на балоце» — гэта людзі, якім выпала на долю жыць сярод лясоў і балот, у нізінным мокрым краі, што здаўна называецца Палессем. Балоты, лясы, пяскі ўперамешку з астраўкамі палёў раскінуліся тут на сотні кіламетраў, з поўначы на поўдзень і з усходу на захад. Вялізны палескі край бярэ паўночную частку Украіны і амаль палову Беларусі: у ім жыве і працуе некалькі мільёнаў чалавек.

Палессе — край незвычайна цяжкі для чалавечага жыцця і надзвычай багаты фарбамі, маляўнічы. Багатыя душой тут і людзі — ім уласціва і выключная мяккасць характару, і выключная працавітасць, а пры неабходнасці — і адвага. Сярод гэтага вялізнага мора балот і лясоў цягнецца двума радамі хат вёска, у якой я нарадзіўся, кожны ўспамін аб якой прымушае сэрца маё сціскацца радасцю і смуткам. У гэтай кнізе я адважыўся ажывіць вобразы далёкага маленства і юнацтва свайго, з неадольным хваляваннем, з заміраннем сэрца прайшоў зноў па тых дарогах, сцяжынках і травах, па якіх хадзілі калісьці лёгкія і хуткія дзіцячыя ногі...

Пра Палессе некалькі разоў пісалі вялікія рускія майстры: з ім пазнаёміла свет славутая купрынская «Алеся», цудоўны караленкаўскі «Лес шуміць», тургенеўская «Паездка на Палессе». Пачынаючы пісаць сваю хроніку, я абнадзейваў сябе тым, што ў цэлым пра Палессе напісана ўсё ж вельмі мала, ды і пісана — пра другі час і пра другія месцы, больш пра Палессе ўкраінскае, што пра людзей майго Палесся амаль нічога невядома свету чытачоў: што яны, мае знаёмыя, варты таго, каб іх ведалі — ведалі і любілі. Хочацца, каб, чытаючы маю кнігу, вы адчулі, што я не мог не напісаць яе. Выпускаючы кнігу ў свет, я хацеў выканаць свой сыноўні абавязак перад бацькоўскай

зямлёй, перад роднымі людзьмі; яна не выпадкова пачынаецца прысвячэннем — «Бацьку, маці, бацькоўскай зямлі».

Мне здаецца, палеская зямля падобная да зямлі, на якой жывуць фіны, з яе нялёгкай камяністай глебай, азёрамі ды лясамі. Мне думаецца, і людзі Палесся ў многім падобныя да жыхароў еўрапейскай поўначы, працавітыя, упартыя ў векавечным паядынку з непадатнай прыродай.

Я пішу ў гэтай кнізе пра тое, якой была мая зямля гадоў трыццаць пяць — сорак назад. Цяпер на ёй многае змянілася — балоты, палі, людзі; пра гэта я хачу расказаць у кнігах, над якімі працую і буду працаваць. Але незалежна ад усяго я цешу сябе надзеяй, што кнігу вы прачытаеце з цікавасцю і не без карысці: кажучы вобразна — трасы нашых касмічных караблёў пачыналіся не сёння і не ўчора, і не толькі на сучасных касмадромах...

*1965*

# ЧАЛАВЕК ЧАЛАВЕЦТВА

Чалавек звязан з часам, у які жыве. Гэта — ісціна, што да звычайнага чалавека. Гэта асабліва важна для разумення тых людзей, якім жыццё краіны, свету становіцца асабістым жыццём.

Жыццё Рамэна Ралана — гэта жыццё чалавека, які жыў радасцямі і трывогамі свайго народа, жыццём усяго свету. Пра яго, як мала пра каго, з поўным правам можна сказаць — гэта быў у самым высокім значэнні — сын народа, «грамадзянін свету».

Які ж той час, калі рос, жыў, радаваўся і трывожыўся Рамэн Ралан? Давайце разам з памяццю, па тых сцежках, якія адзначылі нам яго равеснікі, яго паплечнікі, пераступім ужо далёкі рубеж стагоддзя, прыгледзімся да часу, у які выходзіў у жыццё будучы пісьменнік.

Адразу заўважым: малы, пяцігадовы, сын натарыуса са старажытнага гарадка Кламсі ў сэрцы Францыі, у правінцыі Бургундзіі, чуў гром кананады вакол Парыжа. Успамін пра гэты гром будзе жыць у ім усё немалое жыццё; пісьменніку давялося быць сведкам адной з самых трагічных падзей французскай гісторыі — гібелі Парыжскай камуны.

Ужо дарослы — неспакойны і пільны,— ён сярод ускаламучанага мора страсцей, што залівае вуліцы і плошчы французскай сталіцы ў дні справы Дрэйфуса. Зусім сталым і ўжо далёка вядомым аўтарам «Жана Крыстофа» Рамэн Ралан апынуўся ў новым шторме, які ўзняла першая сусветная вайна. Праз некалькі гадоў, вельмі неспакойных і напружаных, сведку гібелі Парыжскай камуны суджана было ўбачыць у моры цемры зарыва надзеі. Суджана ўбачыць перамогу той справы, якую пачынала Камуна,— у швейцарскі гарадок Вільнёў, што на беразе жэнеўскага возера, які на доўгія гады стаў родным горадам Рамэна Ралана, прыйшла вестка пра рэвалюцыю ў Расіі.




Іван Мележ, М. В. Лесючэўскі, Мікола Ткачоў
і Янка Брыль на цеплаходзе «Н. В. Гоголь».
*Чэрвень, 1968*



Іван Мележ — ганаровы піянер роднай вёскі. *1969*

Ужо немаладым, загартаваным байцом Рамэну Ралану даводзіцца заўважыць набліжэнне каламутнай, пагрознай хвалі, што насоўвалася на Еўропу. Ён бачыў, як расце і шырыцца гэтая хваля фашызму і вайны. Бязлітасны лёс даў зазнаць ужо састарэламу пісьменніку горыч расчараванняў і паражэнняў: германскія, гітлераўскія войскі прарваліся ў Францыю, захапілі Парыж. Давялося ўбачыць самае жахлівае, што толькі магло быць: Францыя капітуліравала.

Былі дні, гады адчаю. Але ўсё ж суджана было старому пісьменніку ўбачыць і тое, як фашызм пачаў адпаўзаць, саступаць, набліжацца да гібелі. У 1944 годзе, у снежні, Рамэн Ралан прыйшоў у вызваленым Парыжы ў савецкае пасольства, каб павітаць сваіх савецкіх братоў, перажыць разам з імі радасць перамогі. Гэта было ўсяго за месяц да смерці нашага друга.

Такі час, у які жыў пісьменнік. Амаль восемдзесят гадоў Рамэн Ралан быў сведкам і ўдзельнікам складаных, зломных падзей. Кіпенне, барацьба, павароты, выбухі, пагрозы — мала каму ў мінулыя часы выпадала столькі на адно жыццё. Але наколькі важчэйшы быў гэты цяжар чалавеку, якому ўласным жыццём было жыццё народа, жыццё свету?..

Самы пачатак жыцця пісьменніка нібы зусім не прадракаў таго, якой крутой, камяністай будзе далейшая дарога. Выхаванец парыжскай «Эколь Нармаль» упарта працаваў над гісторыяй музыкі, даследаваў дзейнасць музыкантаў мінулага і сучаснасці. Цікавасць да музыкі будзе ў Ралана ўсё жыццё, усё жыццё ён будзе даследаваць творчасць Бетховена; але — ёсць весткі — ужо ў тыя маладыя гады Ралан жыве не адной гісторыяй музыкі, дапытліва, напружана будучы пісьменнік думае — як жыць, як быць? Гісторыя захавала нам красамоўны факт: дваццацігадовы юнак з Нармальнай школы ў Парыжы піша два лісты вялікаму мудрацу з Яснай Паляны, з якім дзеліцца сваім роздумам над жыццём, над сэнсам чалавечай дзейнасці, просіць парады...

У трыццаць гадоў неспакойны розум зусім разрывае межы музычна-даследчай працы, узрадавана, прагна аддаецца жывым, хвалюючым творчым клопатам. Адна за адной з-пад хапатлівага, нястрымнага пяра пісьменніка выходзяць драмы, якія аб'ядноўваюцца ў цыкл «Трагедыя веры». Яшчэ не закончыў-

шы гэтага, ён стварае новы цыкл драм — «Драмы рэвалюцыі». Усіх, хто чытае жыццё Рамэна Ралана — уражвае надзвычайная творчая энергія, з якой заявіў пра сябе малады французскі пісьменнік. Ужо ў гэтых драмах, пры ўсіх асаблівасцях іх канцэпцый, адчуваецца асноўная накіраванасць творчай зацікаўленасці пісьменніка: малады Рамэн Ралан усё больш заяўляе пра сябе як пясняр гераізму чалавека. Гераізм у яго разуменні, праўда, яшчэ звычайна носіць абстракты, «духоўны» характар, гэты гераізм духу расплываецца ў такім жа невыразным буржуазна-інтэлігенцкім гуманізме; але пры ўсім тым гераічная тэма ўсё мацней становіцца галоўнай тэмай яго творчасці. Гэты кірунак замацоўвае лепшая з яго ранніх драм «Чатырнаццатае ліпеня», дзе героем твора Рамэн Ралан робіць народ, што штурмуе Бастылію. У гэтым тоне акрэсліваецца і велічны вобраз героя эпохі — Жана Крыстофа, які ўсё больш захапляе творчае ўяўленне пісьменніка. Захапленне гераічным, веліччу духу і дзейнасцю чалавека выклікала і з'яўленне — паралельна з кнігамі «Жана Крыстофа» — цыкла біяграфій «Гераічнае жыццё» — «Жыццё Бетховена», «Мікеланджэла», «Жыццё Талстога». Асноўную энергію ў гэты — даваенны — перыяд Рамэн Ралан аддае самаму значнаму твору — эпапеі «Жан Крыстоф», якая як бы канцэнтравала ў сабе самыя дарагія, самыя важныя думкі пра жыццё, пра час, пра прызначэнне чалавека і мастацтва ў грамадстве. «Жан Крыстоф» — найбольшае дасягненне Рамэна Ралана і самая магутная песня чалавечаму гераізму, яго творчым сілам.

У асноўнай плыні трэба бачыць і з'яўленне вельмі арыгінальнай, нібы нават неспадзяванай сваёй народнай, грубаватай сакавітасцю аповесці «Кала́ Бруньён»; вясёласць, жывасць, разважнасць галоўнага вобраза аповесці — як бы своеасаблівае выяўленне народнага гераізму.

У жыцці кожнага чалавека бываюць хвіліны, калі яму належыць прымаць важныя рашэнні. Адным з такіх, асабліва сур'ёзных выпрабаванняў, былі для Рамэна Ралана гады першай імперыялістычнай вайны. Каб зразумець усю складанасць становішча Рамэна Ралана і ўсё значэнне рашэння, якое ён выбраў, трэба ўявіць усю тую ваяўнічую слепату, увесь той шавіністычны чад, якім былі напоўнены і галовы тых,

хто кіраваў палітыкай тагачаснай Францыі, і галовы многіх і многіх людзей думкі. Можа быць, ніколі ні адзін учынак дагэтуль не патрабаваў ад Рамэна Ралана такой яснасці думкі і цвёрдасці духу, такой адвагі, як выступленні яго супраць імперыялістычнай вайны. Ні адно яго выступленне раней не выклікала такой злоснай, раз'юшанай лаянкі; дзесяткі артыкулаў і брашур аблівалі яго граззю як антыпатрыёта, здрадніка Францыі. Ад Рамэна Ралана адвярнуліся многія нават з тых, каго ён мог лічыць сябрамі.

Усё ж ён не быў зусім адзінокі. У той час, як здраджвалі адны, другія цягнуліся да яго з дружбай і верай. Можна сказаць, ніколі дасюль не ўздымаўся Ралан так высока перад вачамі лепшых людзей свету, перад вачамі мільёнаў людзей, што гінулі на палях сусветнай бойні, людзей, што прагнулі міру і жыцця сваім блізкім, сабе.

Рамэн Ралан не да канца разумеў і прычыны вайны, і тыя шляхі, якія маглі б прывесці чалавецтва да лепшага ладу жыцця. Яго разуменне прычын вайны было ў многім ідэалістычнае: галоўную віну за ваенныя канфлікты ён бачыў у нягодных ідэалах, якімі палітыкі поўняць галовы людзей, супрацьстаўляючы народы народам. Уся надзея Рамэна Ралана была звернута толькі да інтэлігенцыі, якая, на яго думку, павінна раскрываць людзям сэнс вайны. Пройдзе час, і Рамэн Ралан зразумее глыбей і зманлівасць сваіх вывадаў, і недастатковасць той сілы, на якую ён спадзяваўся; прыйдзе час, і Рамэн Ралан інакш гляне на значэнне ў барацьбе з вайной тых, хто гібее і гіне ў акопах; але тут хочацца асабліва адзначыць тое, што ў цяжкія дні, калі патрэбна было багата мужнасці, калі на праверку ставілася сумленне, Рамэн Ралан вытрымаў выпрабаванне з гонарам: у яго хапіла мужнасці, і ён не пакрывіў сумленнем — словам сваім, жыццём сваім ён паказаў гатоўнасць служыць людзям да канца.

К. А. Федзін вельмі справядліва сказаў пра Рамэна Ралана: «Яго постаць узвышаецца над пярэднімі радамі мыслячага чалавецтва, і яна асабліва вырастала ў ракавыя часы крызісаў. Яго голас быў не заўсёды моцным, але заўсёды чыстым, і гэта чысціня прарывалася праз грукат вайны, або пусты тлум бульвараў, або дурманлівую балбатню палітыканаў».

Жыццё, калі яно пражыта, калі яго чытаеш як гатовую кнігу, асабліва калі гэта кніга напісана іншым чалавекам, здаецца рэччу надзіва простай. Але не будзем забываць: час, у які жыў Рамэн Ралан, быў вельмі складаны, дарогі, на якія ён ступаў, былі блытаныя, нявідныя далёка. Яму ўсё жыццё даводзілася шукаць. Яму нярэдка даводзілася ісці наперакор многім іншым, у тым ліку сябрам. Ён нямала памыляўся, ашукваўся ў каштоўнасці таго, што знаходзіў. Але які б ні быў звілісты шлях яго, гэта шлях пошукаў чалавека, што любіў людзей і дбаў аб іх, шлях чалавечага сумлення ў пошуках справядлівасці. Ён быў пільны да ўсяго, што адбывалася ў свеце. Сумленне яго ўвесь час патрабавальна назірала, адзначала, ацэньвала. Не ўсё было адразу зразумела яму. Ён вагаўся нярэдка. Мы ведаем, што Рамэн Ралан быў другам нашай краіны, што ён адразу вітаў рэвалюцыю ў Расіі, але было б спрашчэннем думаць, што дружба гэта была адразу яснай і глыбокай. У імя праўды трэба сказаць, што Рамэн Ралан доўга, з насцярожанасцю прыглядаўся да нашай дзяржаўнай арганізацыі. Заходні інтэлігент, звыклы больш за ўсё берагчы свабоду асобы, ён з апаскай ставіўся да ўсяго, што, на яго думку, магло абмежаваць гэту свабоду асобы. Разумеючы разам з тым неабходнасць рэвалюцыйнай пераробкі жыцця, спрабуючы стварыць адзінае разуменне свету, ён доўгі час імкнуўся злучыць у адно рэвалюцыйную ленінскую філасофію з філасофіяй Гандзі, з талстоўскім «непраціўленствам».

Каля дзесятка гадоў жыў Рамэн Ралан, адчуваючы трывожную несуладнасць у думках, у поглядах, трывожную насцярожанасць пры назіранні над тым, што робіцца ў Еўропе, у свеце. Гэта было доўгае і цяжкае дзесяцігоддзе пошукаў, якое прывяло, нарэшце, к творчаму ўздыму 30-х гадоў. 30-я гады — час самай актыўнай грамадскай дзейнасці Рамэна Ралана. Ёсць падставы лічыць, што к гэтаму часу завяршыўся доўгі і пакутлівы шлях перараджэння сумленнага буржуазнага інтэлігента ў інтэрнацыяналіста, байца самай рэвалюцыйнай сілы ў Еўропе. Як асобую заслугу Рамэна Ралана мы заўсёды будзем помніць тое, што пільны французскі пісьменнік адным з першых пачуў пагрозу, якую нясе Еўропе і свету расізм, фашызм. Вялікі гуманіст не прызнаваў расізму, шавінізму, якім адзеннем, якімі б фальшывымі, прыгожымі словамі яны ні прыкры-

валіся. Ён адвяргаў як самае дзікае сучаснае варварства і стаpанні модных буржуазных тэарэтыкаў паставіць, быццам адзіную надзею, месію, еўрапейскі кантынент над іншымі, і такія ж дзікія іх замашкі паставіць адну нацыю вышэй за іншую якую-небудзь нацыю. З цвёрдасцю заявіў ён, што не прызнае ні народа-выбранніка, ні касты-выбранніцы. Гэта была заява, якая біла прама па расавых тэорыях, па фашызму.

Але Рамэн Ралан ваяваў з фашызмам не толькі словам. Яшчэ ў 1926 годзе з Анры Барбюсам Рамэн Ралан арганізаваў «Міжнародны камітэт барацьбы з фашызмам», які быў адным з першых арганізаваных выступленняў у Францыі і ў свеце супраць італьянскага фашызму. Летам 1932 года, калі над палямі Еўропы ўстала, не туляючыся, звярыная, ваяўніча ашчэраная постаць нямецкага фашызму, Ралан з Барбюсам арганізаваў Міжнародны кангрэс супраць пагрозы вайны. Чым больш расла пагроза ў Еўропе, тым больш раслі мужнасць і адвага ў гэтым кволым з выгляду, хваравітым целам, сутулаватым чалавеку з яснымі блакітнымі вачамі.

Гэта былі выдатныя дні ў жыцці Рамэна Ралана, выдатныя дні ў жыцці народа Францыі. Гэта былі дні народнага фронту. Кіпенне, сіла народнага мора акрылялі і падымалі пісьменніка.

Ёсць вялікае хараство не толькі ў мужнасці пісьменніка, але і ў яго надзвычайнай сумленнасці, або — гаворачы сучаснай мовай — прынцыповасці пісьменніка. Яго не страшылі пагрозы, але яго не збівалі і ліслівыя подкупы. Калі правіцелі гітлераўскай Германіі паспрабавалі задобрыць небяспечнага француза ўзнагародай — медаллю Гётэ,— Ралан з гневам адмовіўся ад узнагароды, на ўвесь свет аб'явіўшы пры гэтым гітлераўскую палітыку злачынствам...

У гэтыя трывожныя дні Рамэн Ралан з асаблівай увагай глядзіць на нашу краіну. Даўняя сімпатыя да Савецкай краіны цяпер зліваецца ў Ралана з надзеяй, што Савецкі Саюз вялікі і моцны саюзнік тых, хто змагаецца з пагрозай фашызму. Ралан пісаў: «Я разам з тым народам і класам, які пракладвае рэчышча плыні чалавечай гісторыі, разам з арганізаванымі масамі пралетарыяту, разам з Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік...» У 1935 годзе Рамэн Ралан, які даўно ўжо не робіць падарожжаў, не зважаючы на свае хваробы,

пакідае ціхі Вільнёў і ажыццяўляе дарагое жаданне — едзе ў нашу краіну. Людзі старэйшага ўзросту добра помняць, з якой любоўю сустрэлі вялікага друга свайго нашы людзі, у тым ліку мінчане, некаторыя з якіх — пісьменнікі — сустракалі Ралана ў Негарэлым, гутарылі з ім на мінскім вакзале, па-сяброўску праводзілі ў Маскву.

Сустрэча гэта не расчаравала ні нашых людзей у Ралане, ні Ралана ў нашых людзях, у нашай краіне. Вярнуўшыся з Масквы, ён з захапленнем пісаў пра Савецкую краіну як пра вялікую армію, «з перамогай якой звязаны лепшыя надзеі свету».

Калі акідваеш позіркам усё, што зрабіў за сваё неспакойнае, не надта спрыяльнае для творчай працы жыццё Рамэн Ралан, мімаволі бярэ здзіўленне і захапленне: як багата падарылі людзям яго талент, яго сэрца, яго рукі. Рамэн Ралан — вялікі працаўнік. Нават у французскай літаратуры, якая ведала Бальзака, Заля, Гюго, постаць Рамэна Ралана ўражвае творчай магутнасцю.

Цыкл драм, цыкл мастацкіх біяграфій «Гераічнае жыццё», дзесяцітомны, сабраўшы фарбы некалькіх дзесяцігоддзяў нямецкага, французскага жыцця «Жан Крыстоф» — адзін з буйнейшых твораў сусветнай літаратуры XX стагоддзя, многія кнігі публіцыстыкі, творы па эстэтыцы, даследаванні па музыцы, даследчая эпапея пра Бетховена і, нарэшце, «Зачараваная душа» — якая, як вяршыня, узнялася побач з «Жан Крыстофам» і якая сведчыла пра неаслабную сілу таленту і духу, пра творчую маладосць вялікага чалавека на сёмым дзесятку гадоў жыцця.

Музыказнаўца-вучоны, творца-пісьменнік, публіцыст-баец. Неяк не хочацца верыць у тое, што ўсё гэта зрабіў кволы чалавек, якому ўсё жыццё даводзілася дужацца з бясконцымі хваробамі. Але гэта разам з тым выклікае і іншую думку, думку гонару і захаплення: якую трэба было мець моц духу, якое вялікае трэба было мець сэрца, якой вялікай любоўю да людзей трэба было жыць, каб столькі даць ім, каб так узбагаціць іх... Мімаволі хочацца паставіць яго ў адзін рад з тымі, каго ён уславіў. Думаецца, ён мае поўнае права, каб і яго жыццё было названа — «Гераічнае жыццё»...

Рамэн Ралан адзін з тых, у кім адбіліся свет і лёс многіх за многія гады. У жыцці Рамэна Ралана адбіла-

ся цэлая эпоха вельмі важнага, складанага жыцця, эпоха, вяршыня якой дакранаецца да нашых, сённяшніх дзён. І калі мы сёння адзначаем стагоддзе з дня нараджэння пісьменніка, калі пачатак жыцця яго зусім натуральна мы адчуваем як няблізкую і па часу, і па клопатах гісторыю, то пазнейшыя гады яго жыцця зліваюцца з гадамі нашага ці нашых, трохі старэйшых сяброў юнацтва або сталасці, хвалююць як клопаты і трывогі блізкія, гарачыя, як трывогі нашага — зусім жывога — сучасніка. Гэта акалічнасць кожнай нашай сустрэчы — ці на кніжных старонках, ці ў гэтай урачыстай зале — надае асаблівае значэнне: мы сустракаемся не толькі з гісторыяй, мы сустракаемся разам і з явай, яшчэ вельмі блізкай, вельмі жывой для таго, каб быць толькі гісторыяй. Ушаноўваючы гэту дату, мы быццам ушаноўваем наша нядаўняе, сённяшняе, ушаноўваем з самым чулым, самым сардэчным, самым трапяткім хваляваннем.

Чалавек і час. Мы казалі пра тое, што чалавек залежыць ад часу. У гэтым толькі частка праўды. Разам з тым бясспрэчна і тое, што час таксама залежыць ад чалавека. Асабліва ад вялікага чалавека. У тым добрым, што прыйшло ў жыццё часу, у эпоху ад чалавека, ад народаў, ёсць немалая заслуга Рамэна Ралана. Ралана-пісьменніка, Ралана-гуманіста, Ралана-рэвалюцыянера-барацьбіта.

За ўсё гэта чалавецтва доўга будзе помніць і шанаваць вялікага, высакароднага сына Францыі. За ўсё гэта разам з чалавецтвам аддаём даніну пашаны мы, савецкія людзі.

*1966*

# СПАДЗЯВАННІ І НАДЗЕІ

Мы — напярэдадні 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, 50-годдзя народжанага ёю новага, сацыялістычнага, мастацтва. Абвешчана аб скліканні IV з'езда савецкіх пісьменнікаў, які падвядзе вынікі паўвекавога шляху нашай літаратуры.

Часопіс «Вопросы литературы» вырашыў звярнуцца да шэрагу савецкіх пісьменнікаў з просьбай падзяліцца думкамі пра характар і кірунак будучага з'езда, пра тыя задачы, якія сёння стаяць перад нашай літаратурай. Мы спадзяёмся, што такога роду матэрыял, які шырока прадстаўляе розныя пункты погляду, і пакладзе пэўны адбітак на ход падрыхтоўкі з'езда, і зможа дапамагчы ў яго рабоце.

Просім Вас адказаць на анкету, пытанні якой тут прыводзяцца:

Больш за 30 год аддзяляюць нас ад I з'езда савецкіх пісьменнікаў, які быў вялікай падзеяй у духоўным жыцці савецкага народа. Маштаб задач, што стаяць сёння і перад савецкім грамадствам, і перад савецкай літаратурай, яшчэ больш значны, чым у тую пару. Чаго Вы чакаеце ад IV з'езда пісьменнікаў? Якім хочаце яго бачыць? Якія творчыя пытанні, на Ваш погляд, павінны стаяць у цэнтры ўвагі з'езда?

Якое месца займае і якія задачы выконвае літаратура сёння, у эпоху грандыёзных сацыяльных змен, бурнага развіцця атамнай энергіі і электронікі, кіно і тэлебачання? У якой меры савецкая літаратура адлюстроўвае працэсы сучаснай рэчаіснасці і ў якой меры аказвае на іх уплыў?

За 50 год існавання савецкая літаратура ўжо стварыла свае традыцыі. Якія з іх найбольш блізкія Вашым імкненням, Вашаму творчаму вопыту? З якімі

праблемамі жыцця і літаратуры Вы сутыкаецеся ў сённяшняй Вашай творчай рабоце?

Чакаю перш за ўсё вялікай і разумнай размовы пра літаратуру. Хочацца, каб на з'ездзе было менш парадных рапартаў, малакарыснай статыстыкі, больш — роздуму, глыбокага, павучальнага аналізу твораў, становішча спраў у літаратуры.

Хочацца, каб наша літаратура была відаць як з'ява шырокая, шматмоўная, шматаблічная. Пакуль што гэта не часта ўдаецца. За дзесяткам прывычных імён нярэдка забываецца работа многіх цікавых пісьменнікаў, якія працуюць у саюзных рэспубліках, па ўсёй краіне нашай. Часам па-за ўвагай застаюцца цэлыя літаратуры.

Засмучае тое, што дагэтуль — амаль за пяць дзесяцігоддзяў — мы не маем капітальнай, адзінай працы, якая глыбока раскрывала б складаную і багатую гісторыю савецкай літаратуры, гісторыю развіцця шматлікіх яе атрадаў, ва ўсіх агульных і прыватных сувязях і ўзаемасувязях, ва ўсёй паўнаце жывога працэсу. Я, канечне, ведаю, што стварэнне такой гісторыі — справа вялікай складанасці, ведаю, што работа гэта ўжо вядзецца, і спадзяюся, што праца атрымаецца добрая, але мяне не пакідае адчуванне, што такая кніга ў нас павінна была быць створана раней. І думаецца мне, што з'езд, якога мы чакаем, зможа дапамагчы рашэнню гэтай вялікай задачы — выступленнямі дэлегатаў, якія прадстаўляюць многія нашы літаратуры,— падвядзе вынікі велізарнай, паўвекавой гісторыі савецкай літаратуры. Думаецца, што гэтае шырокае абмеркаванне праблем літаратуры дапаможа і аўтарам гісторыі, якую мы чакаем з цікавасцю і надзеяй.

Мне вельмі хацелася б, каб на з'ездзе была разгорнута грунтоўная і патрабавальная размова аб перакладах. Нямала яшчэ перакладаў робіцца паспешліва, прыхваткам, без добрага густу да слова, без пошукаў, найцяжэйшых пошукаў адзінага слова. Не пра кожны, далёка не пра кожны пераклад можна пакуль што сказаць, што гэта пераклад *мастацкі*, творчы. Але ж перакласці кнігу без густу, без гарэння, не па-мастацку, гэта значыць, па сутнасці, загубіць яе як мастацкі твор. Мне здаецца, наша крытыка пакуль што

мала, на жаль, займаецца важнай і нялёгкай гэтай працай, мала сочым мы за тым, каб і кожны пераклад быў з'явай мастацтва. Тут ёсць пра што пагаварыць, ёсць пра што, можа, і паспрачацца. У прыватнасці, мне здаецца, што зусім не апраўдвае сябе сістэма так званай аўтарызацыі перакладаў. Паглядзіце, колькі аўтарызавана дрэнных перакладаў!.. І ці дзіўна гэта! Аўтар нярэдка не вельмі добра ведае мову перакладу, аўтару не хапае часу зрабіць пераклад нанава, аўтару хочацца хутчэй убачыць сваю кнігу выдадзенай. І вось яна выходзіць, пазбаўленая фарбаў, пакалечаная, з супакойваючым грыфам — «аўтарызаваны», які замацоўвае пераклад у якасці работы ўзорнай, нязменнай.

Аўтарызацыя ў тым выглядзе, у якім яна цяпер існуе, не гарантуе ад дрэнных перакладаў, але, па сутнасці, стварае безадказнасць: хто ж адказвае за якасць перакладаў? Пры цяперашняй форме аўтарызацыі за якасць перакладу, як быццам, больш адказны аўтар: ён жа адобрыў, аўтарызаваў! Перакладчык як быццам асоба другарадная. Што ж рабіць? Мне здаецца, што аўтарызацыя павінна стаць унутранай справай работы выдавецтваў. Аўтар няхай глядзіць і правіць, але адказнасць за пераклад няхай нясе аўтар перакладу. І імя перакладчыка павінна аднаасобна ўпрыгожваць тытул кнігі ў той яго частцы, дзе пазначана, хто працаваў, каб данесці ў перакладзе першародную красу арыгінала. Акрамя ўсяго іншага, гэта было б карысна і ў тых адносінах, што дрэнна перакладзеную добрую кнігу без перашкод можна было б перакласці нанава. А галоўнае, за справу аднаасобна адказваў бы той, каму трэба адказваць. Адказваў бы і, думаецца, працаваў бы з большай адказнасцю.

Усё, што я прапаную ў галіне перакладаў, можа быць, спрэчнае, але справа сама — вельмі важная. Пра гэта трэба і думаць, і гаварыць, і хочацца спадзявацца, што IV з'езд не абыдзе гэтага сваёй увагай.

Шмат пішам мы і гаворым пра карысць і нават пра неабходнасць узаемнага азнаямлення, але ведаем часта адны пра другіх да крыўднага мала. Рэдка, недаравальна рэдка сустракаемся мы — за выключэннем, можа, членаў Праўлення Саюза пісьменнікаў, якія час ад часу з'язджаюцца на пленумы, ды членаў розных камітэтаў і камісій. Сустракаемся яшчэ ў Дамах творчасці, якія не заўсёды — асабліва ў летні час — садзей-

нічаюць творчаму збліжэнню. Штогод з'язджаюцца ў Ялту драматургі, часцей за ўсё, здаецца, аўтары аднаактовых п'ес,— але вось аўтары раманаў, напрыклад, чамусьці ні разу не ўдастоіліся такой зайздроснай увагі. Сустракаюцца вучоныя розных спецыяльнасцей, сустракаюцца інжынеры, урачы, а пісьменнікам — аўтарам вялікіх або малых форм — як быццам і няма пра што падумаць разам. Патрэбны, вельмі патрэбны такія сустрэчы — акрамя радасці жывога знаёмства патрэбны і як своеасаблівая школа па «абмену вопытам»! Трэба, вельмі трэба час ад часу збірацца, каб мацнейшае было пачуццё локця, каб вучыцца ў жывых спрэчках, у сяброўскіх дыскусіях.

Таму нельга не радавацца, што недалёка ўжо з'езд. Шкада толькі, што збіраецца ён з парушэннем статута, са спазненнем на два гады,— і шкада, што вельмі многіх не будзе на ім. Асабліва, відаць, тых, хто маладзейшы. Ці не занадта вялікая норма прадстаўніцтва?

Па вопыту ведаю, што чым больш складанае, багатае жыццё, тым больш ускладняецца і наша справа. Аднак — пытанне гэта вельмі вялікае, і я хачу выказаць толькі некаторыя меркаванні, якія маюць, як мне здаецца, адносіны да яго.

Кіно і тэлебачанне, заўважана даўно, нямала пацяснілі зону ўплыву літаратуры. Многія чытачы нашы лічаць за лепшае гадзінамі сядзець ці ў залах кіно, ці перад экранамі тэлевізараў. Але для мяне бясспрэчна і тое, што ні кіно, ні тэлебачанне не ў стане *замяніць* літаратуру. Ёсць у «старой» літаратуры якасці, якімі не надзелены самыя сучасныя, узброеныя саманавейшай і найдасканалейшай тэхнікай атрады мастацтва. Мне здаецца, напрыклад, што ні адзін від мастацтва не выклікае такой вялікай унутранай *творчай* работы ў чытача-гледача, як літаратура. Чытач воляю мастакааўтара ўцягваецца ў складаны *творчы* працэс, у якім яму, чытачу, прыходзіцца таксама працаваць, *тварыць* — па-свойму ўяўляць, бачыць, дамалёўваць, дадумваць. Кожны з нас бачыць Анну Карэніну і Аксінню Астахаву не толькі «па Талстому», «па Шолахаву», але і сваім, асаблівым, асабістым бачаннем. Літаратура, наогул, дае многа магчымасцей для гэтага асабістага, самастойнага творчага бачання і мыслен-

ня. Кіно і «блакітны экран» у гэтых адносінах, па-мойму, саступаюць літаратуры.

Можна было б сказаць і пра некаторыя іншыя перавагі літаратуры, але гэта — асобная размова. Скажу толькі: я ўпэўнены ў тым, што ў літаратуры па-ранейшаму вялікая і пачэсная будучыня.

Стала ўжо прывычным чуць, што літаратура адстае ад жыцця. Наўрад ці варта спрачацца, што яна павінна дапамагаць чытачу асэнсоўваць сучаснае жыццё. Што яна павінна быць — у большай сваёй частцы — сучаснай не толькі па ідэях, але і па матэрыялу. Але мне здаецца, што гаворачы пра ўсё гэта, усё ж варта лічыцца з тым, што літаратура — паколькі яна літаратура, мастацтва, якое жывіцца жыццём,— часцей за ўсё не можа угнацца за імклівым, зменлівым патокам жыцця. Жыццё багатае падзеямі стракатымі, часта супярэчлівымі, нярэдка як быццам хаатычнымі. Пісьменніку трэба прыгледзецца да жыцця, разабрацца ў яго плынях, паваротах, завіхрэннях — трэба асэнсаваць яго. Нарэшце, патрабуецца — часта нямала! — часу на тое, каб напісаць, стварыць дасканалы мастацкі твор. Усё гэта амаль непазбежна прыводзіць да таго, можа, сумнага становішча, што літаратура нярэдка — ва ўсякім выпадку некаторыя яе жанры — не паспявае за рухам жыцця. Адставанне гэтае для многіх жанраў — хвароба хранічная; хутчэй за ўсё — і не хвароба, а праяўленне некаторых непазбежных заканамернасцей пісьменніцкай працы.

Калі нарыс, апавяданне, верш, публіцыстычнае выступленне могуць працаваць аператыўна, дык як можна патрабаваць такой аператыўнасці ад рамана, якому пісьменнік павінен аддаваць не дні, не месяцы, а гады. Глыбокую праўду бачу ў словах К. А. Федзіна, які сказаў, што «ў раманах мы, на жаль, вельмі спяшаемся. А гэта жанр маларухомы... Раман патрабуе вялікіх назапленняў і глыбокага фундаменту» («Литературная газета, 29.II.62 г.). Ды і як разумець адставанне ад жыцця, калі аўтар «Вайны і міру», які адстаў ад падзей на 50 гадоў, амаль праз сто гадоў — у Вялікую Айчынную — стаў адным з самых актуальных аўтараў. А наколькі адстаў ад жыцця шолахаўскі «Ціхі Дон», які толькі што так цікава, па-сучаснаму прачытаў крытык Ф. Бірукоў («Яшчэ раз пра Мелехава» ў «Новом мире»). Я бяру прыклады выключныя, бяру —

проста к слову; успомніў я іх таму, што і цяпер не-не ды і пачуеш, што сучаснасць — гэта тое, што — сёння, што бачыш у гэтую хвіліну. Што ўчора нешта адбылося, а рамана да гэтага часу няма! Думаецца, папрокі гэтыя ідуць ад разумення літаратуры як паспешлівай ілюстрацыі.

Мне здаецца, што ў апошнія гады стала глыбейшым разуменне задач і асаблівасцей літаратуры, глыбейшым і шырэйшым погляд на жыццё, усё гэта дае права чакаць новых праўдзівых, глыбокіх кніг.

Мне дарагія традыцыі літаратуры сур'ёзных думак, літаратуры, якая піша праўду. Літаратуры, прасякнутай увагай да чалавека працы, клопатам пра яго часта нялёгкі, але значны лёс. Гэтым дарагія мне і традыцыі М. Шолахава і А. Фадзеева, традыцыіі К. Чорнага і Я. Коласа — традыцыі многіх савецкіх пісьменнікаў, «добрых і розных».

Я закончыў раман «Подых навальніцы», ён звязаны з папярэдняй маёй кнігай «Людзі на балоце» і развівае лёсы яе герояў. Гэта раман пра людзей на пачатку крутога, цяжкага павароту, сацыяльнае і псіхалагічнае даследаванне адной з важных вех гісторыі беларускага народа. Мяне вельмі хвалююць праблемы, звязаныя з сённяшнім, больш глыбокім асэнсаваннем гісторыі, у прыватнасці гісторыі людзей майго роднага Палесся. Мы цяпер глыбей бачым і, мне здаецца, можам і павінны праўдзіва, разумна расказаць пра нядаўняе. Пра нялёгкі і вялікі шлях чалавека да нашага сённяшняга дня.

*1966*

# І СЁННЯ, І ЗАЎТРА, І ЗАЎСЁДЫ!

Таварышы, нас аддзяляе ад папярэдняга з'езда так багата гадоў, такіх важных, багатых падзеямі і творамі гадоў, што вельмі цяжка нават у думках ахапіць усё гэтае багацце. Колькі зроблена за гэтыя гады, якую сур'ёзную гаворку можна рабіць па творах, па літаратуры, што вырасла за гэтыя гады!

Час ад XX з'езда партыі стаў часам значнага, раданага ўздыму нашай літаратуры. Многа добрага, каштоўнага набыла наша літаратура за гэтыя гады. Думаю, асабліва трэба вылучыць тое, што набытак гэты быў не толькі колькасны, але, што надзвычай важна, быў і *якасны*. Мы можам гаварыць пра новы *якасны* ўзровень нашай літаратуры — не пра адзін, два, дзесятак твораў, а пра ўзровень *літаратуры ў цэлым*.

Я хачу ўдакладніць: гаворачы пра якасны рост нашай літаратуры, я маю на ўвазе не толькі рост тэхнікі пісьма, майстэрства ў вузкім разуменні, а рост майстэрства літаратуры — *як чалавеказнаўства*, як галіны мастацтва, якая даследвае чалавека, жыццё, час. Мне здаецца, што літаратура наша стала шырэй бачыць, глыбей пранікаць у душу чалавека, у жыццё, што яна стала лепш разумець сутнасць канфліктаў у чалавеку, у жыцці. Можна сказаць, што наша літаратура ў значнай ступені пераадолела тую спрошчанасць, той, думаю, гэта вартае слова — бесклапотны інфантылізм у паказе чалавека і жыцця, які быў уласцівы не аднаму нашаму твору ў мінулым. Менш у нашых творах стала надуманых канфліктаў і надуманых вобразаў, якія не так даўно «задавалі тон». Гэта вельмі добрыя з'явы, якія гавораць пра тое, што літаратура наша сапраўды сталее, што яна развіваецца як моцны, здаровы арганізм.

Гэты якасны рост настолькі шырокі і значны, што мы можам сказаць: змяніліся самі крытэрыі ацэнак лі-

таратурных з'яў; прычым новыя ацэнкі сталі настолькі арганічнымі, што мы самі звычайна цяпер не заўважаем, што гэта ўжо якасна іншыя ацэнкі, што мы далёка адышлі ад таго ўзроўню, які быў гадоў дваццаць — пятнаццаць — а можа, і дзесятак — назад. Толькі чытаючы артыкулы, накшталт таго, які напісан Карпавым і апублікаваны ў «Полымі», мы заўважаем, як многа і на добрае змянілася ў нашай літаратуры з часу XX з'езда партыі.

Прыгадваючы дасягненні нашай літаратуры, я сярод іншых хацеў бы асабліва вылучыць тое, што яна стала больш зямной, больш праўдзівай. Гэта вельмі важнае дасягненне; нават Хемінгуэй, такі выдатны майстар, казаў неяк: «Што сапраўды цяжка, дык гэта стварыць нешта праўдзівае».

Тут мімаволі задумваешся: чаму ж праўда лічыцца такой складанай задачай; праўда ж, здавалася б, павінна быць самай простай з'явай. Бяры жыццё і пішы, як яно ёсць...

Праўда — складаная рэч таму, што складаная рэч,— гэта відна ўсякаму хоць трохі ўважліваму чалавеку,— жыццё. Вельмі складаная і вельмі супярэчлівая рэч — жыццё! Было заўсёды складаным, застаецца цяпер складаным і будзе, мусіць, ва ўсе вякі складаным. Як гэта ні клопатна! Мы, немаладыя ўжо людзі, як нешта толькі сонечнае, бязвоблачна-блакітнае ўяўлялі гадоў трыццаць назад сённяшні час, мы марылі пра яго і не думалі, што ён прынясе нам воз сваіх праблем, і якіх праблем! Праблем міжнародных, якія вісяць над жыццём кожнага з нас, праблем унутраных, ад якіх залежыць наш дабрабыт, наш поступ наперад!

Праўда — складаная рэч таму, што жыццё развіваецца ў супярэчнасцях, таму, што чалавек — гэта трэба прызнаць — істота няпростая, супярэчлівая; таму, што і жыццё, і час няспынна ў руху, і пісьменнік не можа стрымаць іх заклінаннем Фаўста: «Остановись мгновенье!» — я хачу разабрацца ў табе, увекавечыць цябе!

Пісьменнікі ва ўсе часы адчувалі, акрамя ўсяго, як цяжка ў праўдзе з'яў, фактаў ачысціць істотнае, важнае ад неістотнага, выпадковага, як цяжка няпэўную, мнагатварую праўду з'яў, фактаў зрабіць вялікай, адзінай праўдай мастацтва.

Трэба сказаць і пра яшчэ адну асаблівасць праўды,

з якой прыходзіцца сутыкацца кожнаму з нас і якая вельмі ўскладняе нашу задачу: праўда бывае прыемная і — на жаль — непрыемная.

Прыемную частку праўды, скажам адразу, гаварыць прыемна і лёгка. Крытыка ж, што б там ні казалі, рэч заўсёды непрыемная. Крытыку нельга любіць, крытыку можна прызнаваць, мужна цярпець, лічыцца з ёй. Хвала заўсёды лягчэй жыла. Але бяда ў тым, што жыццё звычайна ідзе нягладка; асабліва там, дзе новая, нязведаная дарога, там, дзе крутыя павароты; там, дзе вялікую, складаную справу трэба рабіць людзям, якія не заўсёды ўздымаюцца на вышыню добрага разумення гэтай справы...

У вялікай і складанай гісторыі нашага народа былі, як назвала нядаўна «Правда» — «горестные моменты». Гэтыя моманты вядомы ўсім, пра іх мужна, на поўны голас казаў XX з'езд партыі.

Не абыходзіцца без сваіх цяжкасцей і цяперашняе жыццё. Не ўсе цяжкасці ззаду, не ўсе канфлікты прыціхлі. Як быць з той часткай праўды, якая непрыемна хвалюе людзей, якая выклікае цяжкі, складаны роздум? Тут мы непазбежна падступаем яшчэ да адной праблемы, якая звязана з праўдай, праблемы вельмі важнай і адказнай — праблемы выхавання літаратурай, асабліва моладзі. Якая і ў якой меры праўда карысна для выхавання нашых чытачоў, што ўступілі або заўтра ўступяць у жыццё? Ёсць людзі, якія лічаць ці маўкліва, ці ўголас выказваючы гэта, што не ўсё карысна паказваць; нават пры тым, што з'явы, пра якія піша пісьменнік, былі ў жыцці, што з'явы гэтыя не дробныя, важныя, што ім будзе дадзена правільная партыйная ацэнка.

Быў час, калі ў такім разе пісьменніку казалі: «У жыцці так не бывае», цяпер нават былыя лакіроўшчыкі не адмаўляюць, што ў жыцці было і бывае разам са светлым і змрочнае; але і цяпер ёсць нямала людзей, якія лічаць, што ёсць тэмы і вобразы, якія літаратура павінна абыходзіць ці згладжваць з мэтай добрага, здаровага выхавання людзей...

У нашым друку былі выступленні супраць ачарнення жыцця, супраць перавелічэння памылак нашых і няўдач. З гэтым нельга не згадзіцца: з усім, што прыніжае веліч заваяванага намі, нельга не змагацца рашуча і цвёрда. Зусім справядлівымі трэба прызнаць

і заўвагі ў адрас тых пісьменнікаў, якія падмяняюць вельмі выразную і дакладную класавую праўду, нашу праўду, нашу справядлівасць — абстрактнай, бясколернай агульначалавечай праўдай і справядлівасцю.

Тут усё ясна, і тут няма і не можа быць дзвюх розных думак. Я хачу крануць іншае, дзе яшчэ ідуць спрэчкі. Я хачу сказаць, што калі праўду мастацтва губіць ачарненне то, як праверана ўжо немалым вопытам, у такой жа ступені, па тых жа законах губіць яго і неправамернае ўжыванне такіх фарбаў, як белая і ружовая.

Даўно вядома, што гісторыю нельга ні паляпшаць, ні пагаршаць; ні пагаршаць, ні паляпшаць, ні ачарняць, ні абельваць нельга і сучаснасць. Нельга іх таксама — тут няма ніякай розніцы — і падмалёўваць у ружовае; ружовым падмалёўваюць сітро і морс — але гэта таннае пітво! Мастацтва — гэта, па-мойму, неадменны закон — можа жыць і павінна жыць толькі сапраўднымі колерамі жыцця — усімі колерамі вясёлкі! Усе колеры павінны быць на палітры мастака: у тым ліку і белы, і чорны,— там, дзе яны трэба, дзе яны адпавядаюць колерам жыцця!

Пісьменніку трэба добра бачыць — бачыць усе колеры жыцця — у сапраўдным значэнні, у праўдзівым спалучэнні. Для гэтага трэба грамадзянская і мастацкая чуласць, дакладнасць чуласці. Трэба сапраўднае веданне жыцця і талент!

Чым больш я думаю над тым, якой павінна быць літаратура, тым больш я пераконваюся ў думцы, што літаратура, *мастацкая* літаратура — таксама навука; асабліва такія жанры, як проза, драматургія, эпічныя жанры паэзіі — я ўжо не кажу пра літаратуразнаўства. Мастацкая літаратура павінна быць, як навука, дакладнай і аб'ектыўнай; яе даследаванні — даследаванні чалавека, часу — павінны быць навукова дакладнымі. Я ўпэўнен: чым больш гэтай навуковай дакладнасці ў даследаванні, якое ў аснове твора, тым большы гэты твор, тым больш у яго права належаць да сапраўднай літаратуры.

Мне думаецца, што з гэтай прычыны не выпадкова талент вялікіх мастакоў амаль нязменна зліваўся з талентам вучоных. Пушкін, Гогаль, Дастаеўскі, Талстой — і пісьменнікі, і вучоныя ў любым значэнні гэтага слова.

Правільна, што ў мастацкай літаратуры многае залежыць ад эмацыянальнага бачання жыцця пісьменнікам, але, думаю, глыбока памыляюцца тыя, што лічаць пісьменніка нейкім неабмежаваным уладаром абшару ці палоскі свайго твора. Памыляюцца тыя, што лічаць, нібы пісьменнік усё можа, усё вольны зрабіць — напісаць твор светлы, чорны, ружовы, зялёны,— усё нібы ад яго залежыць. Ёсць, вядома, і такія пісьменнікі, і, можа, іх не так ужо і мала,— але гэта або дрэнныя пісьменнікі, або добрыя пісьменнікі, што дрэнна робяць.

Пісьменнік — як гэта ні сумна казаць — не ўсё можа. Ён не вольны, зусім не вольны пісаць так, як яму — ці каму іншаму — зажадаецца; думаць, нібы ён можа ўсё напісаць, што захоча, значыцца, не разумець сутнасці літаратуры, лічыць, што літаратура — усяго спрытная выдумка хітрых пісьменнікаў. У пісьменніка ёсць свае дарожныя межы, арыенціры і знакі, якім ён павінен падпарадкоўвацца. Калі ён толькі сапраўдны пісьменнік, калі ён хоча рушыць па дарозе літаратуры, а не апынуцца ў кювеце.

Гэта — банальная ісціна, але пісьменнік не вольны ў сваёй творчасці; не вольны ў тым значэнні, што ён залежыць, па-першае,— *ад жыцця, рэчаіснасці*, якую пісьменнік бярэ як матэрыял для твора. Жыццё гэта само ўказвае пісьменніку фарбы і колеры. Пісьменнік тым большую сілу набывае, чым лепш умее адчуць усе спалучэнні і значэнні фарбаў у жыцці, чым лепш здолее перадаць на паперы ўсе іх асаблівасці. У найбольшай жыццёвай дакладнасці сіла ўсякай сапраўднай літаратуры, сапраўднага мастацтва.

Гэта выглядае як парадокс: найвялікшая сіла суб'ектыўнага мастацтва — у *аб'ектыўнасці*! Усякі валюнтарызм — вораг развіцця жыцця наогул — губіць мастацтва асабліва — нязменна і канчаткова; якога б колеру валюнтарызм гэты ні быў — чорнага ці ружовага. Літаратура павінна правярацца толькі жыццём. Па жыцці, праз жыццё трэба правяраць творы — іх праўдзівасць ці іх фальш, іх мастацкую каштоўнасць.

Пісьменнік не вольны ў творчасці, па-другое, таму, што за ім сочаць праўдзівыя, патрабавальныя вочы і сэрцы сучаснага, дарэчы — вельмі адукаванага, разумнага чытача і гледача,— якія самі бачаць і чуюць жыццё і якія таму заўсёды могуць праверыць, варты

чаго-небудзь ці не варты пісьменнік. Перад суддзёй такім ніхто з нас не мае права фальшывіць, калі толькі хоча мець права на павагу і ўвагу людзей, народа.

Мы, таварышы, павінны помніць заўсёды, што наша ідэалогія — гэта *навуковы камунізм.* Сур'ёзнасць, навуковае даследаванне павінны быць у аснове ўсіх форм камуністычнай ідэалогіі, у тым ліку і той, за стан якой мы адказваем перад партыяй і народам — мастацкай літаратуры. Некалькі дзён назад я з вялікай цікавасцю прачытаў у «Правде» вельмі разважны артыкул пра задачы грамадскіх навук. Не магу ўстрымацца, каб не паўтарыць тут цудоўныя словы Карла Маркса, выпісаныя аўтарам артыкула; Маркс пісаў: «...чалавека, які імкнецца прыстасаваць навуку да такога пункту погляду, які ўзяты не з самой навукі... а звонку, да такога пункту погляду, які прадыктаваны чужымі навуцы, знешнімі для яе інтарэсамі — такога чалавека я называю «нізкім» (К. Маркс, Ф. Энгельс. Соч., т. 26, ч. II, стар. 125). Вось як Маркс ставіўся да тых, хто вольна абыходзіўся з ісцінаю!

Цяпер я хачу адказаць тым, хто лічыць, што з меркаванняў здаровага выхавання моладзі трэба паказваць толькі прыклады добрага — гераізму, самаахвярнасці і г. д. На гэтых прыкладах вучыць трэба і спрачацца з гэтым проста недарэчна. Але я лічу таксама, што нельга нашых чытачоў, у тым ліку і моладзь, вучыць *толькі* на добрым, аберагаць іх ад супярэчнасцей жыцця, ад «бруду» жыцця.

У нас ёсць даволі пісьменнікаў, якія цудоўна ўмеюць абмінаць усе лужыны, ямы; тут, можна сказаць, сабраны немалы (хоць і вельмі нескладаны) вопыт. На жаль, ёсць і свае прыхільнікі ў такой, можна сказаць, святочнай, літаратуры; ёсць нават такія тэарэтыкі, якія лічаць, што падобныя святочныя творы павінны заняць ледзь не манапольнае становішча ў нашай літаратуры; быццам бы толькі такія творы і ёсць сапраўдны сацыялістычны рэалізм у «класічным выглядзе». Чытаючы творы такіх «класічных» рэалістаў, мы нібы трапляем на бясконцае свята, дзе ўсё спявае, скача, робіцца само сабой на шчасце героям. У такім кірунку ёсць свой сэнс. Гэтыя рэалісты забываюць толькі пра адно: што людзі жывуць не ў вакууме; яны жывуць сярод жывога, пярэстага свету, сярод «хороших и разных» людзей. Гэтыя «рэалісты» забы-

ваюць, што маладым трэба будзе жыць і працаваць у складаным, пярэстым жыцці.

Я перакананы, мы павінны рыхтаваць моладзь да ўсіх тых выпрабаванняў, якія могуць сустрэцца ім у новым жыцці. Інакш, ступіўшы ў жыццё, глянуўшы ў яго аблічча, малады чытач наш часам можа разгубіцца (і губляецца), можа расчаравацца (і часам расчароўваецца), можа ў пэўны час прыйсці да вываду, што яго «падвялі» (і нямала хто прыходзіць да гэтага). Мы павінны, я ўпэўнены, вучыць моладзь бачыць жыццё такім, якое яно ёсць — з усім чорным і белым, з усім добрым і злым. Мы павінны рыхтаваць не да свята, а да жыцця, да працы, да барацьбы. Мы і без таго багата выхавалі ахвотнікаў да свята.

Мы павінны гаварыць з моладдзю асабліва праўдзіва, мужна і сумленна. Давайце ніколі не будзем забываць: калі хто і чулы да фальшу, дык найбольш моладзь. І давайце не будзем баяцца, што яны не зразумеюць усяго; зразумеюць — яны куды разумнейшыя, чым здаецца багата каму з нас!

Акрамя ўсяго, нам, мастакам, не лішне помніць і пра тое, што верай чытача трэба даражыць, што веру гэту няцяжка страціць і — што вярнуць яе цяжэй, чым страціць. І што ў ружовай, высакароднай маны ёсць вельмі дзіўная асаблівасць: «обратный эффект». Вашы слухачы могуць думаць зусім адваротнае таму, чаго вы хочаце. Мана — нават з лепшымі меркаваннямі — рэч небяспечная!

Адзін мой знаёмы чалавек, упэўнены ў сваёй разважнасці і мудрасці, абараняючы думку пра тое, што не пра ўсё трэба гаварыць і пісаць, сказаў глыбакадумна: «Не трэба сыпаць соль на раны». Гэта — праўда, таварышы: соль не трэба сыпаць на раны. Не трэба рабіць забаву з таго, што вельмі сур'ёзнае і што баліць! Аб сур'ёзным трэба гаварыць сур'ёзна. Не трэба сыпаць соль на раны — але не трэба і заплюшчваць вочы, убачыўшы рану; нельга раны, якія відны, пакідаць без лячэння.

Можна і трэба пісаць і пра добрае, і — пра балючае, пісаць па-сыноўняму, з жаданнем, каб хвароба была выгнана і не вярнулася ніколі. Лекі прымаюць незалежна ад таго, салодкія яны ці горкія; і хірургічныя аперацыі, як вядома, робяць не ад прыемнасці, але іх — робяць! Не трэба, думаецца, сумнявацца ні ў чым,

што патрэбна для здароўя. І хочацца сказаць: няхай жа літаратура будзе ў гэтым клопаце пра здароўе нашага жыцця добрым асістэнтам, надзейным памочнікам партыі, які ў час можа падаць і параду, і патрэбны інструмент!

Даўно мінулі тыя часы, калі ледзь не ўсякую крытыку ў мастацкім творы лічылі шкоднай. Мы жывём у час, калі многае перамянілася на карысць народу, на карысць літаратуры. Хацелася б, каб ніякія цені мінулага не вярталіся, не трывожылі літаратуру.

Я ўпэўнен: праўда была, ёсць і будзе галоўным законам учарашняй, сённяшняй і заўтрашняй літаратуры. Яна — аснова жыцця літаратуры,— сур'ёзная, глыбокая, мужная праўда, праўда, якая вучыць людзей правільна разумець жыццё, якая горача ваюе за добрае, якая страсна ненавідзіць усё паганае, бруднае і на поўны голас папярэджвае пра небяспеку.

Толькі там, дзе поўная праўда, я ўпэўнены, ёсць сапраўдная партыйнасць. Няма і не можа быць партыйнасці там, дзе праўда падмяняецца няпраўдай, у якім бы выглядзе яна ні падавалася і чым бы яна ні тлумачылася.

Няпраўда ніколі не можа быць сапраўднай партыйнасцю, як не могуць быць партыйнымі «дутыя» лічбы, прыпіскі, «очковтирательство» — усе віды ашуканства, асуджаныя партыяй ва ўсіх галінах жыцця. Думаю, можна сказаць коратка: фальш, «очковтирательство» — з'явы заўсёды *антыпартыйныя!*

Сапраўдная партыйнасць у тым, каб ісці з партыяй не толькі ў святы, а і ў будні, ісці не толькі ў святочныя дні ў святочных, без плямкі, гарнітурчыках, а і ў рабочыя дні — у рабочых спяцоўках, на якіх і плямы мазуту, і сляды цэменту. Жыццё не толькі святы. Жыццё ёсць жыццё. У жыцці ўсё, што неабходна для жыцця, створана не святамі, а буднямі — працай, нялёгкай, не заўсёды такой прыемнай, як пішуць,— але заўсёды неабходнай. Маякоўскі калісьці з гонарам казаў: «Я — ассенизатор и водовоз...» Будзем жа і мы так разумець свой абавязак; будзем жа — разам з партыяй, з народам — *працаваць*, закасаўшы рукавы, беручы на свае плечы цяжар, нажываючы паважаныя мазалі, не баючыся часам зачэрпнуць і бруду — каб на зямлі было чысцей!

Вось што значыць, па-мойму, быць па-сапраўднаму

партыйным у літаратуры. Вось у чым і найбольшы абавязак, і найбольшы клопат пісьменніка!

Таварышы, ёсць яшчэ вельмі багата такога, што хвалюе і пра што хацелася б сказаць. Трэба было б сказаць пра становішча з выкладаннем беларускай мовы і беларускай літаратуры ў школах, пра непарадкі ў кнігавыдавецкай справе, пра ганарарныя справы, якія цяпер у такім стане, што мімаволі хочацца запытацца: як гэта магло зрабіцца, што рабіў наш паважаны Саюз і ці ёсць у нас наогул аўтарскае права? Ёсць багата важных праблем. Пра многія з іх мы — у тым ліку і я — шчыра і падрабязна гаварылі нядаўна на сустрэчы ў ЦК партыі, сустрэчы, якая ў нас нарадзіла вялікія надзеі,— і мы спадзяёмся, што надзеі гэтыя апраўдаюцца.

Два словы пра работу апарата нашага Саюза. Мне здаецца, ён працаваў кепска, ён, можна сказаць, мала калі і быў цэнтрам творчай работы. Амаль уся жывая творчая работа ішла міма Саюза — у часопісах, у выдавецтве, у газеце «Літаратура і мастацтва», якая адну за адной разгортвала шырокія і часта цікавыя, сапраўды жывыя дыскусіі. Саюз наш ператварыўся ў орган, які займаўся бягучымі справамі, ледзь упраўляўся рэгістраваць тое, што робіцца на полі нашай літаратуры...

Таварышы, думаецца, што і ў наш час не страцілі свайго значэння словы паэта: «Наше время трудновато для пера...»

Як вядома, Маякоўскі ад гэтага не паддаваўся смутку. Ён, вы ведаеце, з гонарам пытаўся: «Но скажите вы, калеки и калекши,— где, когда, какой великий выбирал путь — чтобы протоптанней и легше?!»

Каб быць вялікай, наша літаратура не павінна шукаць шляхоў — «протоптанней і легше». Ісці дарогамі жыцця, служыць народу, працаваць з народам — у гэтым, па-мойму, аснова велічы нашай літаратуры, сэнс яе жыцця. Толькі ў гэтым. І сёння, і заўтра. І — заўсёды!

*1966*

# БАЧЫЦЬ ГЛЫБОКА І ШЫРОКА

Выйшаў з друку раман з палескай хронікі «Подых навальніцы». Натуральная таму ўвага чытачоў да самога пісьменніка і яго творчасці. Як удалося стварыць сапраўды сучасны твор, што робіць гонар усёй нашай савецкай літаратуры?

Ці адразу ў вас з'явілася задума пісаць такое шырокае палатно, якое атрымалася зараз?

Відаць, вас хвалявала жыццё землякоў, іх побыт і звычаі? Магчыма, у раманах ёсць і біяграфічныя моманты? Ці вялікая ў вас доля вымыслу?

Як вы задумвалі характары сваіх герояў?

Якога прынцыпу вы прытрымліваліся, рыхтуючы «Подых навальніцы» да асобнага выдання?

Творы якіх пісьменнікаў вам асабліва блізкія?

Што прываблівае вас у творах маладых нашых пісьменнікаў?

Гаварыць пра сваю творчасць — цяжкавата, няёмка. Можа стварыцца ўражанне, што ты выстаўляеш яе напаказ, надаеш ёй асаблівае, выключнае значэнне. Я вельмі сціплай думкі пра тое, што зроблена мною ў літаратуры. І заўсёды бачу тое, што сам раблю, між таго, што робяць другія. Заўсёды існуе адчуванне працы ў вялікай пісьменніцкай сям'і.

Мне здаецца, што ў нашай літаратуры ў апошні час створана нямала сапраўды мастацкіх твораў. І ў прозе, і ў паэзіі, і ў літаратуразнаўстве. Хацелася б асабліва адзначыць поспехі нашых літаратуразнаўцаў. У апошні час з'явілася нямала крытычных прац, якія чытаюцца з карысцю, выклікаюць сур'ёзны роздум над жыццём і літаратурай. Я гавару пра гэта таму, што пра поспехі паэтаў і празаікаў больш гавораць, а працы крытыкаў і літаратуразнаўцаў менш заўважаюць.

Поспех кожнага з нас, канечне, звычайна абумоўлен цэлым шэрагам розных прычын: узроўнем мыслення ў цэлым, станам літаратуры. Таму поспех кожнага твора ў пэўнай меры залежыць ад паспяховай работы не аднаго пісьменніка. Мне здаецца, што чым багацей будзе наша літаратура ў цэлым, тым больш будзе ўмоў для поспехаў кожнага пісьменніка паасобку.

Для пісьменніка вельмі важна адчуваць маральную падтрымку таварышаў па працы, чытачоў. Калі пісьменнік адчувае падтрымку, у яго быццам бы вырастаюць крылы. Але пісьменнік не павінен ісці толькі па плыні, па гатовай дарозе. Мне здаецца, што вельмі вялікае значэнне мае перакананасць пісьменніка ў значэнні той працы, за якую ён бярэцца, што пісьменніку трэба сіла характару, цвёрдасць, упэўненасць, вера ў свой твор, у той шлях, якім ён ідзе.

Кожны сапраўдны пісьменнік, пачынаючы новы твор, фактычна пракладвае сваю новую дарогу. Як і кожны чалавек, які адпраўляецца ў дарогу, ён становіцца перад выбарам, якой дарогай ісці. Перад ім часта бывае безліч дарог, яму трэба выбраць самую найлепшую. Тут, канечне, усё залежыць ад пісьменніка, ад яго грамадзянскай і літаратурнай чуласці, ад яго вопыту, яго таленту. Усё гэта, нарэшце, можа прывесці пісьменніка цяжкім, рызыкоўным шляхам пошукаў і сумненняў — да адкрыццяў, да новых мастацкіх дасягненняў. Гэта думка зусім не пярэчыць той, што ўзровень пісьменніцкай працы залежыць ад узроўню літаратуры ў цэлым. У гэтым — дзве асаблівасці нашай пісьменніцкай працы.

«Людзі на балоце» ў такім выглядзе, у якім яны напісаны, маглі з'явіцца толькі пасля тых перамен, што адбыліся ў выніку XX з'езда партыі. Кажучы шчыра, не так проста, як можа здацца, было пісаць гэты твор, хоць ён і аб далёкіх падзеях. Мне прыходзілася нанава пераасэнсоўваць матэрыял, знаёмы для літаратуры, падаваць як высокую паэзію з'явы, якія мы прывыклі лічыць амаль што не вартымі паэзіі. Мне вельмі перашкаджалі многія старыя ўяўленні, да якіх я прывык і якія, фактычна, давялося пераадольваць. Адным словам, усё было не такім простым, як гэта ўяўляецца У. Карпаву ў артыкуле, надрукаваным у

«Полымі». У літаратуры ні адна рэч, калі яна нечага варта, не паяўляецца на свет проста і лёгка.

Новае даводзіцца адкрываць і таму, хто піша на тэму, якую ніхто не чапаў, і таму, хто адважваецца пісаць пра тое, пра што пісалі другія. Я ўзяўся пісаць пра «людзей на балоце» зусім не таму, што гэта было лёгка, што тут усё адкрыў Якуб Колас. Павінен прызнацца: тое, што пра гэта пісалі Якуб Колас і другія пісьменнікі, хутчэй — стрымлівала мяне. Таму што я добра разумеў, на якую рызыку іду, беручыся за тое, за што браліся такія прызнаныя майстры літаратуры. Я разумеў, што пасля ўсяго, што напісана, у мяне было вельмі многа шанцаў напісаць такі твор, які астанецца непрыкметным, нязначным, не зацікавіць нікога. Усё, што ствараецца на новым месцы, не забудаваным, ужо само па сабе ўяўляе прыкметную з'яву, там жа, дзе ўжо стаіць нямала будынкаў, вельмі лёгка згубіцца яшчэ аднаму чарговаму збудаванню.

Разуменне гэтага неяк прыгнятала мяне, непакоіла, стрымлівала. Пісаў я таму, што мне вельмі хацелася напісаць аб гэтым, таму, што ўсё гэта было мне дорага. Па праўдзе кажучы, я не чакаў, што «Людзі на балоце» будуць сустрэты з такой увагай, прыхільнасцю. Гэта, можа быць, самы найбольшы і самы нспадзяваны сюрпрыз за ўсе гады маёй літаратурнай працы.

Яшчэ тады, калі я пісаў «Мінскі напрамак», у мяне ўзнікла задума напісаць пра Палессе. Мне малявалася невялікая аповесць пра пасляваеннае палескае жыццё. З цягам часу малюнкі Палесся сталі шырыцца і стала шырыцца сама задума твора. Я пачаў думаць пра вялікі эпічны твор. І чым больш думаў, тым больш прыходзіў да думкі, што пачынаць трэба з самага пачатку, з таго часу, калі толькі пачыналася новае жыццё ў Куранях. Так я падыходзіў да той задумы, якая была потым пачата ў «Людзях на балоце». «Подых навальніцы» — гэта працяг рэалізацыі задуманага твора пра людзей Палесся. Я думаў напісаць некалькі раманаў, пра што неасцярожна аднойчы прагаварыўся, але вопыт работы над двума раманамі пераканаў мяне ў тым, што трэба быць больш асцярожным у сваіх спадзяваннях. Усё аказалася куды больш складаным, чым здавалася спачатку. Больш складаным — час, больш складанымі — героі, больш складанымі — тво-

ры, а значыць, і больш складаная і не такая імклівая і праца над імі.

Усё ж гэта не такая простая рэч — пісанне эпапей, якія сталі ўжо любімай тэмай фельетаністаў. У сваё апраўданне магу сказаць, што ўсё больш думаю пра тое, каб неяк звузіць эпічную шырыню той задумы, якая калісьці мяне хвалявала ў наіўных марах.

У цэлым ужо ў пачатку работы я бачыў контуры сваіх будучых твораў, але яны, вядома, маляваліся мне вельмі цьмяна, агульна. У працэсе работы многае высвятлялася, знаходзілася многа новых падрабязнасцей, узнікалі такія рэчы, якіх я і не прадбачыў і якія многае мянялі ў маёй ранейшай задуме. Адбывалася нешта падобнае на тое, што бывае з чалавекам, які, ідучы, бачыць роўную, спакойную далеч, што па меры набліжэння ўсё шырыцца, багацее, становіцца ўсё больш шматфарбнаю. Абдумваючы «Людзей на балоце», я меркаваў закончыць кнігу тым, што Ганна пакідае Яўхіма. У працэсе работы развязка такая ўсё аддалялася і аддалялася, і мне давялося змяніць яе на тую, якая цяпер вядома чытачам «Людзей на балоце».

Задума палескіх раманаў нарадзілася з памяці аб перажытым. Малюнкі родных мясцін раней мяне хвалявалі менш, з гадамі — старэю, ці што? — усё гэта стала набываць нейкае асаблівае хараство і значэнне. Малюнкі, вобразы перажытага жылі ва мне, хвалявалі, турбавалі, звалі пісаць, гаварыць. Я адчуваў пахі родных лясоў, балот, я нібы нанава хадзіў па незабыўных дарогах, я нібы зноў бачыў перад сабой людзей, якія маляваліся, поўныя незвычайнай прывабнасці. Потым прыйшло жаданне напісаць кнігу аб жыцці сярод балот, кнігу, героем якой быў бы народ, людзі, якіх чамусьці называюць простымі. Кнігу, у якой бы цудоўнае жыло ў звычайным, трагізм — у звычайным, вялікае — у звычайным.

У абодвух раманах ёсць многа з майго жыцця. Я захаваў некаторыя імёны, некаторыя назвы. Па ўспамінах маленства напісаны эпізод, які расказвае пра тое, як Валодзька дабіваецца, каб яго ўзялі на луг. Гэта было са мной самім. Але аўтабіяграфічнасць праяўляецца не толькі ў такім чыстым выглядзе. Ёсць аўтабіяграфічнае і ў тым, як Ганна едзе на кірмаш, у

малюнку самога кірмашу, хоць гэта ўсё і паказана вачамі Ганны. «Аўтабіяграфічны» і малюнак вяселля ў «Людзях на балоце», і вялікі пейзажны раздзел — дарогі ў «Подыху навальніцы». Ёсць «аўтабіяграфічныя» моманты і ў апісанні паездкі Апейкі ў Мінск, некаторых малюнкаў жыцця ў Мінску. Як у любым мастацкім творы, тут злілося разам і аўтабіяграфічнае і вымысел, які сваімі вытокамі браў бачанае, перажытае і такім чынам у пэўным сэнсе таксама «аўтабіяграфічны».

Доля вымыслу ў мяне вялікая. Мастацкі твор, мне здаецца, вельмі рэдка бывае без вымыслу. Пісьменнік, хоча ён таго ці не хоча, вымушаны ствараць цэлы новы свет.

Я бачыў лінію развіцця герояў вельмі агульна. Потым, калі працаваў, узнікала многа новага, канкрэтнага, часам і нечаканага. Чым больш я ўдумваўся ў жыццё сваіх герояў, чым больш я жыў імі, тым больш яны вялі мяне за сабой. Я стараўся нічога не навязваць герою, імкнуўся зразумець яго. Тут я хачу зрабіць адну заўвагу. У некаторых рэцэнзіях мне даводзілася чытаць, што Апейка ў «Подыху навальніцы» — ледзь не сам аўтар. Я лічу гэтую думку памылковай. Я не гляджу на ўсё толькі так, як Апейка. Апейка ў тым-сім абмежаваны вопытам свайго часу. Мне думаецца, што я, як чалавек 60-х гадоў XX стагоддзя, чалавек, якога аддзяляе ад падзей рамана вопыт трох з паловай дзесяткаў гадоў жыцця, ведаю многа такога, чаго не ведаў мой герой, ведаю больш і, значыць, магу разумець некаторыя падзеі крыху інакш, чым герой. Што да Апейкі, хочацца выказаць яшчэ адно меркаванне. Мяне папракалі, што Апейка вельмі многа ўмясціў у сабе, што ад гэтага ён траціць дакладнасць. Мне не хочацца з гэтым згадзіцца. З назіранняў над многімі, і не выдатнымі, людзьмі я пераканаўся, які шырокі свет чалавечых думак. Мне здаецца, што мы дарэмна так мала гаварылі пра тое, аб чым і як думае чалавек. Думкі ў чалавечым жыцці, відаць, займаюць не менш месца, чым эмоцыі. Адтаго такую вялікую ўвагу аддаў я ў новым рамане таму, што і як думаюць героі. Мне здаецца, гэтую асаблівасць сённяшняй літаратуры ў цэлым, і майго рамана ў тым

ліку, добра адчуў Віктар Каваленка ў артыкуле, надрукаваным у часопісе «Вопросы литературы» № 2 за 1966 год.

Я не думаў, што буду пісаць большую частку таго, што напісаў у «Подыху навальніцы». Тое, што мне адкрылася, калі я пачаў паглыбляцца ў раман, здалося такім важным, што давялося змяніць аблічча кнігі. Фактычна ўзнікла не прадбачаная раней кніга. Лічыцца, што аўтар кепскі суддзя сваім творам, але мне чамусьці думаецца, што гэта самая складаная і самая сур'ёзная кніга з тых, якія я напісаў.

З класікаў асабліва люблю Талстога, Шолахава, Буніна, Чорнага. Люблю і ўважліва чытаю многіх сучаснікаў. Мог бы назваць нямала імён. Скажу толькі, што з карысцю для сябе чытаю і сваіх таварышаў — Брыля, Кулакоўскага, Шамякіна, Быкава, Навуменку. Нямала даюць мне нашы цудоўныя паэты — Танк, Панчанка, Куляшоў. Узбагачаюць разам з іншымі і маладзейшыя — Сачанка, Бураўкін, Чыгрынаў. З не меншай цікавасцю, чым мастацкія творы, чытаю нярэдка крытычныя работы, работы па эстэтыцы, сярод якіх у апошнія гады было нямала глыбокіх. Не без карысці даводзіцца іншы раз чытаць і слабыя, фальшывыя творы; чытаючы іх, асабліва наглядна бачыш, што губіць мастака, больш цэніш майстэрства і праўдзівасць.

У маладых пісьменнікаў прываблівае перш за ўсё хараство маладосці. Вялікае хараство, якое трэба берагчы. Шчырасць. Непрыхільнасць да фальшу. Не бяруся гаварыць, чаго не стае ўсім. Агульных рэцэптаў, прыдатных для ўсіх адразу, няма. Магу толькі сказаць, да чаго трэба імкнуцца. Зычу ім, як і сабе,— бачыць глыбока і шырока, пісаць праўдзіва. І, безумоўна,— сумленна.

*1966*

# ЧАСОПІСУ «FREIE WELT»

Над чым Вы працуеце?

Працую над цыклам раманаў. Пра жыццё людзей, якія ў дваццатыя — трыццатыя гады былі маладыя. І пра тых, што былі маладыя ў саракавых. Пра маё роднае Палессе. Напісаў пакуль што два раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы».

Якая падзея выклікала ў Вас жаданне напісаць пра гэта?

Памяць аб пражытым, якая з гадамі зрабіла гэтае пражытае цікавым, яркім і значным.

XX з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, у святле якога многія старыя падзеі ўбачыліся па-новаму.

Вашы любімыя пісьменнікі ў сусветнай літаратуры?

Са старых — Талстой, Тургенеў, Бунін, Аксакаў. З сучаснікаў — Шолахаў, Фадзееў. З замежных — Хемінгуэй, Фолкнер, Мартэн дзю Гар, Б. Брэхт. І яшчэ многія. Напрыклад — Ганс Фалада.

Што Вы думаеце пра лёс рамана?

Многа чуў, што раман гіне. Але мяне гэта не палохае. Я веру ў раман: ён, стары, вельмі жывучы. Ва ўсякім выпадку, ён перажыве прарокаў, якія прадракаюць яму смерць.

Ваш любімы верш пра каханне?

Іх, на шчасце, многа. Не магу абкрадваць сябе, выбіраючы толькі адзін. Пра каханне па-рознаму — і ўсё выдатна — пісалі толькі ў Расіі Пушкін, Лермантаў, Някрасаў, Фет, Блок, Ясенін. Па-рознаму вабіць і любоўная лірыка Гётэ, і лірыка Гейнэ. У нас, у Беларусі, цудоўна пісалі пра каханне Максім Багдановіч і Янка Купала. Выдатныя вершы піша цяпер Максім Танк. Напрыклад, «Ave Maria», які мне вельмі падабаецца.

*1966*

## БАЛЮЧА ДУМАЦЬ...

Мы ведалі, што ён апошнія гады вельмі хварэў. Мы трывожыліся. І былі шчаслівыя, калі бачылі яго, стомленага, змарнелага, але спакойнага, нават дзіўна вясёлага. Часта здавалася, што хвароба адступіла зусім, і як раднаснае пацвярджэнне гэтаму, мы бачылі яго на сцэне. Зусім нядаўна бачылі — яшчэ такое вострае ўражанне пра яго Глушака, адну са шматлікіх яго роляў. Апошнюю ролю.

Памёр. Балюча думаць, што Глебаў, цудоўны Глебаў, не выйдзе з-за куліс у чарговай ролі, здзіўляючы, захапляючы яркасцю фарбаў, праўдзівасцю, глыбінёй. Цяжка ўявіць, што не пачуем больш непаўторнага глебаўскага голасу, не ўбачым вачэй яго, якія маглі так гневацца і так смяяцца, якія свяціліся такой мудрасцю, чалавечнасцю, глебаўскай хітрынкай.

Праўда, што кожны чалавек непаўторны. Непаўторнасць — асаблівая адзнака людзей таленавітых, выдатных. Глебаву была ўласціва непаўторнасць самая яркая, бліскучая, іскрыстая, хараство гэтай непаўторнасці відаць было ва ўсім, што ён рабіў, у кожным вобразе. Гэта быў талент, надзіва шчодра адораны прыродай, цудоўна адшліфаваны вялікай, нястомнай працай.

Выключную прывабнасць яго таленту надавала тое, што ён, як мала хто, быў зліты з народам; у ім надзіва хораша ззяла найбагацейшымі фарбамі ўсё тое, што стварае хараство народнай душы. Гэта быў сапраўды народны мастак, надзвычай арганічны, на рэдкасць натуральны.

Страту гэту мы будзем адчуваць доўга: смерць адабрала ад беларускага мастацтва выдатнага чалавека, вялікага майстра.

*1967*

## ПРА СТЭНДАЛЯ

Заўтра міне сто дваццаць пяць гадоў з дня смерці вялікага француза — Анры Бейля, вядомага свету пад імем Стэндаля.

Стэндаль — слава французскай класічнай літаратуры, адно з тых імён, якія з пашанай вымаўляюць людзі на ўсіх мовах свету. У наш час цяжка знайсці культурнага чалавека, якога б не зачароўвалі вобразы яго раманаў «Чырвонае і чорнае», «Пармскі манастыр», «Люсьен Левен», яго цудоўнай «Ваніны Ваніні». І цяпер, праз паўтара стагоддзя, калі настолькі багацейшымі сталі скарбы культуры ў свеце, калі свет ведае Талстога і Дастаеўскага, калі перад чытачамі прайшло столькі майстроў літаратуры, не сацьмеў, не пахіснуўся аўтарытэт Стэндаля як майстра сацыяльнага аналізу, даследчыка зменлівай дыялектыкі чалавечай душы. І цяпер тая глыбіня душы, у якую зазірнуў больш за стагоддзе назад Стэндаль, застаецца глыбінёй. І цяпер ужо можна сказаць — назаўсёды Жульен Сарэль застаецца вобразам такога сацыяльнага і псіхалагічнага напаўнення, які з'яўляецца ўзорам мастацкай дасканаласці.

Як выдатныя помнікі цяпер ужо даўняй гісторыі засталіся нам старонкі «Прагулак па Рыме», «Італьянскіх хронік», многіх яго кніг па музыцы, выяўленчаму мастацтву, літаратуры, якія здзіўляюць незвычайнай шырынёй цікаўнасці, дакладнасцю ведаў у вялікім свеце мастацтва, далікатнасцю, бездакорнасцю густу.

Стэндаль — адна з самых значных, змястоўных асоб у сусветнай літаратуры. Стэндаль належыць усяму культурнаму чалавецтву. Як годная спадчына ўваходзіць ён сярод іншых сапраўдных скарбаў у той свет, які мы будуем сёння.

*1967*

# РАМАН І ЯГО ПРАБЛЕМЫ

Таварышы, перш за ўсё я хацеў бы выказацца па тых думках, якія былі ўзняты ў дыскусіі на старонках «ЛіМа». З аднымі думкамі паспрачацца, другія падтрымаць, трэція — дапоўніць.

Калі гаварыць у цэлым пра дыскусію, то яна, на маю думку, атрымалася цікавай і змястоўнай. У ёй узялі ўдзел значныя сілы нашай літаратуры, і крытычныя, і празаічныя, прычым і крытыкі, і празаікі выказалі многа такога, што, бясспрэчна, паглыбіла нашу дасведчанасць у такім нялёгкім і важным жанры, як наш беларускі раман, які з такой энергіяй разгортваецца і дужэе.

Дыскусія, аднак, мела і свае слабасці. І пра гэта трэба адразу сказаць: і таму, што веданне заган дае магчымасць больш рэальна бачыць стан нашых літаратурных спраў, і таму, што заганы гэтыя значныя. Адной з найбольшых слабасцей дыскусіі я лічу тое, што яна аказалася вузкаю: самая неспакойная гаворка загарэлася вакол некалькіх твораў, у цэнтры яе аказаліся фактычна «Птушкі і гнёзды», «Сэрца на далоні», «Людзі на балоце», «Каласы пад сярпом тваім». Амаль выпалі з поля зроку такія значныя творы апошняга часу, як «Серадзібор» П. Пестрака, «Сасна пры дарозе» І. Навуменкі. Зусім забыта была трылогія Р. Сабаленкі «Іду ў жыццё», твор, які на маю думку, варта лічыць цікавым набыткам нашай літаратуры.

Другой слабасцю дыскусіі я лічу пэўную тактычную недасканаласць нашай, з дазволу сказаць, аперацыі. Гэтая недасканаласць выявілася ў тым, што не былі дастаткова выразна вызначаны галоўныя «цэлі», значэнне «цэлей», у выніку чаго на вялікую ўвагу траплялі «цэлі» нязначныя, з-за якіх як бы трацілі сваё значэнне больш важныя. Па гэтай прычыне іншы раз на цэлі не надта істотныя мы трацілі непатрэбна

многа запалу, дыскусійнага агню. Такой не надта важнай цэллю я лічу, напрыклад, дзіўна настойлівыя развагі пра стылі сучаснага беларускага рамана, упартае імкненне раздзяліць яго на дзялянкі, развагі, каторы з іх і якімі вартасцямі лепшы.

Было выяўлена, што ў нашым рамане ёсць такія стылі: эпічны, ліра-эпічны, лірычны, размоўна-бытавы. У выніку спрэчак выявілася, што ў кожнага з гэтых стыляў ёсць свае прыхільнікі, якія, на канкрэтных прыкладах, уражваючы эрудыцыяй і логікай доказаў, даводзілі перавагі кожнага са стыляў. Здаецца, у гэтых спрэчках найбольш пашанцавала стылю лірычнаму і размоўна-бытавому. Дарэчы, вызначэнне апошняга я лічу зусім няўдалым, сумняваюся, што наогул ёсць такі.

Нямала ўвагі было аддадзена разважанням пра ролю і значэнне традыцыйнасці і нетрадыцыйнасці ў сённяшнім рамане. Хоць разважанні пра гэта і непазбежныя спрэчкі не мелі таго напалу, якім вызначаліся яны ў нядаўнім мінулым, сімпатыі і антыпатыі ў аўтараў дыскусіі адчуваліся выразна. Пры гэтым, як правіла, пра традыцыйнасць гаварылася тонам прымірэнчым, з пазіцый абарончых, пра нетрадыцыйнае тонам, у якім звычайна адчувалася перавага праўды і дужасці. Перавага праўды будучыні.

Давайце, згадзіўшыся з гэтымі грунтоўнымі высновамі, з іх дапамогай паспрабуем разабрацца ў сплячэннях жывой рэальнасці.

Возьмем для прыкладу адзін з характэрных твораў сучаснай нашай вялікай прозы, ну, хоць бы «Птушкі і гнёзды». Адзін з тых твораў, што быў у асяродку ўвагі.

Была выказана думка, што «Птушкі і гнёзды» — твор выдатны, што ён твор лірычны і што ён добра даказаў, якія вялікія магчымасці мае ў сабе лірычны стыль. Разам было даказана і тое, што лірычны стыль мае бясспрэчныя перавагі над іншымі.

Сапраўды, раман Я. Брыля — твор добры і твор лірычны. Твор сагрэты харошай лірычнай шчырасцю, сардэчнай узрушанасцю і цеплынёй. Гэта — Брыль, мусіць, меў рацыю, калі назваў свой твор не звычным «раман», а трохі нечаканым — «Кніга адной маладосці». Гэта такі — «Кніга маладосці», своеасаблівая споведзь аднаго жыцця.

Але ці толькі лірычная гэта «Кніга адной маладосці»? Прыгледзьцеся да яго, учытайцеся і няўжо не заўважыце вы, што лірызм яго — «не чыстай вады»? Няўжо не адчуеце вы, што ў творы гэтым ёсць і эпічны прастор, і эпічная ўвага да рэальнасцей быту, і імкненне пісаць людзей пластычна-канкрэтна. Так, «Птушкі і гнёзды» — твор лірычны. Але ж ён разам з тым — і эпічны. Можна нават сказаць, што ў нас небагата твораў, якія маюць у такой меры права называцца эпічнымі.

Вось як выяўляюцца ў жывой практыцы разумныя спрэчкі пра розныя стылі і іх перавагі.

Паспрабуем такім жа спосабам праверыць на прыкладзе тых жа «Птушак і гнёздаў» жыццёвую трываласць разважанняў пра традыцыйнае і нетрадыцыйнае.

Пра твор Брыля з ухвалай пісалі як пра твор нетрадыцыйны, наватарскі. Сапраўды, такога ў нашай прозе не было: ваеннапалонны з польскай арміі — беларускі юнак, вязень нямецкага канцлагера, наш чалавек сярод стракатай масы самых разнастайных еўрапейцаў, сярод людзей самых розных «племен, наречий, состояний». Германія, будні нямецкага тылу ваеннай пары. Ды і сам герой — праўдалюбец, новага ўзору «талстовец», у дапытлівай душы якога столькі дужаецца, бруіцца... Але ж разам з тым, герой гэты, Руневіч — сялянскі хлопец, з усёй звыклай нам рэальнасцю былога быцця, з якой ён непарыўна звязаны, якую ён сніць і якую песціць у душы сярод жорсткасці нявольніцкага існавання. І як па-сялянскаму, зразумела нам і звыкла глядзіць ён на свет, мерае ўсё такой вядомаю нам меркаю вясковага вопыту, які стварыў яго як чалавека. Колькі, нарэшце, вясковага, здаровага ў поглядах самога пісьменніка на жыццё і на людзей, у яго стылі пісьма, якія, дарэчы, выдатна даводзяць тое, што мы ведаем: што перад намі — пісьменнік глыбока нацыянальны, беларускі.

Што ж, значыцца: «Птушкі і гнёзды» — твор традыцыйны? Так, разам з тым новым, што ён мае,— і традыцыйны. Вельмі традыцыйны.

Значыцца: ацэнку яго трэба знізіць? Ні ў якім разе. Твор Брыля — з'ява сапраўднай літаратуры, раман цэльны, шчыры, раман, у якім дасягнута добрае, непрымушанае адзінства праўды жыцця і майстэрства ў багацці іх праяў.

Гэты прыклад гаворыць пра тое, якімі ненадзейнымі ў жыцці, калі мы сустракаемся з сапраўднымі творамі, з'яўляюцца межы стыляў, пра якія мы так клапоцімся. Ён гаворыць пра тое, якая няцвёрдая, нежыццёвая аснова ў такім падзеле. Ён гаворыць пра тое, што спрэчкі нашы на гэты конт — занятак малакарысны.

Любы добры твор, на маю думку, мае ў сабе сплаў розных якасцей, розных «стыляў». Прытым чым багацей, шырэй і смялей твор, тым багацей, змястоўней гэты сплаў. Вазьміце, да прыкладу, найвялікшае дасягненне нашай савецкай літаратуры «Ціхі Дон», паспрабуйце павесіць на яго бірку стылю, калі гэта глыба ўвабрала ў сябе, здаецца, усе драмы і радасці, усе пахі і фарбы жыцця, усё багацце культуры народа, чалавецтва.

Таварышы, можа, я пакрыўджу каго-небудзь, але не магу не сказаць, што ў гэтых не па меры сур'ёзных спрэчках пра межы і перавагі стыляў мне бачыцца своеасаблівы атавізм — праявы таго спрашчэнства, таго як бы школьнага погляду на літаратуру, ад якога наша крытыка ў многім ужо адышла. Яй-богу, ёсць у гэтых спрэчках нешта ад школьных мудрасцей.

Хачу сказаць і пра такую асаблівасць гэтых спрэчак. У мяне ёсць такое, даволі моцнае адчуванне, што — вядома, незнарок, непрыкметна для нас — адбываецца як бы падмена адной схемы другой. Мы адчулі прыкрасць да адной схемы — вельмі недасканалай, прыблізнай, як усе схемы,— той, якая дзяліла літаратуру па тэме: на калгасную, рабочую, інтэлігенцкую, курортную і да т. п. І, відаць, ужо з прычыны звычкі ці з імкнення да цвёрдага грунту заклікалі на дапамогу сабе другую, якая літаратуру дзеліць па адзнаках стылю. Адзнаках традыцыйнасці і нетрадыцыйнасці.

Адным словам, адбылося тое, што мы адну, старэйшую, схему падмянілі другой, больш новай. Нічым, на маю думку, не лепшай. Можа, нават горшай, таму што гэтая не такая пакуль адкрытая, зразумелая. Хоць такая ж недакладная, некарысная.

Можа быць, і ёсць нейкі сэнс для даследчыкаў вылучыць стылёвыя плыні ў нашай буйной прозе. Але тая, як мне здаецца, лішняя апантанасць, непамерная ўвага да гэтай праблемы мяне ўсё ж турбуе. Ёсць, я адчуваю, у гэтых спрэчках немалая небяспека. Гэта не-

бяспека, па-мойму, у тым, што і ўвага даследчыкаў, і ўвага аўтараў адцягваецца ад самага істотнага, ад самага галоўнага, што мы павінны бачыць заўсёды і найперш. Гэта небяспека мне бачыцца і ў тым, што літаратура наша, раманная проза падзяляецца, дробніцца ў многіх штучна. У выніку творы блізкія па ідэйных і мастацкіх вартасцях, творы, якім належыць па закону стаяць разам, аказваюцца як бы далёкімі, нават супрацьлеглымі.

Проста дзіўнымі здаюцца мне спрэчкі пра перавагі аднаго стылю перад іншым. Напрыклад, пра перавагі вольна лірычнага стылю над строга эпічным. Няўжо нам трэба цяпер сур'ёзна спрачацца з даўно правераным, надзейным вывадам пра тое, што ні адзін стыль, жанр сам па сабе не дае пісьменніку ні глыбіні, ні шырыні. Што ў любым стылі, жанры можна пісаць добра і можна пісаць кепска.

У дыскусіі было чуваць цвёрдае перакананне, што магчымасці эпічнага стылю абмежаваныя. І нібы трэба, аказваецца, давесці, што эпічны стыль не горш за лірычны, што і ў эпічным стылі пісаць можна нядрэнна. Як доказ таго, што і ў эпічным стылі можна нешта стварыць вартае, аказваецца, трэба прыводзіць прыклады: скажам, творчасць Анарэ дэ Бальзака ці Льва Талстога. Якія ў гэтым стылі пісалі, і, як лічаць многія, някепска. Выдатна пісалі. Імкнучыся давесці свае погляды, мы іншы раз не спыняемся і перад тым, каб прыстасаваць факты да нашай думкі. Для гэтага мы можам аб'явіць лірычным пісьменнікам В. Быкава, нібы не бачачы, што Быкаў — найперш пісьменнік эпічны, стрыманы ў выяўленні сваіх пачуццяў. Дарэчы, па манеры пісьма — пісьменнік выразна традыцыйны, пісьменнік, што працуе ў стылі класічнай прозы Л. Талстога.

Пра тое, што класічная эпічная проза развіваецца і што ў яе трыдыцыі можна пісаць добра, сведчаць творы многіх сучасных пісьменнікаў краіны. Іх так многа, што і называць іх няма сэнсу.

Хочацца сказаць: не трэба вышукваць штучных меж, рабіць вялікімі праблемамі тое, дзе гэтага няма. Будзем глядзець самі і скіроўваць увагу іншых на тое, што сапраўды важнае для ўсіх нас, для літаратуры.

У чым жа яно, гэтае самае важнае, што мы павінны бачыць найперш?

Каб вылучыць гэта, давайце прыгледзімся да найбольш значных момантаў у выступленнях. Да таго, што найбольш хвалюе аўтараў у дыскусіі.

Можна адразу адзначыць: сур'ёзныя закіды нашаму раману робяцца [...] да выбару матэрыялу, аб'екту даследаванняў. Рад аўтараў, асабліва крытыкі, папракаюць нашых раманістаў за пэўную традыцыйнасць тэм і вобразаў, за вузкасць поля даследаванняў, за тое, што раманісты нясмела абжываюць новыя сферы жыцця, няўпэўнена ўводзяць у літаратуру новыя, нязвыклыя матывы і людскія тыпы. Карацей кажучы, што ўвага наша больш скіравана на мінулае і менш на сучаснае.

Папрок гэты, як мы ведаем, мае падставу. Ён рэальны. І разам сур'ёзны. Будучы як бы звязаным з развагамі аб традыцыйным і нетрадыцыйным у галіне формы, ён тут, калі размова датычыцца грунтоўнасці даследаванняў, неабходнай адпаведнасці з'яў літаратуры найбольш значным з'явам народнага жыцця, становіцца вельмі важкім. Такім важкім, што прайсці паўз яго без увагі нельга.

Чым тлумачыцца, што аўтары нашых раманаў так ахвотна пішуць пра мінулае і так стрымана пра нашы дні?

І ў ранейшых выступленнях, і ў артыкулах дыскусіі можна вычытаць адказ на гэта. Што да мінулага, то адказ гэты можна выказаць формулаю: «Пра мінулае пісаць лёгка». У мінулым, могуць дадаць, усё адляжалася ці адстаялася, пра яго многа пісалі, там — вялікі вопыт, надзейная традыцыя. В. Каваленка дае вычарпальны адказ на другое пытанне: чаму мала пішуць пра нашы дні. Ён без ваганняў лічыць, што раманаў пра нашы дні мала таму, што «сучаснасць цяжка асэнсаваць».

Гэтыя, на першы погляд такія ясныя тлумачэнні пры сур'ёзным разглядзе адразу выказваюць сваю кволасць. Калі пра мінулае пісаць так лёгка, як нам даводзяць, то чаму нікому з нашых сучаснікаў не ўдаецца калі і не лёгка, то хоць бы з пэўнымі намаганнямі стварыць пра мінулае што-небудзь роўнае «Тарасу Бульбе», «Вайне і міру» ці «Ціхаму Дону». Хіба ў мінулым не засталося зусім матэрыялу для такіх шэдэўраў? І няўжо нікога, хоць бы на матэрыяле мінулага, не вабіць спакуса стварыць штосьці роўнае «Вайне і міру» або

«Ціхаму Дону»? І чаму, хоць пішацца пра тое мінулае нямала, новай «Вайны і міру» ўсё-такі, калі не памыляюся, стварыць нікому пакуль не ўдалося.

Як чалавек, які паспрабаваў пісаць пра мінулае, магу сказаць, грунтуючыся на асабістым вопыце: чаму лёгка пісаць пра беларускую вёску 20-х гадоў пасля Чорнага, Зарэцкага, Коласа, дзе ты самой доляй вымушан як бы ўздымацца на іх вышыню, каб дадаць вартае слова да таго, што яны сказалі, каб, магчыма, нават у чым-небудзь паспрачацца з імі ў імя ісціны? Літаратура — рэч бязлітасная: яна дае права на жыццё толькі таму, хто дакажа права на жыццё ў адкрытай, годнай спрэчцы. Да таго ж: прыклад тых, хто прайшоў першы, не толькі памагае, але і шкодзіць, бо збівае наступнага з самастойнага шляху. А ў літаратуры маюць значэнне толькі свае дарогі.

З другога боку, той, хто піша пра новае першы, мае бясспрэчную перавагу. Яму не трэба цягнуцца асабліва ўгару, каб давесці сваё права, перад ім шырокае поле. І след, які ён пракладвае,— сам па сабе першы.

«Сучаснасць цяжка асэнсаваць»? Чаму дзень, якім ты жывеш, цяжка асэнсаваць? Няўжо гэта так: няўжо мы жывём, не разумеючы сэнсу самых блізкіх дзён? Я думаю, што гэта даволі стэрэатыпная думка, абсалютна беспадстаўная.

Прычына такой з'явы — не ў «асэнсаванні». Прычына ў іншым. Я вярнуся пазней да гэтага, выкажу сваё меркаванне.

У тлумачэнні гэтай з'явы мне здалася вельмі цікавай і разумнай думка, якую выказаў у дыскусійным артыкуле Б. Бур'ян. Бур'ян — ці не ўпершыню ў нашай крытыцы — адзначыў, што ў творчай працы пісьменнікаў дзейнічае як бы закон арганічнасці. Ён гаворыць пра арганічнасць жанру, якім карыстаецца пісьменнік. Я думаю, што абсяг гэтага закону можна і трэба пашырыць: трэба гаварыць пра арганічнасць для пісьменніка тых ці іншых ідэй, тэм, вобразаў.

Я гэту з'яву разумею так, што кожны з нас, дзякуючы свайму, асабістаму жыццёваму вопыту, сваім чалавечым асаблівасцям, схільнасцям, стварае як бы свой свет, у які натуральна, арганічна ўваходзяць тыя або іншыя погляды, інтарэсы, што вызначаюць яго творчую сутнасць, яго шлях. Гэтая з'ява дае, па-мойму, магчымасць зразумець многае з таго, што нас здзіўляе ў

творчых пошуках пісьменніка і з чым мы, на жаль, не лічымся.

Іменна гэта з'ява прычыніла тое, што Я. Колас стаў аўтарам «Новай зямлі» і «На ростанях», што М. Лынькоў напісаў «Векапомныя дні», а П. Пестрак «Сустрэнемся на барыкадах». Яна тлумачыць тую апантанасць, з якой працуе над ваеннымі аповесцямі В. Быкаў. Не будзем спрошчваць з'яву, арганічным можа быць не толькі біяграфічна перажытае, арганічным можа быць таксама і тое, што пражыта сэрцам, што нязмушана, глыбока, арганічна ўвайшло ў сэрца. Таму арганічным для П. Пестрака з'яўляецца не толькі раман «Сустрэнемся на барыкадах», але і яго ж «Серадзібор», што стаў арганічнай часткай яго сэрца. Па гэтай прычыне арганічны для А. Чарнышэвіча «Засценак Малінаўка», для М. Лобана «На парозе будучыні».

Маю права сказаць, што па гэтай прычыне арганічнымі для сябе адчуваю і «Людзей на балоце» і «Мінскі напрамак». Хоць у кожным з гэтых раманаў фармальна мала што з маёй біяграфіі.

Думаю, што ў выбары калізій для раманаў многае значыла не толькі гэта з'ява арганічнасці, але і іншыя прычыны. Сярод іх, бясспрэчна,— свядомае перакананне ў патрэбнасці тваёй працы. Так, пісаў я «Людзі на балоце» і «Мінскі напрамак» таму, што гэтага хацела маё сэрца. Але і не толькі таму. Калі я пісаў «Мінскі напрамак», я свядома хацеў сказаць пра тое, якое яно трагічнае і гераічнае было, тое лета 1944 года, і як пільна трэба берагчы мір на нашай зямлі. «Людзьмі на балоце» я хацеў сказаць: «Ведайце, хто мы. Не забывайце, адкуль мы выйшлі. Толькі тады, калі мы будзем ведаць, адкуль мы, якімі былі, мы можам ведаць, хто мы. Ведаць цану сабе, свайму жыццю». Вядома, я кажу толькі частку таго, самае галоўнае, што вяло мяне ў працы.

У тым, што стварылася такая гаспадарка нашых раманаў, у цэлым дзейнічалі свае законы. Яна склалася такой у аснове сваёй зусім заканамерна, з'яўленне, ва ўсякім разе, большасці раманаў — было выклікана, прадвызначана сур'ёзнымі грамадскімі прычынамі. І ўвага да мінулага была не ад таго, што пра гэта «лёгка пісаць», а ад таго, што мінулае не астыла ў нас, не пакрылася халодным попелам, што яно жыло ў нас, хвалявала, гарэла. І яшчэ ад таго, што літаратура на-

ша — маю на ўвазе прозу, раман — такая маладая, не змагла ў свой час сказаць усяго пра мінулае тады, калі яно было сучаснасцю. Што жыццё, якое мы даследавалі, на полі нашай літаратуры — нешырокімі лапінамі, сярод шырокіх белых плям. Ды і тое, што пасеяна, пасеяна далёка не заўсёды належна, якасна. Тое, што мы называем культам асобы, вельмі адбілася на якасці нашага пасеянага поля.

Ды і няўжо сур'ёзныя людзі могуць сур'ёзна думаць, што мінулае — толькі мінулае, перагарэлае, попел, няўжо цяжка дадумацца, што мінулае ў істоце сваёй — *сучаснасць*, у якой спрасаваны надзённы, найкаштоўны — цаны яму няма! — вопыт!

Вось што яна, у аснове сваёй, тая «нікчэмная» мінуўшчына, якая жыве ў літаратуры толькі таму, што яе «лёгка пісаць».

Гэта зусім не значыць, што мы недаацэньваем значэння твораў пра сённяшні дзень. Творы такія вельмі патрэбны. Але чаму мы павінны кідаць цень на творы пра ўчарашні дзень, на творы, без якіх нельга належна зразумець нашае сёння, без якіх веды пра нашае сёння будуць няпоўныя, неглыбокія. А значыць, і непраўдзівыя. Тым больш што і мінулае мы толькі-толькі пачынаем высвятляць. І гэтых твораў нягуста.

Дарэчы, некалькі слоў пра тое, што ж такое сучаснасць у мастацкім творы? Калі чытаеш развагі пра гэта, то кідаецца, што аўтары артыкулаў пад сучаснасцю ў літаратуры разумеюць толькі сучаснасць тэмы матэрыялу. Але ж сучаснасць ці несучаснасць літаратурнага твора вызначаецца не толькі тэмай, тут жа не меншае — а я лічу, што бясспрэчна большае — значэнне мае якасць ідэй, якія яднаюць і скіроўваюць твор, якасць пачуццяў, якія твор абуджае ў чытача. Гэта асаблівасць літаратуры выклікае такую важную з'яву, што творы, нібы далёкія ад нашых дзён, могуць гучаць вельмі сучасна, нават актуальна. Як, дарэчы, і наадварот: творы на самым новым, гарачым, матэрыяле, здараецца, бываюць непатрэбны сучаснасці, з-за неадпаведнасці нашаму часу іх ідэй і поглядаў.

Калі патрэбна мая думка пра мой апошні раман — «Людзі на балоце», то я скажу: лічу яго зусім сучасным. Сучасным без якіх-небудзь агаворак.

Але паглядзім, якая карціна жыцця народа ўстае з нашых раманаў апошніх гадоў. У. Караткевіч — «Ка-

ласы пад сярпом тваім»: другая палова XIX стагоддзя, рэвалюцыйны рух на Беларусі, выдатная постаць Кастуся Каліноўскага. А. Чарнышэвіч — «Засценак Малінаўка»: пачатак рэвалюцыйнага ўздыму ў XX стагоддзі, пярэдадзень 1905 года. М. Лобан — «На парозе будучыні»: пярэдадзень Кастрычніцкай рэвалюцыі, рэвалюцыйнае змаганне на Беларусі. «Людзі на балоце» — сярэдзіна 20-х гадоў, пачатак савецкага жыцця на Палессі. Р. Сабаленка — «Іду ў жыццё»: станаўленне юнака як савецкага чалавека, 30—40-я гады. І. Навуменка — «Сасна пры дарозе», Я. Брыль — «Птушкі і гнёзды»: Вялікая Айчынная вайна, народ у змаганні з фашызмам, выкрыццё сутнасці фашызму. І. Шамякін — «Сэрца на далоні»: нашы дні, праблемы маральнай годнасці і адказнасці перад часам чалавека ў святле рашэнняў XX з’езда партыі.

Таварышы, агледзьце позіркам тое, што зрабіў наш беларускі раман у гэтыя нямногія гады, уявіце сабе тую шырокую карціну, якую намалявалі нашы раманісты разам. Перад нашымі вачамі, па сутнасці, разгарнулася — а лепш сказаць — разгортваецца — эпапея народнага жыцця амаль за цэлае стагоддзе. Эпапея, што ўвабрала ў сябе найбольш важныя этапы яго далёкай і блізкай гісторыі. Кожны раман у гэтай эпапеі з’яўляецца як бы неабходным раздзелам у вялікай кнізе жыцця, якую піша разам буйнафарматная наша проза.

Чаму ж мы дазваляем сабе папрокі людзям, якія аддана робяць гэта, замест таго каб па справядлівасці ацаніць агульную адданую працу, падзякаваць усім.

Хачу асабліва адзначыць значэнне працы У. Караткевіча. Раман Караткевіча мае і некаторыя слабасці, мы пра гэта адкрыта гаварылі Караткевічу пры абмеркаванні рамана на секцыі прозы Саюза пісьменнікаў. Аднак усе мы пагадзіліся на тым, што раман варты таго, каб яго выдалі. Мы паслалі сваё заключэнне ў выдавецтва: прасілі дырэкцыю сустрэцца з аўтарам, узгадніць тыя заўвагі, якія былі выказаны на абмеркаванні твора ў Саюзе, і выдаць раман.

Трэба выдаць нарэшце раман У. Караткевіча. Наогул, хачу сказаць, што творы гістарычнага плана надзвычай патрэбны нашай літаратуры, вельмі адчуваецца ў ёй недахоп мастацкіх даследаванняў гісторыі народнага жыцця.

Завяршаючы гэтыя развагі, я хацеў бы сказаць пра тое, што з любым добрым, сапраўдным мастацкім творам трэба абыходзіцца з павагаю. Любы добры твор, пра які б час ён ні гаварыў,— каштоўнасць. Добрая літаратура сама па сваёй сутнасці — заўсёды патрэбная. Заўсёды — сучасная. Хочацца разам з гэтым сказаць: больш увагі і павагі да таго, што выбірае для сваёй працы пісьменнік! Лепш кажучы: больш павагі і давер'я да пісьменніцкага сэрца! Давайце будзем больш асцярожныя з папрокамі і тым больш з нападкамі, больш абачлівымі з павучэннямі. Будзем помніць, што сэрца пісьменніка, як і наогул чалавека, патрабуе далікатнага абыходжання.

Таварышы, хачу зноў, з іншых меркаванняў, вярнуцца да выказвання В. Каваленкі, што пісаць пра сучаснасць цяжка таму, што «цяжка асэнсаваць».

Мне здаецца няправільным гэта тлумачэнне таму, што ў ім, як ні дзіўна, не ўлічваецца, бадай, галоўная асаблівасць пісьменніцкай працы. Няўжо цяжкасць нашай творчай працы толькі ў тым, каб асэнсаваць. Я ўжо казаў, што зусім беспадстаўнай лічу думку, быццам цяжка асэнсоўваць тое, што табе блізка, датычыць цябе; тут я хачу рашуча запярэчыць супраць тэзіса, што праблема праблем пісьменніцкай працы — правільна асэнсаваць.

Я, вядома, не супраць таго, што правільна асэнсаваць тое, пра што пішаш, неабходна. Без гэтага добрага твора не напішаш. Але я не магу згадзіцца з думкай, што калі матэрыял правільна асэнсаваны, то ледзь не ўсё зроблена. Колькі такіх твораў, дзе матэрыял правільна асэнсаваны і якія ўсё ж не сталі сапраўднымі мастацкімі творамі!

Як ні дзіўна, дасведчаны літаратуразнаўца В. Каваленка нібы не лічыцца з тым, што пісьменнік — *мастак* і што перад ім заўсёды стаіць задача *па-мастацку* ўвасобіць тое, што ён асэнсаваў. Гэта акалічнасць часта выпускаецца з-пад увагі людзьмі, якія глядзяць на літаратуру збоку, але як мог В. Каваленка, ды і не адзін ён, не аддаць належнай увагі таму, што ёсць аснова творчай дзейнасці пісьменніка. Што пісьменнік — мастак, што асэнсаванне для яго — толькі *пачатак* працы. Што ўсё самае важнае, цяжкое і ў рэшце рэшт вырашальнае ў лёсе твора — будзе потым. У настойлівай і патрабавальнай працы.

Гэта ж факт, што аднолькавыя па ўзроўню асэнсавання творы розняцца майстэрствам. Іменна майстэрства, ступень яго дасканаласці і натхнення, вызначыць лёс твора, яго вартасць.

Відаць, у пэўнай няўвазе да гэтага выяўляецца, часцей за ўсё непрыкметная для нас, інерцыя нядаўніх часоў, калі панаваў погляд на літаратуру як на з'яву сацыялагічную па сваёй сутнасці. Калі пытанні майстэрства мелі як бы другарадную ролю.

На жаль, і ў нашай дыскусіі праблема майстэрства — майстэрства рамана — не стала той выключнага значэння праблемай, ад якой у лёсе нашага маладога беларускага рамана у рэшце рэшт залежыць усё. Таму такой важнай з'явай дыскусіі лічу выступленне Стральцова, яго разумную і цвёрдую думку пра тое, што крытэрый мастацкасці ёсць абавязковы крытэрый каштоўнасці твора.

Ідэя, не ўвасобленая ў належным майстэрстве,— птушка без крылляў. Крытэрыі партыйнасці, народнасці ў мастацкім творы дзейсныя ў той меры, у якой дасканалае яго майстэрства.

Маем падставы з гонарам — і з надзеяй на лепшае — сказаць, што майстэрства нашай прозы — у тым ліку рамана — у лепшых узорах значнае. І, што не менш важна,— яно расце. Як доказ росту майстэрства нашай літаратуры можна лічыць тое, што яна становіцца ўсё больш праўдзіваю і глыбокаю, што яна ўсё больш настойліва адольвае такія грахі нядаўняга, як інфантыльнасць, шкалярства, правінцыялізм у разуменні жыцця, выяўленні чалавека. Мы, на маю думку, ужо добра бачым тую шкоду, якую нясуць літаратуры розныя няпраўды, спрашчэнства, прымітыўнасці, пры ўсёй іх знешняй дабрачыннасці. Усё часцей з нашых твораў чалавек уздымаецца як істота сур'ёзная, разумная, складаная, а не як простая канструкцыя просценькіх дэталей — кольцаў, шрубак і да т. п.

Дарэчы, хацеў бы адзначыць адзін момант у нашай дыскусіі. Вялікі скептык нашых дзён Барыс Бур'ян, пярэчачы аднаму з аўтараў, выказаў сумненне ў тым, што ёсць канцэпцыя ў некаторых нашых творах, у прыватнасці і ў «Людзях на балоце». Як чалавек, што цікавіўся гэтай з'явай, павінен сказаць: ёсць. Думаю нават, што канцэпцыя павінна быць у аснове кожнага сур'ёзнага твора. А інакш твору — грош цана.

Ад усяго сэрца падтрымліваю заяву А. Вярцінскага ў дыскусіі, што раману неабходна жыццёвая мудрасць. Я таксама лічу, што без сур'ёзнага філасофскага напаўнення твор, асабліва такі грунтоўны, як раман, не можа жыць паўнакроўным жыццём.

Вядома, пры гэтым трэба помніць пра тое, што філасофія ў мастацкім творы часцей выяўляецца не проста, не публіцыстычна, а як бы прытоена, у спосабе паказу жыцця і чалавека, іх выяўлення. Таму не дзіва, што калі глядзець на творы непраніклівa, слізгаючы позіркам па паверхні, няцяжка не заўважыць «канцэпцыю», філасофскую аснову. Але такім чынам можна многае не заўважыць...

Таварышы, калі б мяне запыталі, у чым я бачу нашу галоўную задачу, я адказаў бы, можа быць, нецікава, банальна, але з поўным перакананнем у сваёй праўдзе: вучыцца, удасканальвацца, імкнуцца стаць майстрамі.

Усё, скажу зноў, у рэшце рэшт будзе залежыць ад узроўню якасці нашай работы, узроўню майстэрства.

Дапаўняючы гэта меркаванне, хачу выказаць яшчэ адну, як мне здаецца, вельмі важную думку.

Ёсць неадхільная і, можна сказаць, небяспечная для кожнага з нас асаблівасць у літаратуры.

Усе мы, хто пісалі і пішуць, вялікія і малыя, як бы становімся ў адзін рад. Пушкін і Колас, Міцкевіч і Танк, Талстой і Быкаў, Генрых Бёль і Барыс Сачанка. Літаратура злучае дзяржавы і эпохі. Яднае прасторы і час. Для літаратуры няма меж між іх.

Чытач толькі што чытаў Бальзака, а цяпер бярэ тваю кнігу. І няма табе заступкі, няма апраўдання. Ён, чытач, суддзя, мерае ўсё строга, адной меркай. Вядома, меркай большай. Меркай Талстога і Бальзака, Шолахава і Фадзеева. Не лічачыся ні з чым.

У мяне такое адчуванне, што вялікіх тут, у нашай зале, пакуль няма. Я нават думаю, беручы грэх на душу, што няма іх нават у прэзідыуме. Таму — давайце будзем цягнуцца ўгару! Будзем расці, працаваць! Не палохаючыся асабліва вышыні тых вяршынь, што перад намі. Але і не задавольваючыся зробленым.

*1967*

# МАСТЫ ДРУЖБЫ

Пяцідзесяцігоддзе Савецкай улады... У гэтыя гістарычныя дні пісьменнікі нашай многанацыянальнай Радзімы падводзяць вынікі сваёй творчай работы.

Рэдакцыя часопіса «Дружба народов» звярнулася да шэрагу савецкіх пісьменнікаў з просьбай адказаць на пытанні:

Якія творы Вашай літаратуры апошніх год Вы лічыце больш значнымі і цікавымі?

На якія традыцыі роднай літаратуры, як дарэвалюцыйнай, так і савецкай, Вы абапіраецеся ва ўласнай творчасці?

Якое значэнне для прозы і паэзіі Вашай рэспублікі мае знаёмства з вопытам іншых братніх літаратур?

Творчасць якіх пісьменнікаў з іншых рэспублік аказала асабіста на Вас найбольшае ўздзеянне?

Якія творы роднай Вам літаратуры, створаныя ў апошні час, могуць, на Ваш погляд, стаць укладам у агульны сучасны літаратурны працэс?

Якая, на Вашу думку, роля ўсесаюзнай крытыкі ў развіцці літаратуры Вашай рэспублікі?

Вашы адносіны да водгукаў усесаюзнай крытыкі на ўласную Вашу творчасць, якія выступленні крытыкаў Вы лічыце найбольш сур'ёзнымі і плённымі?

Адразу прызнаюся — у пытаннях, якія вы паставілі, самымі цяжкімі мне здаліся два: першая частка першага пытання і трэцяе пытанне.

Першае пытанне цяжкае таму, што цікавых кніг у нашай літаратуры створана нямала, спіс іх і пералік імён мог бы быць даволі доўгі. Калі прыгледзецца ўважліва да ўсяго, што зроблена нашымі пісьменнікамі ва ўсіх жанрах, нельга не падумаць з павагай: літаратура наша жыве багатым, змястоўным жыццём.

Улічваючы, што многае з таго, што напісана ў нас, ужо дастаткова вядома, я хацеў бы звярнуць увагу, напрыклад, на вялікую кнігу нядаўна памёршага выдатнага празаіка, на жаль, амаль невядомага ўсесаюзнаму чытачу, Аркадзя Чарнышэвіча «Засценак Малінаўка». Гэта вельмі сур'ёзная і глыбокая кніга аб жыцці беларускай вёскі ў перадрэвалюцыйныя гады. З цікавымі творамі выступілі таксама яшчэ мала вядомыя ўсесаюзнаму чытачу маладыя празаікі Б. Сачанка (аповесць «Апошнія і першыя») і М. Стральцоў (аповесць «Адзін лапаць, адзін чунь»). Вялікую каларытную кнігу напісала Алена Васілевіч, парадавала вельмі праўдзівай аповесцю «У другую зіму» Лідзія Арабей. У паэзіі ў апошні час цудоўна працуе Аляксей Пысін, які жыве ў Магілёве і радуе ўсіх нас сталым, глыбокім роздумам над жыццём, сапраўднай паэзіяй. Добра працуюць маладыя Анатоль Вярцінскі, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін.

Цяпер пра другую частку пытання — пра традыцыі. Мне здаецца, што пісьменнік сам ніколі не думае пра тое, на якія традыцыі ён будзе абапірацца, якія з іх ён будзе развіваць або пераадольваць. У гэтай справе, па-мойму, трэба быць асцярожным, трэба ўлічваць складанасць узаемаадносін пісьменніка і традыцый. Думаю, што крытыкі нярэдка спяшаюцца з вывадам пра тое, чые традыцыі развівае той ці іншы пісьменнік. Вось і пра мяне пісалі: адны — што я прадаўжаю традыцыі К. Чорнага, другія — што я вучуся ў Я. Коласа. Прыкладна тое ж самае пісалі і пра маіх таварышаў, пра Янку Брыля, Івана Шамякіна, Васіля Быкава. Але што датычыць мяне, павінен прызнацца, што К. Чорнага, выдатнага празаіка, я прачытаў па-сапраўднаму ўжо пасля таго, як пачаў пісаць. Быць больш асцярожнымі ў сцвярджэнні, якія традыцыі пісьменнік развівае, трэба яшчэ і таму, што ў наш час, мабыць, амаль немагчыма знайсці пісьменніка, які абмяжоўваўся б толькі вопытам сваёй літаратуры. Калі ўжо лічыць, што ў літаратуры адзін пісьменнік абавязкова паходзіць ад кагосьці другога, дык можна параіць шукаць папярэднікаў, не вельмі прыглядваючыся да меж рэспублік. І, значыць, да меж літаратур.

Але хочацца сказаць яшчэ і наступнае: тое, што і як піша пісьменнік, вызначаецца не столькі характарам папярэднікаў, асаблівасцямі традыцый, як грама-

дзянскім, жыццёвым вопытам, асаблівасцяміназіранняў, якія хвалююць пісьменніка, клічуць яго да кнігі. Як-ніяк, галоўная крыніца творчасці ў кожнага сапраўднага пісьменніка — жыццё.

На гэтае пытанне я ўжо часткова адказаў. Чытаць таварышаў з братніх рэспублік, ведаць іх кнігі даўно стала настолькі натуральнай справай, што гэта трэба разумець ужо як неабходнасць, як умову паўнацэннага жыцця. Але ведаць, вядома, карысна не толькі тых, хто жыве побач, але і тых, хто далей. Ведаць і літаратуру сацыялістычнай Еўропы, і літаратуру еўрапейскага Захаду, і літаратуру Амерыкі — гэта таксама настолькі неабходная справа, што даказваць карысць яе — значыць, гаварыць азбучныя ісціны.

Хто з пісьменікаў больш уплываў, не магу сказаць. Не думаў ніколі. Не ведаю.

Пра тое, што стане ўкладам у літаратуру, думаю, можа сказаць толькі час. Не будзем спяшацца. Як кажуць, пажывём — пабачым.

Роля гэтая, шчыра кажучы, пакуль не вельмі значная. Галоўным чынам таму, што крытыка ўсесаюзная ўвогуле, як мне здаецца, мала займалася намі. Ды і, на маю думку, мала цікавілася. Таму і мала ведае.

Асабіста мне ў гэтых адносінах, можна сказаць, шанцавала. Больш за ўсё я ўдзячны А. Фадзееву, з якім мне ні разу не давялося пагутарыць, але які вельмі многа сказаў мне сваім пісьмом і шматлікімі заўвагамі на старонках рамана «Мінскі напрамак», прачытанага ім у бальніцы. Заўвагі А. Фадзеева, што ўпрыгожылі палі ўсёй кнігі, дапамаглі мне ўпершыню зірнуць на сябе збоку, зразумець сябе як пісьменніка. Зразумець свае магчымасці і слабасці. Там былі, мне здаецца, і спрэчныя рэчы, але гэта быў вельмі канкрэтны і разумны ўрок. Карысны нават там, дзе я мог бы паспрачацца.

Я ўдзячны С. С. Смірнову, ён прыслаў мне сяброўскае пісьмо задоўга да таго, як стаў вядомы сваімі

брэсцкімі пошукамі. Я яшчэ тады парадаваўся, што нечакана сустрэў чалавека вялікага сэрца.

Многа добрага зрабіла і наша беларуская крытыка. Вельмі прыемна сказаць гэта: у нас у Беларусі працуюць сур'ёзныя, удумлівыя крытыкі: А. Адамовіч, Р. Бярозкін, В. Каваленка, Р. Шкраба, Ул. Юрэвіч, Н. Пашкевіч, Я. Казека. Гэта толькі частка тых, хто добра працуе ў крытыцы. Я заўсёды з павагай прыслухоўваюся да іх, з карысцю чытаю тое, што яны пішуць.

*1967*

## СПРАВА ЖЫЦЦЁВА НЕАБХОДНАЯ

Таварышы, дазвольце пачаць з некаторых разваг агульнага характару.

Мы жывём у незвычайны, не падобны на ніякі іншы час.

Калі нашым дзядам патрэбны былі месяцы, каб дабрацца да берагоў Атлантыкі, калі нашым бацькам трэба было на гэта аддаць тыдні, то сучасныя савецкія лайнеры ТУ-104, ІЛ-18 або французская «Каравела» робяць гэта ўсяго за некалькі гадзін.

Мы жывём у час, калі балістычныя, міжкантынентальныя ракеты адольваюць дарогу, на якую мараходы мінулага трацілі многія месяцы і гады,— за некалькі хвілін.

Мы жывём у час, калі чалавек вызваліў гіганцкую энергію атама і калі гэта энергія — у адной частцы вымушана, для абароны, а ў другой — ваяўніча — для таго, каб трымаць увесь свет у страху — заключана не толькі ў бяспечных мірных стварэннях.

Мы жывём у час, калі за так званае «мірнае» 20-годдзе пасля другой сусветнай вайны, 20-годдзе, якое для нас, на шчасце, з'яўляецца сапраўды мірным, у маштабах планеты ні на дзень не ўціхае няспынная, небяспечная барацьба, гарачая і халодная.

Мы жывём у час, у які на свеце там і тут грымяць так званыя лакальныя войны, калі гэтыя войны згодна некаторых тэорый, што нарадзіліся ў цвёрдых галовах за акіянам, трэба лічыць непазбежнай, нармальнай адзнакай цяперашніх дзён.

У нашых вушах яшчэ гучыць грукат тых бомб, якія шматавалі зямлю Карэі, а ўжо каторы год у палях і джунглях другой, невялікай азіяцкай краіны, якая выцягнулася вузенькай палоскай усцяж акіяна, ірвуцца зноў бомбы, спапяляе ўсё жывое напалм, ідзе самая жорсткая, самая гнюсная вайна новаяўленых, узброе-

ных найдасканалейшымі, найноўшымі сродкамі смерці, сусветных жандараў, якія ўзялі на сябе права распараджацца, як каму жыць на сваёй, на бацькоўскай зямлі.

Мы жывём у час, калі зусім блізка ад нас і ад Францыі — на сапраўды бліжнім Усходзе — стварылася такое становішча, якое былыя воіны маглі б параўнаць з мінай замаруджанага дзеяння. Гэта міна ўключана таксама не без умяшання цвёрдых галоў імперыялістычнай дзяржавы з-за акіяна, і нам выпала на долю гадаць: ці ўдасца выключыць яе, на невядомы час заведзены, механізм, ці яна зноў выбухне новым выбухам, вынікі якога прадбачыць немагчыма.

Няспынныя пагрозы вайной рэвалюцыйнай Кубе і вызваленчая вайна партызан у Анголе, крывавы разбой банд белых наймітаў у Конга (Кіншаса) і зласвесны фашысцкі пераварот у Грэцыі, дзе ўладу гвалтам захапіла ваенная хунта,— усё гэта на нашай «мірнай» зямлі, у наш «мірны» час.

Азіраючыся на ўсё гэта, мы маем права сказаць, што традыцыйныя імкненні народаў бліжэй знаёміцца між сабой, імкненні да дружбы сёння набываюць асаблівае значэнне. Гэта значэнне цяпер вырастае да памераў аднной з важнейшых умоў, ад якіх залежыць жыццё многіх і многіх народаў, будучыня цэлай планеты.

У заўсёды неспакойнай Еўропе, у якой узгарэлася полымя другой сусветнай вайны і якая была яшчэ зусім нядаўна арэнай нечувана жорсткай бітвы, што ператварыла ў руіны і попел вялікія гарады, незлічоныя вёскі, што забрала ад чалавецтва дзесяткі мільёнаў людзей, у заўсёды неспакойнай Еўропе сёння гэта ўмова чалавечага жыцця мае выключнае, надзвычайнае значэнне.

Клопат аб міры, агульны клопат пра спакой на землях Роны і землях Волгі і Дняпра ўжо многія дзесяцігоддзі — і стагоддзі — з'ядноўваў народы Расіі і народы Францыі, прымушаў іх ісці ў адных шэрагах. Мы рады, што сёння, у наш адказны час, многія і многія сыны і дочкі Францыі, яе дальнавідныя дзяржаўныя дзеячы, ідуць той жа дарогай міру, робяць усё магчымае для таго, каб стрымаць сілы вайны і смерці.

Таварышы, гаворачы пра гэта, я ні на хвіліну не забываю, што мы сабраліся тут з поваду святочнай, далёкай ад вайны падзеі — Дзён французскай культуры.

Я гавару пра тую небяспеку, ад якой залежаць шчасце і жыццё людзей у Беларусі, і ў Францыі, і ў любым кутку нашай зямлі, таму, што ад таго, мір ці вайна перамогуць на нашым кантыненце, на нашай планеце, залежаць таксама лёс, жыццё культуры, у тым ліку нашай і французскай.

Пераходзячы непасрэдна да падзеі, з прычыны якой мы тут сабраліся, я хацеў бы перш за ўсё звярнуць Вашу ўвагу на некаторыя асаблівасці адносін між беларускім і французскім народамі.

Як на асноўную асаблівасць мы павінны ўказаць на тое, што адносіны гэтыя ўваходзілі ў той шырокі, у найбольш важных з'явах і праявах добра вядомы ўзаемаабмен, які называўся адносінамі між Расіяй і Францыяй. Цяпер нашы адносіны з Францыяй з'яўляюцца істотнай часткай эканамічнага і культурнага абмену, які вядзе наша савецкая краіна, іншыя рэспублікі Савецкага Саюза з Французскай рэспублікай.

Думаецца, тут няма патрэбы падрабязна напамінаць, якімі цеснымі і разнастайнымі былі сувязі паміж Расіяй і Францыяй хоць бы два з паловай апошнія стагоддзі. У гісторыі адносін Расіі і Францыі за гэты час былі і змрочныя, нават трагічныя моманты, якія раздзялілі абедзве краіны, ставілі па розныя бакі, насупраць,— але гэта моманты былі часовыя, і не яны характарызуюць сталыя ўзаемадачыненні народаў абедзвюх вялікіх дзяржаў. На працягу стагоддзяў жыла ў сэрцах нашых народаў нязменная цікавасць адно да аднаго, шчырая, глыбокая сімпатыя, якая ператварылася ва ўзаемную сардэчную дружалюбнасць.

Дружба народаў Расіі і Францыі можа ганарыцца такімі сваімі прыхільнікамі і працаўнікамі, як Вальтэр і Пушкін, Тургенеў і Флабэр, Пастэр і Мечнікаў,— і многія, многія іншыя выдатныя, сусветна вядомыя дзеячы, якіх няпроста і пералічыць.

Мы ніколі не забудзем таго, што з першых дзён нараджэння нашай Савецкай дзяржавы ў Францыі знайшліся сябры, якія горача памагалі нам у той цяжкі, складаны час, калі ў нас была такая патрэба ў падтрымцы і ў дружбе. На новых старонках нашай дружбы навек залатымі літарамі запісаны высакародныя імёны Анатоля Франса і Рамэна Ралана, Поля Ланжэвена і Фрэдэрыка Жоліо-Кюры.

З гонарам вытрымала наша дружба выпрабаванні апошняй — другой сусветнай — вайны, у якой нашы народы змагаліся плячо ў плячо побач, супраць аднаго ворага — нямецкага фашызму. Як праяву баявога братэрства, якая нас асабліва кранае, мы помнім тое, што ў небе нашай краіны разам з намі змагаліся лётчыкі «Нармандыі-Нёман», многія з якіх аддалі за нашу агульную перамогу самае дарагое, што ёсць у чалавека,— жыццё.

Якім ні кароткім быў бы агляд нашых узаемаадносін, ён быў бы несправядлівым, калі б у ім не былі адзначаны яшчэ два факты асаблівага значэння.

Для нас, грамадзян краіны, якая паставіла на мэце пабудаваць камунізм, такое асаблівае значэнне мае тое, што над вуліцамі і плошчамі французскай сталіцы ўпершыню, няхай на кароткі час, быў узняты чырвоны сцяг Камуны, Парыжскай Камуны, справы якой давёў да перамогі Вялікі Кастрычнік, 50-годдзе якога мы толькі што з такой урачыстасцю адзначылі.

Для нас, камуністаў, асаблівае значэнне мае таксама тое, што матэрыялізм, які нарадзіўся ў Францыі — французскі матэрыялізм,— стаў адной з асноў нашага вялікага вучэння — навуковага камунізма, які ў наш час набыў сусветнае значэнне.

Мы не можам не ўспамінаць з удзячнасцю, што на зямлі Францыі ў змрочныя часы царскага панавання знайшоў прытулак, жыў і працаваў заснавальнік нашай дзяржавы, вялікі сын нашай эпохі Уладзімір Ільіч Ленін. Мы задаволены, што памяць пра Леніна і цяпер Машчыра беражэ сціплы дом на парыжскай вуліцы Мары-Роз.

Таварышы, у вялікай і слаўнай кнізе дружбы, якую стваралі разам многія гады народы Савецкага Саюза і Францыі, ёсць некалькі вельмі цікавых і красамоўных старонак, што сумесна пісалі беларусы і французы.

Нам пакуль што невядомы многія і многія радкі з гэтых старонак — сувязі паміж нашым, беларускім, народам і французамі вывучаны пакуль вельмі мала, гэта карпатлівая і, мне думаецца, вельмі ўдзячная справа яшчэ чакае сваіх даследчыкаў. Але сярод таго, што вядома нам, можна прачытаць такое, што поўна вельмі глыбокага і вельмі высакароднага сэнсу, што не можа не хваляваць неабыякавае чалавечае сэрца.

Хіба, напрыклад, не красамоўна тое, што Гійём Апалінэр — буйнейшы паэт новай Францыі, які зрабіў такі вялікі ўплыў на ўсю сучасную французскую — і не толькі французскую — паэзію,— вядзе радаслоўную сваю з Беларусі ад Кастравіцкіх, памешчыкаў з-пад Навагрудка, якія пасля паўстання 1863 года вымушаны былі пакінуць Радзіму, схавацца ў Італіі. Апалінэр — Апалінар Кастравіцкі — сам вобразна пісаў, што ў ім славянская кроў змешана з лацінскай...

Але пойдзем далей — бліжэй да нашых дзён. Два гады назад, у дні 20-годдзя вызвалення Беларусі, у нас, у Мінску, быў у гасцях жыццярадасны чалавек з Парыжа — інжынер-будаўнік Марсель Сазі. Сярод мноства гасцей, якія з'ехаліся ў святочны Мінск, госць з Парыжа карыстаўся асаблівай увагай: гасцінныя гаспадары, з якімі ён сустракаўся, абдымалі яго асабліва горача, па-братняму. Ці трэба здзіўляцца: дружба Марселя Сазі і яго мінскіх таварышаў нарадзілася ў той час, калі яна асабліва моцна бярэ сэрца — у гады вайны, у беларускіх партызанскіх лясах. Дружба гэта сагравалася цяплом адных і тых жа кастроў, трывогамі і радасцямі адных і тых жа баёў, у адным партызанскім атрадзе, імя якому было «Смерць фашызму». Думаецца, што ад усяго сэрца былі сказаны Марселем Сазі словы: «У часы нашай сумеснай барацьбы супраць фашысцкіх захопнікаў я навучыўся любіць Вашу краіну, якую лічу цяпер сваёй другой бацькаўшчынай».

Як за другую сваю радзіму, змагалася за Францыю маладая беларуская жанчына, якая цяпер жыве ў Мінску і якая ў гады вайны мела званне лейтэнанта французскага Супраціўлення,— Надзея Лісавец. У самым канцы вайны на зямлі Францыі, на востраве Алерон, у берагі якога грымяць хвалі Атлантычнага акіяна, далёка ад ціхай роднай палескай вёскі — у барацьбе за вызваленне Францыі загінуў мой зямляк Валодзя Антоненка.

Год назад, вельмі блізка ад таго месца, дзе пахаваны Валодзя, я бачыў каменныя магільныя пліты, пад якімі пахаваны іншыя нашы землякі — кавалер ордэна Ганаровага легіёна Фёдар Кажамякін, яго таварышы — Іван Кісялёў, Васіль Парэлка. Задуменны, з сівізной у бялявых валасах француз-брэтонец, камандзір аднаго з атрадаў Супраціўлення, казаў, што Іван Кісялёў — родам з Мінска, быў настаўнікам...

Не так даўно пад беларускім горадам Барысавам, у балоце, былі знойдзены рэшткі самалёта, збітага ў гады вайны. Абследаванне матора і рэчаў, што захаваліся, паказала, што на самалёце гэтым лятаў лётчык палка «Нармандыя-Нёман» Жак Гастон, які загінуў, абараняючы беларускае неба і беларускую зямлю...

Такіх фактаў вельмі багата, пра іх цяжка не гаварыць, таму што яны хвалююць, таму што ў іх глыбокі, вялікі сэнс; мы павінны помніць пра іх — памяць пра гэта няхай заўсёды жыве ў нас, у той справе, якая служыць дружбе і братэрству народаў Савецкай Беларусі і Францыі.

Сумесная барацьба ў мінулай вайне была той асновай, на якой пачалося пасля перамогі яшчэ большае збліжэнне нашых народаў, што ў апошнія гады набыло характар шырокага, разнастайнага ўзаемаабмену. Вельмі многа можна было б расказаць пра тое, што зроблена нашым беларускім таварыствам «СССР — Францыя» для азнаямлення французскіх грамадзян з жыццём, бытам, культурай Беларусі. Можна сказаць, што такіх шырокіх сувязей з Францыяй, якія наладжаны цяпер, раней мы ніколі не ведалі. Ніколі не было ў нас такіх разнастайных адносін з вялікімі і малымі гарадамі Францыі, з многімі дэпартаменцкімі аддзяленнямі, ніколі не было ў Францыі такога багацця розных нашых выставак — фота, карцін, дзіцячых малюнкаў, кніг,— такой колькасці гасцінных візітаў.

Думаю, што пра тое, якія шырокія нашы сувязі, можа сказаць той факт, што наша Таварыства дружбы цяпер стала звязана з 68 дэпартаменцкімі і гарадскімі аддзяленнямі таварыства «Францыя — СССР».

З задавальненнем мы можам сказаць пра тое, што ўслед за Бальзакам, Заля і Мапасанам, якія даўно сталі сардэчнымі знаёмымі беларускіх чытачоў, прыйшлі да нас пісьменнікі Францыі нашых дзён — Луі Арагон і Франсуа Марыяк, Арман Лану і Рабер Мерль. З экранаў нашых кінатэатраў амаль не сходзяць французскія фільмы, французская музыка часта гучыць і на сцэнах тэатраў Беларусі, і па беларускаму радыё і тэлебачанні. Нашы гледачы і слухачы шчыра віталі французскіх артыстаў, што прыязджалі да нас: скрыпачку Мішэль Оклэр, салістку Гранд-Опера́ Рыту Гор, міма Марселя Марсо, спевака Шарля Азнавура і многіх іншых.

У гэтым годзе адбылася падзея, якая, можна ска-

заць, узняла нашы адносіны на новую ступень. З 5 мая па 11 чэрвеня гэтага года ў Францыі былі праведзены (упершыню ў гісторыі) Дні беларускай культуры. У Парыжы, Ліёне, Грэноблі і іншых гарадах былі наша дэлегацыя, нашы танцоры і спевакі, нашы турысты. Дні гэтыя выклікалі сардэчную цікавасць у французаў да нашай рэспублікі, да нашай культуры.

7 снежня ў Мінску пачалася другая частка вялікай нашай сустрэчы — Дні французскай культуры ў Беларусі. У Мінск прыехала дэлегацыя з Францыі на чале з Нацыянальным прэзідэнтам Таварыства «Францыя — СССР» панам Раймонам Шмітлэнам. У кіназалах Мінска будуць паказаны французскія фільмы, ва ўстановах адбудуцца вечары, прысвечаныя французскай культуры. У Мастацкім музеі БССР адкрыецца выстаўка карцін французскіх мастакоў, у бібліятэцы імя Леніна — выстаўка французскай дзіцячай кнігі. У Музеі Вялікай Айчыннай вайны з гасцямі з Францыі сустрэнуцца ветэраны мінулай вайны. Сустрэчы, прысвечаныя Францыі, будуць таксама ў Жодзіне, у Баранавічах, Брэсце...

Дні французскай культуры, як можна бачыць ужо з гэтага, далёка не поўнага пераліку, будуць запоўнены сустрэчамі і знаёмствамі. Няма ніякіх падстаў сумнявацца, што яны будуць спрыяць далейшаму ўзмацненню дружбы нашых народаў, справе і высакароднай, і жыццёва неабходнай у наш вялікі і неспакойны век.

*1967*

# ЗЫЧЫМ ВАМ КНІГ

Дарагія таварышы, дарагія сябры! З вялікай любоўю, з самых глыбінь сэрцаў шлюць вам вітанне вашы найбліжэйшыя пабрацімы — беларускія пісьменнікі.

Мне выпаў гонар пацвердзіць тут вам нашу нязменную любоў, якая нарадзілася ў незапомныя часы і якая не толькі не гасне, а год ад года гарыць усё больш яскравым, моцным полымем!

Мы, як і раней, любім вашы стэпы і вашы моры, вашы сучасныя гарады і белыя вашы хаты, вашы песні і вашы кнігі. Мы з хваляваннем братоў сочым за ўсім, што вы робіце, за кожным вашым крокам, і я не перабольшу, калі скажу, што і ў гэтыя дні беларускія пісьменнікі думкамі з вамі, у гэтай зале, услухоўваюцца ў вашы прамовы, жывуць вашымі турботамі і надзеямі.

Хтосьці сказаў — у літаратуры няма вялікіх і малых народаў. Гэта прыгожы парадокс, і ў ім ёсць свая ісціна. Маленькія краіны далі свету вялікіх Андэрсена і Ібсена, а яшчэ меншая Ісландыя — сучаснага Лакснеса.

І ўсё ж ісціна ў гэтым парадоксе не ўся. Не можа не адчуваць літаратура прастору, шырачыні, сілы той зямлі, на якой яна ўзрастае. Не выпадкова такая магутнасць і такая шырачынь у песнях і думах Тараса Шаўчэнкі, у лірыцы і драмах Лесі Украінкі, у гневе і рэвалюцыйных перакананнях Івана Франка.

У вас слаўная сучаснасць, што добра паказвае ваш з'езд, у вас вялікая будучыня. Невычэрпныя крыніцы, што жывяць украінскую літаратуру, і не трэба быць прарокам, каб прадказаць, што блізкія і няблізкія будучыя гады дададуць ёй моцы і красы новымі талентамі і новымі цудоўнымі творамі, цешачы і радуючы ўсіх, каму дарагая ўкраінская літаратура, наша савецкая культура.

Сябры, думаю, што гэта і шчасце — належаць да вялікай літаратуры, і разам — вялікая адказнасць. Вя-

лікая гэта адказнасць — гаварыць ад імя сарака пяці мільёнаў, быць у літаратуры пасланцам сарака пяці мільёнаў. Няхай гэтае адчуванне жыве заўсёды ў вас, акрыляе вас, дае вам дужасці, няхай яно вядзе вас да новых і новых поспехаў!

Дарагія сябры, ведайце заўсёды, што мы з любоўю сочым за вамі, зычым вам кніг, якія хвалявалі б і захаплялі сэрцы людзей любай нашай Украіны, усёй нашай савецкай Бацькаўшчыны, усяго свету!

Шчасця, вялікай будучыні роднай сястры нашай — украінскай савецкай літаратуры!

*1967*

# НАШ САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ

Таварышы, перш за ўсё я хацеў бы скіраваць Вашу ўвагу на некаторыя асаблівасці жыцця нашага Саюза пісьменнікаў, расказаць пра тое, што хвалюе нашых празаікаў, паэтаў і іншых работнікаў літаратуры, выказаць нашы спадзяванні.

Саюз пісьменнікаў Беларусі сёння — адна з самых вялікіх творчых арганізацый рэспублікі і адна з буйнейшых пісьменніцкіх арганізацый у краіне. У нашых радах цяпер — 243 чалавекі. Рады нашы, адзначым як добры факт, хутка раслі. Толькі за сем апошніх гадоў Саюз пісьменнікаў Беларусі пабольшаў на семдзесят пяць чалавек. Маем падставы сказаць: пры тым, што новыя члены Саюза пісьменнікаў — людзі розных здольнасцей — у большасці гэта людзі бясспрэчна таленавітыя, яны даказалі права быць у Саюзе пісьменнікаў добрымі творамі. Сярод маладых, што ўступілі ў гэтыя гады, ёсць пісьменнікі, якія выдалі кнігі не толькі ў Мінску, але і вытрымалі няпросты экзамен у маскоўскіх выдавецтвах, з поспехам выйшлі на ўсесаюзную вышыню. Сярод іх можна адзначыць, напрыклад, такіх нашых таварышаў, як Рыгор Барадулін, Іван Пташнікаў, Барыс Сачанка, Міхась Стральцоў, Вячаслаў Адамчык, больш маладыя — Яўгенія Янішчыц, Вольга Іпатава. Я мог бы назваць яшчэ многія імёны.

Нас радуе, што беларуская літаратура ўвесь час папаўняецца новымі сіламі, якія ўносяць у нашы рады адчуванне маладосці, юначага запалу.

Можна сказаць, што наша арганізацыя цяпер у асноўным складаецца з пісьменнікаў, якіх калі і нельга назваць зусім маладымі, то ва ўсякім разе, яны яшчэ далёка да той мяжы, калі людзей завуць пажылымі. З двух з палавінай соцень нашых таварышаў — больш за дзвесце чалавек пачалі сваю творчую дзейнасць па-

сля вайны. Гэта значыць, што наша пісьменніцкая сям'я ў асноўным складаецца з людзей, якія або гартаваліся ў баях мінулай вайны, або ўвайшлі ў свядомае жыццё пасля вайны.

Мы высока цэнім тое, што зрабілі для літаратуры ў пасляваенны час слаўныя нашы майстры Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, але разам з тым трэба сказаць, што пасляваенныя гады былі гадамі надзвычайнага прытоку ў літаратуру новых сіл і росквіту маладых пісьменнікаў той пары. У вайну і пасля вайны ў вялікай і яркай красе зазіхацеў талент Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, якія пачыналі яшчэ да вайны, але разгарнуліся шырока толькі ў час вялікага подзвігу нашага народа.

Гарачым, пякучым болем, прагай жыцця і радасцю працы былі прасякнуты творы тады яшчэ зусім маладых, але багатых жыццёвым вопытам — былога партызана Янкі Брыля, былога ваеннага журналіста Кастуся Кірэенкі, былога зенітчыка Івана Шамякіна, салдата Валгаграда Анатоля Вялюгіна, пяхотнага лейтэнанта Аляксея Кулакоўскага. Іх творы, у многім яшчэ няспелыя, захаплялі чытачоў шчырасцю, хваляваннем, нявыдуманасцю, якія ішлі ад перажытага і якія не маглі пакідаць абыякавымі чытачоў. Вайна, гора і хараство народнага подзвігу глыбока узрушылі і некаторых пісьменнікаў ранейшых пакаленняў, што як бы адчулі другую маладосць. Хочацца ўспомніць тут Піліпа Пестрака, Васіля Вітку, Макара Паслядовіча і асабліва Міхася Лынькова, які з юначай энергіяй, натхнёны славай народа, даў чытачам Беларусі эпапею «Векапомныя дні».

Мы добра бачым недахопы твораў тых гадоў, але, не заплюшчваючы вачэй на гэта, мы не можам не сказаць з гонарам, што гэта былі для беларускай літаратуры гады хуткага росту, гады творчага ўздыму, гады, калі беларуская літаратура не толькі на ўсю рэспубліку, але на ўвесь Савецкі Саюз заявіла, што яна жыве і жыве паўнакроўна, што ў ёй мацнеюць новыя сілы, новыя таленты і што ад яе можна многа чакаць. У гэтыя гады пачала незвычайна расці ўвага да беларускай літаратуры з боку чытачоў усёй Савецкай краіны, расці яе аўтарытэт, які цяпер перарос трывала ў аўтарытэт адной з мацнейшых літаратур нашай Радзімы.

«Мы шли волна за волной»,— успамінаў калісьці А. Фадзееў. Як хваля за хваляй, ішлі пасля вайны пакаленні беларускіх пісьменнікаў.

За першым пасляваенным пакаленнем хваляй прыйшло другое. Гэта пакаленне, можна сказаць, было ўжо не такім аднародным, як папярэдняе, у яго прадстаўнікоў была прыкметная розніца ў мінулым вопыце: тут былі і былыя франтавікі, якія з розных прычын не маглі пісаць раней, і зусім маладыя хлопцы і дзяўчаты, што бачылі вайну дзіцячымі вачамі і перажылі яе дзіцячымі сэрцамі. Амаль адначасова прыйшлі да нас пісьменнікі-франтавікі Іван Навуменка, Васіль Быкаў, Алесь Асіпенка, Аляксей Карпюк і багата маладзейшыя Барыс Сачанка, Рыгор Барадулін, Іван Чыгрынаў.

Гэта вельмі розныя па гадах і па вопыту людзі, але прыйшлі яны ў адзін час, час складаны, тады, калі сэрцы многіх савецкіх людзей балюча і часта разгублена адгукаліся на невядомыя датуль жорсткія факты. Нам усім нялёгка было адкрываць сабе гэтыя факты ў дзейнасці чалавека ў кіцелі генералісімуса, чалавека з імем якога мы ішлі дарогамі вайны, з вобразам якога былі звязаны самыя дарагія думкі.

І калі гэты факты нялёгка перажылі мы, то ці дзіўна, што асабліва востра яны адбіліся ў душах маладых людзей, якія сустрэліся з такой нялёгкай праўдай у інстытуцкіх аўдыторыях, за школьнай партай, якія толькі пачыналі сваю творчую, ды і жыццёвую дарогу. Думаю, гэтым тлумачацца некаторыя асаблівыя настроі ў творах той пары — неўласцівы іх папярэднікам скептыцызм, нязвыклая рэзкасць у ацэнках, схільнасць бачыць мінулае ў адных змрочных фарбах.

З гэтым хацелася мне даць уяўленне пра тое, як выяўляліся ў творчым асяроддзі тыя цяжкасці, якія перажывала наша краіна ў недалёкім мінулым, растлумачыць прычыны некаторых настрояў сярод творчых работнікаў.

Я зрабіў такі падрабязны агляд нашых пісьменніцкіх радоў для таго, каб паказаць рэальны стан нашага калектыву, паказаць, што пісьменніцкая арганізацыя рэспублікі — арганізацыя складаная, што ў ёй людзі рознага вопыту, рознай жыццёвай і творчай загартоўкі.

Каб малюнак нашага жыцця быў поўны, павінен сказаць вам пра яшчэ адну заклапочанасць многіх

пісьменнікаў Беларусі. Гэта заклапочанасць была выклікана нездаровымі, несправядлівымі адносінамі да беларускай літаратуры ў школах, у выдавецкай справе, фактамі непавагі, а часам і знявагі да яе.

Трэба сказаць, тут падагрэлі страсці скараспелыя вульгарызатарскія развагі некаторых «тэарэтыкаў», якія самаўпэўнена і настойліва заяўлялі пра тое, што нацыянальныя мовы аджылі сваё, ці ў лепшым выпадку — аджываюць. Асабліва багата ў распальванні гэтага неспакою зрабіў сваімі артыкуламі зусім невядомы датуль дагестанскі крытык Ахед Агаеў. Артыкулы гэтыя, як маглі вы заўважыць, выклікалі цэлую палеміку ў друку.

Жыццё мовы, лёс мовы — гэта клопат, які жыве ў сэрцы многіх пісьменнікаў. Клопат вельмі глыбокі і вельмі чулы сэрцу. Глыбіню, значэнне яго можна адчуць, напрыклад, у такіх радках Расула Гамзатава, выдатнага савецкага паэта: «И если завтра мой язык исчезнет, то я готов сегодня умереть». Сільва Капуцікян, армянская паэтэса, у вершы, звароце да сына, прасіла: «И если мать родную ты забудешь, армянской речи не забудь».

Гэтыя радкі могуць даць уявіць, як адгукаліся многія пісьменнікі на заявы, падобныя тым, што рабіў А. Агаеў.

Таму, думаецца, не павінна здзіўляць тое, што пасля даволі доўгага часу блытаніны ў гэтым пытанні і неспакою, выкліканага ёю, быў вельмі горача прыняты пісьменнікамі ўсіх пакаленняў цвярозы, разважны артыкул у «Правде» ад 17 лістапада гэтага года,— «Ленинское учение по национальному вопросу и современность». Сэнс гэтага артыкула сканцэнтраваны ў наступнай выснове: «КПСС исходит из того, что в области национальных взаимоотношений особенно недопустимы поспешность, субъективизм, волевые решения». Артыкул грунтуецца на найважнейшым указанні У. І. Леніна, якое ён зрабіў у 1921 годзе і якое вызначае характар ленінскай палітыкі ў нацыянальным пытанні: «Это мировой вопрос, без преувеличения мировой. Тут надо быть архистрогим... тут шутить нельзя, тут надо быть 1000 раз осторожным» (т. 53, стар. 190).

Не павінна быць сумнення ў тым, што ленінская дзейнасць у нацыянальным пытанні будзе заўсёды карыстацца ўхвалай і падтрымкай дзеячаў літаратуры.

За дзесяць папярэдніх гадоў беларуская літаратура прайшла нялёгкі, але бяспрэчна плённы шлях.

Відаць, ёсць неабходнасць, хоць бы ў сціслых адзнаках, ахарактарызаваць асаблівасці гэтага шляху, тых задач, якія літаратура вырашыла ў сваім развіцці.

Пры той настойлівай, моцнай дзейнасці, якую партыя вяла супраць усякіх парушэнняў сацыялістычнай законнасці, супраць суб'ектывізму і пражэкцёрства, сталі яскрава відаць і заганы некаторых ранейшых твораў нашай літаратуры. Пафас беларускай літаратуры наступных гадоў быў накіраваны на пераадольванне розных абліччаў няпраўдзівасці ў творах, неадпаведнасці мастацкіх з'яў жыццёвым, бяздумнай, павярхоўнай ілюстрацыйнасці. Імкненні, якімі жылі беларускія пісьменнікі, былі як бы водгукам на тую вялікую, настойлівую працу, якую вялі партыя, увесь народ, адольваючы саматужніцтва, верхаглядства, умацоўваючы разумныя, навуковыя метады ў кіраванні народнай гаспадаркай, усім жыццём краіны. Рост беларускай літаратуры ў гэты час быў звязаны з узмацненнем рэалістычных асноў твораў, з больш глыбокім пранікненнем у жыццё і душы герояў, з імкненнем паказваць жыццё ва ўсебаковых, дыялектычна складаных сувязях. Працэс гэты быў для многіх пісьменнікаў нялёгкі, многім з нас давялося крытычна перагледзець, пераацаніць нанава зробленае раней — працэс гэты адзначаны не адной гарачай спрэчкай на старонках нашых газет і часопісаў, на пісьменніцкіх сходах. Але, аглядаючыся назад і акідваючы позіркам тое, што робіцца цяпер, мы можам з упэўненасцю сказаць, што ні роздум, ні спрэчкі нашы не прайшлі дарэмна, літаратура стала больш глыбокай, больш праўдзівай, а значыць, і больш карыснай народу.

Наша літаратура ідзе да пяцідзесяцігоддзя Кастрычніка са значнымі здабыткамі ў розных жанрах. Прыемна адзначыць, што добрыя кнігі ўсё часцей выпускаюць не толькі старэйшыя вопытныя літаратары, але і маладыя, што некаторыя маладыя пісьменнікі ўжо з першых кніг заяўляюць пра сябе як людзей сур'ёзных, з добрай культурай творчасці. Заслугоўвае ўхвалы, напрыклад, першая кніга паэта Васіля Зуёнка «Крэсіва». Сур'ёзным роздумам аб жыцці, уменнем выказаць думкі і клопаты сучасніка вызначаюцца зборнікі ўжо не зусім маладых паэтаў Генадзя Бураўкіна «Дыханне»,

Анатоля Вярцінскага «Тры цішыні». Надзвычайнай вобразнай шчодрасцю, яркасцю, своеасаблівасцю вылучаюцца вершы Рыгора Барадуліна. Вельмі хораша разгарнуўся ў апошнія гады паэтычны талент Аляксея Пысіна, нашага таварыша, які жыве ў Магілёве і які выпусціў глыбокую кнігу «Мае мерыдыяны». Нямнога, але сур'ёзна, з філасофскім роздумам піша Аляксей Русецкі, аўтар паэмы «Яго вялікасць». Вельмі добра, з маладым запалам працуюць нашы ветэраны ў паэзіі — Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк. Іх паэзія — гэта ўсхваляваны лірычны летапіс нашага імклівага часу, летапіс, напісаны людзьмі вялікага душэўнага багацця. Узрушана, закахана ў жыццё піша Пятрусь Броўка.

Рад твораў, якія ўзбагацілі нашу літаратуру, стварылі нашы празаікі. І тут можна адзначыць поспех маладых, такіх, як Барыс Сачанка, які за ўдалай аповесцю «Пакуль не развіднела» даў глыбокую, поўную роздуму аб жыцці, клопату пра мір аповесць «Апошнія і першыя». З паэтычнай аповесцю «Адзін лапаць, адзін чунь» выступіў Міхась Стральцоў. Над першым сваім раманам «Плач перапёлкі» працуе Іван Чыгрынаў. Прыкметна вырас у апошнія гады Алесь Асіпенка. Пасля рамана «Птушкі і гнёзды», што выклікаў водгукі ў чытачоў і крытыкі, нізку мініяцюр «Жменя сонечных промняў» даў Янка Брыль. З новай аповесцю «Мост» да цыкла «Трывожнае шчасце» выступіў Іван Шамякін. Часопіс «Полымя» пачаў друкаваць новы раман Міколы Лобана «Гарадок Устронь», у якім аўтар расказвае пра лёс герояў, вядомых чытачу з рамана «На парозе будучыні».

У галіне крытыкі трэба адзначыць працы Рыгора Бярозкіна «Свет Купалы», Нічыпара Пашкевіча «На шырокіх шляхах жыцця» — пра актуальныя праблемы сённяшняй літаратуры, кнігі Рыгора Шкрабы, артыкулы Віктара Каваленкі, Дзмітрыя Бугаёва, Уладзіміра Юрэвіча і многіх іншых. Радуе нас тое, што ў мінулым годзе была завершана вялікая праца над двухтомнай «Гісторыяй беларускай савецкай літаратуры», якая створана калектывам супрацоўнікаў Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР.

На сцэнах тэатраў ішлі і ідуць п'есы нашых драматургаў Аркадзя Маўзона, Кастуся Губарэвіча, Анатоля Дзяледзіка.

Добрыя спадзяванні ў нас на гэты год. Чакаем мы новых твораў ва ўсіх жанрах — у прозе, паэзіі, драматургіі, крытыцы. Спадзяёмся, што юбілейны год будзе цікавы, змястоўны — сапраўды юбілейны.

Тое, што беларускія пісьменнікі прыходзяць да юбілею Савецкай краіны з немалымі поспехамі, зусім не азначае, што ў Саюзе пісьменнікаў пануе бесклапотны настрой. У нас ёсць нямала нявырашаных праблем, нямала вялікіх клопатаў. Галоўны з іх — клопат пра высокую ідэйную і мастацкую вартасць твораў нашых пісьменнікаў. Побач з добрымі яшчэ нярэдка выходзяць да чытача творы пасрэдныя, нудныя. Мала ў нас твораў пра сённяшняе жыццё вёскі і асабліва пра жыццё рабочых; мала добрых нарысаў, добрых кніг для дзяцей, добрых публіцыстычных твораў.

Многа клопату — значыць, многа працы. Беларускія пісьменнікі гатовы працаваць. Мы створым творы, вартыя вялікага нашага народа.

*1967*

# ПРА ТЭХНІЧНЫ ПРАГРЭС І ТВОРЧЫ НЕСПАКОЙ

Таварышы, аглядваючы тое, што зрабілі ў мінулым юбілейным годзе работнікі творчых арганізацый сталіцы, я думаю, можна сказаць, што зроблена нямала. Варта толькі нагадаць, што дзякуючы вялікай працы многіх творчых работнікаў з поспехам прайшлі дэкада ўзбекскай культуры ў Беларусі, Дні беларускай культуры ў Маскве. Дазволю сабе паведаміць Вам, што ў мінулым годзе толькі па лініі Бюро прапаганды мастацкай літаратуры праведзена 2312 выступленняў беларускіх пісьменнікаў — перад працоўнымі ўсіх абласцей рэспублікі, перад воінамі Савецкай Арміі. У самым канцы мінулага года Саюз пісьменнікаў правёў семінар маладых літаратараў, у якім прынялі ўдзел многія сталыя пісьменнікі нашай рэспублікі, кіруючыя партыйныя і камсамольскія работнікі. У Саюзе пісьменнікаў былі сустрэчы з настаўнікамі з Беластока і Брэста, з работнікамі гарадскіх і рэспубліканскіх бібліятэк, з навучэнцамі прафтэхвучылішч, сустрэчы з кампазітарамі, фізікамі, архітэктарамі і г. д.

Мы многае зрабілі для наладжвання дзелавых адносін з зарубежнымі пісьменнікамі. Многія беларускія пісьменнікі ездзілі за межы краіны, а мы ў сваю чаргу прымалі, знаёмілі з нашай рэспублікай і нашай культурай замежных гасцей. У нас былі англічанін Уолтэр Мэй, кубінец Самюэль Фейхоо, паўднёва-афрыканскі пісьменнік Алекс Ла Гума, балгары Найдэн Вылчаў і Андрэй Германаў, палякі Яўгеніюш Кабац і Юльян Пшыбось...

Можна было б многа расказваць пра наша жыццё: яно было багатым і цікавым,— але час абмежаваны, і я спынюся на гэтым, абапіраючыся на тое меркаванне, што ўсё, найбольш вартае ўвагі, ці ўжо вядома, ці будзе вядома, дзякуючы газетам, радыё і т. п.

Я хачу падзяліцца з вамі некаторымі агульнымі

развагамі, якія нас хвалююць. Хочацца мне пачаць гэтыя развагі ў вясёлым плане, з пэўнай доляй жарту, але ў жарце, як вядома, бывае нярэдка сур'ёзны намёк. Такі намёк будзе і ў пачатку маіх разваг.

Мы, творчыя работнікі, з задавальненнем і, можна сказаць, з зайздрасцю слухаем лічбы, якія гучаць з гэтай трыбуны, у выступленнях рабочых, кіраўнікоў прадпрыемстваў. Вялікі сэнс ёсць у гэтых лічбах: мова лічбаў гаворыць пра тое, як хутка расце наш горад, яго прамысловасць. Яны гавораць пра небывалы тэхнічны прагрэс.

У нас, у літаратуры і мастацтве, становішча, як відаць з папярэдняга, на жаль, іншае, і лічбы нашы сціплыя, і зусім кепска ў нас, скажам проста, з тэхнічным прагрэсам. Навукова-тэхнічная рэвалюцыя нам, трэба сказаць, памагае мала.

Пры дзівосным тэхнічным прагрэсе, які, мы бачым ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, у большасці творчых арганізацый тэхніка, як і год назад і многія гады да гэтага, скажам адкрыта, стаіць на самым нізкім узроўні. Нягледзячы на тое, што на кожным з'ездзе адбываюцца змены ў кіраўніцтве і кіраўніцтва, вядома, удасканальваецца, тэхніка ніяк не ўнядраецца ў творчую справу, аб чым і прыходзіцца самакрытычна дакладваць вам, дарагія таварышы дэлегаты.

Нядаўна ў Саюзе пісьменнікаў была сустрэча з філосафамі і фізікамі, яны гаварылі, што ўдалося стварыць кібернетычныя машыны, робаты, якія ўжо нават пішуць вершы — аб прыродзе, філасофскія вершы. Кажуць, робаты могуць пісаць нават пра каханне. Нашы вучоныя настроены былі вельмі аптымістычна: на іх думку, недалёкі той час, калі кібернетычныя робаты змогуць замяняць чалавека ва ўсім.

Нам прачыталі з гонарам адзін верш, напісаны робатам. Верш напісаны без граматычных памылак, з рыфмай — ёсць склад і лад: у ім не хапала дробязі — таго, што называюць «божай іскрою», не было сэрца, душы. Такія вершы пішуць у нас і людзі — якіх завуць графаманамі. Як бы там ні было, нам у Саюз пісьменнікаў пакуль не выдзелілі ні аднаго кібернетычнага робата, усе члены Саюза пісьменнікаў тыя звычайныя жывыя істоты, паходжанне якіх вядзецца ад старажытнасці, і карыстаюцца нашы пісьменнікі тымі тэхнічнымі сродкамі, якія былі ў век сахі, якімі карыста-

ліся, прыкладна, старык Гамер і Пушкін. Бо нельга ж, усім вядома, аўтаматычную ручку лічыць сапраўдным сучасным аўтаматам.

Па гэтай прычыне, павінны прызнацца, прадукцыйнасць, пра вялікі рост якой тут з гонарам гаварылі многія прадстаўнікі розных галін прамысловасці, у працы пісьменнікаў вырасла за многія гады на ноль цэлых і ноль дзесятых — ніяк не вырасла, не толькі ў Беларусі, а і па ўсім Саюзе. Раманы і паэмы як пісаліся раней, так і цяпер пішуцца марудна: раманы — цэлымі гадамі. На пісанне рамана, бывае, прыходзіцца затрачваць столькі часу, колькі цяпер аддаецца на тое, каб пабудаваць цэлы горад.

Адным словам, з механізацыяй у нас вельмі слаба, а калі ўлічыць тое, што жыццё ўсё ўскладняецца і пісьменніку трэба ведаць усё больш і больш, і калі ўлічыць, што патрабаванні да пісьменнікаў з боку чытачоў, якія выраслі, усё растуць, то стане ясна, што пісаць (і наогул займацца творчай працай) становіцца ўсё цяжэй.

Шолахаў у адным з выступленняў высмейваў статыстыку ў пісьменніцкай працы. Поспехі літаратуры не вымерваюцца колькасцю напісаных кніг — адзін раман, бывае, больш важыць, чым дзесяткі, а то і сотні іншых. Галоўны клопат Саюза пісьменнікаў і ўсіх іншых творчых саюзаў накіраваны на стварэнне твораў высокіх па ідэйных і мастацкіх якасцях. Мы, на жаль, павінны сказаць, што да гэтага часу з'яўляецца нямала твораў дробных па тэме, нізкіх па мастацкіх вартасцях. Ёсць і такія выпадкі, калі добрыя, значныя ідэі не падмацоўваюцца добрымі мастацкімі якасцямі, калі нізкі мастацкі ўзровень фактычна дыскрэдытуе добрую ідэю, добрыя намеры аўтара. Як прыемны факт мы павінны адзначыць, што ў творчых саюзах зніклі такія настроі, калі твору, у якім была толькі вартая ідэя, даравaліся ўсе мастацкія грахі і твор аб'яўляўся новым дасягненнем культуры рэспублікі. У духу гэтай высокай патрабавальнасці прайшоў нядаўна, напрыклад, сход празаікаў нашага Саюза пісьменнікаў, на якім абмяркоўваліся вынікі мінулага года і на якім вельмі патрабавальна ацэньвалі нашы дасягненні крытык Дзюбайла, празаікі Адамчык, Стральцоў і іншыя.

Было б, аднак, няправільным не заўважаць, што патрабавальнасць перамагае яшчэ не заўсёды, што побач з ёю жывуць яшчэ і факты даравання недахопаў, за-

хвальвання. У часопісе «Маладосць», № 1 здольны крытык А. Яскевіч, па-мойму, ранавата піша пра таленавітага празаіка У. Караткевіча, што творы яго «з цягам часу, магчыма, стануць у адзін шэраг з вядомымі гістарычнымі хронікамі Вальтэра Скота ў англічан, Генрыха Сянкевіча ў палякаў, Алаіса Ірасека ў чэхаў».

Думаю, што адсутнасцю належнай патрабавальнасці тлумачыцца тое, што на экраны трапляе слабы фільм студыі «Беларусьфільм» «Апошні хлеб», а на сцэну спектакль «Блакада» — у тэатры Янкі Купалы і інш. Трэба сказаць, што павышэнне ідэйнай і мастацкай якасці твораў мастацтва і літаратуры застаецца праблемай «нумар адзін» усіх творчых работнікаў рэспублікі.

Калі гаварыць пра тэматычны характар нашай творчасці, то трэба сказаць: хацелася б, каб у кнігах, на сцэне, на экране нашы чытачы і гледачы часцей бачылі б нашых сучаснікаў, асабліва рабочых людзей. Адзначаючы гэта, я хацеў бы, для справядлівасці, адзначыць і тое, што пры ўсім гэтым нашы творчыя саюзы, у прыватнасці Саюз пісьменнікаў, жывуць сур'ёзным, глыбокім жыццём, добра адчуваюць пульс нашай сучаснасці. Высокай ацэнкі заслугоўвае нястомная, самаадданая праца паэтаў М. Танка, П. Панчанкі, А. Пысіна, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, празаікаў П. Пестрака, М. Лобана, Я. Брыля, А. Кулакоўскага, А. Асіпенкі, І. Пташнікава, Б. Сачанкі і многіх іншых. Хачу адзначыць працу І. Дуброўскага і В. Палтаран, што развіваюць жанр сур'ёзнага нарыса пра актуальныя праблемы сельскай гаспадаркі.

Я хацеў бы сказаць пра тое радаснае хваляванне, якое выклікаюць некаторыя работы студыі хранікальна-дакументальных фільмаў. Студыя ўвесь час «трымае руку» на пульсе нашага жыцця, аб гэтым гавораць такія яе фільмы, як «Арліная крыніца», «Дарога без прывала», «Памяць» і іншыя. Хоць у розных відах мастацтва аналогіі — рэч рызыкоўная, я адважуся сказаць, што ў некаторых адносінах работа студыі дакументальных фільмаў павінна была б быць узорам для студыі «Беларусьфільм».

Студыя мастацкіх фільмаў «Беларусьфільм» дала некалькі нядрэнных твораў, і ўсё ж, па майму перакананню, яна заслугоўвае вельмі сур'ёзнай крытыкі.

Аглядваючы тое, што зрабіла студыя-фабрыка «Беларусьфільм», мімаволі прыходзіш да нярадаснага вываду: вельмі мала дала студыя народу сапраўдных твораў. Ствараецца ўражанне трывожнай адарванасці студыі ад сапраўднага жыцця нашага народа, абыякавасці да клопатаў і спадзяванняў нашых людзей. Мы добра помнім той час, калі нашу студыю крытыкавалі за яе павышаную любоў да крымскіх берагоў, а вось на экраны выходзіць надуманы фільм пра жыццё студэнтаў Маскоўскага універсітэта «Тысяча вокан». Гэты факт важны тым, што ў студыю дасюль трапляе многа выпадковага, што дасюль студыя ахвотна прыбірае тое, што не прымаюць на лепшых студыях, што трапляе па прынцыпу — «на табе, божа, што мне не гожа». Незайздроснае становішча нашай студыі асабліва прыкметна, калі прыгадаць рост у апошні час суседкі — Літоўскай студыі, якая расказала пра свой народ у такіх выдатных фільмах, як «Ніхто не хацеў паміраць» і «Лесвіца ў неба».

У нас няма такіх фільмаў не толькі па майстэрству, але і па важнасці расказанага пра народ. І апошняе вельмі характэрна. Я ведаю, што, апраўдваючы такое становішча, работнікі студыі будуць спасылацца на няхватку сцэнарыяў. Гэта спасылка беспадстаўная: толькі абыякавасцю можна вытлумачыць тое, што тады як траціліся час і сілы для скараспелых, выдуманых сачыненняў Памешчыкава і іншых, ніхто не варухнуўся, каб вывесці на кінаэкран такія выдатныя творы аб нашым народзе, як «Сустрэнемся на барыкадах», як «Векапомныя дні», як «Птушкі і гнёзды», «Сэрца на далоні», як дзесяткі іншых твораў.

Не ведаю, ці тут віна выхавання, ці іншыя прычыны, мяне даўно здзіўляе тая залішняя ўвага да фармальных эксперыментаў, незвычайнае імкненне ўразіць ракурсамі, мантажом, якія кідаюцца ў вочы, калі глядзіш некаторыя фільмы. І якія яшчэ больш выдаюць павярхоўнасць бачання жыцця.

Не выпадкова поўна значэння тое, што за многія гады студыя не вырасціла, не вывела на шырокую творчую дарогу *ніводнага* беларускага акцёра. І наогул часцей за ўсё ў беларускіх фільмах на студыі, якая імянуецца «Беларусьфільм», месца для беларускіх акцёраў няма. Беларуская студыя стала па сутнасці студыяй праката акцёраў маскоўскіх, ленінградскіх, адэс-

кіх, акцёраў гатовых. І гэта ў той час, калі многім беларускім акцёрам — Яроменку, Тарасаву, Філіпаву, Шмакаву — жыццё ў кіно далі студыі Масквы і Ленінграда. Як кажуць: «нет пророков в своем отечестве!»

Не магу абысці маўчаннем і тое, што на студыі «Беларусьфільм», здаецца, не знялі ніводнага фільма, які б гаварыў на мове народа, беларускай мове.

Партыйная арганізацыя, відаць, павінна разабрацца, чаму стварылася такое становішча. Думаю таксама, што гаркому партыі неабходна сур'ёзна разабрацца і ў тым, чаму нашы мінскія тэатры аказаліся фактычна без належных кадраў рэжысёраў. Гэта вельмі важная і вельмі вострая праблема.

Мы просім гарком КПБ умяшацца ў тое ненармальнае становішча, якое склалася ў нашага выдавецтва з мінскім паліграфкамбінатам імя Якуба Коласа. Камбінат сістэматычна зрывае план выпуску кніг пісьменнікаў Беларусі. У мінулым годзе многія кнігі не былі выпушчаны і перанесены на гэты год.

Абмежаваны час не дае мне спыніцца на іншых праблемах творчага жыцця. Хачу толькі выказаць надзею, што гарадскі камітэт, гарадская партыйная арганізацыя будуць займацца гэтымі праблемамі у далейшым сур'ёзна, глыбока і неаслабна.

*1968*

# НА ВЫШЫНІ ЖЫЦЦЯ

Таварышы, я хачу выказаць некалькі разваг пра наш момант развіцця літаратуры.

Момант гэты, на маю думку, цікавы і важны.

У яго, вядома, многа адзнак, але, я думаю, галоўная з іх тая, што гэты момант — на лініі значных змен. На лініі росту.

Я лічу, што іменна з гэтай прычыны ў літаратуры нашай, як і на сённяшняй нарадзе, ідуць спрэчкі. Гэта спрэчкі — натуральныя, больш таго — непазбежныя. Важна толькі — каб яны вяліся на прынцыповай аснове. З мэтай высвятлення ісціны, у імя росту літаратуры.

Карысць іх будзе залежаць, перш за ўсё, ад таго, з якой увагай і павагай мы будзем ставіцца да фактаў, наколькі будзе ў нас жадання і ўмення разабрацца ў іх.

Мы, думаю, нямала зрабілі ў гэтых адносінах. Але, відаць, такой жа справядлівай будзе і думка пра тое, што яшчэ больш нам належыць зрабіць.

Якія адзнакі нашага цяперашняга стану і руху? Перш за ўсё трэба сказаць, што літаратура стала больш грунтоўна і ўсебакова даследаваць жыццё. Яна часцей стараецца зазірнуць у глыбіню з'яў і чалавека, прычым бачыць не толькі тое, што цешыць вока, але і выклікае заклапочанасць. Гэта значыць, што яна стала больш разумнай, праўдзівай і мужнай. Гэта значыць, што яна мае большае права лічыцца надзейнай дарадчыцай людзей.

Гэтыя думкі можна выказаць і так: адна з важных асаблівасцей нашай сённяшняй літаратуры ў яе разуменні, што свет, жыццё — складаныя і што літаратура павінна ўмець адбіваць, раскрываць гэту складанасць.

Мы зразумелі, што ў аснове з'яў няспынна дзейнічаюць няпростыя законы дыялектыкі, разнастайных

дыялектычных сувязей. Законы барацьбы супрацьлегласцей.

На жаль, разумення гэтага аказалася недастаткова, каб складанасць гэту перадаць у мастацкі пераканаўчых карцінах жыцця, у рухомым свеце чалавечых вобразаў.

Трэба шчыра сказаць, што, пры бясспрэчных нашых поспехах, нам не заўсёды ўдаецца даследаванне жыццёвай і чалавечай дыялектыкі, і ў гэтым адна з найбольшых мастацкіх задач нашага часу.

Леанід Лявонаў неяк гаварыў, што літаратура нашых дзён імкнецца выйсці са сферы даследаванняў метадам арыфметыкі ў сферу даследаванняў метадамі вышэйшай алгебры. Відаць, ёсць падставы сказаць, што і мы выйшлі да больш дакладных даследаванняў, што спосаб даследаванняў вышэйшаю алгебраю нам пакуль, на жаль, не заўсёды даецца.

Прычын, якія замінаюць і замінаюць нам на шляху развіцця літаратуры, удасканалення і паглыблення даследаванняў, нямала, я хачу адзначыць некаторыя. Адна з найбольш вядомых, на маю думку,— вульгарны сацыялагізм, які многія гады фактычна дыктаваў свае законы літаратуры і нарабіў ёй даволі бяды. Вульгарны сацыялагізм, абвяшчаючы сваёй мэтаю клопаты пра сацыяльную выразнасць ацэнак з'яў і паводзін людзей, як вядома, на практыцы арыентаваў літаратуру на спрашчэнне, на недавер'е да складанасці жыцця і — у той ці іншай меры скіроўваў на разрыў літаратуры з жыццём.

Побач з вульгарным сацыялагізмам я паставіў бы такія небяспечныя хваробы літаратуры, як дагматызм і дэмагогію. Хваробы гэтыя звязаны між сабою, ды, можа быць, лепш сказаць, яны — розныя якасці адной і той жа з'явы, што аслабляе здаровую моц літаратуры. Сапраўды ж, хіба ў сутнасці сваёй вульгарны сацыялагізм не з'яўляецца праявай дагматычнага погляду на жыццё, дэмагогіі ў ацэнцы жыццёвых з'яў.

Шкода дагматызму ў тым, што ён з самага пачатку навязваў пісьменнікам гатовыя, недасканалыя рашэнні, што ён сам па сабе выключаў магчымасць сур'ёзнага і сумленнага даследавання жыцця, падточваў самыя асновы літаратуры. У сутнасці сваёй прызнаючы як норму літаратуры неадпаведнасць з'яў мастацтва і жыцця, выказваючы непавагу да жывога жыцця, даг-

матызм не мог не выклікаць дэмагогіі, што павінна была прыхоўваць несуладнасць між літаратурай і жыццём.

Дэмагогія памагала дагматызму не лічыцца з фактамі, адвольна тлумачыць з'явы гісторыі і сучаснасці. Будучы грэшнаю перад рэальнасцю, яна разам з тым выстаўляла сябе як нейкі вартавы праўды. Згадайце хоць бы яшчэ вельмі помнае: «У жыцці так не бывае». Будучы вінаватаю перад жыццём, дэмагогія, падумайце толькі, падмацоўвала сябе аўтарытэтам жыцця! «У жыцці так не бывае».

У аснове сваёй гэтыя заганы літаратуры выяўлялі сваю бездапаможнасць многіх з нас перад жыццём, перад фактамі. Яны разам з тым выяўлялі і слабасць філасофскай падрыхтаванасці нашай літаратуры, няўменне многіх з нас належна карыстацца такімі надзейнымі метадамі даследаванняў грамадскіх з'яў, як метады марксісцка-ленінскай філасофіі.

Я не сумняваюся ў тым, што такая выразная непрыхільнасць да дагматызму і дэмагогіі, якая адчуваецца цяпер у вялікай часткі літаратуры, у тым ліку крытыкі,— з'ява, якая сведчыць пра філасофскае пасталенне нашай літаратуры, пра тое, што ёй становіцца па сіле рашэнне складаных мастацкіх задач. З той дасканаласцю, дакладнасцю, якія Л. Лявонаў назваў спосабам вышэйшай алгебры.

Трэба, праўда, сказаць, што той-сёй з дзеячаў літаратуры на гэту «пераацэнку вартасцей» адгукаецца з неспакоем, бачыць у ёй нібы пагрозу для асноў літаратуры. Думаю, што неспакой гэты — марны, што імкненне ачысціць літаратуру ад таго, што непатрэбным грузам наліпла на ёй, трэба толькі вітаць.

Зазначу яшчэ, што неспакой гэтых пісьменнікаў — вынік пэўнай духоўнай інертнасці, нежадання браць на душу клопаты. Але клопаты гэтыя — неабходны літаратуры.

З другога боку, той факт, што літаратуры нядаўніх дзён былі ўласцівы такія паганыя заганы, пэўна ж не павінен выклікаць сумнення ў саміх асновах нашай літаратуры. Зброю нельга лічыць кепскаю ад таго, што ёю кепска валодаюць.

Хачу сказаць, што той рост, які мы добра адчуваем і ў якім паасобку і разам удзельнічаем, не ёсць

з'ява, што нарадзілася толькі ў літаратуры і яе адной датычыцца.

Не, рост гэты — частка агульнага, лепш сказаць — усеагульнага росту нашага жыцця. Адпаведна літаратуры раслі іншыя галіны мастацтва, раслі розныя галіны навукі, пасталела грамадства ў цэлым. Усё гэта — вынік значнага, павучальнага вопыту жыцця нашага грамадства, таго шляху, які прайшоў наш народ да сённяшніх дзён. Важнай вяхой у асэнсаванні нашага вопыту стаў, як вядома, XX з'езд партыі, які фактычна пазначыў сабой новы, больш высокі ўзровень разумення гісторыі і з'яў сённяшняга жыцця, іх заканамернасцей і кірункаў.

Адным словам, можна гаварыць пра вышыню сучаснага вопыту нашага грамадства, які выклікаў неабходнасць уздыму літаратуры.

У гэтым узаемадзеянні — грамадства і літаратура — ёсць адна якасць, якую трэба адзначыць асобна. За гады Савецкай улады на нашых вачах адбылася з'ява, якая мае для нас выключнае значэнне. Гэта з'ява мае назву рэвалюцыі, культурнага будаўніцтва. Гэта — сапраўды рэвалюцыя!

Мы маем усе падставы ганарыцца гэтым выдатным дасягненнем нашай краіны.

Але заслужана цешачыся, мы разам з тым не павінны заплюшчваць вочы на тое, што гэтае вялікае дасягненне дае падставы не толькі для радасці, але і для сур'ёзнага клопату. Незвычайны рост адукацыі мільёнаў людзей у нашай краіне паставіў, няцяжка заўважыць, і свае праблемы.

У выніку імклівага росту асветы незвычайна вырас наш чалавек — радавы чытач. Ён многа ведае, многа разумее, ён многага патрабуе. Я хачу падкрэсліць апошняе: цяперашняму нашаму чытачу многа патрэбна. Размову з ім літаратура павінна весці на належным, сур'ёзным узроўні, на ўзроўні сучасных ведаў, сучаснай культуры. Толькі ў такім разе яна здолее быць годнай дарадчыцай чытача.

Можна сказаць, што за літаратурай нашай ёсць строгі кантроль, кантроль народа, які багата ведае і багата чакае ад нас.

Мы можам або заслужыць павагу народа, калі будзем працаваць для яго на належным узроўні, з годнасцю і сумленнасцю, або страціць яго павагу і яго

давер'е, калі набытак нашай работы будзе нікчэмны. Калі мы будзем маўчаць у адказ на пытанні, якія хвалююць людзей, не весці сур'ёзных абмеркаванняў, асабліва там, дзе трэба глыбокая, можа быць, няпростая парада.

У жыцці не ўсё проста. Не ўсё проста і ў нашым учарашнім і сённяшнім дні. Не пра ўсё, як вядома, лёгка пісаць. Але, я ўпэўнен, у жыцці няма такога, пра што нельга было б пісаць. Пра ўсё можна — і трэба пісаць, пісаць праўдзіва, разумна, па-партыйнаму. Літаратура павінна ўмець адказваць на любыя пытанні.

У народзе заўсёды цанілася праўдзівасць, сумленнасць, будзем заўсёды помніць пра гэта.

Мы добра бачым, што ў агромністасці народу ёсць багата чытачоў, якіх цалкам задавальняе ўзровень рамана «І адзін у полі воін», твораў-забавак, узоры якіх даволі даюць і літаратура, і тэлебачанне, і кіно. Добра бачым, што колькасць такой прадукцыі пагрозліва расце. Факт гэты, відаць, сведчыць пра тое, што культура не заўсёды ўпраўляецца ісці ў нагу з адукацыяй, што яна можа і нярэдка далёка адставаць. Наяўнасць неглыбокага і недалёкага чытача, аднак, не павінна даваць права на жыццё пустым, нізкапробным падробкам пад літаратуру. У сваіх патрабаваннях да літаратуры мы павінны быць максімалістамі, кіравацца найбольшымі задачамі. Канечнаю з іх павінна быць: народу — самае лепшае. У гэтых адносінах я бачу выключную ролю крытыкі, якая ў нашых радах павінна быць тым нашым пісьменніцкім наглядам, што ў імя агульнай справы справядліва і строга сачыў бы за якасцю нашай працы. І які разам з тым дбаў бы пра густ масавага чытача, спрыяў бы яго палепшанню, яго культуры.

Вось некаторыя агульныя развагі аб нашай літаратуры, якія мне хацелася выказаць на гэтым абмеркаванні.

Хачу сказаць таксама трохі пра другі наш клопат, які, як відаць з выступленняў, вельмі хвалюе многіх. Пра мову.

Мяне таксама хвалюе гэта. Ды і ці дзіўна: мова — аснова асноў літаратуры. І сённяшні і заўтрашні дзень літаратуры — у сённяшнім і заўтрашнім дні мовы.

У нас ёсць сур'ёзныя падставы турбавацца за лёс нашай мовы. Пра гэта кажуць і выступленні тут і мно-

гія, даўно вядомыя факты. Усім вядома, як кепска пастаўлена вывучэнне беларускай мовы ў школах, дзе асабліва ў сталічных школах англійская мова нярэдка ў лепшым становішчы, чым родная, беларуская. Цяжка зразумець правамернасць такога парадку, пры якім для паступлення ў беларускія ВНУ не абавязкова ведаць беларускую мову. Алгебру, фізіку, хімію, рускую мову трэба ведаць, а беларускую, аказваецца, не абавязкова. Правілы для паступлення ў Беларускі дзяржаўны універсітэт не патрабуюць ведання беларускай мовы!

Цяжка зразумець нармальнасць такога становішча, пры якім рад рэспубліканскіх выдавецтваў на беларускай, на роднай мове выдаюць або вельмі рэдка, або зусім не выдаюць. Вазьміце, да прыкладу, «Навука і тэхніка», «Вышэйшая школа», «Ураджай». Ды і выдавецтва «Беларусь» на беларускай мове як правіла выдае толькі мастацкую літаратуру, творы беларускіх пісьменнікаў, ды і то куды ахвотней, і вялікімі тыражамі спяшаецца выдаць іх потым у перакладзе. Мала выдаецца на роднай мове палітычнай літаратуры, яшчэ менш — медыцынскай, і ўжо зусім зачынены дзверы для беларускай мовы ў тэхнічную, эканамічную літаратуры, у навуковую,— амаль ва ўсе галіны навукі. Зусім не лічыць патрэбным выпускаць творы на беларускай мове студыя «Беларусьфільм»!

Можна прывесці яшчэ нямала фактаў, якія сведчаць пра ненармальныя адносіны да беларускай мовы ў многіх установах рэспублікі. Гэтыя факты сведчаць, што ў цэлым шэрагу ўстаноў як бы звычайным стаў зняважлівы погляд на родную мову нашага народа. Думаю, што яго можна разглядаць як выразную праяву нігілістычных адносін да нашай мовы.

Як гэта магло адбыцца? У чым прычыны такога становішча? У чым яго асаблівасці?

Перш за ўсё асаблівасці.

Пачнём з вытокаў іх. Прыгледзеўшыся, адразу заўважым, што тут даволі складаная цераспалосіца. Па-першае, адзначым, што ў масе нашага народа жыве вялікая любоў, давер'е да рускай мовы, да рускай культуры, і не толькі да рускай, таксама і да польскай, і ўкраінскай. Гэта і натуральна: блізкія народы, блізкая, а часта і агульная гісторыя. Тут — высакародныя пачуцці дружбы. Тут усё ясна.

Далей убачым: больш за стагоддзе руская мова — звыклая, дзелавая мова ўсіх устаноў, мова, што яднала народы Беларусі... Тут таксама не патрэбны тлумачэнні. Бадай, не трэба тлумачэнняў і таму факту, што руская і польская мовы з вялікімі і моцнымі традыцыямі, беларуская — маладая, мова меншага народа.

Далей: руская мова — мова шырокага распаўсюджвання, яна дае выхад да мільёнаў людзей, да ўсіх народаў краіны, свету, і тут зразумелае імкненне вучоных атрымаць найшырэйшую вядомасць, загаварыць адразу са светам... Але тут і такія з'явы: пераклады на рускую мову выгадны з фінансавых меркаванняў. Выданне на рускай — гэта вялікія тыражы, заўсёды грашовы прыбытак, на беларускай — тыражы малыя, убытак. За прыбытак — прэмія... і выдаюцца ў беларускіх выдавецтвах беларускія аўтары ў перакладзе і чытаюць у перакладах сваіх пісьменнікаў іх чытачы, і што далей, тым — больш.

Адна з цікавых асаблівасцей незайздроснага стану нашай мовы ў тым, што як правіла найбольш нігілістычна ставяцца да беларускай мовы тыя, хто, здавалася, павінен быў бы яе шанаваць, для каго яна ад бацькоў родная. З'ява гэта «цікавая», але няновая, ёй вычарпальную і знішчальную характарыстыку з геніяльнай праніклівасцю даў даўно У. І. Ленін, які пісаў: «...известно, что обрусевшие инородцы всегда пересаливают по части истинно русского настроения...»

Бясспрэчна, адна з прычын такога сучаснага «казусу» ў той спадчыне, якую мы атрымалі ў 1917 годзе. На жаль, павінны сказаць адкрыта, што для нашага народа, для многіх людзей не прайшлі бясследна дзесяцігоддзі і стагоддзі ўпартай русіфікацыі і паланізацыі, якую вялі самадзяржаўныя і шляхецка-магнацкія «цівілізатары». Жыве, дзіўна мяшаючыся з сучаснай культурай, у многіх часам адукаваных людзей закарэлая няўпэўнасць, а іншы раз і сорам за сваю «гаворку». Пераконанне, што яна «ніжэйшая», дамашняя, нягожая. Не малую ролю тут адыгрывае, вядома, і мяшчанская мімікрыя, імкненне падладжвацца пад мацнейшага, пад больш прызнаны колер. Свае «заслугі» мае тут і блытаніна ў некаторых галінах нацыянальнага пытання, у прыватнасці, артыкулы, падобныя тым, з якімі выступаў славуты А. Агаеў.

Вось якая стракатая карціна вымалёўваецца, хоць мы ўзялі толькі некаторыя фарбы. Вось які складаны вузел, хоць узнята «прыватнае» пытанне. Мімаволі ўспамінаеш думку У. І. Леніна пра тое, што нацыянальнае пытанне адно з самых блытаных. Дарэчы, як умеў Ленін бачыць пытанне гэтае ва ўсіх сувязях...

Работы У. І. Леніна па нацыянальнаму пытанню дасюль застаюцца ўзорам глыбіні і ўсебаковасці ў даследаванні гэтай складанай праблемы. Іх вельмі многа, яны склалі вялікі том, які Ленін пісаў амаль усё жыццё. Факт, які гаворыць пра тое, як хвалявала яго гэта пытанне, многія яго галіны...

Але ж ці не дарэмна гаворым мы пра такое «звычайнае» пытанне з такім запалам? Ці няма ў гэтым якой-небудзь нездаровасці? Многія прынялі гэта зусім спакойна, для іх тут наогул няма пытання. Няма-ла такіх, што з разуменнем сваёй вышэйшасці адкінулі як непатрэбства састарэлы цяжар роднай спадчыны. Ёсць такія, што бачаць у гэтым перадавую, вартую ўсякай падтрымкі з'яву, «знамение времени».

Не, мы не можам глядзець на гэта абыякава. Не можам таму, што пытанне аб мове — гэта пытанне аб будучыні нашай літаратуры, яе здароўі і даўгалецці. Не можам таму, што мова народа — ёсць адзін з найвялікшых скарбаў народа, скарб, у якім жыве сэрца народа, яго надзеі і мары, яго талент і клопат, стагоддзі яго жыцця. Не можам таму, што скарбу гэтаму няма цаны і пагарду да яго, знявагу нельга нічым апраўдаць.

Прыклад дбайнасці і клопату пра сваю мову дае нам рускі народ, рускія пісьменнікі, і мы лічым за гонар гэтаму прыкладу следаваць.

Ёсць у гэтай з'яве і другая якасць. Нельга абыякава адносіцца да такога «дзіва», як нігілізм да якой-небудзь культуры, а тым больш — ці хоць бы разам з тым — да роднай, бо гэта — наогул нягожа чалавеку сапраўднай культуры. Гэта, дазволім сабе сказаць — амаральна. Гэта не стасуецца з камуністычнай мараллю.

Не верым, што чалавек, які можа дапускаць у душу такое пачварнае пачуццё, можа быць сапраўдным інтэрнацыяналістам.

Пагарда да любой мовы і культуры — несумяшчальна з інтэрнацыяналізмам.

Мы ўпэўнены, што выхоўваць наш савецкі патрыятызм нельга без выхавання пачуцця павагі да роднага народа, да ўсяго таго, што ён стварыў, што ён даў у агульную скарбніцу савецкай культуры. Іменна ў выхаванні гарманічнай еднасці павагі і любві да «свайго», роднага і да агульнага, нашага, савецкага — адзіная аснова выхавання гарманічнай асобы нашых дзён. Любы перакос у адзін ці другі бок — небяспечны.

І ўсё ж гаварыць пра гэта — занятак малапрыемны і няўдзячны. Гаворыш і адчуваеш, што які-небудзь «глыбакадумны», ці лепш сказаць — бяздумны, непахісны артадокс угледзіць у табе «заскарузлую абмежаванасць», «нацыянальную вузкасць» і т. п.

Не, адразу скажам: грахоў такіх няма. І не было, і няма. Маглі б сказаць, што амаль усе мы на рускай літаратуры выраслі як пісьменнікі, выхаваліся як людзі на рускай культуры. Што не можам уявіць сабе жыцця без жывых сувязей з братнімі пісьменнікамі і культурамі, без сувязей з культурамі ўсёй краіны і свету. Я не заўважыў «заскарузлай абмежаванасці» ні ў аднаго сур'ёзнага беларускага літаратара, які з належнай адказнасцю адносіцца да свайго рамяства.

«Нацыянальная абмежаванасць» амаль заўсёды абмяжоўвае сілу пісьменніка, шкодзіць яму. Пісьменніку ж такой маладой літаратуры, як беларуская,— яна проста пагібельна, дазволіць сабе яе — значыць, асудзіць сябе на творчую смерць.

Іменна любоў і павага не толькі да нашага народа, а і да іншых народаў і культур, клопат пра здароўе жыццё ўсёй савецкай культуры дае нам цвёрдасць так упэўнена гаварыць пра гэта.

*1968*

# ВЯЛІКІ ТАЛЕНТ, ВЯЛІКІ ПРАЦАЎНІК

Яшчэ добра помніцца той дзень, калі прыйшло паведамленне, што яго не стала. І ўсё ж гэта ўжо адчуваецца як даўняе: мы даўно звыклі, што яго няма між нас; адасоблена ад нас ужо не толькі стагодняя дата яго нараджэння, але і помная нам дата смерці.

Горкі стаў і для нас часткай гісторыі. Часткай даўршанай, паспакайнелай, аддаленай за новымі, надзвычайнымі па маштабах і глыбіні хваляваннях падзеямі і клопатамі. Сярод турбот сваіх многія помнілі пра яго: аб ім напісаны дзесяткі і сотні кніг, тонкіх і тоўстых, глыбокіх і павярхоўных; ёсць між іх і глыбокія, праўдзівыя, і такія, што аддана наводзілі «хрэстаматыйны глянец» на яго, лічачы, што тым робяць неабходную паслугу гісторыі і пашане да яго.

Жыццё яго праглядваецца ўсё. Як кожная падзея, што належыць гісторыі. Хоць — трэба сказаць: яно і тады, калі яшчэ не было гісторыяй, а было неспакойным жывым жыццём,— такі выпаў лёс яму,— яно заўсёды ішло на вачах мільёнаў людзей. Людзей, якія жылі з ім у адзін час, якія не адзначылі ў памяці нашчадкаў ні сваіх імён, ні асобна сваіх спраў, але якія адчувалі на сабе тыя ж самыя вятры і буры часу.

Багаты быў вятрамі і бурамі час. Канец мінулага стагоддзя, калі буры драмалі ўпотай, першыя грымоты дзевяцьсот пятага, зацятае чаканне ў змроку наступных гадоў. Залітыя дажджамі і крывёй акопы, у якіх збіралася, накаплівалася салдацкая лютасць; хмельнай радасцю поўныя вуліцы вірлівага кастрычніцкага Петраграда семнаццатага года — і многае, многае іншае ў гэтым няроўным, выбуховым часе. Калі яшчэ дзьмула такімі вятрамі над расійскай зямлёю, калі — на працягу якіх-небудзь двух хуткабежных дзесяткаў гадоў — круцілі такія надзвычайныя буры!

Літаратары, як і ўсе людзі, жывуць кожны адпаведна свайму густу, свайму характару. У кожнага свая дарога. Як і іншыя, браты-пісьменнікі па-рознаму дзеялі тады, калі пачынала сячы ветрам у твар і пачыналі над зямлёй палыскаць навальніцы. Адны выходзілі на вуліцы, у поле, дзе гэтыя вятры лепш чуліся, другія «разумна» пераседжвалі нягоду, прасачыўшы беражліва, каб добра былі зачынены коміны і фортачкі.

Мы ведаем, як ён яшчэ юнаком з торбай за плячамі выправіўся ў дарогу, каб сваімі вачамі разглядзець — «обозреть» — неабсяжную загадкавую расійскую зямлю. Ён не мог сядзець за старанна зачыненымі вокнамі, за запыленымі шыбамі. Яго вабіла ў шыр палёў, у ветравыя прасцягі. І ці дзіўна: ледзь у паветры запахла свежым подыхам, ледзь чула ўлавіў, што «вецер хмары збірае», ён, узняўшыся з радаснага чакання, захоплена, страсна, такім голасам, што рэха раскацілася далёка, клікнуў: «Хай мацней грымне бура!»

Усе вятры, усе буры неспакойнага таго часу прайшлі праз яго сэрца. Яго нястрымна вяло заўсёды ў самы асяродак магутнай, вялікай кругаверці, што мяняла, з'iначвала аблічча зямлі, на якой праз завею і посвіст ветру вымалёўвалася яшчэ нябачанае, нязнанае ніколі. Дапытлівы, нецярплівы, падаўшыся ўперад, ён углядваўся ва ўсё, імкнуўся пранікнуць усюды позіркам, разабрацца, спазнаць вартасць усяго. Прадказаць і папярэдзіць.

Вялікая, выключная дзейнасць сэрца і розуму гэтага чалавека адна паказвае, што чалавек з такім сэрцам і розумам — незвычайны, вялікі. Мільёны яго чытачоў, яго нашчадкі ў нашай краіне і ва ўсім свеце павінны быць удзячны, што сэрца гэта і розум жывуць і будуць век жыць у дзесятках поўных нязгаснага жыцця тамах яго твораў. Сэрца і розум яго ўзбагацілі культуру не толькі рускага народа, але і ўсяго чалавецтва выдатнымі, узорнымі творамі прозы: доўгі будзе пералік нават лепшых з іх — замалёвак, апавяданняў, аповесцей, раманаў, важкі, багаты рад якіх завяршае эпапея «Жыццё Кліма Самгіна». Дзесяткі гадоў не сыходзяць з тэатральных сцэн усяго свету спектаклі па яго п'есах. Акідваючы позіркам тое, што ён зрабіў, адчуваеш з павагай патрэбу сказаць: мала хто так багата здолеў расказаць пра свой час і пра

свой народ, як ён. Тое, што здолеў за такое клопатнае жыццё зрабіць ён у рускай літаратуры па шырыні, па значнасці ўступае хіба толькі таму, што зрабіў Леў Талстой. І тут хочацца схіліць галаву перад вялікім працоўным подзвігам чалавека, адзначыць з удзячнасцю жыццё: вялікі талент трапіў вялікаму працаўніку.

Крутую, вартую народнай пашаны і славы дарогу ўгару, да сусветных вяршынь прайшоў упарты, настойлівы «мешчанін» з горада Ніжняга, былы ніжнегародскі падмайстравы. Нібы прыкладам сваім хацеў давесці тое, што чулася не ў адным ад сэрца выказванні: няма меры чалавечай працы, чалавечаму розуму, чалавечым магчымасцям!

*1968*

## ПРА ПАЎСТОЎСКАГА

Я некалькі месяцаў бачыў яго зблізку. У апошнія гады ён часта падоўгу жыў у мілым яго сэрцу Крыме. Горбячыся, паціху, з задышкай хадзіў ён па асфальтаваных дарожках ялцінскага Дома творчасці. Накрыўшыся пледам, ціхім, сіплаватым голасам гаварыў, акружаны субяседнікамі... Зрэшты, і на дарожках Дома творчасці, і сярод субяседнікаў бачыць яго можна было не часта: цяжка хворы, ён жыў вельмі самотна. Ён працаваў надзіва ўпарта, засяроджана.

Іншы раз, пазнаёміўшыся з аўтарам кнігі, здзіўляешся: да таго жывы чалавек не падобны на створанае ім. Паўстоўскі быў інакшы: ён быў вельмі падобны на свае кнігі. Сціплы, далікатны, сардэчны, надзіва чалавечны, ён быў на рэдкасць арганічны ва ўсім, што даводзілася рабіць...

Мы вельмі доўга будзем адчуваць гэту вялікую страту. І вельмі доўга будуць жыць з намі, з тысячамі і тысячамі чытачоў, яго кнігі, кнігі чалавека, назаўсёды ўлюбёнага ў жыццё, бяскрайняе, бясконцае, пераможнае.

*1968*

# ДА ЧЫТАЧОЎ РАМАНА

Прапануючы чытачам «Советской литературы» раман «Подых навальніцы», я хацеў бы звярнуць увагу, перш за ўсё, на дзве акалічнасці.

Першая. Раман мой хоць і з'яўляецца зусім самастойным па кампазіцыі, закончаным творам, у той жа час лёсам герояў, месцам дзеяння звязаны з ранейшым маім раманам — «Людзі на балоце», фрагмент з якога ў перакладзе на іспанскую мову быў апублікаваны ў часопісе «Советская литература» ў № 8 за 1962 год. «Подых навальніцы» прадаўжае лёс герояў «Людзей на балоце», якія ў першым рамане толькі ўступалі ў самастойнае жыццё, толькі пачыналі адчуваць складанасць, заблытанасць яго. У новым рамане тыя ж героі — Васіль, Яўхім і іншыя, блізкія ім па жыцці ў вёсцы,— аказваюцца перад новымі выпрабаваннямі, не менш складанымі, чым ранейшыя. Яшчэ не развязаны старыя, няпростыя вузлы ва ўзаемаадносінах герояў, а неймаверны, імклівы час рыхтуе ім новыя задачы. Жыццё ў ціхай вёсачцы Курані крута паварочвае са свайго звычайнага шляху, у Куранях у кожнай хаце адчуваецца трывожны, у імклівых успышках, подых навальніцы. Пачынаюцца нязнаныя перамены, якія ламаюць адвечны лад жыцця,— пачынаецца калектывізацыя...

Думаецца, трэба звярнуць увагу яшчэ на адну асаблівасць рамана. Як і «Людзі на балоце», ён уваходзіць у маю «Палескую хроніку». Абодва раманы, як я ўжо зазначыў, маюць адно месца дзеяння — вёску Курані, беларускае Палессе. Чытачу, які зацікавіцца геаграфіяй рамана, я лічу абавязкам параіць шукаць Палессе на карце Беларусі і Украіны. Палессе — вялізны край, што раскінуўся на сотні кіламетраў у паўночнай частцы Украіны і на поўдні Беларусі. Як пагранічныя гарады стаяць на ім Брэст на захадзе і Гомель на ўс-

ходзе. Курані прыблізна на палавіне дарогі паміж імі, крыху бліжэй да Гомеля.

Палессе — край амаль увесь нізінны, толькі дзе-ні-дзе, галоўным чынам па правым беразе Прыпяці — крутыя, зрэзаныя ярамі пагоркі — града. На ўсёй астатняй прасторы — плоская роўнядзь палёў, вільготныя, у густых зарасніках лясы, незлічоныя, з учэпістым хмызняком балоты — большаю часткай цяпер асушаныя.

Палессе называюць краем лясоў і балот. «Выгляд вялікага, на ўвесь небасхіл бору, выгляд Палесся, нагадвае выгляд мора»,— пісаў пра гэты край больш ста гадоў назад І. С. Тургенеў у нарысе «Паездка ў Палессе». Край уразіў вялікага пісьменніка дзікай і панурай веліччу, што прыгнятае чалавека, усяляе «ў сэрца людское ўсведамленне нашай нікчэмнасці». За сто гадоў многае змянілася, намнога парадзелі, а ў многіх мясцінах і зусім зніклі магутныя лясы, бары, якія так уразілі пісьменніка. Край вельмі змяніўся і за тыя чатыры дзесяцігоддзі, якія прайшлі перад маімі вачамі.

Палессе цяпер наўрад ці здзівіць прыезджага дзікай веліччу. Чалавек, які наслухаўся пра дзікае хараство Палесся, магчыма, убачыўшы сённяшняе Палессе, адчуе сябе расчараваным. Час і людзі папрацавалі не без поспеху: аблічча Палесся ў многім змянілася. Але я тут чалавек не заезджы. Я тут на ўсё жыццё дома. Гэта — мая радзіма. Я тут нарадзіўся, тут непаседлівым хлапчуком шныпарыў у балотных зарасніках, непраходных, як джунглі. Тут дакрануўся да недаступнага загадкавага свету балот, ён уразіў маё трывожнае дзіцячае ўяўленне. Зараснікі гэтыя, балоты, край гэты назаўсёды ўлюбілі мяне ў хараство прыроды, хараство жыцця.

Зямля гэтая дарагая майму сэрцу, як ніякая іншая. Ёй, яе людзям я і прысвяціў дзесяць гадоў нецярплівай, радаснай працы, два маіх раманы. Усім гэтым я хачу ў меру сваіх сіл аддаць доўг, узяты ў дзіцячыя гады і адчуты мною пазней, у сталыя гады. Я хачу, каб чытачы маіх кніг таксама палюбілі гэтую зямлю і яе людзей або па крайняй меры — хаця б ведалі пра іх.

Я спадзяюся, што абодва раманы, акрамя ўсяго іншага, будуць цікавыя як адна з нямногіх спроб адкрыць шырокаму, у прыватнасці зарубежнаму, чыта-

чу своеасаблівую прыгажосць амаль невядомай яму зямлі, працавітага і сціплага народа. Бо кожная літаратура перш за ўсё значная тым, што дапамагае пазнаваць землі і людзей, якія яе стварылі, бачыць іх непаўторнае аблічча.

У фрагментах, якія прапануе чытачам «Советская литература», пададзена толькі адна сюжэтная лінія; улічваючы абмежаваныя магчымасці часопіса, гэта неабходна было зрабіць, каб фрагменты мелі хаця б адносную цэласнасць, паслядоўнасць у развіцці лёсаў і характараў. Павінен, аднак, адзначыць, што ў поўным выглядзе раман «Подых навальніцы» — значна шырэйшы, гэта — шматпланавы, з вельмі рознымі лёсамі і рознымі людскімі клопатамі твор, у якім аўтар ставіў сабе задачу паказаць жыццё людзей праўдзіва і ўсебакова.

*1968*

# ВЕЛІЧ САДРЫДДЗІНА АЙНІ

Жыццё Садрыддзіна Айні, светлая памяць пра якога сабрала нас у гэтай зале,— значнае, перш за ўсё, тым, што ён быў заўсёды, на доўгім і цяжкім шляху сваім, разам са сваім народам, з той галоўнай, важнейшай часткай яго, якая рукамі сваімі апрацоўвала палі, убірала вырашчанае, будавала дамы, стварала жыццё.

Веліч Айні — паэта, грамадзяніна — у тым, што аб чым і аб кім бы ён ні пісаў, думкі яго, клопат яго былі з простымі людзьмі працы, радасці якіх складалі сэнс, сэрцавіну самай высокай паэзіі яго шматграннай творчасці. Айні назаўсёды застанецца ва ўдзячнай нашай памяці як адданы сын працавітага, таленавітага народа, пісьменнік дэмакратычны па сутнасці сваёй творчасці, пісьменнік, які заслужыў сваёй творчасцю, усім сваім жыццём права звацца пісьменнікам народным у самым высакародным значэнні гэтага слова.

Іменна ў гэтым, як мне здаецца, высокая годнасць яго паэзіі, яго палымянай публіцыстыкі, яго суровай рэалістычнай прозы, якую ўпрыгожваюць такія шэдэўры, як «Адзіна», «Рабы», «Смерць ліхвяра», «Бухара».

Беларускі народ заўсёды асабліва шанаваў у літаратара якасці, якія звязваюць пісьменніка з чалавекам працы, з народам-стваральнікам.

Як літаратар сапраўды народны вялікі таджыкскі пісьменнік Садрыддзін Айні блізкі і нам, беларусам. Таму і мы з павагай і ўдзячнасцю схіляем галовы перад яго памяццю, якая будзе вельмі доўга жыць у сэрцах людзей — і сучаснікаў, і нашых нашчадкаў.

*1968*

# У ЗДАРОВАЙ СІЛЕ

Не толькі прыхільнікі асацыятыўных метадаў паказу жыцця могуць адзначыць як важную асаблівасць чалавечай псіхалогіі схільнасць чалавека выклікаць у памяці адпаведныя падзеі або настрою супастаўленні, асацыяцыі. Схільнасць гэтая, могуць адзначыць, абвастраецца ў чалавека з гадамі, з узрастаннем вопыту і жыццёвага шляху.

Як прыватную асаблівасць могуць адзначыць, што асацыяцыі, успаміны часта непакояць чалавека ў дні выключныя, дні, калі пачынаеш падводзіць вынікі.

Дазвольце мне з гэтай трыбуны, у гэтыя знамянальныя для кожнага жыхара Беларусі дні, калі наша рэспубліка стаіць напярэдадні 50-годдзя, падзяліцца асацыяцыямі, успамінамі, якія ўрываюцца ў сэрца.

Я з асаблівым хваляваннем і трывогай успамінаю такія ж снежаньскія дні, дзве неспакойныя ваенныя гадавіны рэспублікі — дваццаць трэцюю і дваццаць чацвёртую. Сорак другі і сорак трэці год.

Цяжкія гэта былі зімы, дарогі на родную зямлю былі перакрыты траншэямі і акопамі, мінамі і міннымі загародамі. Родная зямля, беларуская зямля, была ў няволі. Вырашалася пытанне — быць ці не быць ёй, яе народу,— вырашалася ў смяротным баі.

І яшчэ адна гадавіна ўспамінаецца мне — снежань сорак чацвёртага. Споўнілася вялікае жаданне, якое таміла нас многія месяцы,— мы былі ўжо зноў у Мінску. Беларусь уся з усходу на захад была вольная. Але якое гора, які боль таіла яшчэ ў сабе зямля наша, уся параненая, уся ў крыві. Мінск курчыўся ў руінах. Уласна горада амаль не было, у разуменні звыклым. Былі руіны горада.

Я ўспамінаю пра гэтыя тры снежні таму, што ў радасці сённяшняй чую шчымлівы боль тых памятных

дзён. Я ўспамінаю таму, што шлях наш да сённяшняга дня ішоў не проста ад дзевятнаццатага года, года ўтварэння рэспублікі, ён ішоў праз сорак першы і сорак другі, праз сорак трэці і сорак чацвёрты. Ішоў праз смерць і бітву, ішоў праз крывапралітную партызанскую вайну, ішоў праз лагеры смерці, блакады карнікаў і нязломную мужнасць мільёнаў беларусаў. І не толькі беларусаў, бо бітву за Беларусь вялі не адны беларусы — усе народы нашай краіны!

Я ўспамінаю гэты час таму, што ён прымусіў нас у многім вярнуцца да пачатку, пачынаць нанова. Не будзем ніколі забываць, што цудоўныя гарады цяперашняга, 1968-га, года будаваліся на руінах 44-га, выраcталі з зямлянак, з попелу спаленых хат і заводаў, з попелу спаленых людзей.

«Да, враг силен — тем больше наша слава!» — сказаў некалі на вайне савецкі паэт. Так, цяжка было — тым большая наша слава! — хочацца сказаць у гэтыя ўрачыстыя дні.

Проста ўбачыць Мінск цяпер — гэта яшчэ не азначае ўбачыць яго па-сапраўднаму, зразумець веліч яго, веліч тых, хто яго стварыў. Убачыць, зразумець нашу зямлю, нашы гарады і нашы палі можна толькі тады, калі разам з сённяшнім убачыш — няхай думкаю, сэрцам або ў кадры кінахронікі — дзень учарашні, руіны і попел сорак трэцяга і сорак чацвёртага.

Таварышы, у здаровай сіле і ў радасці сустракае наш беларускі народ сваё пяцідзесяцігоддзе. Ёсць глыбокі сэнс у многіх лічбах, у многіх, гаворачы медыцынскаю мовай, датчыках, якія пераканаўча сведчаць пра выдатны фізічны і маральны стан арганізма галоўнай нашай імянінніцы — рэспублікі. Можна было б многа прывесці лічбаў, я не прыводжу іх, таму што вельмі доўгім быў бы пералік нават галоўных паказчыкаў. Ды і гэта справа, бадай, хутчэй эканамістаў, чым літаратараў. Як літаратар магу спаслацца на такія агульныя, але вельмі красамоўныя паказчыкі, як тое, што наўрад ці ёсць цяпер у Саюзе будоўля, дзе б не працавалі надзейныя і працавітыя беларускія МАЗы, наўрад ці знойдзецца па ўсёй Русі вялікай і па ўсім Саюзе вялікае поле, дзе б не ведалі ў працы невялікія, але ўпартыя мінскія трактары «Беларусь». Мільёны людзей у краіне глядзяць сёння ў шырокі свет праз блакітнае акно мінскіх тэлевізараў.

Вялікае мноства разнастайных вырабаў — ад шкла да найскладанейшых вылічальных машын — вырабляюць цяпер у Беларусі рабочыя рукі. Многія тысячы гектараў балот асушылі працоўныя людзі ў гіблых прасторах мазырскіх і пінскіх балот, здабылі ў бесперспектыўных, па прадказаннях ранейшых спецыялістаў, нетрах нафту і калійныя солі.

Кажу пра гэта таму, што разам з усімі сваімі земляками адчуваю законную гордасць за зробленае і здабытае; таму што гэта характарызуе тое, чым жыве сёння беларускі народ, і дазваляе ўявіць, хто ён ёсць сёння; таму што гэта тое, чым жыве і чым ганарыцца наша літаратура.

Некалі А. М. Горкі, вялікі друг беларускай літаратуры, у артыкуле «Пра пісьменнікаў-самавукаў» пісаў: «Я звяртаю ўвагу скептыкаў на маладую літаратуру беларусаў — самага забітага народа Расіі».

На жаль, ні наша сацыялогія, якая праяўляе сёння вельмі прыкметна маладую энергію, ні тым больш агульная статыстыка не займаліся ніколі ўлікам таго, як у цэлым і ў паасобку змяняецца племя скептыкаў. Не маючы ніякай магчымасці абаперціся на якія-небудзь грунтоўныя дадзеныя аб тым, як мяняліся адносіны скептыкаў да літаратуры беларусаў, маю ўсё ж падставы лічыць, што колькасць скептыкаў сярод сучасных чытачоў прыкметна зменшылася. Здаецца, адпаведна таму, як распаўсюджвалася па прасторах зямлі нашай прадукцыя заводаў беларускіх, разыходзілася, дасягаючы самых аддаленых куткоў Саюза, прадукцыя беларускіх пісьменнікаў.

Я добра разумею, што тут, у зале Дома літаратараў, няма патрэбы выкладаць традыцыйны святочна-папулярны нарыс руху нашай літаратуры за паўстагоддзя. Не кажучы пра тое, што такія нарысы наогул малакарысныя з прычыны таго, што яны спрашчаюць складанасць жыцця, у сённяшнім выпадку такі агляд не патрэбны таму, што галоўныя вехі развіцця нашай літаратуры дастаткова вядомыя.

Дазволю сабе, аднак, спыніцца на адной важнай акалічнасці. Вайна, якая прынесла цяжкія бядоты нашаму народу, не пашкадавала і літаратуру. На станцыі ва Уральску, па дарозе з захопленага ворагам Мінска, загінуў выдатны наш празаік, саратнік Купалы і Коласа Змітрок Бядуля. Не дажыўшы да дня перамо-

гі, у параненым, пакалечаным Мінску памёр цяжка хворы Кузьма Чорны. У Маскве, у 1942 годзе, як вядома, трагічна пакінуў нас Янка Купала. У баях пад Сталінградам, пад Берлінам, у партызанскіх баях як салдаты загінулі Хвядос Шынклер, Алесь Жаўрук, Мікола Сурначоў, Рыгор Мурашка. Небяспечна абяскроўленай прыйшла да пасляваенных клопатаў беларуская літаратура.

Вялікая заслуга ў новым адраджэнні нашай літаратуры нямногіх яе ветэранаў — Якуба Коласа, Міхася Лынькова, іх малодшых таварышаў — Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Піліпа Пестрака, Петруся Броўкі, Максіма Лужаніна, Пімена Панчанкі.

Бадай самай значнай з'явай гэтых дзён трэба лічыць незвычайна імклівы і шчодры прыток у пасляваенную нашу літаратуру маладых пісьменнікаў, удзельнікаў... 

Гэты прыток новых, дзейсных сіл у нашу літаратуру я лічу надзвычай важнай з'явай. Ён абяцае нам новыя дасягненні, ён абяцае нам, беларускай літаратуры, багатае, паўнацэннае, вартае нашага часу і нашага народа жыццё.

Ён дазваляе глядзець уперад, за межы здзейсненага пяцідзесяцігоддзя, з добрымі надзеямі і моцнай упэўненасцю.

*1968*

# ПЯЦЬДЗЕСЯТ

Беларускай савецкай літаратуры — пяцьдзесят год. Пяцьдзесят год працы многіх і многіх пісьменнікаў некалькіх пакаленняў.

Пачатак яе бачыцца ўжо як далёкая гісторыя, у якой усё даўно знайшло сваё месца і ўлеглася. Увабраўшы ў сябе рэвалюцыйны вопыт Я. Купалы і Я. Коласа, творчыя здабыткі першага нашага паэта-рабочага Ц. Гартнага, беларуская літаратура з самага пачатку імкнецца заявіць пра сябе як літаратура новага тыпу, літаратура працоўнага народа, што перамог у барацьбе. Ужо ў першыя гады з асяроддзя беларускіх пісьменнікаў вылучаецца яркая постаць М. Чарота, якому суджана было найбольш яскрава ўвасобіць у сабе пафас першых будаўнікоў новага свету, іх адданую веру ў зіхатлівы заўтрашні дзень, у блізкую перамогу сусветнай рэвалюцыі.

Здзіўляе тая выключная энергія, з якой заяўляла пра сябе маладая савецкая беларуская літаратура. Быццам выказваючы творчыя сілы народа, што таіліся, назапашваліся стагоддзямі, яна імкліва ўзбагачаецца шматлікімі творамі, заяўляе пра сябе новымі і новымі імёнамі. Вершы, апавяданні літаральна запаланяюць старонкі тагачасных газет, часопісаў, альманахаў, ледзь не ў кожным мястэчку ўзнікаюць яе аб'яднанні, філіі.

Цяпер, з вышыні пяцідзесяці год, добра відаць наіўная прастата многіх песняроў таго часу, цвёрда ўпэўненых, што з іх пачынаецца не толькі новая старонка, але і наогул гісторыя сусветнай літаратуры. Не хочацца быць несправядлівым да іх: іх лёгка цяпер судзіць; але не будзем забываць, што літаратура была тады вельмі маладая, вельмі нявопытная, і дзёрзкая самаўпэўненасць яе ішла ад аптымістычнага адчування жыцця, што біла цераз край. Не будзем таксама

забывацца і пра тое, што рабілася яна тады не вельмі пісьменнымі сялянскімі хлопцамі і маладымі рабочымі саматужных арцеляў. Дзеля справядлівасці трэба сказаць з павагай і пра тое, што ў галоўным лепшая частка гэтай літаратуры тады праявіла выдатную грамадзянскую страснасць, глыбокае разуменне сваіх задач.

У лепшых сваіх творах праяўляла яна заўсёды вялікую чуласць да жыцця народа-творцы, разуменне яго інтарэсаў і яго патрэб. Быццам развіваючы тыя якасці, якія яшчэ ў цяжкае перадрэвалюцыйнае ліхалецце захапілі М. Горкага ў вершах Я. Купалы і Я. Коласа, яна асабліва настойліва ўмацоўвала народныя асновы літаратуры. Глыбокая, арганічная народнасць — вось адметная асаблівасць, якая робіць надзвычай важным тое, што прынеслі ў беларускую літаратуру дваццатых гадоў маладыя тады К. Чорны і К. Крапіва, М. Лынькоў і М. Зарэцкі, П. Броўка і яшчэ зусім малады А. Куляшоў. Беларускія пісьменнікі сваімі вершамі, апавяданнямі як бы заяўлялі: мы заўсёды — разам з народам, для народа. Ідучы пад гэтым сцягам, маладая беларуская літаратура ўжо ў перадваенныя гады стварыла такія выдатныя творы, як «Трэцяе пакаленне» К. Чорнага, «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, апавяданні М. Лынькова, раманы М. Зарэцкага.

Вельмі адчувальныя страты нанесла і без таго нешматлікаму пісьменніцкаму атраду вайна. Памерлі Я. Купала і Зм. Бядуля, вялікія майстры літаратуры, у баях пад Сталінградам гераічна загінулі Х. Шынклер і А. Жаўрук, у бітвах пад Ленінградам і Берлінам — А. Ушакоў і М. Сурначоў. З апошняй перад вызваленнем блакады не вярнуўся ў пісьменніцкі строй партызан Р. Мурашка. З гонарам вытрымаўшы выпрабаванні вайны, сумленна выканаўшы свой абавязак перад Радзімай, надта параненая, небяспечна парадзелая выйшла да мірных рубяжоў літаратура гераічнай Беларусі.

Нельга забыць, як мужна ўзвалілі тады на свае плечы цяжар вялікіх клопатаў ветэраны — Я. Колас і М. Лынькоў, П. Броўка і К. Крапіва. Мужнасць, з якой народ залечваў раны вайны, нецярплівая мэтаімкнёнасць, з якой ён будаваў і сеяў, палымянае жаданне дапамагчы людзям пераадолець бядоты разрухі,

наблізіць лепшыя часы з выключнай сілай раскрылі талент А. Куляшова і М. Танка, П. Пестрака і П. Панчанкі, В. Віткі і А. Бялевіча. Амаль адразу ўпэўнена і стала заявілі пра сябе былыя салдаты, што з вайны, з баёў прынеслі ў літаратуру свой значны вопыт і юнацкую прагу да мірнай працы. Яны многа зрабілі, каб сэрца літаратуры білася молада і гулка,— пісьменнікі першага пасляваеннага папаўнення — К. Кірэенка, Я. Брыль, М. Калачынскі, І. Шамякін, А. Кулакоўскі, М. Ткачоў. Хваля за хваляй, развінаючы літаратуру ўшыркі, напаўняючы яе новымі галасамі, турбуючы новымі пошукамі, уваходзілі ў літаратуру і ўчарашнія салдаты — В. Быкаў, І. Навуменка, А. Асіпенка, А. Пысін, А. Карпюк і ўчарашнія студэнты, што памяталі вайну па пакутлівых дзіцячых успамінах,— І. Пташнікаў, Н. Гілевіч, М. Стральцоў, Б. Сачанка, В. Адамчык, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі.

XX з'езд партыі вярнуў у нашы рады вялікую групу таленавітых пісьменнікаў. Удзячным словам хочацца адзначыць: яны добра папрацавалі, вярнуўшыся ў літаратуру — У. Дубоўка, Я. Скрыган, Р. Бярозкін, М. Хведаровіч, С. Грахоўскі, А. Пальчэўскі...

Імкліва ляціць час. Яшчэ па прывычцы называюць маладымі В. Адамчыка і Г. Бураўкіна, а іх даўно ўжо падпірае новае пакаленне са сваімі праблемамі і вопытам. Сярод тых, хто яшчэ не асмельваецца падаваць заявы аб прыёме ў Саюз пісьменнікаў, ёсць паэты і празаікі са сваім поглядам на жыццё, сваім, няхай не заўсёды ўпэўненым, почыркам.

Я разумею, што ў невялікім і святочным артыкуле шмат імён. Няхай даруюць мне чытачы гэтую слабасць і няхай зразумеюць: я называю імёны таму, што бачу беларускую літаратуру ў багацці адметных індывідуальнасцей, у многіх дастойных кнігах, якіх куды больш, чым імён. Зрэшты, я ўпэўнены: імёны, якія я назваў, ужо даўно не толькі імёны і для саюзнага чытача. І яшчэ мог бы сказаць, што імён, вартых увагі, у нашай літаратуры значна больш. Варта было б, азіраючы пяцідзесяцігадовы шлях, адзначыць яшчэ многіх, але трэба лічыцца з нецярплівым чытачом. Чытач, ведаю, не любіць вялікіх святочных прамоў...

Літаратура, як кожная справа народа,— гэта творчасць многіх. Сёння справа многіх пісьменнікаў Беларусі — беларуская літаратура — трывала і шырока —

на ўсю нашу велізарную краіну — жыве ў народзе многімі кнігамі, што хвалююць сэрцы. Сціпла, з годнасцю, захоўваючы і развіваючы ўсё тое лепшае, што здабыта вопытам многіх пісьменнікаў: глыбокае асэнсаванне народнага жыцця, партыйную прынцыповасць у ацэнцы падзей і дзейнасці герояў, праўдзівасць — не баючыся, паводле трапнага выказвання Л. Навічэнкі, быць «звычайнай», наша літаратура выконвае свой нялёгкі і высакародны абавязак перад народам.

Не, мы не сляпыя, мы бачым і многія недахопы агульнай нашай справы. Мы ведаем, што нам яшчэ багата чаго трэба зрабіць, зрабіць лепш, больш дасканала. Мы не цешым сябе першымі поспехамі. Мы бачым, што вялікія вяршыні яшчэ наперадзе, уверсе.

Мы гатовы працаваць, мы поўныя рашучасці працаваць. Гэта, думаецца, дае права глядзець у далячыні, за межамі пяцідзесяцігоддзя, з добрымі надзеямі. Надзеі гэтыя, думаю, цвярозыя і цалкам абгрунтаваныя.

*1968*

# ПРАЦА ПІСЬМЕННІКА

Пісьменнік па характару працы сваёй — адзіночка. Што б ні адбывалася потым, задума нараджаецца ў яго сэрцы, спее ў адзіноце. За сталом кабінета ажыццяўляецца гэтая задума таксама ў абстаноўцы, калі аўтар твора вяршыць лёс герояў — і свой лёс — адзін, сам-насам з лістом паперы, з цішынёй.

Праца гэтая была заўсёды і застаецца сёння працай адзінокай, інтымнай.

Але, будучы адзінокай і інтымнай, праца пісьменніка ў той жа час поўная кіпення жыцця. Адчуваннем жыцця поўна сэрца пісьменніка, яго галава, усе яго пачуцці. Цішыня вакол самотнага рабочага стала поўная вялікага, неспакойнага гоману жыцця.

Гэта жыццё, страсці яго, запоўніўшы пісьменніка, паклікалі яго да стала, прыкавалі да ліста паперы.

«Ціхая», адзінокая праца пісьменніка, можа, адна з самых грамадскіх па свайму характару.

Складаная гэта праца. Невыказна складаная. Яна складаная не толькі таму, што патрабуе вялікага напружання, складаная таму, што сапраўдны пісьменнік піша не адным тым часам, які ідзе на пісанне раздзела, старонкі,— ён фактычна піша ўсім жыццём.

Увесь разумовы і сардэчны вопыт удзельнічае ў яго працы. Гэта ён, жыццёвы вопыт, нараджае задуму, абдумвае яе, падбірае герояў, сітуацыі, ацэньвае ўсё. Гэта ён, культура, накопленая гадамі вучобы і жыцця, дыктуе фразы, дыялогі, разуменне ўнутранага свету людзей.

Пісьменнік ствараецца гадамі, жыццём. Сказаць пра гэта трэба таму, што без разумення гэтага нельга па-сапраўднаму зразумець пісьменніка, яго інтарэсаў, яго своеасаблівасці; як, зрэшты, наогул нельга зразумець любога чалавека. Гэта вельмі важна ведаць таму, што

вопыт, жыццё ў рэшце рэшт вызначаюць светаўспрыманне пісьменніка.

Ад таго, што ўсё ў рэшце рэшт вызначаецца жыццёвым вопытам, сэрцам пісьменніка, вельмі важна для пісьменніка, для яго таленту, як ён жыў і як ён жыве. Адкрыта ці замкнёна яго сэрца для радасцей і гора людзей, наколькі чула ловіць ён дыханне жыцця навокал сябе. Як глыбока ўспрымае ўсё, што адбываецца.

Можна спрачацца пра тое, што такое талент і што яго вызначае, але, думаецца, адна з галоўных якасцей таленту пісьменніка — гэта здольнасць яго адчуваць, хваляваца жыццём навокал, жыццём асобных людзей, краіны, свету.

Чым вастрэйшая гэтая здольнасць успрымаць, адгукацца, тым больш убірае яго сэрца, яго розум, тым яны багацей. Тым багацей талент.

Быць розумам і сэрцам сярод людзей, заўсёды адчуваць іх трывогі і клопаты — для пісьменніка не толькі ўмова паўнацэннага жыцця, але і абавязковая ўмова здольнасці да творчасці.

Гэта элементарна. Гэта вядома не толькі кожнаму пісьменніку, але і, хоць бы знешне, многім чытачам. Але ж як часта простыя ісціны аказваюцца складанымі ў патоку штодзённасці. Тое, што пісьменнік працуе ў адзіночку, у цішыні кабінета, нярэдка тоіць непрыкметную небяспеку. У пісьменніка заўсёды ёсць пагроза замкнуцца ў сабе, у сценах сваёй кватэры, у старонках кнігі, нарэшце, у вузка літаратурных інтарэсах. Літаратурныя будні, мітусня будзённых клопатаў і інтарэсаў уцягваюць, зацямняюць, аблытваюць, часам моцна заглушаючы голас вялікага жыцця.

І тады аказваецца, як важна для пісьменніка мець сілу характару, здольнасць устаяць перад дробязнай штодзённасцю, якая аблытвае сваёй мітуснёй. Як важна не траціць адчування рэальных аб'ёмаў падзей, якія разгортваюцца паблізу і далей.

Пісьменніцкая справа патрабуе наогул вялікай сабранасці і самадысцыпліны. Амаль у кожнай працоўнай прафесіі ёсць элемент дысцыплінуючай, звыклай абавязковасці. Кожны рабочы, служачы, калгаснік ведае той абавязковы для яго час, калі трэба станавіцца да станка, ісці ў поле, на ферму. На рабоце ён не ўмоўна, а рэальна адчувае локаць таварыша, працу калек-

тыву. У пісьменніка гэтае адчуванне можа быць толькі ўнутры або не быць зусім.

Пісьменнік можа працаваць дзве гадзіны, можа працаваць дваццаць гадзін, не працаваць зусім. Можа працаваць штодзённа, уключаючы выхадныя дні, працаваць месяцамі без адпачынку. Можа — месяцамі не працаваць зусім. Тое, што ён зрабіў або не зрабіў у той дзень, ніхто, акрамя яго, не заўважыць. Ніхто не папракне яго за гультайства і не пахваліць за доблесць у працы. Пройдзе час, усе будуць ведаць, як ён жыў, але пакуль толькі ён адзін можа судзіць сябе.

Пісьменнік раней за ўсіх сам кантралюе сябе. Ён, можна вобразна сказаць,— добраахвотнік. Работнік, які добраахвотна ўзяў на сябе абавязацельства і выконвае яго ў меру сіл сваіх і сумлення. Тут трэба дадаць, што добры, сапраўдны пісьменнік — не проста добраахвотнік, але добраахвотнік апантаны, закаханы ў сваю справу, ён верыць у яе, справы гэтае, асабліваe значэнне і рашуча ідзе дзеля яе на ахвяры. Гэтая здольнасць — апантанасць — таксама адна з важных уласцівасцей таленту; яна дае пісьменніку сілу, энергію яго думкам, адчуванне радасці яго нялёгкай працы.

У пачуцці апантанасці, якім, радуючыся і пакутуючы, поўны пісьменнік, адкрыта ці прыглушана жыве адчуванне таго, што праца яго — важны абавязак. Усведамленне гэтага вельмі патрэбна кожнаму сур'ёзнаму пісьменніку. Яно не толькі патрэбна, яно — неабходна. Што б ні рабіў, пісьменнік павінен адчуваць грамадскае значэнне сваёй справы. Адчуваць, што яго справа — не дробязная, што яна патрэбна людзям, грамадству, Радзіме.

Гэтае ўсведамленне ўзнімае і ўмацоўвае дух пісьменніка, дае яму мужнасць.

Далёка не заўсёды надзеі пісьменніка здзяйсняюцца. Горкім бывае расчараванне ад твора ці з прычыны свайго ўласнага прасвятлення ці разумення, падказанага збоку. Але пакуль пісьменнік, верачы і радуючыся, апантана працуе — што б там ні было потым,— гадзіны і дні гэтыя самыя шчаслівыя і самыя значныя ў яго жыцці.

Іменна ў такія дні створана ўсё лепшае ў літаратуры.

Працуючы, пісьменнік адначасова як бы робіць дзве справы. Можна сказаць — стварае дзве кнігі.

Адна з гэтых кніг потым будзе выдадзена, будзе апранута ў вокладку. Яе аблічча будзе відаць усім. Другая кніга, як правіла, ніколі не пабачыць свету.

Яна жыве ўвесь час з той, відочнай. Вельмі часта — доўга пасля таго, як тая, відочная, стане на кніжную паліцу.

Непрыкметная для старонняга, яна будзе доўга жыць у сэрцы пісьменніка, можа, усё жыццё.

Гэтая другая кніга — тая ўнутраная работа, якая заўсёды папярэднічае напісанай і надрукаванай. Папярэднічае, суправаджае на працягу ўсёй работы за пісьмовым сталом і нярэдка — потым застаецца, разам з многімі пытаннямі.

Ненапісаная гэтая кніга ўся складаецца з пытанняў. Пытанні гэтыя часцей за ўсё канкрэтныя, практычныя: пра галоўную думку кнігі, пра герояў, характары іх адносіны да іх, узаемаадносіны паміж імі. З чаго пачаць, як развіваць, чым закончыць? Як будзе паводзіць сябе герой, якія словы скажа, што падумае?

Потым, калі кніга пойдзе ўжо ў бібліятэкі, да чытача, пытанні гэтыя будуць прыходзіць трывожнымі сумненнямі: ці добра, ці правільна зроблена? Ці пераканаўча пададзены характары, ці дакладныя ацэнкі? Ці лепшыя знойдзены рашэнні? Мноства пытанняў.

І чым даражэй і сур'ёзней кніга — тым больш гэтых пытанняў і тым даўжэй яны будуць трывожыць.

Складаная і неспакойная гэта работа, да якой чытачу няма ніякай справы, але без якой не нараджаецца ні адна кніга.

*1968*

# МАЙСТЭРСТВА — ГЭТА ІМКНЕННЕ

## Некалькі заўваг аб простых ісцінах

Я ўпершыню пішу пра майстэрства. Таму адчуваю патрэбу пачаць з агульных разважанняў.

Перш за ўсё адзначу адну асаблівасць майстэрства. Майстэрства — як вынік — справа крытыкаў і чытачоў. Для пісьменніка любога ўзроўню, вопыту і таленту майстэрства — гэта імкненне.

Да чаго імкнецца пісьменнік?

Для мяне самае важнае — і самае цяжкае — стварыць у кнізе вобразы. Насяліць кнігу жывымі людзьмі. Людзьмі рознымі, са сваім аблiччам, са сваімі гаm-ласамі, сваімі надзеямі і клопатамі. Сваімі непаўторнымі індывідуальнасцямі.

Іх многа, яны ўсе розныя, але я павінен зразумець іх кожнага, як разумею сябе, адчуць іх ва ўсёй іх чалавечай складанасці, да найдрабнейшых асаблівасцей. Зразумець іх так, каб зразумелі іх, як сябе, і чытачы.

Іх многа, у кожнага з іх свой шлях, свой свет, але я павінен усіх іх звязаць у адно цэлае. Не прымусам, [illegible] проста і натуральна, так, каб яны былі патрэбны адзін аднаму. Бо яны — людзі сярод людзей.

У людзей у кнізе павінны быць таксама зямля і неба, трава і воблакі, рэкі і паветра. Бо гэтыя людзі жывуць на зямлі, і трэба, каб адчувалася, што яны — людзі зямныя.

Усё гэта разам павінна дапамагчы вырашыць галоўную — і самую цяжкую — задачу: стварыць у кнізе жыццё, цэлы свет у праўдзівых, жывых праяўленнях і фарбах.

Не толькі пісьменніку вядома ісціна: душою кожнага твора павінна быць праўда. Твор тым больш значны, чым ён больш праўдзівы.

Наўрад ці калі-небудзь сур'ёзны пісьменнік браўся за работу, не імкнучыся сказаць праўду.

І аднак гэтая акалічнасць не перашкаджала ствараць — не так ужо рэдка — у той ці іншай ступені непраўдзівыя творы.

Нялёгкі вопыт у словах Хемінгуэя: «Што па-сапраўднаму цяжка — дык гэта стварыць нешта на самай справе праўдзівае».

Цяжкасць не толькі ў тым, што абыходжанне з праўдай іншы раз патрабуе ад мастака вялікай мужнасці. Справа яшчэ і ў тым, наколькі пісьменніцкае ўяўленне аб праўдзе адпавядае сапраўднаму вобліку праўды.

Жыццё складанае, у ім пераплятаюцца розныя тэндэнцыі, розныя лёсы, розныя якасці. Складаная, як жыццё, і праўда, і прасцейшая з выгляду ісціна — пісаць праўду — вельмі часта падстаўляе мастаку многія цяжкасці.

Праўда ў мастацкім творы павінна выступаць у жывым, рухомым вобліку, у мностве розных — адкрытых і скрытых — сувязей.

Каб усё гэта ўбачыць і зразумець, ад пісьменніка патрабуецца вялікае чуццё, розум і вопыт. Усе пачуцці пісьменніка павінны жыць напружана і сканцэнтравана, ён павінен адчуваць не толькі твор у цэлым, але і кожны раздзел, кожны радок.

Чым вышэй гэтае чуццё, дакладнасць разумення людзей і жыцця, тым вышэй і ўзровень праўды, вышэй сам мастак. Яго майстэрства.

Таму, я лічу, майстэрства — гэта не толькі ўменне намаляваць у кнізе свет, але і — перш за ўсё — уменне разумець свет ва ўсёй яго разнастайнасці.

У рэшце рэшт у творы ўсё залежыць ад таго, наколькі глыбока і шырока бачыць, разумее свет мастак.

Майстэрства непазбежна залежыць ад светапогляду пісьменніка ў цэлым. Ад яго не толькі чыста літаратурных, але і ад сацыяльна-палітычных поглядаў і вопыту.

Гэтак жа, як праўдзівасць, важна для твора і пераканальнасць пісьменніка ў тым, што ён гаворыць чытачу, страснасць у яго любові і нянавісці. Старая, жорсткая парада Талстога пісаць толькі тады, калі не можаш не пісаць, мне здаецца абавязковым патрабаваннем.

Раўнадушша немагчыма схаваць, яно немінуча акажацца або холадам, або сумам і фальшам. Твор, у якім

няма жывога цяпла, мёртвы, як папяровыя кветкі, з якім бы ўмельствам яны ні былі выкраены і распісаны.

Я баюся сусальнасці і сентыментальнасці, мне прыкрая і высакапарнасць пачуццяў — нават калі за імі і адчуваецца шчырасць. Але мяне не вельмі вабіць і знарочыстая, падкрэсленая «дзелавітасць», якая для некаторых маіх таварышаў стала як бы абавязковым эталонам сучаснага стылю прозы.

Акрамя ўсяго, Талстой як мастак пакарае мяне і ваяўнічым імкненнем ускрываць пад бачным сутнасць, зрываць усе покрывы з фальшу і хлусні, нейкай, я б сказаў, адкрытай аголенасцю думкі, моцнай і смелай. А якія цудоўныя чэхаўская сардэчнасць або бунінская закаханасць, водбліск якіх заўсёды адчуваеш на тварах іх герояў, на старонках іх кніг.

Я, помню, доўгі час імкнуўся пісаць стрымана і строга. Можа, калі гаварыць пра раман «Мінскі напрамак», гэтая строгасць пісьма ў цэлым патрэбна была, бо кніга гаварыла пра час суровы, пра нялёгкія падзеі і лёсы. Але вось калі я цяпер перачытваю раманы з «Палескай хронікі» і адчуваю ў іх лірычную цеплыню, я аддаю перавагу гэтым асаблівасцям апошніх кніг.

Крытыкі маю прозу звычайна адносяць да разраду традыцыйнай.

Думаецца, што ў гэтым ёсць доля праўды. Сапраўды, мае раманы маюць шмат агульнага з тым тыпам рамана, які для рускай і савецкай літаратуры стаў звычайным. Я магу сказаць, што свядома ішоў у рэчышча нашай раманнай традыцыі, якую лічу глыбока жыццёвай і па-ранейшаму перспектыўнай.

Аднак, азіраючыся назад, перачытваючы свае апошнія кнігі, я заўважыў і якасці, якіх не было ў маіх ранейшых творах. Я ўжо і не помню, якім чынам, але яшчэ ў працэсе работы над раманам «Людзі на балоце» пачала ў мяне складвацца крыху іншая, чым у ранніх творах, манера пісьма. Калі ў «Мінскім напрамку» і іншых кнігах ранейшых гадоў я строга прытрымліваўся прынцыпу аб'ектыўнага паказу, з пункту гледжу як бы староннягa назіральніка, то ў «Людзях на балоце» ў аб'ектыўнае апавяданне ўсё часцей пачала пранікаць суб'ектыўна-лірычная плынь.

Відаць, да гэтага прывяло імкненне паказваць чалавека знутры, увага да таго, як мяняецца, жыве яго пачуццё, яго думка. Імкненне наблізіцца да героя патрабавала ў іншых выпадках як бы поўнага пераўвасаблення ў яго. Тады аўтарская мова злівалася з суб'ектыўнай, унутранай мовай героя, на час нават зусім саступала ёй месца. Апавяданне непрыкметна для мяне набыло невядомы раней маім кнігам унутраны рух, дзе ўвесь час як бы адбывалася змена танальнасці апавядання. Калі дадаць да гэтага, што розны характар унутранага жыцця герояў выклікаў суб'ектыўныя карціны рознага гучання, то можна ўявіць, які гэта зрабіла ўплыў на ўвесь стыль раманаў.

Атрымалася нешта не зусім звычайнае для нашай беларускай літаратуры. Але павінен шчыра сказаць, што адбылося гэта неяк само сабой, амаль несвядома. Прычынай было толькі імкненне пранікнуць глыбей у чалавека, быць з ім. Імкненне перадаць рух пачуццяў і думак, багацце і ўзаемную іх сувязь. І імкненне бачыць таксама знешні свет, зрокавы і адчувальны. І імкненне — гарачае імкненне — іншы раз выказацца і самому, адкрыта. Пра тое, што здаецца асабліва важным і што павінна быць агалена.

У выніку і ўзнікла гэтая новая для мяне манера апавядання — рухомая, вольная, што як бы ўключае ў сябе некалькі плыняў. Адзін з крытыкаў, які разбіраў абодва раманы, назваў гэтую манеру сінтэтычнай.

Зрэшты, я нічога не маю супраць таго, каб мяне лічылі традыцыйным.

Я гатоў падтрымаць пошукі ў галіне формы — але толькі ў тым выпадку, калі навізна ў гэтай галіне дапамагае чым-небудзь зместу, даходлівасці кнігі. Я разумею, напрыклад, імкненне як мага дакладней даследаваць рух пачуццяў і думак чалавека. Зразумелыя мне і імкненні прымусіць больш паслухмяна служыць задуме кампазіцыю твора.

Але, на жаль, не так ужо рэдка прыходзіцца бачыць, што некаторыя наваўвядзенні ў галіне формы не толькі не дапамагаюць, а перашкаджаюць справе. Кампазіцыя твора не любіць, каб яе без патрэбы ламалі, і, як правіла, не даруе гвалту над сабой. Не даруе бесцырымоннага абыходжання з сабой і сюжэт, які патрабуе наогул паслядоўнага, лагічнага развіцця.

Калі бачыш некаторыя, не выкліканыя неабход-

насцю фармальныя вышукі, міжволі ўзнікае думка, што зроблена гэта, каб здзівіць, вырвацца са звычайнасці. Але, думаецца, што здзіўляць трэба не гэтым, а адкрыццямі ў нетрах жыцця, у глыбінях чалавека.

Я таксама крыху эксперыментаваў у галіне кампазіцыі і сюжэта і ведаю, якія абмежаваныя тут магчымасці. І ведаю я таксама, якія бязмежныя магчымасці для пісьменніка ў тым, што павінна стаць зместам кнігі.

За ўсе гады, што я пішу, у мяне ніколі не было такога, каб я мучыўся, пра што пісаць. У тым сэнсе, што няма цікавых задум, матэрыялу. Я ніколі не адчуваў недахопу ў матэрыяле для будучай кнігі: жыццё наша не скупое на матэрыял для пісьменніка. Было нярэдка: розныя задумы не давалі сканцэнтравацца на якой-небудзь адной з іх. На выбар лепшай з іх ішло, бывала, нямала часу.

Але што мучыла заўсёды, дык гэта — відаць, знаёмае многім — *як* пісаць?

І цяпер непакоіць мяне: так многа хацелася б яшчэ сказаць. І адчуванне: многага не змагу, не паспею. Вельмі марудна пішу...

З усяго таго, што прыходзіцца пераадольваць у рабоце за пісьмовым сталом, самае цяжкае для мяне — партрэты.

Ёсць думка, што партрэт у сучаснай прозе наогул не вельмі патрэбен, ён мала што дае для выяўлення чалавека. Але я, як ні хацелася б мне згадзіцца з гэтым, адчуваю вобраз героя незавершаным, пакуль не ўбачу яго твар, увесь яго воблік.

Майстэрства партрэта мне здаецца адным з самых складаных у творчасці. Яно, на маю думку, патрабуе асаблівай дакладнасці бачання, тонкасці пісьма. Мяне захапляе гэтае майстэрства ў Талстога, у Шолахава — зрэшты, ім добра валодаюць і некаторыя сучасныя пісьменнікі.

У мяне стварэнне партрэта звычайна патрабуе асаблівых намаганняў. Партрэт галоўнай гераіні ў рамане «Людзі на балоце» Ганны Чарнушкі, пададзены ў самым пачатку кнігі, я змог напісаць здавальняюча толькі тады, калі кніга была ўжо амаль закончана.

Вельмі важныя для мяне дыялогі. Майстэрства гэтае таксама лічу адным з найбольш складаных — маг-

чыма, нават самым складаным. Яно, па-мойму, патрабуе дасканалага ведання чалавека, чалавечай псіхалогіі, прычым ведання чалавека і псіхалогіі не наогул, але вельмі канкрэтных, разнастайных іх тыпаў і станаў. Ведання нязвычнасці, своеасаблівасці характару кожнага героя, своеасаблівасці яго стану ў той ці іншай сітуацыі. Усё гэта павінна заўсёды адчувацца ў падтэксце.

Майстэрства дыялога тым вышэй, чым дакладней разуменне кожнага характару і стану героя. Ва ўсёй іх непаўторнасці. Жывой цякучасці.

Мне мова герояў таксама цяжка падпарадкоўвалася. Спачатку нярэдка гэта было проста падабенства чалавечай мовы. Дыялог меў больш інфармацыйную ролю, тлумачыў падзеі, рухаў дзеянне.

Здаецца, што задачу гэтую мне па-сапраўднаму ўдалося вырашыць толькі пасля дзесятка год работы ў прозе. Вельмі карыснай аказалася ў гэтых адносінах такая добрая школа, як работа ў драматургіі.

З асаблівай чуласцю да мовы герояў я працаваў над раманамі пра Палессе. Акрамя немалога ўжо вопыту работы тут важнае значэнне мела тое, што героі мае былі людзі своеасаблівыя, вельмі каларытныя, са сваім асаблівым ладам гаворкі. Да таго ж, гэта былі добрыя мае знаёмыя, я ведаў пра іх, здаецца, усё.

Думаю, варта адзначыць адну асаблівасць у рабоце над палескімі кнігамі. Героі мае гаварылі спачатку хоць і кожны ў адпаведнасці са сваім характарам, але — агульналітаратурнай мовай. Так, як гаварылі ў іншых кнігах, як лічылася тады нормай. Я, аднак, увесь час адчуваў нейкую дзіўную, непераадольную ненатуральнасць, фальшывінку ў іх мове. І чым далей, тым больш расло гэтае адчуванне.

Гэта было падобна на тое, як адчуваеш фальшывы тон у музыцы. Тады ўсё настойлівей пачала браць мяне спакуса: а ці не паспрабаваць дазволіць героям гаварыць так, як яны гавораць у жыцці. Увесці ў раман іх сапраўдную, няхай, можа, і дзіўную для другіх мову. Не адразу я адважыўся. Тады вельмі строгія былі ў нас ахоўнікі «чысціні» мовы. І ўсё ж адважыўся. І адразу адчуў, як мае героі ажылі, сталі тымі людзьмі Палесся, якіх мне хацелася бачыць і чуць.

У перакладах гэта, на жаль, амаль не ўдалося захаваць...

Я чуў, што ў сучасным мастацтве пейзаж зжыў сябе. Што ён не патрэбен. Анахранізм.

Для мяне кніга без пейзажу — тое ж, што вядомы слуп, які нарадзіўся з адрэдагаванай сасны.

Мне здаецца, пейзаж не толькі дапамагае стварыць у кнізе адчуванне паўнаты чалавечага быцця, ён разам з тым — свет паэзіі, хараства, страту якога ў мастацтве не можа замяніць нішто. Выкіньце пейзажы з «Ціхага Дона» або «Разгрому» і ўбачыце, як паблякнуць вялікія кнігі. Нашто ж свядома збядняць мастацтва?

Можа, таму, што я змалку рос сярод лясоў, сярод дзівоснай па сваёй прыгажосці прыроды, мне і ў мастацтве жыццё прыроды асабліва дарага.

Павінен сказаць, што карціны палескай прыроды, магчыма, першыя пачалі тую работу, якая прывяла да апошніх маіх раманаў. Я бачыў малюнкі Палесся перад сабою, яны будзілі ўспаміны, трывожылі. З успамінамі аб прыродзе прыйшлі ўспаміны аб людзях, зямлю засялілі людзі. Фарбы, гукі, лёс людзей усё болей звязваліся, усё выразней малявалі карціну, якая больш і больш захоплівала мяне.

Я проста не мог не напісаць пра палескую прыроду. Мяне непакоіць толькі, што, можа, у гэтай любові іншы раз, асабліва ў другім рамане, я станаўлюся праз меру настойлівым. Можа, занадта многа даю гэтых карцін, многа і падрабязна. Мне здаецца, што прырода ў раманах стала як бы важнай тэмай кнігі.

Чалавек, вакол якога не жыве прырода, мне бачыцца нейкім жабраком, непрыкаяным. Я заўсёды павінен адчуваць героя свайго ў адзінстве з зямлёй і небам, таму звычайна вельмі ўважлівы да таго, як яны жывуць разам.

Героі маіх раманаў — палескія сяляне, і гэта ў многім вызначыла характар і значэнне карцін прыроды ў кнігах. Зямля — карміцелька; зямля — жыццё; зямля — надзея, любоў, нянавісць. Як бы я мог напісаць шчасце першага кахання Ганны і Васіля без адчування, што любоўю поўны ўвесь свет вакол іх? І разлом гэтага кахання, бесчалавечнасць яго хіба можна было б паказаць інакш?

У другім рамане — «Подых навальніцы» — старшыня райвыканкома Апейка дапамог мне ўвесці ў кнігу асаблівы — шырокі, сінтэтычны — вобраз пры-

ды краю. Дапамог гэтымі карцінамі паказаць стракатасць эканамічных праблем раёна. У карціне працоўнай восені — стракатае працоўнае жыццё жыхароў раёна ў пачатку вялікага пералому...

Л. М. Талстой у пісьме да А. Фета пісаў: «Я нуджуся і нічога не пішу, а працую пакутліва. Вы не можаце ўявіць, якая для мяне цяжкая гэтая папярэдняя работа глыбокага ворыва таго поля, на якім я вымушаны сеяць. Абдумаць і перадумаць усё, што можа здарыцца з усімі будучымі людзьмі будучага твора, вельмі вялікага, і абдумаць мільёны магчымых спалучэнняў для таго, каб выбраць з іх 1/1 000 000, страшэнна цяжка. І гэтым я заняты».

Сярод многіх іншых праблем майстэрства адна, на мой погляд, мае асаблівае значэнне. Я назаву яе — вызначэнне лепшай якасці.

Гэтая праблема, думаю, стаіць увесь час перад пісьменнікам пры вырашэнні ўсіх разнастайных задач. Ад яе нязменна будзе залежаць узровень будучай кнігі, тых ці іншых яе элементаў.

Задачы, якія ўзнікаюць у час работы перад пісьменнікам, выклікаюць у ім бесперапынна розныя варыянты рашэнняў. Чым багацей талент, тым больш натхнёна працуе аўтар, тым больш гэтых варыянтаў.

Але тым важней і ўменне знайсці самы дакладны, самы лепшы варыянт.

Як бы добра ні ведаў ты жыццё і людзей, пра якіх пішаш, гэтае веданне яшчэ — палова справы! Кожны раздзел, кожны эпізод, кожны радок будуць ставіць задачу за задачай, якія трэба вырашыць найлепшым чынам. Які варыянт галоўнай лініі кнігі дасць самае праўдзівае ўяўленне пра час і пра чалавека? Які герой зможа лепш выявіць час, галоўную думку кнігі? Які варыянт раздзела лепш дапоўніць агульную карціну? Які стан героя ў дадзены момант найболей праўдзівы? Які жэст яго найбольш натуральны? Якое слова яго найбольш дакладнае? Якая фраза лепш выкажа тваю думку? І г. д., і да т. п.

Праўдзівасць, глыбіня, яркасць карцін, вобразаў — усё ў той ці іншай форме залежыць ад умення пісьменніка выбіраць лепшае.

Хачу асобна спыніцца на адной задачы. Пісьменнік павінен адчуваць сваю рэч у руху. Але ўсякае паглыбленне ў жыццё, у героя стрымлівае рух сюжэта. Ад таго, наколькі добра ўзаемадзейнічаюць апавяданне і сюжэт, залежыць лёс кампазіцыі твора. Ад усіх іх траіх залежыць у немалой ступені якасць кнігі.

Як вызначыць найлепшы рытм, тэмп руху апавядання, развіцця сюжэта, дыялога? Як вызначыць тую меру, дзе б імкненне глыбей, сур'ёзней даследаваць свет і чалавека не шкодзіла дынаміцы апавядання, не абцяжарвала занадта кампазіцыю твора? Або наадварот, дзе б клопаты аб прыгажосці, зграбнасці ліній твора не былі б у шкоду глыбіні і грунтоўнасці адлюстраванага? Як вызначыць, дзе багацце мовы пераходзіць у мнагаслоўе, а лаканізм — у жорсткасць?

У практыцы работы ўсё гэта аказваецца клопатам не простым.

Пушкін і Талстой, Дастаеўскі і Чэхаў. У іх кнігах у многім розныя рашэнні гэтых задач.

У аднаго і таго ж пісьменніка шчыльнасць і дынаміка апавядання ў розных творах вельмі вагаюцца. Вазьміце хаця б Л. Талстога: побач з «Вайной і мірам» і «Аннай Карэнінай» — «Халстамер», «Хаджы-Мурат», «народныя» апавяданні. Розная шчыльнасць прозы, розны тэмп руху сюжэта.

Мне здаецца, сучасная проза не толькі не прымірыла адвечную спрэчку паміж апавяданнем і сюжэтам, але, бадай, нават абвастрыла яе. У сучаснай літаратуры ў гэтых адносінах, на мой погляд, выразна заўважаюцца два напрамкі. Адзін вылучае дынамічны і лаканічны стыль як найбольш адпаведны дынамічнаму характару нашай эпохі. Другі амаль пагарджае дынамікай апавядання і накіраваны цалкам на пасягненне глыбінь эпохі, свету і мікрасвету чалавека. Другі, па-мойму, настойліва даводзіць свае перавагі ў У. Фолкнера і Г. Бёля.

Мяне заўсёды непакоіць супярэчнасць паміж апавяданнем і сюжэтам. Я заўсёды адчуваў страты, якія ў той ці іншай ступені нёс адзін і другі бок.

Вось і цяпер, аглядваючыся на апошнюю сваю кнігу, бачу: у «Подыху навальніцы» ёсць, вядома, перавагі перад папярэдняй. Узята, падобна, многае глыбей, напісана вальней, але разам з гэтым ёсць, здаецца, і страты. Сюжэт стаў больш павольны, дзеянне часам як

бы тармозіцца. Можна было б, на карысць сюжэта, скараціць і зусім зняць некаторыя раздзелы. Напрыклад, такія, як ноч на лузе, роздум герояў. Дзеянне пойдзе больш энергічна. Але тады кніга страціць многа ў сэнсе глыбіні. І роздум герояў для мяне вельмі важны. Бо раман па характару свайму — гэта кніга-роздум.

У сувязі з гэтым яшчэ адно меркаванне.

Ёсць, вядома, мудрая праўда ў тым, што майстэрства — гэта ўменне выкрэсліваць тое, што дрэнна напісана. Або адсякаць лішняе. Але мне ўсё ж здаецца, што ў гэтым вопыце — толькі палавіна ісціны. Другая палавіна ісціны ў тым — і ў гэтым немалая цяжкасць майстэрства, што ў творы не толькі не павінна быць нічога лішняга, але таксама не павінна быць нічога страчана. Павінна быць усё неабходнае.

Урэшце — каштоўнасць твора вызначаецца тым, што ў ім ёсць.

Па сутнасці, працэс работы аўтара — гэта няспынныя, нястомныя, патрабавальныя пошукі лепшага варыянта, лепшай якасці.

Уменне адчуваць лепшае, на мой погляд, адна з самых неабходных для пісьменніка якасцей. І, можа быць, адна з тых, якую цяжка растлумачыць.

Гэтае пачуццё, як лакатар, павінна дзейнічаць увесь час, пакуль працуеш. Сачыць, папярэджваць, вызначаць. Выйдзе са строю ці задрэмле гэты лакатар — і ўсё разладжваецца.

Мне здаецца, гэта яно вызначае тое «ледзь-ледзь», у якім у мастацтве — уся «соль».

Адкуль яно? Відаць, ад таленту, у ім вельмі важная — інтуіцыя. І, вядома, ад вопыту.

Уменне, акрамя ўсяго, патрабуе вопыту.

Некалькі слоў у заключэнне.

Агульныя ісціны ў мастацтве простыя, як табліца множання. Але яны — толькі пачатак. Усё вырашае тое, што будзе потым. Потым нязменна — цяжкі і складаны шлях. Работа, пошукі, надзеі, сумненні, перамогі і няўдачы.

Разам з імі заўсёды — імкненне. Неспакойнае імкненне, творчасць. Якая ўсё стварае ў мастацтве. У тым ліку і майстэрства.

*1968*

# КЛОПАТЫ МІНУЛАГА ГОДА

Адыходзячы год адзначаны для мяне незвычайнай работай. Я дакрануўся да цяжкага мінулага, да старонак, якія абпальваюць сэрца. Шмат гадоў не рашаўся я брацца за гэтую работу. Толькі час ад часу даставаў памятую, моцна пацёртую кніжачку, якую некалі насіў у кішэні франтавой гімнасцёркі.

Паспешлівыя, першыя радкі ўжо дзе-нідзе ледзь відны. Але дзіўна — далёкае зноў пачало ажываць, нібыта было гэта ўчора. Больш таго, памяць уваскрасіла нямала такога, пра што ў спешцы не гаварыла кніжка. І многае з гэтага аказалася нават больш яркім і важным, чым тое, што запісана...

Запісы гэтыя — франтавы дзённік — я вёў у 41-м на Паўднёвым фронце. Гэта быў, па сутнасці, пачатак маёй празаічнай работы. Першыя апавяданні, потым надрукаваныя, былі напісаны пазней, у шпіталі ў Тбілісі.

Збор маіх твораў, які рыхтуецца ў Мінску, я абавязкова хацеў «пачаць з самага пачатку». Цяпер першы том маёй прозы адкрыецца вялікім урыўкам з дзённіка 41-га года.

Работа над франтавымі запісамі абудзіла ў мяне даўняе жаданне — напісаць кнігу пра таварышаў па зброі ў той цяжкі час, пра салдат і камандзіраў горнаартылерыйскага палка — наводчыка Паўла Матору, малодшага лейтэнанта Картушына, старшага лейтэнанта Сітнікава. Думаю як аб прататыпах будучых мастацкіх вобразаў пра сержанта Дубінкіна, палітрука Смоквіна і многіх іншых са слаўнага палка палкоўніка Дзядова, з якімі лёс некалі звёў у цяжкім баі пад Новай Адэсай, з якімі разам прарываў акружэнне ў стэпе пад Нікалаевам, адбіваў наступленне ворага на Дняпры. Такім чынам, наперадзе другая сустрэча з героямі франтавых запісаў.

Яшчэ адна мая работа звязана з мінулым, ужо літаратурным. Я вярнуўся, таксама ў сувязі з падрыхтоўкай да выдання збору твораў, да рамана «Мінскі напрамак», перагледзеў усё: выкрасліў многае, іншае паправіў. Некалькі раздзелаў напісаў занава: раздзелы пра генерала Чарняхоўскага. Цяпер паявілася многа матэрыялаў, раней невядомых, якія дазволілі падняць вобраз героя.

Хоць работа гэтая як быццам не новая, я задаволены, што зрабіў яе. Адчуваю сябе так, нібыта выканаў абавязак.

Цяпер усе думкі і клопаты — з новым раманам. Не хачу гаварыць пра яго падрабязна: напісана начыста пакуль вельмі мала. Раман увесь у накідах і нататках. Работа ідзе цяжка: кніга выходзіць вельмі складаная, магу толькі сказаць: хачу напісаць яе з поўнай аддачай.

Таму — спяшацца не буду.

*1969*

# У НАШЫМ СЕМІНАРЫ

У нашым семінары, якім кіраваў А. Аўчарэнка, былі аб'яднаны латышы Альгерт Гайліціс, Айвар Кальве, украінец Леанід Пастушэнка, малдаванін Якаб Бургіу, рускія Алег Асадчы, Вадзім Курапаткін, беларусы Анатоль Кудравец, Мікола Капыловіч, Валянцін Мыслівец — пісьменнікі рознага жыццёвага вопыту, розных творчых манер.

Амаль усе яны ўпершыню сустрэліся і асабіста пазнаёміліся на семінары. Думаецца, што такое шырокае прадстаўніцтва розных літаратур у нашым семінары, як і ў іншых семінарах, вельмі справядлівае і карыснае для маладых таварышаў. Бо, акрамя таго, што яно дае магчымасць адчуць локаць таварыша з другой рэспублікі, пачуць дыханне жыцця братняга народа, яно дазваляе як бы дакрануцца і да вопыту, руху другой літаратуры.

У жывой, на першы погляд як быццам прыватнай размове пра тую ці іншую кнігу адбываўся па сутнасці абмен каштоўнасцямі, тая добрая справа, пра якую прынята гаварыць — узаемасувязь і ўзаемаўзбагачэнне літаратур. Верыцца, што не бескарысная будзе размова, якая разгарнулася вакол кніг латышскіх пісьменнікаў, для беларусаў і ўкраінцаў, гэтак жа, як абмеркаванне кнігі ўкраінца Пастушэнкі і беларуса Кудраўца — для іх латышскіх братоў.

Наша беларуская проза была прадстаўлена на семінары трыма празаікамі. Яны пакуль заявілі пра сябе толькі невялікімі кнігамі апавяданняў: у А. Кудраўца зборнік «На зялёнай дарозе», у М. Капыловіча тоненькая кніжачка «Скрозь жывуць людзі». Больш аб'ёмная творчая гаспадарка ў В. Мысліўца — перад нарадай у мінскім выдавецтве «Беларусь» у яго выйшла другая кніга.

Хоць і Кудравец, і Капыловіч зрабілі колькасна небагата, мне прыемна адзначыць, што ўжо гэтыя кнігі гавораць пра іх, як пра людзей таленавітых, уважлівых да жыцця, да чалавека, людзей, якія добра адчуваюць мову, сур'ёзна працуюць.

Абодва нашы аўтары ўстойлівыя да спакус здзівіць чытача незвычайнай — «перавернутай» альбо «слаістай» — кампазіцыяй, незвычайнасцю сюжэта. Яны — нібыта палемічна-простыя, але за гэтай прастатой — імкненне пранікнуць у глыбіню. Усведамленне таго, што галоўнае там — у глыбінях жыцця, у глыбінях сэрца чалавека.

З гэтымі празаікамі, як і з В. Мысліўцом, мы звязваем немалыя надзеі на будучае. Але хацелася б пажадаць, каб аўтары выходзілі часцей да шырокіх сацыяльных праблем, смела браліся за буйныя характары нашых сучаснікаў.

Думаецца, што ў гэтых адносінах В. Мыслівец прыйшоў на нараду з вопытам, які заслугоўвае ўвагі. В. Мысліўцу, нядаўняму рабочаму аднаго з мінскіх заводаў, магчыма, не хапае часам тонкасці і дакладнасці ў пісьме, у дэталях, але ў яго творах нельга не адзначыць рашучасці, смеласці ў абыходжанні з жыццёвым матэрыялам. Ён піша шырока, размашыста і ставіць важныя праблемы нашых дзён. У прыватнасці, гэтымі якасцямі вылучаецца апублікаваны ў мінулым годзе яго нарыс «Жывуць хлопцы-равеснікі», які прываблівае дакладным веданнем заводскага жыцця.

*1969*

# АПАВЯДАННЕ: СТАН І ЗАДАЧЫ

Дарагія таварышы! Адзін з пісьменнікаў, якія выступалі ў дыскусіі пра апавяданне, заўважыў як асаблівасць ў развіцці апавядання, што жанр гэты ў розныя перыяды развіваўся нераўнамерна. Што ў развіцці яго былі свае перыяды прыліву і перыяду адліву. Карыстаючыся гэтым вобразам, відаць, можна сказаць, што ў жыцці нашай пісьменніцкай арганізацыі ў гэтыя дні яўна наступае перыяд адліву, перыяд летніх адпачынкаў. З гэтай прычыны, хоць наша дыскусія, магчыма, і не прыйшла да той стадыі, калі можна сказаць, што яна натуральна завяршаецца, мы павінны сёння падвесці вынікі яе, дагаварыць тое, што было недагаварана на старонках газеты.

На старонках «ЛіМа» выступіла не так мала — адзінаццаць чалавек. Пачатак дыскусіі быў зроблен грунтоўным артыкулам Васіля Бурана. Сярод удзельнікаў дыскусіі былі такія прадстаўнікі нашай крытычнай думкі, як В. Жураўлёў, В. Каваленка, С. Андраюк, Я. Герцовіч, А. Яскевіч, П. Дзюбайла, кінааператар Віктар Поляк, настаўнік з Пухавіцкага раёна Б. Зубкоўскі, празаік Іван Навуменка, аспірант Мінскага педінстытута Я. Адамовіч. Выступіла нямала. Але ў вочы кідаецца адна прыкрая і не вельмі зразумелая акалічнасць: пры добрай актыўнасці нашых крытычных сіл, у дыскусіі пакуль што мала брала ўдзел вялікая наша армія празаікаў. Яна выставіла ў дыскусіі толькі аднаго свайго байца. Толькі адзін практык-пісьменнік выступіў у дыскусіі — Іван Навуменка.

Як бачым, кідаецца ў вочы дзіўная абыякавасць саміх стваральнікаў прозы.

Тым не менш агульнае ўражанне ад дыскусіі нядрэннае. Дыскусія атрымалася цікавай і змястоўнай. Большасць выступленняў была прасякнута сур'ёзным імкненнем разабрацца ў сённяшнім становішчы з бе-

ларускім апавяданнем, разабрацца ў тым, што добра і што дрэнна ў нас у галіне малых форм.

Справядліва, што ў дыскусіі належным чынам былі адзначаны поспехі, якіх дабіліся беларускія празаікі ў галіне апавядання. Зусім заслужана ў ліку тых, хто плённа працаваў у гэтым жанры, былі названы вопытныя апавядальнікі Янка Брыль, Аляксей Кулакоўскі і іншыя.

Асабліва значных поспехаў у галіне малой формы дабіліся нашы маладзейшыя празаікі. Шмат добрага было сказана, напрыклад, пра Вячаслава Адамчыка. В. Адамчык выявіў сябе як арыгінальны празаік, з вельмі добрым разуменнем чалавечай душы і характэрных адзнак нашага часу. З поспехам у жанры апавядання папрацаваў і яго паплечнік па гэтаму жанру Міхась Стральцоў. Да асабістых дасягненняў гэтага таленавітага апавядальніка я мог бы аднесці, па-мойму, вельмі важнае для нашай літаратуры апавяданне «Свет Іванавіч, былы донжуан». Я лічу, што гэтае апавяданне — вельмі важнае, яно ўзняло, здаецца, упершыню ў нашай літаратуры, тэму тонка замаскаванага сучаснага мяшчанства. Міхась Стральцоў па-майстэрску выкрывае чалавека, які вельмі ўдала прыстасоўваецца да нашага часу, пад знешняй прыгожай абалонкай непрыкметна хавае пустацвет душы.

Гэта — апавяданне, якое выклікае вялікі роздум. Яго можна аднесці да важных здабыткаў нашай прозы.

Немалая ўвага была аддадзена і зусім маладым празаікам — такім, як Анатоль Кудравец і Мікола Капыловіч. Заслужана станоўча было паказана тое добрае, што яны зрабілі для нашай літаратуры. Аднак, на маю думку, не абышлося і без некаторых ацэнак, з якімі не толькі можна, але і трэба паспрачацца. Думаю, што некаторыя творы без дастатковых падстаў былі залічаны ў бясспрэчны актыў нашай літаратуры, ім яўна была дадзена завышаная ацэнка. Я лічу, напрыклад, што само па сабе непаганае апавяданне Капыловіча «Пустальга» не заслугоўвае такога захаплення, з якім пісалі пра яго ў дыскусіі таварышы крытыкі.

Кажу я гэта толькі для таго, каб перасцерагчы самога М. Капыловіча ад памылковага разумення сваіх вартасцей, каб правільна накіраваць яго надалей.

Думаю, каб для маладога празаіка куды больш важнае значэнне мае апавяданне «Хлеб», у якім выявілася вельмі добрае веданне народнага побыту, сардэчнае разуменне нашых людзей.

Думаю, што для творчага росту М. Капыловіча не менш важным з'яўляецца і поспех, якога ён дабіўся ў апавяданні «У ружовым тумане», што, па майму перакананню, несправядліва крытыкавалася ў дыскусіі. Мне здаюцца беспадстаўнымі крытычныя закіды Я. Герцовіча аўтару гэтага твора. Апавяданне М. Капыловіча цікавае тым, што ў ім малады празаік прыкліва заўважыў не прыкмечаную раней нашымі пісьменнікамі, вельмі дзіўную псіхалагічную якасць — жывучасць у абставінах выключнага, трагічнага стану будзённых, нікчэмных матываў паводзін. Страшна робіцца на душы, калі, чытаючы гэтае апавяданне, бачыш, як дробная, будзённая скнарлівасць, душэўная чэрствасць не адступаюць у некаторых цёмных душах нават перад пагрозай немінучай смерці.

Пастаноўка такіх складаных псіхалагічных праблем, адну з якіх узняў М. Капыловіч у гэтым апавяданні, вельмі важная і заслугоўвае бясспрэчнай увагі і ўхвалы. Я падтрымліваю і спробы М. Капыловіча ставіць надзённыя пытанні з жыцця сельскай інтэлігенцыі.

У дыскусіі адзначалася, у якасці агульнай заваёвы, што наша беларускае апавяданне ў апошнія гады стала больш аналітычным, што, калі браць апошнія пяць — дзесяць гадоў, паглыбілася сфера псіхалагічных даследаванняў. Як адзначалі некаторыя крытыкі, пафас многіх твораў скіраваны на глыбейшае раскрыццё героя як асобы.

Нельга не згадзіцца з тым, што да добрых дасягненняў нашых лепшых майстроў малых форм трэба аднесці праўдзівасць, натуральнасць іх твораў.

Разам з тым можна адзначыць, што ўсе аўтары, якія ўдзельнічалі ў дыскусіі, прызнаюць, што, пры пэўных поспехах нашых у галіне апавядання, няма ніякіх падстаў для таго, каб супакойвацца. Больш таго, ёсць сур'ёзныя падставы для трывогі.

Галоўнай бядою нашай, як адзначаюць некаторыя крытыкі, з'яўляецца тое, што апавяданняў друкуецца вельмі многа, але сапраўдныя творы сярод іх трапляюцца да крыўднага рэдка. Гэта акалічнасць натураль-

на выклікала рэакцыю, якую Я. Герцовіч выказаў у закліку: інфляцыю трэба перасцерагчы. Сапраўды, перад беларускім апавяданнем стаіць пагроза інфляцыі жанру. Гэтая пагроза — рэальная, і неабходна прыняць захады, каб яе спыніць.

У артыкулах В. Бурана, А. Яскевіча, І. Навуменкі і іншых удзельнікаў дыскусіі адчуваецца турботнае імкненне сур'ёзна разабрацца ў сённяшнім стане нашага апавядання, у шляхах адолення яго хваравітых з'яў.

Многія аўтары адзначаюць як адметную асаблівасць, што ў апавяданнях апошніх год пісьменнікі выключную ўвагу звяртаюць на маральна-этычны пачатак ва ўчынках людзей, у жыцці нашага грамадства. «Сёння ўся літаратура зрабілася неяк асабліва ўважлівая да маральна-этычных праблем»,— заяўляе А. Яскевіч. Ён піша: «У творах гучыць гуманістычны матыў маральнага ўдасканалення, маральнай адказнасці чалавека».

Нельга не згадзіцца з тым, як тлумачаць прычыны асаблівай цікавасці да гэтых праблем нашы крытыкі, у тым ліку і Яскевіч. Яны правільна гавораць, што мы жывём у такі час, калі ўчынак аднаго чалавека можа ўплываць на лёс многіх, калі маральны воблік кожнага чалавека набывае асаблівае значэнне. Ва ўмовах нашай савецкай рэчаіснасці гэтую зацікаўленасць у маральнай каштоўнасці чалавека можна вытлумачыць тым, што наша грамадства прад'яўляе вельмі высокія патрабаванні да людзей. Такая патрабавальнасць вынікае з самой сутнасці камуністычнага грамадства, якое будуе наша савецкая краіна.

Зыходзячы з гэтых высокіх крытэрыяў патрабавальнасці, В. Буран выказвае папрок многім апавядальнікам у паэтызацыі «маленькага чалавека», у вузкасці погляду на жыццё, прыніжанасці патрабаванняў да грамадскай вартасці сваіх герояў. В. Буран піша з трывогай і тугой: «Няма маштабных герояў, няма шырокіх абагульненняў, мала мастацкіх адкрыццяў». Гэта — вельмі важны, вельмі прынцыповы папрок, варты самай пільнай увагі.

Дыскусія пра апавяданне, пра адзін з жанраў мастацкай літаратуры, вельмі часта перарастае ў спрэчку, якая датычыць не толькі малых форм, але ў цэлым усёй нашай мастацкай літаратуры. Не ў адным арты-

куле, або ў падтэксце, або прама, завострана паўстае пытанне: якім павінен быць герой мастацкага твора. «Не можа не трывожыць арыентацыя некаторых пісьменнікаў на «маленькага» чалавека з яго абмежаваным светапоглядам, старэчасцю душы і пачуццяў»,— піша В. Буран.

В. Бурану пярэчыць С. Андраюк, які падкрэслівае асаблівае значэнне «маленькага» чалавека. «Сёння, шчыра кажучы, неяк зусім не ўспрымаюцца творы, у якіх асноўным героем з'яўляецца «вялікі» чалавек»,— піша С. Андраюк.

На жаль, спрэчка, як мне здаецца, набыла схаластычны характар. Калі ўдумваешся ў характар гэтай спрэчкі, адкрываеш сабе, што ў гэтай спрэчцы многа агульных разважанняў і многа даволі туманнага, не ўсё да канца ясна ў пазіцыях аўтараў.

Мне думаецца, што Васіль Буран, гаворачы аб «вялікім» чалавеку, зусім не лічыць, што нашай літаратуры не трэба паказваць чалавека радавога, звычайнага, што героем літаратуры павінен быць толькі нейкі асаблівы чалавек. В. Буран, на маю думку, выступае за «вялікага» чалавека ў тым сэнсе, што героем нашых твораў павінен быць чалавек значны, шырокіх поглядаў, дзейсная асоба. Мне здаецца, тое, што гаворыць Буран, трэба разумець як заклік паказваць радавога чалавека буйным планам.

Серафім Андраюк адстойвае права літаратуры на тое, каб яна паказвала «маленькага» чалавека з усімі яго радасцямі і турботамі, каб чалавек радавы, звычайны ў сваіх штодзённых клопатах, стаў асноўным героем літаратуры.

І вось тут, я лічу, правамерна ўзнікае пытанне аб тым, якога героя трэба лічыць «вялікім» і якога лічыць «радавым»? У пазіцыях аўтараў, аднаго і другога, тут не ўсё акрэслена, іх пазіцыі патрабуюць прасвятлення, удакладнення.

Гэта пытанне я лічу вельмі важным для ўсёй нашай літаратуры. Не выпадковы той факт, што яно ўзнікла ў нас ужо не ўпершыню, што і да дыскусіі яно ўжо ставілася пры розных нагодах. Такая незвычайная ўвага да гэтага пытання, натуральна, патрабуе ад нас адказу: чаму яно паўстала раптам з такой настойлівасцю? Па майму разуменню, праблема гэта ўзнікла ў значнай ступені як рэакцыя на тую лакіравальную

літаратуру, якая непамерна ўзвялічвала чалавека, паказвала яго як усемагутную асобу, што лёгка пераадольвае жыццёвыя перашкоды. Гэтая асоба, адарваная ад жыццёвых турбот і нягод, нярэдка губляла сваю зямную прывабнасць і, натуральна, даўно выклікала ў чытача непрыхільнае стаўленне.

Такім чынам, тут ёсць свая лагічная правамернасць.

Але, з другога боку, таксама ж натуральна і лагічна ўзнікае развага: ці трэба, адстойваючы права на радавога героя, ледзь не абавязкова паказваць яго як вузка абмежаваную істоту? Ці канечне паэтызаваць гэтых людзей з іх «зямнымі» поглядамі, дробнымі клопатамі?

Відаць, ісціна тут у тым, каб кожнаму пісьменніку навучыцца бачыць у праявах будзённага, звычайнага сціпла прытоенае вялікае, бачыць у праявах абыдзеннага вялікі сэнс і ўмець адрозніваць высакароднае, вялікае ад дробнага, нікчэмнага.

Мае рацыю Алесь Яскевіч, калі ён гаворыць, што Васілю Бурану падабаюцца канфлікты аголеныя, страсці бурныя, ледзь не шэкспіраўскія. Але што ж зробіш, калі жыццё з яго складанымі і драматычнымі праблемамі далёка не заўсёды дае пісьменніку гэтыя канфлікты і страсці, нярэдка цячэ прытоена, ідзе некаторымі сваімі плынямі сярод паўсядзённасці, хаваецца ў побыце, як хаваюцца ў пясок, у глебу вялікія воды.

Я хачу падтрымаць тое, што, пярэчачы В. Бурану, гаворыць Алесь Яскевіч: што жыццё трэба бачыць ва ўсёй складанасці. Літаратура не мае права абыходзіць тыя праблемы, якія ўзнікаюць з паўсядзённага і малапрыкметнага чалавечага побыту, тым больш не мае права, што ў мінулыя гады яна імі нярэдка грэбавала.

Падводзячы вынікі спрэчкам пра герояў вялікіх і малых, хочацца сказаць, таварышы, што нельга ніякімі развагамі звужаць задачы літаратуры. Літаратура павінна бачыць і паказваць людзей ва ўсім багацці іх аблiччаў. У ёй павінна быць месца і «вялікім» героям і «малым».

Мне блізкі па душы пафас артыкула В. Каваленкі «Ненатоленая прага духоўнасці», які гаворыць пра тое, што героі нашых твораў павінны быць героямі ду-

хоўна багатымі. На жаль, такімі героямі мы не часта можам пахваліцца. У чым тут прычына? Бяда многіх герояў нашай літаратуры, вядома, не ў тым, што гэтыя героі ў жыцці бедныя. Відаць, прычына таго, што вобразы іншых апавяданняў выглядаюць духоўна неглыбокімі у тым, што ў некаторых пісьменнікаў, як пра гэта гавораць творы, не хапае праніклівасці, псіхалагічнай культуры, каб спасцігнуць усю глыбіню душы герояў, усё духоўнае багацце людзей.

І В. Буран, і іншыя таварышы справядліва гаварылі аб тым, што многім героям нашых беларускіх апавяданняў не хапае актыўнасці, яны мала дзейсныя. Не выпадкова такое вялікае значэнне ў нашай літаратуры набылі дзівакі, якія па-ранейшаму бязбедна жывуць і пераходзяць з апавядання ў апавяданне. Пра тое, што немалы род дзівакоў яшчэ не знік, на жаль, гавораць і часопісы гэтага года.

Маюць рацыю таварышы, якія турбаваліся пра тое, што нярэдка шкодзіць нашым апавяданням дробнасць думкі і зместу. Як прыклад такога беднага па думцы твора можна назваць апавяданне Я. Васілёнка «Горкая радасць», змешчанае ў апошнім нумары часопіса «Полымя».

Відаць, усе вялікія беды нашых апавяданняў даюць нам права зрабіць вывад, што некаторыя з нашых празаікаў усё ж слаба ведаюць сучаснае жыццё. Выдуманых герояў робіць недастатковае веданне жыцця. З гэтай прычыны ў творах вынікаюць і выдуманыя калізіі і бяздумнае апісальніцтва і тое, што ў цэлым вельмі многім нашым апавяданням не хапае сур'ёзнай думкі. Мы маем права паставіць вельмі востра пытанне аб тым, што адной з прыкрых, істотных слабасцей нашай малой прозы з'яўляецца недастатковае філасофскае асэнсаванне герояў і іх учынкаў. Бяда гэта, на жаль, ёсць не толькі ў малой прозе.

З жалем трэба адзначыць, што страсная думка ў час дыскусіі абмяжоўвалася амаль выключна сферай прафесійных спрэчак. Мала разглядалася ўзаемадзеянне, што найперш вызначае вартасць усяго, што робім, узаемадзеянне: літаратура і жыццё, герой у жыцці і ў літаратуры, праблемы ў жыцці і ў літаратуры. Гэтыя праблемы не развіваліся ў дыскусіі як належыць. Недастаткова ўсё ж наша літаратура правяралася жыццём. Не правяраліся, не падмацоўваліся тыя

праблемы, якія ставіліся ў артыкулах, у дыскусіі, праблемамі жыцця, канкрэтнымі жыццёвымі фактамі. У гэтым адна з слабасцей усёй дыскусіі ў цэлым.

Мне ў гэтых адносінах спадабаліся асобныя палажэнні ў артыкулах І. Навуменкі і А. Яскевіча, спадабаліся тым, што ў іх была спроба правяраць літаратуру, у прыватнасці нашы апавяданні, жыццём. Зусім правільна І. Навуменка гаварыў, што ў апошні час у нашым народзе адбыліся надзвычай вялікія змены. Між тым наша літаратура амаль прайшла міма такіх важных з'яў па сутнасці агульнанароднага значэння, як працэсы урбанізацыі тысяч і соцень тысяч людзей вёскі. Гэта няпростыя змены, у іх свае сацыяльныя і псіхалагічныя аспекты. Многія жыхары вёскі сталі рабочымі заводаў, але працэс іх урастання ў горад не закончыўся адразу з пераходам на гарадское месцажыхарства, яны ў многім засталіся сельскімі жыхарамі ў душы. У псіхалогіі гэтых людзей сплялося многа старога вясковага і гарадскога.

Узніклі новыя канфлікты, праблемы і супярэчнасці, якіх не ведала наша літаратура. Мы не здолелі іх як належыць асэнсаваць, і наша апавяданне і ў цэлым наша літаратура, можна сказаць, прайшлі міма гэтых шырокіх працэсаў, што датычаць у цэлым псіхалогіі і жыццёвага ўкладу нашага народа.

У гэтых адносінах мне вельмі спадабалася апавяданне В. Адамчыка «Хата», у якім аўтар чула ўлавіў ход незвычайнага працэсу, які адбываецца на нашых вачах і закранае многіх нашых сучаснікаў.

Мы не можам не папракнуць наша апавяданне за тое, што яно застаецца ўсё-такі, калі гаварыць аб матэрыяле, звужаным, неахвотна, цяжка ідзе ў сферу гарадскога жыцця, слаба кранае жыццё навукі і студэнцтва, праблемы работнікаў інтэлектуальнай працы. Прыходзіцца шкадаваць і пра тое, што ў такі час, у які мы жывём, калі пахне порахам, калі кожны дзень даносіць да нас аддалены, але не такі далёкі гром бітваў, у такой нямірнай міжнароднай абстаноўцы, мы зусім нічога не гаворым пра барацьбу супраць сіл вайны, не сказалі нічога пра тых, хто ахоўвае наша жыццё. У літаратуры нашай не было сур'ёзных спроб расказаць аб сучаснай армейскай службе, жыцці тысяч юнакоў, што днём і ноччу пільнуюць нашу зямлю і неба.

Таварышы, гаворачы пра дыскусію, я хацеў бы скіраваць увагу яшчэ на адну акалічнасць. У цэлым у дыскусіі даволі многа гаварылася аб спецыфіцы апавядання розных яго асаблівасцях як жанру. Я хацеў бы тут асабліва адзначыць адну якасць апавядання, якая выгадна вылучае яго побач з такімі жанрамі прозы, як раман ці аповесць.

Я маю на ўвазе тое, што ў прозе апавяданне — самы аператыўны, чуйны жанр. Ні ў аповесці, ні тым больш у рамане, як вы ведаеце, няма такой рухомасці, такіх магчымасцей імкліва адгукацца на дынамічныя змены нашага жыцця. Канстанцін Федзін справядліва пісаў аб рамане: «Роман требует больших накоплений». Апавяданне, як правіла, не патрабуе гэтых «больших накоплений». Сам працэс стварэння апавядання таксама дае яму перавагі.

Вялікія і важныя ёсць перавагі ў апавядання!

Але, на жаль, мы мала выкарыстоўваем гэтыя перавагі. У выніку мы адстаём, недаравальна адстаём!

Мне здаецца, нам трэба біць трывогу, што проста нашай агульнай бядой стала абыякавасць, інертнасць да новага. Інертнасць гэта наша асабліва адчуваецца, калі чытаеш апавяданні адно за другім. Тады проста ўвачавідкі бачыш, што гэты чуйны жанр пад нашым пяром бывае надзіва глухі да новых канфліктаў.

Нас павінна непакоіць, што маючы немалую колькасць апавяданняў, мы ў іх рэдка сустракаем новыя, жыццёвыя, хвалюючыя праблемы.

Тут клопат пра магчымасці апавядання, пра рост гэтага жанру, фактычна пераходзіць у клопат, у праблему, як жыць пісьменніку — аўтару апавяданняў, як яму весці сябе ў жыцці, каб трымаць заўсёды руку на пульсе часу, каб добра чуць і разумець гэты пульс. Быць, вядома, на вышыні часу і на вышыні мастацтва!

Усе клопаты і ўсе праблемы зводзяцца да гэтага. Толькі да гэтага.

*1969*

# ПАКАЛЕННЕ ЗА ПАКАЛЕННЕМ

У жыцці кожнага чалавека, відаць, бывае такі дзень, калі яму хочацца азірнуцца, прайсціся думкай па пройдзеным, падсумаваць вынікі.

Бываюць такія дні і ў жыцці народа, жыцці краіны. Гэта дні — адметных рубяжоў, важных вех.

У гэтыя дні мы стаім перад адной з найважнейшых вех нашай гісторыі, стагоддзем з дня нараджэння У. І. Леніна.

Ёсць сардэчная патрэба ў гэтыя перад'юбілейныя ленінскія дні азірнуцца, падвесці вынікі дасягнутаму, узважыць усё, што мы зрабілі, падумаць пра тое, што належыць зрабіць.

Шлях наш ужо немалы, і задача аўтара вельмі няпростая. Багацце фактаў і лёсаў, якімі адзначан наш шлях, прымушае мяне да сціслаcці, у асобных месцах — да канспектыўнасці.

Я часта не змагу паглыбляцца ў разбор асобных твораў і, відаць, не адзначу ўсіх вартых. Галоўная задача, якую я хацеў бы вырашыць тут,— намаляваць агульную, адзіную карціну развіцця нашай літаратуры.

Кожны новы дзень бярэ пачатак у дні ўчарашнім. У ранейшым, старым ладзе бярэ пачатак новы лад.

Карэнні нашай савецкай літаратуры — у той літаратуры, якая была да Кастрычніка 1917 года.

Пачынаючы гаворку пра нараджэнне новай літаратуры, трэба паглядзець, якія яны, тыя карэнні, з якіх расло дрэва нашай літаратуры.

Карэнняў гэтых колькасна ў нашай літаратуры было тады параўнаўча небагата. Але трэба адзначыць, што галоўныя сярод іх — і гэта асабліва важна — былі карэнні высокай якасці, высокай жыццядзейнасці.

Вось яны, гэтыя тады яшчэ далёка не ўсім відныя карэнні — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Цётка, Цішка Гартны, Змітрок Бядуля.

Няма патрэбы яшчэ раз цытаваць вядомыя словы з пісьма А. М. Горкага пра Янку Купалу і Якуба Коласа — яны добра вядомы, але я ўсё ж хачу звярнуць вашу ўвагу на два словы ў гэтым пісьме, якімі Горкі вызначае творчасць двух найпершых нашых паэтаў — «поистине народно».

Глыбокая сыноўняя блізкасць да народа, чулае разуменне яго бядот, яго патрэб і яго жаданняў, сапраўдная народнасць — Горкі гэта добра ўлавіў — былі самай важнай і, я сказаў бы, самай каштоўнай адзнакай творчага грамадзянскага вобліку Янкі Купалы і Якуба Коласа. І не толькі іх. Шчырая, адданая любоў да народа паставіла побач з імі, як родных людзей, Цётку, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулю, Цішку Гартнага.

Трэба адзначыць адну істотную акалічнасць паэзіі гэтых нашых папярэднікаў: блізкая да працоўных людзей, яна ўся прасякнута нязгодай з беднасцю, з сацыяльным і нацыянальным уціскам, з тагачаснымі парадкамі ў Расіі, парадкамі цара-самадзержца Мікалая II. У сваіх найвышэйшых праявах гэта была — вельмі важна адзначыць — літаратура бунтарская, рэвалюцыйная па духу.

Дазволю нагадаць, што пісаў у 1906 годзе дваццацічатырохгадовы палескі настаўнік Канстанцін Міцкевіч — Якуб Колас:

Багачы і панства,
Нашы «дабрадзеі»!
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі!

І на грозных межах
Часаў пераходных
Смела вас пытаем,
Прагных і нягодных:

«Чыімі рукамі
Вы дабро збіралі?
На чые вы слёзы
Дабрабыт куплялі?»

...Багачы і панства,
І ўсе вы, брадзягі!
У бок з дарогі, каты!
Бойцеся сярмягі!

У 1909 годзе лірычны, як цяпер звыкла казаць, герой Якуба Коласа — мужык — заявіць з зусім не лірычнай пагрозай і цвёрдасцю:

Я мужык, а гонар маю.
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

Гэта сказана — адзначым сабе — за сем-восем гадоў да Кастрычніка 1917 года.

Вялікай заслугай маладога Янкі Купалы трэба лічыць тое, што яшчэ тады, на самым пачатку свайго пісьменніцкага жыцця, ён адчуў інтэрнацыянальны характар той барацьбы, якую ўздымалі народы Расійскай імперыі супраць царызму. Можам ганарыцца з поўным правам тым страсным заклікам, той адвагаю, той яснасцю мэты, з якой Янка Купала ў вершы «Там» заклікае сваіх братоў на Беларусі ісці памагаць барацьбітам, што пайшлі на смяротны бой, каб «зрабіць нявольніка свабодным, даць беззямельнаму зямлі».

Не магу не нагадаць хоць бы некалькі радкоў з гэтага дзівоснага закліку:

Там кроў ліецца, там за волю
Барцы на вісельні ідуць,
А вы, вы мучаны найболей,
Спіцё, хоць вас даўно там ждуць.
Паўстаньце, покуль цар звыродны
Крыві усёй не выссаў з вас!
Паўстаньце! Край ваш стогне родны,
Заве збаўляць, як зваў не раз.

Не магу не дадаць ад сябе, як чалавек, які нямала перачытаў твораў паэзіі многіх народаў, не дадаць з гонарам і непахісным перакананнем: твор гэты Купалы па сіле духу, страснасці, па паэтычнай сіле, бяспрэчна, можна аднесці да самых высокіх узлётаў сусветнай паэзіі. Паэзіі ўсіх народаў свету за ўсе вякі, як жыве паэзія.

У самыя чорныя часы рэакцыі, што наступіла пасля 1905 года, не згасае ў лепшых творах беларускай паэзіі агеньчык рэвалюцыйнага імкнення. Красамоўна, што і ў Купалы, і ў Коласа ў цяжкія гэтыя гады не згасае надзея, што «ціша», якая наступіла, ёсць ціша перад бурай, што «вясна» прыйдзе! Выдатна,

што той верш «Мужык», які я толькі што нагадваў, напісан у гады рэакцыі, у гады, калі нямала каго з былых часовых рэвалюцыянераў гняло бязвер'е.

Трэба аддаць належнае Максіму Багдановічу, паэту надзвычайнай чалавечай і грамадзянскай чуласці. Варты здзіўлення і пашаны той факт, што яшчэ ў 1915 годзе цяжка хворы наш паэт з цудоўнымі аптымізмам і прадбачлівасцю прадказаў блізкасць новых, даўно чаканых дзён у жыцці беларускага народа. Як прадчуванне 1917 года, яго вялікіх падзей, гучаць радкі яго верша:

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Colькі ў хмарках залётных агня...

Нам няма чаго заплюшчваць вочы на тое, што не толькі Максім Багдановіч і Змітрок Бядуля, але і Янка Купала і Якуб Колас той пары не былі закончанымі марксістамі, што іх разуменне руху гісторыі і рухаючых сіл гісторыі было ў значнай меры яшчэ цьмяным, залежным ад іх жыццёвага, сялянскага вопыту. Не ў адным вершы сваім нашы паэты ўскладалі неапраўдана вялікія надзеі на цудадзейную сілу асветы, разумнай працы. Не будзем судзіць іх строга з вышыні сённяшняй нашай дасканаласці, пастараемся зразумець іх і аддаць належнае таму, як у тых умовах і ў тыя далёкія, чорныя часы яны сумленна і смела шукалі шляхоў да лепшай долі для нашага народа. І разам з гэтым давайце аддадзім ім цалкам заслужаную імі пашану за тое, што пры ўсім тым у лепшых сваіх творах яны змаглі зразумець многае, надзвычай важнае — самае важнае — у сваім часе і ў жывой яго гісторыі, усутыч падысці да разумення рэвалюцыі, яе вялікай праўды і справядлівасці.

Беларуская літаратура двойчы павінна быць удзячна баявому петраградскаму семнаццатаму году, бітвам грамадзянскай вайны. Яна павінна быць удзячна не толькі таму, што там выраншалася права на жыццё Савецкай улады і адпаведна — савецкай літаратуры. Яна павінна быць удзячна таксама за той — для літаратуры немалаважны факт,— што ў гэтых бітвах праходзілі належнае грамадзянскае выхаванне

салдаты і матросы — будучыя беларускія пісьменнікі, пачынальнікі новай беларускай савецкай літаратуры. Мы маем законнае права ганарыцца тым, што наш сабрат па пяру Алесь Гурло, член Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыі і матрос мінаносца «Забіяка» з атрадам ваенных маракоў штурмаваў Зімні палац. Мы з пашанай помнім, што ў рашаючых баях семнаццатага ў Петраградзе ёсць свая доля і нашых цяперашніх таварышаў — былых рабочага Абухаўскага завода Ільі Гурскага і камендора з «Аўроры» Сілана Гусева.

Рэвалюцыі патрэбны былі не толькі салдаты і матросы, але і дзяржаўныя дзеячы. Нельга не адзначыць з гонарам, што ў той адказны момант з асяроддзя такой яшчэ маладой нашай літаратуры выйшаў дзеяч, якому суджана было адыграць надзвычайную ролю ў стварэнні не толькі нашай літаратуры, але і ў арганізацыі дзяржаўнай дзейнасці ў Беларусі, у першых кроках Беларускай Савецкай Рэспублікі. Такі быў той час, час вялікай рэвалюцыі: трыццацігадовы былы гарбар родам з Капыля, потым рабочы завода «Вулкан» у Петраградзе ўзначаліў першы Беларускі Савецкі Урад. Цішку Гартнаму выпала быць сярод тых, хто непасрэдна ажыццяўляў указанне У. І. Леніна аб стварэнні Беларускай Савецкай Рэспублікі.

Несправядліва было б ніяк не адзначыць больш сціплую, але разам з тым таксама неабходную дзейнасць байцоў-чырвонаармейцаў Міхася Кудзелькі (будучага Міхася Чарота), Кандрата Атраховіча (нашага дарагога Кандрата Крапівы), Міхася Лынькова, падпольшчыка-партызана Рыгора Мурашкі і іншых.

У баях, у змаганні за Савецкую ўладу, за справу Леніна мужнела, гартавалася першае пакаленне тых, каму выпала пачынаць савецкую беларускую літаратуру.

Першым вельмі ўзрушана заявіў пра сябе як пра паэта новай літаратуры Міхась Чарот. Паэт адразу, без якіх-небудзь ваганняў, з радасцю прыняў новую рэчаіснасць, народжаную рэвалюцыяй. Нецярплівай прагай дзейнасці, творчым энтузіязмам вее ўжо ад першых вершаў М. Чарота. У вершы «Звон», надрукаваным яшчэ летам 1919 года, Чарот заклікае:

Зазвані моцна, звон, загудзі,
Каб пачулі цябе на ўвесь край,

Беларуса хутчэй разбудзі,
Хоць цяпер яму спаць ты не дай!

М. Чарот адразу заявіў пра сябе як пра цвёрдага, ваяўнічага абаронцу новага жыцця, новага ладу:

Гэй, пагарджаны народ,
Смела з адвагай ўпярод!
Скінуў няволі цяжар —
Сам будзь зямлі гаспадар.

...Смела наперад у бой,
Хто не памершы душой...
Гэй, барані вольны край,
Сцяг ты чырвоны трымай.

Гарачым заклікам будаваць новае жыццё, станавіцца пад чырвоны сцяг Камуны прасякнуты яго звароты да вясковых жанчын, да моладзі:

Ты, моладзь, смела і магутна,
Ты — волі лепшай будаўнік;
Далёка песня твая чутна,
Бо стан бязмерна твой вялік.

...Да працы ўсе, хто чуе сілу,
Пад сцяг Чырвоны, Вольны сцяг!
Капайце ворагам магілу,
К камуне стройце новы шлях!

Вершы М. Чарота ўжо таго часу вызначаюцца добрым разуменнем значэння для савецкага ладу ленінскай ідэі саюза рабочага класа і сялянства.

Селянін і рабочы — удвух
Стары свет агнём паляць, руйнуюць
І на вогнішчы новы будуюць,
Панаваць у якім будзе молат і плуг.

Ясна разумеў М. Чарот і рэвалюцыйную пераемнасць той барацьбы і працы, якія поўнілі вёскі і гарады Беларусі, інтэрнацыянальную еднасць працоўных людзей у барацьбе і працы. Яго паэзія, можна сказаць, прасякнута святлом ленінскіх ідэй.

Да заслугі М. Чарота трэба залічыць таксама тое, што ён першы ў нашай паэзіі сказаў — няхай у агульным выглядзе — пра новую эстэтыку новай літаратуры:

Годзе пець песні нам сумныя, нудныя,
Краю даволі ўжо слёз!..
Ўжо прамінулі няўзгоды пакутныя,—
Плачам не злечым свой лёс.

Дні паднявольныя болей не вернуцца;
Эх, не надзенуць нам пут...
Хай хто наважыцца, хай хто намерыцца —
Сам імі будзе ён скут!

Відаць, не трэба быць тонкім знаўцам хараства паэзіі, каб адчуць, што многія з ранніх вершаў М. Чарота з боку эстэтычнага не з'яўляюцца шэдэўрамі. Але будзем аб'ектыўнымі і скажам, што зместам сваім, глыбінёй разумення свайго часу, задач савецкай паэзіі — гэта выдатная з'ява. У асобе М. Чарота ў беларускую паэзію прыйшоў паэт, які ўсім сэрцам хацеў служыць рабоча-сялянскай Савецкай уладзе, справе Леніна.

М. Чарот адразу заявіў пра сябе як паэт партыйны, савецкі паэт.

Беларускую савецкую літаратуру ў першыя месяцы пасля заканчэння грамадзянскай вайны, відаць, можна параўнаць з зусім яшчэ пустым полем. На гэта поле М. Чарот прыйшоў першым з маладых хлопцаў, але ён нядоўга адзін вёў маладую сваю баразну. Ужо ў 1921 годзе далучыліся да яго малады чырвонаармеец Міхась Касянкоў — будучы славуты празаік Міхась Зарэцкі — і звонкагалосы пятнаццацігадовы сын мінскага шаўца Андрэй Александровіч, палескі хлопец Алесь Дайлідовіч — Алесь Дудар. Добразычлівая і таксама яшчэ маладая газета «Савецкая Беларусь» стала той незабыўнай сяброўкай, якая выправіла іх у вялікую дарогу. Многіх яшчэ выправіць неўзабаве гэта добрая сяброўка, якая так багата зрабіла для беларускай культуры!

У наступным, 1922 годзе на наша літаратурнае поле, якое толькі дзе-ні дзе пачало рунець, прыйдуць адразу ладнай купай яшчэ некалькі, таксама працавітыя, здатныя. Анатоль Вольны, творчая энергія якога кідаецца і ў паэзію, і ў фельетоны, і ў «сур'ёзную» прозу, тады яшчэ вельмі малады, але дапытлівы, настойлівы Уладзімір Дубоўка, ціхмяны выкладчык літаратуры Язэп Пушча, былы франтавік, сціплы, не вельмі гаваркі сялянскі хлопец з Нізка на Уздзеншчыне, які неўзабаве набудзе сваімі мудрымі байкамі ў народзе проста легендарную славу,— Кандрат Крапіва.

Год ад года поўнілася наша поле працаўнікамі, усё шырэй рунела, усё радасней красавала. Надзвычай

узбагаціў нашу сям'ю 1923 год. У гэты год у той жа паважанай «Савецкай Беларусі» і ў ленінградскім часопісе сатыры і гумару «Бегемот» з'явіліся фельетоны — нейкага, можна было падумаць — прышэльца з Афрыкі Янкі Маўра. На старонках «Савецкай Беларусі» аб'явіў аб сабе першым празаічным творам «На граніцы» будучы выдатны майстар эпічнага і псіхалагічнага беларускага рамана — Кузьма Чорны. Гэты ж год даў нам паэта дзівоснага лірычнага таленту, які па дзіўнаму супадзенню нарадзіўся ў тым жа самым Нізку, дзе і лепшы наш сатырык,— Паўлюка Труса. 1923 год быў асабліва ўдалы для нашай дзіцячай літаратуры — у гэты год прыйшоў да нас Алесь Якімовіч. Разам з ім пачаў сваю творчасць і Яўген Рамановіч, які потым багата зрабіў для нашай драматургіі і тэатра.

1924 год даў нам празаіка Рыгора Мурашку і трох паэтаў — Тодара Кляшторнага, Ю. Лявоннага і дарагога нашага Янку Відука, які цяпер з высокай годнасцю працуе ў прозе пад слаўным імем Янкі Скрыгана.

Шчодрым быў для нас 1925 год. Ён прывёў у беларускую літаратуру цэлую кагорту таленавітых пісьменнікаў, амаль разам прыйшлі ў літаратуру Платон Галавач, Пятро Глебка, Юрка Гаўрук, Сяргей Дарожны, Алесь Звонак, Максім Лужанін, Міхась Лынькоў, Валерый Маракоў, Алесь Пальчэўскі, Макар Паслядовіч, Васіль Сташэўскі, Хвядос Шынклер.

У жніўні і верасні наступнага года аб'явіліся два паэты, якім суджана было сказаць асабліва важнае слова ў нашай літаратуры, асабліва багата для яе зрабіць. Амаль адразу з першым вершам Петруся Броўкі, апублікаваным на поўначы нашай рэспублікі ў «Чырвонай Полаччыне», адгукнуўся на ўсходзе нашай зямлі, у клімавіцкай акруговай газеце, нейкі Аркадзь Дуда — Аркадзь Куляшоў, хлопчык 12 гадоў. Аддаючы належнае гэтым двум нашым таварышам, мы павінны быць удзячны 1926 году за тое, што ён узбагаціў нашу літаратуру і такімі вельмі яркімі, багатымі сэрцам і талентам працаўнікамі, як Змітрок Астапенка, Кастусь Губарэвіч, Васіль Каваль, Юлій Таўбін, Уладзімір Хадыка, Мікола Хведаровіч, Тарас Хадкевіч (які выступаў тады як паэт).

Каб дапоўніць карціну, трэба дадаць да гэтых та-

кія важныя факты з літаратурнай нашай гісторыі, як той, што па другі бок мяжы, у зусім іншых умовах, умовах жорсткага ўціску, разгортвалася і мужнела рэвалюцыйная паэзія Заходняй Беларусі. У 1925 годзе пачаў выступаць у літаратуры Міхась Васілёк, у 1927 годзе загучаў голас Міхася Машары. 1927 годам, з дадаткам назваў панскіх турмаў, адзначаны паэтычныя творы Піліпа Пестрака, паэта і рэвалюцыянера-падпольшчыка. Пазней да іх далучацца галасы Валянціна Таўлая і Максіма Танка.

Я так падрабязна напамінаю вам гэтыя імёны таму, што лічу — як бы далёка па часе мы ні адыходзілі ад той пачатковай пары, мы ніколі не павінны забываць тых, хто пачынаў, хто ішоў першы. Я напамінаю іх імёны таму, што яны былі дзецьмі рабочых і сялян, дзецьмі гарадскога «дна», узнятымі Кастрычніцкай рэвалюцыяй і Леніным, залучанымі будаваць такую далікатную, тонкую і складаную рэч, як мастацтва. Мастацтва зусім новае. Мастацтва, якога не бачыў яшчэ свет.

Усе мы ведаем — адны з уласнага вопыту, а другія з падручнікаў па гісторыі літаратуры, з універсітэцкіх аўдыторый,— што некаторыя з гэтых людзей не былі святыя, што яны дапускалі памылкі, часамі сур'ёзныя. Мы таксама ведаем, што гэтыя людзі, якія прыйшлі ў літаратуру рабіць адну справу, нярэдка не жылі ў добрым ладзе, вялі між сабой змаганне, у нечым падобнае да таго, якое некалі вялі вясковыя дзядзькі — за палоску ці поплаў. З нашага сённяшняга дня з цяжкасцю адзначаюцца тыя межы, якія аддзялялі «Маладняк» ад «Узвышша», «Узвышша» ад «Полымя». Са скрухай думаеш пра тое, як маладыя, ледзь звыклыя трымаць пяро ў руцэ хлопцы ў кажухах і світках так лёгка і рашуча намагаліся выкінуць з карабля сучаснасці «безнадзейна ўстарэлых», «прымітыўных» Янку Купалу, Якуба Коласа, Змітрака Бядулю.

Нам цяпер можна зразумець, чаму так было. Многае, вельмі многае ў тым асяроддзі, у якім даводзілася пачынаць нашым таварышам у дваццатыя гады, не інакш, ішло ад тых звычак і законаў, якія яшчэ моцна жылі пад стрэхамі нядаўніх іх хат. Многае было таксама і ад спецыфічнай атмасферы, што вызначала характар жыцця ў гарадах першых пераломных гадоў.

Многае было і ад навізны, неўстаткаванасці новага ды яшчэ такога складанага творчага жыцця.

Не будзем забываць, што большасць з тых, хто прыходзіў у літаратуру, толькі-толькі пачалі прылучацца да культуры.

Які пярэсты і разам велічны час — дваццатыя гады нашай літаратуры. Памятаеце: разбураная вайной — не, не вайной, а войнамі: імперыялістычнай бойняй, нямецкай і белапольскай навaламі, цёмная ад веку, з цэлымі стагоддзямі здзеку і рабунку за сабой краіна, якая толькі што памкнулася да святла, запаленага Кастрычнікам, Леніным. Не надта пісьменныя, багатыя найбольш дамашняй, народнай мудрасцю і стыхійным пачуццём прыгожага хлопцы з вёсак, з мястэчак, што прагна ўглядаюцца ў навакольнае, цягнуцца да новага, якое поўніць энергіяй і ўпэўненасцю.

Кожны раз, калі я азіраюся назад на той час, я не магу не здзіўляцца, нягледзячы ні на што, тым, як імкліва, як бурна пачынала наша беларуская савецкая літаратура.

Зборнік вершаў «Завіруха», паэмы «Ленін», «Беларусь лапцюжная», «Чырванакрылы вяшчун» і між іх — самае вышэйшае дасягненне — «Босыя на вогнішчы» Міхася Чарота. Кнігі паэзіі «Па беларускім бруку», «Угрунь», «Фабрыка смерці» і іншыя Андрэя Александровіча. «Там, дзе кіпарысы», «Крэдо», «Кругі» Уладзіміра Дубоўкі. Кніга паэзіі «Беларусь бунтарская», паэма «Шанхайскі шоўк» Алеся Дудара. «Раніца рыкае» і «Vita» Язэпа Пушчы. Кнігі «Вершы», «Ветры буйныя», паэмы «Астрожнік» і цудоўны «Дзесяты падмурак» Паўлюка Труса, што прамільгнуў, як маланка, на паэтычным небасхіле. Першыя «Крокі» М. Лужаніна, «Шыпшына» Пятра Глебкі і «Суніцы» дасюль недаацэненага Уладзіміра Хадыкі. Не ўсё аднолькава каштоўна і даўгавечна ў гэтых і іншых кнігах нашай паэзіі, але «Босыя на вогнішчы» і «Дзесяты падмурак» — гэта ўжо адзнакі высокага ўзлёту паэзіі.

Да ўсяго — з'ява надзвычайная, выключная — байкі Крапівы. Кніжка за кніжкай: «Крапіва», «Асцё», «Біблія», «Байкі».

Кнігі апавяданняў «У віры жыцця» Міхася Зарэцкага, «Срэбра жыцця» і «Хвоі гавораць» Кузьмы Чорнага, «Дробязі жыцця» Платона Галавача, «Стрэл нач-

ны ў лесе» Рыгора Мурашкі. Яны былі не толькі першымі спробамі асэнсаваць новае жыццё, але і першымі заяўкамі новых таленавітых людзей у беларускай прозе. Ад кнігі да кнігі развіналіся і мужнелі маладыя пісьменнікі. Праз якія два гады пасля першай кніжкі Платон Галавач даў глыбокую, спелую аповесць «Вінаваты», а Рыгор Мурашка стварыў раман «Сын», што заваяваў шырокую славу ў тагачасных чытачоў. Але асабліва ўпэўнена, моцна разгортваліся Міхась Зарэцкі і Кузьма Чорны. Ярка рамантычная паэма ў прозе «Сцежкі-дарожкі» зрабіла Міхася Зарэцкага адным з прызнаных, вядучых раманістаў Беларусі. Кузьма Чорны не ўражвае так масавага чытача, але творы яго поўныя глыбокага, упартага роздуму над жыццём і чалавекам. К. Чорны за тры гады стварае тры буйныя творы — раманы «Сястра», «Зямля» і аповесць «Лявон Бушмар».

Штогод набірае моц талент Міхася Лынькова, які ўзбагачае нашу літаратуру ўзорнымі, хрэстаматыйнымі апавяданнямі — «Гой», «Над Бугам», «Андрэй Лятун» і іншымі.

Многа новага, незвычайнага прыносіць у нашу літаратуру Янка Маўр, ён вядзе дапытлівага беларускага юнака ў казачны цікавы, барвісты свет, смела пераступаючы межы кантынентаў і стагоддзяў.

«Чалавек ідзе», «У краіне райскай птушкі», «Сын вады», «Амок» — усё гэта было апублікавана за нейкіх пяць год (з 1925 да 1929 г.).

Выдатнымі поспехамі парадавалі народ у гэтыя гады тыя, хто пачынаў яшчэ да Кастрычніка. Калі аглядваеш усё, што яны зрабілі, мімаволі прыходзіць адчуванне: старыя (ім было тады ўсяго па сорак, гэтым «старым»!) нібы нанава перажылі сваю маладосць. Залатым гэты час быў для Я. Коласа, які стварыў свае лепшыя творы: давяршыў «Новую зямлю», напісаў палескія аповесці «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся». Удалым аказаўся для Я. Коласа і «прарыў» у сучаснасць — аповесць «На прасторах жыцця». Плённай была гэта пара і для З. Бядулі, акрамя некалькіх зборнікаў малой прозы З. Бядуля даў рамантычнага «Салаўя», што зачараваў многіх маладых чытачоў. У 1929 годзе завяршаў клопат, які поўніў яго паўтара дзесяцігоддзя,— вялікі эпічны твор «Сокі цаліны» — Цішка Гартны. Пад канец

дваццатых гадоў была напісана апошняя, чацвёртая квадра першай беларускай эпапеі.

Як і раней, высока ззяла наша слаўная паэтычная зорка — Янка Купала. «Безназоўнае», «Арлянятам», «Сыходзіш, вёска, з яснай явы», «Дыктатура працы» — гэта Купалаў голас той пары.

Напісаная ў 1924 годзе паэма «Безназоўнае» — шчырае, узрушанае паэтычнае сведчанне не толькі таго, што жыло ў Купале, але, па сутнасці, і сціслы, абагулены вобраз усёй тагачаснай беларускай паэзіі. Паэма-гімн Купалы ўвабрала ў сябе самыя істотныя клопаты і настроі ўсёй нашай паэзіі.

Масты старыя спалены —
Старыя ланцугі,
Палажаны падваліны
Пад новыя сцягі.
Уводзіцца будыніна
На іншы склад і лад...

Паэма ўся прасякнута пафасам руху, імкнення да лепшага заўтрашняга дня, тым пафасам, які, як лейтматыў, яднаў вобразы і настроі твораў многіх і многіх паэтаў:

Мы ўсталі песняй-казкаю
Пад жудаснай павязкаю
Мінулых чорных дзён.
І ў даль ідзём, хоць ляскае
Звяр'ё ў кутах няласкаю —
На дальшы кліча сон.

Важны матыў паэмы — непераможнасць новага, перакананне, што да старога звароту няма:

Звяр'ё мінулага не выламе
Ні клыкамі, ні віламі
Таго, што ажыло,
Што ўскрэсла над магілкамі,
Над хатамі пахілымі
Мінуламу назло.

Для паэзіі таго часу надзвычай характэрна было пачуццё радасці тым, што чалавек працы стаў гаспадаром краіны і жыцця. Гэта радасць праменіць і ў паэме Я. Купалы:

А мы самі, сабе самі
Ўжо гаспадары.
Малатамі і сярпамі
Звонім да зары.

Паэзія Я. Купалы поўна вялікай веры ў блізкую, яшчэ лепшую будучыню:

Дзе за пасёлкам лёг пасёлак
Гіганты ўзнімуць сцяг бунтарны,
І ў блісках квецістых вясёлак,
Дым гасячы лучын і смолак,
Зайскрыць электрыка ўладарна.

Важны матыў паэзіі Я. Купалы — Кастрычніцкая рэвалюцыя дала беларускаму народу годнае месца між народамі.

Калісьці, у 1913 годзе, паэт заклікаў:

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
    Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
    Свой пачэсны пасад між народамі!

У паэме «Безназоўнае» паэт як бы зноў вярнуўся да даўняга вобразу, але вобраз гэты падае ўжо ў зусім іншым стане:

Беларусь на куце
Ў хаце сваёй села,—
Чарка мёду ў руцэ,
Пазірае смела.
Сядзіць важна, сама
Сабе гаспадыня.

Цікава — паэма «Дзесяты падмурак» аднаго з маладзейшых паэтаў тых гадоў Паўлюка Труса і агульным настроем, і многімі матывамі нібы пераклікаецца з «Безназоўным» Купалы. Не выпадковая, красамоўная гэта блізкасць, якая быццам адбіла блізкасць розных пакаленняў беларускай паэзіі 20-х гадоў.

Паэзія той пары была багатая не толькі на вялікія грамадскія тэмы, яна не цуралася і інтымнай лірыкі. Гэта была паэзія шырокага водгуку жыцця, розных багатых пачуццяў.

Добрая адзнака нашай паэтычнай творчасці той пары — багатая стылёвая і жанравая разнастайнасць. З поспехам развіваюцца розныя стылёвыя паэтычныя плыні: рамантычна-песенная купалаўская, з яе шырокім, абагуленым бачаннем, вобразамі, блізкімі да сімвалаў, коласаўская — эпічная, з вельмі канкрэтнай дэталізацыяй, і сатырычная.

Сатыру нашу бліскуча вёў Кандрат Крапіва. Багата добрага для паэзіі і для народа зрабілі байкі Крапівы, што дакладна білі па невуцтву, па аслах, якія хаце-

лі б засланіць сонца, па бабах, што памагаюць, седзячы на возе. «Сука ў збане», «Дзед і баба», «Жаба ў каляіне», «Мандат» і многія іншыя байкі Крапівы завявалі сэрцы мільёнаў людзей па ўсёй Беларусі.

Прайшлі дзесяткі гадоў, за Крапівой вырас цэлы атрад паслядоўнікаў, але байкі яго і цяпер жывуць ва ўсёй сіле.

Багаццем і разнастайнасцю тэм і вобразаў, як можна было ўжо адчуць з папярэдняга, характарызавалася наша проза. Далёкая гісторыя і самая жывая сучаснасць, сяло, горад, рабфакаўскае жыццё — усё хвалявала нашу прозу. Але куды б ні сягала дапытлівае вока навелістаў і раманістаў, заўсёды ў аснове твораў было жыццё народа, яго клопаты і спадзяванні. Працэсы, якія адбываліся ў жыцці, паказваліся яшчэ не часта глыбока, але проза наша, як і паэзія, чула прыглядвалася да новага, паэтызавала героя, які робіць гэтае новае, была прасякнута адчуваннем руху жыцця да лепшага.

Багатая фарбамі і думкамі, багатая віраваннем народнага жыцця, беларуская літаратура станавілася ўсё больш моцнай, неабходнай часткай духоўнага жыцця народа.

Яшчэ ў 1905 годзе ў артыкуле «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура» У. І. Ленін, акрэсліваючы галоўныя рысы, воблік будучай сацыялістычнай літаратуры, пісаў:

«Гэта будзе свабодная літаратура, таму што не карысліваслць і не кар'ера, а ідэя сацыялізма і спачуванне працоўным будуць вербаваць новыя і новыя сілы ў яе рады. Гэта будзе свабодная літаратура, таму што яна будзе служыць не *пресыщенной* гераіні, не «верхнім дзесяці тысячам», якія сумуюць ад нуды і пакутуюць ад атлусцення, а мільёнам і дзесяткам мільёнаў працоўных, якія складаюць цвет краіны, яе сілу, яе будучыню» (Полн. собр. соч., т. 12, стар. 104).

Такой сацыялістычнай літаратурай, літаратурай для мільёнаў працоўных, і стала савецкая беларуская літаратура.

Багатай вопытам, дужаю выйшла наша літаратура на рубяжы трыццатых гадоў.

На рубяжы складанага часу. Сур'ёзных выпрабаванняў.

Ішла індустрыялізацыя. Пачалася масавая калектывізацыя. І гэта ў краіне аграрнай, беднай тэхнікай і матэрыяльнымі рэсурсамі, у краіне з векавымі сялянскімі ўласніцкімі традыцыямі.

Адбывалася хуткая, часта драматычная ломка былога, звыклага.

Была складаная расстаноўка класавых сіл. Было супраціўленне, часта шалёнае, унутры. Была рэальная пагроза з-за мяжы: блізка ад Мінска, у двух дзесятках кіламетраў, пачыналася варожая белая Польшча, заціты непрыязна Захад.

Памяць трывожылі яшчэ блізкія, вострыя ўспаміны пра нямецкую і польскую акупацыю. І ўжо рэальнымі праявамі гразіўся з Італіі, з Германіі фашызм.

У гэтай складанай абстаноўцы ў краіне давялося дзейнічаць масе ў большасці сумленных, але малаадукаваных, малавопытных людзей.

Газеты былі поўныя заклікаў павысіць тэмпы. Заклікаў да пільнасці, да гатоўнасці абараняць краіну. Да рашучага наступу на варожыя элементы. І нізкі артыкулаў пра нездаровыя з'явы, пра класава-варожыя настроі некаторых пісьменнікаў. Артыкулаў, што выкрывалі, абвінавачвалі, гнеўна, бязлітасна судзілі.

Часам прыходзіцца чуць, што абвінавачванні гэтыя нярэдка мелі падставы. Былі памылкі, былі нездаровыя выступленні. Бясспрэчна, памылкі, асабліва ў той абстаноўцы, нельга было пакідаць без належнай ацэнкі. Але аснова ўсякага суда ў тым, каб мера кары адпавядала цяжару віны. А тады ўжо можна было чытаць абвінавачванні, напрыклад, М. Чарота ў контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай дзейнасці, а Цішкі Гартнага — у змычцы з сусветным сацыял-фашызмам!..

Прычым цікава, што часта з абвінавачваннямі выступалі таварышы па справе — пісьменнікі...

Вядома, цяпер багата працей быць разумным. Цяпер у цэлым усё ясна. А тады, як усё ўспрымалі тады жывыя гэтыя з'явы нашы папярэднікі, савецкія беларускія літаратары?

Літаратура жыла, працавала на карысць народа. Перад самым трыццатым годам выдаў сваю першую аповесць «Затока ў бурах» Янка Скрыган, ён пазней напісаў па гарачых слядах жыцця некалькі кніжак на-

рысаў і апавяданняў — «Шугае сонца», «Сустрэчы» і іншыя. Заявіў пра сябе як пра ўдумлівага, назіральнага пісьменніка аповесцю пра калектывізацыю «Межы» Сымон Баранавых. На тое, што адбывалася ў вёсцы, чула адгукнуўся К. Чорны, што стварыў аповесць «Вясна». З поспехам у новай для сябе галіне шырокай прозы выступіў К. Крапіва: раман «Мядзведзічы» ўзбагаціў літаратуру сур'ёзным даследаваннем жыцця вёскі. Нямала цікавага расказалі чытачам і раман М. Лынькова «На чырвоных лядах», і яго аповесць «Апошні зверыядавец» — на той час вельмі актуальная па накіраванасці сваёй, закліку да пільнасці. Горача была прынята чытачом і крытыкай злабадзённая па тэме — калектывізацыя ў вёсцы — аповесць П. Галавача «Спалох на загонах». П. Галавач стварыў у гэтыя гады і першы свой раман — у цэлым удалы, сур'ёзны эпічны твор «Праз гады». Суровым рэалізмам і мужнай глыбінёй вылучаецца лепшы твор М. Зарэцкага «Вязьмо» — можа быць, самы глыбокі твор тых часоў пра калектывізацыю.

Шырокім роздумам над часам, над рухам гісторыі вызначаюцца раманы К. Чорнага «Бацькаўшчына», «Трыццаць год», потым — «Трэцяе пакаленне» і аповесць «Люба Лук'янская».

Час гэты адзначан прыходам у беларускую драматургію выдатнага аўтара — К. Крапівы. Крапіва паказаў немалое майстэрства ўжо ў першай п'есе «Канец дружбы», а другая п'еса «Партызаны» стала радаснай з'явай ва ўсёй беларускай драматургіі.

Актыўна, усё больш упэўнена заяўляў пра сябе ў паэзіі П. Броўка. Аўтар кнігі «Прамова фактамі», «Гады, як шторм», «Цэхавыя будні» ў 1932 годзе стварыў паэму «Праз горы і стэп», якая стала, можна сказаць без перабольшання, дасягненнем усёй тагачаснай паэзіі. Акрамя зборнікаў «Хада падзей» і «Чатыры вятры» П. Глебка напісаў адзін з лепшых сваіх твораў — публіцыстычна-філасофскую паэму пра Леніна, пра ленінскую справу «Мужнасць». Тэму гэтай паэмы ён потым развіне ў паэме пра Кастрычнік «У тыя дні».

Вельмі энергічна працуе ў гэтыя гады ў паэзіі М. Лужанін, пра што добра сведчыць цэлая бібліятэчка яго паэзіі, выдадзеная за некалькі гадоў — зборнікі «Неаплочаны рахунак», «Аднагалосна», «Кастрычнікам, ліпенем, маем» і інш.

Добры плён у паэзіі першай паловы трыццатых гадоў мелі — Уладзімір Хадыка, Мікола Хведаровіч, Сяргей Дарожны, Змітрок Астапенка і многія другія...

Але самае значнае дасягненне нашай паэзіі тых гадоў — паэма Янкі Купалы «Над ракой Арэсай» — усхваляваная песня стваральнай працы чалавека, камуне, сацыялізму, што павялі наступленне на палескую багну, на санлівую мінуўшчыну.

Напісаная ў форме паэтычнага рэпартажа, лірычнай публіцыстыкі, прасякнутая захапленнем тым новым, што прынесла ў балоты камуна і што адкрылася паэту, паэма разам поўная веры ў жыццёвую сілу калектыўнага гаспадарання:

I камуна гэта,
I гэты саўгас
Будуць з лета ў лета
Расці ў добры час.

Паэме ўласціва некаторая апісальнасць, павярхоўнасць, добра прыкметныя цяпер, калі глядзіш на тыя падзеі з сённяшнім вопытам, але яна вельмі каштоўная нашай паэзіі, як твор у многіх адносінах наватарскі, твор, што пракладваў новыя шляхі паэзіі.

Паэт бачыў новае жыццё Палесся як чыстую крыніцу паэзіі, да якой будуць і будуць прыходзіць паэты.

Аб новым Палессі
Яснае зары
Складаць будуць песні
Складна песняры.
Апяюць у песнях
Працу, гераізм,
Як на край балотны
Йшоў сацыялізм...

Трыццатыя гады прынеслі ў наша жыццё і многа горкага, трагічнага. Яно закранула лёс многіх людзей. Лёс усёй літаратуры. Усяго грамадства.

Гэта было вельмі сур'ёзна. I пра гэта нельга не сказаць.

У пачатку трыццатых гадоў, пасля многіх вялікіх абвінавачанняў, была спынена творчая работа Ул. Дубоўкі і Я. Пушчы. Праз некаторы час прыйшла чарга М. Гарэцкага, М. Лужаніна. У літаратурным асяроддзі настал і трывожныя дні. У абстаноўцы жорсткіх і, як нам цяпер вядома, беспадстаўных нападак былі арыштаваны, вырваны з літаратуры М. Чарот, М. Зарэцкі,

Ц. Гартны, П. Галавач, Я. Скрыган, М. Хведаровіч, А. Звонак. Былі арыштаваны зусім маладыя, якія толькі пачыналі жыць і працаваць — С. Дарожны, Ю. Таўбін, С. Грахоўскі. Пасля 1937 года ад густога і шырокага лесу нашай літаратуры заставаліся толькі асобныя моцныя дрэвы.

Усё гэта вядома вам. Вядомы і прычыны — грубае беззаконне, парушэнне ленінскіх норм жыцця.

Мы былі б няпраўдзівыя, калі б сказалі, што гэта не прынесла вялікай шкоды нам. Страты былі вялізныя, небяспечныя для ўсёй літаратуры.

Шкода ад гэтых страт была не толькі ў тым, што не стала многіх патрэбных людзей. Беспадстаўныя падазрэнні і грубыя парушэнні ленінскай этыкі маральна не маглі не адбіцца на ўсёй творчай атмасферы ў пісьменніцкім асяроддзі.

Калі думаеш пра ўсё гэта, развагі ўвесь час вяртаюцца да Леніна, да ленінскага стылю жыцця, адносін з людзьмі. Да той чуласці і беражлівасці, з якой ён ставіўся да людзей, да яго нязменнага правіла — усё правяраць фактамі...

Хочацца сказаць: калі яго не стала, мы супакойвалі сябе тым, што засталіся яго творы, яго вучэнне, яго вучні. Усё гэта правільна. Больш таго, гэта — неабходна было сказаць тады, каб згуртаваць народ, партыю ў цяжкі час. Але разам з гэтым ёсць і іншая праўда. Ён памёр так рана, у самым росквіце жыцця. Тады, калі ён яшчэ мог так багата зрабіць для яго і нашай справы як тэарэтык і як практык. Тым больш што ён, яго розум, яго дальнавіднасць так патрэбны былі. І ў дваццатыя, і ў трыццатыя гады. Калі ён мог бы папярэдзіць ад многіх цяжкіх памылак і страт. Удумаемся: ён жа мог, як наш сучаснік, як жывы чалавек, сустракаць нават свята перамогі над фашызмам. Як рана яго не стала! І як шкода, што яго не было з намі — асабліва на крутых дзялянках нашай дарогі!..

Нікольні не аслабляючы значэння змрочных з'яў, якія былі ў трыццатыя гады, у імя справядлівасці, праўды мы не можам не бачыць, што ў праўдзе тых гадоў была і іншая, светлая, сацыялістычная, рэчаіснасць.

Многае і на добрае змянялася ў нашых вёсках. У калгасы ішла тэхніка, ішла культура. Прамысловасць хутка змяняла воблік гарадоў. Спраўджалася

мара П. Труса: наша краіна станавілася «краем фабрык дымных і машын».

Моладзь цягнулася да ведаў. Аўдыторыі інстытутаў звінелі маладымі галасамі, нашымі з вамі галасамі.

У тыя ж трыццатыя гады адбылася вельмі важная і вельмі патрэбная падзея: была ліквідавана дробная цераспалосіца ў пісьменніцкіх арганізацыях і створан адзіны Саюз савецкіх пісьменнікаў — наша цяперашняя арганізацыя.

У 1934 годзе адбыўся першы з'езд савецкіх пісьменнікаў, які стаў падзеяй не толькі ў літаратуры, а і ў жыцці ўсяго народа.

Для нас, беларусаў, асабліва шчаслівым аказаўся трыццаць дзевяты год, другая палова верасня. Ажыццявілася даўняя наша мара, прыціх даўні боль — нашы заходнія браты з'ядналіся з намі. Вызваленне расчыніла турэмныя дзверы перад П. Пестраком, увяло ў нашу сям'ю М. Танка, В. Таўлая, М. Машару, Н. Тарас і іншых нашых таварышаў.

Другая палова трыццатых гадоў парадавала нас цудоўным ляўкоўскім цыклам Я. Купалы. Вельмі хораша раскрыўся талент А. Куляшова — нас зачаравалі тады яго «Юнацкі свет» і паэма «У зялёнай дуброве». У тыя гады К. Крапіва стварыў «Хто смяецца апошні» — сатырычную камедыю, якая дасюль, па-мойму, застаецца лепшым творам савецкай літаратуры ў гэтым жанры.

У гэтыя гады ў парадзелым лесе нашай літаратуры хутка вырасла, развілося новае яркае дрэва — Эдуард Самуйлёнак. «Паляўнічае шчасце», «Будучыня», «Пагібель воўка» гавораць, які гэта быў шматабяцаючы талент. Шкада, што гэтае прыгожае дрэва спаліла так рана хвароба.

І яшчэ адно маладое дрэва адразу хораша зазелянела — Пімен Панчанка. Помню, як мы, маладыя хлопцы, зачытваліся першым яго зборнікам «Упэўненасць». Многія з нас тады гатовы былі падпісацца пад цудоўнымі словамі паэта:

Я спакойны юнак, можа, нават крыху сарамлівы,
Не пакрыўджу і птушкі, бо знаю: ёй хочацца жыць;
Але тых, хто захоча напасці на край мой шчаслівы,
Я сваімі рукамі без жалю гатоў задушыць.

Добра працаваў Паслядовіч, аўтар аповесці «Магістральны канал» і рамана «Паўстанне». Нарэшце ўба-

чыла святло першая кніга паэзіі П. Пестрака «На варце», кніга, напісаная ў казематах белапольскіх турмаў.

Рос, набіраў сілы малады падлесак — А. Жаўрук, А. Ушакоў, У. Краўчанка, А. Бялевіч, Э. Агняцвет, А. Астрэйка, І. Грамовіч, А. Бачыла, Р. Бярозкін, Р. Няхай, К. Кірэенка, М. Аўрамчык. Жыццё брала сваё.

Наша зямля першая прыняла на сябе шалёны наскок вайны. Наш лес і наша поле першымі рвалі, нявечылі фашысцкія снарады і бомбы. Нашы хаты і нашы гарады першымі танулі ў агні. Нашы дарогі першымі стагналі ад ненавіснага цяжару нямецкіх танкавых гусеніц.

Мы прадбачылі яе, і ўсё ж яна абрынулася на нас неспадзявана і страшна, вайна 1941 года. Нам было неймаверна цяжка. Асабліва ў 1941 годзе. Вайна выпрабоўвала нас самай жорсткай, бязлітаснай пробай. Нашу стойкасць, меру нашай адданасці Савецкай уладзе, справе Леніна.

Многія з нас з першай хвіліны вайны былі ў баях, у пяхотных узводах, на батарэях, у танках. Другія палявымі сцежкамі, праз варожыя заслоны, прабіваліся да ваенкаматаў. І таксама бралі зброю. Гэта тады быў найгалоўны пісьменніцкі абавязак — узяць зброю, знайсці сваё месца ў вялікім змаганні.

І мы знайшлі. Адны ў армейскіх падраздзяленнях — Мікола Аўрамчык, Васіль Барысенка, Леанід Гаўрылаў, Алесь Жаўрук, Аляксей Кулакоўскі, Мікола Лупсякоў, Пімен Панчанка, Іван Шапавалаў.

Апранулі армейскія шынялі старэйшыя Міхась Лынькоў, Кандрат Крапіва, Ільля Гурскі,— рэдакцыя газеты «За свабодную Беларусь», што выдавалася на Калінінскім фронце.

Адзначым з ухвалай: добраахвотна, кіруючыся грамадзянскім абавязкам, пайшлі ў варожы тыл, да партызан, Антон Бялевіч, Анатоль Астрэйка, Сцяпан Майхровіч. Закінуты ваеннай доляй на Украіну, з годнасцю падтрымліваў гонар нашых радоў у партызанскіх атрадах Ю. Збанацкага Рыгор Няхай. Сярод пінскіх партызан быў Піліп Пестрак. У брэсцкіх лясах партызаніў Мікола Засім. У падполлі, у партызанскіх

атрадах праходзілі незвычайную чалавечую і пісьменніцкую падрыхтоўку будучыя нашы сябры — Іван Навуменка, Алесь Адамовіч, Аляксей Карпюк, Уладзімір Карпаў, Георгій Шчарбатаў.

Ужо ў першыя дні вайны беларускі народ пачуў голас нашай паэзіі. Гэта быў голас мужны, цвёрды, поўны нянавісці да ворага і закліку да барацьбы:

Партызаны, партызаны —
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны!

З заклікам Янкі Купалы пераклікаўся такі ж страсны голас Максіма Танка:

Не шкадуйце, хлопцы, пораху,
Куль гарачых і гранатаў.
Ўсе, каму свабода дорага,
Падымайцеся на ворагаў,
На катаў!

Боль за зняволены народ, трывога за родную краіну, нянавісць да ворага напоўнілі незвычайнай сілай многія творы нашай паэзіі. У ваенных нягодах адразу дзівосна ўзмужнеў, загучаў шырока, моцна голас П. Панчанкі:

Краіна мая, радасць мая,
Песня мая маладая!
Па нівах тваіх, па тваіх гаях
Сынава сэрца рыдае.
...Веру цвёрда: сканае бязлітасны вораг
І штандар перамогі над краем запаліць зару.
Пакуль сонца не згасне,
Пакуль свецяцца зоры,
Беларусь не загіне, будзе жыць Беларусь!

Энергія, народжаная напалам народнай барацьбы ў нашай паэзіі, выключная. Толькі незвычайная энергія, толькі поўная злітнасць з народам, з яго бядой і яго надзеяй маглі нарадзіць у франтавой зямлянцы такую выдатную, вялікую рэч, як паэма А. Куляшова «Сцяг брыгады».

У нашай паэзіі ваеннай пары багата чым мы маем права заўсёды ганарыцца: тут і лірыка А. Куляшова і М. Танка і прачулая, пафасная «Беларусь» П. Броўкі, і «Слуцкі пояс» А. Астрэйкі, і высокая паэзія В. Віткі, і народная краса вершаў А. Бялевіча.

Трэба аддаць знакі пашаны нашай паэтычнай сатыры, той, якая са старонак баявой газеты «Раздавім фа-

шысцкую гадзіну» ішла ў самалётах у партызанскія лясы і хаты.

Проза наша гучала, здаецца, не так моцна. Але і яна рабіла што магла: варта ўспомніць вострыя памфлеты К. Чорнага ў кнізе «Кат у белай манішцы», такія выдатныя навелы, як «Васількі», «Дзіцячы башмачок» і іншыя М. Лынькова, «Маленькая жанчына» і «Вялікае сэрца» К. Чорнага. Не будзем забываць і пра тое, што К. Чорны пісаў у гэты час «Пошукі будучыні» і іншыя раманы, а М. Лынькоў патаемна рыхтаваў аснову «Векапомных дзён».

Вайна многа ўзяла ад нас. Не вярнуліся ў Мінск з ваеннага выгнання Я. Купала і З. Бядуля. На шырокіх прасцягах вайны пад Ленінградам і Сталінградам, пад Кёнігсбергам і Берлінам аддалі сваё жыццё за Радзіму, за наш сённяшні дзень многія нашы сябры, якія так багата маглі б зрабіць у літаратуры.

Яны выканалі свой абавязак да канца. Слава ім і вечная — сумная і ўдзячная — наша памяць!

Гонар нашай літаратуры: яна ўся выканала свой абавязак перад народам!

Мне выпала на долю быць адным з тых, хто ў канцы 1944 года ў Мінску разам з П. У. Броўкам складаў першы нумар часопіса «Полымя» на 1945 год.

У першы дзень міру — 10 мая 1945 года — трое нас — Я. Брыль, П. Кавалёў і я — былі прыняты ў Саюз пісьменнікаў. Прыняты без цвёрдых падстаў — больш на падставе спадзяванняў,— у мяне было толькі тры-чатыры апавяданні.

Нас было вельмі мала. Нас чакалі нецярпліва, прымалі з радасцю.

А людзі ішлі, здавалася, павольна. З вялікімі прамежкамі адзін ад аднаго. Вайна скончылася, а многія яшчэ былі патрэбны арміі. Помню, як прыязджалі ў ваеннай форме, пры пагонах і ордэнах А. Бачыла, Я. Казека, М. Калачынскі, П. Панчанка. Помніцца першая, армейскай работы, падборка вершаў А. Русецкага ў «ЛіМе». А ў некаторых да Саюза пісьменнікаў была далёкая дарога — праз рурскія і данбаскія шахты.

Тоненькія былі нашы першыя кніжачкі: «Ранак ідзе» К. Кірэенкі, «Поўдзень» В. Віткі, «У атаку» М. Лупсякова.

Цяжкі быў пачатак. Уся наша родная зямля крывавілася свежымі ранамі. Вёскі чарнелі жахлівымі выгарамі, ледзь не ў кожнай людзі ціснуліся, гібелі ў зямлянках. Ледзь не ўсе гарады ляжалі ў руінах, заводы сустракалі цішынёй, пустэчай.

Мала было коней у калгасах, не хапала насення, не хапала цвікоў, будматэрыялаў, прадуктаў харчавання. Мільёны людзей жылі галадна і холадна.

Гэта было наша жыццё. Але ў гэтым была толькі палова праўды. Другая палова праўды, больш глыбокая, была ў тым, што гэта быў разам час вялікіх надзей і вялікай радасці. Вайна скончылася, быў мір, а мірнае жыццё абяцала нам бясконца багата.

Памыляецца той, хто думае, што аптымізм людзей таго часу — прыдуманы паэтамі. Аптымізм гэты ішоў ад жыцця, ад таго, што яно было поўна спадзяванняў і веры.

І надзвычайны, дзівосны энтузіязм не выдуманы. Гэта таксама адзнака часу. І шырыня, смеласць задум — таксама ад таго часу, ад адчування велічы, прастору, што быў перад намі. Ды яшчэ ад маладосці — многіх з нас і краіны, якая нібы перажывала другую сваю маладосць.

Літаратура жыла вельмі злітна з жыццём народа.

Усё, што поўніла яе,— гэта памяць нядаўняй вайны і нецярплівае жаданне залячыць жахлівыя раны.

Гэта ва ўсіх кніжках той пары, тых, якія напісаны старэйшымі, тых, якія належалі маладым, што толькі ўваходзілі ў літаратуру. Пры ўсёй рознасці творчых асаблівасцей гэта яднае ўсю тагачасную паэзію — творы П. Броўкі, М. Танка, П. Панчанкі, М. Лужаніна, А. Бялевіча, М. Калачынскага, К. Кірэенкі. Хораша на гэтай першай пасляваеннай хвалі жыцця ўзыходзілі Я. Брыль, А. Вялюгін, М. Лупсякоў, потым А. Кулакоўскі, І. Шамякін, М. Аўрамчык, А. Русецкі, А. Васілевіч.

Літаратура хутка набірала сілу. Добра бачачы мастацкую недасканаласць некаторых твораў, нельга не адзначыць таго, як упарта імкнулася наша літаратура ісці ў нагу з жыццём, даваць чытачам буйныя па вобразах, па ахопу жыцця творы. Паэмы П. Броўкі і А. Куляшова, аповесці Я. Брыля і А. Кулакоўскага, раманы І. Шамякіна, Т. Хадкевіча могуць належным чынам паказваць характар думак і творчых імкненняў большасці пісьменнікаў таго часу.

Першае пасляваеннае дзесяцігоддзе адзначаецца асабліва бурным ростам прозы. Іменна ў гэты час наша літаратура ўзбагацілася такімі моцнымі, выдатнымі творамі, як «Сустрэнемся на барыкадах» П. Пестрака і «Векапомныя дні» М. Лынькова. У гэтыя гады завяршыў і кнігу ўсяго свайго жыцця — трылогію «На ростанях» — Я. Колас.

Не прыніжаючы таго добрага, што было зроблена, мы, аднак, не маем права заплюшчваць вочы і на тое, што не ўсё рабілася як належыць і не ўсё таму вытрымала выпрабаванне часу.

У. І. Ленін вучыў нас уважліва адносіцца да вопыту мінулага, сур'ёзна аналізаваць прычыны і нашых поспехаў, і нашых няўдач, вучыў з няўдач рабіць неабходныя для далейшай работы вывады.

Відаць, няма патрэбы тут зноў разбіваць кожны твор паасобку, ім — і не адзін раз — была дадзена ацэнка. Але адзначыць тое агульнае, што зніжала вартасць работы многіх пісьменнікаў, у імя добрай навукі на будучае, думаю, ёсць рацыя.

Азіраючыся назад, не магу, перш за ўсё, не адзначыць таго, што не заўсёды работа нашых таварышаў ішла ў добрай, спрыяльнай творчасці абстаноўцы. Нельга не згадаць са шкадаваннем, што ў першае дзесяцігоддзе пасля вайны светлы абсяг нашай літаратуры не раз зацягвалі сінія, часам вельмі цёмныя хмары. З-за гэтых хмар то глухавата, а то і даволі моцна, па-грозна пагрымвала. Пагрымвала тады і са старонак «Літаратуры і мастацтва», і, на жаль, не толькі з яе старонак.

Раз за разам мы перажылі некалькі такіх змен надвор'я. Амаль у кожную такую пару маланкі з громам падалі на той ці іншы твор, і, як ні дзіўна, кожны раз з'яўляліся майстры гэтых грымот — нашы «грамавержцы»!

Прычым, як правіла, пачыналася з разумнага, карыснага. Помню, адна з першых такіх пасля вайны была кампанія барацьбы з безыдэйнасцю. Ніхто не можа запярэчыць: сам лозунг барацьбы за высокую ідэйнасць быў, бясспрэчна, правільны. Жаль выклікае, аднак, тое, што гэты правільны лозунг быў неўзабаве выкарыстан для бяздоказных нападак на рад пісьменнікаў і для «ўзбагачэння» марксісцка-ленінскай эстэтыкі зусім «новымі» адкрыццямі. Гэтыя «адкрыцці» за-

ключаліся ў тым, што па-за літаратурай, у тым ліку і паэзіяй, была без ваганняў пастаўлена інтымная лірыка, лірыка кахання. Права на жыццё яна мела толькі пры напаўненні яе матывамі карыснай грамадскай дзейнасці закаханых, поспехаў у вытворчым спаборніцтве і да т. п.

На маёй памяці сход, калі ў рэзалюцыю, якая асуджала безыдэйнасць, упісалі Э. Агняцвет за некалькі вершаў пра каханне.

Можна згадаць, у якім тоне, у якіх выразах і разам з якою доляю «аб'ектыўнасці» вялася барацьба з нізкапаклонствам, накіраваная фактычна да поўнай самаізаляцыі нашай літаратуры. Факт, які проста дзіўна згадваць цяпер, калі так натуральна пашырыліся міжнародныя сувязі савецкай літаратуры. Што, дарэчы, вельмі адпавядае і інтэрнацыянальнай сутнасці літаратуры і ў цэлым — сутнасці марксізма-ленінізма.

Вялікую шкоду прынесла нам неразуменне некаторымі дзеячамі, што займаліся літаратурай, спецыфікі літаратуры. Думаю, адсюль пайшло імкненне як мага ўзбагаціць мастацкую літаратуру вытворчымі сакрэтамі, накшталт таго, як рабіць торфа-перагнойныя гаршчочкі і як вырошчваць кок-сагыз. Сляды гэтага «абнаўлення» мастацкай літаратуры можна знайсці ў некаторых нашых творах той пары, яна нават дала і драматургічны ўзор — драму пра кок-сагыз «Кветкі Цянь-Шаня».

Савецкая літаратура, якая паказвае чалавека ў працы, бясспрэчна, не можа зусім абыходзіць вытворчы працэс, паказваць працу агульнымі малюнкамі. Але літаратура не можа ператварацца і ў вытворчую інструкцыю, калі яна не хоча перастаць быць мастацкай літаратурай. Тут, вядома, многае ў адчуванні меры, у таленце.

Адсюль, ад неразумення спецыфікі літаратуры, мусіць, ідзе і неперажыты яшчэ погляд на літаратуру як на фатаграфічную ілюстрацыю ўсяго таго, што ёсць у жыцці. Погляд, які стаў прычынай прыкметнай заганы шэрагу твораў нашай літаратуры — ілюстрацыйнасці.

Адно з самых вялікіх абвінавачванняў, якое рабіў У. І. Ленін, было абвінавачанне ў пражэкцёрстве. У. І. Ленін заўсёды заклікаў лічыцца з рэальнасцю,

зыходзіць з яе. Не можам сказаць, што мы былі зусім бязгрэшныя і ў гэтых адносінах.

Помню, тады, недзе на рубяжы пяцідзесятых гадоў, мала было такіх, каго б не захапіла новае «адкрыццё» — новая прырода канфлікту: добрае змагаецца з лепшым. Пад гэтае адкрыццё была падведзена і «грунтоўная» тэарэтычная база. Такога ж роду, са сваёй логікай і сваёй абгрунтаванасцю, былі і развагі пра тое, што асноўным героем савецкай літаратуры павінен стаць герой, якога ўпершыню нарадзіў наш час,— ідэальны герой.

У новых ідэй заўсёды ёсць свая прываблівасць. Дайшла да сэрцаў многіх з нас і гэтая, тым больш што яна адпавядала патрыятычнаму імкненню бачыць усё ў добрым, прыгожым святле. Імкненню бачыць тое, пра што марыцца, ужо рэальным.

Так нарадзілася тая якасць у некаторых нашых творах, якую потым назвалі лакіроўкай рэчаіснасці. Найбольш ярка праявілася гэтая якасць у раманах Бабаеўскага, але і ў нашай літаратуры ёсць яе адзнакі.

Гаворачы гэта, я лічу патрэбным сказаць і пра тое, што калі шкодны літаратуры ружовы лак, то не мае яна патрэбы і ў чорным. Літаратуры не патрэбны ніякія лакі, ёй патрэбны натуральныя, жывыя колеры. Колеры жывога жыцця.

У гэтым яе сіла і яе хараство.

Пераходзячы да літаратуры сярэдзіны 50—60-х гадоў, я, перш за ўсё, хацеў бы адзначыць, што ў другой палове пяцідзесятых гадоў нашу сям'ю папоўніла група пісьменнікаў, якія былі на доўгія гады адарваны ад роднай зямлі, ад творчай працы. Іх вярнуў у нашу сям'ю XX з'езд партыі. Вельмі добра гэта, што яны ў нашай сям'і, што яны шчыра працуюць, радуюць нас маладой энергіяй і жыццялюбствам. Яны заслужылі права на вялікую павагу — Я. Скрыган, С. Грахоўскі, М. Хведаровіч, У. Дубоўка, Р. Бярозкін, А. Звонак, А. Пальчэўскі, С. Шушкевіч, Ю. Гаўрук, Я. Бяганская.

У гэтыя гады ў нашы рады ўлілося новае пакаленне, вельмі блізкае па жыццёваму вопыту да першага пасляваеннага. Гэта былі людзі, якія таксама зазналі вайну, горыч страт і радасць перамогі, але па розных

прычынах прыйшлі ў літаратуру трохі пазней. А. Асіпенка, І. Навуменка, В. Быкаў, А. Карпюк, А. Пысін, А. Адамовіч, С. Александровіч, Л. Арабей, А. Бажко, Е. Лось, В. Каваленка, П. Дзюбайла — шматлікае і багатае талентамі гэтае пакаленне, многія прадстаўнікі якога добра вядомы цяпер не толькі беларускаму чытачу.

Цяпер ужо значны плён у прадстаўнікоў наступнага пакалення, у тых, каго мы яшчэ нядаўна называлі маладымі і якія ўжо добра ўзбагацілі нашу літаратуру сваім вопытам і сваім разуменнем свету. Мы бачым як арыгінальных, сталых мастакоў лепшых з іх, такіх, як Р. Барадулін, Н. Гілевіч, А. Вярцінскі, Г. Бураўкін, В. Зуёнак, Р. Тармола, Д. Бічэль-Загнетава, Я. Сіпакоў, І. Пташнікаў, Б. Сачанка, М. Стральцоў, В. Адамчык, І. Чыгрынаў, У. Паўлаў, А. Грачанікаў.

Не можа не радаваць, што ў нас нямала здольных людзей сярод тых, хто цяпер зусім малады, хто толькі пачаў ці пачынае. Юрка Голуб, Рыгор Семашкевіч, Жэня Янішчыц, Алесь Разанаў, Вольга Іпатава і многія іншыя — гэта тыя, з кім мы — і я ўпэўнены, з поўным правам — звязваем нашы добрыя надзеі на будучыню.

Вылучаючы гэтыя розныя па часу прыходу ў літаратуру, па жыццёваму вопыту плыні, я павінен сказаць, што ў падзеле гэтым многа ўмоўнага. Ёсць пісьменнікі, якія вопытам і творчымі асаблівасцямі блізкія розным пакаленням. Мы можам зусім цвёрда сказаць, што ў нас у літаратуры няма — і не было — праблемы бацькоў і дзяцей. Калі і падзяляе што-небудзь нас, то гэта не столькі ўзроставыя адзнакі, колькі погляды на жыццё, на творчыя задачы, асаблівасці мастацкага густу.

Пачатак гэтага перыяду развіцця літаратуры адзначан вельмі важнай падзеяй — работай XX з'езда КПСС. Рашэнні XX з'езда, што, як вядома, сурова, з ленінскай прынцыповасцю, асудзілі некаторыя нездаровыя з'явы мінулага, расчысцілі дарогу для імклівага развіцця нашага грамадства ва ўсіх галінах жыцця. Яны выключна плённа адбіліся і на нашай літаратуры, якая ў шэрагу твораў узнялася на новы якасны ўзровень.

Гаворачы пра нашы здабыткі ў гэты час, павінен, перш за ўсё, адзначыць высокія вартасці такіх буйных твораў, як «Засценак Малінаўка» А. Чарнышэвіча, «Шэметы» М. Лобана, «Серадзібор» П. Пестрака, твораў, якія глыбока і праўдзіва даследуюць вытокі нашай сучаснасці. Побач з гэтымі творамі з поўным правам можна паставіць і шчырую, сардэчную трылогію Р. Сабаленкі «Іду ў жыццё», і тонкую, паэтычную аповесць М. Стральцова «Адзін лапаць, адзін чунь». Значна ўзбагацілі мастацкі летапіс Вялікай Айчыннай вайны яркія, суровыя, поўныя роздуму над перажытым аповесці В. Быкава «Трэцяя ракета» і «Альпійская балада», раманы І. Навуменкі «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах», «Расстаёмся ненадоўга» і «Сустрэчы на ростанях» А. Кулакоўскага, «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой» А. Адамовіча, «Вогненны азімут» А. Асіпенкі, аповесці «Тартак» І. Пташнікава, «Апошнія і першыя» Б. Сачанкі.

Як цікавую і важную падзею ў нашай прозе нядаўніх год трэба назваць раман-споведзь Я. Брыля «Птушкі і гнёзды». Раман Я. Брыля значна ўзбагаціў яшчэ беднаватую ў нашай літаратуры тэму інтэрнацыянальнага братэрства нашых людзей з народамі іншых краін.

Хочацца адзначыць прыкметны творчы рост Л. Арабей, што напісала некалькі цікавых твораў аб вайне, якія хвалююць праўдай перажытага.

Як нам вядома, завяршыў нарэшце шматгадовы свой клопат І. Гурскі, што закончыў тэтралогію «Вецер веку». Нямала цікавага знойдзе наш чытач у двух раманах «Сонца за кратамі» і «Крэсы змагаюцца» М. Машары — пра рэвалюцыйнае змаганне ў Заходняй Беларусі. Хочацца асабліва парадавацца за С. Грахоўскага, першы буйны твор якога ў прозе — «Рудабельская рэспубліка» — стаў прыкметнай з'явай нашай літаратуры.

Парадаваў нас добрым і таксама вельмі рэдкім у нас па жанравых асаблівасцях, па-сапраўднаму таленавітым творам «Колас расказвае пра сябе» М. Лужанін. Хочацца падтрымаць добрым словам тое, што робяць у гэтай галіне Я. Скрыган і М. Хведаровіч, і тую цяжкую, карпатлівую, але надзвычай важную для ўсёй літаратуры работу, якую робяць нашы нястомныя даследчыкі С. Александровіч, Г. Кісялёў, А. Мальдзіс.

Ёсць у нашай прозе пэўныя поспехі і ў асваенні блізкай, імклівай рэчаіснасці. Нібы яднае ўчарашні і сённяшні дзень раман І. Шамякіна «Сэрца на далоні», што заваяваў шырокую папулярнасць у чытачоў. Як вядома, нядаўна І. Шамякін апублікаваў новы раман «Снежныя зімы». Тэмам пасляваеннага аднаўлення і сучаснага гарадскога жыцця прысвяціў свае раманы «За годам год» і «Вясеннія ліўні» У. Карпаў.

Без усякіх скідак высока варта ацаніць мужную, строгую аповесць А. Асіпенкі «Абжыты кут», драматычныя, вельмі сур'ёзныя апавяданні І. Пташнікава, сабраныя ў кнізе «Сцяпан Жыхар са Сцешыц», лепшыя апавяданні В. Адамчыка, М. Стральцова, І. Навуменкі. Варта ўхваліць першыя крокі нашых маладзейшых аўтараў А. Кудраўца, М. Капыловіча, В. Карамазава.

Хачу асабліва адзначыць з'яўленне ў нашай прозе цікавых нарысаў В. Палтаран, В. Мысліўца, Я. Сіпакова. Думаю, што не толькі нарысы «Дзівасіл» і нарысы, сабраныя ў кнізе «Ключы ад Сезама» В. Палтаран, якія ўжо належна ацэнены нашай крытыкай, але і нарысы В. Мысліўца і Я. Сіпакова заслугоўваюць і бясспрэчнай ухвалы нашай і нашай павагі. Нарысам «Жывуць хлопцы-равеснікі» В. Мыслівец далучыў нашу прозу да некаторых цікавых і няпростых людзей, што працуюць ў сённяшніх заводскіх цэхах. Твор Я. Сіпакова «Акно, расчыненае ў зіму», толькі нядаўна апублікаваны ў «Полымі», радуе непрыдуманай праўдай жыцця, яркасцю мастацкіх фарбаў і сур'ёзнасцю, шырынёй роздуму пісьменніка над жыццём.

Мне здаецца, мы недаацанілі ў свой час значэнне таго, што рабіў у беларускай прозе Ігнат Дуброўскі. Сваімі нарысамі І. Дуброўскі даказаў даўно, што ён сярод нас — самы сур'ёзны знаўца сучасных праблем сельскай гаспадаркі, і спадзяюся, што выкажу не толькі сваю думку, калі з гэтай трыбуны звярнуся да І. Дуброўскага з пажаданнем больш актыўна працаваць у нашай сучаснай даследчыцкай прозе.

У гэты юбілейны год з асаблівай увагай мы азіраем тое, што зрабіла наша літаратура, каб увасобіць у мастацкіх творах вобраз У. І. Леніна. Наша проза не першы год спрабуе рашыць гэтую пачэсную задачу. Вобраз У. І. Леніна малявалі ў сваіх творах З. Бядуля, І. Гурскі, В. Хомчанка, над творамі пра Леніна настойліва

працуе цяпер І. Шамякін. Багата больш зрабіла тут паэзія, наша паэтычная Ленініяна мае рад добрых, высокай вартасці твораў. Сярод іх — паэма А. Вялюгіна «Вецер з Волгі», драматычныя паэмы П. Глебкі, вершы М. Танка, П. Броўкі, многіх іншых паэтаў. Прыемна адзначыць нядаўні поспех у стварэнні вобраза У. І. Леніна ў драматургіі, якога дасягнуў К. Губарэвіч, аўтар п'есы «Брэсцкі мір».

Усё-такі тут, асабліва ў прозе, нам трэба яшчэ працаваць і працаваць.

Вельмі пабагацела галасамі за гэты час наша паэзія. Сённяшнюю беларускую паэзію проста немагчыма ўжо ўявіць без яркай і, я сказаў бы, дзёрзкай сваёй думкай і мовай паэзіі Р. Барадуліна, без філасофска-раздумлівых паэм С. Гаўрусёва, без добрай, разумнай яснасці лірыкі Н. Гілевіча, без тэмпераментнай, гарачай сповядзі паэзіі Г. Бураўкіна, без стрыманай і ўдумлівай лірыкі В. Зуёнка.

Нямала ўзбагацілі гучанне, шырокі свет нашай паэзіі і некаторыя іншыя іх таварышы.

У гэтыя ж гады хораша і моцна гучалі галасы А. Русецкага, М. Аўрамчыка, А. Пысіна, якія выйшлі ў першыя рады нашай паэзіі. Гэта цяпер, бясспрэчна,— сталыя, своеасаблівыя паэты, якія сур'ёзна думаюць над сённяшнім нашым жыццём і багата разумнага гавораць людзям.

Наогул, наша паэзія многа думае пра сённяшні дзень. Аб гэтым могуць сведчыць самыя апошнія цыклы паэтычных твораў М. Танка, П. Броўкі, М. Лужаніна, К. Кірэенкі, А. Бялевіча, М. Калачынскага, П. Макаля, Е. Лось, А. Лойкі, апублікаваныя ў кнігах і часопісах.

Наша нязменная трывога — драматургія. На сцэнах тэатраў з поспехам ідуць п'есы А. Маўзона, А. Макаёнка, К. Губарэвіча, «Выклік багам» А. Дзялендзіка. П'еса А. Дзялендзіка, якая з'яўляецца фактычна яго дэбютам у тэатры, шчасліва заваявала шырокае, усесаюзнае прызнанне. Нямала зрабілі ў дакументальным кіно А. Вялюгін, у мастацкай кінематаграфіі А. Куляшоў і М. Лужанін. У непрыкметнай опернай драматургіі не першы год працуе А. Бачыла. Усё ж стан драматургіі ні ў якім разе не можа нас задаволіць, стан

гэты, трэба сказаць, проста крытычны. Калі п'ес для тэатра мала, то драматургіі для тэлебачання — наогул няма. Мы павінны неадкладна і сур'ёзна падумаць над тым — што рабіць? Як змяніць такое адставанне драматургіі?

Вы ведаеце, якую вялікую ўвагу наша партыя і наш урад надае развіццю дзіцячай літаратуры. Тут у нас добра працуюць А. Якімовіч, В. Вітка, В. Хомчанка, Э. Агняцвет, В. Вольскі, А. Пальчэўскі і многія іншыя паэты і празаікі. І ўсё ж тут не першы год адчуваецца ўжо, можна сказаць, хранічны голад на цікавыя, карысныя кнігі.

Ёсць што рабіць і нашай крытыцы. Тут галоўнае, што належыць зрабіць, я лічу, у тым, каб удасканаліць палітычныя і мастацкія крытэрыі пры вызначэнні шляхоў развіцця літаратуры, яе асобных жанравых і тэматычных плыняў, асаблівасцей працы асобных пісьменнікаў, характару канфліктаў і праблем, ідэйнай і мастацкай вартасці асобных твораў. Не можам сказаць, што ўсё у гэтых адносінах у крытыцы добра. Але якія ні значныя нашы патрабаванні да сённяшняй крытыкі, мы не можам заплюшчваць вочы на тое, што яна нямала зрабіла. Варта адзначыць артыкулы і кнігі Р. Бярозкіна, А. Адамовіча, Р. Шкрабы, У. Юрэвіча, Ф. Куляшова, В. Каваленкі, Ю. Пшыркова, У. Калесніка, Дз. Бугаёва. Наш добры набытак у галіне літаратуразнаўства — такія капітальныя работы, як кніга «Праблемы сучаснай беларускай прозы», напісаная П. Дзюбайлам, В. Жураўлёвым і М. Луферавым, і «Гісторыя беларускай літаратуры», у 4 тамах. «Гісторыя» — першая за ўсю нашу дзейнасць такая падрабязная, сістэматызаваная, прадуманая карціна развіцця літаратуры заслугоўвае слова шчырай нашай удзячнасці калектыву Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР. Немалую і важную работу зрабілі нашы таварышы — супрацоўнікі Інстытута літаратуры!

Як своеасаблівую і цікавую з'яву можна згадаць дзве кнігі аўтабіяграфій пісьменнікаў — «Пяцьдзесят чатыры дарогі» і «Пра час і пра сябе», якія многім абавязаны клопату і цярплівасці Я. Казекі.

Усяго некалькі дзён назад адбылася вельмі значная падзея ў нашым культурным жыцці — выйшаў першы том Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Энцыклапедыя выходзіць, як вы ведаеце, пад кіраўніцтвам

П. У. Броўкі, у рабоце яе рэдакцыйі штодзённа ўдзельнічаюць нашы таварышы Я. Казека і Я. Скрыган. Артыкулы пра літаратуру пішуць нашы крытыкі і літаратуразнаўцы. Хочацца падзякаваць ім усім за тое, што яны робяць, і пажадаць, каб работу сваю яны рабілі заўсёды на энцыклапедычным узроўні.

Многія паэты і празаікі багата сіл і часу аддаюць такой важнай дзейнасці, як азнаямленне беларускага чытача з лепшымі творамі нашых сяброў з братніх рэспублік, з блізкіх і далёкіх зарубежных краін. Дзякуючы гэтым таварышам, у беларускай літаратуры, як свае, як блізкія нашым сэрцам, жывуць думкі, пачуцці, галасы пісьменнікаў многіх народаў. Асабліва плённа працуюць у галіне перакладаў А. Куляшоў, М. Танк, М. Лужанін, Н. Гілевіч, Р. Барадулін, Я. Брыль, Н. Кіслік, Я. Семяжон. А. Куляшоў выдатна пераклаў некалькі буйных твораў паэзіі. Хочацца вітаць тую шчырую, сталую творчую дружбу, якая звязвае Н. Гілевіча з балгарскай паэзіяй, вялікую і розную перакладчыцкую дзейнасць майстра ў гэтай галіне літаратуры Я. Семяжона.

Пашырэнне і ўзмацненне інтэрнацыянальных сувязей нашай літаратуры — добрая рыса нашага цяперашняга пісьменніцкага жыцця.

Азіраючыся назад, мы не можам не бачыць, як багата зроблена. Але мы не можам не бачыць і таго, што зрабілі мы далёка не ўсё, і не ўсё з таго, што зрабілі, мы здолелі зрабіць так, як трэба. Па самаму вялікаму рахунку.

Пра гэта нельга забываць нават у дні заслужанага юбілейнага гонару. Будзем помніць параду У. І. Леніна: «Лепшы спосаб адсвяткаваць гадавіну вялікай рэвалюцыі — гэта засярodзіць увагу на нявырашаных задачах яе».

Мы багата чаго не вырашылі. У нас багата што трэба вырашаць!

Перш за ўсё трэба добра пісаць. Даваць народу, як гавораць у народнай гаспадарцы, добраякасную прадукцыю. Мы ж, трэба сказаць, нямала яшчэ даём твораў невысокага гатунку. На жаль, папера ўсё аднолькава трывае. І мы трываем, і рэдактары выдавецтваў.

Усё ж мы, відаць, часам забываемся, што чытач цяпер не той, які быў 20—30 гадоў назад. Што ён патрабуе ад пісьменніка размовы на самым высокім узроўні.

І размовы адкрытай, сумленнай, прынцыповай. Сур'ёзнай размовы. А нашым кнігам нярэдка не хапае праўдзівасці і значнасці, паўнаты думкі. Нямала яшчэ выходзіць кніг, якія не хвалююць людзей, не даходзяць да сэрца. І гэта вельмі дрэнна.

А яшчэ дрэнна — што жыццё ў нашай літаратуры адбіта толькі некаторымі сваімі фарбамі і праявамі. Ёсць цэлыя велізарныя вобласці народнага жыцця, у якія мы ледзь-ледзь зазірнулі.

Вы глядзіце, якія надзвычайныя змены адбыліся навокал. У вёсцы, у гарадах, у інстытутах, у арміі. Гэтыя змены выклікалі вялікія змены ў людзях, выклікалі новыя праблемы, новыя пытанні, новыя канфлікты. Што мы з гэтага змаглі ўлавіць, глыбока асэнсаваць, даць на роздум людзей, каб навучыць іх бачыць, разумець людзей?

Таварышы, мастацтва — рэч, як вядома, упартая. Кожны, хто паспрабаваў салодка-горкага хлеба мастацтва, ведае, што ў мастацтве хацець і ўмець — рэчы зусім розныя.

Як ні шкада, жорсткая парада Л. Талстога: «Калі можаш не пісаць — не пішы» — не страціла свайго значэння. Кожны вопытны літаратар ведае, што добрую кнігу можна напісаць толькі тады, калі ты сэрцам гатовы да яе, калі яна паліць тваё сэрца, а не тады, калі рашыў нешта «адлюстраваць».

Думаецца, нельга не падтрымліваць права кожнага пісьменніка выбіраць тое, што яго хвалюе, што ён ведае,— калі толькі гэта мае значэнне для літаратуры, для народа. Трэба падтрымліваць усе значныя творы, над якімі працуюць таварышы, і жадаць з поспехам завяршыць іх. Трэба бачыць шырока наша літаратурнае поле. Але ёсць і другі бок справы. Ёсць жыццё, якое ідзе і якое дыктуе свае права, і ёсць чытач, які таксама патрабуе кніг пра новае.

А мы гэтых кніг даём вельмі мала. Тут мы можам адзначыць як сур'ёзную слабасць не аднаго, не двух з нас, а ўсёй літаратуры — трывожнае адставанне ад патрэб жыцця. Мы можам, думаю, сказаць, што ў літаратуры ў нас усё больш выяўляецца нейкая кансерватыўнасць некаторых пісьменнікаў што да жывога, бя-

гучага жыцця. І калі шукаем прычыну такому становішчу, то нічога іншага не можам знайсці, як тое, што мы жывём часам нібы ў баку ад жыццёвага неспакою, ад імклівай яго плыні. Можам, відаць, гаварыць пра пэўную эмацыянальную стрыманасць, нават абыякавасць асобных таварышаў да гарачага подыху жыцця. Так, пісьменнік не павінен пісаць, калі сэрца яго не хвалюецца. Але трэба, каб сэрца хвалявалася, каб яно было поўна гарачага неспакою, нецярплівага імкнення!

Для гэтага трэба быць больш чулым да жыцця. Быць у ім, у самым яго віры. Сярод тых, хто робіць яго — калгаснікаў, рабочых, інжынераў, салдат. А мы гадамі сядзім толькі ў кабінетах рэдактараў і апарата Саюза пісьменнікаў. Некаторыя з нас калі і выязджаюць куды-небудзь, дык часцей па камандзіроўцы, з аплатай, і ненадоўга. І што горка, так цяжка выбіраюцца не толькі старэйшыя, з хваробамі, а і маладыя яшчэ, якім сядзець доўга проста грэх.

Раманы пішуцца гадамі. І няхай пішуцца — яны патрэбны як завяршэнне вялікага роздуму над жыццём. Але чаму мы так рэдка, каб паспець па гарачых слядах жыцця, карыстаемся магчымасцямі нарыса, публіцыстыкі. Няёмка казаць, але ў нас ёсць багата ўжо немаладых пісьменнікаў, якія за дзесяткі гадоў ні разу не выступілі з публіцыстычным артыкулам у газеце! Гэта мімаволі наводзіць на думку, што ў нас ёсць мастакі, якія лічаць ніжэй сваёй годнасці апускацца да нарыса, да публіцыстыкі!

Думаю, што гэта дае падставу гаварыць і аб пэўнай грамадзянскай інертнасці некаторых з нас. Асобна хачу адзначыць недаравальную пасіўнасць нашу ў ідэалагічнай барацьбе, якая ідзе ў міжнародным плане. У нас зусім няма п'ес, мастацкіх твораў прозы, якія б вялі адкрыты бой з сіламі вайны, з палітычнымі аванturystамі, з мілітарыстамі розных гатункаў, што трымаюць свет на мяжы атамнай катастрофы. Вялікая рэдкасць у нас артыкул на міжнародную тэму!

Як бачым, таварышы, намі зроблена нямала. Але нямала ў нас і не зробленага. Вялікія задачы перад намі. Багата працы чакае нас!

Наша літаратура прайшла ўжо немалы шлях. Шлях яе — гэта шлях многіх і многіх пісьменнікаў, людзей рознага лёсу, розных імкненняў і дасягненняў.

Пройдзены шлях меў розныя этапы, кожны з гэтых этапаў меў свае, асаблівыя жыццёвыя акалічнасці, свае важнейшыя клопаты. На кожным этапе ў літаратуру ішлі новыя людзі, далучаліся да папярэдніх, улівалі ў літаратуру свежыя сілы, нязнаныя раней настроі і надзеі.

Пакаленне за пакаленнем ішло ў літаратуру, тварыла яе, выконвала свой абавязак перад жыццём і перад народам.

Многа рознага ў людзей і ў пакаленняў, што тварылі нашу літаратуру, і многа —*агульнага*. Усе мы, і кожны паасобку, і ўсе пакаленні разам, з'яднаны адным імкненнем — служыць народу, яго жыццю і яго шчасцю.

Пакаленне за пакаленнем ішлі і будуць ісці, каб жыла, тварыла сваю вялікую справу беларуская савецкая літаратура. Літаратура камуністычная, літаратура ленінская.

*1969*

# АБАВЯЗАК ПЕРАД ЧАСАМ

Мабыць, з той пары, як існуе мастацтва, існуе і складаная дыялектыка ўзаемаадносін мастака і часу.

Мастаку заўсёды трэба было ўбачыць, зразумець, а зразумеўшы, прывесці свае назіранні ў парадак, стварыць асэнсаваную карціну, стварыць мастацкі твор.

Неадпаведнасць паміж рухам жыцця і мастацтва, якая, пэўна, не вельмі мучыла нашых далёкіх папярэднікаў, з цягам часу вырастала ва ўсё больш цяжкую праблему.

На самай справе, характар творчасці — з «тэхнічнага» боку — застаўся амаль нязменны, а час — усё паскараў свой подступ, зусім не лічачыся з магчымасцямі мастака. Свет жыве цяпер у надзвычай імклівым руху, але мастак не можа сказаць, як герой Гётэ: «Остановись, мгновенье...»

У гэтым адна з самых вялікіх складанасцей і важных асаблівасцей мастацтва: паказаць свет, чалавека ў руху, у беспераапынных зменах, абнаўленні.

Прыспешваючы крок, час не пашкадаваў мастацтва і ў іншых адносінах. Адвечны аб'ект увагі мастака — жыццё чалавека — не толькі не стала прасцейшым, а наадварот, ставіць даследчыка перад новымі, усё больш разнастайнымі і складанымі з'явамі.

Час, пачаты Кастрычнікам 1917 года, увёў у жыццё Расіі такія змены, што і цяпер, пасля 50 год працы многіх і таленавітых мастакоў, мы не можам сказаць, што ўсё ўжо зроблена, каб увасобіць у мастацкіх творах гэты вялікі рух нашага народа.

І цяпер мастакі, углядваючыся ў падзеі, якія ўжо сталі гісторыяй, адкрываюць у іх фарбы і адценні, якія дапаўняюць вялікую карціну, паглыбляюць разуменне таго, што адбывалася і што, змяняючыся, удасканальваючыся, стала часткай нашай сённяшняй рэчаіснасці.

Вялікі і складаны шлях за намі, вялікі і складаны свет людзей, якія прайшлі па гэтаму шляху. Гэта асабліва выразна відаць у дні, калі мы ідзём да ленінскага юбілею.

Свет сённяшні аказаўся таксама не такім простым, як думалася здалёк. Ён прынёс свае складанасці, свае праблемы...

Ёсць яшчэ адна істотная асаблівасць ва ўзаемаадносінах мастака і часу.

Свет, які раней для звычайнага чалавека замыкаўся калі не межамі двара, вуліцы, дык межамі сяла, горада, урываецца сёння амаль у кожную кватэру як свет усёй краіны, усёй планеты. Газеты, радыё, тэлевізар кожны дзень уводзяць чалавека ў шматаблічны і шматклопатны вялізны свет, які не абмяжоўваецца прасцягамі ад Брэста да Уладзівастока, але і распасціраецца далёка за іх межы. Гора і мужнасць В'етнама, трывога і барацьба арабаў Блізкага Усходу, выбухі гневу працоўных людзей Лацінскай Амерыкі — усё гэта трывожнымі хвалямі прыбівае ў нашы хаты сучасная інфармацыя. Увесь свет кожны дзень стукаецца ў сэрца кожнага. Кожны становіцца саўдзельнікам або сведкам усяго, што адбываецца ў свеце. Сэрца кожнага павінна ўмяшчаць свет.

Увесь свет уваходзіць у кола інтарэсаў сучаснага пісьменніка. Як і кожны схільны да разважанняў чалавек, пісьменнік непазбежна ўцягваецца ў цэнтр шматлікіх вострых праблем сучаснасці — палітычных, навуковых, эканамічных, што датычаць як жыцця роднай краіны, так і лёсу другіх краін, кантынентаў. Сярод усіх праблем, што трывожаць пісьменніка, асаблівае значэнне набывае факт усеагульнай ідэалагічнай барацьбы, якая ва ўсіх сферах чалавечай дзейнасці вядзецца паміж капіталізмам і сіламі камунізма.

Сродкі сучаснай інфармацыі робяць гэтую шматскладаную вялікую бітву адкрытым полем. Пісьменнік, не абыякавы да лёсу свету, непазбежна ўцягваецца ў складаны свет барацьбы, гарачай і халоднай. Ідэалагічная барацьба, якую вядуць праціўнікі камунізма па ўсіх напрамках, думаецца, ніколі не вялася так вытанчана, з выкарыстаннем самых разнастайных сродкаў уздзеяння на чалавека, тактычных, псіхалагічных і ўсіх іншых. Крывадушша, ханжаства ніколі, відаць, не

выкарыстоўваліся так шырока для прыкрыцця сапраўднага сэнсу дзеянняў. Забойцы в'етнамскіх дзяцей і навейшыя самых сучасных мадэлей каланізатары найхітрэйшым чынам навучыліся прыкрываць самыя агідныя ўчынкі высакароднымі фразамі. Мы сталі сведкамі таго, як сродкі інфармацыі займаюцца, па сутнасці, дэзінфармацыяй.

Сёння пісьменнік, якім бы тэмам ні былі прысвечаны яго паэмы і раманы, непазбежна павінен станавіцца грамадскім, палітычным дзеячам.

Як ніколі важнае значэнне набывае традыцыйнае — «гражданином быть обязан». Усеагульны, напружаны характар ідэалагічнай барацьбы, якая ідзе на ўсіх кантынентах зямлі, патрабуе ад пісьменніка пачуцця асаблівай адказнасці за сваю дзейнасць.

Калі сур'ёзная, сапраўдная літаратура заўсёды глыбока даследавала вопыт гісторыі і рух сучаснасці, дык цяпер гэты абавязак яе асабліва важны. Вельмі сур'ёзны наш час, каб пісьменнік з чыстым сумленнем мог падмяняць глыбокае і праўдзівае даследаванне павярхоўнымі, паспешлівымі замалёўкамі. У той велізарнай рабоце, якую вядзе наш народ і партыя, пісьменнік проста не мае права выбіраць шляхі «протоптанней и легше», абмінаць цяжкасці і складанасці жыцця.

Лепшая частка савецкай літаратуры, што стварыла трывалыя каштоўнасці сусветнага значэння, заўсёды моцная была праўдай. Праўдай жыцця, што абпальвае сэрца, ужо не адзін дзесятак гадоў заваёўваюць чытача фадзееўскі «Разгром», вялікі шолахаўскі «Ціхі Дон», многія іншыя творы савецкай літаратуры. Мы можам сказаць, што ў гэтых адносінах назапасіўся значны вопыт, створана ўжо надзейная традыцыя.

Вопыт савецкай літаратуры вучыць: калі ў мастацкім творы зрушаны жыццёвыя калізіі і фарбы, гэта прыносіць непапраўную шкоду твору, якімі б ні былі яго чыста мастацкія вартасці. Мастацкі твор губіць як згушчэнне рэальных фарбаў, ачарненне, так і святочнае, вясёлкавае размалёўванне жыцця. Калі сутнасць ачарнення зразумелая, дык святочная літаратура каго-нікага можа ўвесці ў зман: яна спакушае весялосцю колераў, лагоднай, супакойлівай накіраванасцю.

Знешне прыстойная, гэтая літаратура, на мой погляд, нежыццяздольная, перш за ўсё, таму, што яна не адказвае з дастатковай глыбінёй і пераканаўчасцю

на важныя пытанні. Калі пісьменнік абмінае складанасці жыцця, ён пакідае чытача ў адзіноце якраз там, дзе чытач чакае разумнага і глыбокага слова. Ён, па сутнасці, пакідае пытанні чытача без адказу. Але ж калі і ёсць сэнс весці размову з чытачом, дык перш за ўсё для таго, каб дапамагчы яму разабрацца ў складаных з'явах. У лёгкіх ён сам разбярэцца.

Той факт, што нашы праціўнікі, антыкамуністы ўсіх масцей, выкарыстоўваючы ўсе магчымасці сучасных сродкаў інфармацыі, спрабуюць уплываць на нашых людзей, выстаўляючы нашы цяжкасці і нашы складанасці, сам па сабе абавязвае савецкага пісьменніка ўступаць у бой, даваць тым жа фактам аб'ектыўнае, наша тлумачэнне.

Тут трэба сказаць, што чым больш сур'ёзная задума і канфлікты твора, тым важней дакладнасць аўтарскіх ацэнак, партыйная прынцыповасць у поглядах аўтара.

Усеагульны характар сучаснай ідэалагічнай барацьбы з надзвычайнай сур'ёзнасцю ставіць пытанне пра тое, як уплывае літаратура на чытача. Тут ёсць дзве асаблівасці: характар уплыву ў сэнсе ідэалагічнай накіраванасці і ў сэнсе даходлівасці, пераканаўчасці.

Першая асаблівасць вельмі ясная: ва ўсім, што датычыць ідэалагічнай накіраванасці твора, наша пазіцыя, вядома, павінна быць заўсёды партыйнай. Але ж для нас не можа быць абыякавым, асабліва ў сучасных абставінах, наколькі тое, пра што гаворыць пісьменнік, даходзіць да чытача, пераконвае яго. Таму што кніга, якой бы добрай ні была яе ідэя, толькі тады можа прынесці карысць, калі яна хвалюе, захапляе чытача. Тады, як выклікае ў яго давер'е.

Калі літаратура заўсёды змагалася за давер'е чытача, дык цяпер, калі ў сусветным маштабе па сутнасці ідзе барацьба за сэрцы, за душы людзей, гэтая адвечная праблема літаратуры становіцца асабліва вострай. Барацьба за давер'е, за сэрца чытача — гэта мэта, пагарджаць якой не мае права ні адзін пісьменнік.

Узаемаадносіны чытача і пісьменніка — у цэлым шырокая, са шматлікімі аспектамі тэма. Мне тут хочацца закрануць яшчэ адзін, на мой погляд, вельмі сур'ёзны аспект. Ужо звыкла адзначаючы тое, што разам з імклівым ростам нашай краіны растуць і матэрыяльныя патрэбы нашых людзей, мы, мне здаецца, мала ўдзяляем увагі таму, як выраслі за гэты час іх

мысліцельныя, інтэлектуальныя патрэбы. Сапраўдная рэвалюцыя ў галіне асветы, што адбылася ў нашай краіне, высока ўзняла інтэлектуальны ўзровень велізарнай масы людзей і іх, калі гаварыць пра мастацтва, запатрабаванні да мастацтва, да літаратуры. Сённяшні ўзровень савецкага чытача патрабуе ад пісьменніка размовы на высокім узроўні, патрабуе ад твора глыбіні, сур'ёзнага, складанага даследавання, доказу фактамі.

Думаецца, няма неабходнасці даказваць, што сённяшні дапытлівы чытач больш чым калі-небудзь раней не церпіць у творах пісьменніка азбучных ісцін, рыторыкі, пустапарожняга звону. Ён патрабуе ад мастацкага твора сур'ёзнага аналізу, дзелавітасці, пераканаўчасці.

Ён патрабуе ад твора мастацтва высокага прафесійнага майстэрства, высокай мастацкасці.

У сувязі з гэтым мне хочацца выказаць яшчэ адно меркаванне. Ёсць пакуль у нашым асяроддзі, у выдавецтвах, такое становішча, калі твору на патрэбную тэму робіцца спагадлівая скідка. Лічыцца, быццам такі твор, нягледзячы на свае мастацкія недахопы, будзе карысны, паколькі тэма карысная.

Мне здаецца, гэта памылковае і небяспечнае меркаванне. Яно небяспечнае не толькі таму, што прачытаўшы адну, другую дрэнную кнігу, чытач ужо з недавер'ем бярэцца за трэцюю, а можа і зусім не ўзяцца. Небяспека дрэнных кніг у тым, што, выклічаючы ў чытача недавер'е, насцярожанасць, яны ствараюць адваротны эфект, чытач нібы пачынае спрачацца з аўтарам. З недавер'ем адносіцца не толькі да самой кнігі, але і да думак, якія аўтар сцвярджае.

Гэта вельмі сур'ёзна. І гэта, мне здаецца, дае права гаварыць пра тое, што майстэрства, мастацкасць у творы мастацтва не з'яўляецца катэгорыяй толькі эстэтычнай. Што разуменне партыйнасці ў адносінах да твора мастацтва не можа быць абыякавым да ўзроўню мастацкасці.

Чым больш сур'ёзна тое, пра што піша мастак, тым вышэйшая яго адказнасць за мастацкі ўзровень яго работы. Ёсць тэмы, у якіх рамесніцтва асабліва нецярпімае. Да іх адносіцца, напрыклад, ленінская тэма, адна з самых высакародных і важных тэм нашых дзён.

Важная і адказная роля літаратуры ў сучасным свеце. Цяжкая і адказная роля савецкага пісьменніка. Яна патрабуе ад пісьменніка сур'ёзных адносін да свайго абавязку перад Радзімай і народам, самаахвярнай працы, напружання ўсіх разумовых, духоўных сіл.

Вялікія заслугі ў савецкай літаратуры, што паўвека сумленна служыць народу і партыі. Хочацца асобна сказаць пра значную работу, якую робяць многія пісьменнікі ў рэдакцыях, у выдавецтвах, у розных грамадскіх арганізацыях. Штодзённа адбываюцца дзесяткі непасрэдных сустрэч пісьменнікаў з чытачамі ў самых розных кутках краіны. Гэтая дзейнасць, якой аддадзена многа сіл і часу, істотная частка нашага пісьменніцкага жыцця.

Гэта работа патрэбна, неабходна. Яна выклікана самім часам, неспакойным, патрабавальным нашым жыццём. Заканамерна, што нямала творчай энергіі пісьменнікаў ідзе на яе. Але іншы раз усё ж прыходзіцца бачыць, як некаторыя, і прытым буйныя, пісьменнікі занадта многа займаюцца дробнай адміністрацыйнай дзейнасцю, трацяць многа часу на малакарысных пасяджэннях. Засядацельская мітусня марнуе сілы і час многіх літаратараў, яна стала проста хваробай у некаторых пісьменніцкіх арганізацыях. Яшчэ не-не ды і пачуеш ці адчуеш такое, быццам работа над кнігай — прыватная справа пісьменніка.

Нярэдка ствараецца такое становішча, што даводзіцца напамінаць старыя ісціны: трэба берагчы сілы і час мастака, разумна выкарыстоўваць іх. Якія яны ні важныя, выступленні і пасяджэнні, галоўны грамадзянскі абавязак пісьменніка ўсё ж — пісаць. Добрая кніга звязвае пісьменніка адразу з сотнямі тысяч, з мільёнамі чытачоў, становіцца па сутнасці важнай грамадскай падзеяй.

Будзем памятаць пра гэты абавязак перад народам і Радзімай. І будзем працаваць, каб выканаць яго сумленна, з годнасцю, на ўзроўні патрабаванняў часу.

*1969*

# МЫ — ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТЫ

Таварышы, панове!

У канцы 1919 года, 28 снежня, У. І. Ленін звярнуўся з «Пісьмом да рабочых і сялян Украіны ў сувязі з перамогамі над Дзянікіным».

У гэтым пісьме ёсць вельмі важныя радкі, якія ў надзвычай сціслым, канцэнтраваным выглядзе вызначаюць погляды кіраўніка нашай першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы на палітыку нашай партыі і дзяржавы ў галіне ўзаемаадносін паміж рознымі народамі, вызначаюць аснову гэтых узаемаадносін.

Вось гэтыя словы:

«Мы — праціўнікі нацыянальнай варожасці, нацыянальнай розні, нацыянальнай адасобленасці. Мы — міжнароднікі, інтэрнацыяналісты...

Мы хочам добраахвотнага саюза нацый,— такога саюза, які не дапускаў бы ніякага насілля адной нацыі над другой,— такога саюза, які быў бы заснаваны на паўнейшым davep'і, на ясным усведамленні брацкага адзінства, на зусім добраахвотнай згодзе. Такі саюз нельга ажыццявіць адразу; да яго трэба дапрацавацца з найвялікшай цярплівасцю і асцярожнасцю, каб не сапсаваць справу, каб не выклікаць недавер'я, каб даць зжыць недавер'е, пакінутае вякамі гнёту памешчыкаў і капіталістаў, прыватнай уласнасці і варожасці з-за яе падзелаў і перадзелаў».

Гэтыя словы, з дня напісання якіх мінула ўжо паўстагоддзя, і сёння ў сваім нязменным значэнні выказваюць сутнасць дзейнасці нашай партыі і нашай дзяржавы ва ўзаемаадносінах паміж народамі.

Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — гэта рэальнае ўвасабленне ленінскіх прынцыпаў як сапраўды інтэрнацыяналісцкіх, пралетарскіх, увасабленне жыццяздольнасці і жыццетрываласці гэтых прынцыпаў.

Больш чым пяцідзесяцігадовая гісторыя існавання савецкіх рэспублік і амаль пяцідзесяцігадовая гісторыя іх сумеснай дзейнасці ў адзінай дзяржаве новага тыпу — Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — гэта гісторыя стварэння, удасканалення і ўмацавання найскладанейшага дзяржаўнага арганізма, найскладанейшай многанацыянальнай дзяржавы.

Пра тое, якая неймаверна цяжкая, складаная была работа па стварэнню такой дзяржавы, можна меркаваць хоць бы па тым, што стваралася яна на асновах, датуль не выпрабаваных, новых, што ў яе ўваходзіла вялікае мноства народаў, розных па ўкладу, па традыцыях, што спадчына, якая выпала на яе долю, была надзвычай цяжкая. У. І. Ленін не выпадкова звяртаў асаблівую ўвагу на недавер'е і варожасць як вельмі небяспечныя рысы ў спадчыне мінулага.

Вялікія цяжкасці ў рабоце партыі, якая ажыццяўляла ленінскія прынцыпы братэрства народаў у стварэнні нашай дзяржавы, бясспрэчна, давала тое, што сацыялістычная дзяржава наша будавалася ў краіне, якая далёка адставала ад індустрыяльна развітых дзяржаў, была ў палоне адвечных забабонаў. Ці трэба даказваць, што гэтая векавечная адсталасць і цяжар забабонаў асабліва востра адчуваліся на ўскраінах былой царскай Расіі, якая ніколі не песціла ўвагай «іншародцаў».

Сярод іншых былых ускраін Расіі з іх адсталасцю, стракатасцю і хаосам эканомікі Беларусь у першыя гады пасля рэвалюцыі вылучалася, бадай, тым, што гаспадарка яе была асабліва пакалечана, разбурана войнамі, якія пракаціліся па яе шматпакутнай зямлі. Сусветная вайна, кайзераўска-нямецкая акупацыя, белапольская акупацыя — шэсць гадоў вайны — ушчэнт падарвалі яе.

Нам — не першы раз у нашай гісторыі — даводзілася пачынаць будаваць жыццё, па сутнасці, на руінах і папялішчах. Такім чынам, пры стварэнні нашай савецкай рэспублікі Беларусі былі і свае, асаблівыя, так сказаць, нацыянальныя цяжкасці.

Аднак гэтае асабліва бядотнае становішча нашай рэспублікі дазволіла нам з асаблівай удзячнасцю адчуць высакароднасць ленінскіх прынцыпаў раўнапраўя, інтэрнацыянальнай салідарнасці народаў. Беларусь была адной з рэспублік, якая на працягу мно-

гіх год адчувала асаблівую падтрымку з боку ўрада Саюза ССР. Гэта дапамагло ёй паспяхова залячыць раны трох войнаў і хутка пайсці ўперад.

На прыкладзе развіцця Беларусі можна было ўбачыць ленінскія прынцыпы інтэрнацыяналізму на практыцы, у дзеянні.

Значэнне гэтых прынцыпаў братэрства, узаемнай падтрымкі народаў Савецкага Саюза стала яшчэ больш адчувальнае ў часіну небывалай вайны, якая абрынулася на нашу краіну з нападам нямецка-фашысцкіх войск. Мы, беларусы, страцілі ў гэтай вайне больш двух мільёнаў — кожнага чацвёртага чалавека,— мы перажылі страшэнныя беды, панеслі велізарныя матэрыяльныя страты, але мы маглі б страціць усё: стаяла па сутнасці пытанне аб жыцці і смерці ўсяго народа. І калі мы, нягледзячы на вялікую сілу злоснага, небяспечнага ворага, ўсё ж ачысцілі сваю зямлю, вярнулі сабе радасць жыцця, то ў гэтым таксама жывое праяўленне вялікай, несакрушальнай сілы, якою з'яўляецца братэрства савецкіх народаў, наша дзяржава — Савецкі Саюз, заснаваны і ўмацаваны на ленінскіх прынцыпах дружбы народаў.

Нельга прыніжаць значэнне працоўнага подзвігу самога беларускага народа, здзейсненага ім у нялёгкія пасляваенныя гады. Гэтаму подзвігу, перш за ўсё, абавязаны цяперашнім сваім абліччам і дабрабытам адбудаваныя гарады і сёлы Беларусі, якія разрасліся і ва ўсім пераўзышлі даваенныя межы. Але несправядліва было б забыць і пра тую вялікую братэрскую дапамогу, якая многія гады садзейнічала нам у нашым адраджэнні, у нашым росце і якая ішла з Расіі, з Узбекістана, з Грузіі, з усіх савецкіх рэспублік і абласцей.

І калі мы, сыны і жыхары той зямлі, якая асабліва востра помніць, што такое вайна, і якая з прычыны гэтага добра адчувае, які трывожны і небяспечны час вартуе наш лёс, калі мы, нягледзячы ні на што, на зямлі, якая бачыла многа гора, жывём цяпер у звычайных чалавечых клопатах, радуемся і спадзяёмся, то ў гэтым — таксама ўжо звыклае — адчуванне сілы нашага вялікага савецкага братэрства, нашага інтэрнацыяналізму.

Істотным у гэтым адчуванні лічым тое, што наш спакой і годнасць падмацаваны даўно ўжо і тым, што мы, што б ні здарылася, не адзінокія, што з намі наро-

ды сацыялістычных краін Еўропы і Азіі, што з намі мільёны сумленных людзей, якія хочуць жыць у спакоі і дружбе.

Работнік культуры Беларусі, я хацеў бы сказаць некалькі слоў пра тое, як прынцыпы ленінскай нацыянальнай палітыкі адбіліся на развіцці культуры беларускага народа.

У гісторыі беларускай культуры ёсць такія выдатныя факты, як дзейнасць нашага першага кнігадрукара Францыска Скарыны, які яшчэ ў 1517—1520 гадах пачаў друкаваць кнігі на беларускай мове. Аднак бліскучы гэты пачатак не атрымаў належнага развіцця: у наступныя стагоддзі беларуская культура па многіх прычынах усё больш прыходзіла ў заняпад. Да сярэдзіны XIX стагоддзя творчыя імкненні беларускага народа маглі выказваць сябе толькі ў надзвычай багатым фальклоры ды ў ананімных творах літаратурнага паходжання, што перадаваліся з вуснаў у вусны.

Тут хочацца сказаць пра тое, што беларуская зямля ніколі не была бедная на таленты. Як доказ гэтага можна было б прывесці многія факты. Спашлёмся на некаторыя, асабліва цікавыя. У ёй, у гэтай зямлі, напрыклад, карэнні радаслоўнай Дастаеўскага — памяць пра род якога захоўвае дасюль вёска Дастоева — непадалёку ад палескага горада Пінска. Гэтая зямля дала сусветнай культуры паэта Адама Міцкевіча і кампазітара Станіслава Манюшку. Цікава і тое, што з зямлёй гэтай звязаны праз дзеда свайго — рэвалюцыянера-эмігранта — цудоўны французскі паэт Апалінэр.

Але сама беларуская культура толькі ў канцы XIX стагоддзя і ў пачатку XX стагоддзя пачала па-сапраўднаму заяўляць пра сябе дзейнасцю вялікіх паэтаў, дастойных сыноў народа — Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што гэтае станаўленне новай беларускай літаратуры адбывалася ў абставінах цяжкага нацыянальнага прыгнёту, адкрытых ганенняў з боку царскага ўрада. Да першай сусветнай вайны рэгулярна выходзіла толькі адна беларуская газета — «Наша ніва».

Кастрычніцкая рэвалюцыя ўпершыню стварыла шырокія магчымасці для развіцця беларускай культу-

ры. Дзякуючы пастаяннай і ўсебаковай дапамозе Савецкага ўрада стала з надзвычайнай хуткасцю набіраць сілы літаратура. Былі створаны нацыянальныя тэатры, быў адкрыты па пастанове, падпісанай Леніным, Беларускі дзяржаўны універсітэт. Быў створаны Інстытут беларускай культуры, пазней, 1 студзеня 1929 года, пераўтвораны ў Акадэмію навук Беларусі, у якой цяпер у 30 навуковых інстытутах працуе каля 7 тысяч чалавек, у тым ліку 90 дактароў і 720 кандыдатаў навук. Работа многіх нашых вучоных вядзецца на ўзроўні самых высокіх дасягненняў сучаснай навукі.

Можна было б прывесці многа доказаў таго, які высокі сёння ў былой ускраіне царскай Расіі — Беларусі — узровень культуры і гаспадаркі. Але ў гэтым, бадай, няма неабходнасці: дзесяткі краін свету ведаюць аўтамабілі Мінскага аўтазавода, трактары «Беларусь», электронна-вылічальныя машыны «Мінск». Беларусь сёння выйшла ў лік перадавых індустрыяльных краін свету. Вось яно — ажыццяўленне мары Леніна на прыкладзе адной з савецкіх рэспублік.

«Важнейшая крыніца ўсеперамагаючай сілы ленінізма,— адзначаецца ў Тэзісах ЦК КПСС «Да стагоддзя з дня нараджэння У. І Леніна»,— у тым, што ў самой яго сутнасці закладзены пралетарскі інтэрнацыяналізм».

Заўсёды — у дні мірнага жыцця і ў дні ваенных выпрабаванняў — мы адчувалі падтрымку мільёнаў сяброў ва ўсім свеце.

Мы ніколі не забудзем, з якім гераізмам змагаліся за Савецкую Расію на палях грамадзянскай вайны гераічныя латышскія стралкі, венгерскія і югаслаўскія салдаты, якія ў рускім палоне хутка зразумелі вялікую інтэрнацыянальную сутнасць Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Мы, беларусы, заўсёды з пачуццём удзячнасці будзем памятаць, што ў радах тых, хто абараняў беларускую зямлю ў цяжкім сорак першым годзе, побач з беларусамі, рускімі, узбекамі быў і іспанец — лейтэнант Рубэн Ібаруры. Мы ніколі не забудзем таго, што ў лясах роднага мне беларускага Палесся разам з украінцамі і беларусамі-партызанамі змагаўся і аддаў сваё

жыццё за свабоду нашай зямлі адважны славак Герой Савецкага Саюза Ян Налепка — былы афіцэр ахоўнай дывізіі, якую нямецка-фашысцкае камандаванне перакінула на ўсход для барацьбы з партызанамі. У Мінску гераічна завяршыў свой цяжкі шлях немец Фрыц Шменкель, былы салдат вермахта, якога ўсведамленне інтэрнацыянальнага абавязку зрабіла савецкім разведчыкам. Неба Беларусі помніць рокат баявых самалётаў французскага авіяпалка «Нармандыя-Нёман», што вызваляў беларускую зямлю ў радах Савецкай Арміі ў 1944 годзе. Зямля Беларусі помніць поступ салдат Польскай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі, якія пачалі ад беларускай вёскі Леніна свой шлях на радзіму і ўдзельнічалі ў вызваленні многіх нашых сёл.

Помнячы гэта, мы ганарымся тым, што многія нашы людзі, у тым ліку і беларусы, самаадданна змагаліся ў радах байцоў французскага і італьянскага Супраціўлення, змагаліся за свабоду Польшчы і Югаславіі.

Ад гэтай сваёй асаблівасці мы з братэрскай увагай сочым сёння за ўсім, што адбываецца ў джунглях В'етнама і на голых, трывожных берагах Суэцкага канала. Таму мы гатовы заўсёды працягнуць руку дапамогі тым, хто змагаецца за сваю свабоду, за права жыць і будаваць сваё жыццё па-свойму, а не па ўказцы збоку.

Пачуцці гэтыя для нас дарагія, і мы перадаём іх нашым дзецям, нашай будучыні, адданым дзеячам шматлікіх у Беларусі клубаў інтэрнацыянальнай дружбы.

Мы будзем усё рабіць для таго, каб дружба і братэрства народаў не слабелі, а мацнелі з году ў год. Бо мы заўсёды былі і заўсёды будзем, як пісаў У. І. Ленін у 1919 годзе,— «міжнароднікі, інтэрнацыяналісты».

*1970*

# ЛЕНІНСКІЯ ІДЭІ І ЛІТАРАТУРА

У дні падрыхтоўкі да стогадовага юбілею з дня нараджэння У. І. Леніна рэдакцыя часопіса «Вопросы литературы» звярнулася да шэрагу пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва Савецкага Саюза і сацыялістычных краін, да прагрэсіўных пісьменнікаў свету з пытаннямі аб уплыве ленінізма на савецкае і сусветнае мастацтва XX стагоддзя.

Удакладняючы просьбу, рэдакцыя часопіса прасіла адказаць на тры пытанні:

Як уздзейнічала Кастрычніцкая рэвалюцыя на развіццё савецкага і прагрэсіўнага сусветнага мастацтва?

Якія бакі ленінскага вучэння зрабілі найбольшы ўплыў на культуру, літаратуру XX стагоддзя?

Як дапамагаюць ленінскія працы ў творчай практыцы?

Пытанні, якія прапанавала рэдакцыя, надзвычай шырокія, каб у нямногіх словах можна было адказаць на іх хоць бы з адноснаю паўнатою. Відаць, загадзя трэба пагадзіцца з тым, што найбольш поўны адказ на Вашы пытанні можа даць у цэлым роздум многіх.

Разумеючы, што мае словы будуць толькі часцінкай вялікай размовы на старонках часопіса, я і наважваюся выказаць некалькі думак, якія здаюцца мне асабліва важнымі і блізкімі.

Думаецца, што ўплыў Кастрычніка на развіццё мастацтва шмат у чым вызначыла тое, што вялікая рэвалюцыя народаў Расіі, як ніякая іншая рэвалюцыя да яе, пераканаўча паказала ўсяму свету, якія велізарныя рэвалюцыйныя магчымасці закладзены ў масах, у народах, якая магутная пераўтваральная сіла — народ, што імкнецца да ўсвядомленай мэты, арганіза-

ваны і накіроўваемы моцным перадавым атрадам — партыяй. Кастрычніцкая рэвалюцыя ўдыхнула ў мільёны людзей разуменне таго, што яны, людзі працы, якія аруць зямлю і стаяць за станкамі, і ёсць самыя галоўныя людзі на зямлі, што ўсё ў рэшце рэшт будзе залежаць ад іх.

Літаратура і да Кастрычніка ў асобе сваіх лепшых працаўнікоў не абыходзіла ўвагай людзей працы; увага да іх — можа, адна з самых выдатных асаблівасцей рускай літаратуры XIX і пачатку XX стагоддзя, літаратуры Пушкіна і Някрасава, Талстога і Чэхава. Аднак, аддаючы належнае нашым слаўным папярэднікам, нельга не заўважыць і таго, што ўсё ж толькі Кастрычнік забяспечыў герою з народа належнае, галоўнае месца ў літаратуры, як неабходнаму дзеячу, будаўніку жыцця.

Мне здаецца надзвычай важным тое, што вобраз працавітага, сумленнага, кемлівага простага чалавека, так спагадліва намаляванага ў шэрагу твораў мінулага, дзякуючы пераменам, якія прынёс Кастрычнік, вырас у вобраз ваяўнічага, поўнага ўсведамлення сваёй сілы дзеяча, што выклікае ўжо не столькі спачуванне, колькі павагу і надзею.

Народ, які ўзяў у свае рукі лёс эканомікі і палітыкі, стаў вяршыць і лёс літаратуры. Кастрычніцкая рэвалюцыя ўпершыню ў гісторыі ў такой вялікай масе далучыла да найтанчэйшай і найскладнейшай літаратурнай справы тысячы і тысячы ўчарашніх рабочых людзей і сялян, упершыню стварыла такім чынам літаратуру новага тыпу — літаратуру працоўных людзей, сапраўды народную, самую дэмакратычную літаратуру ў свеце.

Тое, што было пачата ў кастрычніку 1917 года ў нас, даўно перайшло нашы граніцы, далёка разышлося па многіх краінах і кантынентах, стала сённяшнім клопатам і надзеяй мільёнаў людзей у розных кутках планеты.

Рэвалюцыя працягваецца.

Ленінскае вучэнне такое рознабаковае і так трывала ўваходзіць карэннямі ў жыццё, што, думаецца, няма такой галінкі, якая б не дала парасткаў.

Але мне хочацца сказаць пра адну, на мой погляд, надзвычай важную асаблівасць ленінскага ўплыву. Калі ідэі многіх іншых мысліцеляў былі здольныя

уплываць толькі як думкі, дзеялі ў сферы чыста духоўнай, то ідэі Леніна даўно перасталі быць толькі ідэямі.

Яны набылі выразна матэрыяльнае — адчувальнае і бачнае — аблічча ў заводах і электрастанцыях, у калгасных пасёлках і вузаўскіх аўдыторыях, яны вызначылі ў многім нормы нашых паводзін сёння, нашу ўжо звычную новую мараль. Яны, можна сказаць, сталі нашым жыццём.

Мне здаецца, ёсць падставы гаварыць пра тое, што ленінскае вучэнне ўплывае на літаратуру не толькі сваімі ідэямі, але і новай рэчаіснасцю, з яе новым героем і новай мараллю. Гэты ўплыў на першы погляд, можа быць, менш прыкметны, але не думаю, каб ён быў менш значны.

Уплыў гэты, вядома, шырокі ў плане міжнародным: думаю, што цяпер наўрад ці знойдзецца развітая літаратура ў свеце, якая б не адчувала ўплыву новай, савецкай, ленінскай рэчаіснасці.

У апошні час мяне найбольш цікавілі ленінскія працы, прысвечаныя аграрнаму пытанню, перш за ўсё — кааператыўнаму плану пераўтварэння старой вёскі. Працуючы над раманамі пра Палессе — «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы»,— я неаднойчы сутыкаўся з нялёгкімі, заблытанымі лёсамі людзей, са складанымі супярэчнасцямі ў руху гісторыі, з многімі пытаннямі, якім іншы раз нялёгка было даць сур'ёзнае тлумачэнне і правільную ацэнку. Асабліва многа было гэтых пытанняў, калі я спрабаваў разабрацца ў тым, што адбывалася ў беларускай вёсцы і ў цэлым у Беларусі напярэдадні пераломных восені, зімы і вясны 1929—1930 гадоў. Трэба было даць дакладную ацэнку мноству супярэчлівых фактаў і калізій, добра вытлумачыць іх, не спрашчаючы і не ўхіляючыся ад цяжкасцей і супярэчнасцей,— каб стварыць карціну праўдзівую, сур'ёзную.

Самым надзейным дарадчыкам у маіх сумненнях і пошуках былі ленінскія працы.

Хачу сказаць пра тое, што ленінскія працы моцна ўражвалі мяне не толькі сваім зместам, пераканальнасцю доказаў, але і стылем сваім. Стылем — не толькі ў сэнсе літаратурнай перадачы ленінскіх думак, але і ў агульным, метадалагічным сэнсе. Пераканаўча,

моцна дзейнічала на мяне заўсёды тое, як упэўнена, мужна, мэтанакіравана абыходзіўся Ленін з матэрыялам жыцця, нярэдка з найцяжэйшымі і найскладанейшымі яго з'явамі. Нельга не заўважыць, які прынцыповы і патрабавальны ён у кожнай сваёй рабоце, ці гэта капітальная праца, вялікі артыкул, ці маленькая нататка, прысвечаная падзеі дня.

Мне здаецца, рысы яго стылю: бачыць жыццё ва ўсёй складанасці, не задавальняцца тым, што на паверхні, пранікаць у глыбіню, да ісціны, не цешыцца ілюзіямі. Ацэньваць усё з пункту погляду інтарэсаў галоўнага і будучага, быць смелым у барацьбе. Рабіць усё з палымянасцю барацьбіта.

У стылі ленінскай работы я бачу прыклад таго, як трэба жыць, як вырашаць творчыя задачы.

*1970*

# НАРОДНЫ ПІСЬМЕННІК

Больш за чвэрць стагоддзя ў гэтай самай зале мінчане развіталіся назаўсёды з чалавекам, імя якога вядома ўсёй Беларусі — з Кузьмой Чорным.

Быў 1944 год, год вызвалення нашага горада. У той час гэта зала была адзінай у Мінску. Горад наш ляжаў у жахлівых руінах, што цягнуліся ад вакзала да парку Чалюскінцаў.

Блізка яшчэ грымела вайна. Блізка ад нашага горада хавалі яшчэ салдат вайны. І магіла пісьменніка, якога тады хавалі, была таксама як магіла салдата. І натуральна зусім, што могілкі, на якіх ён пахаваны, завуцца ў народзе — вайсковыя могілкі.

Таварышы, я нагадваю гэтыя акалічнасці не толькі таму, што іх нагадвае памяць, і не толькі таму, што ў іх ёсць тое красамоўнае значэнне, на якое я звярнуў вашу ўвагу. Мне разам з тым, згадваючы гэту, ужо даўнюю падзею, хочацца адзначыць яшчэ адну, не менш важную, акалічнасць, якая звязвае гэту падзею з нашай сённяшняй. Тады, дваццаць пяць гадоў назад, мы былі тут, каб аддаць апошні доўг чалавеку, што памёр, працаўніку і выдатнаму пісьменніку.

Цяпер мы сабраліся для таго, каб адзначыць дату яго нараджэння, жывую дату жывога чалавека. Бо дата нараджэння — гэта дата жывых. Дата тых, хто сярод людзей, хто па-ранейшаму, наперакор смерці, жыве. Як жывы.

Трэба адзначыць: час — дваццаць пяць гадоў—аддаліўшы, амаль сцішыўшы ў сэрцы боль страты, разам з тым як бы ўмацаваў, надзейна і трывала, даты і падзеі яго жыцця, плён яго працы.

Час нелітасціва, сурова абыходзіцца не толькі з людзьмі, але і з тым, што яны ствараюць. Мы, людзі, якія добра — не па адных кніжках, а і на сваім вопыце — бачым, як абыходзіцца час і з тым, што стваралі

нашы браты па справе,— па літаратуры,— не маглі не заўважыць, што ён, час, не пашкадаваў ужо нямала таго, што адбывалася на нашых вачах.

Мы бачылі, як узыходзілі і зіхацелі ў вышыні — на нашым і ўсесаюзным небе — часовыя літаратурныя зоркі і як яны трацілі гэты бляск і знікалі з вышынь. І ўзыходзілі новыя зоркі, узнікалі новыя надзеі, і толькі нямногія з іх заставаліся ў небе, бачныя ўсім з зямлі і патрэбныя ўсім на зямлі.

У Кузьмы Чорнага, мне здаецца, была ў параўнанні з многімі іншымі — роўная, ціхая слава. Ён пачынаў у вельмі бурлівы і шумлівы час, час, поўны маладой задзірыстасці і маладой галасістасці, у якіх аднолькава хапала і надзей, і самаўпэўненасці. У гэтай звонкагалосай гурме, віраванне якой, хоць і прыцішанае далеччу, чутно яшчэ і цяпер нам, Чорны быў, бадай, калі і не зусім нячутным, дык усё ж не надта чутным. Ва ўсякім разе ён быў, як здавалася напачатку, адзін сярод многіх.

Адно яго, бадай, вылучала: дзіўная сталая, спакойная ўраўнаважанасць. Ад кнігі да кнігі ідзе ён сваёй, абранай самім дарогай, і толькі тады, паступова — ад кнігі да кнігі — адкрываецца — і то яшчэ не ўсім,— колькі сілы і які разгон у гэтага спакойнага на выгляд і сціплага сялянскага хлопца са Случчыны. У гісторыі нашай літаратуры небагата можна згадаць прыкладаў такога творчага ўздыму: за нейкі дзесятак з лішкам гадоў нядаўні пачатковец стварае цэлую нізку кніг апавядання — «Срэбра жыцця», «Хвоі гавораць», «Вераснёвыя апавяданні» і іншыя, цэлую бібліятэку аповесцей і раманаў, сярод якіх творы, што сталі выдатным набыткам усёй нашай літаратуры,— «Зямля», «Бацькаўшчына», «Трэцяе пакаленне», «Люба Лук'янская». Нельга не адзначыць з павагай тое, як гераічна (падкрэсліваю — гераічна) працаваў — ужо цяжка хворы — пісьменнік у гады ваеннай навалы: баявы публіцыст, аўтар многіх вострых памфлетаў, сабраных у кнізе «Кат у белай манішцы», штодзённы супрацоўнік нашых нешматлікіх, але надзвычай важных перыядычных выданняў, ён, у пакойчыку гасцініцы «Якар», што на вуліцы Горкага ў Маскве, з цярплівасцю і настойлівасцю, якія не могуць не ўразіць, упарта піша сваю вялікую прозу — «Скіп'ёўскі лес», «Млечны шлях», «Вялікі дзень», «Пошукі будучыні».

Цяпер між падзеямі і творамі яго жыцця — вялікая і вельмі багатая новымі падзеямі, новымі радасцямі і трывогамі адлегласць. Гады, якія па свайму зместу і значэнню з'яўляюцца цэлай эпохай. Гады, у якія адбылося нямала значнага не толькі ў жыцці краіны і народа, але і ў жыцці літаратуры. Гады, у якія літаратура наша багата чаго пабачыла, перадумала, зразумела, у якія між ім і сённяшнім днём увайшлі ў літаратуру ні мала ні многа некалькі пакаленняў са сваім вопытам і сваімі поглядамі.

Багата што з таго, што ўзнікла ў яго час, што стваралася разам з ім — і што стваралася пасля яго,— прыцíхла, а часам і сышло ў нябыт, стала толькі фактам акадэмічна роўнай літаратурнай хронікі. А яго творы, сам ён не трацяць свайго значэння, і не толькі не трацяць, а падобна на тое, што быццам растуць у сваім значэнні.

Трэба разабрацца — у чым тут прычына?

Кожнаму, хто знаёмы з яго творчасцю, кідаецца ў вочы, якая багатая ў яго спадчына. Уражвае ўяўленне тое, якую вялікую задачу ставіў ён сабе — задачу, якая выяўляла ў ім незвычайную, смелую натуру, размах вялікага пісьменніка. Веліч яго пісьменніцкага свету адчуваецца і ў тым, як востра адчувае і раскрывае пісьменнік самыя істотныя праблемы нашай эпохі і нашага чалавека, эпохі надзвычайных сацыяльных пераўтварэнняў. Чалавек і эпоха, чалавек і гісторыя, чалавек і Радзіма, абавязак перад Радзімай, месца чалавека ў нашу эпоху, эпоху будаўніцтва камунізма,— гэта асноўныя, самыя важныя праблемы твораў К. Чорнага.

Можа быць, не трэба пераацэньваць лішне адзін той факт, што ён напісаў так багата, хоць гэта таксама важна. У наш час, калі літаратуры ў нейкай меры пагражае небяспека інфляцыі слова, многапісанне магло б адыграць проста рызыкоўную паслугу перад нашчадкамі.

З гадамі, захапляючыся пісьменнікам, мы з цвярозай увагай можам заўважыць і ў яго выдатных творах пэўныя сляды паспешлівасці. Заўважыць, напрыклад, што ў густую, разважлівую прозу яго іншы раз убівалася беглая гаворка, што выдатна пачатая і разгорнутая тканіна раманаў іншы раз пад канец як бы пачынала радзець, а то і абрывалася.

У чым жа сіла Чорнага, сакрэт яго жывучасці, якая адолела моцныя турботы і хваляванні некалькіх дзесяткаў вельмі багатых падзеямі гадоў?

Відаць, адна з прычын гэтаму тое, што галоўным героем, героем, якому ён аддаў сваё сэрца, быў народ, людзі, якія абраблялі зямлю і, не шкадуючы сілы і жыцця, упарта ішлі да сваёй будучыні. Відаць, прычына ў тым, што ён, як вельмі нямногія, так глыбока, так тонка і так сардэчна разумеў народ, працавітых і ўпартых людзей роднай беларускай зямлі, усёй душою прагнуў ім шчасця, лепшай долі. Відаць, у тым, што ён сам быў непабочным, няхай сабе і прыхільным, летапісцам, а быў частачкаю свайго народа, злітнаю да канца, непадзельнаю.

Даўгалеццем творы яго, вядома, абавязаны яго багатаму, вялікаму таленту. У таленце гэтым я хацеў бы адзначыць асабліва яго надзвычай важнае ўменне бачыць у руху, мітуслівасці, супярэчлівасці жывога, штодзённага жыцця сапраўднае значэнне ўсяго — часовага, павярхоўнага і глыбіннага, істотнага. Гэта быў талент вельмі разумны, праніклівы, разважны, талент, які ўмеў бачыць далёка і шырока. Нельга не падзівіцца таму, як уменне бачыць жыццё далёка шчодра спалучалася у ім з надзвычайным уменнем разумець душу людзей, няпростыя вытокі, асновы іх паводзін.

Калі няма больш высокай адзнакі для кожнага, хто жыве ў літаратуры, як годнасць народнага пісьменніка, то мы з поўным правам можам сказаць, што па ўсёй сваёй сутнасці К. Чорны, бясспрэчна,— пісьменнік народны. Яркі, нацыянальны, беларускі пісьменнік. Адзін з лепшых беларускіх савецкіх пісьменнікаў, годны паслядоўнік і паплечнік Купалы і Коласа, слава і гонар нашага народа.

*1970*

# НЕКАЛЬКІ ДУМАК

Як Вам бачыцца месца сучаснай беларускай літаратуры (прозы, перш за ўсё) у асяродку развітых літаратур? Як вы разумееце ролю пісьменніка ў сучасным свеце?

Якія два-тры пісьменнікі сусветнай літаратуры суправаджаюць Вас праз усё творчае жыццё? Чаму?

Калі б з усіх Вашых твораў трэба было б назваць адзін, лепшы, які б выбралі вы? Чаму?

Як узніклі замыслы асноўных Вашых твораў, творчыя гісторыі іх (не палянуйцеся напісаць падрабязна)?

У якім напрамку, на Вашу думку, развіваецца і будзе развівацца беларуская літаратура? проза? Чаго ёй не стае яшчэ, у якім кірунку пісьменнікам патрэбна ўздзейнічаць на яе практычна — сваімі творамі?

У гэтым пытанні ёсць многа розных аспектаў.

Адзін з іх — гэта тое, што я маю гонар належаць да гэтай літаратуры і з пачуцця далікатнасці лічыў бы за лепшае паслухаць, што думаюць пра гэта староннія.

Па-другое, я перакананы, што значэнне літаратуры вызначаецца найперш тым, як яна выконвае свой абавязак перад народам і ад гэтага — што яна ад імя свайго народа дае ў агульную скарбніцу культуры, савецкай і сусветнай.

Пытанне аб месцы, якое яна займае сярод іншых літаратур, мяне турбуе мала. У немалой меры таму, што кожная, нават невялікая, літаратура — поле, на якім расце самая разнастайная расліннасць. Ці, інакш кажучы, жывая грамада, дзе, калі прыгледзецца, кожны мае сваё аблічча. Свой свет.

Літаратуры толькі здалёк здаюцца роўнымі — падобна таму, як роўнаю здаецца зямля з самалёта. Між

тым, у кожнай літаратуры ёсць многа розных кірункаў і плыней і — розных узроўняў. Ёсць, напрыклад, узровень твораў выдатных, добрых, пасрэдных, бяздарных.

Творы пасрэдныя, відаць, ва ўсіх літаратурах маюць адзін узровень. Што да лепшых, то думаю, што яны ў нашай літаратуры, у тым ліку і творы прозы, маюць даволі высокі ўзровень. Здаецца мне, яны маглі б з годнасцю стаяць побач з добрымі творамі іншых літаратур.

Дынаміка развіцця і багацце маладых талентаў дае падставу глядзець у будучыню нашай літаратуры з надзеямі.

На нашай неспакойнай зямлі, якая жыве ўвесь час змаганнем цемры і святла, старога і новага, пісьменнік у меру сваіх сіл павінен садзейнічаць перамозе святла і камуністычнага новага.

Сфера літаратуры — выхаванне чалавека. Я — за літаратуру, якая выхоўвае чалавека працавітага, багатага духоўна, ваяўнічага, якая змагаецца за ўсё, што робіць нас мацнейшымі, з усім, што шкодзіць нам і аслабляе нас.

Рашуча супраць гладзенькіх і добранькіх твораў, супраць мяшчанскай белетрыстыкі, якія адводзяць людзей ад важных праблем, ад сур'ёзнай працы, усыпляюць іх энергію.

Яшчэ пра гэта — у адказе на пытанне 6.

У розныя перыяды жыцця мяне суправаджалі розныя і *многія* пісьменнікі. Я пакрывіў бы супраць праўды, калі б выбраў двух-трох.

Першая кніга, якую я прачытаў, была «У краіне райскай птушкі» Я. Маўра, якім я доўга захапляўся. Але ў той жа час я захапляўся і Пушкіным, і Някрасавым, і Гогалем.

Люблю Бальзака і Купалу, Рожэ Мартэна дзю Гара і Кузьму Чорнага, Скота Фіцджэральда і Івана Буніна, Міхайлу Кацюбінскага. Нязменна — Льва Талстога, Міхаіла Шолахава (асабліва «Ціхі Дон»), Аляксандра Фадзеева (асабліва «Разгром»). Схіляюся перад магутным талентам Дастаеўскага. Ганаруся што карэньчыкі яго — у нашым Палессі.

Мне ўсе творы, якія я напісаў, блізкія, як дзеці мае. Я бачу, вядома, што не ўсе яны ўдалыя, але ж, якія яны ні ёсць — яны дзеці мае. Лічу абавязкам сэрца клапаціцца пра іх і па меры магчымасці клапачуся (пераглядваю час ад часу, папраўляю).

Для справядлівасці трэба зазначыць: усе яны паразнаму былі важныя мне ў дарозе. Усе яны звязаны адзін з адным, як браты і сёстры, і ўсе наступныя залежаць ад папярэдніх.

Пра гісторыю сваіх твораў я пісаў падрабязна ў розных артыкулах. Асноўныя з іх: «Гартаючы старонкі», «Трохі згадак і думак», «Перад першай старонкай», «Знайсці сябе».

Я не люблю прадказанняў. Пажывём — пабачым. Думаю, адно бясспрэчна: яна павінна развівацца і будзе, мабыць, развівацца адпаведна жыццю, руху гісторыі. Што да таго, чаго не стае літаратуры, то тут я таксама лічу патрэбным устрымацца ад таго, каб ставіць нейкі агульны дыягназ. Не выклікае сумнення адно: кожнаму з нас і ўсім разам заўсёды трэба чуць жывое жыццё, вучыцца, удасканальваць сябе, уздымацца да вышынь культуры. Яшчэ раз паўтару апошняе: павышаць культуру, пісьменніцкую, чалавечую.

Хачу выказаць некаторыя агульныя пажаданні.

Я хацеў бы, каб наша літаратура заўсёды жыла клопатамі народа нашага, аддана служыла яму сваім вопытам. Хацеў бы, каб яна рабіла людзей багацейшымі, прыгажэйшымі.

Каб яна была праўдзівай, разумнай і разам — мужнай, бо людзям у дарозе патрэбны толькі разумныя і мужныя спадарожнікі.

Хацеў бы, каб яна была добрай па якасці і разам — рознай па талентах. Каб талентаў было заўсёды даволі. Каб яна была дастаткова неспакойнай для таго, каб шукаць лепшае, новае, ісці далей, і разам — сталай для таго, каб не захапляцца пустой модай.

Каб яна не баялася быць проста літаратурай. Проста хлебам надзённым.

*1970*

# ЗНАЙСЦІ СЯБЕ

Творчае жыццё... Дзе пачатак яго? У біяграфічных даведніках акуратна адзначаюцца даты першых публікацый. Але хіба гэта пачатак? Гэта хутчэй дата першага поспеху: прачыталі, адобрылі, надрукавалі.

Усё пачынаецца раней, у адных — крыху раней, у другіх — намнога раней. Нямала і ў мяне было спісана паперы да таго, як у газеце паявіўся першы верш. Пачатак быў далёка да гэтага дня. Дзе ж ён? Перабіраючы тое, што захавалася ў памяці, дакопваюся: ці не тут? Можа, іменна тут. Гэта ўспамінаецца з усмешкай, чытачу гэта здасца, відаць, жартам, але, можа, у гэтым ёсць доля праўды. Праз тыдзень ці месяц, пасля таго як я пайшоў у маленькую палескую школу, настаўніца, разгарнуўшы перад кожным з нас буквар на старонцы з малюнкам, папрасіла прыдумаць назву. Я падумаў, падумаў і, падняўшы руку, сказаў: «Восень у лесе». Яна адказала: «Правільна». Я пачырванеў ад збянтэжанасці і гордасці.

Зрэшты, гэта таксама, мабыць, не самы пачатак, але ўжо блізка да яго. І недзе блізка да яго першае публічнае выступленне, у тым жа класе, у які набілася поўна барадатых дзядзькоў у світках, у кажухах, з цыгаркамі. Чатыры радкі верша з буквара, але якое хваляванне і якое адчуванне выкананага абавязку! Усё, што было потым у гэтым родзе, што здараецца на адказных выступленнях і цяпер, усё было, здаецца, упершыню адчута тады...

Пачатак... Да гэтага часу помняцца класы той школы, дзе былі перажыты першыя творчыя пакуты. Як свята першая прачытаная вялікая кніга «У краіне райскай птушкі» слаўнага пісьменніка Янкі Маўра. Кнігі адкрылі свет, пра які я не падазраваў, свет, поўны незвычайнага, дзівоснага. Яны і знаёмае, звычайнае жыццё рабілі незвычайным: яны трывожылі, выклі-

калі ва ўяўленні карціны, у якіх перамешвалася, сплягалася тое, пра што я даведваўся з кніг, з тым, што бачыў у хаце, на двары, на вуліцы. Можа, гэта таксама была творчасць, таксама частка творчага шляху?

Кнігі — мая першая вялікая любоў за межамі роднага дома. Некалькі маленькіх кніжак, купленых у мястэчку, доўга былі самым дарагім скарбам. Хваляваў пах іх фарбы, радкі, імёны аўтараў, назвы... Вельмі рана, яшчэ ў пачатковай школе, паявілася жаданне самому нешта пісаць: таміла душу музыка вершаваных сугуччаў, неадчэпна звінелі словы, мелодыі фраз; сэнсу часта не было, але мелодыя была.

Пазней, помню, я пачаў перапісваць у сшытак вершы любімых паэтаў, якія найбольш спадабаліся. (Кніг з гэтымі вершамі ў мяне амаль не было.) Янка Купала, Кандрат Крапіва, Паўлюк Трус, Пушкін, Някрасаў уваходзілі ў маё жыццё як блізкія сябры. Някрасаў узрушыў сілай страсці, гневам, якія і мяне рабілі страсным, абураным, непрымірымым. У тыя гады ўсё часцей паяўлялася жаданне і самому выказацца, але якімі непаслухмянымі станавіліся словы, калі я браў іх, як неахвотна, нязграбна клаліся яны ў радкі!..

І ўсё ж у гэтым змаганні з самім сабой было нешта дзіўна захапляючае, і як радавала, калі атрымлівалася нешта — радок, карціна-вобраз, верш. Якое вялікае было шчасце, калі тое, амаль няўлоўнае, што таміла цябе, нарэшце пераходзіла ў радкі, у вершы! Гэта не інакш была ўжо творчасць, няхай ні для кога не прыкметная, нікому не вядомая,—але яна захоплівала душу!

У адным з апошніх класаў школы сшытак маіх вершаў выпадкова трапіў да выкладчыка літаратуры Міхаіла Іванавіча Пакроўскага, выдатнага педагога, бязмежна закаханага ў літаратуру. Міхаіл Іванавіч прачытаў вершы і, выклікаўшы мяне ў настаўніцкую, сам-насам доўга і вельмі прыхільна гаварыў пра мае вершы. Сказаў, каб не кідаў, пісаў сур'ёзна. Я выйшаў з настаўніцкай акрылёны.

Але мяне чакалі немалыя засмучэнні: на пісьмы з вершамі, пасланыя ў рэдакцыі, прыходзілі нязменныя адказы: друкаваць не будзем. Іншы раз і зусім не адказвалі. Толькі гады праз паўтара, у лютым 1939 года, на старонках «Чырвонай змены» ўбачыў я першы верш свой — «Радзіме», які звычайна лічаць пачаткам творчай работы.

Да вайны было надрукавана яшчэ некалькі вершаў у Мінску і ў Мазыры, у абласной газеце. Потым я паехаў вучыцца ў Маскву, у Інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры, з інстытута ў тым жа годзе быў прызваны ў армію. У арміі, у Карпатах, сустрэў першы дзень вайны. На вайне было не да вершаў: урыўкамі пісаў скупую прозу — ваенны дзённік — з назвамі пакінутых гарадоў, з кароткімі нататкамі пра баі, з прозвішчамі забітых таварышаў.

У шпіталі — у Тбілісі — пачаў пісаць апавяданні. Іншы раз, здаралася, і вершы, але гэта было ўжо як развітанне. Не так проста было адысці ад іх, ад маладосці. Але цяперашнім маім і будучым была проза.

У 1944 годзе, ужо ў Мінску, газета «Звязда» надрукавала першае апавяданне, напісанае ў шпіталі. З таго часу вось ужо чвэрць стагоддзя я працую ў прозе...

Даўно прыйшоў я да невясёлага вываду, што пачаў пісаць, маючы вельмі цьмянае ўяўленне аб літаратурнай справе. Можна сказаць нават, што пачаў пісаць, будучы літаратурна малапісьменным чалавекам. Ужо ў працэсе работы прыходзілася спасцігаць асновы літаратурнага майстэрства. Усё гэта, вядома, не магло не адбіцца на якасці першых спроб у мастацкай прозе. Думаецца, аднак, што бяда гэта не толькі мая, яна, відаць, агульная для ўсіх нас, вучняў вясковых школ, людзей з «захалусця».

Мне ніколі не пісалася лёгка. Заўсёды цяжка было напісаць не толькі апавяданне, але і старонку; мяне здзіўлялі тыя мае таварышы, якія за адзін раз маглі спісваць цэлыя сшыткі і амаль не на адным дыханні стваралі цэлыя аповесці, а то і раманы. Відаць, у кожнага маладога разам са сваім характарам і свае цяжкасці. І калі некаторым перашкаджае ў маладосці залішняя гаварлівасць, размашыстасць, то, думаецца, не аднаму мне перашкаджала нясмеласць у абыходжанні са словам. Доўга адчуваў я сябе перад лістом паперы настолькі скаваным, што, ледзь пачаўшы пісаць апавяданне, спяшаўся паставіць кропку. Мне здаваліся лішнімі апісанні, партрэты, псіхалагічныя характарыстыкі: яны быццам перабівалі адзіны, імклівы рух сюжэта, быццам бы не хацелі ўжывацца ў тканіну апавядання, нязграбна тырчалі з яго; з па-

кутлівым пачуццём я вымушаны быў выкідваць іх. Пасля ўсіх гэтых цяжкіх аперацый нярэдка аказвалася, што ў апавяданні сапраўды не было ўжо нічога лішняга, але мала было і добрага. Як трывожыла мяне тады (ды нярэдка і цяпер) гэтая немагчымасць спалучыць дзве якасці, сплаў якіх і нараджае сапраўднае мастацтва: нічога лішняга і разам з тым — нічога страчанага!

З-за ўсіх гэтых цяжкасцей апавяданні мае былі нярэдка схематычныя, людзі ў іх паказваліся звонку, ім не хапала глыбіні, аб'ёмнасці. Не хапала натуральнасці фарбаў, свабоды дыхання. Калі перачытваю гэтыя раннія свае рэчы, ствараецца ўражанне, што гаворыць чалавек, які ці то вельмі спяшаецца, ці то вельмі ўсхваляваны — коратка, ірвана, блытана... Твары псавала таксама боязь прастаты, якая немінуча прыводзіла да нейкай уяўнай значнасці ў стылі, у характары адлюстравання, у адборы матэрыялу.

Калі пасля фронту я аказаўся ў шпіталі, хоць мне і было тады ўсяго дваццаць адзін год, я ўжо нямала пабачыў, перажыў. У мяне было поўна самых яркіх і значных уражанняў вайны. Здавалася, бяры іх і пішы, не мудруючы, але мяне чамусьці цягнула да таго, што я ведаў горш, а то і зусім дрэнна. Здавалася, тое, што было з другімі,— значнейшае і важнейшае; мяне вабіла магчымасць выдумляць, «сачыняць». І я «сачыняў», хвалюючыся, увесь гарэў ад нецярплівасці ў цесным, пустым шпітальным пакойчыку, адведзеным мне ўрачом-практыканткай.

Бадай, найбольш удалае з ранніх апавяданняў (гэта думка не толькі мая, але і крытыкаў, і чытачоў) — «У завіруху». Цяпер, перачытваючы яго, добра бачыш сляды нявопытнасці: не хапала ўпэўненасці, смеласці — шырэй, глыбей разгарнуць дзеянне, даследаванне душы. І ўсё ж, па таму вопыту, па таму ўменню, якое ў мяне тады было, гэта быў, канечне, крок наперад. З вялікім хваляваннем пісаў я ўсё: завіруху, лясную дарогу, бязмерна змучанага чалавека, які цягнецца, ведучы на повадзе зморанага каня... Мусіць, прычына ўдачы ў тым, што ўсё гэта я перажыў сам. І завіруха, і дарога, і стомленасць — усё гэта было ў мяне, я пісаў, можна сказаць, пра сябе. Я са здзіўленнем убачыў, як раптам ажывае ўсё пад пяром, калі пішаш пра тое, што табе знаёмае і дарагое: апавяданне

як бы само па сабе напоўнілася цяплом, гукамі, фарбамі, жыццём...

Здавалася б — вось урок, замацуй знойдзенае, ідзі ў тым жа напрамку. Але за ім зноў цяжкія блуканні, незадаволенасць. Адна ўдача — простая жыццёвая сцэнка: як жанчына чакае пісьма ад мужа з фронту,— няхітрае псіхалагічнае апавяданне пра адну з многіх цяжкіх начэй жанчыны ваеннай пары... І зноў мітуслівыя пошукі з вострым адчуваннем: «Не тое, не выходзіць...»

За ўсім гэтым цяжкім, за сумненнямі, а часам роспаччу зноў удача: невялікая аповесць, напісаная летам 1946 года ў роднай вёсцы,— «Гарачы жнівень».

Праз паўтара дзесятка год адзін крытык па тагачаснай модзе напіша пра гэтую аповесць, што яна нясе на сабе адбітак лакіровачнай літаратуры, другі справядліва заўважыць, што яна не сказала ўсёй цяжкай праўды пра вёску той пары, але я і цяпер перачытваю гэтую немудрагелістую першую сваю аповесць без пачуцця сораму. Вядома, не сказала яна ўсёй праўды, якую, натуральна, я разумеў тады менш глыбока, чым цяпер. Але пры ўсім тым аповесць гэтая, мне здаецца, поўная жывым адчуваннем цяжкага лета, першага лета пасля вайны. Пра якую лакіроўку можна гаварыць, калі ўся работа, і жаночая, і мужчынская,— на жанчынах, калі яна знясільвае людзей, калі ўся гаспадарка разбурана, калі амаль што кожны лёс пакалечаны вайной; калі памяць пра вайну так шчыміць, што не дае спакою ні ўдзень ні ўночы. Светлая і горкая гэтая аповесць — я гэта адчуваю і цяпер — сказала сваю праўду пра тое лета, калі нечаканая засуха зваліласяна стаптаныя вайной палі; сказала без надрыву, але і без прыхарошвання, з той глыбінёй праўды, з якой я тады глядзеў на жыццё і разумеў яго.

Для мяне, з прафесіянальнага пункту погляду, аповесць гэтая важная і тым, што ўдалося зрабіць нейкія крокі па шляху самага цяжкага: больш выразна і зрокава выпісаць людзей, іх партрэты, характары, дыялогі. Вопыт гэты карысны быў і ў тым сэнсе, што я ўпершыню паказваў рух жыцця па некалькіх лініях, імкнуўся даць разгорнуты многалінейны сюжэт з масавымі сцэнамі, вучыўся складанай кампазіцыі.

Праз год я пачаў працаваць над першым вялікім творам — раманам «Мінскі напрамак».

Быў сорак сёмы год, другі мірны год, а з трыбуны нашага Саюза пісьменнікаў на кожным сходзе чуліся абураныя воклічы, што некаторыя пісьменнікі, замест таго каб ісці ўперад, да гэтага часу (!) корпаюцца ў вайне, у «гісторыі»!

А мяне пацягнула ў гэтую «гісторыю». Тое, што трывожыла, пачынаючы з самага лета сорак чацвёртага, вялікага лета бітвы за родную Беларусь, захапіла мяне з неадольнаю сілай: карціны, якія маляваліся раней паасобку, зліліся ў агульную, поўную руху панараму, ад якой перахоплівала дыханне. Я бачыў людзей, чуў іх, яны мяне хвалявалі, здавалася, клікалі — я павінен быў пра іх расказаць! Апрача таго, я ведаў, што помніць пра вайну трэба не толькі з павагі да мінулага, але і з-за трывогі пра цяперашняе: у свеце станавілася ўсё больш трывожна...

І ўсё ж я не адразу адважыўся. Вельмі цяжкая задума доўга стрымлівала мяне. Палохала тое, што задуманы раман павінен быў асноўвацца ў многім на гістарычна-дакладным, дакументальным грунце... Амаль два гады думаў я, вагаўся, але ўсё ж не вытрымаў. Вялікае было жаданне, моцна захаплялі карціны, якія трывожылі ўяўленне, і да ўсяго яшчэ — аптымізм маладосці. Дзёрзкасць маладосці. І я — пачаў.

Лёс мяне не песціў. Ледзь толькі першая кніга пачала, з вялікімі скарачэннямі, друкавацца ў часопісе, паявіўся злосны разнос у нашай літгазеце. Бойкі малады крытык, які ні ў чым не ведаў сумненняў, накінуўся на мяне ні мала ні многа з палітычнымі абвінавачаннямі ў скажэнні праўды. За мяне заступіліся; да гэтага часу з пачуццём удзячнасці ўспамінаю я разумнае сяброўскае слова Янкі Маўра. Яно мне было тады так неабходна!

Было трывожна, але я ўжо не мог спыніцца. Я працягваў працаваць над другой кнігай рамана. Вельмі ж многа было аддадзена кнізе, каб адмовіцца ад яе. Можа, таму чым цяжэй прыходзілася мне, тым больш расла ўпартасць, імкненне давесці справу да канца.

Багата трывог і працы каштавала мне гэтая кніга, у якой цяпер спакойным позіркам я бачу столькі недахопаў! Багата выклікала яна сумненняў і багата роздуму. Некалькі гадоў назад, калі так шумліва вяліся атакі на «панарамныя» раманы, я не-не ды і падумаў: а можа, і праўда лепш было б узяць аднаго-двух

трох герояў; дэталёва, да самай маленькай рысачкі выпісаць кожнага з іх, разгарнуць кожны эпізод... Думалася мне тады: я ж таксама мог бы напісаць вайну з салдацкага акопа, бо сам сядзеў у акопе, ведаю акопнае жыццё не па чутках. І напісаць бы пра яе, пра вайну, з аднаго акопа было б лягчэй, і лепш, вастрэй усё выпісаў бы, кожны ўзгорачак уперадзе, кожную травінку побач. Тым больш што тое-сёе ў гэтым плане я ўжо пісаў да рамана.

Вядома, я не маю нічога супраць таго, што вайну можна паказваць з салдацкага акопа; недарэчна нават спрачацца з гэтым. Але я не разумею, чаму вайна горш бачыцца з каманднага пункта, скажам, камандуючага фронтам. Так, безумоўна, у таго, хто глядзіць на пярэдні край з салдацкага акопа, ёсць свае перавагі: ён многа бачыць такога, чаго не ўбачыш з каманднага пункта. Але і тыя, хто глядзіць з каманднага пункта, бачаць тое, чаго не ўбачыш ■ акопа. Ці трэба супрацьпастаўляць адно другому? І тое і другое — гэта вайна, розныя яе пункты. І ці трэба супрацьпастаўляць «панарамныя» раманы лакальным аповесцям? Канечне, у нашых эпічных раманах нямала слабасцей, але, можа, гэта таму, што жанр гэты надзвычай цяжкі. Ды і ці заўсёды беззаганныя маленькія аповесці?

Некаторыя нашы празаікі і крытыкі наогул насцярожана адносяцца да эпічнага рамана, лічачы, што час вялікіх раманаў прайшоў, чытачу, маўляў, няма калі разглядваць панарамы. Я з гэтым ніяк не магу згадзіцца: думаю, што эпічныя раманы рана адсылаць у архіў. Час наш эпічны; які яшчэ жанр можа з такой паўнатой паказаць складанасць, узаемазвязанасць і шырыню жыцця кожнага з герояў, як эпічны раман?

Можа быць, калі б мне давялося пісаць не ў пяцідзесятыя, а ў шасцідзесятыя гады, я пісаў бы гэтак жа, як пісалі маладыя пісьменнікі шасцідзесятых, што сказалі многа новага, неабходнага пра вайну. У гэтым выявілася патрабаванне часу, была свая заканамернасць. Але была свая заканамернасць і ў тым, як паказвалі вайну ў першыя пасляваенныя гады, калі адзін за другім пачалі паяўляцца «панарамныя» раманы.

У гэтых раманах памяць таго непаўторнага часу,

калі сэрцы ўсіх поўныя былі вострым адчуваннем ап'яняючай радасці доўгачаканай перамогі, маштабнасцю і веліччу дасягнутага. Подзвіг народа быў велізарны; вайна абвастрыла ў кожным пачуццё злітнасці, з'яднанасці з народам; мабыць, ніколі з такой сілай, як у вайну і пасляваенныя гады, не адчувалі мы, што мы — народ. Вайна навучыла нас адчуваць і думаць буйнымі маштабамі.

Мне здаецца, у аснове большасці раманаў таго часу была, удала або няўдала выказаная, думка народная. Гэтай думкай прасякнуты і «Сцяганосцы» А. Ганчара, і «Маладая гвардыя» А. Фадзеева, і «Бура» В. Лаціса, і «Бура» І. Эрэнбурга, і многія іншыя кнігі.

Мой раман ствараўся ў першыя пасляваенныя гады — я пісаў яго з 1947 па 1952 год. Пасля выхаду кнігі ў Мінску, на беларускай мове, рыхтуючы рускае выданне, я зноў вярнуўся да рамана: шэраг раздзелаў паправіў, нямала старонак напісаў нанава, некаторыя выкрасліў. Раман мой падобны многімі рысамі на другія раманы пра вайну, якія ствараліся ў тыя гады. Ён шырокі па складу дзеючых асоб і па ахопу падзей. Асноўная танальнасць яго — гераічная. Гэта кніга пра нашу перамогу ў Беларусі, пра вызваленчую бітву за беларускую зямлю ў 1944 годзе. Гэта кніга, па задуме,— пра веліч народнага подзвігу. З гэтай тэмай пераплятаюцца і маральныя праблемы, але яны маюць другараднае значэнне.

Я імкнуўся ўсё падпарадкаваць задачы — намаляваць воблік народа ў цяжкую, але вялікую гадзіну. Гэтае імкненне ўсебакова паказаць народ у барацьбе і патрабавальна ўвесці ў раман мноства герояў вызначыла сюжэтную і кампазіцыйную яго пабудову, яго панарамнасць. Кароткі па звычайных, мірных уяўленнях час — усяго два з нечым месяцы, што ўваходзіў у раман, быў да крайнасці напружаны, багаты самымі разнастайнымі падзеямі; ён сабраў на беларускіх палях і ў лясах мноства самых розных людзей, якія прадстаўлялі самыя розныя погляды, розныя нацыі, розныя характары.

Мяне адразу захапіў магутны рух, віраванне велізарных мас людзей. Маткі і дзеці, што адступаюць перад карнікамі, тонучы ў балоце; партызаны, што зма-

гаюцца з рэгулярнымі войскамі рэйха, кінутымі з фронту на ўціхамірванне неспакойнага тылу; нашы танкісты, што рыхтуюцца ў савецкім тыле да бітвы; трывожныя дні і ночы новага камандуючага фронтам, якому ўпершыню трэба будзе кіраваць велізарнай і найважнейшай аперацыяй. Карціна роднага акупіраванага падпольнага Мінска; жыццё ў варожым лагеры... Пачуццё заварожанасці не раз змянялася страхам: ці ўдасца мне ўтрымаць гэтае віраванне ў не вельмі ўстойлівых берагах, якія вызначаюцца законамі кампазіцыі, законамі мастацтва. Я не раз адчуваў, як лёсы і падзеі націскаюць на «берагі», пагражаючы разарваць раман.

Турботы ўскладняліся тым, што ў рамане расказвалася пра гістарычна вельмі канкрэтныя і вядомыя многім рэальныя падзеі, якія нярэдка дыктавалі свае рашэнні. Яны ў многім уплывалі на сюжэт, на кампазіцыю і прымушалі мяне, акрамя вырашэння задач чыста мастацкіх, займацца даследаваннем у галіне ваеннай гісторыі, вывучаць сведчанні ўдзельнікаў падзей, капацца ў архівах, якія тады не былі адкрыты так шырока, як цяпер...

Вельмі цяжка было пісаць вобраз камандуючага фронтам Чарняхоўскага. Я ніколі не бачыў Чарняхоўскага, не даводзілася ніколі быць мне ў штабах франтоў, не было пра Чарняхоўскага і надзейных матэрыялаў; я зусім не быў гатовы, каб брацца за стварэнне яго вобраза. Ужо быў напісаны амаль увесь раман, калі я адчуў, што атрымаецца ці не атрымаецца, а ўводзіць Чарняхоўскага ў раман прыйдзецца, без яго не хапала ў творы вельмі важнай дзеючай асобы, якая вызначала рух многіх падзей. Разумеючы, як мала таго, што я ведаў пра Чарняхоўскага, што тут мяне падсцерагае вельмі шмат небяспек, я ўсё ж наважыўся.

На ўсё тое, што ўдалося мне адшукаць пра Чарняхоўскага, патрачана было шмат працы; але я не шкадую: праца гэтая прынесла мне нямала радасці і немалому навучыла мяне. Без вобраза героя раман быў бы, канечне, бядней...

З вялікім хваляваннем і адданасцю пісаў я свой раман. Пяць гадоў працягвалася гэтае нецярплівае, ліхаманкавае гарэнне. Я жыў сваёй кнігай днём і ноччу. Пазней, здаецца, нічога падобнага не было. Можа, усё было так таму, што гэта была першая мая, як мне

здавалася, сапраўдная рэч. Першая вялікая любоў, першая надзея.

Я вельмі верыў у гэтую кнігу, але яна апраўдала мае надзеі толькі часткова. Яна прынесла мне і радасці, і засмучэнні. Я потым не раз вяртаўся да яе, і чым далей адыходзіў ад яе, тым лепш бачыў свае прамашкі.

Яны мелі розныя прычыны. Адны ішлі ад складанасці задачы, якую прыходзілася вырашаць. Вельмі ўжо многа часу і сіл ішло на падрыхтоўку да работы, на вывучэнне таго, пра што трэба было пісаць. Гэтыя нябачныя нікому клопаты забралі нямала сіл, якія патрэбны былі на тое, каб пісаць. У мяне часам проста не хапала дастатковай фізічнай вытрымкі, як у мала трэніраванага спартсмена, не хапала цярпення, каб апрацоўваць, я дапускаў неахайнасці ў мове. Некаторыя недахопы кнігі ішлі ад маёй творчай маладосці: нярэдка адольвала нясмеласць — галоўным чынам, відаць, ад таго, што гэта была першая мая вялікая рэч... Як перашкаджала мне і даўняя слабасць — пісаць карацей, ад гэтага фразы станавіліся рванымі, нязладнымі, дыялогі не разгортваліся. Я імкнуўся часта маляваць людзей і карціны знешне, а не знутры, хоць яшчэ пра раннія мае апавяданні вялікі наш пісьменнік Кузьма Чорны сказаў, што па прыродзе сваёй я — псіхолаг. Толькі некаторыя раздзелы, як, напрыклад, вяртанне Шабуніхі на роднае папялішча, напісаны ў іншай, псіхалагічнай, можна сказаць — лірыка-псіхалагічнай манеры, якая знойдзе працяг у наступных творах. Дарэмна, мне здаецца, я часта стараўся быць спакойным, гнаў усякую пяшчоту, цеплыню... Чаму гэта? Ці не ад жадання быць падобным на некага? Ад недаверу да самога сябе, да сваіх схільнасцей?

Але хоць раман не ва ўсім удаўся, я, паўтараю, не шкадую, што аддаў яму столькі энергіі і працы; ды і ці можна, зрэшты, шкадаваць пра тое, што ты не мог не зрабіць?.. Да таго ж кніга гэтая прынесла мне і багата радасці. Многа шчаслівых гадзін і дзён зведаў я, працуючы над ёю, адчуваючы сябе ў цяжкім, але надзвычай заваблівым плаванні сярод такога шырокага, неспакойнага прастору...

Яна памятная для мяне, гэтая кніга, і таму, што, мабыць, толькі з яе выхадам я адчуў сябе пісьменнікам. Ішло многа пісем ад чытачоў: было відаць, што

кніга патрэбна людзям, што праца не прапала дарэмна.

Раман даў мне адчуць, як многа значыць для людзей пісьменніцкае слова, якая велізарная ў нас, савецкіх пісьменнікаў, грамада чытачоў і якая ўважлівая, спагадлівая яна. Хочацца сказаць добрае слова і пра ўвагу, падтрымку з боку многіх пісьменнікаў: А. Фадзеева, Л. Нікуліна, С. Смірнова, К. Сіманава, Ю. Лукіна. А. Фадзееў прачытаў раман, будучы хворым, разам з пісьмом ён прыслаў экземпляр кнігі са сваімі заўвагамі і парадамі. Гэтыя адзнакі нямала дапамаглі мне не толькі калі я рыхтаваў новае выданне рамана, але і наогул у маёй далейшай рабоце.

Пасля «Мінскага напрамку» я апынуўся нібыта на раздарожжы. Цяжкая работа над раманам так выматала мяне, што не было сілы брацца за вялікую кнігу. Я і думаць не хацеў, што гэта можа здарыцца яшчэ калі-небудзь.

Каля трох гадоў я не пісаў вялікіх твораў. Надрукаваў некалькі апавяданняў, дзве аповесці: «Зямля, якую любіш» і «Дом пад сонцам», дзве п'есы: «Пакуль вы маладыя» і «Дні нараджэння», пастаўленыя ў Мінску тэатрам імя Янкі Купалы.

Тое, што я пісаў у гэтыя гады, магло здацца бессістэмным, вельмі стракатым: мяне як бы кружыла на вялікай вадзе. Але ва ўсім гэтым былі свае заканамернасці. Стракатасць пісанняў маіх была выклікана часткова тым, што за гады работы над раманам узніклі новыя задумы, якія хацелася рэалізаваць. Захапляла, вядома, і зваблівая магчымасць, якая паявілася пасля доўгай работы над раманам,— пісаць кожны раз новае, адкрываць новыя характары, новыя пласты жыцця. Тым больш што жыццё навокал было багатае вельмі цікавымі з'явамі, многае, вельмі многае хацелася ўхапіць, замаляваць, даць доўга жыць у апавяданнях, аповесцях. Здаецца, ад гэтага і нарадзілася жаданне, асабліва адчувальнае пасля работы над раманам,— угнацца за хуткаплынным жыццём у кароткіх апавяданнях, лаканічных аповесцях, п'есах.

Хоць я пісаў у гэтыя гады без ранейшай адданасці і засяроджанасці, хоць рэчы мае сустракалі прыём даволі стрыманы, гэта быў вельмі важны для мяне час, час пошукаў, роздуму, расчараванняў, самапазнання. Я спрабаваў цвяроза ўзважыць усё, што

зрабіў да гэтага часу, высветліць прычыны сваіх памылак і промахаў. Можа быць, гэта прыходзіла сталасць: я раптам адчуў, што магчымасці мае як мастака не такія шырокія, як мне здавалася раней па маладосці; што ў тым, чым надзяліла мяне прырода, ёсць не толькі добрыя якасці, але і слабасці. Я ўбачыў, што і ў выбары тэм, і ў спосабе паказу жыцця я хацеў здавацца як бы больш сталым, больш значным — як юнак, які хоча выглядаць старэйшым. Не верыў таму, што было ў мяне, не давяраў сабе.

Тады адкрылася мне тая простая ісціна, што калі «стыль — гэта чалавек», то каб стыль мастака праявіўся больш выразна, своеасаблівá, трэба, каб выразна праявілася асоба чалавека, яго светаадчуванне, яго погляды, яго матэрыяльны і духоўны вопыт. Чалавек не толькі не павінен хаваць сябе, а, наадварот, адкрывацца ва ўсёй шырыні, глыбіні, шчырасці. Не трэба здавацца ні горшым, ні лепшым, чым ты ёсць, трэба быць самім сабою. Усякая штучнасць будзе ў шкоду. Ніякі фальш не пройдзе без следу.

Гэтыя думкі прывялі, натуральна, да вываду, што ўсе загадкі майстэрства залежаць урэшце ад аднаго — ад асобы мастака. Багацце свету, багацце майстэрства пісьменніка — у самой яго асобе. Каб высокае было мастацтва, трэба, каб высокай была асоба творцы. Усё гэта «адкрыцці» даўнія, але што зробіш: да старых ісцін прыходзіцца дабірацца самому, сваёй дарогай. Затое няма цаны нават самаму малому, самаму сціпламу асабістаму вопыту!

У гэтыя гады я не раз вяртаўся да напісаных сваіх рэчаў, перачытваў, правіў нанова. Працуючы над старымі рэчамі, я адчуў немалое задавальненне: я бачыў, якая карысная для іх гэтая работа! Але карысная гэтая работа была і для мяне: гэта была вучоба, усеагульная пераацэнка зробленага, праз якую праходзіла ўсё напісанае ад першых рэчаў да апошніх. Я сядома браў на ўзбраенне каштоўны вопыт, набыты ў апавяданні «У завіруху», у аповесці «Гарачы жнівень», у лепшых раздзелах рамана; у п'есах, вопыт работы над якімі вельмі дапамог прозе. Небескарыснай была і работа над апошнімі аповесцямі «Зямля, якую любіш» і «Дом пад сонцам».

Так у мяне складвалася ўяўленне пра тое, як пісаць, уяўленне пра мой стыль. У выніку гэтага розду-



Іван Мележ дзеліцца вопытам з маладымі пісьменнікамі на нарадзе ў Каралішчавічах. *1969*



Каравай дружбы.
На пярэднім плане пісьменнікі Закі Нуры, Іван Мележ,
Уладзімір Карпаў, Алесь Бажко, Янка Казека. *1972*

му і паявіліся два апавяданні, якія як бы падводзілі вынік маім пошукам: «Спатканне за горадам» і «У гарах дажджы». Абодва апавяданні напісаны ў манеры ўважлівага псіхалагічнага даследавання, з разгорнутымі характарыстыкамі, лірычна афарбаваным пейзажам. Наогул, лірычны пачатак вельмі шырока ўвайшоў у апавяданні. На гэта я раней звычайна не наважваўся.

У 1956 годзе я пачаў работу над новай вялікай кнігай-раманам «Людзі на балоце».

У рамана гэтага даволі складаная перадгісторыя. Яшчэ ў той час, калі я пачынаў работу над «Мінскім напрамкам», захацелася мне напісаць кнігу пра Палессе, пра маю родную зямлю. Нейкі час я нават вагаўся, якой з дзвюх задум аддаць перавагу. Урэшце я ўзяўся за «Мінскі напрамак», рашыўшы, што кнігу пра Палессе напішу потым, адразу пасля заканчэння ваеннага рамана.

Увесь час, пакуль я працаваў над «Мінскім напрамкам», жыла ўва мне, хвалявала мяне задума палескай кнігі, якую я ўсё адцягваў. Не адразу пачаў я пісаць яе і пасля таго, як кніга пра вайну была закончана. Прычынай гэтага была, вядома, і тая акалічнасць, што работа над вялікай рэччу выматала мяне. Але была і другая, не менш важная прычына: з часам мянялася маё ўяўленне пра кнігу. Задуманая спачатку як невялікая, лаканічная аповесць аб меліяратарах пасляваенных гадоў, аб пераўтварэнні прыроды Палесся, кніга гэтая ў маім уяўленні ўсё больш пашыралася, ускладнялася, уцягвала ў сябе праблемы і лёсы, якія мне спачатку і не бачыліся ў ёй.

Я пачаў пісаць з перадваеннага часу, але ледзь закончыў раздзельчык, вымушаны быў спыніцца. Пакутлівая няўпэўненасць у тым, што рэч задумана добра, найлепшым чынам, яшчэ доўга стрымлівала мяне.

Урэшце я вымушаны быў адмовіцца і ад гэтай задумы і пайсці далей, да вытокаў жыцця, пра якое хацелася расказаць. Так, нарэшце, вызначыўся характар рамана «Людзі на балоце», яго змест, яго сэнс.

Даволі складанымі былі і пачуцці, з якімі я працаваў над новай кнігай. Здаецца, ніколі не было мне такое знаёмае і дарагое тое, пра што я пісаў, як цяпер.

Мне амаль нічога не трэба было вывучаць, выпытваць, я амаль усё ведаў — за выключэннем, можа, нейкіх спецыфічных дэталей, фактаў, якія трэба было ўдакладніць, каб часам не падвяла памяць. Я ведаў усё сур'ёзна, у цэлым — і што не менш важна, у дробных і найдрабнейшых, часам нечаканых падрабязнасцей, у тонкіх, ледзь прыкметных, часта вельмі складаных сувязях. У тых падрабязнасцях і сувязях, якія амаль немагчыма вывучыць, але якія застаюцца ў памяці аб перажытым. Я ведаў, не баюся сказаць, многа. Так многа, каб не адчуваць нідзе недахопу ў «матэрыяле».

Багацце «матэрыялу» дало мне магчымасць карыстацца ім з рэдкай свабодай. Я шырока бачыў поле, па якім ішоў, адчуваў у ім сябе і работнікам, і гаспадаром. Але, што асабліва важна, поле гэтае я не толькі ведаў, я любіў яго. Таму што поле, па якім я ішоў, гэта было маё поле. Гэта было жыццё блізкіх мне людзей і маё жыццё.

Я пісаў пра іх і адначасова пра сябе. Гэта было, думаецца, добрае ўзаемнае яднанне герояў, часу і аўтара. Мне такія дарагія былі прыкметы таго нявыдуманага жыцця, што я, наперакор звычаю і з пэўнай доляй рызыкі, захаваў у рамане ўсе дарогі, лясы і пералескі, назвы некаторых вёсак і нават імёны некалькіх, праўда другарадных, герояў. Я не выдумаў поле, пра якое марыў Васіль, і цагельню, каля якой ён біўся з Глушакамі. Ёсць у сапраўднасці (ужо амаль зарасло) возера, у якім намервалася ўтапіцца Хадоська; і дарога, па якой Ганна ехала на кірмаш, і плошча, дзе гэтыя кірмашы адбываліся.

Вобразы раманаў «Палескай хронікі», безумоўна, збіральныя. Мне робіцца крыху няёмка, калі паведамляюць пра наіўныя пісьмы, якія іншы раз прыходзяць у сельсавет на адрас Васіля і Ганны, або пра школьнікаў-«следапытаў», якія ў дні летніх канікулаў часам заглядваюць у тыя мясціны. Відаць, работнікаў сельсавета раздражняюць гэтыя наіўныя пісьмы і школьнікі, якія «паверылі» аўтару.

Васіль і Ганна, Яўхім і Глушак «выдуманы». Я мог бы назваць людзей, якія дапамаглі мне дадумаць, напісаць іх, але гэта не мяняе галоўнага. У рамане — выдуманыя, літаратурныя вобразы. І ўсё ж,— можа, гэта і здасца дзіўным — я і сам, ведаючы ўсё, неяк не хачу згадзіцца, што героі мае — толькі літаратура.

Проста літаратурныя вобразы. Створаныя маім вымыслам, яны нечакана сталі жыць сваім незалежным жыццём і для мяне зрабіліся жывымі, як і для наіўных чытачоў.

Я думаю, што гэта здарылася таму, што яны «выдуманы» з жывога жыцця; таго жыцця, якое — я добра помню — было папраўдзе. Было такім, якім я хацеў зноў ажывіць яго ў маёй кнізе,— жыццём з цяжкаю, да знямогі, працай, бясконцымі, да атупеласці, клопатамі, з ціхімі вячоркамі і буйнымі, п'янымі вяселлямі. Яны выраслі з таго жывога жыцця, з падобных на іх людзей, якія ў тым жыцці былі, і яны не могуць быць проста літаратурай, аўтарскім вымыслам. Яны — жывыя людзі.

Адтаго, што я пісаў пра родныя, любімыя мясціны, пра час, які для мяне быў звязаны з успамінамі маленства, працаваў я з нейкім асаблівым юначым захапленнем, з чыстай, надзвычайнай радасцю. Год за годам, не згасаючы, не слабеючы, жыло ўва мне гэтае дабрае, моцнае захапленне, якое клікала да стала, давала адчуванне сілы ў рабоце, рабіла працу светлай, святочнай.

Гэта была кніга, якую я не мог не напісаць.

Зазначаю апошнюю акалічнасць, акрамя ўсяго іншага, таму, што абстаноўка ў той час, калі ствараўся раман, не вельмі спрыяла падобным творам. Ледзь не на кожным сходзе і пасяджэнні ў нашым Саюзе пісьменнікаў, у газетах нязменна гучаў адзін заклік — усімі спосабамі імкнуцца паспяваць за сучаснасцю. Сучаснасць, ці лепш сказаць — сённяшні дзень па сутнасці падаваліся як абавязковы і адзіна годны пісьменніка клопат. Фактычна ўсё, што было звязана з днём учарашнім, не толькі разумелася, але і аб'яўлялася проста справай непатрэбнай.

Помню, калі на пытанні, пра што мой раман, я казаў, што ён пра Палессе і пра дваццатыя гады, на мяне глядзелі недаўменна, здзіўляліся або — у лепшым выпадку — далікатна маўчалі. Першая ацэнка ўжо надрукаванага рамана, якая прагучала з трыбуны Саюза пісьменнікаў, таксама не ўхваліла: кніга добра напісана, але, на жаль, не пра тое, пра што трэба было б пісаць...

Неяк так атрымалася, што і першы, і другі мой раманы, калі верыць меркаванням некаторых заканадаў-

цаў літаратуры, паявіліся не ў пару. Меркаванні гэтыя, на шчасце, не пацвердзіліся, ды і самі суддзі, наколькі мне вядома, потым не трымаліся іх, але не магу сказаць, што гэтыя погляды ніяк не ўплывалі тады на мой настрой.

Я не збіраюся спрачацца з тымі, хто лічыць, што літаратура павінна імкнуцца спасцігаць рух жыцця па гарачых слядах. Гэтая задача — сярод іншых — заўсёды стаяла перад літаратурай. Але ўзаемаадносіны жыцця і літаратуры, па майму перакананню, куды болей разнастайныя. І вельмі разнастайнае само паняцце сучаснасці літаратуры, сучаснага гучання твора. Не змяншаючы значэння актуальнасці матэрыялу, тэмы, я перакананы, напрыклад, у тым, што сучаснасць твора вызначае, перш за ўсё, ідэя, думка твора, а гэта значна пашырае паняцце сучаснасці твора. Але, бадай, тут не месца паглыбляцца ў гэтую вялікую праблему. Хацеў бы толькі сказаць, што ў меркаваннях аб вартасцях і недахопах твора добра было б заўсёды помніць пра асобу аўтара. Пра яго магчымасці, яго вопыт, яго сімпатыі. Нялёгкі вопыт двух раманаў цвёрда пераканаў мяне ў тым, што з пісьменніцкай задумай — як і з яго сэрцам — абыходзіцца трэба асцярожна, беражліва. Умець адчуваць тое, што дарага пісьменніку, да чаго ён гатовы, умець падтрымаць усё добрае ў ім.

Думаецца, трэба ўмець бачыць літаратуру, яе задачы і шляхі шырока. На жаль, шырыні разумення задач нашай беларускай літаратуры ў той час, падобна, у таго-сяго не хапала.

Інакш цяжка растлумачыць, як магло ўзнікнуць сумненне ў правамернасці паяўлення ў нас некалькі гадоў таму назад шэрагу кніг пра блізкае мінулае. Мы ж вярталіся да мінулага зусім не для таго, каб паўтарыць тое, што гаварылі другія. Будучы ў нечым падобнымі па матэрыялу на тыя кнігі, якія пісалі да нас Я. Колас, Ц. Гартны, нашы кнігі разам з тым прыкметна адрозніваліся ад іх. Мы спрабавалі зрабіць новы крок уперад і ўглыб. Час не прайшоў дарэмна: ён адкрыў многа такога, чаго не бачылі тыя, хто пісаў раней. Час патрабаваў перагледзець многае нанова.

Мне здаецца, раман мой мог быць небескарысны для нашай літаратуры яшчэ і таму, што гэта адна з нямногіх кніг пра Палессе. Вялізны і найцікавейшы

край — Палессе — па дзіўнай волі лёсу так мала вядомы літаратуры. Славутыя, цудоўныя «Паездка на Палессе» І. Тургенева, «Алеся» А. Купрына — гэта амаль усё, што ёсць пра Палессе ў рускай класіцы. Першая вялікая работа пра беларускае Палессе — трылогія Я. Коласа — кніга яркая, таленавітая — расказвала пра старое, дарэвалюцыйнае Палессе, і напісана яна была як бы збоку, убачана вачамі заезджага настаўніка Лабановіча. Мой раман, пры ўсіх яго недахопах, быў адной з першых спроб паказаць Палессе знутры, у барацьбе адвечнага і новага, у вытоках нашых дзён.

Трэба сказаць, далейшы лёс рамана «Людзі на балоце» склаўся надзіва шчасліва. Кніга прыйшлася па сэрцу чытачам, была прыхільна сустрэта крытыкай, беларускай і саюзнай. Яна перакладзена на іншыя мовы, па ёй пастаўлены тэлефільм і спектакль.

Новы раман «Подых навальніцы» быў у многім нечаканы для мяне. Яшчэ калі пісаў «Людзей на балоце», я адчуў патрэбу выйсці з Куранёў, глянуць на іх збоку, убачыць іх сярод вялікага свету. Трэба было і Васіля, і Ганну, і іншых маіх герояў паказаць у віраванні гэтага вялікага свету, паказаць і таму, што толькі так можна было вызначыць іх сапраўднае месца, і таму, што лёс іх залежаў не толькі ад іх саміх, але і ад гэтага свету.

Жыццё не першы год упарта і бязлітасна ламала патрыярхальную замкнутасць, уцягвала ў неспакойны гістарычны працэс тысячы Куранёў, мільёны працаўнікоў, падобных да Васіля. Але, бадай, ніколі ломка спрадвечных законаў і парадкаў у вёсцы не адчувалася так моцна, як на шырокай строме вялікага пералому, увосень дваццаць дзевятага і ў пачатку трыццатага гадоў. Лёс аднаго чалавека, можа быць, ніколі раней, з часу рэвалюцыі, не адчуваўся ў такой меры часткай лёсу народнага.

І маленькі марскі заліўчык, прарэзаны вадой у скалах,— тое ж мора. Але толькі выгляд усёй марской прасторы дае поўнае, аб'ёмнае ўражанне мора. Можна было б, вядома, круты паварот у вёсцы паказаць і на лёсе некалькіх герояў з Куранёў; не магу не пагадзіцца з таварышамі, якія раілі мне зрабіць так. Дарэчы, гэта значна аблегчыла б і маю задачу. Але я, паглы-

біўшыся ў новы раман, адчуў неадольную патрэбу ўвесці ў яго шырокі свет жыцця.

Каб паказаць жыццё як складаны гістарычны паток, у якім віруюць розныя плыні, я павінен быў паказаць яго з розных пунктаў, на розных узроўнях. Так у раман «Подых навальніцы» ўвайшлі раздзелы пра местачковы побыт, пра дзейнасць раённых кіраўнікоў, пра чыстку партыі, пра сесію ЦВК БССР, што абмяркоўвала пытанні калектывізацыі беларускай вёскі. Імкненне паказаць жыццё шырока, разнастайна патрабавала вывесці на першы план асобу, у якой маглі б сканцэнтравацца супярэчлівыя павевы паваротнага часу. Такой асобай стаў старшыня райвыканкома Апейка, які быў ледзь намечаны ў «Людзях на балоце»,— вобраз надзвычай важны для мяне.

Цяпер, калі работа над раманам адышла ў мінулае і я магу спакойна ўзважыць усё, у мяне ўмацавалася перакананне: гэта трэба было зрабіць. Не гаворачы ўжо пра тое, што час быў такі значны і ў ім праглядаецца так многа істотнага для разумення руху гісторыі, што даследаванне яго само па сабе патрэбна было «хронікі»,— шырокі малюнак суровага гэтага часу вельмі карысны, неабходны аказаўся для герояў кнігі. Хоць некаторыя і прытым — галоўныя героі ў «Подыху навальніцы» фармальна як быццам мала змяніліся (Васіль, напрыклад, усё яшчэ пакутуе ў непераадоленых супярэчнасцях), яны, мне думаецца, значна выраслі якасна. Яны сталі людзьмі шырокага свету. Яны сталі часткай гісторыі.

На гэтым мне хочацца спыніць разважанні пра апошнія свае раманы. Скажу толькі ў заключэнне, што абедзве кнігі мне дарагія, што ім я аддаў, бадай, больш, чым другім. Больш у іх перажытага мной, запаветнага. Я імкнуўся быць у іх гранічна шчырым і праўдзівым. Кнігі гэтыя ўвабралі не толькі мой жыццёвы, але і творчы вопыт. Я хацеў дасягнуць у іх сінтэзу, сплаву ўсяго таго карыснага, што ўдалося здабыць за гады літаратурнай працы.

Не мне меркаваць пра тое, наколькі гэта ўдалося. Мне толькі здаецца, што я ўсе гады ішоў да іх, да гэтых кніг. Мне здаецца, што самае важнае ў жыцці пісьменніка — гэта спазнаць, у чым ты моцны, у чым слабы, як ты можаш лепш выказаць сябе, што ты змо-

жаш даць людзям. Самае важнае — знайсці сваё месца ў жыцці, сваю дарогу, спазнаць, знайсці сябе.

Гэта быццам так проста, але на гэта нярэдка ідуць гады. Іншы раз здараецца і так, што чалавек памірае, не раскрыўшы свайго таленту, не знайшоўшы сябе.

Калі я азіраюся назад, думаецца са смуткам: як многа праблукаў я за гэтыя два дзесяткі гадоў, колькі ўпусціў, недарабіў. Як многа і наколькі лепш я зрабіў бы, калі б напачатку бачыў вастрэй. Але, можа, гэта немінуча. Можа, у гэтым і ёсць галоўная цяжкасць творчасці і яе хараство. Шукаць, памыляцца, сумнявацца, каб усё ж знайсці...

*1970*

## ДА ПЫТАННЯ АБ ПРАВОБРАЗАХ

Некалькі дзён назад я гутарыў з аспіранткай з Гомеля, якая толькі што вярнулася з маіх родных мясцін. Па яе словах, яна ездзіла туды, каб убачыць сваімі вачамі тыя самыя Курані, пра якія я пісаў у «Палескай хроніцы», паглядзець, якія яны цяпер, пазнаёміцца з тымі, хто пачынаў ладзіць новае жыццё у Куранях, і з тымі, хто жыве там цяпер.

Прызнаюся шчыра, я адгаворваў яе ад гэтай паездкі, адгаворваў шукаць прамых прататыпаў герояў маіх кніг.

Мяне не пакідае адчуванне, што ў такіх выпадках пабочны чалавек урываецца ў галіну запаветнага, дзе ўсё дарагое і складанае, дзе не ўсё можна вытлумачыць, у свет, амаль інтымны для пісьменніка. Да таго ж мне здаецца, што для літаратара правобраз — часцей за ўсё толькі імпульс, толькі іскрынка, з якой трэба распаліць агонь. Калі б гэта было інакш, літаратурная справа была б вельмі простай. Людзі, пра якіх я пішу і якія сталі героямі маіх твораў,— гэта ж і я сам, іх жыццё — гэта і маё жыццё. Я пішу пра іх і адначасова пра сябе...

З трывогай распытваў я аспірантку пра вынікі паездкі. Яе «справаздача» трохі супакоіла мяне. Адчуваю, недарэмна з'ездзіла, многа ўбачыла. Але ўсё ж... Ах, гэтае абавязковае жаданне знайсці на зямлі чалавека, пра якога напісаў аўтар!..

Яна расказвае пра знаёмых мне людзей, і раптам яе расказ пачынае мяне моцна хваляваць: яна ўспамінае дарагое мне прозвішча — Бельскі.

Нічыпар Ануфрыевіч Бельскі жыве ў маёй роднай вёсцы Глінішчы. Я памятаю яго з тых даўніх пор, калі ён прыехаў да нас у толькі што арганізаваны калгас. Ён для мяне — гэта маленства і юнацтва, тое дарагое, чым выкліканы абодва раманы. Старшыня калгаса, по-

тым сельсавета, сакратар райкома, з якім мне часта даводзілася сустракацца, калі перад вайною я працаваў у райкоме камсамола. Ён рэкамендаваў мяне ў партыю. Ён уручыў мне кандыдацкую картку. Натуральна, знаёмства з гэтым значным чалавекам не магло не аказаць свайго ўплыву, калі ствараліся вобразы тых, на чые плечы лягла немалая цяжкасць пераўтварэння жыцця ў глухім палескім кутку, у тым ліку і вобраз старшыні валвыканкома Апейкі.

Аспірантка ў пошуках Васіля і Ганны звярнулася за дапамогай да Нічыпара Ануфрыевіча.

Што ж ён сказаў?

— Такіх Васілёў і Ганн тут у кожнай вёсцы многа.

Мяне гэтыя словы вельмі ўзрушылі. Яны дарагія мне. Яны падтрымалі тое самае важнае, да чаго я імкнуўся: у адзінкавых лёсах герояў расказаць лёс многіх, лёс народа.

Ёсць, вядома, правобразы ў многіх маіх герояў, але складаны шлях ад правобраза да вобраза. Часамі за адным вобразам — колькі тваіх знаёмых!

Не хочацца расшыфроўваць прататыпаў і з той прычыны, што многія з іх жывуць. Магу сказаць, між іншым, што ёсць некалькі герояў, якіх я ў поўным сэнсе слова перанёс на старонкі кнігі з жыцця і назваў сваімі імёнамі. Гэта Зайчык, Андрэй Руды, Алёша Касцючэнка. Андрэй пастарэў, але і па гэты дзень працуе ў калгасе. Алёша Касцючэнка не вярнуўся з вайны. Ён загінуў пры вызваленні Польшчы.

Цікава, што адзін з праніклівых, сур'ёзных крытыкаў папракаў мяне за тое, што гэтыя мае героі быццам бы літаратурнага паходжання...

Калі ўжо абавязкова трэба знайсці прататыпы, паколькі аб гэтым узнікла размова, то павінен сказаць: у маіх кнігах ёсць сапраўды адзін надзейны, безумоўны правобраз — тое жыццё, якое некаторыя амаль забылі, а многія, хто маладзейшы, і зусім не ведаюць. Вось гэты правобраз быў заўсёды перада мной, і я заўсёды адчуваў яго ўладную сілу над сабою. Я імкнуўся намаляваць яго, вобраз таго жыцця, ва ўсіх фарбах, ва ўсёй супярэчлівасці, ва ўсёй няпростай праўдзе. Імкненне гэтае і вызначала выбар герояў, характар іх тыпізацыі, узаемаадносін паміж імі.

Памяць пра тое жыццё доўгія гады трывожыла мя-

не: невялікія вёсачкі ў акружэнні балот, цеснаватыя пакрыўленыя хаціны, стрэхі якіх трывала аздоблены пластом зялёнага моху. Вечарамі — лучына. Выхад у вялікі свет для большасці заканчваўся паездкай у мястэчка Юравічы. І самае страшнае — вечная турбота пра кавалак хлеба...

Іншы раз, бывала, я думаў, ці недарэмна на многія гады звязаў сябе з тымі ўжо мінулымі днямі. Аднак кожны раз я ўсё больш пераконваўся, што гэта як бы самім лёсам наканавана мне, каму выпала быць сведкам тых крутых змен, ломкі жыцця, нараджэння новага чалавека,— расказаць людзям пра ўсё, што тады адбывалася. Я адчуваю, што гэта, бадай, асабліва патрэбна і важна для моладзі, таму што нельга зразумець добра сучаснае, спасцігнуць значнасць і веліч будучага, не ведаючы вытокаў мінулага. Не ведаючы, з чаго мы пачыналі, праз што мы прайшлі...

Некалькі год таму назад мне давялося гутарыць з адным са сваіх герояў, адным з Васілёў. Мяне ўразілі некалькі слоў, пра якія я не магу змоўчаць тут.

— Вот, разумееш,— гаварыў ён,— як цяжка было ўсё ламаць тады. Саладзейшага за тое жыццё, здавалася, не будзе. А цяпер, яй-богу, як успомню, страшна робіцца. Як бедавалі, ірвалі жылы ад цямна да цямна. Каб жыць галадаючы...

Яму, як і многім героям маіх раманаў «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», давялося прайсці вялікую цяжкую дарогу. Але яны прайшлі і азіраюцца ўжо — як на далёкае, незваротнае.

Ёсць у маёй вёсцы цяпер Васіль, зусім нелітаратурны, зямны. Старшыню калгаса ў родных Глінішчах таксама завуць Васілём — Васілём Міхайлавічам Гапоненкам. Гэта параўнаўча малады чалавек, які добра ведае сваю справу. У яго вялікі практычны вопыт і вышэйшая адукацыя, ён закончыў сельскагаспадарчую акадэмію. Цяперашні Васіль кіруе вялізнай і складанай гаспадаркай.

Мне здаецца, гэтае супастаўленне двух Васілёў не выпадковае, сімвалічнае, поўнае глыбокага сэнсу.

*1970*

# ПРА ГЕОРГІЯ МАРКАВА

Кнігі, як людзі: адны, ледзь дакрануўшыся да цябе, знікаюць назаўсёды, другія, сустрэўшыся выпадкова, уваходзяць у тваё жыццё і застаюцца ў ім.

Выпадкова сустрэліся мне «Строгавы» тады яшчэ амаль не вядомага сібірскага пісьменніка Георгія Маркава. Сустрэліся ды так і засталіся ў сэрцы, адкрыўшы невядомы, незвычайны свет, узрадаваўшы і ўстрывожыўшы надоўга. І па сённяшні дзень «Строгавы» ў маёй бібліятэцы — жаданы, даўно прывычны старажыл.

Потым я нязменна і зацікаўлена сачыў за ўсім, што выходзіла з-пад пяра пісьменніка, што хутка набываў шырокую вядомасць. «Соль зямлі», «Бацька і сын», напісаныя ўслед за «Строгавымі», хвалявалі тым жа багаццем фарбаў, жывым рознагалоссем гукаў, харастcovом сапраўднага жыцця, праўдай моцных чалавечых характараў.

Георгію Маркаву выпала шчасце нарадзіцца ў своеасаблівым, маляўнічым краі, у яго з маленства свая зямля, свае людзі, свой непаўторны вопыт. Гэты незаменны, найважнейшы вопыт, улюбёнасць у родную зямлю і яе людзей дапамаглі маладому пісьменніку амаль адразу ж знайсці сваю мастакоўскую своеасаблівасць, сваё аблічча. Пісьменнік, па сутнасці, «увёў» у вялікую літаратуру сваю зямлю, сваіх людзей. І хоць час, пра які ён пісаў, быў у многім не адзін раз даследаваны ў літаратуры, жывое веданне роднай зямлі і яе людзей дапамагло яму вялікую карціну рэвалюцыі і савецкага абнаўлення свету дапоўніць сваімі фарбамі, зрабіць свае адкрыцці.

Мне заўсёды па душы была сталая годнасць, з якой вёў размову са светам Георгій Маркаў: за яго знешне няяркай, спакойнай манерай пісьма заўсёды адчувалася важкасць пісьменніцкіх імкненняў, веданне жыцця

і людзей. Відаць, захоплены тым, што належыць расказаць, заклапочаны тым, каб зрабіць гэта сур'ёзна, ён працаваў нязменна з той трывалай грунтоўнасцю, якая заўсёды была блізкая лепшай частцы рускай літаратуры.

Мне па душы спакойная ўпэўненасць, з якой Маркаў-пісьменнік пацвярджае ад кнігі да кнігі сваю адданасць выпрабаванаму эпічнаму жанру, які той-сёй з нецярплівых прыхільнікаў новых форм часамі гатовы быў амаль што адлучыць ад сучаснай літаратуры. Эпічны размах, уменне бачыць жыццё чалавечае як частку вялікай гісторыі, глыбокі гістарызм у разуменні чалавечага быцця, на мой погляд, складаюць вельмі прывабную і моцную якасць яго раманаў. Мяркуючы па тым, як разгортваецца сёння яго «Сібір», пісьменнік не збіраецца і далей збочваць са шляху грунтоўна эпічнага апавядання.

Мінулым летам я ўпершыню ўбачыў Сібір сваімі вачамі. Паездка па цюменскай зямлі, незабыўнае плаванне па Іртышы і Обі былі адметныя тым, што нашым праваднікам быў Г. Маркаў. Мы былі недалёка ад яго мясцін, ад услаўленага ім Васюгана, і было зразумела, чаму з такім хваляваннем глядзеў на знаёмыя таежныя краі Георгій Макеевіч, чаму ён з такім натхненнем гаварыў пра іх мінулае і будучае. Але тады ж мне стала больш відавочным і тое, адкуль у пісьменніка такая ўстойлівая прыхільнасць да эпасу, да гісторыі.

Здаецца, сама сібірская шыр роднай зямлі, дужасць яе крутой імклівай гісторыі ўладна вызначылі ў пісьменніка эпічнае, буйнамаштабнае адчуванне прасторы і часу...

Там, у паездцы па Сібіры, я ўпершыню блізка пазнаёміўся з Маркавым-чалавекам. Добра запомніліся яго незвычайна добразычлівая і дапытлівая цікаўнасць да людзей, сардэчная павага да іх нялёгкага, гераічнага жыцця. Кранулі яго сціпласць і далікатнасць у адносінах з таварышамі па паездцы, добрая яго чуласць. Гэтыя чалавечыя якасці Георгія Макеевіча дапамаглі мне зразумець вытокі таго, што неаднойчы здзіўляла мяне раней: адкуль у яго такое веданне нашай шматаблічнай, жывой літаратуры, уменне заўважаць у яе складаным руху многія і многія з'явы і лёсы...

Вось і цяпер я быццам бачу яго дужую постаць на палубе цеплахода, у водбліскак зіхатлівай пад сонцам вады. Бачу, як мільгаюць перад ім, таксама зіхатлівыя, іртышскія ці обскія берагі. Востры позірк засяроджаных, дапытлівых, характэрна, па-маркаўску, прыжмураных вачэй. Бачу ўсё зноў і думаю з павагай: як ён, аддаючы так многа часу і сілы рабоце ў Саюзе пісьменнікаў СССР, займаючыся іншымі няпростымі грамадскімі справамі, разам з тым можа так сур'ёзна працаваць у літаратуры?

Сібірскі моцны характар, жыццёвая загартоўка дапамагаюць, ці што?

*1971*

## РАМАНЫ, АПОВЕСЦІ, АПАВЯДАННІ

Да нашага з'езда беларуская проза прыйшла са значнымі, каштоўнымі здабыткамі.

Аглядваючы тое, што зроблена празаікамі за гэты час, мы павінны, перш за ўсё, адзначыць, што даследаванне жыцця народа нашай прозаю вялося шырокім фронтам.

Далейшае развіццё атрымала ў беларускай прозе тэма рэвалюцыйнай пераемнасці пакаленняў у барацьбе за лепшую будучыню, згуртаванасці народа вакол партыі ў барацьбе за ўстанаўленне Савецкай улады, як улады, якая адпавядае самым глыбокім спадзяванням народа,— тэма рэвалюцыі, Вялікага Кастрычніка. Асаблівай цікавасці празаікаў да гэтай тэмы спрыяла тое, што ў справаздачным перыядзе мы адзначылі гістарычныя даты 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі і 50-годдзя ўстанаўлення Савецкай улады ў Беларусі.

Рэвалюцыі, Кастрычніку прысвяцілі свае творы С. Грахоўскі — аповесць «Рудабельская рэспубліка», І. Шамякін — кінааповесць «Эшалон ідзе ў Германію», І. Гурскі — раман «Вецер веку». Асабліва трэба адзначыць тут аповесць С. Грахоўскага, якая заваявала прыхільнасць у шырокага чытача, выйшла з поспехам на сцэну тэатра і якая засведчыла, што ў беларускую прозу ўвайшоў стала яшчэ адзін таленавіты празаік.

Новымі творамі прозы ўзбагацілася беларуская Ленініяна. Беларускія пісьменнікі ў гэтыя гады, калі ўсё чалавецтва адзначала 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна, з хваляваннем і натхненнем працавалі над тым, каб разам са сваімі таварышамі, якія працавалі ў іншых жанрах, разам з пісьменнікамі іншых рэспублік і краін увасобіць у мастацкіх творах рысы тытанічнага вобраза Ільіча, агульнымі намаганнямі вырашыць

тую вялікую задачу, пра якую калісьці сказаў савецкі паэт: «...Века уж дорисуют, видно, недорисованный портрет».

Імкненнем дапоўніць, дамаляваць «ленінскі партрэт» адзначаны творы Івана Шамякіна («Лёс майго земляка»), Васіля Хомчанкі, Паўла Ткачова.

З творамі пра рэвалюцыю і Леніна цесна звязаны творы, што расказваюць пра ліхое мінулае нашага народа, яго імкненне да барацьбы з сацыяльным і нацыянальным уціскам, яго нялёгкую, гераічную барацьбу. З гэтых твораў варта адзначыць аповесць аднаго са старэйшых беларускіх пісьменнікаў Алеся Якімовіча «Канец сервітуту», трылогію Міхася Машары «Крэсы змагаюцца», «Сонца за кратамі» і «Лукішкі».

Трылогія М. Машары стала самай буйной пасля эпапеі П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» спробай намаляваць драматызм становішча часткі нашага народа, гвалтоўна адарванага ад сацыялістычнай Радзімы, мужнасць і самаадданасць лепшых сыноў і дачок Заходняй Беларусі ў рэвалюцыйным змаганні з белапанскім уціскам. У аснове трылогіі М. Машары ляжыць вялікі жыццёвы матэрыял, добра вядомы аўтару на ўласным вопыце, што дапамагло стварыць нямала праўдзівых вобразаў і жывых малюнкаў.

Твор М. Машары не пазбаўлен недахопаў творчага плана, у ім адчуваецца нявопытнасць аўтара ў стварэнні вялікіх палотнаў: неабавязковыя эпізоды, кампазіцыйная рыхласць, нязладжанасць, схематызм асобных вобразаў, ёсць у ім заганы ў паказе некаторых гістарычных з'яў, дзе адчуваецца суб'ектывізм аўтара, дзе з ацэнкамі аўтара можна было б паспрачацца. Твор гэты, трэба спадзявацца, будзе падрабязна і ўсебакова разгледжаны нашай крытыкай, тут мы вымушаны абмежавацца адно агульнай ацэнкай трылогіі — трылогія М. Машары, на наш погляд, цікавая і ў цэлым, бясспрэчна, станоўчая з'ява ў нашай прозе.

У гэтыя гады ў нашай прозе ішла далейшая распрацоўка таго гістарычнага перыяду ў жыцці народа, які адзначаны станаўленнем, умацаваннем новых, савецкіх, адносін між людзей, узмацненнем новай, савецкай, маралі, фарміраваннем савецкага чалавека. З твораў гэтага рада трэба найперш адзначыць апавяданні Я. Скрыгана, цыкл з чатырох аповесцей Алены Васілевіч і другі раман Міколы Лобана «Гарадок Устронь».

Творы Я. Скрыгана цікавыя жывымі назіраннямі сучасніка гістарычных падзей і пошукамі ў галіне формы. Цыкл аповесцей Алены Васілевіч — «Расці, Ганька», «Доля цябе знойдзе», «Новы свет», «Пачакай, затрымайся...» — вынік шматгадовай працы таленавітага празаіка. Знешне вельмі простыя па форме і па жыццёваму матэрыялу, аповесці Алены Васілевіч радуюць шчырасцю, хараством маладых герояў, што глядзяць на свет чыстымі, поўнымі надзей вачамі. Праз прываблівых сваіх герояў пісьменніца праўдзіва, замілавана паказала хараство нашага савецкага жыцця ў яго простых, натуральных праявах, станаўленне новага маладога героя — маладога савецкага чалавека.

Непасрэднасць, шчырасць, тэмпераментнасць у паказе жыцця і людзей — моцныя якасці тэтралогіі пісьменніцы.

Сур'ёзны, праўдзівы твор напісаў Мікола Лобан — раман «Гарадок Устронь». Гэты твор, бясспрэчна, з'яўляецца поспехам пісьменніка, новым яго крокам пасля папершага вядомага рамана «На парозе будучыні». Поспех пісьменніка тым больш варта адзначыць, што ў аснову твора пакладзены складаныя калізіі сярэдзіны 30-х гадоў. М. Лобану ўдалося намаляваць некалькі жывых, сур'ёзных вобразаў, сярод якіх асаблівай ухвалы заслугоўвае вобраз камуніста-ленінца Андрэя Шэмета. Не пазбаўлены пэўных недахопаў — недастатkова кампазіцыйная арганізаванасць, эскізнасць некаторых вобразаў — раман М. Лобана трэба прызнаць прыкметным здабыткам нашай прозы апошняга часу.

Як і ў мінулыя гады, беларускія празаікі многа пісалі пра вайну. Вялікая Айчынная вайна была і застаецца адной з асноўных тэм нашай прозы.

Мы лічым такую цікавасць многіх пісьменнікаў рэспублікі да тэмы мінулай вайны зусім натуральнай: як ні багата напісана пра вайну, невычэрпная гэта тэма па праву займае вядучае месца ў літаратуры народа, які аддаў справе перамогі над фашызмам кожнага чацвёртага чалавека і які паказаў усяму свету ўзор гераізму і савецкага патрыятызму. Гераізм чалавека на вайне, вытокі гераізму і савецкага патрыятызму, іх моцы — праблемы, якія найбольш хвалююць аўтараў твораў пра Вялікую Айчынную вайну.

«Вецер у соснах» Івана Навуменкі, «Плач перапёлкі» Івана Чыгрынава, «Праклятая вышыня», «Круг-

лянскі мост», «Сотнікаў» Васіля Быкава, «Тартак» Івана Пташнікава, «Пакуль не развіднела», «Апошнія і першыя» Б. Сачанкі, «На другой зіме вайны», «Іскры ў папялішчах» Лідзіі Арабей, «Туман над стэпам» Рыгора Няхая, творы А. Марціновіча, В. Хомчанкі, М. Капыловіча і многіх іншых папоўнілі мастацкі летапіс Айчыннай вайны, які робяць беларускія пісьменнікі.

Крытыка і чытачы высока ацанілі аповесці Барыса Сачанкі, асабліва «Апошнія і першыя», своеасаблівы рэквіем, працяты глыбокім смуткам аб трагічнай гібелі людзей ад рук фашысцкіх забойцаў і высокай турботай аб міры на зямлі.

Трагедыю палескай вёскі Рудня, спаленай фашыстамі, Барыс Сачанка змог перадаць як трагедыю ўсяго народа, над якім навісла пагроза вынішчэння ўзброенымі да зубоў людаедамі XX стагоддзя. Убачаная вачамі ўцалелага выпадкова хлопчыка Ясіка трагедыя вёскі Рудня не толькі страшэнна хвалюе, але і выклікае ў сэрцы чытача моцны пратэст супраць бесчалавечнасці, фашызму, гучыць актуальна, як абвінавачванне новаяўленым усмірыцелям свабодалюбівых народаў свету, тым, хто ўчыніў смерць жыхарам Сангмі, хто сее вайну над палямі і вёскамі Лаоса і Камбоджы.

Высокую і аднадушную ацэнку атрымала суровая мужная аповесць І. Пташнікава «Тартак». Трагедыя Дальвы, спаленай уласаўцамі летам 1943 года, падобна да трагедыі Рудні. Аповесць І. Пташнікава выклікае тыя ж самыя пачуцці, што і твор Б. Сачанкі. Аповесць напісана рукой сталага мастака-рэаліста, знешне быццам стрыманая, яна хвалюе яркасцю бачання, выразнасцю дэталей, мужнай праўдзівасцю, жывымі вобразамі людзей, якія гінуць адзін за адным пад чэргамі карнікаў. «Тартак» — яшчэ адна і вельмі праўдзівая старонка ў ваенным летапісе нашага народа.

Сваё слова сказала пра вайну аповесцямі і раманам «Іскры ў папялішчах» Л. Арабей. Адметнай якасцю аповесцей і рамана Л. Арабей з'яўляецца ўменне аўтара паказаць вайну як паўсядзённы быт людзей ва ўмовах акупацыі з яе «звычайнымі», страшнымі ў сваёй «звычайнасці» праблемамі. У творах Л. Арабей многа жывых падрабязнасцей, якія гавораць пра ўражлівасць і назіральнасць пісьменніцы і якія надаюць яе

творам якасць хвалюючага, вельмі праўдзівага чалавечага сведчання пра жыццё людзей у вайну.

Асобна трэба адзначыць поспех Івана Чыгрынава, які сваім першым раманам «Плач перапёлкі» заявіў пра сябе як пра здольнага, шматабяцаючага раманіста. Праўдзівую, шырокую, багатую фарбамі карціну незабыўнага лета 1941 года намаляваў І. Чыгрынаў у сваім рамане. Раман паказвае наш народ у цяжкую пару, калі Чырвоная Армія адступае пад націскам нямецка-фашысцкіх войск, калі ў беларускія вёскі ўрываецца вораг, але раман не пакідае ўражання безнадзейнасці. Чыгрынаў, па-майстэрску паказаўшы, як над зямлёй за Бесяддзю збіраюцца хмары вайны, і трывога агортвае людзей, разам з тым здолеў праўдзіва паказаць на многіх вобразах, як у ліхалецці першых месяцаў вайны ў асяроддзі байцоў і ўчарашніх мірных людзей выяўляюцца цвярозасць, жыццёвая стойкасць і моц духу, здольныя супрацьстаяць неймавернай бядзе. Аўтар намаляваў выразныя вобразы байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі, калгаснікаў, партыйных работнікаў, паказаў уменне ствараць аб'ёмныя вобразы людзей. У гэтых адносінах як асаблівую ўдачу трэба адзначыць Зазыбу і Чубара, вобразы тыповых і разам з тым па-сапраўднаму адметных, жывых прадстаўнікоў народа.

Раман «Вецер у соснах» Івана Навуменкі з'явіўся як працяг эпічнага апавядання, пачатага кнігай «Сасна пры дарозе». Новы раман І. Навуменкі выклікаў супярэчлівыя водгукі: некаторыя крытыкі папракалі аўтара ў неапраўданай раскіданасці дзеяння, у недастатковай псіхалагічнай напоўненасці асобных вобразаў. Трэба, аднак, сказаць, што пры пэўных выдатках раман «Вецер у соснах» — бясспрэчна, твор значнай мастацкай вартасці, які ўзбагачае не толькі набытак аўтара, але і ў цэлым нашай прозы. Аўтару ўдалося развіць і ўзбагаціць новымі рысамі вобраз Міці Птаха, галоўны вобраз дылогіі, які стаў адным з лепшых у творчасці І. Навуменкі. Моцнай якасцю рамана І. Навуменкі з'яўляецца праўдзівасць карцін партызанскага жыцця, умелы, поўны руху рэальнай напружанасці, паказ батальных сцэн. Аўтар з выдатным веданнем і ўмельствам паказвае партызан у баявой працы, выяўляючы глыбокае разуменне чалавечай псіхалогіі ў складаных акалічнасцях гэтай дзейнасці.

З трыма новымі аповесцямі за час між з'ездаў выступіў Васіль Быкаў. Усе яны прысвечаны мінулай вайне — «Праклятая вышыня», «Круглянскі мост», «Сотнікаў».

Як і ў папярэдніх творах, у гэтых аповесцях Быкава цікавяць людзі ў вострых, драматычных, а часта і трагічных сітуацыях. Трагічны лёс і ў герояў аповесці «Праклятая вышыня», і ў партызан «Сотнікава», выключным драматызмам адзначана аповесць «Круглянскі мост». У гэтых адносінах названыя аповесці развіваюць тую асаблівасць творчай быкаўскай манеры, якая выявілася яшчэ ў першых яго творах.

Быкаў — пісьменнік ярка выражанай творчай індывідуальнасці. Яго стыль ва ўсіх творах — быў і застаўся адзін — вельмі напружанае, эмацыянальна-насычанае апавяданне аб выключным, на мяжы між жыццём і смерцю момантце ў жыцці героя. Усе творы Быкава вызначаюцца на рэдкасць устойлівым стылёвым адзінствам. На першы погляд яны могуць здацца такімі і па сваёй унутранай сутнасці, але гэтае ўражанне застаецца толькі пры няўважлівых адносінах да іх глыбіннай якасці.

Уважлівы аналіз развіцця творчасці Быкава за апошні перыяд дае падставу сцвярджаць, што для Быкава не прайшла бясследна тая крытыка, якой быў падвергнуты ў свой час яго твор «Мёртвым не баліць». Ужо ў аповесці «Праклятая вышыня» Быкаў, хоць і не ва ўсім з поспехам, паспрабаваў вырвацца з палону тых схем, якія прывялі пісьменніка да творчай няўдачы ў аповесці «Мёртвым не баліць». Між героямі аповесці «Праклятая вышыня» і капітанам Сахно з «Мёртвым не баліць» ужо значная адлегласць. Яшчэ далей у гэтых адносінах ад «Мёртвым не баліць» новыя дзве аповесці В. Быкава, хоць і яны выклікалі крытычныя водгукі.

Не ўсё ўдалося В. Быкаву і ў апошніх аповесцях: так, па аповесці «Сотнікаў» аўтару справядліва рабіўся закід, што героі яго як бы адасоблены ад жыцця, у аповесці амаль не адчуваецца дзейнасць партызанскай брыгады, таварышаў па зброі. Ёй шкодзіць камернасць.

Але, прызнаючы справядлівасць асобных крытычных закідаў у адрас Быкава, мы разам з тым не можам не адзначыць, што ў той крытыцы, якая ішла да пісь-

менніка, былі і такія абвінавачванні, якія вымушаюць нас выказаць некаторыя развагі.

У крытычных артыкулах гаварылася, што пісьменнік, паказваючы герояў тыпу Брытвіна з «Круглянскага моста», быццам бы такім чынам паклёпнічае на партызанскі рух на Беларусі. Былі і такія, якія фактычна абвінавачвалі пісьменніка ў тым, што ён паказвае барацьбу ва «ўласным акопе» больш як барацьбу з праціўнікам.

Гэта вельмі сур'ёзныя абвінавачванні. У якой меры яны справядлівыя?

Як вядома, творы трэба судзіць па законах, выбраных пісьменнікам. Творы В. Быкава, у прыватнасці і апошнія аповесці, як правіла, носяць лакальны характар, у аснове кожнай з іх стаіць тая ці іншая канкрэтная праблема. У аповесці «Круглянскі мост», напрыклад, гэта праблема: якія сродкі дазволены для дасягнення мэты. Брытвін лічыць, што для дасягнення мэты дазволены любыя сродкі, і ў дасягненні яе не спыняецца перад подласцю. Усім ладам твора, са сваім юным героем, В. Быкаў гнеўна асуджае «філасофію» Брытвіна як несумяшчальную з партызанскай мараллю. Гэты пункт гледжання ніяк не разыходзіцца з тым, якога прытрымліваліся народныя мсціўцы.

Вырашаючы канкрэтную праблему, В. Быкаў сваім невялікім творам не мог і не ставіў сабе на мэце даць усеабдымную карціну народнай партызанскай барацьбы, патрабаваць гэтага ад яго твора — думаецца, несправядліва.

Думаецца, што няма падставы рабіць шырокія абагульненні той крытыкі, якую В. Быкаў дае паводзінам і дзеянням асобных камандзіраў.

У сувязі з гэтым ёсць патрэба высветліць, наколькі ўласціва тое, што робіць В. Быкаў, вопыту савецкай літаратуры. Азіраючыся назад, мы можам убачыць, што Быкаў у дадзеным выпадку не з'яўляецца пачынальнікам чагосьці незвычайнага ці тым больш — неўласцівага нашай літаратуры. Ён прадаўжае традыцыі савецкай літаратуры, якія даўно атрымалі права на існаванне.

Можна прывесці шэраг прыкладаў, але мы спынімся на ўсім вядомым факце з'яўлення ў час вайны такой востраправлемнай рэчы, як «Фронт» А. Карнейчука. У рэчышчы, пракладзеным творам А. Карнейчука,

ішло нямала іншых твораў савецкіх пісьменнікаў ваеннай і пасляваеннай пары. У гэтым рэчышчы знаходзяцца і некаторыя творы В. Быкава.

Адзначаючы гэта, мы зусім не хочам сказаць, што творы В. Быкава няма за што крытыкаваць, мы гэтым хочам падкрэсліць неабходнасць аб'ектыўнай і таварыскай, сапраўды партыйнай крытыкі. Мы хочам адзначыць, што ў творчасці В. Быкава адбываюцца з'явы, якія даюць падставы чакаць добрых твораў ад гэтага таленавітага празаіка.

Завяршаючы агляд твораў аб Вялікай Айчыннай вайне, трэба адзначыць, як станоўчы факт далейшае развіццё той яе галіны, якая бярэ пачатак у дакументальнай аснове,— пра гэта сведчыць з'яўленне аповесцей Г. Бураўкіна, І. Новікава, А. Ус і А. Уладзіміравай.

Плённа развівалася ў гэты час і мемуарная літаратура, якая папоўнілася змястоўнымі кнігамі вядомых партызанскіх кіраўнікоў Р. Мачульскага, І. Вятрова, М. Джагарава і іншых. Варта адзначыць таксама з'яўленне калектыўных зборнікаў мемуарнага характару — «Путь к победе» (сааўтар Н. Аляксееў), «Сквозь огонь и смерть» (складальнік У. Карпаў) і іншыя.

Багата твораў беларускай прозы адлюстроўвае пасляваенную мірную працу нашага народа, працоўны гераізм калгаснага сялянства, рабочага класа, праблемы жыцця савецкай інтэлігенцыі, нашай моладзі. У большасці з гэтых твораў ставяцца актуальныя пытанні сённяшняга жыцця.

Творы гэтага кірунку разам з творамі аб мінулай вайне займаюць асноўнае месца ў сучаснай беларускай прозе.

З кожным годам творы аб надзённай сучаснасці займаюць усё большае месца ў творчым даробку нашай прозы. Без перабольшання можна сказаць, што па колькасці напісанага, па шырыні ахопу жыцця, багаццю асветленых праяў жыцця творы гэтыя займаюць самае вялікае месца ў прозе.

«Жыта» А. Асіпенкі, «Расце мята пад акном» і апавяданні А. Кулакоўскага, «Снежныя зімы» І. Шамякіна, «Сотая маладосць» У. Карпава, «Мсціжы» І. Пташ-

нікава, «Апошні водпуск» А. Адамовіча, «Чазенія» У. Караткевіча, «Зноў у Будневе» А. Кудраўца, «Мае заводчыкі» В. Мысліўца, «Палын — зелле горкае», «Самы высокі паверх» і «Сталявары» А. Савіцкага, «Падзенне Хвядоса Струка» П. Кавалёва, «Чужы хлеб» І. Гурскага, «Слабодскі парламент» М. Гіля, «Летняя знічка» Л. Гаўрылкіна, «Смена караулов» А. Кузьмічова, «Шаги за твоей стеной» Э. Скобелева, «Ці трэба было жаніцца?» Л. Прокшы, «Паўночны фарватэр» А. Крыгі, нарысы Я. Сіпакова, В. Палтаран, І. Дуброўскага, апавяданні М. Стральцова, М. Ракітнага, І. Навуменкі, В. Адамчыка, М. Капыловіча, А. Кандрусевіча, Л. Арабей і нямала іншых твораў — усё гэта творы, звязаныя з днём сённяшнім. Да сённяшняга дня звернуты многія лірычныя мініяцюры Я. Брыля з цыкла «Жменя сонечных промняў», работу над якім працягваў аўтар у гэтыя гады. Тэматыка і праблемы гэтых твораў вельмі разнастайныя.

Існуе думка, што беларускія пісьменнікі пішуць ледзь не выключна пра вёску. Але варта прыгледзецца ўжо да названых твораў для таго, каб пераканацца, што думка гэта не зусім адпавядае сапраўднасці. Праблемы жыцця вёскі сталі ў цэнтры толькі некаторых з адзначаных твораў («Жыта» А. Асіпенкі, «Зноў у Будневе» А. Кудраўца, часткова ў раманах «Мсціжы» І. Пташнікава, «Снежныя зімы» І. Шамякіна і некаторых іншых). Даволі многа твораў напісана пра горад, пра заводскае жыццё з яго праблемамі, пра гарадскую інтэлігенцыю («Расце мята пад акном» А. Кулакоўскага, «Сотая маладосць» У. Карпава, «Апошні водпуск» А. Адамовіча, «Мае заводчыкі» В. Мысліўца, аповесці А. Савіцкага, «Шаги за твоей стеной» Э. Скобелева, у большай частцы сваёй «Снежныя зімы» І. Шамякіна і іншыя творы). Сярод твораў аб сённяшнім дні ёсць некалькі, прысвечаных паказу сучаснага жыцця нашай арміі («Смена караулов» А. Кузьмічова, «Паўночны фарватэр» А. Крыгі).

Ёсць у нас прыкметныя поспехі і ў развіцці публіцыстыкі, у тым ліку публіцыстыкі на міжнародныя тэмы. Тут варта адзначыць публіцыстычныя выступленні Я. Брыля, К. Кірэенкі, А. Бажко, А. Карпюка, у якіх аўтары вострым мастацкім словам вядуць барацьбу з буржуазнай ідэалогіяй, з новаяўленымі амерыканскімі прэтэндэнтамі на сусветнае панаванне. На старон-

ках газет і часопісаў публікаваліся таксама нарысы і публіцыстычныя артыкулы, прысвечаныя праблемам нашага савецкага жыцця,— В. Палтаран, Я. Сіпакова, І. Дуброўскага, В. Панамарова, А. Кулакоўскага, К. Кірэенкі і інш.

Як бачым, нашымі празаікамі нямала напісана твораў аб сённяшнім дні. Можам са здавальненнем адзначыць таксама тое, што сярод гэтых твораў ёсць нямала такіх, якія заслугоўваюць добрай ацэнкі і сталі дасягненнем нашай літаратуры. Няма магчымасці падрабязна прааналізаваць усе творы прозы на гэту тэму, але мы хацелі б адзначыць хоць бы некаторыя з іх. Мужнай праўдзівасцю вызначаецца, напрыклад, аповесць «Жыта», у якой А. Асіпенку ўдалося стварыць суровы, характэрны малюнак пасляваеннага станаўлення разбуранай вайной беларускай вёскі. Да заслугі А. Асіпенкі трэба аднесці і стварэнне моцнага і цэльнага характару ўчарашняга франтавіка, цяперашняга старшыні калгаса Язэпа Каліны, які паказан у драматычнай барацьбе з цяжкасцямі жыцця, з недалёкімі людзьмі, у нялёгкіх жыццёвых пошуках.

Праўдзівасцю, жывымі вобразамі прывáблівае таксама новы раман І. Пташнікава «Мсціжы». Бясспрэчнай удачай І. Пташнікава з'яўляецца вобраз галоўнага героя рамана — конюха леспрамгаса Андрэя Вялічкі, былога партызана, чалавека нялёгкага лёсу, характар якога пераканаўча раскрыта ў пераадоленні выпрабаванняў вайны і пасляваеннай мірнай працы. Удалося І. Пташнікаву стварыць і іншыя жывыя характары — рабочага леспрамгаса Рамана, начальніка ўчастка Унука, калгасніцы Балюты. Радуе раман шчодрым жывапісам, багаццем дэталей. Аўтара варта папракнуць за некаторую перагружанасць апісаннямі, за замаруджанасць дзеяння, некаторую прыглушанасць сацыяльнага фону, але пры ўсім гэтым раман І. Пташнікава — добры набытак нашай прозы.

Цікавай з'явай нашай прозы варта адзначыць аповесць А. Адамовіча «Апошні водпуск», надрукаваную ў часопісе «Дружба народов». Аповесць А. Адамовіча вылучаецца сур'ёзным філасофскім роздумам над сэнсам жыцця чалавека, у люстры яе змястоўны вобраз нашага сучасніка вучонага-медыка Міхаіла Гаўрылавіча, анколага, які ўпарта шукае адказы на тую складаную праблему, якой занята вялікая армія сучасных

вучоных,— на праблему ўзнікнення рака і барацьбы з ім. Трапіўшы ў трагічную сітуацыю, азіраючы сваё жыццё, герой А. Адамовіча сцвярджае неабходнасць жыць сумленна, у адданым служэнні людзям, грамадству, па законах высокай грамадскай маралі.

З новым раманам «Снежныя зімы» выступіў у гэты перыяд І. Шамякін. У цэнтры рамана І. Шамякіна, які выклікаў цікавасць у чытачоў,— вобраз былога партызанскага камандзіра, пазней кіраўніка высокага ўзроўню Івана Антанюка. І. Шамякін паказвае свайго героя ў драматычны момант жыцця, тады, калі яго, несправядліва абвінавацішы ў рэтраградстве, адхіляюць ад работы і адпраўляюць на пенсію. Выбраўшы ў жыцці героя такі перыяд, калі ён аказаўся на «адпачынку», аўтар, раскрываючы героя, шырока карыстаецца метадам рэтраспекцыі: жыццё героя выяўляецца ў большай ступені яго ўспамінамі. Па гэтай прычыне побач з дзеяннем сённяшнім у рамане ўвесь час развіваецца лінія мінулага героя: яго партызанскай дзейнасці, напісанай ярка, узрушана. Аўтар імкнецца ўсебакова раскрыць свайго героя: у той частцы, дзе падаецца яго сённяшняе жыццё, мы бачым яго ва ўзаемадачыненнях з сям'ёю, з таварышамі па нядаўняй працы і сябрамі па партызанскаму мінуламу. Шырока раскрывае І. Шамякін свет думак свайго героя, паказваючы яго погляды на многія з'явы сучаснасці.

І. Шамякіну не ва ўсім удалося рашыць складаную задачу стварэння буйнога вобраза, не заўсёды дасягае аўтар поспеху, калі імкнецца пранікнуць у свет пачуццяў і думак героя. Антанюку ў значнай меры шкодзіць рацыяналістычнасць у яго паказе, прыкметная сканструяванасць вобраза.

Крытыка ўжо адзначала, што вобразу Антанюка ўласціва дзіўная неаднароднасць, мастацкая непаслядоўнасць. Нельга не згадзіцца з крытыкай і ў тых папроках, што не заўсёды адчуваецца прынцыповасць у адносінах аўтара да свайго героя. Залішне вялікае месца ў рамане аддадзена некаторым меладраматычным сітуацыям (напрыклад, звязаным з вобразам Віты).

Важным праблемам пасляваеннага жыцця прысвечаны раман У. Карпава «Сотая маладосць», у якім аўтар малюе разнастайнае жыццё сучаснага горада. Варта ўхвалы імкненне У. Карпава ставіць надзённыя праблемы сучаснага гарадскога жыцця — праблемы

практычныя і інтэлектуальныя, яго імкненне даследаваць жыццё нашай сённяшняй інтэлегенцыі.

З твораў аб рабочых варта адзначыць кнігу «Мае заводчыкі» В. Мысліўца. Яна прываблівае добрым веданнем рабочага жыцця, праўдзівасцю ў паказе заводскіх будняў і сур'ёзнасцю ў пастаноўцы некаторых праблем у жыцці і дзейнасці рабочых калектываў.

Вельмі радуе значны творчы рост У. Паўлава, аўтара некалькіх цікавых твораў аб сучаснасці, і А. Кудраўца, які апублікаваў шчырую, маляўнічую аповесць «Зноў у Будневе». А. Кудраўцу ўдалося стварыць праўдзівую карціну жыцця сучаснай вёскі, дакладнымі рысамі намаляваць шэраг характэрных для цяперашняй вёскі вобразаў. Аповесць А. Кудраўца хвалюе сапраўднай, светлай паэтычнасцю, добрым разуменнем паэзіі сучаснасці.

З твораў малых форм добрым веданнем жыцця, тонкім разуменнем псіхалогіі герояў, высокім майстэрствам вылучаюцца творы М. Стральцова «Свет Іванавіч, былы донжуан», «Адзін лапаць, адзін чунь», апавяданні В. Адамчыка, А. Васілевіч, А. Наўроцкага, І. Навуменкі, У. Дамашэвіча.

За час між з'ездаў на старонках нашых газет і часопісаў і ва ўсесаюзным друку нашымі аўтарамі было апублікавана многа дакументальных нарысаў і выступленняў па розных пытаннях унутранага і міжнароднага жыцця.

З твораў нарыснай літаратуры пра наша жыццё найбольш вылучыліся творы І. Дуброўскага, В. Палтаран, Я. Сіпакова, В. Панамарова.

Асаблівы поспех выпаў на долю В. Палтаран, аўтара дзвюх паэтычных кніжак «Ключы ад сезама» і «Дзівасіл», якія заслужана атрымалі Дзяржаўную прэмію БССР імя Лепяшынскага. У нарысах сваіх, асветленых любоўю да людзей і лірызмам, В. Палтаран паказала незвычайнае разуменне творчых крыніц у народнай душы, добрае разуменне хараства душы працоўных людзей, уменне стварыць простыя і мудрыя чалавечыя вобразы. Для нарысаў характэрны ўсхваляваны роздум над жыццём. Сур'ёзным роздумам над жыццём, над сучаснымі праблемамі вёскі адзначаны і новы нарыс І. Дуброўскага «Да долі чалавечай». Добра заявіў пра сябе як пра тонкага назіральнага мастака Я. Сіпакоў, што парадаваў нас таленавітымі творамі

«Акно, расчыненае ў зіму» і «Па зялёную маланку». Творы Я. Сіпакова, вельмі багатыя назіраннямі, думкаю, напісаныя добрай, шчодраю моваю, сведчаць, што ў беларускую нарысную літаратуру прыйшоў пісьменнік, ад якога мы маем права многага чакаць.

Значна пашыраюць межы даследавання свету, які вядзе наша дакументалістыка, нарысы Я. Брыля «Душа — не падарожніца», «Сцежкі, дарогі, прастор» і іншыя. Нарысы Я. Брыля, што па зместу свайму з’яўляюцца падарожнымі нататкамі, вылучае добрая культура бачання і ўменне рабіць цікавыя філасофскія абагульненні. Нарысы гэтыя набліжаюць да нас, робяць зразумелымі клопаты блізкіх і далёкіх народаў, сведчаць аб міралюбівых настроях народаў свету, іх жаданні жыць у міры і дружбе.

З-за недахопу часу мы не можам больш спыняцца на разглядзе іншых твораў, напісаных аб сённяшнім дні. Мы дазволім сабе зрабіць некаторыя вывады, якія ўзнікаюць пры разглядзе ў цэлым гэтага набытку нашай літаратуры.

Адзначаючы як станоўчы факт тое, што ў перыяд між з’ездамі нямала напісана твораў прозы пра працоўны гераізм нашага народа, што ў гэтых творах пастаўлены надзённыя праблемы, мы ні ў якім разе не можам задаволіцца зробленым. Трэба адкрыта сказаць, што твораў гэтых пакуль усё ж недастаткова, што ў нашай прозе не знайшлі належнага адбітку многія і надзвычай важныя з’явы жыцця нашага народа.

Мы не маем глыбокіх твораў, у якіх бы дзейнічалі вобразы роўныя і родныя тым слаўным нашым сучаснікам, якія будуюць сусветна вядомыя МАЗы і БелАЗы, якія ў глыбінях беларускіх нетраў здабываюць скарбы зямлі, якія пабудавалі Наваполацкі нафтаперапрацоўчы камбінат і будуюць Мазырскі. Мы не маем глыбокіх твораў аб тых людзях, якія сёння, на сённяшнім узроўні тэхнікі, эканомікі, культуры, у сённяшняй вёсцы рашаюць няпростыя праблемы сельскай гаспадаркі.

Мала твораў пра тую важнейшую частку народа, імя якой наша народная, савецкая інтэлігенцыя. Аб чым думае, аб чым марыць, як жыве сённяшні інтэлігент — настаўнік, урач, студэнт-лірык і вучоны-фізік,— мы яшчэ не здолелі сказаць нашаму чытачу.

Мусім самакрытычна сказаць і пра тое, што як надзённая, нявырашаная застаецца пакуль задача стварэння вобраза сапраўднага партыйнага работніка нашых дзён — арганізатара мас, кіраўніка вытворчасці, чалавека сучаснай культуры, які ў сучасных умовах небывалай тэхнічнай рэвалюцыі, небывалага росту ўсіх галін гаспадаркі і народнага жыцця робіць справу асаблівай складанасці і асаблівай важнасці.

Але калі мы можам прад'явіць сабе прэтэнзіі што да — калі можна так сказаць — колькаснага даследавання жыцця, то яшчэ больш актуальнай з'яўляецца задача якаснага ўздыму нашай прозы.

Трэба помніць, што твор мастацкай літаратуры толькі тады можа выканаць сваю ролю, усхваляваць і ўзбагаціць чытачоў, калі ідэя яго знаходзіць вартае мастацкае выкананне, калі твор гэты высокі па майстэрству. Партыйнасць і народнасць — як асноўныя крытэрыі вартасці твора толькі тады праяўляюцца з належнай сілай, калі яны ў творы мастацтва выказаны з належнай мастацкай якасцю, з належнай мастацкай глыбінёй.

На жаль, мы павінны прызнацца, што не многія яшчэ творы прозы, у прыватнасці творы пра сучаснасць, вызначаюцца высокім узроўнем майстэрства. Не багата яшчэ твораў, якія б даследавалі нашу сучаснасць глыбока, давалі б цікавыя, жывыя назіранні, шырокія абагульненні, стваралі б значныя мастацкія вобразы.

Трэба з усёй вастрынёй сказаць, што галоўная прычына такога становішча часцей за ўсё не ў недахопе фармальнага майстэрства, хоць і гэта часам адчуваецца,— а ў недахваце жывых назіранняў над жыццём, непасрэдных уражанняў. Іменна гэтым абмежаваным веданнем жыццёвых калізій і фактаў, на нашу думку, тлумачыцца тое, што ў цэнтр твораў рэдка ставяцца значныя, сапраўдныя праблемы сённяшняга дня, што яны яшчэ нярэдка падменьваюцца знаёмымі схемамі: наватар — кансерватар, сумленны — несумленны, што сур'ёзныя праблемы жыцця падменьваюцца меладраматычнымі выдумкамі літаратурнага паходжання.

Відаць, немалая віна гэтага ў тым, што мы многа сядзім у рэдакцыях, у кабінетах, многа трацім часу на патрэбныя і непатрэбныя пасяджэнні і нарады і мала бываем на заводах і ў калгасах. Мала жывём сярод

народных клопатаў. Гэта — простая і не новая ісціна, але гэта — ісціна, і мы павінны паставіцца да яе з належнай увагай і павагай. Жыццё на нашых вачах змяняецца так хутка, бурліва, што кожны, хто хоча ўгнацца за ім, хто хоча стварыць сапраўды актуальны твор, павінен быць у яго гушчыні, і не камандзіровачным, не гасцявым, а штодзённым удзельнікам.

Толькі на гэтай дарозе мы можам спадзявацца на сапраўдныя творчыя перамогі.

У сувязі з гэтым мы павінны паставіць пытанне: ці правільна скарыстоўваем мы тое багацце, якое ёсць у нашых таварышаў — талент, ці не лішне лёгка мы растрачваем гэтае багацце, якое абавязвае нас даваць народу самае каштоўнае, што мы можам даць,— высокамастацкія творы? Ці не пара падумаць стварыць такія ўмовы, пры якіх сілы нашы, наша жыццё былі б скіраваны цалкам на асноўнае — на стварэнне глыбокіх мастацкіх твораў як самы важны від грамадскага служэння нашаму народу, нашай партыі.

*1971*

# НАСТАЎНІК ЖЫЦЦЁ

Таварышы, паколькі работа нашага з'езда завяршаецца, я буду гаварыць аб агульных праблемах, праблемах, якія мне здаюцца найбольш важнымі.

Пачну з таго істотнага факта, што нам выпала доля жыць у вельмі складаны, магчыма,— цяжкі, але разам з тым і цікавы, змястоўны час. Кожны са сваімі клопатамі, сваімі добрымі якасцямі і сваімі слабасцямі мы жывём у гэты час, сустракаемся і са звычайнымі будзённымі праблемамі, і разам з тым з вельмі вялікімі праблемамі, глыбіню, сур'ёзнасць якіх, захопленыя будзённымі клопатамі жыцця, часам не ўсведамляем належным чынам.

Між тым мы, пісьменнікі, частка нашай савецкай інтэлігенцыі, нашага народа, абавязаны адчуваць усю складанасць часу, сустракацца тварам да твару з усімі яго вялікімі і малымі падзеямі і праблемамі.

Таварышы, усе мы былі нядаўна сведкамі работы XXIV з'езда КПСС. Мы чыталі справаздачны даклад, які зрабіў Леанід Ільіч Брэжнеў на XXIV з'ездзе. У гэтым дакладзе намалявана шырокая, эпічная карціна сучаснага становішча нашай краіны, партыі, народа, ён поўны надзённымі клопатамі і турботамі аб тых вельмі важных, часам няпростых праблемах, якія ў сваім дыялектычным спалучэнні і ёсць сённяшняя багатая рэальнасць краіны і ад якіх залежыць жыццё і лёс кожнага з нас.

У багатым клопатамі жыцці народа мы, пісьменнікі, маем свае вялікія і малыя праблемы.

Работа пісьменніка — як вядома, ганаровая. Вялікай любоўю карыстаецца пісьменнік у нашым народзе. Але разам з тым трэба сказаць, што быць пісьменнікам не толькі ганарова, але і нялёгка. Праца пісьменніка, як кожны ведае з уласнага вопыту, патрабуе

вялікага напружання сардэчнага, упартай, настойлівай работы розуму, жыццёвай мудрасці і чулага сумлення.

Праца пісьменніка складаная ў нашы дні і па іншай прычыне. Мы жывём у час, калі як ніколі ўсё, чым мы жывём, зліваецца з тым, чым жыве ўся наша краіна, і не толькі краіна, але і ўвесь свет. Калі гаварыць пра літаратуру, то гэта значыць, што наша літаратура, беларуская літаратура, жыве, дзейнічае не толькі сама па сабе, а і як неад'емная і жывая частка ўсёй савецкай літаратуры і разам літаратуры сусветнай.

Гэта адна з важных асаблівасцей нашай работы, і гэта да многага нас абавязвае. Незалежна ад таго, якую школу мы прайшлі, мы абавязаны быць на добрым узроўні не толькі адпаведна меркам нашай сучаснай літаратуры, літаратуры Беларусі, а на ўзроўні высокіх дасягненняў літаратур Савецкага Саюза ў цэлым, на ўзроўні значных літаратур свету. Калі ў гэтым сэнсе межы між літаратурамі і пісьменнікамі розных народаў ва ўсе часы былі нетрывалыя, то ў наш час такіх меж наогул не існуе.

Я не разумею, як можна ў наш час не ведаць Герцэна, Дабралюбава, Бялінскага, не ведаць Шолахава, Лявонава, чым справядліва абураўся Іван Пятровіч Шамякін. Але я зусім не разумею яго папроку маладым за тое, што яны чытаюць Хемінгуэя і Фолкнера, вучацца ў іх. Кожны пісьменнік, які не хоча замшэць у невуцтве, абавязаны чытаць і ведаць па магчымасці ўсю літаратуру сацыялістычных і капіталістычных краін. Гэта непазбежная жыццёвая неабходнасць. Не ведаючы дасканала сучаснай сусветнай літаратуры, мы не зможам працаваць па-сучаснаму, на сучасным узроўні развіцця. Невуцтва, правінцыяльная замшэласць будуць адбівацца у кожным нашым рамане, у кожнай аповесці, у кожным вершы. У кожным радку.

Жыццё перад кожным уздымае вельмі важную праблему — праблему культуры пісьменніцкага інтэлекту. Жыццё кожнага непазбежна вядзе да, можа быць, простай, банальнай ісціны, што трэба вучыцца. Нам усім трэба вучыцца!

Сэнс жыцця пісьменніка — несці людзям важныя думкі. Мы павінны вучыць нашых слухачоў, нашых гледачоў. Але для таго, каб вучыць, трэба ведаць хоць

бы трохі больш, чым нашы гледачы і слухачы, гэта значыць, трэба многа ведаць.

Мы павінны памятаць, што ў нас выраслі мільёны людзей, якія добра адукаваны, багата чытаюць, сур'ёзна дасведчаны ў розных галінах жыцця людзей і грамадства. Пісьменніку цяпер часам няпроста быць не толькі наперадзе, але і на ўзроўні чытача.

Праблема ёсць у тым, што жыццё наша надзвычай дынамічнае і што дынамізм жыцця ставіць нам пытанні не толькі штогод ці штомесяц, а бывае, што і кожны дзень. Гэта значыць, у нас штодзённа ёсць пагроза адстаць ад жыцця. Адвечная задача пісьменніка ісці ў нагу з жыццём у наш час абавязвае пісьменніка вучыцца кожны дзень. Вучыцца, назіраючы, слухаючы, чытаючы. Ведаць дасканала палітыку, сацыялогію, псіхалогію, фізіку, біялогію. Ведаць самае новае.

Я хачу сказаць, што ўсё ў гэтай вучобе, гэта маё перакананне — залежыць ад самога пісьменніка. Ніхто не можа ўзняць пісьменніка, калі ён не будзе хацець узняцца. Калі не будзе сам адчуваць неабходнасці вучыцца, калі ў яго не будзе неадступнага імкнення ўдасканальвацца пастаянна, ісці з жыццём.

Разам з тым, вядома, не лішнім будзе і дапамагчы пісьменніку ў гэтым кірунку. Неабходнасць дапамогі вымагае хоць бы тое, што ў нашым жыцці ёсць цэлы рад сфер, у якія пранікнуць пісьменніку не так лёгка.

Так, шмат складанага ў галіне палітыкі, у галіне эканомікі, у галіне сацыялогіі, у галіне тэхнікі, ва ўзаемаадносінах чалавека і тэхнікі ў цяперашні час і іншых галінах. Кожнаму з нас цяжка ўвайсці ва ўсё гэта глыбока, зразумець сур'ёзна. Таму ўзнікае пытанне аб тым, як дапамагчы кожнаму з нас быць на ўзроўні ведаў свайго часу. Мне здаецца, што ў гэтых адносінах добра было б, каб кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў СССР — я карыстаюся выпадкам, што на нашым з'ездзе прысутнічае тав. Маркаў,— памеркавала б пра тое, чым мог бы Саюз пісьменнікаў СССР дапамагчы пісьменнікам, асабліва сярэдняга і старэйшага пакалення, дзеля такой вучобы.

Ёсць прыклады, якія, на маю думку, добра паказваюць, што мы маглі б зрабіць у гэтым кірунку. Прыклады гэтыя дае нам вучоба партыйных і гаспадарчых кадраў. Партыйных і гаспадарчых работнікаў самых розных узроўняў сістэматычна выклікаюць на розныя

нарады, на курсы, наладжваюць шырокія абмеркаванні розных праблем. Мне думаецца, што практыка гэта магла б даць плён і ў межах Саюза пісьменнікаў СССР.

Пад кіраўніцтвам Саюза пісьменнікаў дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы — Літаратурны інстытут імя Горкага і Вышэйшыя літаратурныя курсы.

Мне здаецца, бяда многіх з нас у тым, што амаль усе мы не можам па ўзросту, па жыццёвых абставінах паступіць у інстытут ці паехаць на Вышэйшыя літаратурныя курсы. Думаецца, добра было б, каб разам з Літаратурным інстытутам і Вышэйшымі літаратурнымі курсамі, а можа, нават і замест двухгадовых курсаў, збіраліся б пастаянныя кароткія па часу, скажам — месячныя курсы, на якія можна было б паехаць кожнаму з нас. Кожнаму, хто хоча далучыцца да самых новых ведаў у маштабе нашай краіны, у міжнародным маштабе.

Таварышы, тут многія гаварылі, што галоўная крыніца творчасці пісьменніка — жыццё, што пісьменнік павінен імкнуцца жыць з народам, разумець свой народ. Гэта аксіёма. Па гэтай прычыне не можа не трывожыць, што многімі гадамі мы жывём у кабінетах рэдакцый і устаноў, у кругу чыста літаратурных інтарэсаў і літаратурных сяброў. Мы, па-мойму, лішне ўпэўнены, спадзеючыся на тыя веды, якія маем з выпадковых раскіданых назіранняў, на сваю здольнасць дадумваць.

Думаю, для агульнай нашай карысці і карысці кожнага з нас было б добра, каб мы часцей хадзілі на заводы, ездзілі ў калгасы. Нам трэба сур'ёзна падумаць пра тое, якім чынам стварыць такія ўмовы, каб мы не толькі сядзелі ў рэдакцыях, у іншых установах, а маглі больш ездзіць, бываць у калгасах і на заводах.

Вельмі важнае значэнне тут мае матэрыяльнае становішча пісьменнікаў. Мы ўсе — дзеці рабочых і сялян, ні ў кога з нас няма маёнткаў, багатых бацькоў, усім нам трэба зарабляць хлеб уласнымі рукамі. І ўсе мы залежым ад стану спраў на нашым прадпрыемстве — выдавецтве «Беларусь». Мы ж чамусьці, як аб нечым не вартым, сарамліва гаворым аб матэрыяльным становішчы, аб тым, якія ўмовы для працы стварае нам наша выдавецтва. Мне здаецца, што час гэтым заняцца сур'ёзна і Саюзу пісьменнікаў і, можа быць, таварышам, якія маюць адпаведныя адносіны да літаратуры.



Іван Мележ у гасцях у рабочых камбіната
бытавога абслугоўвання ў гор. Петрыкаве. *1974*



Выступленне Івана Мележа на юбілейным вечары, прысвечаным 70-годдзю з дня нараджэння Міхаіла Шолахава. *1975*

Адна з прычын матэрыяльнай неўладкаванасці пісьменнікаў нашай рэспублікі ў тым, што ў нас кнігі выдаюцца невялікімі тыражамі, што яны, як гавораць выдавецкія работнікі, убытачныя. Выдавецтва, каб запоўніць страты, якія робіць выданне арыгінальных кніг, звесці балансы, раней стотысячнымі тыражамі выдавала «Дэкамерон», «Графа Монтэ-Крыста», розныя прыгодніцкія кнігі. Такім чынам ствараўся добры фінансавы баланс. У свой час былі пастановы, якія забаранілі неразумную растрату паперы на малапатрэбныя выданні. Нашы выдавецтвы знайшлі з гэтага становішча выдатны выхад. Масавымі тыражамі ў перакладзе сталі выдаваць кнігі беларускіх аўтараў. Стварылася арыгінальнае становішча: кнігі беларускіх пісьменнікаў выдавецтвам «Беларусь» для беларускіх жа чытачоў выдаюцца масавымі тыражамі ў перакладзе!

Становішча, скажам проста, і арыгінальнае, і ненармальнае. Хацелася б, каб Саюз пісьменнікаў БССР, выдавецтва «Беларусь» разам з партыйнымі органамі зрабілі ў гэтай справе парадак. Я не думаю, што гэта праблема простая, але ёю трэба заняцца.

Я хацеў бы падтрымаць зноў прапанову, якая ўздымалася на ранейшым з'ездзе,— аб стварэнні асобнага выдавецтва беларускай мастацкай літаратуры. У Маскве ў апошнія гады пачалі працаваць новыя выдавецтвы «Советская Россия» і «Современник». На Украіне выданнем мастацкай літаратуры займаюцца чатыры выдавецтвы. Я думаю, што час мець выдавецтва мастацкай літаратуры і ў нас. Аб гэтым грунтоўна гаварылася ў дакладзе і на цяперашнім з'ездзе. Я падтрымліваю гэту прапанову.

Я гавару пра матэрыяльныя праблемы таму, што ад іх залежаць многія пісьменнікі і яны адбіваюцца на якасці нашай работы, таму што з-за матэрыяльнай незабяспечанасці многія пісьменнікі вымушаны многа часу аддаваць рабоце ў розных установах і займацца сваім непасрэдным, галоўным абавязкам, як правіла, у вячэрні час ці раніцай. Такім чынам, большая частка духоўных сіл многіх трáціцца на другарадныя клопаты, многія не могуць працаваць у поўную сілу.

Я нямала думаў таксама над характарам работы Саюза пісьменнікаў. За пяць гадоў работы ў Саюзе пісьменнікаў у мяне ўкаранілася перакананне, што ў

нас занадта розных пасяджэнняў, нарад, мерапрыемстваў.

Іх так многа, што, калі хадзіць на ўсе гэтыя нарады, мала часу застаецца для літаратурнай работы. Атрымліваецца, што Саюз пісьменнікаў нярэдка як быццам не толькі не дапамагае пісьменнікам працаваць у літаратуры, а, падобна, адрывае іх ад непасрэднай іх дзейнасці, ад іх самых важных клопатаў.

Таму мне здаецца, што трэба было б падумаць і нашаму Саюзу пісьменнікаў і ў цэлым Саюзу пісьменнікаў СССР аб тым, каб неяк перабудаваць работу пісьменніцкай арганізацыі ў такім плане, каб Саюз пісьменнікаў стаў арганізатарам не пасяджэнняў новых, а самых разнастайных, жывых сувязей пісьменнікаў з жыццём.

Вы ведаеце, што ў гэтым напрамку Саюз пісьменнікаў СССР і Саюз пісьменнікаў БССР нейкую работу зрабілі. Мы арганізавалі рад паездак па Беларусі. Я ў мінулым годзе быў у вялікай паездцы ў Сібіры, у Цюмені. Павінен сказаць, што паездка гэтая была вельмі цікавай, багатай, яна ўзбагаціла мяне. Я, відаць, ніколі не буду пісаць пра Сібір і цюменскую нафту, але я адтуль прывёз вельмі важныя ўражанні для той работы, якой буду займацца ў бліжэйшы час, для твораў пра нашае Палессе.

Я, вядома, згодзен з тымі, хто лічыць, што кароткія брыгадныя паездкі не багата даюць. Але ўсё ж такія паездкі карысныя. Карысныя таму, што не даюць нам заседжвацца марна, што вучаць нас сустракацца з жыццём тварам у твар. Яны будзяць у нас думку і нацэльваюць нас, пісьменнікаў, на жыццёвыя праблемы. Назіранні і ўражанні ад іх могуць прывесці пісьменніка да значных творчых задум, знайшоўшы залатую пясчынку, пісьменнік можа напасці на залатую жылу. Паездкі якраз могуць памагчы ў пошуках залатой жылы.

І, канечне, вельмі хацелася б, каб мы былі не толькі ў такіх паездках, але каб мы больш жылі ў рабочых калектывах, сярод калгаснікаў, жылі разам з людзьмі, якія робяць сённяшняе жыццё.

Некаторыя таварышы выказвалі крыўду на Саюз пісьменнікаў, на крытыку нашу, нібы яны недастаткова чула адносяцца да твораў на сучасную тэму, не аддаюць належнага творам актуальнай тэмы.

Калі мы перад з'ездам знаёміліся з тым, што напісана пра надзённае жыццё, то аказалася — напісана не мала. Многа напісана. Бяда толькі ў тым, што ў многіх з гэтых твораў не адчуваецца глыбокага ведання жыцця. Калі чытаеш такі твор, бачыш, што аўтары тое, пра што гавораць, ведаюць недакладна, прыблізна, рэдка трапляеш на такія дэталі, якія ўражваюць непрыдуманасцю. Рэдка адчуваеш, што аўтар сэрцам перажыў тое, аб чым піша. Прыблізнае веданне рэальнасці, прыдуманасць, павярхоўнасць — найбольшая слабасць многіх твораў аб сучаснасці.

Я думаю, ні ў каго не павінна выклікаць сумнення, што мы заўсёды рады кожнаму добраму твору і будзем ад сэрца вітаць кожны мастацкі твор, які народзіцца ў жывых назіраннях над жыццём.

Хачу тут выказаць яшчэ адну думку. Мне здаецца, што ў тым штодзённым жыцці, у якім мы жывём, вялікае значэнне мае патрабавальнасць кожнага з нас да сябе, сабранасць, мэтанакіраванасць. Жыццё нас, як і ўсіх жывых, нярэдка зацягвае будзёншчынай, рознай мітуснёй, адрывае ад галоўнага, ад творчай работы. Таму кожны з нас павінен дбаць пра тое, каб ісці па сваёй галоўнай дарозе, рабіць самае важнае, да чаго закліка괦 пісьменнік. Кожны з нас нясе адказнасць за свой «стыль» жыцця, за свой талент. За ўсё, што мы робім, адказваем мы, і ўсё, што мы здолеем зрабіць, залежыць ад нас.

Усё ў рэшце рэшт залежыць ад нас саміх, ад нашага ўзроўню жыцця, ад прынцыповасці нашай пазіцыі ў жыцці.

Таварышы, народ чакае ад нас не прамоў. Ён чакае ад нас новых праўдзівых і глыбокіх твораў. Наш першы абавязак — даць гэтыя творы народу, чытачу. На гэта і павінны быць накіраваны ўсе нашы намаганні, гэтаму павінны быць аддадзены ўсе нашы сілы, нашы сэрцы, наша жыццё.

*1971*

## МЫ РАЗУМЕЕМ ВАША ГОРА

Слова да грэчаскіх эмігрантаў

Дарагія таварышы, мне цяжка гаварыць. Я ўсхваляваны. Мяне ўсхвалявалі песні, якія вы спявалі перад гэтай сустрэчай. Яны вельмі шчырыя і вельмі журботныя. Ад іх смутку шчыміць у сэрцы. Я ўпершыню чую іх, але яны быццам знаёмыя. Дзіўна знаёмыя. Яны падобныя да старых песень майго народа — беларускіх песень. Таму, відаць, так зразумелы мне іх смутак. І так шчыміць ад іх у сэрцы.

Ёсць і яшчэ адна прычына майго хвалявання. У мінулым я быў салдатам. Быў на фронце. Мая Радзіма ў тую вайну была пад уладай акупантаў. Фашысцкіх акупантаў. Як і ваша цяпер. І я сумаваў, балеў душою, асабліва калі пасля ранення апынуўся ў тыле. Я сумаваў па родным краі, але ён быў далёка, мне не было туды дарогі, толькі думкай я мог пераносіцца туды, у родныя лясы і палі. Як, мабыць, і вы зараз. Маё сэрца балела, я не ведаў, што там, на роднай маёй зямлі.

Гэты смутак зноў лёг мне на сэрца. Хоць я думаю не пра сваю родную зямлю, а пра вашу. Маё гора як бы зноў ажыло ў сэрцы, таму што тое, што я зведаў калісьці, так падобна да таго, што, відаць, перажываеце вы цяпер. Таму што гора, якое адчуваеце вы цяпер, было калісьці маім горам, яно мне такое зразумелае і блізкае.

Гора Грэцыі зразумелае і блізкае ўсяму савецкаму народу. Мы, мільёны савецкіх людзей, усім сэрцам разам з грэчаскім народам, які аказаўся пад уладай чорных палкоўнікаў, разам з вамі, таварышы, сябры!

Хунта прадала грэчаскі народ амерыканскім імперыялістам, генералам НАТА, якія рызыкуюць лёсам свету. Мы ведаем, што яна, імкнучыся ўтрымаць народ у паслушэнстве, не грэбуе нічым: жорсткімі рэпрэсіямі, хітрымі манеўрамі, вытанчанай хлуснёй.

Але мы таксама ведаем, упэўнены ў тым, што, якія б жорсткасці і падман чорныя палкоўнікі ні ўжывалі, улада палкоўнікаў над народам не вечная!

Дарагія сябры, я хачу, каб вы заўсёды ведалі і адчувалі, што ў гэтыя цяжкія, невыносна цяжкія для вас дні і гады мая краіна, савецкія людзі разам з перадавой Грэцыяй, з Грэцыяй непакоранай, якая прагне свабоды, з вамі, таварышы!

Нашы сэрцы разам з вамі! У гэтую гадзіну цяжкіх выпрабаванняў, якія выпалі на вашу долю, ведайце: у вас былі, ёсць і будуць заўсёды надзейныя сябры — савецкія людзі, Савецкі Саюз!

Журботныя, трывожаць сэрца вашы цудоўныя песні, што так падобны да нашых старых. Але я ведаю: будуць у вас і іншыя песні. Будуць у вас светлыя песні, песні волі. Іх будзеце спяваць вы. У вольнай Грэцыі.

Няхай жыве і будзе вечна вольная дэмакратычная Грэцыя!

Няхай жыве пралетарская салідарнасць у барацьбе за свабоду народаў!

*1971*

## САЛДАТЫ МІРУ

Ён многа бачыў на сваім вяку, гэта вялізны горад, які быццам бязмежна раскінуўся на абодва бакі Дуная. Дамы яго прыцісnуліся адзін да аднаго, пацямнелі ад часу; здаецца, яны поўныя ўспамінаў аб незлічоных падзеях жыцця, вялікіх і малых.

Але, відаць, у гісторыі гэтага горада, асабліва прыгожага ў цяперашнюю пару яркага вясновага цвіцення, не было ніколі такога часу, калі б на яго вуліцах, у яго залах збіралася такое мноства непадобных людзей, стракаціла такая разнастайнасць адзенняў, чулася б такое рознагалоссе моў. Амаль усе мовы планеты гучалі ў гэтыя майскія дні ў холах і каля пад'езда гасцініцы «Раяль» на праспекце Леніна, дзе збіраліся дэлегаты Асамблеі Сусветнага Савета Міру, каб накіравацца на пасяджэнні ў залу Палаца прафсаюзаў «Мемос». Гэтая зала, здаецца, сабрала не тысячу дэлегатаў і гасцей — яна быццам умясціла ў сябе цэлы свет з яго трывогамі і турботамі, з яго сумненнямі і надзеямі. Адчуванне таго, што тут сканцэнтравалася жыццё свету, выклікана не толькі тым, што ў радах уважліва засяроджанай залы сабраліся сыны і дочкі ўсіх кантынентаў, 124 прадстаўнічыя дэлегацыі розных краін свету, але і тым, што з першай гадзіны відаць было, якая вялікая ўвага ўсіх людзей свету, у тым ліку і віднейшых дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, накіравана да гэтай залы.

Зала горача вітала пасланне Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. В. Падгорнага. З пажаданнямі поспехаў да дэлегатаў Асамблеі звярнуліся сакратар ААН У Тан, кіраўнікі сацыялістычных дзяржаў, прэм'ер-міністр Індыі Індзіра Гандзі, рэзідэнт рэспублікі Чылі Сальвадор Альендэ...

У парадак дня Асамблеі было пастаўлена вельмі сур'ёзнае пытанне. У дакументах яно сфармулявана

так: «Нарастаючая небяспека для міру ва ўсім свеце, узмацненне агрэсіўных дзеянняў імперыялізму і першачарговыя задачы Сусветнага Савета Міру ў справе павелічэння і пашырэння сумесных дзеянняў і ўмацавання адзінства ўсіх сіл, якія змагаюцца за мір і нацыянальную незалежнасць, супраць імперыялізму і вайны...» У гэтай формуле сканцэнтравалася, наколькі гэта можна было ўмясціць у адну фразу, тое, што хвалявала вельмі розных людзей, што прывяло іх у вясновы Будапешт, у адну залу, што, нарэшце, аб'яднала іх агульнай трывогай за мір на зямлі.

За чатыры дні было паведамлена многа жахлівых фактаў пра зверствы у Індакітаі і на Блізкім Усходзе, было выказана многа сур'ёзных прапаноў, накіраваных на тое, каб абараніць народы, утаймаваць азвярэлых разбуральнікаў міру. Але калі паставіць сабе пытанне, што больш за ўсё ўразіла на Асамблеі, то гэта, бадай, адчуванне таго, як многа і самааддана, а часам і са здзіўляючай адвагай працуюць на нашай планеце салдаты міру. Адны з іх вядомы ўсім, тысячы і тысячы змагаюцца безыменна, не шкадуючы сіл, не баючыся небяспекі. У Будапешце адбываліся незабыўныя сустрэчы. Прыхільнікі міру з ЗША, сярод якіх былі і тыя, хто зусім нядаўна ішоў у антываенных дэманстрацыях і прыехаў на Асамблею проста з амерыканскіх засценкаў, абдымалі в'етнамцаў і лаосцаў. Салдаты Індакітая абдымалі прыхільнікаў міру ЗША. Гэтыя хвалюючыя абдымкі ўсяляюць надзеі і выклікаюць вялікую павагу чалавека.

Немагчыма расказаць у невялікіх нататках пра гэтыя чатыры дні.

Зараз Асамблея ўжо закончыла сваю работу. Я пішу гэтыя радкі ў зялёным скверы, непадалёку ад Палаца прафсаюзаў. Усё навокал — у першай яркай зеляніне. Цвітуць дрэвы. Над горадам — бязвоблачнае сіняе неба, вялізнае і чыстае. А на бліскучай траве весела крычаць, ганяючы мяч, двое малых.

Цудоўная майская трава і сіняе мірнае неба! І гэтыя радасныя дзеці! Спакою і міру траве і небу і шчасця дзецям — нашай будучыні!

*1971*

# ПРА ЗБОРНІК В. АДАМЧЫКА «ДЗІКІ ГОЛУБ»

Аўтар кнігі «Дзікі голуб», Вячаслаў Адамчык, звярнуўся да мяне як да празаіка з літаратурным вопытам і сакратара Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР з просьбай прачытаць яго кнігу і памагчы ў яе далейшым лёсе.

Да зборніка прыкладзены два водгукі, зусім процілеглыя — Івана Кудраўцава, які нашчэнт знішчае кнігу, і Міхася Лынькова, што рэкамендуе кнігу В. Адамчыка да выдання.

Я пазнаёміўся з абедзвюма рэцэнзіямі, прачытаў усе творы, пакінутыя аўтарам пасля рэцэнзій у зборніку. І вось што я магу сказаць пра аўтара кнігі і пра яго новы зборнік.

Вячаслаў Адамчык — не толькі таленавіты пісьменнік, але — гэта трэба сказаць таксама — нялёгкі і няпросты пісьменнік. Чытачу, які звык глядзець на літаратуру як на простую арыфметыку,— гэтая кніга можа аказацца цяжкаватай.

Праўда, і ўлічваючы тое, што В. Адамчык — пісьменнік няпросты, тонкі, не магу зразумець, як можна было, прачытаўшы кнігу, напісаць тое, што напісаў І. Кудраўцаў: нібы ў кнізе В. Адамчыка «знік мастак». Калі не тое што кожная старонка, кожны абзац паказвае: аўтар яе — мастак, мастак сапраўдны.

Цяжка зразумець, як можна было напісаць, што ў апавяданнях В. Адамчыка «не атрымліваецца цэласнай карціны...», «Твор распадаецца на ўдала напісаныя сцэны, эпізоды...», «Твор не выратоўваюць вельмі выразныя бытавыя дэталі, запамінальныя замалёўкі. Яны толькі штрыхі, мазкі, эцюды да карціны, а дзе сама карціна?».

Карціну В. Адамчык піша гэтымі самымі мазкамі, дэталямі і піша, трэба сказаць, па-майстэрску. Ярка, дакладна, так, што ўсё бачыш, нібы яно праходзіць пе-

рад вачамі. Аўтар проста здзіўляе шчодрасцю жывапісу.

Кнігу там-сям трэба падрэдагаваць, што да мовы — дзе-нідзе сустракаюцца паланізмы, непатрэбныя, незразумелыя дыялектызмы, але разам з тым кожны, хто разумее і любіць слова, не можа не адзначыць рэдкае багацце слоўніка пісьменніка, выразнасць яго мовы, якую В. Адамчык адчувае выдатна і якой карыстаецца з добрым густам.

Што можа выклікаць спрэчкі, дык гэта тое, што В. Адамчык у гэтай кнізе выбірае найчасцей героямі людзей, нібыта неадметных, часта — як ён у адным апавяданні адзначае — дзіўнаватых. Я мог бы таксама пажадаць героям Адамчыка іншы раз большай актыўнасці; і я спадзяюся, што сям'я герояў яго будзе папаўняцца такімі вобразамі, як гераіня апавядання «Там, дзе хутары», якое, на жаль, у мастацкіх адносінах не аказалася лепшым у зборніку.

Герой В. Адамчыка належыць часцей да традыцыйнага рада, які ў рускай літаратуры пачалі «Хор і Калінfavorites» І. Тургенева, сялянскія вобразы Л. Талстога і А. Чэхава, а ў нас — сяляне К. Чорнага. Мае гэта традыцыя сваіх паслядоўнікаў і ў сучаснай рускай літаратуры, у асобе такіх пісьменнікаў, як Ю. Казакоў, С. Антонаў, С. Нікіцін і інш. Думаю, што гэта вартая развіцця традыцыя і што героі такога тыпу маюць таксама права на жыццё ў нашай літаратуры, вядома, з улікам тых змен, якія зрабіў у іх наш час.

Сур'ёзным роздумам над жыццём адзначаны апавяданні В. Адамчыка — «Дзікі голуб», «Пагарэльцы», «Хата» і іншыя. Толькі трэба іх чытаць уважліва і думаць над імі, і тады можна ўбачыць тое, што не змог убачыць І. Кудраўцаў, які, прачытаўшы апавяданне «Дзікі голуб», пытае: «Дзе думка?»

А думка ёсць: думка ў тым, што жыве на нашай цудоўнай зямлі яшчэ страшны ідыятызм былога, які кідае ўласніка, звера Клемуса Войну на Марціна Дзікуця, на забойства з-за дробязі, з-за нічога («Я ў Войны і кошыка не накапаў, я толькі ішоў... А ён во... біў прэнтам па галаве... Ці дажыву да раніцы»). «Мерзость» былога — як казаў М. Горкі. Адна з самых важных горкаўскіх тэм! Горкаўская тэма.

Адамчык стрымана, неназойліва, як ён любіць, паказвае, што гэта — адыходзіць. Смерць Войны — гэта

не проста смерць. І не проста так згадвае аўтар, што прыязджаў у вёску сын Марціна — геолаг!.. (Бацька героя апавядання: «Каб бачыў, які хлопец! Тут усе дзеўкі за ім»).

І. Кудраўцаў нічога гэтага не ўбачыў у апавяданні. Як і ў іншых творах В. Адамчыка.

Можна было б багата сказаць і пра іншыя апавяданні. Адзначу толькі адно, што той, хто будзе чытаць творы В. Адамчыка ў гэтай кнізе, павінен мець на ўвазе, што амаль усе яны прысвечаны або падзеям вайны, або першым пасляваенным гадам. Адсюль і важныя асаблівасці яго герояў, і асаблівасці абстаноўкі, у якой дзейнічаюць героі, каларыт апавяданняў.

«Талент — рэдкасць»,— вучыў У. І. Ленін. У. І. Ленін таксама гаварыў, што талент трэба падтрымліваць.

Мае права на таварыскую ўвагу і падтрымку і В. Адамчык, вядома, зусім на іншую, чым «падтрымка», якую ласкава аказвае І. Кудраўцаў. Падтрымаць В. Адамчыка трэба ў імя таго, што ён ужо зрабіў і што зробіць для нашай літаратуры.

А зрабіць ён зможа нямала.

*1971*

# РАЗВАГІ ПРА НАШУ КРЫТЫКУ

Таварышы, кожны, хто з увагай сачыў за работай XXIV з'езда КПСС, не мог не заўважыць таго, якое вялікае месца — сярод найважнейшых праблем сучаснасці — было аддадзена пытанням камуністычнага выхавання.

У надзённай задачы выхавання чалавека сённяшніх і заўтрашніх камуністычных дзён партыя, як паказаў XXIV з'езд, мастацкай літаратуры адводзіць першароднае значэнне.

Нас, савецкіх пісьменнікаў, сыноў многіх народаў, радуе высокая ацэнка, дадзеная партыяй дасягненням шматнацыянальнай літаратуры савецкай краіны. З вялікай увагай, з разуменнем грамадзянскай і партыйнай адказнасці прынялі мы адзначэнне аб узрастаючай ролі літаратуры і мастацтва, адзначэнне, якое заклікае нас адносіцца да сваёй працы як да важнай часткі агульнанароднай дзейнасці, заклікае нас ставіцца да сваіх абавязкаў з найбольшай патрабавальнасцю.

Тэарэтычныя палажэнні і практычныя ўказанні XXIV з'езда, якія стасуюцца як сённяшняга стану нашай літаратуры, так і ўмоў паспяховага яе развіцця на бліжэйшыя гады, маюць надзвычайнае значэнне для ўсёй савецкай літаратуры, і ў тым ліку для беларускай.

Як вядома, на XXIV з'ездзе КПСС і ў справаздачным дакладзе, і ў выступленнях дэлегатаў справядліва гаварылася, што яшчэ далёка не заўсёды якасць твораў літаратуры адпавядае тым патрабаванням, якія належыць адносіць да мастацкіх твораў. На з'ездзе выказвалася думка аб неабходнасці большай патрабавальнасці работнікаў літаратуры і мастацтва да сябе і да сваіх таварышаў па прафесіі.

У гэтых адносінах, вядома, вельмі важнымі для нас, работнікаў літаратуры, з'яўляюцца радкі справаздачна-

га даклада ЦК КПСС, у якіх было падкрэслена асабліве значэнне ў развіцці літаратуры і мастацтва дзейнасці нашай крытыкі. «Бясспрэчна, поспехі савецкай літаратуры і мастацтва былі б яшчэ больш значныя, а недахопы зжываліся б хутчэй,— было сказана ў справаздачным дакладзе,— калі б наша літаратурна-мастацкая крытыка больш актыўна праводзіла лінію партыі, выступала з большай прынцыповасцю, яднаючы патрабавальнасць з тактам, з беражлівымі адносінамі да творцаў мастацкіх каштоўнасцей».

Вельмі справядлівая думка!

Цяпер мы маем яшчэ адзін важны дакумент — пастанову ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы», якая развівае ўказанні XXIV з'езда што да крытыкі і намячае многія практычныя меры для ажыццяўлення гэтых указанняў у штодзённай дзейнасці.

Пастанова ЦК КПСС у сціслай, выразнай форме выказвае комплекс тых разнастайных, важных задач, якія стаяць перад савецкай крытыкай на цяперашнім этапе камуністычнага будаўніцтва. У пастанове выкладзены як задачы агульнатэарэтычнага характару, накіраваныя на павышэнне ідэйна-філасофскага і эстэтычнага ўзроўню крытыкі і літаратуразнаўства, так і важныя практычныя указанні, якія павінны забяспечыць уздым нашай крытычнай дзейнасці. ЦК КПСС у сваёй пастанове ставіць сур'ёзныя патрабаванні перад творчымі саюзамі, перад рэдакцыямі друкаваных органаў, абавязвае нас палепшыць дзейнасць выбарных органаў, саміх крытыкаў.

ЦК КПСС рэкамендуе творчым саюзам «штодзённа клапаціцца пра ідэйна-тэарэтычны і прафесійны ўзровень літаратурна-мастацкай крытыкі, павышаць яе ролю ў рашэнні задач камуністычнага будаўніцтва, у фарміраванні грамадскай думкі, у барацьбе з чужымі поглядамі і канцэпцыямі».

Няма сумнення ў тым, што Пастанова ЦК КПСС, якая з увагай прынята пісьменнікамі Беларусі, зробіць плённы ўплыў на далейшае развіццё нашай літаратуры, і асабліва крытыкі.

Гаворачы пра тыя клопаты, якія партыя аказвае савецкай літаратуры і мастацтву, нельга не нагадаць вялікай прамовы, з якой выступіў на VI з'ездзе пісьменнікаў Беларусі кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў. Тав. Машэ-

раў, як вядома, вельмі падрабязна, усебакова прааналізаваў становішча ў нашай літаратуры, выказаў ад імя Кампартыі Беларусі свае крытычныя заўвагі ў адрас пісьменнікаў і кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі, паставіў задачы на далейшы час.

«Савецкія людзі маюць права патрабаваць ад пісьменнікаў,— гаварыў П. М. Машэраў,— такіх твораў, у якіх былі б усебакова даследаваны вытокі народнага гераізму, узняты самыя глыбінныя жыццёвыя пласты, дзе подзвіг беларускага народа паўстаў бы ва ўсёй велічы. Гэта, калі хочаце, сацыяльны заказ, таварышы пісьменнікі! Заказ нашага народа, нашай партыі!»

П. М. Машэраў адзначыў, што ў тых поспехах, якія дасягнула наша літаратура, ёсць пэўная заслуга крытыкі. «І ўсё ж, калі весці гаворку па вялікім рахунку,— сказаў першы сакратар ЦК КПБ,— літаратурная крытыка ў рэспубліцы развіваецца яшчэ марудна, працуе непрадукцыйна». «Мы лічым важнай агульнай задачай,— гаварыў П. М. Машэраў,— павышэнне метадалагічнага і прафесійнага ўзроўню крытыкі і літаратуразнаўства, правядзенне органамі друку прынцыповай палітыкі ў галіне літаратуры і мастацтва».

Як бачым, наша партыя надае надзвычайную ўвагу пытанням развіцця савецкай літаратуры: турбуючыся пра далейшы рост літаратуры, клапатліва вызначае тыя ўмовы, якія знялі б перашкоды на шляху літаратурнага развіцця, спрыялі б заваёве нашымі літаратарамі новых вышынь. Сярод гэтых умоў партыя вылучае як вельмі важную для росту, здаровай жыццядзейнасці літаратуры развіццё літаратурна-мастацкай крытыкі.

Пісьменніцкія арганізацыі Саюза пісьменнікаў СССР, кіруючыся ўказаннямі партыі, зрабілі ў гэтым напрамку немалую работу, якая спрыяла ажыццяўленню крытыкі. Можна сказаць і пра некаторыя вынікі дзейнасці ў гэтым кірунку нашай пісьменніцкай арганізацыі. Варта адзначыць, што беларускія крытыкі актыўна ўдзельнічалі ў агульнасаюзных мерапрыемствах — нарадах, якія праводзіліся ў Маскве і ў Рызе, у рабоце Пленума СП СССР, які абмяркоўваў праблемы крытыкі. Толькі ў нядаўніх нумарах часопісаў «Полымя» і «Маладосць» апублікаваны прысвечаныя пытанням крытыкі артыкулы В. Каваленкі, Б. Сачан-

кі, У. Юрэвіча, У. Гніламёдава. Вялікую дыскусію аб крытыцы разгарнула на сваіх старонках «Літаратура і мастацтва». Не заплюшчваючы вочы на тое, што і асобныя выступленні і дыскусія ў цэлым не пазбеглі пэўных недахопаў (у прыватнасці і некаторым выступленням, і дыскусіі ў цэлым не хапала канкрэтнасці), ёсць усе падставы прызнаць дыскусію плённай. Гэта адно з самых прадстаўнічых абмеркаванняў спраў нашай крытыкі. Дастаткова сказаць, што ў ёй прынялі ўдзел такія майстры літаратуры, як П. Пестрак, М. Лобан, А. Кулакоўскі, такія вопытныя крытыкі, як Ул. Юрэвіч, Я. Герцовіч, А. Лойка, таленавітыя нашы маладыя В. Бечык, С. Андраюк, настаўнікі, інжынеры, рабочыя. Цікавай, змястоўнай аказалася і размова, якая была арганізавана ў завяршэнне дыскусіі рэдкалегіяй газеты і кіраўніцтвам Саюза пісьменнікаў. Не магу не адзначыць тут тэмпераментнага, разгорнутага даклада на гэтым сходзе старшыні бюро секцыі крытыкі Д. Бугаёва.

Усё гэта мы, вядома, лічым толькі пачаткам вялікай работы, якую належыць зрабіць для таго, каб беларуская крытыка заняла належнае ёй месца.

Ставячы на мэце разабрацца ва ўсім тым, што датычыць нашай крытыкі, я лічу найбольш важнымі дзве задачы: па-першае, высветліць сучасны стан беларускай крытыкі, па-другое — вызначыць задачы, шляхі яе далейшага развіцця.

Якія асаблівасці сучаснага стану нашай крытыкі, якія асноўныя адзнакі яго?

Добра разумеючы, што галоўная ўвага дакладчыка павінна быць скіравана на тое, каб разабрацца ў сённяшнім і зазірнуць наперад, я ўсё ж хацеў бы азірнуцца на дзесяткі паўтара-два гадоў назад, каб такім чынам высветліць кірунак руху нашай крытыкі.

У маёй памяці і памяці маіх таварышаў добра значацца яшчэ тыя часы, іх некаторыя асаблівасці, якія варта не забываць. Мне помняцца сходы, на якіх пісьменнікаў не папракалі, а, можна сказаць, судзілі — за лірычныя вершы аб звычайным каханні, за пейзажную лірыку — як за недаравальнае адступленне ад асноўных прынцыпаў сацыялістычнай літаратуры, як за безыдэйнасць. Азіраючыся назад або перагортваючы старонкі газет тых часоў, мы лёгка можам заўважыць,

што некаторыя крытыкі бачылі як ледзь не адзіную задачу літаратуры — стварэнне ідэальнага героя, рыцара без заган, з непахіснай упэўненасцю прыкмячалі як адступленне ад асноў савецкай літаратуры цікавасць да людзей, якія не адпавядалі закончанаму эталону ідэальнага героя. Мы ўбачым, як над усімі іншымі якасцямі літаратуры непадзельна панавала тэма, якая адчувала сябе настолькі ўпэўнена, што магла не асабліва лічыцца з такімі залежнымі ад яе — як глыбіня пранікнення ў жыццё, у чалавека, мастацкая дасканаласць. Мы добра помнім магічнае і магутнае: «У жыцці так не бывае!», што адразу і рашуча скідала твор з вышыні на дол. Помнім, што мы тады амаль што і згаджаліся з тым, што — «у жыцці так не бывае», хоць добра бачылі, што бывае такое, не выдумана яно; мы звыклі верыць, і крытыка нас пераконвала ў тым, што між літаратурай і жыццём натуральна павінна ляжаць глыбокая мяжа, што з жыцця трэба выбіраць толькі тое, што радуе, узвышае нас, а не разбірацца ў часта блытанай, складанай яго дыялектыцы.

Добра помняцца тыя часы, калі, разгортваючы чарговы нумар «ЛіМа» ці іншай газеты, мы загадвалі сабе: аб кім будзе чарговы «падвал» у газеце, які твор падпадзе пад чарговую прачоску. Мы добра помнім тыя жалезныя артыкулы, якія не аднаму з нас папсавалі нямала крыві і здароўя, у якіх было многа грому і мала розуму.

Дзеля праўды павінен сказаць, што і ў тыя гады побач з такой «крытыкай» жыла і іншая, пра якую таксама не варта забываць і якая заслугоўвае ўдзячную памяць. Праўда, трэба сказаць, што ў ролі такіх крытыкаў звычайна выступалі не тыя, што лічыліся чыстымі крытыкамі, а літаратары, дзейнасць якіх разгорталася ў асноўным у іншых жанрах. Не магу не сказаць пра тое надзвычайнае ўражанне, якое рабілі на нас, маладых пісьменнікаў, вострыя, дакладныя і прынцыповыя выступленні з разглядам бягучай літаратуры, якія рабілі такія паважаныя майстры, як Міхась Лынькоў і Кандрат Крапіва, Янка Маўр і Аркадзь Куляшоў, Максім Танк і Пімен Панчанка. Надзвычай карыснымі, павучальнымі былі выступленні вопытных нашых таварышаў, якія нямала зрабілі не толькі для росту літаратурнай моладзі, але і для ўсталявання ў нашай крытыцы здаровых, сапраўды партыйных пачаткаў.

Асобна трэба адзначыць дзейнасць у гэтай галіне Петруся Броўкі, які нямала рабіў, каб прытушыць непатрэбныя «страсці» ў літаратурным асяроддзі, каб падтрымаць яшчэ кволыя літаратурныя парасткі. Вартастаноўчай ацэнкі дзейнасць у якасці крытыка і рэдактара твораў маладых Уладзіміра Карпава.

І ўсё ж не магу не помніць і не гаварыць пра тое, што была, моцна чула сябе ў літаратурным нашым асяроддзі іншая крытыка. Былі погляды, перакананні, якія, як бярвенні, ляжалі на нашай дарозе, затрымлівалі, прымушалі таптацца на месцы, збочваць. Нагадваю пра гэта не таму, што люблю трывожыць даўнія раны, а таму, што ўсё гэта было вельмі важнае для лёсу літаратуры, што ва ўсім гэтым таілася вялікая пагроза літаратуры — у націску вульгарнага сацыялагізму, у адрыве ад жыцця, у спрошчаным, вульгарным разуменні жыцця і задач літаратуры.

Нагадваю гэта яшчэ і таму — больш за ўсё таму,— што хачу звярнуць увагу на тое, як мы ў цэлым — і крытыка наша ў тым ліку — узняліся, выраслі ў параўнанні з першымі пасляваеннымі гадамі.

Гэта галоўная адзнака сённяшняга стану — крытыка прыкметна вырасла; зазнаўшы нялёгкі і несалодкі вопыт, яна пасталела. Яна, бясспрэчна, многаму навучылася. Навучылася на сваім вопыце, але і не толькі на ім. Думаю, што яе рост, мудрасць яе прыйшлі разам з вопытам, ростам нашага грамадства, у выніку той вялікай работы, якую здзейсніла партыя ад XX да XXIV з'езда.

Рост нашага грамадства вызначыў і рост літаратурнай крытыкі.

Трэба шчыра сказаць, што развіццё крытыкі і мастацкай літаратуры ў нас, як і ў іншых рэспубліках, ішло нягладка. Нельга не прызнаць, што і ў нас у той ці іншай форме былі тыя з'явы, якія былі адзначаны на XXIV з'ездзе як моманты, што ўскладнялі наша развіццё. У з'явах гэтых па-свойму адбіваліся працэсы, якія ішлі ў жыцці нашай краіны ў выніку работы партыі пасля XX з'езда; гэтыя працэсы ставілі перад пісьменнікамі спецыфічна-літаратурныя праблемы, якія не ўсе з нас змаглі адразу ўсвядоміць правільна, вырашыць у практычнай дзейнасці.

Вельмі красамоўнымі былі некаторыя выступленні ў дыскусіі аб традыцыях і наватарстве, якая з дзесятак

гадоў назад з незвычайным запалам грымела на старонках нашага «ЛіМа». Дыскусія была выклікана, несумненна, некаторымі жыццёвымі патрэбамі: наша літаратура, як і іншыя савецкія літаратуры, адчувала неабходнасць пошукаў новых герояў, новых форм, новых мастацкіх сродкаў. Памяць зберагла разумны, з бляскам напісаны артыкул А. Зарыцкага і некаторыя іншыя, у якіх аўтары выказвалі вельмі цвярозыя погляды і на сучасную літаратуру, і на шляхі яе развіцця. Але ж, помніцца, што ў той дыскусіі былі і такія галасы, якія з непахіснай упэўненасцю заяўлялі, што вялікія творы прозы, не толькі эпічныя, але і ўсе наогул раманы, сталі недаравальным анахранізмам, што сучаснымі па-сапраўднаму могуць быць толькі лакальная аповесць і навела. З імпэтам першаадкрывальнікаў, а фактычна паўтараючы тое, што пісалася ўжо ў іншых газетах, выказваліся аўтарытэтныя развагі пра сапраўдны сучасны стыль, які адпавядаў бы імклівым тэмпам дваццатага стагоддзя. Фактычна аб'яўлялася, што ўся, ці амаль уся, даўнейшая — да сярэдзіны шасцідзесятых гадоў, літаратура ўстарэла, аджыла сваё і мімаволі чулася, што за мяжу сучаснай літаратуры трапляюць ужо не толькі Купала і Чорны, але і жывыя нашы сучаснікі.

У аснове поглядаў некаторых пісьменнікаў было няўменне зразумець выключныя характар і значэнне змен, імкненне захаваць ранейшыя звычкі і ўяўленні пра літаратуру, аберагчы свае творы ад пагрозы дэвальвацыі, выкліканай новымі, больш высокімі і жыццёвымі патрабаваннямі. Не без хваравітых сімптомаў, трэба сказаць, некаторыя нашы літаратары расставаліся са звычкамі да лакіроўкі рэчаіснасці, да спрошчанага, дагматычнага разумення жыцця. Мне здаецца, што асаблівасці гэтага моманту могуць растлумачыць той напал, які выклікала ў нашых лепшых крытыкаў з'яўленне ў «Полымі» артыкула У. Карпава «Позірк назад».

Як і ўсякі няпросты рост, шлях нашай крытыкі да сённяшніх дзён можна паказаць на многіх прыкладах, многіх творах. Я не маю на мэце рабіць тут усебаковы разгляд гэтага развіцця, таму адзначу толькі некаторыя, на маю думку, найбольш важныя вехі на гэтым шляху.

Адной з найбольш значных з'яў нашай крытыкі — на пачатку шляху да сённяшняй сталасці — я лічу кнігі Алеся Адамовіча «Беларускі раман» і яе дапоўненае і пашыранае рускае выданне — «Станаўленне жанру». У гэтых кнігах крытыку ўдалося ўзняцца да шырокіх і праўдзівых абагульненняў, крытык выказаў спеласць думкі, сур'ёзнасць сваіх канцэпцый. Не выпадкова кніга Адамовіча, выдадзеная ў Маскве, стала фактычна і з'явай усесаюзнай крытыкі. Побач з кнігамі Адамовіча з поўным правам можна паставіць кнігі Рыгора Бярозкіна «Спадарожніца часу» і «Свет Купалы», кнігі Нічыпара Пашкевіча «На шырокіх шляхах жыцця», Уладзіміра Калесніка «Час і песні».

Можна было б назваць і некаторыя іншыя кнігі, якія яшчэ гадоў восем-дзесяць назад засведчылі, што беларуская крытыка добра ідзе ўгару. Але тут больш важна адзначыць, што іх з'яўленне не было нечым выключным, выпадковым; з гадамі да іх далучаліся новыя кнігі, якія ўсё больш пераканаўча заяўлялі пра новы, больш высокі ўзровень працы крытыкі. Без якіх-небудзь скідак мы можам паставіць за названымі кнігі, што з'явіліся пазней: «Літаратура і мова» Рыгора Шкрабы, «Голас чалавечнасці» Віктара Каваленкі, «Шматгалоссе жыцця» Уладзіміра Юрэвіча, «Шматграннасць» Дзмітрыя Бугаёва, «Эцюды аб прозе» Фёдара Куляшова, «Ад слова да вобраза» Алеся Яскевіча.

Як вельмі важную адзнаку росту крытыкі павінны адзначыць добры прафесійны, сапраўды навуковы ўзровень некаторых калектыўных прац нашых крытыкаў, прац, дзе нашы таварышы рашалі нялёгкія задачы, якія патрабавалі высокай метадалагічнай культуры, умення мысліць шырока. Нядрэнна вытрымалі даволі складаны экзамен аўтары кнігі «Праблемы сучаснай беларускай прозы» Павел Дзюбайла, Васіль Жураўлёў, Мікалай Луфераў. Многа працы — не адзін год працы — аддалі нашы таварышы з Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы стварэнню «Гісторыі беларускай літаратуры» ў 4-х тамах. Не заплюшчваючы вачэй на тое, што ў гэтай кнізе не ўсё раўнацэнна і не з усім можна ўпэўнена згадзіцца, аддадзім належнае многім яе аўтарам, якія — не будзем забываць пра гэта — упершыню ў гісторыі беларускай культуры здолелі стварыць такую маштабную, эпічную карціну нашай

літаратуры. Не маючы магчымасці тут падрабязна разабраць гэту вялікую калектыўную працу нашай крытыкі, усё ж не магу не адзначыць, наколькі вышэй па свайму навуковаму ўзроўню «Гісторыя беларускай літаратуры» ў 4-х тамах у параўнанні з папярэднімі калектыўнымі кнігамі «Гісторыі», у якіх аўтары часта грашылі супраць самых асноў гістарызму.

У цэлым варта станоўча ацаніць і дзве апошнія калектыўныя працы Інстытута літаратуры: «Беларуская савецкая проза. Апавяданне і нарыс», «Беларуская савецкая проза. Раман і аповесць». Да добрых якасцей гэтых кніг хачу аднесці імкненне некаторых аўтараў, асабліва Паўла Дзюбайлы, весці размову пра беларускую прозу не ў ізаляцыі ад усесаюзнага і сусветнага літаратурнага працэсаў, а ў цеснай сувязі з імі. Гэта робіць і самую гаворку пра нашу прозу больш глыбокай, павучальнай і разам з тым выводзіць беларускую крытыку да больш шырокіх, перспектыўных далягладаў. Не магу не сказаць пра тое задавальненне, якое адчуў я, за гэту шырыню бачання свету нашай літаратуры, чытаючы новыя артыкулы А. Лойкі і Р. Бярозкіна ў «Полымі» (у снежаньскім і лютаўскім нумарах) і артыкул А. Адамовіча ў «Вопросах литературы».

Упэўнен, што такое пашырэнне поля агляду даследчыкамі беларускай літаратуры варта падтрымкі і развіцця.

Можам парадавацца, што маем цяпер сур'ёзную, напісаную з удумлівасцю і дасведчанасцю кнігу, у якой падведзены вынікі немалога ўжо шляху беларускай літаратуры пра дзяцей. Гэта — «Гісторыя беларускай дзіцячай літаратуры» Эсфір Гурэвіч.

Цяжка пераацаніць тое, што робяць у нашай крытыцы таварышы, якія захапіліся пошукамі ў нашым літаратурным мінулым, яшчэ недаравальна мала даследаваным. Нельга не адзначыць з павагай тое, з якой адданасцю займаюцца нялёгкімі, карпатлівымі пошукамі ў цёмных нетрах архіваў нашай краіны і замежных краін Сцяпан Александровіч, Генадзь Кісялёў, Адам Мальдзіс. Яны знайшлі ўжо нямала скарбаў, няма сумненняў, што нас чакаюць наперадзе новыя цікавыя знаходкі і адкрыцці.

Таварышы, сярод тых папрокаў, якія адрасуюцца крытыцы, нярэдка можна чуць такі, што крытыка лішне займаецца рэцэнзаваннем, прычым рэцэнзаванне

кніг падаецца як справа простая, прымітыўная, амаль непатрэбная. Выказваюцца і такія думкі, што ў наш час, калі чытач пайшоў адукаваны, рэцэнзія — гэта ўжо нешта амаль недарэчнае. Маўляў, у наш час непатрэбны ўжо тлумачы, пасрэднікі паміж кнігай і чытачом.

З гэтым ніяк нельга згадзіцца. Нельга згадзіцца таму, што літаратура — звычайна з'ява не такая простая, што любы чытач, нават адукаваны, можа глыбока разабрацца ў кожным творы; думаю, што дасведчаны крытык здолее заўсёды адкрыць чытачу нешта важнае. Нельга згадзіцца і таму, што толькі такі «кароткі» жанр, як рэцэнзія, можа аператыўна адгукацца на многія з'явы хуткаплыннага літаратурнага жыцця, весці з чытачом штодзённы жывы дыялог.

Іншая справа, што багата рэцэнзій пішацца ў нас пакуль няўмела, нецікава, што яны часта аднастайныя, саладжавыя, нярэдка неглыбокія, неаб'ектыўныя і, бывае, не так скіроўваюць увагу, узбагачаюць чытача, як адбіваюць у яго цікавасць. Але гэта гаворыць пра тое, што трэба сур'ёзна заняцца гэтым жанрам, дабіцца павышэння майстэрства ў ім.

Не магу не далучыцца да той ацэнкі, якая дадзена некаторым рэцэнзіям і стану нашых крытычных спраў у гэтым радзе нашай дзейнасці ў Пастанове ЦК КПСС. «Рэцэнзіі, якія публікуюцца, нярэдка носяць аднабаковы характар, маюць беспадстаўныя камплімэнты, зводзяцца да беглага пераказу зместу твора, не даюць уяўлення пра яго рэальнае значэнне і вартасць». Жанр гэты на паверку аказваецца далёка не лёгкім: ён патрабуе выключнай выразнасці думкі, вастрыні «сюжэта», надзвычайнай лаканічнасці. І не дзіва, што пры тым, што рэцэнзій пішацца многа, майстроў у гэтым жанры пакуль небагата. Р. Бярозкін, А. Адамовіч, У. Калеснік, П. Пестрак, А. Вярцінскі — не вельмі можна падоўжыць гэты пералік.

Улічваючы значэнне рэцэнзіі, а таксама тое, якая гэта цяжкая і не заўсёды ўдзячная справа, я думаю, што добра было б, карысна для літаратуры — устанавіць нейкую штогоднюю прэмію за лепшую рэцэнзію года.

Хочацца адзначыць і такую сціплую і разам — патрэбную дзейнасць нашых крытыкаў, як удзел у стварэнні падручнікаў па літаратуры для інстытутаў і

школ, у стварэнні розных энцыклапедый, у тым ліку першай нашай Беларускай энцыклапедыі.

Падсумоўваючы тое, што зроблена крытыкай за мінулыя гады, лічу сваім абавязкам вылучыць адну красамоўную акалічнасць. Мы можам з задавальненнем сказаць, што за гэтыя гады не толькі з'явіліся змястоўныя, арыгінальныя кнігі — у нашай літаратуры як таленавітыя, арыгінальныя пісьменнікі выявілі сябе, занялі віднае месца ў нашых радах многія прадстаўнікі крытычнай думкі. Сапраўды, мы выразна адрозніваем ужо не толькі густ, стыль А. Адамовіча, Н. Пашкевіча, Р. Бярозкіна, але і В. Каваленкі, і П. Дзюбайлы, і Ю. Пшыркова, і Д. Бугаёва. Усё больш чутны ў крытыцы галасы маладзейшых — Варлена Бечыка, Серафіма Андраюка, Васіля Жураўлёва.

Нельга не сказаць і пра тое, што моцы нашай крытыцы вельмі прыкметна дадаюць дапаможныя сілы — аўтары, якія ў асноўным працуюць у паэзіі і прозе. Таленавіта заявілі пра сябе ў крытыцы Н. Гілевіч і І. Навуменка, Язэп Семяжон, Янка Брыль і Анатоль Вярцінскі. Цікава выяўляе сябе ў апошні час як крытык М. Арочка.

Не можа не радаваць і тое, што ў размову, якую вядзе пра беларускую літаратуру наша крытыка, усё часцей падключаюцца крытыкі Масквы і Кіева, братніх рэспублік. Аўчарэнка, Тэракапян, Аскоцкі, Навічэнка, Ламідзе і некаторыя іншыя савецкія крытыкі з увагай сочаць за нашай прозай і паэзіяй. Можам адзначыць сталую цікавасць, якую праяўляюць да беларускай літаратуры ў Польшчы — Фларыян Няўважны, у ГДР — Петэр Кірхнер. Гэтыя факты добра гавораць пра рост шырокага аўтарытэту беларускай літаратуры.

Я зрабіў гэты агляд здабыткаў нашай крытыкі і таму, што ёсць у некаторых нашых пісьменнікаў такія перакананні — быццам крытыка амаль нічога не зрабіла для літаратуры. Гэта — несправядліва. Але было б неразумным не бачыць за дасягненнямі крытыкі і вялікія прагалы на крытычным полі.

Мне здаецца, адна з асноўных заган часткі нашай крытыкі — гэта нетрывалая тэарэтычная ўзброенасць, няўвага да важнейшых тэарэтычных праблем літаратуры. Наша крытыка, па-мойму, не можа асабліва пахваліцца грунтоўнымі даследаваннямі па асноўных

праблемах творчасці — напрыклад, праблеме народнасці і партыйнасці ці праблеме ўзаемадзеяння і ўзаемаўзбагачэння на сучасным этапе сацыялістычных літаратур. Думаю, мусім цалкам прыняць, як зусім справядлівую, і ў наш адрас тую прынцыповую ацэнку, якую дае значнай частцы крытыкі Пастанова ЦК КПСС: «Многія артыкулы, агляды, рэцэнзіі маюць павярхоўны характар, адзначаюцца невысокім філасофскім і эстэтычным узроўнем, сведчаць пра няўменне суадносіць з'явы мастацтва з жыццём».

Мяркуючы па дыскусіі і па артыкулах у часопісах, надзённымі, малавысветленымі застаюцца дасюль пытанні метадалогіі крытычных даследаванняў — пытанні, ад вырашэння якіх залежыць глыбіня, навуковы ўзровень працы крытыкаў. Не выпадкова пытанні гэтыя занялі такое вялікае месца ў дыскусіі, што прайшла на старонках «ЛіМа», вызначыўшы сабою жывое хваляванне артыкулаў М. Лобана, П. Пестрака, У. Юрэвіча, Я. Герцовіча, М. Ларчанкі і інш., вялікага артыкула В. Каваленкі ў «Полымі».

Можа, залішне абагулена, але не без пэўных падстаў Ул. Юрэвіч у сваім артыкуле «Па-партыйнаму — значыць прафесійна» самакрытычна падсумоўвае, што наша крытыка «пры сваіх бясспрэчных поспехах у ідэйна-тэматычным асэнсаванні літаратурнага працэсу ўсё ж не можа пахваліцца высокім прафесіяналізмам». Як істотную загану сучаснай крытыкі адзначае В. Каваленка ў сваім артыкуле недастатковую чуласць да жыцця, да новых яго з'яў, няўменне крытыкі скіраваць увагу пісьменніка і літаратуры на гэтыя з'явы, своечасова падказаць новыя шляхі развіцця, новыя магчымасці. В. Каваленка строга судзіць крытыку за тое, што яна «часта сама не ведае і не адчувае, якія сацыяльныя, псіхалагічныя, маральныя змены адбываюцца ў народным жыцці».

Справядліва трывожыць П. Пестрака тое, што ў сучаснай крытыцы нашай многа «шэрых, выпадковых, мізэрных публікацый, якія пісаліся часам не з навукова-аб'ектыўных пазіцый, а з дробных пазалітаратурных інтарэсаў». Варты падтрымкі заклік Пестрака «рашуча змагацца з праявамі суб'ектывізму, які б ён сабе ні быў — ці цукровы, ялейны (для адных), ці горкі (для другіх)». Пра тое, што трывога П. Пестрака зусім правамерная, што такое становішча ўласціва не

толькі беларускай крытыцы, гаворыць і Пастанова ЦК, якая як загану сучаснай крытыкі адзначае «прымірэнчыя адносіны да ідэйнага і мастацкага браку, суб'ектывізм, прыяцельскія і групавыя адносіны».

Сур'ёзнай слабасцю некаторых твораў нашай крытыкі П. Пестрак і К. Кулакоўскі лічаць недастатковую грунтоўнасць сацыяльнага аналізу з'яў жыцця і літаратуры; але, думаецца, не менш важнай з'яўляецца для крытыкі і задача паглыблення, удасканалення эстэтычнага даследавання твораў. «Не можа быць прафесійным выступленне крытыка, калі ў ім няма эстэтычных ацэнак»,— як бы дапаўняе П. Пестрака і А. Кулакоўскага Ул. Юрэвіч, і з гэтым нельга не згадзіцца. Думаю, што простая і надзейная ісціна ў тым, што літаратурная крытыка, як было адзначана пры абмеркаванні вынікаў дыскусіі ў СП БССР, не павінна дапускаць разрыву сацыяльнага і эстэтычнага крытэрыяў у ацэнцы з'яў мастацкай літаратуры.

Мне здаюцца істотнымі такія папрокі Ул. Юрэвіча нашай крытыцы, як недастатковая ўвага яе да пытанняў нацыянальнага ў сістэме поглядаў пісьменніка, дзіўная бестурботнасць да моўнага майстэрства аўтараў мастацкіх твораў.

Азіраючы ўважлівым позіркам зямлю нашай калектыўнай гаспадаркі, мы не можам не заўважыць на яе крытычным кліне, што не ўсё тут зроблена як належыць. Ёсць дзялянкі, пасеяныя не надта якасна, пустазеллем, ёсць зусім недаравальна закінутыя, якія сведчаць аб проста-такі кепскім гаспадаранні.

Добра бачачы тое добрае, што ёсць, напрыклад, у апошніх калектыўных працах «Апавяданне і нарыс», «Раман і аповесць», можна заўважыць таксама, што ў іх іншы раз мнагавата апісальнасці, пералікаў імён і назваў, з-за якіх асобныя раздзелы проста стракацяць. Не магу не адзначыць, што кнігі гэтыя не маюць дастаткова трывалага адзінства, што яны прыкметна распадаюцца на раздзелы, якія розняцца не толькі стылем, глыбінёй даследавання, але і — што горш — розніцай *крытэрыяў*, калі адны перыяды разглядаюцца з суровым крытычным пафасам, а другія — з прыкметнай паблажлівасцю. Уражанне такое, як бы перад намі квартэт ці квінтэт, удзельнікі якога, іграючы адну музычную рэч, не надта прыслухоўваюцца адзін да аднаго.

У асобных месцах гэтых кніг, на жаль, адчуваецца, што аўтары не так ідуць ад самога матэрыялу літаратуры, як ад загадзя складзенай схемы,— адсюль уражанне заўчаснай зададзенасці, схематычнасці, няздольнасці перадаць рух нашай прозы дыялектычна, а значыць, у адпаведнасці з жыццём. Такі выразна схематызаваны погляд адчуваецца, напрыклад, у раздзеле «Апавяданне перыяду Вялікай Айчыннай вайны». У пачатку раздзела справядліва гаворыцца пра тое, што вайна была выключнай падзеяй у жыцці народа і што «мастацкая літаратура ў час вайны стала вострай ідэалагічнай зброяй у барацьбе з ворагам». Аўтар зазначае справядліва ва ўступе: «Гэтым і быў абумоўлены ў лепшым сэнсе слова характар ранняга ваеннага апавядання». Далейшы ж, канкрэтны разгляд дзіўна пярэчыць гэтай жыццёва дакладнай дэкларацыі: як бы забыўшы пра яе, аўтар з нейкай халоднай бясстраснасцю, без адчування часу, яго сапраўднага трагізму раскладвае ўсё па просценькіх палічках. З пачуццём вельмі адчувальнай вышэйшасці, з утульнай цішыні мінскага пакоя аўтар нелітасціва судзіць не толькі тых маладых, што адгукаліся ў грымотах і крыві мінулай вайны першымі галасамі, але і такіх майстроў, як К. Чорны і М. Лынькоў. «Некаторыя сцэны ў творах К. Чорнага і М. Лынькова пазбаўлены псіхалагічнай канрэтнасці і ўспрымаюцца як *адарваная ад жыцця паэтызацыя рэчаіснасці, аднабаковая схематычная гераізацыя спраў і падзей»*. Звяртаю асаблівую ўвагу на апошнія словы: *«адарваная ад жыцця»*, *«аднабаковая»* і хачу адказаць аўтару, што адарванасць ад жыцця, аднабаковасць і схематызм, і прытым недаравальныя, ёсць, але горш за ўсё — у вашым артыкуле.

Што ж датычыць К. Чорнага і М. Лынькова, то яны — раю не сумнявацца — ведалі яе трохі лепш, чым аўтар артыкула, і, відаць, свядома ішлі на гэту «схематычнасць», бо ў іх была свая звышзадача, выкліканая, як піша аўтар у дэкларатыўнай частцы, выключнай задачай, агітацыйным імкненнем. Невялікая ж мудрасць: адрозніць плакат ад жывапіснага палатна, зразумець, што ў іх розныя задачы і розныя *законы*, а значыць, і розныя сродкі, што бываюць моманты, калі не да жывапісу, не да паўтонаў, за якія даследчык строга судзіць празаікаў ваеннай пары. Таксама, як

не да «псіхалагічнага паглыблення» салдату, якога схапіў за горла вораг.

У раздзеле ёсць і няпраўда дробная, дзе ў адну кучу непераборліва звалены розныя творы з агульнай знішчальнай ацэнкай, ёсць там дзіўнае неразуменне рознасці задач літаратуры перыяду вайны і літаратуры канца 50—60-х гадоў, але галоўнае — ёсць там вялікая няпраўда. У артыкуле пра літаратуру ваеннага перыяду аўтар, па сутнасці, амаль не гаворыць пра *самую* вайну, пра тое, *што* ж такое яна была для нашага народа! Не гаворыць, як бы кепска адчувае гэта. Дзіўная нячуласць! Ці не ад гэтага і ўсё далейшае?

Гавару так падрабязна пра гэта з перакананння, што гэта — істотна, што нешта падобнае, няхай у менш выразнай форме, можна адчуць у некаторых раздзелах пра літаратуру першых пасляваенных гадоў, дзе таксама заўважаецца іншы раз нячуласць да часу, да яго патрэб, а адсюль і неразуменне своеасаблівасцей тагачаснай літаратуры, яе ўсебаковых сувязей з жыццём. Дзе таксама, бывае, чуюцца цвёрдыя рэбры схемы.

Думаю, што крытыцы нашай варта ісці далей па шляху ўсебаковага, дыялектычнага даследавання гісторыі жыцця і літаратуры. І разглядаць іх заўсёды ў непарыўнай сувязі, бачачы вытокі літаратуры ў істотных праявах жыцця. І варта, па-мойму, помніць, што схемы новыя ні ў чым не лепш за схемы старыя. Трэба адыходзіць канчаткова ад усіх схем.

Калі клопатным позіркам азіраеш наша літаратурнае поле, не можаш не заўважыць яшчэ адну асаблівасць. Крытыка наша чамусьці даглядае гэтае поле дзіўна выбарачна. Ёсць участкі, дзе крытыкаў даволі, а дзе-нідзе, можа, нават і лішне, і разам з тым — ёсць дзялянкі зусім пакінутыя без прыгляду. Ёсць аўтары і творы, якія многія гады, а часам і дзесяцігоддзі чакаюць сур'ёзнага слова пра сябе. Пакуль што не пачулі мы грунтоўнага слова крытыкі ні пра аб'ёмны раман І. Гурскага «Вецер веку», ні пра тры раманы М. Машары, які ўпершыню выступіў у галіне прозы, ні пра чатыры раманы У. Карпава — цыкл «На перавале стагоддзя». Няма артыкулаў пра некалькі аповесцей Р. Сабаленкі, толькі ў апошнія часы паявіліся водгукі на творы А. Савіцкага. Спіс гэты можна пашырыць, я адзначаю іменна названыя творы толькі таму, што па задуме, па намерах аўтараў, па аб'ёме

яны настолькі прыкметныя, што не заўважыць іх проста немагчыма. Немагчыма паверыць, што іх не чыталі, чаму ж пра іх нічога не напісана? Я не думаю, што ў нашых крытыкаў не хапіла б умення разабрацца ў іх. Відаць, тут ці — інертнасць крытыкі, ці лянота, ці боязь улазіць у нялёгкую гаворку!

Мімаволі прыходзіць думка, што крытыка наша абыходзіць складаныя задачы, што значнай частцы яе не хапае той баявітасці, бескампраміснасці, якая вызначала, напрыклад, артыкулы Р. Бярозкіна пра паэзію і артыкул Н. Пашкевіча аб прозе. Адзначу, што Н. Пашкевіч і Р. Бярозкін выступалі і аператыўна, і разам з тым — глыбока, прадумана. Баявітасць паказваюць і цяпер некаторыя крытыкі — напрыклад, П. Дзюбайла і С. Андраюк,— але ў цэлым нельга не прызнаць: сіла крытычнай зброі ў таго-сяго прытупілася. Я пазней скажу пра некаторыя прычыны гэтага трывожнага становішча.

Хочацца, хоць бы коратка, падзяліцца ўражаннямі пра літаратурныя матэрыялы ў нашай БелСЭ, Беларускай савецкай энцыклапедыі. Па першых чатырох тамах, якія сталі на нашы паліцы.

Мы рады, што энцыклапедыя так шырока асвятляе гісторыю беларускай літаратуры, і бачым, што тут і супрацоўнікі гэтага адказнага выдання, і крытыкі робяць вялікую справу. І ў цэлым робяць добра. Але, на жаль, і тут, як мне здаецца, не заўсёды адчуваецца грунтоўнасць ацэнак, адзінства крытэрыяў. Ёсць, напрыклад, уражанне аднабаковасці ў ацэнцы творчасці Ц. Гартнага. Вось як характарызуецца паэтычнае аблічча пісьменніка: «Паасобныя творы Гартнага не пазбаўлены плакатнасці і схематызму, агульных абстрактна-публіцыстычных разважанняў, прызямленага натуралістычнага апісальніцтва». Паколькі другой характарыстыкі паэзіі Гартнага не даецца, то тут гэтае «паасобныя творы» выглядае, падбона, як слова для прыліку. Дарэчы, пра «паасобныя творы» тут ёсць якасная ацэнка, а як выглядаюць «не паасобныя», а *асноўныя* творы мы не ўведаем нічога. Чаму ж такая перавага *паасобным* творам? Далей: Гартны — «найбольш арыгінальны як празаік». І зноў такая якасная характарыстыка: «Проза Гартнага вызначаецца павольным разгортваннем дзеяння, падрабязнай дэталізацыяй, мова насычана дыялектызмамі».

Чаму тады Гартны займае такое высокае месца ў гісторыі літаратуры? Дарэчы, у артыкуле няма подпісу аўтара. Хто яго напісаў? І дарэчы ж скажу, што ў Вялікай савецкай энцыклапедыі партрэт Гартнага напісан інакш, з большай павагай.

Сцісла, але вельмі прыхільна пададзена ў БелСЭ творчасць маладзейшых — Г. Бураўкіна, Р. Барадуліна. І неяк кідаецца ў вочы, што А. Вярцінскаму, іх таварышу, *як паэту*, не знайшлося ніводнага слова. Нават і не характарызуецца ён як паэт. І гэта пры тым, што А. Вярцінскі — адзін з самых яркіх прадстаўнікоў пакалення... Трэба, відаць, з большай увагай рыхтаваць кожную публікацыю, помніць, што гэта — *энцыклапедыя*.

Таварышы, у Пастанове ЦК КПСС адзначана, што па-за наглядам крытыкі застаюцца не толькі многія кнігі, але і многія спектаклі і фільмы. Гэты напамінак мае для нас, можа быць, асаблівую важнасць. Асаблівую таму, што калі гаварыць пра кіно, то ім ніхто з беларускіх крытыкаў (членаў Саюза) не займаецца стала, і таму, што мастацкае кіно і тэлебачанне працуюць у нас, трэба проста сказаць, вельмі кепска. Мы як бы забываем пра значэнне кіно і не заўважаем, як вырасла роля і сіла тэлебачання, што жывяцца літаратурай і моцна яе пацяснілі. Помніцца, была ў «ЛіМе» цікавая і вострая дыскусія, але гэта было даўно, ды і змен асаблівых у стане нашых спраў яна не дала. Нам трэба біць трывогу аб тым, што робіцца ў кіно і на тэлебачанні. Калі мы можам гаварыць пра поспехі дакументальнага кіно і тэлебачання, то як можа мірыцца наша крытыка з тым, што робіцца ў іх мастацкіх кірунках! «Я, Францыск Скарына», дылогія «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой», што яшчэ можна згадаць сапраўды сур'ёзнага ў прадукцыі нашай студыі за апошнія гады? Па ўсім свеце гайсаюць рэжысёры нашай студыі ў пошуках тэм, па ўсёй краіне шукаюць сцэнарыяў і толькі кепска бачаць тое, што побач, чым жыве наш народ!

У апошнім нумары «ЛіМа» ў рэпартажы са студыі Р. Бакуновіч з захапленнем піша пра некаторыя фільмы, што здымаюцца: «Чукотка. Тундра...» (фільм «Тыя, што ідуць за гарызонт») і «Холадна — марозы ў Мінску лютыя, а на экране спякотная Каліфорнія!..» («Вашынгтонскі карэспандэнт»). Былі ўжо, былі ў нас,

на экранах нашай студыі, і гарачая Арфыка, і гангстэры Амерыкі, і крымскія пейзажы а вось пра народ наш, пра зямлю нашу — што сказана глыбокага, ад сэрца? «Мароз бярэ» за душу, калі чытаеш такое! Ёсць фармальна фільмы і пра Беларусь, але колькі ў іх рамесніцтва, сачыніцельства, ды і месца дзеяння — Беларусь — тут нярэдка проста прышпілена.

Многа браку ў тэлебачанні. Нядаўна я глядзеў новы фільм нашай тэлестудыі: «Там вдали, за рекой» — надзіва бездапаможны, пусты,— сцэнарый напісаны нейкім А. Гвоздзікавым. Фільм ішоў на Маскву, і мне было сорамна не толькі за студыю, а і за ўсё наша мастацтва. Гэта ж гледачамі краіны можа ўспрымацца як узровень сучаснага беларускага мастацтва!

Як мы можам праходзіць міма гэтага?

Не ўсё добра з крытыкай нашых тэатральных спраў. Праўда, тут крытычныя сілы нашы працуюць лепш. Хочацца пахваліць артыкул Б. Бур'яна ў № 12 «Полымя», у якім ён аналізуе кнігу У. Няфёда пра тэатр імя Я. Купалы. Артыкул — цікавы, канкрэтны, прынцыповы, з добрай дасведчанасцю.

Не можам не падтрымаць мы дакор нашай крытыцы за тое, што яна, даследуючы беларускую літаратуру, вельмі рэдка, быццам баязліва перастулае межы нашай рэспублікі і ўжо зусім не зазірае за мяжу краіны, не вывучае літаратурны працэс у зарубежных літаратурах, нават блізкіх, сацыялістычных. Крытыка гаворыць мала не толькі пра тое, што адбываецца ў сучасных французскай ці італьянскай літаратурах, але і ў польскай ці славацкай.

Наша крытыка амаль не ўдзельнічае ў той няспыннай барацьбе, якую вядзе сацыялістычная літаратура з літаратурай імперыялістычнага разбою, з рознымі праявамі сучаснага мадэрнізму. «Крытыка ўсё яшчэ недастаткова актыўная і паслядоўная,— гаворыцца ў Пастанове ЦК КПСС,— у сцвярджэнні рэвалюцыйных, гуманістычных ідэалаў мастацтва сацыялістычнага рэалізму, у выкрыцці рэакцыйнай сутнасці буржуазнай «масавай культуры» і дэкадэнцкіх плыней, у барацьбе з рознага роду немарксісцкімі поглядамі на літаратуру і мастацтва, рэвізіянісцкімі эстэтычнымі канцэпцыямі».

У гэтых адносінах наша крытыка застаецца пакуль што, на жаль, недаравальна абмежаванай, пасіўнай.

Таварышы, мне хацелася б выказацца па некаторых пытаннях, узнятых у часе дыскусіі па крытыцы, якія, на маю думку, трэба ўдакладніць.

У пачатку дыскусіі ў «ЛіМе» быў надрукаваны змястоўны і разумны артыкул М. Лобана «Калі б у мяне запыталі...». У ім многа слушнага, але адзін момант у мяне выклікае жаданне, пэўна, не так паспрачацца з аўтарам, як праясніць яго думку, якая можа быць зразумета і так і гэтак.

М. Лобан піша: «Запытайце ў мяне, якога крытыка я хачу, я закрычу — суб'ектыўнага, не зашпіленага на ўсе гузікі, не адгладжанага, выфукаванага, не расфасаванага па аб'ектыўных палічках, а чалавечнага, з жывінкай думкі». Тут ёсць рэчы, з якімі нельга спрачацца: хто супраць крытыка чалавечнага, з жывінкай думкі, хто за расфасаванага па аб'ектыўных палічках? Мяне насцярожвае іншае: «Якога крытыка я хачу? Я закрычу — суб'ектыўнага!»

Тут мне і хочацца высветліць: а што такое — суб'ектыўны крытык? Што такое яго суб'ектыўнасць? Так, я таксама не хачу крытыка «без жывінкі думкі», зашпіленага на ўсе гузікі, але я не прагну, шчыра кажучы, і крытыка, расшпіленага на ўсе гузікі. Не хочацца мне крытыка расшпіленага, тым больш — распяразанага!

М. Лобан далей вельмі добра піша, як важны для пісьменніка прысуд крытыка, асабліва першы. Ужо гэта адно абавязвае крытыка да адказнасці, да аб'ектыўнасці ў ацэнцы. Ёсць і яшчэ адзін аспект у дзейнасці крытыка. Падабаецца ці не падабаецца гэта нам, дзейнасць яго — з'ява грамадская. Да голасу яго прыслухоўваюцца.

Я супраць таго, каб голас гэты лічыўся апошнім словам, як суд найвышэйшай інстанцыі. Але я і супраць таго, каб ён лічыўся нікчэмнай балбатнёй. Слова крытыка павінна цаніцца! А гэта таксама абавязвае.

Я разумею, у гэтага медаля ёсць свой адваротны бок. І раней і цяпер некаторыя не ў меру рухавыя дзеячы ў рэдакцыях, а часам і аўтары твораў іншы раз бестактоўна лезлі і лезуць у душу крытыкаў. Навязваюць тэмы, кнігі, нават ацэнкі. І ў гэтай дыскусіі нене ды і мільгне нецярплівы папрок: пра таго напісалі і хваляць, а таго не заўважылі ці крыўдзяць. Такі націск на крытыку недапушчальны. Крытык мае права

на свае погляды, ацэнкі, сімпатыі і антыпатыі! Ён мае права на павагу, на давер'е, на веру!

Але вартасць працы крытыка залежыць усё ж ад аб'ектыўных законаў: ад таго, наколькі разумна, правільна тое, што ён выказвае, раіць. Сама па сабе суб'ектыўнасць нічога не вызначае: усё рашае, якая вартасць гэтай суб'ектыўнасці. Вартасць яе можа быць высокай — калі яна дакладная ў ацэнках і парадах; можа быць роўнай нулю — калі з яе ніякай карысці; можа быць і са знакам мінус — калі яна шкодзіць, замінае. Суб'ектыўнасць можа і шкодзіць, замінаць, гэта ж факт.

Я супраць культу суб'ектыўнасці. Культ суб'ектыўнасці — гэта суб'ектывізм. Суб'ектыўнасць, узведзеная ў абсалют, непазбежна вядзе да суб'ектывізму.

Крытык павінен імкнуцца памагчы пісьменніку, літаратуры, грамадству. А гэта магчыма, па майму перакананню, толькі тады, калі, пазіраючы праз сваю неад'емную, дарагую суб'ектыўнасць, крытык здолее спасцігнуць аб'ектыўны сэнс рэчаў. І поспех яго будзе тым больш несумненны, чым лепш ён здолее дасягнуць аб'ектыўнасці.

Тут мне хацелася б выказаць некалькі думак, якія маюць адносіны да псіхалогіі творчасці і да сённяшняй нашай тэмы.

Крытыка — не як жанр, а як якасць чалавека — наогул уласціва не толькі дыпламаваным крытыкам. Фактычна кожны сапраўдны пісьменнік у глыбіні душы крытык, прытым крытык перакананы, цвёрды. Часам самы строгі да сябе. Згадайце, напрыклад, як судзіў сябе Л. Талстой.

Існуе закон у мастацтве: чым вышэй талент, тым, як правіла,— мацней яго патрабавальнасць да сябе. Слабыя пісьменнікі звычайна задаволены сабою, графаманы — проста ў захапленні. У гэтым, дарэчы, адна з самых цяжкіх праблем крытыкі. Добрыя пісьменнікі не лёгка паддаюцца крытыцы збоку, бо ў іх ёсць свае прынцыпы, а графаманы — з-за перакanання ў сваёй дасканаласці.

Крытыку пісьменнік успрымае праз *самакрытыку*. Без самакрытыкі няма сапраўднага пісьменніка. Крытыка для пісьменніка, калі ў яго няма якасці самакрытыкі,— марная рэч.

На маю думку, адна з важных задач крытыкі як жанру, між іншым — у тым, каб выхоўваць, развіваць у пісьменніка здольнасць да самакрытыкі.

Даўно заўважана: густы і погляды пісьменніка і крытыка амаль ніколі не супадаюць поўнасцю. Трэба сказаць, што і крытыка ў ацэнках твораў рэдка бывае дакладнай. Пісьменнік звычайна павінен прасейваць крытычнае насенне, аддзяляць карыснае, патрэбнае ад некарыснага.

Звычайна пісьменніку даводзіцца па зярняці збіраць карыснае ад крытыкі, каб спазнаць сябе, літаратуру.

Пісьменнік і крытык — гэта найчасцей дыялог двух вельмі розных людзей, з рознымі густамі, з рознымі суб'ектыўнымі асаблівасцямі. Самая важная і самая няпростая задача, якая стаіць перад крытыкам,— гэта задача зразумець пісьменніка, настроіцца на адну радыёхвалю. Настроіцца не для таго, каб толькі ўважліва, пачціва слухаць, а для таго, каб — зразумець, а зразумеўшы, уступіць у адкрытую, прынцыповую гаворку з ім: параіць ці перасцерагчы, паспрачацца ці асудзіць, у залежнасці ад таго, што неабходна сказаць. Толькі тады, калі крытык глыбока спасціг задуму пісьменніка, свет яго імкненняў, можа быць сапраўднае разуменне сутнасці пісьменніка і яго твора, сапраўднае адчуванне іх сілы і слабасці, іх праўды і няпраўды.

Калі крытык не разумее, не адчувае пісьменніка, калі пісьменнік не слухае крытыка, іх размова — дыялог на розных мовах, дыялог глухіх, якія не чуюць адзін аднаго. Такі дыялог у нас, на жаль, яшчэ вельмі часта бывае.

Самая моцная і карысная еднасць, якая павінна звязваць пісьменніка і крытыка,— гэта імкненне ўсім сэрцам служыць нашаму народу, нашай партыі ў вялікай, нязнанай у вяках справе пабудовы камуністычнага грамадства. Ва ўсёй няпростай дыялектыцы ўзаемадачыненняў мы ўрэшце павінны помніць пра тое, што мы — рабочыя аднаго цэха і сейбіты аднаго поля і што агульнымі нашымі намаганнямі важны цэх гэты павінен працаваць зладжана, а поле засеяна дабраякасна.

Гэта залежыць ад кожнага з нас, і кожны з нас за гэта ў адказе. І кожны з нас, і ўсе мы разам.

ЦК КПСС у Пастанове вылучае, як адзін з галоўных — «абавязак крытыкі глыбока аналізаваць з'явы, тэндэнцыі і заканамернасці сучаснага мастацкага працэсу».

Дзейнасць наша павінна быць накіравана на тое, каб агульнымі намаганнямі высвятляць найбольш важныя і плённыя кірункі і асаблівасці сучаснага літаратурнага развіцця.

Я таксама хацеў бы выказаць тут некалькі думак, якія мне здаюцца вартымі ўвагі.

Пачну з напамінку пра выдатны гістарычны факт, што мы жывём у год, у які наш народ будзе адзначаць паўвекавы юбілей дзейнасці ў Саюзе Савецкіх рэспублік.

Як вядома, гэтыя гады былі часам вялікіх, незвычайных дасягненняў, часам цеснага, сапраўды братняга супрацоўніцтва нашага народа з іншымі народамі Савецкага Саюза ў самых розных галінах — палітычнай, эканамічнай, культурнай.

Я нагадваю пра гэта па той прычыне, што акалічнасці гэтыя з'яўляюцца надзвычай важнымі для разумення і сённяшняга стану беларускай літаратуры, і асаблівасцей яе развіцця.

Значны ўзровень і значныя, разнастайныя сувязі з літаратурамі іншых братніх народаў — гэта, можа быць, самыя істотныя адзнакі цяперашняга жыцця нашай літаратуры.

Без перабольшання можна сказаць, што беларуская літаратура ўключаецца не толькі ва ўсесаюзны літаратурны працэс, а і — у той ці іншай меры — у працэс еўрапейскі і сусветны. Я звяртаю на гэта ўвагу таму, што ў наш час, час усеагульнай ідэалагічнай барацьбы, усеагульнай інфармацыі, гэта акалічнасць вельмі многае вызначае ў характары жыццядзейнасці кожнай літаратуры, ды і кожнага пісьменніка.

Высокі ўзровень найбольш развітых літаратур краіны і свету ставіць неадменныя, павышаныя патрабаванні да любой літаратуры, да кожнага пісьменніка. Пісьменнік павінен увесь час дбаць аб сабе: развіваць, паглыбляць свой светапогляд, мысліць шырока, бачыць глыбока, няспынна дбаць пра сваю прафесійную культуру, пра майстэрства. Не выпадкова ў Пастанове ЦК ёсць словы, якія трэба разумець як адну з галоўных задач крытыкі. «Літаратурна-мастацкая крытыка

заклікана садзейнічаць пашырэнню ідэйнага кругагляду мастака і ўдасканаленню яго майстэрства».

Пра тое, што тут у нас далёка не ўсё добра, выразна гаворыць слабае філасофскае напаўненне, эмпірызм многіх твораў, у тым ліку вялікіх па аб'ёму твораў прозы — раманаў, аповесцей. Уменне глыбока мысліць, напаўняць творы сур'ёзнай думкай, па-мойму, стала адной з надзённых задач літаратуры.

Мы не можам заплюшчваць вочы на тое, што перад значнай часткай нашых пісьменнікаў стаіць пагроза небяспечнага адрыву ад жыцця. Многія з нас жывяць свой розум і сэрца выпадковымі назіраннямі і ўражаннямі, уражаннямі нібы пабочных назіральнікаў. Як пра бяду трэба ўжо гаварыць пра тое, што большасць з нас не месяцамі, гадамі фактычна абмежавана сценамі рэдакцыйных кабінетаў, пакоямі службовых установаў, і звыклыя маршруты нашы — ад кватэры да вуліцы Захарава ці Энгельса і да дома № 79 на Ленінскім праспекце. Не, я не пярэчу, што трэба чытаць рукапісы і рыхтаваць чарговыя нумары і сходы рыхтаваць трэба (хоць колькасць іх і не лішне б скараціць). Я добра разумею, ёсць багата важкіх прычын таму, што многім даводзіцца аддаваць лепшы час далёкім ад творчасці клопатам.

Ёсць прычыны, і прычыны сур'ёзныя. Але ж падумайце, што выходзіць: жыццё, такое багатае, вялікае, часта праходзіць міма нас. Тое жыццё, якое ў наш час так шырыцца не толькі новымі заводамі, расце новымі ўраджаямі, але і, як казалі некалі «маладнякоўцы» — бурапеніць новымі галасамі, гукамі, новымі страсцямі. Міма нас ідзе жыццё, подых якога ўліў бы свежасць, сілу, новае хараство ў нашы творы!

Ах гэта сучасная тэма, кожны твор якой некаторыя аўтары патрабуюць сустракаць ледзь не ўрачыстым громам духавых аркестраў і барабанным боем, і гэтыя няўдзячныя крытыкі, якія чамусьці найбольш маўчаць лядзяна, як бы не разумеючы значэння новага сучаснага слова, важнай тэмы... Так, нам патрэбны творы пра сучасны рабочы клас, пра сучаснае калгаснае сялянства, але нам патрэбны творы, вартыя высокай тэмы. Нам патрэбны творы, у якіх было б жывое жыццё, жывая праўда, якія б адкрывалі нам, хвалявалі б — а не падсоўвалі б нам замест жыцця

сумную, нудную выдумку, выседжаную цалкам у цёплай гарадской кватэры.

Нашым чытачам трэба не наогул творы пра сучаснасць. Чытачам трэба добрыя творы, толькі добрыя творы. І мы не можам не падтрымаць тых крытыкаў, якія і ў гэтым выпадку трымаюць высокія крытэрыі.

Скажу, дарэчы, што, па майму перакананню, у нас ёсць мастацкія творы, якія адпавядаюць самым строгім патрабаванням крытыкі. Што да разумення тэмы сучаснасці, то я заўсёды быў на баку тых, хто прытрымліваўся погляду на сучаснасць як на шырокую па часе з'яву. Але калі і згадзіцца з тымі, якія лічаць, што сучаснасць — гэта толькі дзень сённяшні, то і тут можна было б назваць нямала высокіх вартасцей мастацкіх твораў аб сучаснасці — вершаў, нарысаў, нават некалькі раманаў, хоць, можа, і не ва ўсім бездакорных, але пазначаных сур'ёзным роздумам пра дзень сённяшні.

Дарэчы ж, скажу, што ніяк не магу згадзіцца з думкай пра нейкія асаблівыя цяжкасці напісання твораў аб сённяшнім дні. Я асабіста перакананы, што сапраўдны твор пра далёкую гісторыю напісаць куды цяжэй, чым пра тое, сведкам чаго можаш ты быць. Уся бяда некаторых твораў пра сучаснасць у тым, што добрыя творы, на жаль, вырастаюць толькі з нявыдуманых, жыццёвых назіранняў, з глыбока пяражытага.

А назіранняў гэтых у нас бывае малавата, ад прычыны, пра якую я казаў вышэй.

Ад недахопу жыццёвых назіранняў і, можа, ад недастатковай агульнай і творчай культуры ў некаторых творах нашых, на маю думку, ёсць сімптомы небяспечнай хваробы, характар якой можна выказаць словам — імітацыя. В. Каваленка ў сваім артыкуле як загану некаторых твораў адзначае імітацыю «значнасці ўнутранага жыцця герояў». Я думаю, што хвароба гэта багата шырэй: можна з пэўнасцю гаварыць не толькі пра імітацыю значнасці вобразаў, а і пра імітацыю праблем у некаторых творах, пра імітацыю жыцця ў іх.

Імітацыя праблем і жыцця ў творах — гэта імітацыя літаратуры.

У сувязі з гэтым хачу напомніць даўнюю, але неадменную ісціну: вартасць, сапраўднасць мастацкага

твора вызначаецца якасцю яго праўды, глыбінёй разумення яе.

У мастацтве, усе гавораць, імкнуцца да праўды. Многія заяўляюць, перакананыя, што знайшлі яе. Але далёка не ўсім удаецца сказаць сапраўдную праўду. Праўда ў жыцці — нярэдка рэч з няпростым спляценнем розных якасцей, вытокі якіх і ў гісторыі, і ў сацыяльных умовах жыцця, і ў мнагастайнасці чалавечай псіхалогіі. Наш метад — марксісцка-ленінскі метад — дае магчымасць даследаваць эпоху і чалавека з вялікай надзейнасцю і дакладнасцю, але метадам, як вядома, трэба ўмець карыстацца. Не кожнаму, на жаль, дадзена разгледзець час і чалавека ва ўсёй узаемазвязанасці, ва ўсіх праявах; для глыбіннага пранікнення ў іх патрэбы і веды, і роздум, і талент. Талент, веды, майстэрства патрэбны, каб праўду жыцця зрабіць праўдай мастацтва.

Меў рацыю Э. Хемінгуэй, калі пісаў: «Што сапраўды цяжка, дык гэта стварыць нешта праўдзівае».

Мне хацелася б падзяліцца яшчэ некаторымі развагамі ў гэтым плане. Лічу патрэбным выказаць свае меркаванні пра пагрозу правінцыялізму для нашай літаратуры, пагрозу, аб якой гаварылі некаторыя нашы крытыкі.

«Быць правінцыяльнай сёння не хоча ні адна літаратура»,— піша В. Каваленка ў сваім артыкуле. Гэту важную думку я хацеў бы крыху папраўіць, папраўіць такім чынам: быць правінцыяльнай сёння *не можа (не мае права)* быць ні адна літаратура.

Але — што такое *правінцыялізм* літаратуры?

Слухаючы некаторыя выступленні на нашых сходах (а клопат гэты нас, асабліва крытыку, даўно турбуе), я прыйшоў да перакануння, што хваробу правінцыялізму некаторыя з нас уяўляюць аднабакова. Мы пад правінцыялізмам звычайна разумеем дрымучую застарэласць, нячуласць да ўсяго новага, вартага, што ўзнікае каля нас блізка ці далёка.

Так, гэта правінцыялізм: жыць набытым іншымі, карыстацца гатовым, захапляцца ці задавольвацца замшэлым астраўком свайго быцця.

Аднак, мне бачыцца, ёсць і іншы, больш адмысловы правінцыялізм. Ён так лоўка апрануты ў наймодны гарнітур, такі цывілізавана прычасаны, «сучасна» настроены, што яго не адразу і разбярэш. У гэтай «праг-

рэсіўнай» істоты ёсць адна якасць, якая проста выкрывае яго сутнасць, сутнасць бясспрэчнага правінцыялізму: гэта непамернае захапленне ўсім, што робіцца па-за нашым домам, і разам — няёмкасць, сорам за ўсё сваё, за ўсё тое, што зроблена тут, самімі, няўменне належна цаніць свае, блізкія каштоўнасці, няўвага, а часам і пагарда да неацэнных скарбаў, выпрацаваных родным народам, стараннямі многіх пакаленняў. Хіба ў нас няма такіх «цывілізаваных» правінцыялаў!

Галоўнае, што яднае правінцыялаў мастацтва ўсіх гатункаў і відаў — гэта ў рэшце рэшт нізкі ўзровень светапогляду, у рэшце рэшт бедная ўнутраная культура — ці то правінцыялізм гэты апрануты ў даматканую світку, ці ў самы модны гарнітур з найлепшага сталічнага атэлье. Не трэба думаць, што правінцыялізм у літаратуры — гэта прывязанасць да старых форм, у наш час правінцыялізм дастаткова «разумны», каб часта першым падхапіць новую, выгадную тэмку, эфектную ідэйку, фарснуць архісучаснасцю. Уся бяда ў тым, што пад гэтай архісучаснай і модняй апраткай — убогая беднасць унутранага светy, нікчэмная культура думкі і пачуццяў. Няздатнасць мысліць самастойна, ствараць вартыя каштоўнасці.

Родны брат правінцыялізму — мяшчанства. Наша крытыка, хоць і рэдка, і недастаткова галасна — гаворыць пра гэту небяспеку ў літаратуры. Я цалкам падзяляю трывогу, якую выказаў В. Каваленка ў сваім артыкуле: «Пагроза мяшчанскага запалапення зместу сучасных твораў не павінна недаацэньвацца крытыкай». Я толькі сказаў бы, што крытыка павінна выступаць не толькі супраць мяшчанскага зместу, але і мяшчанскага ўзроўню мыслення, мяшчанскай філасофіі.

Калі разважаеш пра ўсё гэта, хочацца сказаць: адольваючы настроі хутаранства, правінцыялізму, духоўнага ўбоства, давайце разам з тым шанаваць, што знойдзена і што можа спатрэбіцца. Давайце шанаваць тое, што варта пашаны.

Ёсць адна рыса, якою мы не маем права паступацца,— гэта *годнасць мастацтва*. Нам ёсць чым ганарыцца, ёсць на што абапірацца, каб і ў сям'і высокіх літаратур адчуваць сябе з належнай упэўненасцю, з годнасцю.

Я гавару пра гэта таму, што трывожуся, як бы ў гарачым імкненні — паддаўшыся гарачым прапагандыстам модных «сучасных стыляў» — не кінуцца настолькі наперад, што потым каб не давялося вяртацца, збіраць неабачліва раскіданае на дарозе.

Наша літаратура ў параўнанні з некаторымі суседнімі, можа быць, каму-нікаму падаецца непаваротлівай, марудлівай. Сапраўды, мы даволі кансерватыўныя што да «новых» форм кампазіцыі і т. п. Вось Ю. Сураўцаў, напрыклад, у «Кароткай літаратурнай энцыклапедыі», падобна, лічыць, што ў нас наогул няма пошукаў. У літоўцаў і малдаван ёсць, а ў нас — няма.

Здаецца, што і ў некаторых нашых крытыкаў ёсць блізкія да гэтых меркаванні.

У падтрымку сабе хачу паклікаць вядомага ўкраінскага крытыка Л. Навічэнку, чалавека цвярозага розуму і высокай культуры, які тут можа выказацца як бесстаронні суддзя. Выступаючы на V з'ездзе пісьменнікаў СССР, Л. Навічэнка гаварыў: «Той, хто не хоча адстаць ад цікавых і важных пошукаў у галіне сучаснага рамана і аповесці, павінен сёння трымаць у полі свайго зроку працу празаікаў, якія пішуць на многіх іншых мовах нашай Радзімы. Мы на Украіне, напрыклад, з вялікай увагай, часам з добрай сяброўскай зайздрасцю сочым за тым, як моцна і дружна ідзе ўгару цяперашні беларускі раман, які выказвае пад някідкай з выгляду, стрыманай формай трывалую культуру рэалістычнага паказу характараў і абставін...»

Такую ж ацэнку нашай прозе Л. Навічэнка дае і ў артыкуле «Стыль — метад — жыццё» («Литература и современность», зборнік дзевяты. М., 1968). Дазволю сабе прывесці яшчэ частку яго выказвання пра нашу прозу: «Захоўваючы свой глыбока народны, дэмакратычны мастацкі дух, сваю «прыроджаную» эмацыянальнасць, шчырасць душы, сучасная беларуская проза дэманструе вельмі прыкметны рост даследчыцкай сілы, філасофскі інтэлектуальнага «патэнцыялу» і разам з тым зрокава-пластычнага (изобразительно-пластического) майстэрства. Паэтычна адухоўленая, яна разам з тым багатая мастацкай канкрэтнасцю і аналітычна пільная ў асэнсаванні жыцця; гэтая проза ўмее стрымліваць нікчэмную (зряшную) «суб'ектыўнасць» пры раскрыцці жывой мудрасці аб'ектыўнага

свету, умее, не саромячыся гэтага, быць у рэшце рэшт «звычайнай» прозай... Параўнанне ніяк не на карысць як прыхільнікаў субтыльнай «прозы настрою», так і шукальнікаў надзвычайных «мадэрных» эфектаў.

Гэта — красамоўнае выказванне, якое варта запомніць і якое вучыць лепш разумець здабытае. Як доказ сваёй думкі ўкраінскі крытык назваў творы В. Быкава, «Сэрца на далоні» І. Шамякіна, навелы Я. Брыля — лепшыя дасягненні нашы ў прозе, але словы яго, думаю, варта прыняць як разумную братнюю параду ўсёй нашай прозе і крытыцы.

Цікавая дэталь: літоўская проза, якая здабыла сабе саюзную славу як проза самых наватарскіх пошукаў сучаснай формы, якая з захапленнем увяла ў раманы прынцып «потока сознания» і стварыла не адну кнігу ў гэтай манеры, у апошні час — не без парад літоўскай крытыкі — у некаторых новых, відных творах вярнулася да «традыцыйных» форм, стала шырока карыстацца эпічным паказам. Як прыклад можна назваць раманы «Чужыя страсці» М. Слуцкіса і «Страчаны дом» І. Авіжуса. Дарэчы, Авіжус, можа быць, самы моцны літоўскі празаік, у сваёй літаратуры лічыўся адным з найбольш традыцыйных пісьменнікаў. У апошнім сваім рамане ён паказвае выдатнае ўменне спалучаць эпічнае з праніклівым псіхалагічным аналізам, тыя якасці, да якіх імкнуліся раней і некаторыя, такія непаваротлівыя беларускія празаікі.

Падсумоўваючы сказанае вышэй, хачу падкрэсліць, што наша літаратура многае нядрэнна знайшла, у многім праявіла добрую, пэўна, народам дадзеную нам цвярозасць і сталасць. Я маю на ўвазе, перш за ўсё, тую сур'ёзнасць, якую паказалі лепшыя нашы аўтары ў даследаванні некаторых бакоў народнага жыцця, якасці, пра якія хораша сказаў удумлівы ўкраінскі крытык. Для карысці кожнага з нас і агульнай карысці належыць берагчы гэта, развіваць, замацоўваць для літаратуры нашай годнае месца сярод культур іншых народаў краіны. Добра было б, каб беларуская крытыка належна садзейнічала нам у гэтым няпростым клопаце.

Я хацеў бы — пад канец гэтай часткі — яшчэ зрабіць адну заўвагу, якая мае дачыненне да таго, што нам можа і што не можа спатрэбіцца ў дарозе. Згад-

ваю артыкул В. Каваленкі, тыя радкі, дзе ён гаворыць пра ролю фальклору ў літаратуры.

Я згодзен з тым, што нельга ні перабольшваць ролю фальклору ў сучаснай літаратуры, ні празмерна захапляцца ім. Падзяляю яго іронію ў дачыненні да тых, хто верыць у «гіпнатычную сілу фальклорнай стылізацыі». Каваленка справядлівы і тады, калі піша, што фальклорная плынь, як і асобныя пісьменнікі фальклорнага кірунку, вядома, маюць поўнае права на сваё месца ў сучаснай літаратуры. «І гэта зусім не мінус для іх», як піша Каваленка.

І ўсё ж адно меркаванне аўтара, якое праглядваецца ў артыкуле, выклікае жаданне паспрачацца. З кантэксту артыкула выходзіць, нібы Віктар Каваленка лічыць фальклор у цэлым непрыдатным сучаснаму стылю.

Мне не думаецца, што прыклады такога бліскучага выкарыстання фальклору, якія даюць «Сцяг брыгады» ці «Прыгоды цымбал»,— у мінулым. Хіба ўмелы сплаў некаторых фальклорных вобразаў з сучаснымі, з'яднаны глыбокай сучаснай думкай, асветлены сучасным позіркам, не дае магчымасць М. Танку ствараць вершы вялікай сілы, з самымі сучаснымі філасофскімі абагульненнямі, выдатнай арыгінальнай формы. Самыя сучасныя вершы. А ці варта даводзіць тое, якая жывая сіла фальклорнай стыхіі і цяпер бруіцца і кіпіць у вершах Р. Гамзатава і К. Куліева. Здаецца нават, што Р. Гамзатаў чэрпае з фальклорных крыніц дагестанскай народнай творчасці з нейкай як бы гарэзнасцю і дзёрзкасцю.

А ці не паказаў Ч. Айтматаў талент — і не абыякі — ужо тым, як умела і смела старадаўнія прыёмы і вобразы кіргізскага народнага эпасу ўвёў у зусім сучасныя свае аповесці, і, можа, у немалой меры іменна гэтым змог паўстаць перад светам як незвычайны, неспадзяваны мастак?

Дае над чым падумаць у гэтым плане і сусветная літаратура, напрыклад, японская і лацінаамерыканская. Некалькі слоў пра апошнюю, якая ў наш час заявіла пра сябе некалькімі творамі сусветнага значэння. Там побач стаяць архісучасны па форме і па метадах даследавання выдатны раман мексіканца Карласа Фуэнтэса «Смерць Артэміа Круса» і раман калумбійца Габрыеля Маркеса «Сто гадоў адзіноты» — у якім

у способе паказу жыцця многае ад фальклору, ад казкі. Таленавітае, адважнае спалучэнне зусім рэальных абставін, людзей і казачных прыёмаў дало стварыць твор не толькі вельмі своеасаблівы, але і надзвычайны па сацыяльным напаўненні.

Усё, відаць, у рэшце рэшт залежыць ад таго, наколькі таленавітыя рукі дакранаюцца да фальклору. Не будзем загадваць, як гэта ісціна выявіцца потым у нашай літаратурнай практыцы. Але не будзем і спісваць фальклор у архіў.

На XXIV з'ездзе КПСС была выказана думка, што, змагаючыся за высокі ідэйны і мастацкі ўзровень літаратуры, неабходна разам з тым праяўляць такт у дачыненні да работнікаў літаратуры і мастацтва.

Гэта пажаданне азначае, што абстаноўка, у якой мы працуем, спрачаемся, павінна быць таварыскай, што мы абавязаны разам з патрабавальнасцю праяўляць і чуласць, узаемаразуменне. Улічваючы тое, што літаратура рэч няпростая і прычыны тых ці іншых з'яў звычайна розныя, гэта задача, па-мойму, азначае, што мы павінны ўмець разумна, усебакова падыходзіць да жывых з'яў літаратуры, кожны раз па-чалавечы разбірацца ў характары іх і прычынах няўдач, бачыць заўсёды жывых людзей, іх якасці.

Ёсць, напрыклад, істотная розніца паміж няўдачай маладога аўтара, які толькі спрабуе свае сілы ў літаратуры і якому проста не хапіла вопыту і, можа,— ведаў для поспеху, і творам вопытнага літаратара, які выказвае ленасць і безадказныя адносіны да пісьменніцкага абавязку, інакш кажучы — халтурныя адносіны. Ці трэба гаварыць, што калі ў першым выпадку мы абавязаны маладому аўтару тактоўна, чула раслумачыць прычыны яго няўдачы, дапамагчы яму ўзняцца, то ў другім выпадку наша гаворка — пры ўсёй нашай гуманнасці — павінна быць строгай, без якой там ні было паблажлівасці. Пра халтуру трэба гаварыць належным чынам.

Ніхто з нас не застрахаваны ад няўдач, якія, на жаль, могуць напаткаць і кожнага таленавітага, сур'ёзнага літаратара, пры самых патрабавальных адносінах да сябе. Няма, відаць, патрэбы тлумачыць, што ў гэтым выпадку крытык павінен сур'ёзна разабрацца ў

прычынах, якія прывялі аўтара да няўдачы, дапамагчы аўтару зрабіць карысныя для яго вывады.

Усё гэта гаворыць пра тое, што перад кожным крытыкам у самым пачатку размовы з аўтарам стаіць жывая, чалавеказнаўчая задача, якая патрабуе ад крытыка знайсці правільны падыход, належны тон гаворкі, якая гаворыць пра тое, што кожны крытык павінен мець якасці выхавацеля, своеасаблівага педагога.

Такім чынам, такт павінен быць абавязковай нормай этыкі крытыкі. Гэта бясспрэчна. Але крытыка, як вядома, вядзе заўсёды дыялог. Дыялог з аўтарам. І натуральна ўзнікае пытанне: а як жа быць наконт этыкі другому боку? Вывад — просты: і другі бок, аўтар, павінен у адносінах да крытыкі прытрымлівацца такту.

Так яно павінна быць па элементарных законах логікі. А як — у сапраўднасці? А ў сапраўднасці ў сілу ўступае іншая «логіка». Галоўная асаблівасць гэтай «логікі» ў тым, што крытыку часта мы датуль прызнаём прынцыповай і тактоўнай, пакуль яна гладзіць нас «па шэрсці». Калі ж яна мяняе кірунак сваіх рухаў на супрацьлеглы, мяняецца і наша адчуванне яе, мы перастаём лічыць яе прынцыповай.

Мала гэтага, некаторыя з нас, якія на ўсё глядзяць з «палітычнай» пранікліваснцю, звычайна ідуць далей: ледзь не пад кожны крытычны выпад падводзяць «палітычны» крытэрый, намякаючы, а то і заяўляючы, што той крытык, які дзіўна не ацаніў нас, наогул чалавек сумніцельных поглядаў на літаратуру. Гэта ж праўда, што некаторыя ў гневе гатовы проста адлучыць такіх крытыкаў ад сацыялістычнай літаратуры, ахвота такая ў некаторых аўтараў вельмі адчуваецца.

Я разумею, што такое — самалюбства і што такое — крыўда. Але давайце не забываць і пра тое, што акрамя крыўды кожнага з нас ёсць агульныя інтарэсы — *літаратуры*, вялікая адказнасць яе перад народам, перад партыяй. І давайце з вышыні літаратуры, як справы народнай, паглядзім, што адбываецца ў нас цяпер. Як цяпер жывецца нашай крытыцы.

Кожны бачыць, у далёкае мінулае адышлі часы, калі правамернай зброяй крытыкі была вядомая крытычная дубіна. Не размахвае цяпер ніхто дубінай, і не толькі дубінай, а і дубцом, як правіла, не замахваюцца. Усталяваўся ў нашым крытычным ужытку прыемны, далікатны тон. Як звычайнае, нармальнае прыжы-

лося правіла: выбіраць для гаворкі добрае, пра непрыемнае, дрэннае гаварыць кароценька і мякка або лепш — маўчаць.

Па-мойму, наша крытыка не знайшла нейкую разумную раўнадзеючую, дзе б патрабавальнасць і такт максімальна дзейнічалі на карысць літаратуры.

Цікавая асаблівасць моманту: у выніку паслаблення крытыкі тое шэрае, што раней ціха жыло, пабойвалася замаху крытыкі, цяпер прыкметна пасмялела. Аўтары слабых твораў нярэдка ўжо не задавальняюцца тым, што крытычную небяспеку пранесла міма, іх абурае ўжо, што пра іх маўчаць. Яны адчулі патрэбу, каб пра іх гаварылі! Вядома — добрае!

Трэба, мусіць, яшчэ паясніць гэту думку: я ведаю, што крытыка не сказала добрых слоў пра многіх сапраўдных пісьменнікаў, пра вартыя падтрымкі творы; гэты доўг застаецца за крытыкай. Я тут — падкрэсліваю — гавару пра трывожны рост ваяўнічасці недасканалай, шэрай літаратуры.

Ужо не толькі дзе-небудзь у сяброўскіх гуртках, а і з трыбуны Саюза пісьменнікаў БССР можна пачуць неверагодную заяву: «У літаратуры няма добрых і дрэнных пісьменнікаў! У літаратуры ўсе аднолькава пішуць!» З трыбуны Саюза пісьменнікаў Беларусі прагучаў заклік, які фактычна адзначаў, што трэба размыць, ліквідаваць крытэрыі патрабавальнасці. Тыя крытэрыі, без існавання якіх немагчыма ніякая крытыка і высакаякасная літаратура.

Самым сумным, бадай, было тое, што гэты неверагодны заклік быў падтрыманы воплескамі даволі значнай часткі пісьменнікаў.

Тое выступленне было ваяўнічым не толькі па зместу, а і па тону; перакананне, што ў літаратуры няма добрых і дрэнных твораў, падобна было, стала дыктаваць свае патрабаванні крытыцы! Вось да чаго прыводзіць аслабленне крытыкі!

Мімаволі ўзнікае параўнанне: калі ў даўнаватыя часы мы з трывогай сачылі за крытычнай дубінкай, то цяпер іншы раз такая дубінка, вельмі рэальная, памахвае над крытыкай! Якія бываюць парадоксы развіцця!

Не адзін крытык і пісьменнік правільна гаворыць пра нездаровую атмасферу, у якой даводзіцца працаваць сёння крытыкам! Акрамя нецярпімасці да крытыкі з боку асобных аўтараў сюды можна аднесці і

тыя не заўсёды прыхільныя ўмовы, у якіх выпрабоўваюцца кнігі ў выдавецтвах, і тое, як скупа адводзіцца месца для крытычных твораў у тэматычных планах.

Нельга не згадзіцца з усім, што піша В. Каваленка наконт акалічнасцей, у якіх даводзіцца працаваць нашым крытыкам: «З крытыкай ніхто не раіцца...», «Думка ўсёй крытычнай секцыі Саюза пісьменнікаў не бярэцца пад увагу і нават ігнаруецца...», «самымі вялікімі «крытыкамі», якія «смела» вырашаюць лёс твора, сталі «аднаасобнікі» ў выдавецтвах, рэдкалегіях і рэдсаветах...», «Крытыка нічога не вырашае, яна толькі выказвае меркаванні, якія ніколі ні да чаго не абавязваюць».

У гэтых словах, на жаль, не толькі многа горычы, але і праўды.

За час маёй працы ў Саюзе пісьменнікаў, можа, не было больш недарэчнай гісторыі, чым тая, што адбылася з Серафімам Андраюком.

Серафім Андраюк — малады крытык — падрыхтаваў першую сціплую памерам кніжку крытыкі. Там былі і горшыя, і лепшыя старонкі, былі там выразы, думкі, якія належала ўдакладніць, паправіць. Пры падрытхоўцы малады крытык многае і паправіў.

Кніга пайшла ў набор, набралі, аўтар прачытаў, падпісаў. І тут загарэлася. Пры чытанні набранага тэксту раптам убачылі «нявідныя раней» у рукапісе заганы. Кнігу затрымалі. Паставілі перад аўтарам новыя патрабаванні, узніклі спрэчкі паміж аўтарам і выдавецтвам. Узнік канфлікт. Аўтар звярнуўся ў наш Саюз пісьменнікаў з просьбай дапамагчы. Я сустрэўся з загадчыкам рэдакцыі Х. Жычкам, папрасіў расказаць, чаму затрымана кніга. Галоўнае ў тым, што сказаў Х. Жычка, зводзілася да трох пунктаў: Андраюк выказвае «ўстарэлыя погляды», «ён не тых хваліць» і нават — запомнілася — выказаў: у аўтара «не нашы погляды». Я папрасіў даць вёрстку, прачытаў і адразу скажу, што, хоць кнігу там-сям і варта было яшчэ падрэдагаваць, ніякіх «не нашых», не савецкіх, поглядаў не ўбачыў. Кніга, вядома, наша, савецкая. (Дарэчы, як можна так лёгка кідацца падобнымі абвінавачаннямі!) Што да абвінавачання: Андраюк не «таго хваліць», то тут было над чым падумаць — Андраюк «хваліў» М. Лобана, А. Чарнышэвіча, Я. Брыля, В. Быкава, У. Караткевіча, І. Пташнікава, І. Мележа і некаторых

іншых. Хваліў і некаторых другіх, хваліў і крытыкаваў. Чаму гэта не тыя, пра каго трэба пісаць? Ва ўсёй гэтай гісторыі належала ўсебакова разабрацца, пачуць калектыўную думку пісьменнікаў, і мы рашылі абмеркаваць кнігу на секцыі крытыкі. На сходзе секцыі выступілі нашы вядучыя крытыкі і празаікі, якія выказалі нямала і заўваг (дарэчы, зусім іншых, чым у рэдакцыі) і аднагалосна сышліся на думцы, што кніга вартая таго, каб яе выдалі. Пратакол (на дванццаці старонках) быў пасланы ў выдавецтва «Беларусь». Там прачыталі яго і — раскідалі набор кнігі Андраюка!

«Гісторыя» — выключная і, як кажуць, павучальная. Яна ярка паказвае, які «такт» праяўляюць некаторыя нашы таварышы ў рэдакцыі мастацкай літаратуры выдавецтва да крытыкі, асабліва маладой. Яна паказвае таксама, як ставяцца там да калектыўнай думкі членаў нашага Саюза пісьменнікаў і разам з тым — да думкі некаторых яго выбраных кіраўнікоў.

З гэтай «гісторыі» стала зразумела, што справа тут не ў высокіх матэрыях, а ў тым, што малады крытык кагосьці непрадбачліва не пахваліў, кагосьці недахваліў. А хтосьці і рашыў палічыцца за даўнія «грахі» Андраюка, за яго ранейшую крытыку. І стала вядома, што справа тут не ў думцы аднаго Х. Жычкі, а ў настроях некаторых пакрыўджаных крытыкам.

І кнігу «зарэзалі», наперакор рашэнню секцыі крытыкі, наперакор шырокай калектыўнай думцы. Паказалі непавагу да многіх пісьменнікаў.

Мы ўсе, відаць, не такія наіўныя людзі, каб думаць, што гэта сумная гісторыя адбілася толькі на Андраюку; яна, вядома, прымусіла задумацца не аднаго крытыка. Яна гаворыць пра тое, што крытыка — рэч не толькі патрэбная літаратуры, народу, але, здараецца, небяспечная для самога крытыка. І калі хочаш сабе здароўя і спакою, не лезь надта ў бойку...

Тым больш што ў некаторых іншых крытыкаў быў і свой вопыт, падобны ў нечым да гэтага.

Вось адна з прычын таго, чаму наша крытыка стала такой асцярожнай і лічыць за лепшае абыходзіць некаторыя творы і з'явы. Вось у чым надзвычайнае значэнне той партыйнай падтрымкі, якую аказалі нашым крытычным сілам XXIV з'езд КПСС і Пастанова ЦК КПСС «Пра літаратурна-мастацкую крытыку».

Я хацеў бы тут сказаць, што мы добра разумеем значэнне літаратуры ў савецкім жыцці і тую адказнасць, якая ляжыць на нас. На кожным з нас і на ўсім нашым калектыве. І хочацца таму сказаць, што дарэмна некаторыя «аднаасобнікі» ў рэдакцыях ставяць сябе вышэй за калектыў, лічаць сябе, гаворачы вобразна, адзінымі надзвычайнымі і паўнамоцнымі прадстаўнікамі сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры.

Мы разумеем значэнне, неабходнасць таго кантролю, які павінны рабіць рэдакцыі і рэдсаветы, але хацелася б, каб кантроль гэты рабілі добра адукаваныя, разважлівыя, разумныя людзі, рабілі з тактам, на сапраўдным партыйным узроўні.

Гэта з асаблівай вастрынёй ставіць пытанне пра тых нашых таварышаў, якія займаюць адказныя пасады ў літаратуры, пра *кадры*. Пра загадчыкаў рэдакцый, рэдактараў, малодшых, старшых, галоўных. Пра ўсіх тых, ад каго ўрэшце залежыць жывая, практычная дзейнасць літаратуры, якая ёсць наша штодзённае жыццё.

У Пастанове ЦК КПСС на гэта звернута вялікая ўвага. Хацелася б, каб адказныя пасады ў рэдакцыях, у літаратуры займалі лепшыя людзі з нашага асяроддзя, прынцыповыя, з высокай грамадскай і прафесійнай культурай, якія б памаглі нам ісці наперад, а не цягнулі назад.

Вялікі наш клопат, каб новае выдавецтва «Мастацкая літаратура», за стварэнне якога мы вельмі ўдзячны Цэнтральнаму Камітэту КПБ,— было ўкамплектавана іменна такімі людзьмі. Гэта жыццёва неабходна нашай літаратуры, і ў тым ліку — крытыцы.

Хачу закончыць мае развагі заяваю, што мы ўсе, і нашы крытыкі ў тым ліку, добра разумеем тыя вялікія задачы, якія паставіў перад намі XXIV з'езд КПСС і якія развіты ў Пастанове ЦК КПСС. Мы зробім усё для таго, каб задачы гэтыя выканаць як належыць: даць нашаму народу творы, якія памаглі б людзям жыць і будаваць. Жыць па высокіх законах савецкай маралі, будаваць самае чалавечнае грамадства — камуністычнае.

*1972*

## ЗНАЙСЦІ ВОБРАЗ ЧАСУ

Гадоў дзесяць таму назад, атрымаўшы першы том збору твораў Канстанціна Аляксандравіча Федзіна, прачытаў я аўтабіяграфію пісьменніка. Многае мяне тады ўсхвалявала ў даверлівым расказе пісьменніка аб пражытым і перажытым, і, помніцца, асабліва прывабілі ўвагу некалькі радкоў. Там, дзе пісьменнік гаворыць пра раман «Касцёр».

Вось гэтыя радкі: «Пастаяннае маё імкненне знайсці вобраз часу і ўключыць час у апавяданне на роўных правах з героямі і нават аддаючы яму перавагу — гэтае імкненне выступае ў маёй цяперашняй задуме больш настойліва, чым раней...»

«...Знайсці вобраз часу і ўключыць час у апавяданне. На роўных правах з героямі і нават аддаючы яму перавагу» — як дакладна і ёміста выказана было тут тое, што тады доўга мучыла мяне, чаму не знаходзілася абнадзейваючай пэўнасці, што выклікала цяжкія сумненні. Я адчуў, што ў гэтых словах вельмі дакладна перададзена формула для разумення найістотнейшых якасцей, асноў значнай часткі нашай літаратуры.

Чытаючы К. А. Федзіна, заўсёды сутыкаешся з радкамі, якія выклікаюць як бы ўспышкі думкі ў адказ, прасвятляюць, азараюць, узбагачаюць. Радкі ў яго заўсёды ёмістыя, у адточанай, я сказаў бы — класічнай прастаце і выразнасці.

«Пастаяннае маё імкненне знайсці вобраз часу... Уключыць час у апавяданне на роўных правах з героямі і нават аддаючы яму перавагу...» Пастаяннае імкненне! На роўных і нават аддаючы перавагу... правах!.. Ці не ў гэтым прызнанні надзвычай важная аўтахарактарыстыка галоўных імкненняў усёй творчасці К. А. Федзіна? Ці не тут той вядучы матыў, цэнтральны нерв, які яднае ўсё разнамоўнае мноства яго герояў, разнастай-

ную шматфарбнасць карцін, усё, што рухае і напаўняе яго раманы, аповесці, апавяданні, нарысы.

З якой выразнасцю паказаны ў творах выдатнага савецкага пісьменніка час — незвычайны, у жорсткіх супярэчнасцях і найвялікшай ломцы, у паміранні і абнаўленні! І якім буйным планам ён адкрыты і паказаны! Калі ў думках аглядаеш створанае пісьменнікам за многія гады самаадданай працы, з павагай думаеш пра размах мастака, якому пад сілу аказалася стварыць такую маштабную эпапею часу.

Імперыялістычная бойня, рэвалюцыя ў Расіі, далёкая, мала зразумелая Германія тых год, савецкая Поўнач, Абхазія, Заходняя Еўропа паміж дзвюма войнамі; сяляне, салдаты, правінцыяльныя мяшчане, лесарубы, фабрыканты, акцёры, прафесіянальныя рэвалюцыянеры. Усё гэта — гісторыя, геаграфія і насельніцтва федзінскай эпапеі.

Як своеасаблівая і неабходная частка мастацкай эпапеі К. А. Федзіна ўспрымаецца выдатная, таксама шматвобразная, сур'ёзная літаратурная публіцыстыка, роздум пра сучаснае і ўжо аддаленае часам мастацтва — працы, якія з поўным правам ставяць пісьменніка ў першы рад тэарэтыкаў савецкай літаратуры. Кніга «Пісьменнік. Мастацтва. Час» таксама ўвасабляе ў сабе вобраз часу, раскрывае шырыню пісьменніцкага бачання мастацтва і жыцця.

Усё — і проза, і артыкулы аб мастацтве — напісана з дасканалым веданнем, з удумлівым пранікненнем, дакладна і выразна. Хочацца асабліва адзначыць гэтую федзінскую выразнасць, яснасць мастацкага пісьма. Яснасць мудрага погляду на свет,

Калі чытаеш яго кнігі, з'яўляецца незвычайнае адчуванне: быццам ён гаворыць з табою, быццам чуеш роўны, ледзь прыглушаны голас, што дакладна вымаўляе кожнае слова. Быццам бачыш пісьменніка побач: высокага, хударлявага, інтэлігентнага, з прывабным позіркам уважлівых светлых вачэй. Гэты ясны позірк нібы адчуваеш на ўсім, што ён стварыў.

*1972*

# У СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ

Галоўнае, пра што хочацца зараз сказаць,— гэта пачуццё ўдзячнасці. Удзячнасці Цэнтральнаму Камітэту, роднай партыі камуністаў, Савецкаму ўраду за такую высокую ўзнагароду, за шчодрасць.

І разам з гэтым вялікім і светлым пачуццём — нешта трывожнае ў сэрцы. Напэўна, адтаго, што вялікая ўзнагарода. Разумееш: прэмія — гэта не толькі ацэнка таго, што ты зрабіў, гэта і давер'е, і надзея на тваю будучую творчасць. Трэба працаваць, не шкадуючы сілы, сябе.

Што ж, я гатовы працаваць. Я гатовы аддаць сябе кнігам...

У думках маіх сёння я зноў вяртаюся ў басаногае маленства ў палескай вёсцы. І мая непісьменная маці, і многія мае землякі тых далёкіх гадоў паўстаюць у памяці. Думаю пра даўняе цяжкае жыццё людзей, пра іх дробныя па сённяшніх маштабах жаданні і мары, якія былі сэнсам іх быцця. Гэта яны, тыя далёкія гады і тыя родныя людзі, паклалі да жыцця мае кнігі. Я ні бы выканаў свой абавязак перад імі, расказаўшы пра мінулае новым людзям, сённяшняму часу.

Мне хацелася, каб нашыя нашчадкі ведалі пра тых людзей і тое жыццё, каб не забываліся, з чаго мы пачыналі, які нялёгкі быў наш шлях да сённяшняга дня. Нялёгкі, круты, вялікі шлях, пройдзены на чале з партыяй У. І. Леніна.

Я не мог не напісаць гэтыя раманы. Не мог таму, што многія гады сэрца маё поўнілі ўспаміны таго непаўторнага далёкага. Цяжка было б жыць, не выказаўшы думак пра рух нашага савецкага жыцця — дзівосны рух наперад і ўвысь.

Гэтыя кнігі мне вельмі дарагія. Не толькі таму, што ў іх больш за дзесяць гадоў працы, але і таму, што ў іх — маё сэрца, мае запаветныя пачуцці, думкі.

Ды і не дзесяць гадоў пісаў я іх. Па сутнасці, пісаў я іх усё жыццё. І тады, калі дзіцячы свет мой быў абмежаваны балотамі ды зараснікамі вакол роднай вёскі. І тады, калі асвойваў я асновы быцця ў школе і на камсамольскай рабоце ў сваім раёне. І тады, калі ў 1941—1942-м на Паўднёвым фронце дваццацігадовым салдатам, палітработнікам адбіваўся разам з батарэяй ад ворага і прарываўся з акружэння. І тады, калі ў тбіліскім шпіталі думаў пра новае сваё жыццё, пра літаратурную працу.

Усё жыццё, здаецца мне, пісаў я гэтыя кнігі. Таму такая глыбокая і неспакойная мая радасць. Таму такое вялікае маё жаданне не застацца ў даўгу.

*1972*

# ПРАМОВА НА ЎРУЧЭННІ ЛЕНІНСКАЙ ПРЭМІІ

Дарагія таварышы!

За гэтыя дні так многа пераж ыта і перадумана, што цяжка, немагчыма выказаць гэтыя думкі і пачуцці ў некалькіх словах.

Але калі вызначыць галоўнае, то гэта, відаць, будзе адчуванне і ўсведамленне значнасці, незвычайнай важнасці падзеі, якая адбываецца. Той факт, што рашэнню камітэта папярэднічала шырокае абмеркаванне ў прэсе, што ў абмеркаванні ўдзельнічалі масы чытачоў, што пастанова падпісана кіраўніком партыі — Генеральным сакратаром ЦК і кіраўніком урада — Старшынёй Савета Міністраў СССР, гаворыць пра тое, як высока ставіць партыя і ўрад літаратурную справу.

Маякоўскі, як вядома, хацеў, каб да штыка прыраўнялі пяро. Мы можам з высокай прафесійнай горд асцю сказаць, што літаратура і мастацтва ў нашай краіне прыроўнены да рада найважнейшых спраў партыі і народа. Гэта абавязвае да многага, напаўняе нас патрабавальным пачуццём адказнасці за якасць нашай работы.

Як выдатную асаблівасць падзеі мы адчуваем тое, што гэтая хвалюючая цырымонія адбываецца тут, у гэтай цудоўнай зале, у Крамлі, сэрцы Радзімы, у святочны год паўвекавога юбілею нашай краіны, у дні вялікіх здзяйсненняў народа.

Мне хацелася б звярнуць вашу ўвагу на адзін, як мне бачыцца, істотны факт. Калі беларуская літаратура — я маю на ўвазе новы яе этап — у цэлым маладая, то першыя беларускія раманы з'явіліся толькі пасля Кастрычніка. Беларускі раман нарадзіўся, рос, расквітнеў у савецкі час. Ён усім абавязаны савецкаму часу.

Ён цалкам — *савецкі* раман.

Тая акалічнасць, што раман у Беларусі — як і проза ў цэлым, і ўся літаратура — развіваецца так дына-

мічна, мне думаецца, гаворыць пра тое, што ў яго значныя магчымасці і што будучае яго многа абяцае...

Я расцэньваю высокі гонар, аказаны мне, як дасягненне, здабытае ўсёй беларускай літаратурай, усёй нашай культурай, як праяўленне клопатаў аб усіх літаратурах Савецкага Саюза.

Дазвольце сардэчна падзякаваць членам Камітэта па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях за ўвагу і за добразычлівасць. Дазвольце ад усёй глыбіні сэрца выказаць удзячнасць Цэнтральнаму Камітэту КПСС, Савету Міністраў СССР — за высокую ацэнку нашай работы, за давер'е. Хачу выказаць перакананне, што мы не пашкадуем сіл, каб апраўдаць клопаты і давер'е партыі, урада і народа.

*1972*

## РЭДАКЦЫІ ЧАСОПІСА «МОЛОДАЯ ГВАРДИЯ»

Дарагія таварышы-маладагвардзейцы!

Добра разумеючы, што вам вядома гэтая простая ісціна, усё ж не магу не сказаць, што маладосць не толькі мілая пара летуценняў, але і час, калі пачынаецца сур'ёзнае жыццё чалавека, вызначаецца яго месца на зямлі, яго грамадзянскае аблічча, значэнне для грамадства. Выдатная і разам з тым адказная справа ў вашага часопіса, якому даручана гаварыць з маладосцю, з тымі, хто сёння значыць нашу недалёкую будучыню. Віншуючы з годна пражытым пяцідзесяцігоддзем, адзначаю, што «Молодая гвардия» не праявіла прыкметных адзнак старэння. Жадаю вам і надалей мець малады тэмперамент, маладое адчуванне жыцця. Вітаю ўсіх, хто робіць часопіс і хто яго чытае.

Ваш чытач Іван Мележ

*1972*

# ПАМЯЦЬ ХАТЫНІ

Дарагія таварышы!

Дарагія сябры!

Азірніцеся навокал. У цудоўнай ліпеньскай красе — зялёная мірная Зямля. Мірна паблісквае трава, бялеюць бярозы за полем. Мірная, асмужаная далеч навокал.

Мірнае, лагоднае неба над намі. Мірнае, шчодрае на цеплыню сонца.

Калі б не гэтыя чорна-чырвоныя помнікі з назвамі вёсак, дашчэнту спаленых разам з людзьмі трыццаць гадоў назад, калі б не сцяна памяці аб спаленых вёсках, калі б не сцяна, што напамінае пра жахлівыя лагеры смерці, нішто не гаварыла б тут пра жахлівы сакавіцкі дзень тысяча дзевяцьсот сорак трэцяга года.

Дзень, у які тут адбылася бесчалавечная, здаецца, неверагодная расправа над мірнымі людзьмі — над жанчынамі, над старымі, над дзецьмі.

У той сакавіцкі дзень, у хляве, які адзначае мармуровы помнік, загінулі людзі, загінулі ў страшэнных пакутах і жаху, у агні, пад чэргамі бязлітасных аўтаматаў фашысцкіх забойцаў.

Цяжка ў такі ясны, лагодны дзень, праз трыццаць гадоў, уявіць усё гэта ва ўсёй рэальнасці, ва ўсёй жахлівасці, усю меру людскіх пакут, што адбыліся на гэтым з выгляду мірным зялёным полі, з мірнымі бярозамі і соснамі навокал.

Але — пастарайцеся пераадолець мірны, лагодны настрой, перанесціся ўяўленнем туды, у той жахлівы сакавіцкі дзень.

Пастарайцеся, з усёй рэальнасцю таго, што было, зразумець, што Хатынь — толькі адна з многіх, пастарайцеся ўявіць неймаверныя маштабы таго, што перажылі ў вайну ўсе нашы беларускія гарады, вёскі і гарады іншых рэспублік Савецкай краіны, што аказаліся

пад фашысцкім панаваннем. Пастарайцеся ўявіць, што перажылі чэхаславацкая Лідзіцэ і французская Арадур-сюр-Глан, успомніце, уявіце Асвенцім і Бухенвальд. Пастарайцеся ўявіць жахлівае мінулае ваенных дзён нашага народа, іншых народаў Еўропы і Азіі.

Няхай мір і спакой гэтага дня і наогул мірных дзён не выветрываюць з вашай памяці жахлівае мінулае ваенных гадоў. Няхай не супакойвае вас мірная, усеабдымная цішыня над палямі і лясамі, пад сінім небам і лагодным сонцам.

У гэты дзень, у наш, здаецца, мірны час у розных кутках свету, як і раней, забіваюць людзей, палае агонь вайны. У гэтыя дні смерць забірае людзей у некаторых краінах Афрыкі, пагражае людзям у Індакітаі.

З бесчалавечнай жорсткасцю самая магутная імперыялістычная краіна свету — ЗША — выкарыстоўваючы самыя агідныя сродкі, знішчае вёскі і гарады В'етнама, выпальвае, перакопвае незлічонымі бомбамі цэлую краіну. Жорсткасць фашыстаў Гітлера бляднее перад жорсткасцю сучасных людаедаў Амерыкі, што крывадушна называюць сябе апосталамі Свабоды!

Сёння ўся зямля В'етнама ў агні. Смерць лютуе над В'етнамам!

Не забывайце пра гэта! Адчуйце гора і боль людзей В'етнама! Не давайце супакойваць сябе мірнай цішыні гэтага дня!

Гора і боль Хатыні жывуць і сёння. Не забывайце пра гэта! Няхай не сціхаюць, заўсёды гучаць у вашых сэрцах гаротныя і трывожныя званы Хатыні!

Ушанаваць памяць Хатыні, боль нашага народа прыехалі да нас сябры з розных — блізкіх і далёкіх — краін. На сустрэчу з намі прыехалі пасланцы братніх Польшчы, Чэхаславакіі, Югаславіі, нашы сябры з Італіі, Францыі, Даніі, Нарвегіі, Японіі.

Дазвольце ад Вашага імя выказаць ім шчырую падзяку за ўдзел у нашай сустрэчы, за братнюю салідарнасць, за агульны клопат аб тым, каб ніколі больш не паўтараліся трагедыі Хатыні, Лідзіцэ, Арадура-сюр-Глан, Хірасімы, каб спынілася навек трагедыя Соцень Сангмі В'етнама!

*1972*

# ЖЫЦЦЁ, ЯКОЕ Я ЗВЕДАЎ

Сочачы за вашай творчасцю, адзначаеш, што спачатку — у рамане «Мінскі напрамак», у кнізе «У завіруху» — вас цікавіла тэма вайны, а пазней, у «Людзях на балоце» і «Подыху навальніцы», вы вяртаецеся да ранейшых падзей — беларуская вёска ў дваццатыя гады і перыяд калектывізацыі. Мусіць, вам патрэбен быў час на выспяванне, на крышталізацыю ўражанняў?

Я не мог — рана ці позна — не напісаць гэтыя раманы — «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», — бо насіў іх у сабе як радасць і пакуту доўгія гады. Яны частка мяне самога — і вельмі дарагая. Родная вёска, людзі, маё юнацтва — усё гэта жыло ў маім сэрцы і не давала спакою. Гэта пачуццё, падобнае на любоў,— усеабдымнае, глыбокае, здольнае на рызыку, здольнае прыцягваць цябе да некага цінечага з неадольнай сілай.

Людзей, жыццё я паказваў такімі, якімі іх зведаў, нават мастацкая выдумка ў маіх творах — частка майго жыццёвага вопыту. «Спазненне», з якім я звярнуўся да гэтай тэмы, мела свае перавагі і дало свой плён. З пазіцыі сённяшняга дня мінулае бачыцца, на маю думку, глыбей, а значыцца, і — праўдзівей. Сам я — адзін са сведкаў жыцця старой беларускай вёскі. Сведкаў гэтых і ў нашы дні ўжо не вельмі багата і з кожным годам становіцца ўсё менш, так што ў тым, што я вярнуўся ў сваю старую вёску, была не толькі ахвота сустрэцца з мінулым, было і разуменне абавязку расказаць пра яго. Я разумеў сябе як бы летапісцам мінулага, якое я павінен перадаць маладым. Я лічу: літаратура павінна захаваць гісторыю нашчадкам — каб ведалі вытокі, пачатак, каб памяталі, адкуль ідзём, каб разумелі рух жыцця.

Раман «Подых навальніцы», акрамя новых сюжэтных ліній і герояў, акрамя шырэйшага ахопу падзей, адрозніваецца ад «Людзей на балоце» большай шырынёй ідэйна-мастацкага гучання.

«Людзі на балоце» я назваў бы лірычным раманам. «Подых навальніцы» я пачынаў таксама ў ранейшай танальнасці, але хутка пераканаўся, што гэтыя рамкі будуць цесныя для ўвасаблення духу часу. Калектывізацыя, якая закранула жыццё і свядомасць мільёнаў сялян, была па сваёй сутнасці рэвалюцыяй, яна — вялікі, складаны, цяжкі паварот, які вымагаў ад людзей мужнасці, смеласці, давер'я...

Хацелася стварыць сапраўдны, па-чалавечаму прывабны вобраз камуніста таго перыяду. Герой майго рамана Апейка, які ў другой кнізе вырастае да цэнтральнага вобраза, мае ў сабе іншую частку майго жыццёвага вопыту — гады камсамольскай і партыйнай работы, тыя палымянасць і любоў, з якімі маё пакаленне, пакаленне першых, змагалася за ўвасабленне сваіх ідэалаў. Я імкнуўся паказаць вобраз партыйнага кіраўніка таго часу без схематызму і ідэалізацыі — як асобу са шчырай душой і неспакойным, дапытлівым розумам; чалавек з народа, ён спалучыў народную разважнасць з якасцямі камуніста, атрыманымі ў школе рэвалюцыі. Яго рысы: сумленнасць, прынцыповасць, пачуццё гістарычнай адказнасці, здольнасць адольваць перашкоды, адстойваючы сваю праўду.

Малюючы жыццё беларускай вёскі, вы выказваеце тэму любові да роднага краю, прывязанасці чалавека да таго кутка зямлі, які яго выгадаваў. Тэма гэтая вельмі даўняя, але яе матыў сцвярджаецца з вялікай масташтабнасцю... 

Любоў да роднага краю, да прыроды і людзей — гэта вечны агонь, з якога нараджаецца творчасць. Хваляванне, якое ўвайшло ў сэрца ад даўніх сустрэч з прыродай, было той першай іскрай, што падштурхнула да пісьменніцкай працы. Палессе — не толькі край балот, але і векавых лясоў. Я люблю зялёную радасць вясно-

вай травы і дрэў. Люблю жаўранкаў, іх незвычайную музыку: быццам неба спявае...

Прырода была першай іскрай, але не адзінай. Не менш значылі ў маім творчым выбары людзі, якіх я бачыў і ведаў. Я хацеў расказаць пра гэтых людзей. Суровыя прыродныя ўмовы выкавалі людзей з адметнымі характарамі: працавітых, цярплівых, з асаблівым разуменнем свету і чалавечай годнасцю. Гэтыя адрэзаныя ад гарадоў балотамі людзі мелі сваю культуру, між іх былі таленавітыя майстры сваёй сялянскай справы, своеасаблівыя філосафы.

Сёння звычайна паказваюць старую вёску цёмнай, няўтульнай, далёкай і чужой. Сапраўды, многія людзі таго часу былі неадукаваныя, многіх аблытвалі забабоны. Але было не толькі гэта. Былі — і гэта вельмі важна — і здольнасць на шчырыя, глыбокія пачуцці, багатая душэўнасць, прыроднае і захаванае праз вякі адчуванне — як неадменнага маральнага закону — справядлівасці. Былі ўменне працаваць, мужна сустракаць нягоды і перамагаць іх. Гэта ўсё было, і гэта усё важна. І пра гэта ўсё трэба помніць.

Як вы адносіцеся да эксперыментаў у галіне формы ў сучасных белетрыстычных творах?

У мяне таксама часам з'яўляецца юначае імкненне — зіхнуць арыгінальнымі прыёмамі ў форматворчасці. Адметная кампазіцыя, незвычайныя звароты, нават розныя друкарскія шрыфты... Аднак, лічу, што сапраўднае наватарства — толькі тады, калі яго выклікае змест, ідэя твора. Наватарства — найперш у поглядзе на жыццё, на людзей, на час. Форма павінна ісці за ідэяй, за зместам, за чалавечым жыццём. Твор павінен, па-мойму, найперш паказваць, як аўтар разумее жыццё чалавека. У творы аўтар найперш выказвае свае меркаванні, погляды, спрачаецца з іншымі — папярэднікамі.

Вашы адносіны да мовы як сродку мастацкай прозы?

Пішу на роднай мове з любоўю, з душэўным уздымам. Беларуская мова ласкавая, мілагучная, як песня.

Я чую тое, што пішу, як музыку, з мелодыяй, з рытмам. Бывае, чытаю ўслых напісанае. Востра сачу, каб у мелодыі мовы твора не было фальшу. Ледзь пачую фальш, спыняюся, шукаю дакладныя таны і словы. Імкнуся знайсці самыя дакладныя. Гэта не заўсёды хутка ўдаецца, але нарэшце ўсё ж знаходзіш. Часам сам не растлумачыш, чаму бярэш такі тон і слова, тут усё рашае дзіўнае адчуванне, нейкая інтуіцыя. Я даволі шырока ўжываю дыялектызмы. Тады, калі даю слова маім героям. Гэтае права пісьменніка аспрэчваецца, але я перакананы, што гэта патрэбна. Людзі ў творы павінны гаварыць так, як у жыцці. Па-зямному, па-сапраўднаму.

*1972*

# ЧАСТКА МАЙГО СЭРЦА

Я хачу пачаць нашу размову з раманаў «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», удастоеных Ленінскай прэміі 1972 года... Як узнікла задума палескай эпапеі?

Я нарадзіўся і вырас на Палессі. Гэтая жыццёвая акалічнасць і вызначыла з цягам часу змест маіх кніг. Прыйшоў час, і мне захацелася расказаць пра тое, што я бачыў калісьці. Я зразумеў, што гэта таксама можа быць цікава людзям. І я пачаў пісаць...

Вы адразу вырашылі пісаць дылогію?

Не, спачатку была задума напісаць невялікую аповесць пра меліяратараў, гэта значыць, ва ўсіх адносінах рэч «сучасную». Але потым я вырашыў, што можна і трэба заглянуць далей. Таму што ўсякая значная жыццёвая з'ява — як дрэва: на паверхні толькі ствол ды крона. А каб пазнаць цэлае, пісьменнік павінен паглядзець карэнні.

Працуючы над раманам «Подых навальніцы», я адчуў, што не магу абмежавацца светам толькі адной вёскі. Жыццё ў вёсцы вызначалася не толькі яе турботамі. Вёска ўцягвалася ва ўсеагульныя, гістарычныя працэсы, якія адбываліся ў краіне. Так змяніўся свет рамана, пашырыўся гарызонт вакол герояў. Так нарадзіўся Апейка, не прадугледжаны першапачатковай задумай і вельмі дарагі для мяне вобраз.

Іван Паўлавіч, а хто стаіць за Васілём? Вельмі ж ужо ён рэальны і жывы.

Амаль за кожным героем дылогіі стаяць рэальныя, канкрэтныя людзі. Але, калі гаварыць шчыра, у кож-

ным ёсць і маё. У Ганне, напрыклад, адбілася маё ўяўленне пра шчасце, пра каханне, пра самаахвярнасць. У гэтым вобразе і маё разуменне чалавечага гонару. Ёсць адзін канкрэтны чалавек, які «дапамог» мне напісаць Васіля. У яго, таксама як і ў Васіля Дзятла, розныя па колеру вочы. А ўвогуле ў кожным з іх часцінка майго сэрца.

Вельмі хочацца, Іван Паўлавіч, яшчэ раз сустрэцца з Васілём і Ганнай. Ці можна спадзявацца на гэта?

Мне таксама не проста расстацца з Васілём і Ганнай. Палессе яшчэ моцна трымае мяне...

Ну што ж, у такім выпадку будзем спадзявацца на яшчэ адзін палескі раман... Я знарок ужываю гэты жанравы тэрмін, таму што на Захадзе не пакідаюць крычаць пра «крызіс рамана», пра тое, што гэты жанр быццам устарэў для цяперашняга часу.

Я ўпэўнены, у рамана вялікая будучыня. Непахісна веру: ніводзін другі жанр не можа зраўняцца з раманам па магчымасцях, па глыбіні і маштабнасці даследавання «чалавечага матэрыялу».

А на Захадзе гавораць пра непазбежную пагібель літаратуры і мастацтва, бачаць у навуцы і тэхніцы іх фатальнага магільшчыка.

У буржуазнай філасофіі існуе нават цэлы кірунак — тэхналагічны дэтэрмінізм. Яго сутнасць: тэхніка — галоўнае, калі не адзінае, што вызначае развіццё грамадства, яго матэрыяльнае і духоўнае жыццё. Літаратура і мастацтва, па гэтай тэорыі, непазбежна будуць раздушаны «машыннай культурай», «тэхнакратычнай дыктатурай»...

Сапраўды, навука і тэхніка ў апошнія дзесяцігоддзі дасягнулі вялікіх поспехаў. Расшчапленне атамнага ядра, палёты ў космас, кібернетыка, лазеры, сінтэтычныя матэрыялы... Але гэтая акалічнасць не толькі не паслабляе ролі літаратуры і мастацтва, а, наадварот, узмацняе іх значэнне. Я глыбока перакананы ў гэтым. Чым вышэйшы навукова-тэхнічны і сацыяльны ўзровень грамадства, тым вышэйшыя і стражэйшыя

яго, грамадства, патрабаванні да асобы, да яе духоўных асноў, маралі. А гэта ж наша сфера дзейнасці. Літаратура і мастацтва павінны фарміраваць чалавека, развіваць сацыяльную свядомасць у ім, пачуццё адказнасці перад грамадствам. Абуджаць у Чалавеку творчы пачатак, г. зн. выхоўваць у ім тое, без чаго Чалавек не можа быць паўнацэннай асобай.

Супрацьпастаўленне навуковага і мастацкага мыслення, прыніжэнне значэння маральнага выхавання чалавека, асабліва ў наш час, лічу справай нягоднай і нават небяспечнай.

Адсюль вынікае, што задачы сучаснага пісьменніка ўскладняюцца?

Задачы пісьменніка ўвогуле заўсёды былі не простыя. І заўсёды не просты быў чалавек, яго душа. Чалавек заўсёды быў складаны, такі ўжо ён, чалавек. Але навукова-тэхнічны прагрэс паставіў перад намі новыя праблемы. Змяніўся навакольны свет, сацыяльныя сувязі чалавека, узаемаадносіны яго з грамадствам, змяніліся яго духоўныя клопаты. Усё-такі інфармацыйны выбух — факт. Бясспрэчны...

Аб'екты, з якімі мы маем справу, вельмі індывідуальныя — што ні чалавек, то свой свет. Інжынер, маючы дакладныя даныя аб тым, як была створана папярэдняя машына, можа яе паўтарыць або стварыць больш дасканалую. А мы, ведаючы дакладна, як былі створаны «Вайна і мір» або «Ціхі Дон», не зможам напісаць так. У гэтым наша бяда, але ў гэтым, калі хочаце, і наша шчасце.

Змяняецца час, змяняюцца праблемы. Якія з іх Вы лічыце найбольш важнымі?

Па-ранейшаму адной з найважнейшых для пісьменніка застаецца праблема ўзаемасувязі асобы і грамадства. Сацыяльная актыўнасць і пасіўнасць, грамадзянская чуласць, асабістая адказнасць чалавека за лёс краіны, свету, прынцыповасць і беспрынцыпнасць, неамяшчанства, прыстасавальніцтва — гэта ўсё праблемы значныя, надзённыя.

Над чым Вы працуеце цяпер? Новы раман?

Стары. У новай рэдакцыі. «Мінскі напрамак». Рыхтую да новага выдання...

Вам даводзіцца працаваць не толькі за пісьмовым сталом, Вы заняты вялікай грамадскай работай, многа ездзіце па краіне. Напэўна, Вам нялёгка?

Так, часамі нялёгка. Гэта патрабуе часу і сіл. А часу, на жаль, не лішне, сіл таксама. Але працаваць з людзьмі, на людзях — трэба, неабходна. Нашаму брату-пісьменніку гэта, акрамя ўсяго, вельмі карысна. Мае грамадзянскія, дэпутацкія абавязкі дапамагаюць мне ведаць, чым жыве народ, што яго радуе, што трывожыць.

Але, перш за ўсё, ёсць усведамленне абавязку перад людзьмі. Я, напрыклад, як да важнага свайго абавязку стаўлюся да работы ў Камітэце абароны міру. Клопаты пра мір гэта ж справа ўсіх, у тым ліку і мая справа. Нельга быць абыякавым да таго, што недзе, няхай сабе далёка ў В'етнаме, забіваюць людзей. Зрэшты, В'етнам, мне здаецца, побач...

Нарэшце традыцыйнае пытанне: над чым збіраецеся працаваць?

Многае хочацца напісаць. Непакояць сэрца і фантазію, як я ўжо сказаў, думкі пра далейшы лёс герояў маёй «Хронікі», бачыцца мне яшчэ адзін раман. Разам з тым хочацца напісаць пра сучасны горад, пра яго людзей. Хочацца стварыць вельмі запаветную, вельмі асабістую кнігу-споведзь пра сваё пакаленне, якое ў 20 гадоў прыняло на сябе ўдар вайны. Зрэшты, мне і хочацца яе напісаць і я баюся яе. У планах і накідах — кніга пра літаратуру. Чакаюць сваёй чаргі мае салдацкія дзённікі. Хачу прадоўжыць сваю работу і ў галіне тэатральнай драматургіі. Вельмі многа хочацца. Уся закавыка ў тым, што ўдасца зрабіць...

*1972*

# ПРА МАКСІМА ТАНКА

Значэнне пісьменніка залежыць ад таго, наколькі яго творчасць выяўляе душу і лёс народа.

У творчасці Максіма Танка знайшлі шчыры, паэтычны адбітак думы і мары тысяч людзей. Ад верша «Касагоры», пазначанага 1930 годам, з кнігі «На этапах» да апошніх вершаў, што пакуль апублікаваны толькі ў часопісах, шчодрай рукой паэта занатаван у мастацкім летапісе беларускага народа вялікі абсяг нашага жыцця — больш за 40 гадоў. Амаль паўстагоддзя, нібы своеасаблівы паэтычны дзённік, адбілі ў сабе творы паэта сведчанне дзён, якія здаюцца цяпер далёкім мінулым, дзён, якія добра і востра помняцца драматызмам і напалам змагання з крыважэрным ворагам, з пасляваеннымі нястачамі, і дзён, якія праходзяць перад нашымі позіркамі сёння.

Ёсць зайздросная якасць у паэзіі, якую калісьці цудоўна выказаў Пушкін, параўноўваючы паэзію з рэхам. Максім Танк усе гады творчай дзейнасці быў надзіва чулы да жыцця, і паэзія яго ўвасобіла самыя разнастайныя па фарбах і па танальнасці праявы паўсядзённасці, якая ўбірае і з'явы сусветнага значэння, і «прыватныя» чалавечыя пачуцці і якая разам, у сваёй нярэдка супярэчлівай злітнасці, і ёсць само жыццё.

Здаецца, няма такой значнай гістарычнай з'явы, якая не знайшла б адбітку ў творчасці Максіма Танка. Азіраючы ўсё тое, што даў людзям Максім Танк, мы не ўбачым моманту, калі б паэт стаяў у баку ад галоўнага, што вызначала сабой гістарычны шлях нашага народа. Паэзія Максіма Танка ва ўсе часы народнага быцця ішла разам з народам па магістральным яго шляху. У гэтых адносінах паэзія Танка — у найлепшым значэнні паэзія *грамадзянская*, паэзія значных грамадскіх інтарэсаў. Нікольні не супрацьстаўляючы гэта папярэдняму, а падкрэсліваючы злітнасць абе-

дзвюх якасцей, хачу зазначыць, што паэзія Максіма Танка з рэдкай чуласцю адбіла і свет найтанчэйшых, інтымных пачуццяў. І гэта таксама выдатная якасць танкаўскай паэзіі: яна — вельмі *чалавечная*. Мне здаецца, што вершы Максіма Танка інтымнага характару належаць да лепшых дасягненняў беларускай лірыкі.

Добра вядома: мы жывём у такі час, калі не толькі кожная літаратура, але і кожны літаратар належаць не аднаму свайму народу, сваёй культуры, але і іншым народам, іх культурам. Гэта асаблівасць вымагае нас ацэньваць здабыткі, узровень працы кожнага з нас узроўнем і меркай лепшых дасягненняў савецкай і сусветнай культуры. Да гонару Максіма Танка трэба сказаць, што былы сялянскі юнак з Пількаўшчыны, для якога універсітэтамі былі заходнебеларускія этапы і белапанскія краты, змог узняцца ў сваім развіцці да сапраўдных інтэлектуальных вышынь нашага часу. Думаю, што няма патрэбы даводзіць, што па вышыні мыслення і па якасці твораў Максім Танк займае вартае месца сярод самых культурных пісьменнікаў нашага народа. У гэтых адносінах, на маю думку, Максім Танк пакажа добры прыклад многім з нас.

Хочацца дадаць да гэтага, што Танку ўласціва не толькі высокая культура творчасці, але і, што не менш важна, высокая культура паводзін, адносін да людзей. Адзнакай гэтай культуры лічу цудоўную танкаўскую далікатнасць у абыходжанні з людзьмі, надзвычайную сціпласць, якую не пахіснулі ні выдатныя здабыткі ў літаратуры, ні высокія званні і пасады. Да адзнак гэтай унутранай культуры адношу і высокую сумленнасць, з якой паэт, камуніст і старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі выконвае шматлікія пісьменніцкія, грамадзянскія абавязкі.

Максім Танк многа зрабіў за свае шэсцьдзесят. Час, гады працы і турбот паклалі і на яго твар свае адзнакі. Але ўсплёскі весялосці, смеху ў Танка маладыя. І часта маладыя агеньчыкі пабліскваюць у вачах такога сталага юбіляра. Паэт не развітваецца з маладосцю.

Гэта дае права на добрыя спадзяванні. Няхай гэтыя спадзяванні здзейсняцца!

*1972*

## ШЧАСЛІВЫ ДАР ЛЁСУ

Іван Паўлавіч, нам вядома, што Вы працуеце над раманам «Мінскі напрамак», які ў 1955 годзе чытаў з алоўкам у руках А. А. Фадзееў. У якой ступені на гэтай Вашай рабоце праявіўся ўплыў А. А. Фадзеева?

Кніга «Мінскі напрамак» была напісана мною ў 1947—53 гадах. Упершыню яна была выдадзена на рускай мове ў «Советском писателе» ў 1954 годзе. Гісторыя, як кажуць, старая, але я вярнуўся да яе.

Гэта быў першы мой раман. Амаль першая мая кніга. Відаць, дзёрзкай маладосці я абавязаны тым, што замахнуўся на такую вялікую, складаную рэч. Зрэшты, у апраўданне сваё магу сказаць, што я не мог не напісаць яе.

Лёс рамана спачатку быў даволі цяжкі: першае ж паяўленне скарочанага варыянта выклікала палеміку ў беларускім друку. Хоць раман у цэлым быў прыняты прыхільна, я да гэтага часу з пачуццём вялікай удзячнасці ўспамінаю пра тое, як падтрымалі выхад кнігі ў Маскве ў сваіх грунтоўных артыкулах Ю. Лукін, Л. Нікулін, І. Казлоў. Вельмі дарагія мне добры артыкул і сяброўскае пісьмо тады яшчэ малавядомага Сяргея Сяргеевіча Смірнова. Падбадзёрыла і ўзбагаціла мяне гутарка пра раман з К. М. Сіманавым, чыя думка дарагая мне была як думка значнага спецыяліста ў галіне ваеннай прозы. Асабліва дорага мне, што раман прачытаў А. А. Фадзееў. Аляксандр Аляксандравіч у той час хварэў, быў у бальніцы. Мяне здзівіла, што ў такім стане ён самым уважлівым чынам прачытаў кнігу, дэталёва яе разабраў. Я і зараз берагу як памяць пра адну з самых вялікіх падзей майго жыцця экземпляр з адзнакамі алоўкам А. А. Фадзеева на палях кнігі.

Праглядаючы запісы, зробленыя рукой А. А. Фадзеева, добразычлівыя, разумныя, шматлікія, я нібыта ўбачыў сваю работу вачамі вялікага літаратара. Гэта было вельмі павучальнае, вельмі важнае для мяне, маладога аўтара, чытанне.

Вельмі каштоўна было тое, што вучыў мяне майстар не агульнымі пажаданнямі, а вельмі канкрэтнымі заўвагамі, ацэнкамі, вучыў прадметна, пераканаўча. І вучыў са здзіўляючай шчодрасцю і здзіўляючай дружалюбнасцю, дабратою... Усе гады свяціла мне і свеціць цяпер гэтая фадзееўская дабрата.

Дзесяткі добрых фадзееўскіх ацэнак акрылілі мяне. Але разам з тым А. А. Фадзееў памог мне таксама больш крытычна настроіцца ў адносінах да свайго дзецішча. Яго меркаванні былі свайго роду ўзмацняльнікам, які развіваў мае затоеныя сумненні ў дасканаласці рамана.

У пісьме да мяне А. А. Фадзееў адзначыў: «Адчуваецца, што Вы многа працавалі над сваім раманам, уклалі многа любові ў людзей, пра якіх напісалі, але аказаўся недахоп вопыту» [1]. Так, я працаваў над раманам з поўнай аддачай сіл. Фізічна і творча я выдаў тое, што мог тады 26—30-гадовы аўтар.

А. А. Фадзееў пісаў мне: «Вы проста абавязаны яшчэ і яшчэ папрацаваць над гэтым раманам» [2]. І далей: «Папрацуйце ж яшчэ над сваім раманам, каб яго мог чытаць і любіць шматмільённы чытач, а не дзесяткі тысяч. Раман гэтага варты» [3]. Ён як бы завяшчаў мне давесці да канца работу над раманам, паляпшаючы, удасканальваючы яго ад выдання да выдання.

Павінен сказаць, што вяртаўся і вяртаюся я да рамана не толькі таму, што гэта раіў А. А. Фадзееў. Бясспрэчна, я вярнуўся б да кнігі, калі б і не пачуў гэтай парады. Таксама, як я вяртаўся да яе перад першай публікацыяй на рускай мове. І ўсё ж фадзееўскія «папрацуйце ж яшчэ!», «раман гэтага варты» — былі для мяне вельмі важныя і патрэбныя. Бо ў мастацтве вельмі важна ведаць: «ці варта?». У мастацтве, можа, няма нічога важнейшага для аўтара, чым гэтае пераканне: «варта!»

---

[1] Фадеев А. А. Собр. соч.: В 7-ми т.— М.: Худ. лит., 1971, т. 7, с. 474.

[2] Тамсама.

[3] Тамсама.

Сярод пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў і крытыкаў бытуюць розныя пункты погляду на мэтазгоднасць і правамернасць дапрацоўкі або перапрацоўкі аўтарам сваіх твораў пасля таго, як пройдуць гады або дзесяцігоддзі з часу іх выхаду ў свет. Якая Ваша думка па гэтаму пытанню?

Некаторыя пісьменнікі лічаць непатрэбнай і нават шкоднай дапрацоўку або перапрацоўку сваіх твораў, апублікаваных імі ў далёкім або недалёкім мінулым. Я ж перакананы, што перад кожным перавыданнем твор, калі ён у чым-небудзь не задавальняе, пісьменнік абавязаны правіць. Гэта — як перад кожным выхадам на людзі, у грамаду, чалавек павінен кожны раз занава сябе агледзець, праверыць, ці ўсё ў парадку, каб адчуваць сябе ў форме.

Таму калі пытанне аб перавыданні ў агульным вырашана, але аўтара нешта ў ранейшым варыянце ўжо не задавальняе, ён павінен прыкласці ўсе сілы, каб дапрацаваць свой твор.

Мяне, напрыклад, папракаюць хто-ніхто з літаратараў за тое, што я зноў вярнуўся да свайго рамана «Мінскі напрамак», выдадзенага дваццаць гадоў назад, што я не першы раз сябе праўлю. Я ж бачу ў гэтым асабістую аўтарскую адказнасць за літаратурны лёс свайго рамана.

Як адносіўся, на Вашу думку, А. А. Фадзееў да праблемы перакладу нацыянальных аўтараў на рускую мову? Пажадана, каб Вы гэта паказалі на прыкладзе яго адносін да перакладу «Мінскага напрамку». Ваш пункт погляду на гэтую праблему.

Пераклад твора з адной нацыянальнай мовы на другую — праца вельмі адказная. Якасць перакладу, па сутнасці, у немалой ступені вырашае лёс кнігі на другой мове. Бо калі чытаеш перакладзены тэкст мастацкага твора і натыкаешся на якую-небудзь недакладнасць, невыразнасць пісьма, стылістычную памылку — цяжка сказаць, чыя ў гэтым віна: аўтара або перакладчыка, які не папрацаваў над тым, каб найлепшым чынам перадаць сэнс фразы, настрой героя або яго мову.

А. А. Фадзееў вельмі ўважліва сачыў за якасцю перакладу кнігі. Не выпадковыя яго заўвагі на палях кнігі: «Стыль не вытрыманы (...), і я не ведаю, Ваша гэта віна ці перакладчыка». Ён адзначае, што, пачынаючы з другой часткі, раман у стылістычных адносінах выраўняўся (не лічачы, вядома, асобных агрэхаў), і рэзюміруе, што і ў мяне, і ў перакладчыка, і ў рэдактара «не хапіла цярплівасці і самакрытычнага пачуцця, каб гэтак жа выраўняць першую частку».

Вельмі шмат часу, сіл і нерваў прыйшлося мне патраціць на аўтарызацыю першых перакладаў, а потым і на іх перавыданні. Для мяне працэс аўтарызацыі перакладу — адзін з важных і цяжкіх этапаў перад сустрэчай з чытачом. І першы, і другі пераклады рамана патрабавалі вялікай работы, на іх патрачана некалькі месяцаў штодзённай, напружанай працы.

Пры ўяўнай лёгкасці перакладу з беларускай мовы на рускую, работа гэтая вельмі цяжкая. Яна патрабуе тонкага і дакладнага ведання абедзвюх моў, вялікай уважлівасці і, вядома ж, таленту.

Мне здаецца, што і для мяне, і для многіх маіх сабратаў па пяру ў саюзных рэспубліках, нягледзячы на першаступенную важнасць, пытанне аб кваліфікаваным, добрасумленным, нарэшце, таленавітым перакладчыку ўсё яшчэ з'яўляецца адкрытым.

Гэта не можа не засмучаць, бо выданне на рускай мове — выхад на ўсесаюзную трыбуну, да шматмільённага чытача. Апрача таго, выданне раманаў на рускай мове — пуцёўка кнізе і да другіх народаў. Таму што пераклад на замежныя мовы часта ідзе з рускага выдання. Адсюль і памылкі першага перакладу будуць у адных выпадках кананізаваны, у другіх — гіпертрафіраваны.

Як Вы ставіцеся да канкрэтных рэдактарскіх парад А. А. Фадзеева?

Я згадзіўся не ■ усімі заўвагамі і парадамі А. Фадзеева. Думаю, што гэта натуральна.

А. А. Фадзееў станоўча адзываўся пра тое, як паказаны ў рамане вобраз Івана Данілавіча Чарняхоўскага. Ён пісаў, што І. Д. Чарняхоўскі «наогул атрымаўся жывым, і відаць, што гэта камандуючы, і гэта, наогул,

Ваша ўдача»[1]. Ён раіў адно пры дапрацоўцы рамана зняць залішнюю дэталізацыю ў абмалёўцы І. Д. Чарняхоўскага, якая трохі драбніла фігуру палкаводца.

Я ўлічыў заўвагі А. А. Фадзеева. Але і пасля гэтага мяне не пакідала пачуццё незадаволенасці гэтым вельмі важным для рамана вобразам. Асабліва не задаволены я быў тым, як былі раскрыты ў рамане характар мыслення і светапогляд І. Д. Чарняхоўскага-палкаводца, тое, што, перш за ўсё, рабіла яго выдатнай асобай. Былі гэтаму прычыны, у якіх быў вінаваты я, і прычыны, якія ад мяне не залежалі.

Я быў малады, калі пачынаў пісаць пра Чарняхоўскага. Мала тады гаварыла пра Чарняхоўскага і ваенна-гістарычная навука. Вобраз, які патрабаваў праўдзівага гістарычнага асвятлення, прымусіў мяне зноў пераглядзець мноства часопісаў, кніг і артыкулаў, успамінаў пра І. Д. Чарняхоўскага. Я нанава напісаў пра Чарняхоўскага некалькі раздзелаў. Матэрыял, на аснове якога яны напісаны, дакументальны, прытым — незвычайнай складанасці. Я адношу гэтыя раздзелы да ліку найбольш складаных задач, якія я калі-небудзь вырашаў.

Акрамя новых раздзелаў пра Чарняхоўскага я дапрацаваў, дапоўніў сцэны і эпізоды ў рамане, якія былі сюжэтна звязаны з вобразам Чарняхоўскага і ў якіх былі ўспаміны і водгукі пра яго другіх персанажаў рамана. Гэтыя карціны і раздзелы таксама паглыбілі асобу палкаводца, значную і сур'ёзную.

Вярнуўшыся зноў да рамана, я імкнуўся дакладней і глыбей псіхалагічна распрацаваць батальныя сцэны. Шмат новага знойдзе чытач у вобразе камандзіра дывізіі генерала Шчарбацюка.

Вялікія змены зроблены ў «нямецкай» лініі рамана. У першым варыянце немцы нярэдка былі пададзены схематычна, аднаслінейна. Яны выглядалі шаржыравана, спрошчана. Мабыць, гэта меў на ўвазе А. А. Фадзееў, калі пісаў на палях кнігі: «Немцы ў рамане пададзены слаба».

У новым варыянце рамана я імкнуўся глыбей паказаць нямецкую армію, паказаць, як яна канцэнтравала ў сабе сацыяльна-грамадскі ўклад і ідэалогію розных пластоў насельніцтва фашысцкай Гер-

---

[1] Фадеев А. А. Собр. соч., т. 7, с. 472.

манії, паказаць гэта рэальна, без фальшу і спрашчэнняў.

Першаму варыянту рамана была ўласціва некаторая нясмеласць, я нярэдка бываў недаравальна скупы ў абмалёўцы жывых герояў, неаднойчы як бы сцісkaўся, пераходзіў на скорагаворку. Цяпер гэта давялося пераадолець. Дзе-нідзе я развіў і ўвёў новыя дыялогі, зняў дыялогі няўдалыя, якія нічога не гаварылі чытачу. У выніку пэўным чынам змяніліся ў рамане і галоўныя героі, і персанажы другога плана; новымі рысамі ўзбагаціліся вобразы Лагуновіча, Ніны. Больш выразна, падрабязна я прамаляваў узаемаадносіны Валі і Васіля Крайко. Уся гэтая дапрацоўка праводзілася ў плане ўдакладнення, паглыблення вобразаў, узбуйнення іх як асоб.

Разам з тым я захаваў цалкам усе сюжэтныя лініі, усю канструкцыю, кампазіцыю рамана. Па сутнасці я яе не мяняў: толькі перакампанаваў два-тры раздзелы. Я зрабіў тую работу, якую, па парадзе А. Фадзеева, рабіў і раней, «каб на больш ці менш працяглых адрэзках рамана дзеянне канцэнтравалася вакол тых ці іншых галоўных герояў» [1].

Спадзяюся, што працаваў я недарэмна. Раман як бы нанава пераплаўлены. Думаю, што сплаў гэты моцны.

Як Вы ў цэлым ацэньваеце сяброўскую дапамогу А. А. Фадзеева для сваёй творчай дзейнасці?

Гаворачы пра тое добрае, што зрабіў А. Фадзееў для мяне, я не магу абмежавацца «Мінскім напрамкам». Парады А. Фадзеева, і гэта, можа, самае важнае, дапамаглі мне ў выбары далейшага шляху. У «Мінскім напрамку» А. Фадзееву асабліва спадабаўся вобраз сялянкі Шабуніхі. Усе старонкі, звязаныя з гэтым вобразам, раздзелы, у якіх паказваецца народнае жыццё, адзначаны А. Фадзеевым як найбольш удалыя. А. Фадзееў нібы падштурхоўваў мяне ў той свет, які мяне хваляваў ужо і які я спрабаваў уваскрасіць пазней у «Людзях на балоце», і «Подыху навальніцы».

[1] Фадеев А. А. Собр. соч., т. 7, с. 472.

Выходзіць так, што калі для каго-нікаго з крытыкаў паяўленне рамана «Людзі на балоце» было нечаканасцю, то А. Фадзееў нібы змог задоўга да паяўлення кнігі прадказаць яе.

Я да нашай завочнай сустрэчы некалькі разоў блізка бачыў А. Фадзеева, але ні разу не падышоў, не загаварыў: не адважыўся. Аднак ён адыграў у маім літаратурным лёсе вялікую ролю. Два пісьмы і экземпляр з яго адзнакамі, якія так многа сказалі мне, я ўсё жыццё берагу як шчаслівы дар лёсу.

Усё жыццё я адчуваю абаяльнасць гэтага цудоўнага чалавека. Яго светлы, ветлівы позірк, яго добрыя, сяброўскія рукі.

*1972*

# АБ ГРАНІЦАХ, ПАМЯЦІ І ВОПЫЦЕ

Юбілейнае слова

Карта свету па-ранейшаму пакрэслена граніцамі — граніцамі розных — вялікіх і малых, маленькіх, старажытных і нядаўна ўзнікшых — дзяржаў. Сатлелых манархій рознага роду дэспатычных рэжымаў, разнамастайных афарбовак рэспублік...

Але граніцы — не геаграфічныя, а сапраўдныя, якія вызначаюць лёсы людзей, даўно ўжо не супадаюць з мудрагелістай вяззю дзяржаўных граніц. Даўно ўжо свет дзеляць іншыя граніцы, якіх не фіксуюць і не могуць фіксаваць геаграфічныя карты.

Кожнаму, хто праяўляе хоць бы малую цікавасць да палітыкі, вядома: найбольш акрэсленыя граніцы сёння ідуць паміж двума светамі — паміж светам новым і светам старым.

Спаборніцтва і барацьба паміж гэтымі двума светамі складае галоўную асаблівасць нашай эпохі, адбіваецца ў жыцці кожнай асобнай краіны, вызначае жыццё кожнага чалавека.

Змяніўшы разуменне граніц паміж дзяржавамі, незвычайна зблізіўшы народы і кантыненты, век наш уцягнуў у непасрэднае вырашэнне глабальных праблем мільёны людзей. Перад мільёнамі людзей, кожным у паасобку, пастаўлена пытанне: з кім ты, малы чалавек? Час ад кожнага патрабуе адказу, у якім свеце ён, чалавек, якой справе ён служыць.

У складанай, цяжкай барацьбе, што не заціхае ў розных кутках планеты, наша краіна ўжо вось паўстагоддзя ёсць чалавецтву прыклад і галоўная сіла новага свету. Гэта ўжо агульнапрызнаны факт. Ні адна дзяржава не аказала такога ўплыву на ход гісторыі ў нашым стагоддзі, не зрабіла столькі для пастулальнага руху гісторыі, для народаў і для асобных людзей. І ці ж дзіўна, што ўсё сумленнае, лепшае цягнецца да нас з надзеяй і любоўю.

Не лёгкі, не просты шлях, пройдзены намі. Неспакойны свет навакол...

Калі мой народ, беларускі народ, працуе спакойна і з годнасцю, з верай у будучыню глядзіць ў заўтрашні дзень, то гэта таму, што ён адчувае за сабой надзейную падтрымку вялікай краіны, таму, што ён — непадзельная часцінка вялізнага свету, які аб'яднаў дзесяткі народаў.

Ёсць памяць асобнага чалавека, ёсць памяць агульная, памяць многіх, народа. У памяці аднаго чалавека жыве вопыт асобы, у многім своеасаблівы, у памяці народаў — вопыт тысяч і мільёнаў. Мае значнасць вопыт кожнага чалавека, ён робіць чалавека разумным і моцным. Няма цаны вопыту народа, ён ахоўвае цэлыя народы, ён робіць мудрымі і моцнымі мільёны.

Гэты векавы вопыт быў у зародку разумення і перакanання тых, хто яшчэ ў нетрах старога свету марыў пра тое, «когда народы, распри позабыв, ■ великую сем'ю соединятся». Гэты вопыт быў у аснове дзеянняў тых, хто пачынаў ажыццяўляць высакародныя мары пра яднанне народаў. Не згадваючы тут многія выдатныя, але вядомыя факты, я хацеў бы ўсё ж асобна адзначыць, што ў сэрцы беларускага народа ніколі не згасне памяць пра горкі і вялікі вопыт мінулай, самай небяспечнай і самай цяжкай вайны, якая яшчэ раз дала нам урок таго, што братэрства народаў, саюз народаў не толькі высакародна прывабныя, але і жыццёва неабходныя.

Мы страцілі ў той вайне кожнага чацвёртага. Страшэнная, неймаверная страта! Але калі глядзець да канца праўдзе ў вочы, нельга не ўявіць магчымасці і горшага: мы маглі б страціць усё. Рэальнай была небяспека, якую было б немагчыма ўявіць раней і пра якую сёй-той — больш маладыя — забывае цяпер: поўнага знішчэння народа.

Помнячы гэта, мы помнім таксама, што ў бітве за наша жыццё, за жыццё беларусаў, страцілі сваіх сыноў многія іншыя народы. Мабыць, няма ў нашай краіне такога народа, дзеці якога не ляжаць у беларускай зямлі — у братніх ваенных магілах сорак першага і сорак чацвёртага гадоў. І, мабыць, няма такога народа, жывых сыноў — былых салдат якога не вабіла б, не гарнула б да маёй роднай зямлі тое незвычайнае, непазбыўнае пачуццё, што назаўсёды пасяляецца ў сэрцы пасля

дакранання да зямлі, якую ты зберагаў і якая зберагала цябе. Я, былы салдат Паўднёвага фронту, для якога ўкраінская зямля стала другой радзімай, вельмі добра ведаю гэта па сабе.

Гаворачы пра вялікія падзеі, заўсёды закранаеш вядомыя ўсім факты. І я не буду напамінаць, як многа дало нам яднанне з усёй краінай у пасляваенныя гады: кожны ведае, што краіна не толькі дапамагла нам засеяць палі, узняць заводы, адбудаваць спаленыя вёскі, яна дала неабходнае для нашага руху далей, да сённяшніх дасягненняў, да ўпэўненай будучыні.

Пяцідзесяцігадовы юбілей Радзімы мы, беларусы, адзначаем, як і належыць людзям у сталым узросце, паузбагачаныя вялікім баявым і працоўным вопытам, памятаючы і цэнячы ўсё, што павінны памятаць і цаніць, удзячныя за дабро, зробленае нам другімі народамі, краінай, партыяй, з пачуццём гонару за здзейсненае намі.

Вернай сярод верных называлі Беларусь у гады вайны. Верным братэрскай сям'і, савецкай краіне, свету будучыні наш народ быў, ёсць і будзе вечна.

*1972*

# НАСТАЎНІК, ВЫХАВАЦЕЛЬ, ШКОЛА

Я хацеў бы пачаць з таго, што «настаўнік» для мяне — вельмі светлае слова. Яно выклікае самыя дарагія сэрцу ўспаміны. Як бы набліжае далёкую, ясную пару — дзяцінства, юнацтва, школу.

Калі я думаю пра маіх школьных настаўнікаў, я ўспамінаю раней за ўсё першага настаўніка. Першую настаўніцу, вобраз якой усё жыццё не знікае з памяці. Успамін пра яе хвалюе мяне і цяпер.

Першая мая настаўніца — Праскоўя Андрэеўна Дашко. Яна нарадзілася ў горадзе, але прыехала да нас, на Палессе, у глухую вёску, і пражыла там не год, не два, а дзесяткі гадоў. Можна сказаць, пражыла лепшую частку жыцця.

Я помню яе такою, якой бачыў здзіўленымі дзіцячымі вачамі. Помню, што гэта была вельмі разумная жанчына, што яна вельмі ўмела гаварыць з сялянамі, ладзіць з імі. Умела жыць сярод народа. Помню, якой любоўю была акружана Праскоўя Андрэеўна ў нас у вёсцы, як яе паважалі, лічыліся з яе думкаю.

Умудроны жыццёвым вопытам, я думаю цяпер, што яе жыццё было і значным, і разам з тым самаадданым, жыццём, аддадзеным людзям. Цудоўнай асаблівасцю Праскоўі Андрэеўны было тое, што яна не толькі працавала настаўніцай, у вузкім разуменні слова, але была па сутнасці грамадскім дзеячам. Сапраўдным грамадскім дзеячам на вёсцы. Яна вучыла не толькі дзяцей, але і дарослых — сялян мудрасці жыццёвай, разуменню новага жыцця.

Яна была таленавітая. Апрача таго, што магла разумна гаварыць з людзьмі, што ведала багата карыснага людзям, яна мела талент артыстычны, у яе быў добры голас, яна добра спявала. За гэта таксама любілі яе. Яна арганізоўвала ў нашай вёсцы музычныя спектаклі, якія карысталіся вялікім поспехам. Спек-

таклі гэтыя прыносілі ў нашу вёску радасць вялікага мастацтва, стваралі ў нас абстаноўку святочнасці. Далучалі людзей да культуры. Цудоўным у ёй як у чалавеку была незвычайная любоў да дзяцей. Дзіўна, мне з таго часу, хоць я быў тады маленькім сямігадовым хлопчыкам, помніцца ласкавае дакрананне яе рук, жывы бляск чорных, прыгожых вачэй.

Да гэтага часу ў мяне захавалася адчуванне нейкага трапяткога пачуцця закаханасці да першай настаўніцы. Да гэтага часу жыве пачуццё любові да яе. Са смуткам думаю пра тое, што яе ўжо няма. Яна памерла гадоў дзесяць таму назад у Мінску. Я бачыў яе апошні раз пасля вайны тут жа, у Мінску.

Гэта быў незвычайны чалавек, сапраўдны настаўнік.

Было нямала і другіх добрых настаўнікаў. Але сярод іх я вылучыў бы яшчэ аднаго чалавека, як мне бачыцца, таксама незвычайнага. Я кажу пра Міхаіла Іванавіча Пакроўскага. Выкладчыка рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы ў раённым цэнтры Хойнікі, дзе я закончыў дзесяцігодку.

Міхаіл Іванавіч сярод другіх вызначаўся шырокай адукаванасцю. Ён быў выдатным знаўцам літаратуры, не толькі рускай і беларускай, але і сусветнай. У яго быў незвычайны талент выкладаць сваю думку цікава, захапляюча. Яго лекцыі зачароўвалі нас, мы слухалі іх, стаіўшы дыханне. Закаханы ў літаратуру, Міхаіл Іванавіч не шкадаваў часу для таго, каб увесці і нас у хвалюючы, трапяткі свет жывой літаратуры. Думаю, гэтаму яго захапленню мы абавязаны тым, што Пакроўскі стварыў у школе і ўзначаліў літаратурны гурток. Заняткі гэтага гуртка для мяне — адзін з самых шчаслівых успамінаў школьных дзён. Павінен сказаць, што на мяне, абавязковага ўдзельніка літаратурнага гуртка, самы моцны ўплыў рабіў не столькі разбор нашых сачыненняў, колькі чытанне сапраўднай літаратуры. Мы калектыўна прачыталі «Як гартавалася сталь», «Дзевяноста трэці год», «Тараса Бульбу».

Чытаў часцей за ўсё сам Пакроўскі, і трэба было чуць, як ён чытаў! У Пакроўскага быў незвычайны талент чытальніка. У яго чытанні вобразы як бы ажывалі, галасы іх гучалі, як жывыя, з дзівоснай натуральнасцю, багаццем інтанацый. Чытанне гэтае працягвалася многія вечары. І помню, з якім нецярпен-

нем мы чакалі кожны новы вечар, калі зноў збяромся і сустрэнемся з надзвычайным цудам, які завецца — літаратура.

Як і Дашко, Пакроўскі, відаць, свядома надаваў вялікае значэнне пазашкольнай рабоце. Ён быў арганізатарам і школьных спектакляў. Пад яго кіраўніцтвам мы паставілі «Казку пра цара Салтана», сцэны з «Барыса Гадунова». У гэтай справе ў Пакроўскага быў энергічны паплечнік, выкладчык геаграфіі Казачук, вялікі аматар самадзейнасці, прыроджаны арганізатар, рэжысёр.

Я ўдзельнічаў у спектаклях і ў якасці артыста, і мастака-афарміцеля. У той час я любіў маляваць. Тут мне надарыўся выпадак разгарнуцца: дэкарацыі былі вялікія. Памятаю, з якім захапленнем мы з сынам Пакроўскага — Ігарам — поўзалі па падлозе, па вялікіх лістах склееных шпалер, перавернутых чыстым бокам угару, малявалі мора, хаціну, рыбака.

Я тады сур'ёзна думаў пра тое, што стану мастаком. Марыў пра гэта. Зрэшты, аб чым мы тады ні марылі...

Усё ж сярод многіх захапленняў тагачасных, бадай, адным з самых моцных была літаратура...

Як і многія хлопчыкі і дзяўчынкі таго часу — гэта было ў трыццаць пятым, трыццаць восьмым гадах,— я пісаў вершы. Пісаў, вядома, хаваючыся, старанна аберагаючы запаветны сшытак. Але неяк раз, дзесьці ў трыццаць восьмым годзе, сшытак гэты выпадкова трапіў да Пакроўскага. Відаць, замест сшытка з сачыненнем або з хатнім заданнем. Пакроўскі ўзяў гэты сшытак, прачытаў. Выклікаў мяне ў настаўніцкую. Я ніколі не забуду гэтую нечаканую доўгую гутарку. Пазней я прыпомніў, што гаварыў ён са мной з нейкаю дзіўнай павагай. Але тады, у настаўніцкай, я дрэнна чуў яго, бянтэжыўся і хацеў хутчэй вырвацца на волю. Вельмі незвычайна было ўсё, што ён гаварыў. Неймаверна. Ён гаварыў, што я павінен пісаць, што гэта — маё прызванне. Што я магу стаць пісьменнікам. Сапраўдным пісьменнікам. Успамінаючы цяпер — вядома, смутна — тое, што я тады пісаў, бачу, што гэта былі ўвогуле вучнёўскія вершы, пераймальныя. Той запал, з якім я пісаў, на жаль, не выратоўваў іх ад агульных бед вучнёўскіх паэтычных твораў. І мяне здзіўляе цяпер: як ён змог з гэтых вершыкаў вывесці,

што з аўтара іх нешта можа атрымацца ў літаратуры? Як ён мог гаварыць так упэўнена?

Помню, што я пайшоў ад яго не столькі акрылены, колькі збянтэжаны. Моцна быў усхваляваны я гэтай гутаркай. Ды і як можна было быць спакойным, калі бесправа датычыла самага запаветнага. Таго, што я беражліва, з апаскаю хаваў у самай глыбіні сэрца. Хваляванне маё было моцнае і таму, што Пакроўскі быў у нас, у школе, аўтарытэтам вельмі вялікім, і я добра ведаў, што наогул ён строгі, слоў на вецер не кідае! Тое, што ён так цвёрда падтрымаў мяне, так шчыра паставіўся да маіх паэтычных вопытаў, да дарагіх сардэчных парываў — усё гэта для мяне было асабліва значным.

Наогул ён мяне, як вучня, падтрымліваў усе гады, вылучаў. Але павінен сказаць, не патураў ніколі і строгі быў заўсёды. Можа, нават да мяне быў стражэйшы, чым да другіх. Любячы яго, я, павінен сказаць, заўсёды і пабойваўся яго.

Але, напэўна, таму ўсякі знак падтрымкі з яго боку для мяне заўсёды быў дарагі ўдвая. Гэтая падтрымка, асабліва напачатку, для мяне, ціхмянага вясковага хлапчука, была не лішняй.

Паступіўшы ў школу ў раённым гарадку, я спачатку адчуваў, што значна адстаў ад вучняў, якія закончылі гарадскую школу. Па многіх прадметах я быў тады далёка не першы, атрымліваў чацвёркі, нават тройкі. Пакроўскі, трэба аддаць яму належнае, першы паверыў у мяне і падтрымаў. І я пастараўся не ашукаць давер'е і спадзяванні свайго настаўніка.

Былі ў мяне, відаць, і здольнасці, але вялікае было і жаданне працаваць. Вясковыя хлопчыкі, мы ўмелі працаваць! Школу я закончыў першым вучнем, з выдатнымі адзнакамі па ўсіх прадметах. Стаўшы не толькі першым па літаратуры, але і па матэматыцы, геаметрыі, па іншых прадметах. Недзе ў дзевятым я заваяваў ужо непахісны аўтарытэт «вялікага знаўцы» ў многіх галінах школьных ведаў. Амаль ці не ва ўсіх галінах. Пасля выпускных экзаменаў я атрымаў атэстат, у якім былі выдатныя ацэнкі па ўсіх прадметах. Пахвальную грамату і права паступіць без экзаменаў у любую вышэйшую навучальную ўстанову краіны.

Права паступіць без экзаменаў было, але паступіць я не змог. Я падаў заяву ў Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры. Чамусьці мяне не выклікалі, чамусьці, калі я прыехаў, са мной не пажадалі пагутарыць. Не сустрэўшыся са мной, фактычна адмовілі ў прыёме. Я вымушаны быў вярнуцца назад, у Хойнікі. Пачаў працаваць у райкоме камсамола.

Хачу крыху вярнуцца і падзяліцца некаторымі меркаваннямі пра школу тых гадоў. Усё жыццё жыве ў мяне пачуццё вялікай удзячнасці школе — і школе-чатырохгодцы ў маёй вёсцы, і сямігодцы ў суседнім сяле, у Алексічах, у якіх я вучыўся. Таксама ж, як і школе ў раённым гарадку, у Хойніках. Відаць, вучні цяперашніх школ таксама з удзячнасцю будуць помніць гады, пражытыя ў школе, гады вучобы. Але мне здаецца, што ў школе таго часу былі свае вельмі прывабныя якасці.

Я помню,— можа, гэта характэрна было больш для такіх хлопчыкаў, да якіх я належаў, выхадцаў з глушы, з сельскіх школ,— мы з нейкай незвычайнай прагнасцю кідаліся да ўсяго ў жыцці, умелі радавацца ўсяму, што адбывалася вакол нас. Умелі з нейкім вострым адчуваннем хараства жыцця дыхаць вясновым паветрам, радавацца першаму снегу. Радавацца лыжнай прагулцы, радавацца ігры ў валейбол. Помню, з якім хваляваннем, з якім захапленнем здавалі нормы на значок ГПА. І з якім гонарам насілі гэты значок! З якой адданасцю ўдзельнічалі ў спаборніцтвах стралкоў і здавалі нормы на значок «Варашылаўскі стралок»! І як радаваліся мы, калі нашы стрэлы траплялі ў цэль! У гэтай свежасці пачуцця, вастрыні адчування жыцця я бачу прыгажосць таго часу і таго пакалення. Мне цяжка меркаваць, як адчувае сённяшняе пакаленне ўсё гэта. Можа быць, усё гэта паўтараецца. Мы, хто старэйшы, глядзім на жыццё ўжо ў другіх вымярэннях. Але памяць аб нейкай асаблівай вастрыні адчування ўсяго, што адбывалася навокал, нейкай незвычайнай здольнасці радавацца жыццю ў мяне захавалася назаўсёды як пачуццё ўдзячнасці таму непаўторнаму і цудоўнаму часу.

Я ўспамінаю лыжныя спаборніцтвы. Мы тады здавалі нормы на значок ГПА. Гэтыя спаборніцтвы павінны былі таксама выявіць і лепшых, пераможцаў. Помню, як хваляваўся напярэдадні, па парадзе фіз-

культурнага кіраўніка нават строга трымаўся рэжыму, які неабходны для спартсмена. Успамінаю шырокае заснежанае поле, на якое мы, група хлопчыкаў, выйшлі ў той дзень. Беглі мы на дзесяцікіламетровую дыстанцыю. Па лыжні даўжынёй два з паловай кіламетра. Трэба было прайсці яе чатыры разы. Беглі мы з такім стараннем, з такой аддачай, што недзе на палавіне дыстанцыі ў мяне зламалася апорная палка. Прыйшлося бегчы, адштурхоўваючыся адной, слізгаючы больш па інерцыі. Нягледзячы на тое, што здарылася такая прыкрая гісторыя, я ўсё-такі не саступіў з лыжні, дайшоў да канца дыстанцыі. Дайшоў знясілены дарэшты, але ўсё-такі дайшоў. І з добрым часам, чым я тады ганарыўся.

Мне здаецца, у нашага пакалення была добрая ўпартасць, настойлівасць і ўменне адольваць цяжкасці, перашкоды, усё, што стрымлівала нас на шляху.

Са здзіўляючай прагнасцю мы хапаліся за ўсё. Нам хацелася ўсё ўвабраць у сябе, усё выпрабаваць, перажыць. У нас быў гурток планернай справы. Быў планер сапраўдны. Планер гэты ўзлятаў ад нацяжэння амартызатара. Цяпер, здаецца, не робяць такіх. Планер быў даволі вялікі, як нам здавалася — амаль сапраўдны самалёт. Там было і месца для «лётчыка», быў руль кіравання. Мы нацягвалі амартызатар, па камандзе кіраўніка «лётчык», што сядзеў на сваім адказным месцы, націскаў педаль, і планер, дзякуючы нацяжэнню амартызатара, зрываўся з месца, на якім быў замацаваны. Імкліва бег наперад і, паслухмяны рулю з кіравання, узлятаў. З тых заняткаў на ўсё жыццё ў мяне захавалася незвычайнае адчуванне палёту. І хоць падымаліся мы вельмі невысока, але адчуванне было дзівоснае, непаўторнае. Ні з чым не параўнальнае яно, гэтае адчуванне бязважкага, акрыленага лёту ў паветры. У грудзях шырэла ад разумення, што ты адарваўся ад зямлі, ужо ў паветры, ляціш. І ляціш, здавалася, высока!

Не заўсёды добра гэта атрымлівалася. Бывала так, што планер вельмі крута задзіраўся ўгару, губляў вышыню і гухаў разам з кім-небудзь з нашых таварышаў на зямлю. Грукаў даволі моцны ўдар. Зрэшты, усё канчалася ўвогуле шчасліва.

Самае лепшае ў маім жыцці звязана з гэтымі вельмі важнымі падзеямі і вельмі вострымі і глыбокімі пе-

ражываннямі. Яны захаваліся ў мяне як пара вялікіх радасцей, шчаслівая пара!

У райкоме камсамола я працаваў каля года. Загадчыкам аддзела піянераў, членам бюро райкома. Аб'ездзіў увесь раён на веласіпедзе. У мяне тады быў персанальны веласіпед! Многа я ўбачыў, многае спазнаў за гэты цяжкі год. Жыццё шырэй і мнагастайней раскрылася перада мною. Гэта потым мне спатрэбілася і ў жыццёвай дзейнасці, спатрэбілася і як пісьменніку.

У 1939 годзе я ўсё ж паступіў у Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры і пакінуў родныя мясціны. Там, у Хойніках, засталіся мае таварышы, сябры, засталіся больш маладыя школьнікі. Не магу не сказаць пра тое, што праз два гады многім з тых, хто ў гэтым мястэчку ў гады юнацтва спазнаў, можа, самыя шчаслівыя хвіліны, прыйдзецца сустрэцца з такой бядой, якую і ўявіць немагчыма было. Горад у сорак першым годзе быў акупіраваны немцамі. Я і цяпер не магу спакойна думаць пра тое, што давялося перажыць у тыя страшныя дні нядаўна бесклапотным, кволым хлопчыкам і дзяўчаткам. Многія школьнікі сталі падпольшчыкамі, смела ўдзельнічалі ў падпольнай барацьбе, былі потым схоплены паліцыяй, падвергнуты катаванням, расстраляны. У тым ліку і некаторыя з вучняў, што вучыліся разам са мной. Вельмі добра помню я адну сваю аднакласніцу Лаўрусенка, схопленую і расстраляную ў тыя дні. Помню яшчэ адну дзяўчынку, прозвішча яе было Ёрш, яна жыла недалёка ад мяне, каля парку. Ідучы ў школу, мы нярэдка сустракаліся. Яна таксама была падпольшчыцай і загінула пасля страшных катаванняў. Загінуў і кіраўнік падполля, былы кіраўнік самадзейнасці ў гарадку Яўгеній Іванавіч Казачук. Перад вайной ён працаваў у тэатры ў Мазыры, нашым абласным цэнтры. У гады акупацыі ён вярнуўся ў Хойнікі, узначаліў падполле і таксама загінуў.

Так завяршылася шчаслівая пара юнацтва многіх маіх таварышаў па школе, многіх дзяцей нашага пакалення...

Са школай, з прафесіяй настаўніка мяне звязваюць і асабістыя ўзаемаадносіны іншага парадку. Я скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт, у дыпломе у мяне спецыяльнасць — выкладчык мовы і літаратуры. Рускай мовы і літаратуры і беларускай мовы і літара-

туры. Некалькі гадоў я працаваў выкладчыкам літаратуры ва універсітэце тут, у Мінску. Многія мае школьныя таварышы — таксама настаўнікі. Я мог бы назваць многа таварышаў, якія цяпер працуюць настаўнікамі ў розных школах рэспублікі.

Але калі гаворыш «настаўнік», то разумееш гэтае слова, вядома, не толькі ў адносна спецыяльным значэнні — настаўнік школы. Настаўнік, мне здаецца, адно з самых высокіх і самых вялікіх паняццяў. Уключаючы ў сябе мнагастайны сэнс, гэтае слова, у маім разуменні, азначае адзін з самых высокіх заняткаў і напрамкаў чалавечай дзейнасці.

Я лічу, што ёсць усе падставы ўключаць у гэтую прафесіянальную катэгорыю і такі тып настаўніка-выхавацеля, як партыйны работнік. Я помню выдатных настаўнікаў сваіх сярод партыйных работнікаў. У маім жыцці адным з такіх настаўнікаў быў Нічыпар Ануфрыевіч Бельскі, спачатку старшыня калгаса ў нашай вёсцы, а потым сакратар райкома партыі ў Хойніках. Ён дапамагаў мне вызначыць сваё месца ў жыцці, калі я хлапчуком жыў у вёсцы, і памагаў потым, калі я вырас, працаваў у райкоме камсамола, а ён стаў сакратаром раённага камітэта партыі.

Думаючы пра настаўніка, я ўспамінаю майго настаўніка армейскай пары, малодшага лейтэнанта Картушына Барыса Паўлавіча. Я не помню яго спецыяльнасці да службы ў арміі. Можа быць, ён быў школьным настаўнікам. Прызваны ў армію, ён паказаў сябе, як мне помніцца, узорным выхавацелем салдат. Вельмі ўважлівы, культурны і разам з тым патрабавальны чалавек, ён вельмі многаму карыснаму навучыў мяне. Ён навучыў мяне пачуццю справядлівасці ў адносінах да таварышаў; пачуццю абавязковай адказнасці за справу, нягучнай, спакойнай, сціплай. Мы разам пачыналі вайну, разам былі ў першых ваенных бітвах. Я не ведаю, як склаўся далейшы ваенны лёс Картушына, ён згубіўся на ваенных дарогах сорак першага года. Ад таго, што мне невядомы яго далейшы лёс, я ўспамінаю пра яго са смуткам. Але да смутку нязменна далучаюцца ўдзячнасць і любоў, бо ён застаўся ў памяці як чалавек рэдкага хараства.

Гаворачы пра настаўніка ў такім шырокім значэнні, не магу не сказаць пра Аляксандра Аляксандравіча Фадзеева, які многія гады быў клапатлівым настаў-

нікам маладых літаратараў. Фадзееў вывеў на шырокую дарогу літаратурнага жыцця многіх цяпер вядомых усім пісьменнікаў. Памог ён моцна і мне, тады, калі я напісаў першую сваю вялікую кнігу — «Мінскі напрамак».

У гэтых адносінах — як настаўнік літаратурнай моладзі — Аляксандр Фадзееў, па майму перакананню, застаецца да гэтага часу выдатным прыкладам для другіх пісьменнікаў.

Як настаўнік, «сейбіт добрага», вельмі вялікі ўплыў аказала на мяне, як і на ўсіх нас, кніга.

Першай кнігай, якую я прачытаў і якая веснавым громам прагрымела ў душы, была кніга славутага беларускага дзіцячага пісьменніка Янкі Маўра. Ён быў, бадай, самым любімым маім пісьменнікам у дзяцінстве. Усе творы яго я чытаў і перачытваў не адзін раз. Янка Маўр адкрыў мне, які вялікі, багаты і прыгожы свет, што нас акружае, навучыў бачыць не толькі тое, што перад вачамі, але і далёка навокал.

Акрамя Янкі Маўра я з захапленнем чытаў такіх нашых вялікіх майстроў, як Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Якуб Колас.

Цяжка перадаць тое хваляванне, якое адчувалі тады мы, школьнікі восьмых-дзевятых класаў, над старонкамі твораў Пушкіна, над раманамі Тургенева, над аповесцямі Гогаля, вершамі і паэмамі Някрасава. Потым, калі прыйшла сталасць, у тым цудоўным свеце, які ёсць руская літаратура, з асаблівай сілай адчуў я веліч Льва Мікалаевіча Талстога, які і сёння для мяне найвялікшы з пісьменнікаў усіх часоў. Найвялікшы прыклад таго, як трэба працаваць у літаратуры, як трэба служыць народу, выконваць свой грамадзянскі абавязак.

У гэтых адносінах, бясспрэчна, вялікі ўплыў і савецкай літаратуры: М. Шолахава, А. Фадзеева, А. Твардоўскага, многіх другіх савецкіх пісьменнікаў. Вялікае, незабыўнае ўражанне ў дзяцінстве і юнацтве на мяне зрабілі «Як гартавалася сталь» М. Астроўскага, «Разгром» А. Фадзеева.

Наогул, для мяне кніга заўсёды была цудам. Яна была для мяне, можна сказаць — настаўнікам жыцця.

Пісьменніка фарміруе, вядома, перш за ўсё жыццё. Але ў разуменні жыцця, канечне, аказвае ўплыў літаратура. Многае мы не маглі б зразумець так глыбока

і шырока, калі б не было вопыту свету, вопыту многіх пакаленняў, які канцэнтруецца ў літаратуры. Тут кніга, літаратура былі заўсёды вельмі важным, неацэнным настаўнікам.

У сваёй творчасці я, натуральна, не мог прайсці міма жыццёвых уражанняў, якія звязаны са школай, з настаўнікамі. У рамане «Мінскі напрамак» ёсць вобраз партызанскага камісара Нічыпара Тураўца. У вобразе гэтым я выказаў многае з таго, што ведаў ад свайго блізкага знаёмства з партыйнымі работнікамі. У рамане «Подых навальніцы» мне вельмі дарагі вобраз настаўніцы Параскі. Не ўсякі чытач, можа, і заўважыць яго. Яму адведзена мала старонак, але значэнне яго для мяне незвычайнае. Вобраз гэты падказаны ўспамінамі пра першую маю настаўніцу. Мне так хацелася вярнуць з небыцця жывы яе воблік, што я нават сапраўднае яе імя захаваў у рамане. Я апісаў тую ж школу, у якой яна працавала, а я вучыўся, апісаў беражліва, дакладна, такія мне дарагія былі кожная адзнака абстаноўкі, у якой працавала любімая настаўніца.

Хоць у цэлым у рамане дзейнічаюць абагульненыя вобразы, тыпы, падказаныя жыццём, вобраз маёй першай настаўніцы дадзены амаль з дакументальнай дакладнасцю. Я пісаў пра яе з вялікім хваляваннем і любоўю. Увесь вобраз яе для мяне асветлены ўспамінамі пра цудоўную пару дзяцінства. Тыя старонкі, на якіх жыве гэты вобраз, у маім бачанні як бы свецяцца, выпраменьваюць водбліск тых далёкіх дзён.

У «Палескай хроніцы» ёсць яшчэ адзін вобраз настаўніка. Праўда, былога настаўніка. У той час, які паказаны ў раманах, Іван Анісімавіч Апейка ўжо старшыня валаснога выканкома.

Вобраз гэты вельмі важны і ў першым рамане «Хронікі» — «Людзях на балоце», але разгортваецца ён належна толькі ў другім рамане.

У гэтым рамане — у «Подыху навальніцы» — Апейка дадзены шырока. Ва ўсіх сваіх неспакойных і сур'ёзных думках пра цяжкую, пераломную пару ад дваццатых да трыццатых гадоў. Пра той час, калі заражалася новая, вельмі не падобная на ранейшую, рэчаіснасць. Вобраз Апейкі тут ідзе праз многія і многія старонкі. Па сутнасці ён стаў калі не галоўным, то адным з галоўных вобразаў рамана, стаў як бы яго сум-

леннем. Ён у многім вядзе адну з самых важных ліній рамана. У гэтым вобразе сканцэнтраваны, можа, самыя важныя думкі рамана. Самае сур'ёзнае, што заключана ў другім рамане. У цэлым, калі карыстацца вобразным параўнаннем, Апейка тут, у сваёй нялёгкай дзейнасці, таксама настаўнік. Настаўнік, які працуе з найбольш цяжкай катэгорыяй вучняў — з сялянамі. Настаўнік на новым і вельмі складаным участку грамадскага жыцця.

Некалькі слоў пра выхаванне ў школьнікаў інтэрнацыяналізму. Той факт, што нашы настаўнікі вучылі нас шырока бачыць жыццё, свет у цэлым, ужо сам у сабе меў аснову інтэрнацыянальнага выхавання. І павінен сказаць — выхаванне ў гэтым напрамку праводзілася паслядоўна.

Але я хацеў бы адзначыць некаторыя асаблівасці нашага школьнага быцця, якія датычацца гэтай праблемы.

Мястэчка Хойнікі, у якім я жыў перад вайной, было вельмі стракатае па нацыянальнаму складу. У школах мястэчка вучыліся людзі розных нацыянальнасцей — беларусы, рускія, палякі, яўрэі. У той час у Хойніках было некалькі школ, у якіх навучанне вялося на розных мовах. Пры ўсёй стракатасці нацыянальнай мы не толькі не адчувалі якой-небудзь варожасці, але ў нас наогул не было рознагалоссяў. Для нас не існавала меж, якія б раздзялялі нас. У нас ва ўсіх былі самыя сяброўскія, братнія адносіны. Сярод маіх таварышаў было некалькі палякаў, але я ніколі нават не думаў пра тое, што яны палякі, а я — беларус. І ў галаву не прыходзіла думка аб тым, што мой таварыш, які сядзіць побач за партай або з якім я гуляю ў валейбол, чалавек другой нацыі і нас як быццам гэта павінна раздзяляць. Не было такога.

Дарэчы, у нас там жыло многа яўрэйскіх сем'яў. Я два гады жыў на кватэры ў яўрэйскіх сем'ях. Быў цяжкі час, даводзілася моцна галадаць, і ў гэтых сем'ях нярэдка мне дапамагалі. І цяпер, праз многія гады, я з удзячнасцю думаю пра адну яўрэйскую сям'ю, дзе я жыў, калі вучыўся ў дзявятым класе. Яны не раз выбаўлялі мяне ў той год.

Калі я ўспамінаю гэта, мне іншы раз здаецца, што гаварыць пра інтэрнацыяналізм, пра неабходнасць інтэрнацыянальнага выхавання, значыць — як бы ла-

мацца ў адчыненыя дзверы. Інтэрнацыяналізм быў у нас, у нашай крыві. Быў і — ёсць.

Некалькі меркаванняў пра тое, які́м, у маім уяўленні, павінен быць добры настаўнік.

Мне здаецца, настаўнік павінен найперш і заўсёды разумець, што заняты самым сур'ёзным родам дзейнасці, працуе з жывою істотай, з чалавекам. Хацелася б, каб настаўнік заўсёды адчуваў у вучню свайм чалавека. І каб заўсёды разумеў, што шлях да чалавечага сэрца звычайна не просты, патрабуе тонкасці, мудрасці.

Тут патрэбна разуменне вельмі многага ў жыцці. І перш за ўсё, разуменне таго, што свет вучня-чалавека — найтанчэйшы, найадчувальнейшы, што ў абыходжанні з гэтым светам патрэбны вялікі такт і асцярожнасць.

Калі я думаю пра тое, якім павінен быць настаўнік, у мяне заўсёды ўзнікае думка, што выхоўваць трэба не толькі словамі, але і асабістым прыкладам. Усе мы, і асабліва ў дзяцінстве, вельмі чулыя да асабістага прыкладу. У гэтых адносінах для мяне заўсёды самае важнае значэнне меў маральны воблік настаўнікаў. Я б нават сказаў, што настаўнік не столькі словамі, колькі дзеяннямі сваімі, асабістым прыкладам сваім абавязаны паказваць, якім трэба быць чалавеку.

Я думаю, што самы страшны вораг настаўніка ў яго рабоце — гэта фармалізм, бюракратызм, казёншчына. Настаўнік павінен быць перш за ўсё чалавечным.

Мне як пісьменніку часта прыходзяць пісьмы ад вучняў школ. Пісьмы звычайна добрыя, вельмі цёплыя, вельмі сардэчныя. Але іншы раз атрымліваю я пісьмы і надзіва халодныя, фармальныя, напісаныя раўнадушнымі словамі. Нават на адлегласці адчуваецца — пасланыя без сардэчнага хвалявання. Неяк я ў нас у Саюзе пісьменнікаў бачыў цэлы стос пісем, прысланых з аднаго літаратурнага гуртка вялікай групе пісьменнікаў, адразу чалавекам дваццаці або трыццаці. Думаю, цяжка чакаць ад настаўніка, які не заўважае ненармальнасці такіх абыякавых адносін да літаратуры, што ён выхавае ў школьнікаў сапраўдную любоў да літаратуры.

Гаворачы пра тое, якім павінен выхоўваць чалавека настаўнік, мімаволі закранаеш ісціны, вядомыя любому чалавеку, які ўмее думаць. Тым не менш ісці-

ны гэтыя трэба напамінаць, бо гэта ісціны —асноўныя. Адна — вельмі простая і, можа быць, найпершая з гэтых ісцін, я лічу, заключаецца ў тым, што настаўнік павінен выхоўваць людзей высокай маралі, якія самааддана любяць Радзіму не толькі сэрцам, але і розумам. Я хацеў бы падкрэсліць: любяць не толькі сэрцам, але і розумам, г. зн. з выразным разуменнем таго, што зроблена нашым народам, нашай партыяй. У гэтым я бачу выключнае значэнне настаўніка як выхаваценя, жывога пасрэдніка паміж літаратурай і чалавекам. І асаблівае значэнне літаратуры, якая якраз і можа выхоўваць глыбокае разуменне жыцця, сведкамі і ўдзельнікамі якога мы з'яўляемся. Выхаванне свядомага патрыятызму, глыбокага разумення жыцця я лічу адной з самых галоўных задач, якая стаіць і перад настаўнікам, і перад літаратурай.

Адной з найістотнейшых задач, непарыўна звязанай з выхаваннем патрыятызму, на маю думку, несумненна трэба лічыць выхаванне інтэрнацыяналізму. Інтэрнацыяналізм, у маім уяўленні,— пачуццё, у якім сплаўлены любоў да свайго народа, да сваёй зямлі з любоўю да другіх — большых ці меншых — народаў, з любоўю да нашай вялікай Радзімы.

Чалавек нашага грамадства, у маім разуменні, павінен адчуваць гонар за ўсе народы нашай краіны і, вядома ж, за свой народ. У ім павінна быць развіта пачуццё высокай грамадзянскай годнасці, усвядомленага разумення велічы жыцця, што ствараюць нашы народы.

У гэтай вялікай справе — выхаванні свядомага грамадзяніна, працаўніка і абаронцы Радзімы, чалавека-інтэрнацыяналіста — я бачу агульны абавязак, які аб'ядноўвае настаўніка і літаратуру.

*1972*

# ПРА КАРЫСЦЬ СУСТРЭЧ

У сувязі з 50-годдзем утварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік рэдакцыя часопіса «Вопросы литературы» праводзіць абмеркаванне праблем узаемадзеяння і ўзаемаўплыву нацыянальных культур. Нам бы вельмі хацелася пачуць па такому важнаму пытанню меркаванні не толькі крытыкаў, спецыялістаў у галіне гісторыі і тэорыі літаратуры, але і саміх «практыкаў», віднейшых савецкіх пісьменнікаў. Нам здаецца, што іх меркаванні дадуць многа новага матэрыялу і будуць надзвычай цікавыя і для літаратуразнаўцаў, і для самага шырокага кола чытачоў.

Якую ролю ў развіцці і ўзбагачэнні нацыянальна-мастацкіх традыцый — у тым ліку стыляў, жанраў, паэтычнай мовы — адыгрывае, на Вашу думку, вопыт іншых літаратур (і шырэй — нацыянальных культур)? Як уяўляеце Вы, грунтуючыся на асабістым творчым вопыце, «механізм» такога ўзаемадзеяння?

Якія формы творчых кантактаў паміж пісьменнікамі, дзеячамі мастацтваў розных рэспублік Вы лічыце найбольш плённымі і што, на Ваш погляд, заклікаць зрабіць творчыя саюзы, выдавецтвы, рэдакцыі часопісаў і г. д. для наладжвання і паглыблення ўзаемасувязей нацыянальных культур?

Хоць гэта агульнавядома, хачу пачаць з таго, што самым каштоўным для пісьменніка лічу асабісты вопыт. Вялікі ці малы, салодкі ці горкі, але асабісты. Вопыт жыцця.

Па-другое, хачу сказаць, што калі гаварыць пра чыста літаратурныя ўплывы на пісьменніка, то неабходна праяўляць асцярожнасць. Блізкасць поглядаў або інтарэсаў розных пісьменнікаў зусім не азначае таго, што адзін з іх абавязкова ўплывае на другога.

Блізкасць гэтая можа быць выклікана блізкасцю жыццёвага вопыту і поглядаў, народжаных гэтым вопытам. Ды і ўплывы, якія адчувае пісьменнік, звычайна не адназначныя, а часам нават супярэчлівыя: свет літаратуры, які хвалюе нас, багаты і шматфарбны.

Я лічу, што можна толькі вельмі ўмоўна гаварыць пра адзіныя нацыянальна-мастацкія традыцыі і адзіны вопыт у кожнай літаратуры. Таксама, як і пра ўплывы цэлых літаратур. У сапраўднасці літаратуры ўплываюць на нас не «агулам», а «ў розніцу».

Вельмі стракатай аказваецца карціна нацыянальных літаратурных традыцый, калі разгледзіш яе бліжэй. На Украіне, напрыклад, Ю. Яноўскі, Ю. Смоліч, А. Галаўко — не толькі розныя літаратурныя індывідуальнасці, але і розныя лініі стылёвага развіцця ўкраінскай прозы. Тое самае можна сказаць і пра маладзейшае пакаленне ўкраінскіх празаікаў — пра А. Ганчара, Г. Цюцюнніка, П. Заграбельнага. У Беларусі розныя напрамкі развівалі К. Чорны, Я. Колас, М. Лынькоў, рознымі фарбамі паказваюць час В. Быкаў, Я. Брыль, І. Шамякін. Калі прыгледзецца больш уважліва, то адкрыецца, што ў стылёвых адносінах украінец А. Галаўко бліжэй да беларуса К. Чорнага, чым да Ю. Яноўскага. А Ю. Яноўскі бліжэй да беларуса М. Лынькова, чым да ўкраінца Ю. Смоліча. Як гаварыў Л. М. Талстой — «все смешалось в доме Облонских»!

Я ўжо не кажу пра рускую літаратуру. Тут і гаварыць не прыходзіцца, як па-рознаму працуюць і ўплываюць на сваіх сабратаў па пяру М. Шолахаў, Л. Лявонаў, К. Сіманаў, П. Нілін.

Што датычыцца пытання аб узбагачэнні і развіцці жанраў і стыляў, то, мне здаецца, мы тут залішне спяшаемся. І жанры, і стылі, прыкметна, выказваюць добрую ўстойлівасць — куды большую, чым думалася, чым можна было ад іх чакаць.

З вопыту пісьменнікаў, які мы атрымліваем у спадчыну, найбольш важным і значным лічу вопыт, што дапамагае глыбей пранікаць у чалавека і жыццё, лепш разумець узаемаадносіны чалавека і гісторыі. Вопыт, які падтрымлівае ў літаратуры значэнне, хараство праўды.

Думаю, што ў гэтых разважаннях ёсць маё ўяўленне пра «механізм» узаемадзеяння літаратур.

Наогул карыснымі лічу ўсе формы сустрэч пісьменнікаў, у тым ліку і святочныя. Неабходны сяброўскія, сардэчныя сустрэчы, яны збліжаюць, родняць нас. Але, павінен сказаць, мяне не пакідае адчуванне, што супрацоўніцтву нашаму не хапае дзелавой засяроджанасці.

Усё ж мы мала ведаем адзін аднаго, нешматлікія пакуль пераклады кніг братніх літаратур у асобных рэспубліках. Выключэннем, бадай, з'яўляюцца пісьменніцкія арганізацыі і выдавецтвы Масквы, Эстоніі, Украіны, Латвіі і Малдавіі.

На з'ездзе пісьменнікаў СССР зусім справядліва была выказана думка, што небагата пакуль знаёмім мы з савецкай літаратурай зарубежнага чытача. Тое, што робіць часопіс «Савецкая літаратура» на замежных мовах, заслугоўвае павагі і ўдзячнасці. Але гэтага па цяперашніх мерках мала. Выдавецтва «Прагрэс» дапамагае нам у гэтым слаба.

*1972*

# ЖЫЦЬ ЗМЯСТОЎНА, ПАЎНАЦЭННА

Аддзел крытыкі часопіса «Дружба народов» мяркуе да 50-годдзя СССР правесці «анкету», якая складаецца толькі з аднаго пытання: «Што дае Вам, Вашай творчай практыцы знаёмства з літаратурамі народаў СССР?»

Будзем вельмі ўдзячны Вам, калі Вы прымеце ўдзел у нашым творчым «апытанні».

Перш за ўсё некалькі ўступных слоў. Я пастаянна сачу за жыццём братніх літаратур, чытаю іх кнігі. Але, як мне здаецца, не з прычыны таго, што я свядома пераканаў сябе: гэта мне павінна быць карысна, павінна даць нешта каштоўнае. Думаю, усё выглядае некалькі інакш.

Пачуццё, з якім я бяру ў рукі кнігі, мабыць, хутчэй падобна да таго, з якім, ідучы дарогаю, глядзіш на яе, на ўсё, што па яе баках, на тых, хто ідзе насустрач. На пачуццё, з якім сустракаешся з сябрамі, з таварышамі па рабоце, з людзьмі наогул, знаёмымі і незнаёмымі.

Мне здаецца, мы сустракаемся з людзьмі не таму, што разумеем — гэта карысна, а, перш за ўсё, таму, што ў гэтым ёсць жыццёвая патрэба, неабходнасць сустрэч. Ёсць неабходнасць у тым, каб бачыць дарогу перад сабой і абочыны яе, бачыць траву і неба. Сустракацца з людзьмі, адчуваць іх побач. Інакш жыць нецікава і, можа, нават немагчыма. Аснова ўсяго, на мой погляд,— цікавасць да жыцця бліжняга і дальняга, патрэба ў сустрэчах, у братэрстве, у ведах.

Гэтае пачуццё прыцягвае мяне да ўсяго, што адбываецца ў свеце, у літаратурах усяго свету і, натуральна, у першую чаргу — у роднасных, савецкіх, сацыялістычных.

Цяпер — непасрэдна пра Ваша пытанне. Мне здаецца, што ў адказе на яго ёсць дзве розныя якасці.

Як чытач, дзякуючы братнім літаратурам, я адкрыў для сябе цэлыя мацерыкі жыцця многіх народаў. Данскія стэпы, далёкаўсходняя тайга, сібірскія прасторы, прыбалтыйскія берагі сталі мне блізкімі дзякуючы кнігам М. Шолахава, А. Фадзеева, В. Шышкова, А. Упіта. Яшчэ да таго, як мне давялося прайсці ў салдацкім шынялі з канца ў канец Украіну, мяне навучылі разумець і любіць яе вершы П. Тычыны і М. Рыльскага, проза А. Галаўко і Ю. Яноўскага. Старажытную і мужную гісторыю грузінаў я зразумеў з дапамогай гістарычных раманаў грузінскіх пісьменнікаў.

З году ў год працягваецца адкрыццё ўсё новых краёў, паглыбляецца пазнанне народаў. Зусім нядаўна А. Ганчар правёў мяне пад спякотным паўднёвым сонцам па ўкраінскіх стэпах, І. Друцэ адкрыў мне журботныя і велічныя прасцягі сарокскіх стэпаў і працавітага мудрага дзеда Карабуша. Не чужыя мне цяпер таежныя працаўнікі Заходняй Сібіры, у якую ўлюбёны Г. Маркаў, а таксама думы і надзеі яшчэ нядаўна амаль не знаёмых мне кіргізаў і казахаў, у своеасаблівы свет якіх увялі нас Ч. Айтматаў і М. Ауэзаў.

Братнія савецкія літаратуры скарацілі адлегласці, прыблізілі часы, зрабілі нас саўдзельнікамі жыцця многіх народаў.

Як пісьменнік я, вядома, не абыякавы да ўсяго, што ствараецца маімі таварышамі ў рэспубліках. Мяне глыбока хвалююць мудрая лірыка К. Куліева, палымяная паэзія Д. Кугульцінава, эпічная сіла прозы К. Сіманава, Ю. Бондарава. Не без задавальнення адчуваю я, што ўсё больш важкім становіцца слова і маіх таварышаў — празаікаў і паэтаў Беларусі. Не магу сказаць, хто менавіта і што канкрэтна дае мне, як пісьменніку, хто і як з карысцю ўплывае на мяне. Калі саджуся за пісьмовы стол, я хачу расказаць тое, што хвалюе мяне, што не дае спакою. Кнігі нараджае жыццё. Тое, што пeражыта, што ўсхвалявала. У літа-

ратуры, можа, самае важнае — ведаючы як мага больш, застацца самім сабой.

Але бясспрэчна, што іншыя пісьменнікі, іншыя літаратуры дапамагаюць глыбей пазнаваць жыццё і сябе, сваё месца ў агульным страі. Вельмі важна — адчуваць побач другіх, рух літаратуры, рух жыцця. Гэтае адчуванне не дае супакойвацца, дапамагае жыць усхвалявана, змястоўна, паўнацэнна.

*1972*

# НЕКАЛЬКІ ДУМАК ПРА ЧЫТАЧА

Каля трыццаці гадоў працую я ў літаратуры. Шмат падзей хвалявала мяне на гэтым, ужо немалым шляху.

Час — надзейны суддзя — вызначыў месца і значэнне ўсяму. Адно — што здавалася калісьці вельмі важным — амаль сцерлася ў памяці, амаль не хвалюе, другое і зусім без следу знікла з сэрца.

Але вось да гэтага часу хвалююся, успамінаючы даўнюю, больш чвэрці стагоддзя назад, сустрэчу са студэнтамі ў Баранавічах. Уважлівыя добразычлівыя позіркі юнакоў і дзяўчат. Незвычайнае пачуццё яднання з людзьмі. Упершыню так востра адчутае разуменне сілы слова, велічы справы, за якую наважыўся ўзяцца...

Да гэтага часу з хваляваннем успамінаю: выпадкова сустрэты незнаёмы сельскі настаўнік расказаў, як у далёкай вёсачцы, за Гомелем, настаўнікі ўзрушана абмяркоўвалі першую маю аповесць пра пасляваеннае жыццё — «Гарачы жнівень»...

Помню першае пісьмо чытача, атрыманае пасля выхаду першай кнігі рамана «Мінскі напрамак». Прыйшло яно з тых мясцін, дзе яшчэ зусім нядаўна — па тых часінах — грымела вайна. З вёскі Бабінавічы Віцебскай вобласці, ад дзяўчынкі-школьніцы. Было яно кароткае, трапяткое, на старонцы са школьнага сшытка. Багата гадоў не заглядаў у яго (яно захоўваецца беражліва), але да гэтага часу выразна бачу няцвёрды почырк дзяўчынкі. Яна пыталася пра далейшы лёс герояў, трывожылася за іх.

Некалькі гадоў назад пабываў я ўпершыню ў Кранштаце. Група беларускіх пісьменнікаў была запрошана на адзін з крэйсераў. Маўкліва, з павагаю хадзілі мы па лесвіцах баявога карабля, па вузкіх рубках, якія ўражвалі сваёй рацыянальнасцю і строгасцю. У адным

адсеку была бібліятэка. Кнігі ад сцяны да сцяны, ад падлогі да столі. Прыціснутыя адна да адной. З недавер'ем і надзеяй пашукаў я свае кнігі і знайшоў адразу дзве. Абедзве былі чытаны-перачытаны, адна — «Мінскі напрамак» — настолькі, што з цяжкасцю можна было разабраць назву.

Не, тое, што я адчуў, не было самаздаволеннем. Я быў глыбока ўсхваляваны адкрыццём, што кніга дапамагала людзям, адарваным днямі, тыднямі ад берага, аказалася патрэбнай ім...

Ва ўсе часы ўсе пісьменнікі, вялікія і малыя, адчувалі патрэбу ў слухачу, у чытачу. Відаць, не толькі ад жадання выказацца, але і ад надзеі на тое, што слова тваё можа быць пачута, нарадзілася літаратура.

Мы жывём у такі час, калі сувязі пісьменніка з чытачом нязмерна пашырыліся. Сотні газет і часопісаў нясуць слова пісьменніка ў самыя далёкія куткі краіны. Кнігі цяпер выходзяць тыражамі, пра якія не маглі і марыць нашы папярэднікі. У чымсьці пацясніўшы друкаванае слова, неабсяжна пашырылі пісьменніцкую аўдыторыю радыё, кіно і тэлебачанне. Відаць, няма такога пісьменніка, які не адчуваў бы гэтых сувязей, не адчуваў бы да сябе патрабавальнай і зацікаўленай увагі.

Сотні пісем чытачоў атрымаў і я. Многія пісьмы з гарадоў, у якіх я не быў і, відаць, ніколі не буду, ад людзей, якіх ніколі не ўбачу, але голас якіх я ўсё ж пачуў. Мне давялося выступаць на мностве сустрэч у розных гарадах і рэспубліках, сустракацца са сваім чытачом твар у твар.

Але не было такой сустрэчы, на якую б я ішоў абыякава, без хвалявання і турбот: якой яна будзе, якую памяць пакіне ў людзей. І як задаволены быў, калі сустрэча ішла добра, калі кожнае слова ад сэрца — да сэрца.

Я вельмі даражу пісьмамі чытачоў. Берагу іх. Павінен сказаць, што большасць пісем хвалююць незвычайнай пачцівасцю і дабратой. Сардэчная падтрымка чытацкіх водгукаў кранае тым больш, што ідзе яна ад людзей зусім незнаёмых, нічым мне не абавязаных.

Чытачы часцей за ўсё правяраюць мастацкі твор уласным жыццёвым вопытам, цэняць у кнігах праўду. Мяне не бянтэжыць тое, што да літаратурных герояў многія адносяцца, як да жывых, пытаюцца нават ад-

расы іх: у рэшце рэшт кожны сапраўдны мастацкі вобраз не выдуманы, ён падказаны жыццём, напоўнены жыццём.

Добразычлівыя, сяброўскія заўвагі чытача заўсёды бярэш з удзячнасцю. А калі сустракаюцца пісьмы з глыбокім роздумам, пісьмы, за якімі адчуваюцца і вялікія веды і сур'ёзны погляд, гэта выклікае асаблівую ўдзячнасць. Такія пісьмы вучаць, узбагачаюць, узмацняюць патрабавальнасць да сябе. З вялікай павагай успамінаю я, напрыклад, пісьмы-водгукі пра апошнія мае раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», якія прыслаў стары аграном Ф. Увараў, што жыве цяпер у Куйбышаве.

Але, шчыра кажучы, далёка не ўсе пісьмы радуюць сур'ёзнымі адносінамі да літаратуры, эстэтычнай культурай чытачоў. Помню, як мяне аднойчы насцярожыў і збянтэжыў водгук пра кнігу: «Чытаецца лёгка». Гэты дзіўны водгук я чуў потым многа разоў, пра розныя кнігі, і заўсёды ён азначаў пахвалу.

Але ж кніга, якая чытаецца лёгка, на мой погляд,— дрэнная кніга. Добрая, сапраўдная кніга не можа чытацца лёгка, яна павінна моцна хваляваць, выклікаць вялікі роздум! Лёгка чытацца, я думаю, можа толькі лёгкая, павярхоўная кніга. На жаль, яшчэ многія нашы чытачы шукаюць у кнізе толькі займальны, закручаны сюжэт; яшчэ для многіх пацяшальная белетрыстыка — лепшая частка літаратуры. Крыўдна, калі ў бібліятэках нярэдка бачыш амаль некранутымі цудоўныя творы, а літаратурныя падробкі з «ашаламляльнымі» гісторыямі зачытваюцца да дзірак.

Прыходзіцца паўтарыць трывіяльную ісціну: не ўсякая кніга, што падабаецца і часта чытаецца, добрая. І не заўсёды добры той чытач, які многа чытае.

На жаль, аматараў лёгкага чытання яшчэ многа. Вельмі многа.

Бытуюць сярод некаторай часткі чытачоў і нейкія пагардлівыя адносіны да літаратуры. Думаю, што ў адных яны ідуць ад звычайнага невуцтва, у другіх — ад вельмі ж своеасаблівага разумення той ісціны, што літаратура павінна служыць народу. Калі, маўляў, я чытач,— народ, то пісьменнік павінен выконваць усё, што я зажадаю.

Помню, на адным заводзе арганізавалі чытацкую канферэнцыю па маіх раманах. Былі розныя выступ-

ленні: і не вельмі глыбокія, і вельмі сур'ёзныя. Апошнія, дарэчы, былі і сціплыя па тону. Але вось узяла слова маладая работніца, якая нарадзілася недзе ў пачатку пяцідзесятых. Са здзіўляючай безапеляцыйнасцю пачала яна разважаць пра герояў рамана, людзей 20-х гадоў, пра Палессе. Ні людзей тых, ні краю не ведала, раманы не зразумела, ды, падобна, і не імкнулася зразумець, але трэба было чуць, як гучна, упэўнена вучыла яна пісьменніка, давала яму «ўказанні».

Такія выступленні сустракаюцца не так ужо і рэдка. Ёсць, па маіх назіраннях, катэгорыя чытачоў, уся ўвага якіх сканцэнтравана на тым, каб абавязкова знайсці ў кнізе недахопы, сапраўдныя або ўяўныя.

Сярод такой катэгорыі чытачоў сустракаюцца і тыя, хто толькі-толькі пачынае пазнаваць жыццё,— вучні. Дзеці наогул любяць кнігі, захапляюцца літаратурай, але, падобна, некаторая частка іх настаўнікаў упэўнена, што веданне літаратуры, самастойнае разуменне кнігі будзе тым вышэй, чым вастрэйшае будзе вока да недахопаў мастацкага твора. Вось і прывучаюць да такога прадузятага, аднабаковага чытання.

Мне заўсёды шкада такіх чытачоў, і заўсёды я здзіўляюся: нашто чытаць у такім разе? Тым больш што, як правіла, за гэтымі турботамі знікае галоўнае: разуменне сэнсу кнігі, імкненняў пісьменніка, хараства мастацтва і жыцця, якое нараджае добрую кнігу.

Не, я не за тое, каб чытач браў з наіўным і пачцівым давер'ем усё, што гаворыць яму аўтар, з усім згаджаўся. Але ж зразумець кнігу, яе вартасці і слабасці можна толькі зразумеўшы ў ёй галоўнае, імкнучыся гэта зразумець. І ўлічваючы абавязкова тое, што памыляцца можа не толькі пісьменнік, які нібыта пастаянна адстае ад жыцця, але і чытач, які яго стварае.

Хачу сказаць некалькі слоў пра тую частку ўзрушаных чытачоў, якіх называюць кнігалюбамі. Лепш кажучы, не наогул пра кнігалюбаў, таму што ёсць кнігалюбы звычайныя, так сказаць, пасрэдныя: збіраюць сабе кнігі для сваёй карысці і радасці, і ніхто не ведае пра гэта. Я пра «незвычайных» кнігалюбаў, тых, якія заяўляюць пра сябе ў пісьмах поўным глыбокага сэнсу азначэннем: «Я — кнігалюб».

У бібліятэцы гэтага кнігалюба — ён піша табе — ёсць ужо кнігі з аўтографамі Шолахава і Баграмяна, Сіманава і хірурга Амосава і дзесяткаў, а то і соцень іншых выдатных людзей краіны. Пасля гэтага велічнага паведамлення — як правіла — не зразумець, ці то просьба, ці то загад,— прысланы кнігу з аўтографам.

Я многа паслаў кніг. Калгаснікам і рабочым, салдатам і генералам. Пасылаў з задавальненнем. Часамі пасылаў, калі нават па сціпласці не прасілі аб гэтым, як падзяку за добрае пісьмо, напрыклад. Але калі мяне просяць прысланы кнігу падобныя «кнігалюбы», я звычайна не раблю гэтага.

Я разумею, ёсць права любові: папрасіць любімага пісьменніка падараваць кнігу. Але рабіць гэта — па сутнасці абыякавым — жыццёвым правілам, турбаваць дзесяткі, а часам і сотні далёкіх, занятых людзей... Прымушаць іх шукаць свае кнігі ў магазінах, ствараць ім клопаты, якія неабходны для перасылкі. Турбаваць для гэтага нярэдка немаладых людзей. Ды часам — быццам патрабаваць. (Бо спасылка на тое, што гэта ўжо зрабіў Шолахаў або Сіманаў, гучыць як патрабаванне!)

Не ведаю, можа, не ўсім чытачам вядома, што пісьменнік сваю кнігу таксама павінен набыць. І не заўсёды можа гэта зрабіць: кнігі іншы раз разыходзяцца раней, чым пісьменнік зможа запасціся імі.

Але тут ёсць і яшчэ адна далікатнасць. Кніга — падарунак. Кнігу дораць сябру. Сябар, канечне, можа быць і далёкі, і незнаёмы. Але чалавек, які сабраў ужо сотню кніг у зусім розных выпадковых для яго людзей,— які ён сябар мне? Ён — проста збіральнік.

Я не ўпэўнены, што гэтыя чытачы — сапраўды кнігалюбы. Яны, па-мойму, усяго толькі збіральнікі аўтографаў. Кніга ж сама па сабе для іх не мае каштоўнасці. Яна, у іх разуменні, мае нейкае значэнне толькі з аўтографам. А без аўтографа — відаць, нічога не варта.

Кнігалюб — гэта, па-мойму, куды больш чым проста збіральнік кніг з аўтографамі.

Павінен са шкадаваннем сказаць, што падобным масавым калекцыяніраваннем кніг, партрэтаў, проста аўтографаў займаюцца і некаторыя школы, гурткі, клубы так званых «аматараў літаратуры». Вось і сёння на стале ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі стос пісем з

клуба аматараў літаратуры «Брыганціна». На канвертах прозвішчы многіх пісьменнікаў, напісаныя мілым дзіцячым почыркам. Па спісу, падрыхтаванаму, відаць, выкладчыкам літаратуры на падставе вядомага даведніка Саюза пісьменнікаў СССР. Няўжо выкладчыкі не разумеюць, як некарысна такое фармальнае «кнігалюбства»?!

Вось некалькі думак маіх на тэму, што не ўпершыню хвалюе мяне. Думак гэтая галіна нашых жыццёвых клопатаў выклікае ў мяне заўсёды нямала, я выказаў тут толькі некаторыя, якія турбуюць сёння.

Галоўныя ж клопаты нашы — мець добрага чытача, адчуваць, што наша слова патрэбна яму, што яно даходзіць да яго. Хвалюе яго сэрца, узбагачае яго розум, яго разуменне свету. Робіць яго лепшым, вышэйшым.

Усе мы, савецкія пісьменнікі, хочам, каб наш чытач быў разумным, сур'ёзным, высока культурным. Сапраўдным чытачом.

*1973*

## ЧАСОПІСУ «РУССКАЯ РЕЧЬ»

Рэдакцыя часопіса звяртаецца да Вас з просьбай адказаць на наступныя пытанні:

Якое значэнне для Вашай творчасці маюць моўныя традыцыі рускай класічнай літаратуры?

Якая, на Вашу думку, роля рускай мовы ў станаўленні і ўмацаванні міжнацыянальных культурных сувязей, у справе ўзбагачэння і развіцця моў і літаратур народаў СССР?

Якая, на Вашу думку, роля рускай мовы ў асваенні народамі нашай краіны сусветнай класічнай літаратуры, а таксама прагрэсіўнай сучаснай літаратуры?

Якія творы сучаснай савецкай літаратуры Вы лічыце ўзорнымі ў моўных адносінах і чаму?

У моўных і літаратурных міжнацыянальных кантактах вялікую ролю адыгрываюць пераклады. Якія, на Вашу думку, дасягненні і праблемы сучаснай перакладчыцкай справы?

Мне цяжка адказаць на гэтае пытанне. Руская класічная літаратура — гэта велізарны свет. І гэты свет суправаджаў мяне ўсё жыццё, ён стаў як бы часткай маёй інтэлектуальнай сутнасці.

Разам з тым, што датычыцца чыста моўнага ўплыву, неабходна ўлічваць тое, што я пісьменнік, які працуе на іншай мове. Будучы блізкай да рускай мовы, роднаснай ёй, мая мова, беларуская, у той жа час мае свой асобы лексічны склад, нямала своеасаблівага ў характары пабудовы фразы і да т. п.

Ёсць вельмі тонкая дыялектыка ва ўзаемаадносінах паміж блізкімі мовамі.

Адчуваючы як чытач і пісьменнік бясспрэчны ўплыў рускай літаратуры, я як пісьменнік беларускі,

перш за ўсё, натуральна, карыстаюся багаццямі роднай мне мовы.

Роля гэтая настолькі значная і відавочная, што, думаецца, доказаў не патрэбна.

Я, напэўна, недастаткова кампетэнтны для таго, каб адказаць на пытанне аб тым, як уплывае руская мова на далёкія ад яе мовы, такія, напрыклад, як мовы цюркскай групы.

Сучасная савецкая літаратура стварыла нямала выдатных у моўных адносінах твораў. Шэдэўр савецкай літаратуры «Ціхі Дон» захапляе мяне і здзіўляючым багаццем мовы, выключным уменнем звычайнымі словамі ствараць свет, поўны найглыбейшых страсцей, дзівосных фарбаў, гукаў, пахаў. Я ўлюбёны ў мову фадзееўскіх раманаў, мову «Разгрома» і «Апошняга з удэге». Калі гаварыць пра тых, хто піша сёння, мне падабаецца мова С. Антонава, С. Нікіціна, С. Залыгіна, В. Астаф'ева, Ф. Абрамава. Добрая мова ў В. А. Смірнова. Спіс гэты, канечне, можна падоўжыць.

У перакладчыцкай справе, бясспрэчна, ёсць немалыя дасягненні. Але, па майму перакананню, куды болей праблем. Галоўная праблема — як павысіць якасць перакладу? Пакуль што вельмі многа кніг выходзіць у слабых перакладах, якія збядняюць творы. Патрэбны добрыя перакладчыкі, таленавітыя і сур'ёзныя.

*1973*

# НАКАЗ ПЕРАЖЫТАГА

Іван Паўлавіч, у працэсе станаўлення чалавека як асобы кніга мае значную ролю. Рэдакцыя нашага часопіса просіць Вас адказаць на некалькі пытанняў аб значэнні кнігі ў Вашым жыцці і творчай дзейнасці.

Раскажыце, калі ласка, пра Вашу першую сустрэчу з кнігай. Дзе і калі яна адбылася?

Нарадзіўся я ў беларускай вёсцы Глінішчы, на Палессі. Гэта вельмі своеасаблівы край, край лясоў, палёў і балот. Наша вёска была даволі глухая, кіламетраў за трыццаць ад чыгункі. Я не магу сказаць, што гэта была адна з самых глухіх палескіх вёсак, але ўсё ж яна была ў значнай меры аддаленая ад гарадской культуры.

У нас у вёсцы была пачатковая школа, куды я пайшоў вучыцца сямігадовым хлопчыкам. Мне пашанцавала: у нас была вельмі добрая настаўніца. Яна і пазнаёміла з самай першай кніжкай — школьным букваром. Ураджанне пра першую кніжку звязана ў мяне з вобразам добрай сэрцам настаўніцы, з прыціхлым класам, з той увагай, з якой мы глядзелі на незвычайную істоту — настаўніцу, што раскрывала перад намі таемны сэнс літар, складоў, слоў...

Першая самастойная сустрэча з кнігай вельмі ўзрушыла мяне. Помню, я быў у глухой лясной вёсачцы ў гасцях у дзеда і там убачыў кнігу ў яркай вокладцы з загадкавай назвай «У краіне райскай птушкі». Кніга адразу прывабіла, захапіла ўяўленне: яна адкрыла мне свет незвычайны, дзівосны. Далёкая, таямнічая Азія: горы, пальмы, барацьба тутэйшага насельніцтва супраць каланізатараў. Вобразы смелых, нескораных людзей, барацьбітоў за свабоду. Я да гэтага часу помню тое незвычайнае ўражанне, якое засталося ад гэтай кнігі, яркае, святочнае адчуванне ў сэрцы.

Тады я не звярнуў увагі на прозвішча аўтара. Толькі пазней даведаўся, што яе аўтарам быў наш выдатны беларускі пісьменнік Янка Маўр, у мінулым настаўнік, чалавек вялікіх ведаў, цікавай думкі. Ён — заснавальнік нашай беларускай дзіцячай літаратуры. Гэтай аповесці Янкі Маўра я абавязаны тым, што адразу захапіўся кнігамі, а ў наступныя гады перачытаў усё, што выйшла з-пад пяра пісьменніка майго маленства.

Якія пісьменнікі Вас найбольш цікавілі ў дзяцінстве? Ці была сістэма ў Вашым чытанні?

Сістэмы ў маім чытанні ніколі не было. Звычайна чытаў тое, што трапляла пад руку, што было ў нашай школьнай бібліятэцы. Чытаў многа, упіваючыся чытаннем. Кнігу ўспрымаў як цуд. Мяне хваляваў не толькі змест, не толькі тое, пра што гаварылася ў кнізе, але і сам яе выгляд: вокладка, тэкст, малюнкі, нават пах фарбы. Усё гэта як бы спалучалася ў адно цэлае, стварала незвычайнае дзіва.

Самае дарагое для мяне ў маленстве — гэта ўражанні ад звычайных хлапчукоўскіх радасцей і ад сустрэч з кнігамі. Я ўдзячны лёсу за вялікае шчасце, якое прынеслі ў маё жыццё кнігі. Мабыць, з гэтай любові да кніг і нарадзілася дзёрзкая мара: самому стаць пісьменнікам...

Пасля Янкі Маўра прыйшлі іншыя захапленні. Бадай, самае моцнае ўражанне ў маленстве зрабілі на мяне А. С. Пушкін, М. А. Някрасаў, Янка Купала і Тарас Шаўчэнка. Кнігу Шаўчэнкі я вельмі рана прачытаў на ўкраінскай мове.

Помню, у мяне быў запаветны сшытак, куды я запісваў вершы любімых паэтаў.

Вы, напэўна, і самі рана пачалі пісаць? Раскажыце, калі ласка, пра пачатак Вашага творчага шляху.

Так, я пачаў «сачыняць» вельмі рана. Вершы. Вядома — пераймальныя. Пераймаў, як і мае аднагодкі, А. С. Пушкіна, М. Ю. Лермантава, М. А. Някрасава.

Жаданне пісаць жыло ў мяне ўсе гады. Пісаў я вершы і ў той час, калі канчаў сярэднюю школу ў гарад-

скім пасёлку Хойнікі, на Палессі. У тым незвычайным хваляванні, якое я перажыў над радкамі гэтых наіўных вершаў, былі першыя пакуты і радасці творчасці. Можа, самыя моцныя за ўсё маё творчае жыццё.

У 1939 годзе з Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры я быў прызваны ў армію. Служыў на Украіне, спачатку ў Данбасе, потым на граніцы ў Карпатах. І там у нялёгкім армейскім жыцці я працягваў пісаць вершы. Але якраз тады ў мяне ўпершыню паявілася жаданне пісаць і прозай. Пачатак гэтай прозы быў у запісных кніжках, якія я запаўняў рознымі нататкамі, назіраннямі з армейскага жыцця.

Натуральна, што гэтае імкненне пісаць яшчэ вастрэй захвалявала ў франтавой абстаноўцы. Я быў сведкам і ўдзельнікам такіх падзей, якія палілі душу маю, тады дваццацігадовага юнака ў армейскай форме. Водгукі гэтых цяжкіх дзён — у франтавым дзённіку, які я вёў у перапынках паміж баямі, у часы франтавога зацішша. Дзённік гэты я збярог.

Пры падрыхтоўцы да друку Збору сваіх твораў на беларускай мове я вярнуўся да дзённіка ваенных гадоў і ўпершыню, больш чым праз чвэрць стагоддзя, апублікаваў частку яго ў першым томе. Ён не толькі пачынае Збор твораў, але і па праву адзначае пачатак майго творчага шляху. Гэта адна з самых дарагіх, выпакутаваных мною рэчаў.

У 1942 годзе я быў цяжка паранены. Лячыўся ў шпіталях. У тбіліскім шпіталі мною былі напісаны першыя апавяданні «Сустрэча ў шпіталі» і «Апошняя аперацыя». Апавяданні гэтыя потым разам са мной пераваңдравалі ў Бугуруслан, дзе я жыў пасля шпіталя, а потым пад Маскву, на станцыю Сходня — там у той час пачаў працаваць Беларускі дзяржаўны універсітэт. Адсюль, дзе я вучыўся і працаваў, апавяданні мае яшчэ ў рукапісе трапілі на рабочы стол выдатнага беларускага празаіка Кузьмы Чорнага. У той год Кузьма Чорны жыў у Маскве, працаваў у рэдакцыі часопіса «Беларусь», які часова асталяваўся ў будынку «Известий».

Сшытак з маімі апавяданнямі трапіў да Кузьмы Чорнага дзякуючы турботам аднаго з выкладчыкаў універсітэта, літаратара, які жыў разам з пісьменнікам у гасцініцы «Якар».

Кузьма Чорны прачытаў апавяданні і неўзабаве прыслаў вельмі ласкавае пісьмо, якое акрыліла мяне. Помню, у пісьме гэтым былі такія важныя для мяне радкі: «Я прачытаў Вашы апавяданні і раю, і жадаю Вам не выпускаць з рук пісьменніцкага пяра». Пісьмо заканчвалася так: «Я адчуваю ў Вас талент і жадаю Вам вялікіх поспехаў у літаратуры».

Надрукаваны апавяданні былі пазней, калі я вярнуўся ў Мінск.

Выхад у свет гэтых апавяданняў стаў, па сутнасці, пачаткам маёй адкрытай літаратурнай творчай работы, хоць першыя вершы я апублікаваў яшчэ да вайны.

У Мінску выйшлі і першыя мае кнігі: «У завіруху» (1946) і «Гарачы жнівень» (1948).

Раскажыце, калі ласка, пра работу над першым буйным сваім творам — раманам «Мінскі напрамак».

Апавяданні былі для мяне нялёгкім, але вельмі карысным этапам літаратурнай работы. Яшчэ калі я пісаў другую кнігу, а хутчэй нават калі на станцыі Сходня пачуў пераможныя паведамленні аб вызваленні Беларусі, аб гэтай незвычайнай, вялікай падзеі ў жыцці нашага народа, у мяне нарадзілася жаданне сказаць сваё сур'ёзнае, вартае падзеі слова пра радасны час.

Жаданне гэтае ўсё мацнела, усё выразней акрэсліваліся абрысы будучай рэчы. Нарэшце я пераадолеў сумненні і адважыўся ўзяцца за кнігу, якая даўно хвалявала, трывожыла і клікала мяне. Так я пачаў пісаць раман «Мінскі напрамак». Я пісаў яго з вялікім хваляваннем, са страсцю, з непахісным перакананнем, што ўсё гэта вельмі важна, што пра гэта нельга не гаварыць.

Больш пяці гадоў працаваў я з незвычайным духоўным уздымам, з вялікім унутраным напружаннем, гарэннем. Работа ішла нялёгка: радасць і вера ў сваю кнігу нярэдка змяняліся сумненнямі, загадкамі, якія цяжка было вырашыць.

Неймаверна цяжкаю аказалася справа, за якую я ўзяўся. І хоць пазней я знайшоў у сваёй кнізе нямала пралікаў, я не шкадую аб тым, што наважыўся тады на гэты дзёрзкі крок, таму, што, мне здаецца, яна патрэбна была людзям, і яшчэ таму, што не напісаць гэтую кнігу я проста тады не мог.

Пасля «Мінскага напрамку» я напісаў некалькі невялікіх твораў, у тым ліку дзве п'есы і дзве аповесці. Усё гэта было як бы літаратурнай падрыхтоўкай да работы над раманамі з «Палескай хронікі».

Для чытачоў самых розных нацыянальнасцей маюць асаблівую цікавасць Вашы раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». Якія галоўныя праблемы хвалявалі Вас у працэсе работы над раманамі з «Палескай хронікі»? Што з'явілася той іскрынкай, тым творчым імпульсам, дзякуючы якому нарадзіліся гэтыя кнігі?

Перш за ўсё, мусіць, «вінавата» маленства. Мне здаецца вельмі правільнай думка аб тым, што чалавек фарміруецца больш за ўсё ў малыя гады, у тым ліку і як пісьменнік.

Так, найперш уражанні дзяцінства, уражанні ўбачанага тады былі прычынай таго, што я пацягнуўся думкамі і сэрцам да вёскі, да Палесся, да яго людзей, да таго свету, які потым быў паказаны ў рамане «Людзі на балоце».

Многае, вельмі многае павінна была сабраць новая кніга, якую выклікалі ўва мне ўспаміны пра родны край, пра маю вёску, людзей, якія сустрэты былі некалі і назаўсёды засталіся ў памяці.

«Людзі на балоце» — гэта раман пра нялёгкае жыццё сялян палескай вёскі Курані, жыццё сярод балот і лясоў. Я імкнуўся паказаць у ім, які цяжкі іх шлях ад бездапаможнасці перад выпрабаваннямі лёсу, ад раз'яднанасці грамадскай і асабістай да разумення неабходнасці сумеснай барацьбы за сацыялістычную перабудову вёскі.

Да гэтага рамана я прыступіў ужо ў пару літаратурнай і жыццёвай сталасці. Работа над ім прадаўжалася каля пяці гадоў. Я пісаў «Людзей на балоце» з любоўю, з захапленнем, але не ўскладаў на раман асаблівых надзей. Для мяне было проста нечаканым, што яго так горача прынялі чытачы і крытыка.

Падтрымку чытачоў і крытыкі я адчуваў і калі працаваў над другой кнігай з «Палескай хронікі» — раманам «Подых навальніцы». У гэтым рамане я хацеў сказаць новае слова пра вельмі важны пераломны

перыяд у жыцці нашай краіны — пра перыяд калектывізацыі, пра тое, як яна адбівалася на лёсе герояў рамана.

У «Подыху навальніцы» я свядома паставіў на першы план вобраз старшыні валвыканкома Івана Анісімавіча Апейкі, чалавека з народа, былога сельскага настаўніка. У яго вобразе я імкнуўся раскрыць думкі і пачуцці перадавога прадстаўніка народных мас, камуніста-ленінца. Я хацеў расказаць, як нялёгка было тым, хто ішоў уперадзе ў гэты напружаны час, хто нёс адказнасць за лёс многіх, якія глыбокія і сур'ёзныя думкі хвалявалі людзей на вялікім павароце ў жыцці народа.

Чым вабіць Вас сельская тэма і што, на Ваш погляд, павінна вызначаць грамадзянскую пазіцыю пісьменніка ў праблемах вёскі?

Мне бясконца дарагая вёска. Для мяне гэта вельмі блізкі і назаўсёды родны свет, гэты свет я бачу шматфарбным, цікавым і важным. Я заўсёды помню, што ў ім жылі і жывуць цяпер мільёны людзей, якія даюць жыццё грамадству, чалавецтву, якія ў саюзе з рабочымі людзьмі вызначаюць лёс і рух гісторыі.

Жыццё вёскі бачыцца мне вельмі стракатым, складаным, і я лічу, што ў паказе яго трэба пазбягаць сентыментальнасці, сюсюкання, трэба займаць сур'ёзную, прынцыповую, грамадзянскую пазіцыю, быць ва ўсеўзбраенні і вялікага вопыту асобных людзей і краіны ў цэлым. Быць па-сучаснаму праніклівым, цвярозым, бачыць гэты свет у рэальным святле, у сапраўдных супярэчнасцях.

Якія пісьменнікі аказалі ўплыў на Ваша развіццё як мастака?

Характар творчых імкненняў пісьменніка залежыць, перш за ўсё, ад жыцця. Аднак на асаблівасці яго бачання свету, на напрамак яго пошукаў уплывае, вядома, таксама і вопыт літаратуры.

Мне думаецца, што ў пытаннях пра літаратурныя ўплывы трэба быць вельмі асцярожным, што крытыка

нярэдка праз меру катэгарычная ў вызначэнні гэтых літаратурных уплываў. Я сам не магу сказаць упэўнена, хто з пісьменнікаў і ў якой меры ўплываў на мяне. Магу толькі сказаць пра пісьменнікаў, якія мне больш блізкія і дарагія. Іх, такіх пісьменнікаў, нямала. У гэтым няма нічога дзіўнага. Гэта гаворыць пра тое, што свет літаратурных інтарэсаў такі ж шырокі, як і свет інтарэсаў жыцейскіх.

Я вельмі люблю і заўсёды з пачуццём глыбокай пашаны чытаю і перачытваю Льва Талстога. Мяне хвалююць Іван Бунін і Антон Чэхаў. З савецкіх пісьменнікаў я хацеў бы асабліва вылучыць тое моцнае ўражанне, якое робяць на мяне кнігі Міхаіла Шолахава, Аляксандра Фадзеева, Аляксандра Малышкіна, Леаніда Лявонава.

З сучасных пісьменнікаў мне сардэчна блізкія таксама Васілій Смірноў і Георгій Маркаў, Анатолій Іваноў і Фёдар Абрамаў, Сяргей Нікіцін і Віктар Астаф'еў, Алесь Ганчар і Йонас Авіжус.

З вялікай павагай стаўлюся я да творчасці і маіх таварышаў — беларускіх пісьменнікаў, такіх, як Васіль Быкаў, Янка Брыль, Алесь Адамовіч, Мікола Лобан, Іван Навуменка, Алена Васілевіч. Ёсць вельмі сур'ёзныя пісьменнікі і сярод маладзейшых нашых празаікаў.

З замежных пісьменнікаў мне блізкі польскі празаік Уладзіслаў Рэймант з яго раманам «Мужыкі», люблю «Сям'ю Цібо» французскага пісьменніка Ражэ Мартэна дзю Гара. Мне цікавыя такія розныя пісьменнікі, як Эрнест Хемінгуэй і Уільям Фолкнер, Томас Вулф і Скот Фіцджэральд...

Ці не маглі б Вы сказаць некалькі слоў аб праблемах сучаснага кнігавыдання (пісьменнік і выдавецтва, пісьменнік і рэдактар, пісьменнік і мастак-ілюстратар)?

Кожны пісьменнік непазбежна звязаны з выдавецкімі работнікамі.

Я з удзячнасцю думаю пра тую атмасферу добразычлівасці, сяброўскай патрабавальнасці, якая панавала ў рэдакцыі часопіса «Дружба народов» у той час, калі там рыхтаваліся да друку мае раманы. Вельмі

ўдзячны я работнікам выдавецтва «Советский писатель», якім абавязаны тым, што яны адкрылі мне шлях да ўсесаюзнага чытача, якія заўсёды, з першых маіх крокаў у літаратуры сапраўды па-братняму ставіліся да маіх кніг. З імі мяне звязвае шматгадовая моцная дружба.

У мінулым годзе ў нас у Беларусі адкрылася новае выдавецтва «Мастацкая літаратура», якое займаецца выданнем нашай класікі і сучаснай літаратуры. Мы, беларускія пісьменнікі, вельмі ўдзячны Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Беларусі за гэты знак увагі і клопатаў пра нашу літаратуру.

Пісьменніку неабыякава тое, у якім выглядзе з'явіцца яго кніга перад чытачом. Кожны з нас рады, калі яна надрукавана на добрай паперы, калі ў яе ўдалая вокладка, і пачуццё асаблівай радасці мы адчуваем, калі кніга да таго ж упрыгожана таленавітымі, з любоўю зробленымі ілюстрацыямі. Не заўсёды ў пісьменніка, на жаль, бываюць падставы для гэтай радасці.

Тым больш мы цэнім тыя выпадкі, калі кніга выдаецца любоўна. Я задаволены, што ў бліжэйшы час у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйдуць у свет мае раманы з цікавымі ілюстрацыямі маладога беларускага мастака Барыса Цітовіча. Гэта першая вялікая работа мастака, які толькі што скончыў інстытут. І мне хочацца ад душы пажадаць яму поспехаў на самым пачатку яго творчага шляху.

Іван Паўлавіч, якія Вашы творчыя планы?

Я не хацеў бы пакуль што гаварыць пра планы, таму што планы — гэта заўсёды ў нейкай меры абяцанні, якія, на жаль, не заўсёды ажыццяўляюцца. Адно магу сказаць: буду пісаць. І магу паведаміць: нядаўна мною здадзены ў выдавецтва «Советский писатель» рукапіс рамана «Мінскі напрамак», які з'явіцца да чытача ў многім абноўленым і рабоце над якім я аддаў багата часу і сэрца.

*1973*

# АНРЫ БАРБЮС

17 мая 1873 года — роўна 100 гадоў назад — у невялікім французскім горадзе Аньеры нарадзіўся выдатны пісьменнік XX стагоддзя Анры Барбюс.

Мы шануем Анры Барбюса як сумленнага, праўдзівага і смелага пісьменніка, які адным з першых — у рамане «Агонь» — узняў мужны голас супраць імперыялістычнай бойні, у абарону мільёнаў людзей, апранутых у салдацкія шынялі і кінутых у акопы, на смерць.

Мы шануем Анры Барбюса як чалавека, грамадзяніна, які неспакойна і мужна шукаў і знайшоў тое, да чаго імкнецца кожны сапраўдны чалавек,— праўду жыцця, годны сэнс чалавечага існавання. Плённы пошук гэтых праўды і сэнсу прывёў чалавека, грамадзяніна А. Барбюса — да камунізма, паставіў яго ў рады камуністаў, зрабіў яго верным другам нашай краіны.

Мы шануем Анры Барбюса як мужнага байца, які задоўга да вайны 1939—1945 гадоў папярэджваў аб небяспецы, якую нёс свету і людзям фашызм і імперыялізм, і не толькі папярэджваў, але і зваў людзей да барацьбы з імі. І не толькі зваў, але і арганізоўваў шэрагі барацьбітоў з імі. Мы не забываем і ніколі не забудзем, як багата зрабіў Анры Барбюс — адзін з арганізатараў, кіраўнікоў антыфашысцкага і антываеннага руху ў пярэдадзень другой сусветнай вайны.

У нашай краіны многа шчырых сяброў сярод выдатных людзей свету. Анры Барбюс між іх — адна з самых прыгожых і дарагіх для нас постацей. Пачуцці пашаны і любові да Анры Барбюса поўняць асабліва нашы сэрцы ў гэтую святочную, урачыстую хвіліну, калі з такой яснасцю і велічнасцю паўстае перад намі ўсё, што зрабіў для людзей, для іх шчасця, для справы міру на зямлі слаўны пісьменнік Анры Барбюс.

*1973*

# ДАТЫЧЫЦЬ УСІХ НАС

Таварышы, у той вялікай рабоце, якая вядзецца па культурнаму выхаванню нашых людзей, як вядома, важная роля належыць літаратуры і мастацтву.

З гэтай высокай трыбуны можна з поўным правам заявіць, што работнікі літаратуры і мастацтва нашай рэспублікі добра разумеюць свае задачы ў галіне культурнага выхавання людзей і нямала зрабілі для гэтага.

Як доказ гэтаму можна прывесці хоць бы такі факт: за мінулы год пісьменнікамі нашай рэспублікі праведзена перад працоўнымі горада і вёскі рэспублікі каля васьмі тысяч выступленняў. Пісьменнікі Беларусі выступалі і перад рабочымі Мінска і Гомеля, і перад калгаснікамі ўсіх абласцей рэспублікі, у блізкіх і далёкіх вёсках.

Сістэматычна выступаюць не толькі перад гарадскімі, але і сельскімі гледачамі тэатральныя калектывы. Нашы самыя заслужаныя тэатры — тэатр імя Янкі Купалы, тэатр імя Якуба Коласа, абласныя тэатры не толькі жаданыя, але і частыя госці ў жыхароў вёсак. Я хачу сказаць, што многія нашы акцёры, у тым ліку і немаладыя, не толькі выступаюць на асноўнай сцэне, у горадзе, але і робяць вялікія калектыўныя выезды на аўтобусах у вёскі, нярэдка за сотню і болей кіламетраў ад базы. Выезды гэтыя робяцца не толькі ў летні час, па добрых дарогах, але і ўвосень, і зімою, калі такія паездкі рабіць не вельмі лёгка. З такіх паездак людзі вяртаюцца часта вельмі позна, далёка за поўнач, а заўтра ім трэба зранку ісці на рэпетыцыю, працаваць над новымі ролямі, выступаць у спектаклях на асноўнай сцэне. Так што многія работнікі тэатра ў сваім імкненні несці культуру ў масы праяўляюць, можна сказаць, пахвальную самаадданасць.

Нашы работнікі мастацтва актыўна працуюць не толькі сярод працоўных рэспублікі, але і часта едуць за межы Беларусі, у братнія рэспублікі, і за мяжу Савецкага Саюза — у сацыялістычныя краіны. Многа гастралююць слаўныя ансамблі — Ансамбль народнай песні, Акадэмічная харавая капэла, эстрадны ансамбль «Песняры» і іншыя. Пісьменнікі Беларусі прымалі ўдзел у паездках савецкіх пісьменнікаў у розныя раёны Сібіры, напрыклад, у раёны Цюмені і Краснаярскага краю. Пісьменнікі Беларусі выступалі ў Прыморскім краі, на Алтаі, у станіцах нашай слаўнай жытніцы — у Краснадарскім краі. Толькі нядаўна нашы таварышы вярнуліся з Алтая, дзе прымалі ўдзел у Днях беларускай культуры.

Але, як ні важна ўсё гэта, галоўнае, як вядома, у тым, што дзеячы літаратуры і мастацтва дабіліся значных поспехаў у асноўнай сваёй дзейнасці: у стварэнні спектакляў, раманаў і паэм, якія высока нясуць сцяг савецкага мастацтва. У прыватнасці, значных поспехаў дабілася наша літаратура.

Творы Кандрата Крапівы, Міхася Лынькова, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Івана Шамякіна, Піліпа Пестрака, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Івана Навуменкі, Алеся Адамовіча сталі добрымі дарадчыкамі і сябрамі чытачоў, можна з упэўненасцю сказаць, па ўсёй рэспубліцы і не толькі ў нашай рэспубліцы.

Я хацеў бы звярнуць вашу ўвагу на літаратараў больш маладога пакалення. Гэтае пакаленне дало таксама нямала пісьменнікаў, творы якіх заваёўваюць сэрцы чытачоў. Назаву для прыкладу такіх, ужо шырокавядомых таварышаў, як Іван Пташнікаў, Ніл Гілевіч, Вячаслаў Адамчык, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Барыс Сачанка, Іван Чыгрынаў, Рыгор Барадулін, Анатоль Грачанікаў, Янка Сіпакоў, Васіль Зуёнак, Анатоль Кудравец.

Калі ж падняцца над фактамі жыцця, агледзецца, падсумаваць здабытае, то, пры ўсёй самакрытычнасці, можна з гонарам адзначыць, што дабіліся значных поспехаў не толькі асобныя пісьменнікі, на значную вышыню ўзнялася ў цэлым беларуская літаратура. Адна з самых маладых літаратур Савецкай краіны, беларуская савецкая літаратура, па праву, заслужана заняла месца адной з перадавых, выйшла ў першыя рады.

Важна, што рост гэты — не выпадковы. Ён заканамерны. І гэта асабліва павінна нас радаваць. Высокая культура лепшай часткі нашай літаратуры (і мастацтва ў цэлым) ёсць вынік высокай агульнай культуры нашага народа, вынік таго выдатнага культурнага будаўніцтва, якое настойліва вяла наша партыя, наш народ у цэлым — усе гады існавання савецкай улады.

Яна — сведчанне багатых, надзвычайных творчых сіл, якія ёсць у народзе і якім у наш час створаны ўсе ўмовы для развіцця, для росквіту.

Натуральна ўзнікае пытанне: ці выкарыстоўваем мы як належыць усе гэтыя багатыя магчымасці?

Трэба шчыра сказаць: не. І ў цэлым у мастацтве, і ў літаратуры Беларусі асобна ўсё яшчэ нярэдка паяўляюцца творы павярхоўныя, паспешлівыя, рамесніцкія, творы-скараспелкі. Ёсць яшчэ нямала твораў, ад якіх вее холадам абыякавасці. Чытаючы такія творы, з асаблівай яснасцю адчуваеш, што сапраўдная творчасць — гэта гарэнне, высокая, адданая работа сэрца і розуму. Толькі тады, калі твору аддадзены пал сэрца, лепшыя думкі, ён зможа запаліць і навучыць чытача. І яшчэ адной якасці не хапае некаторым творам: культуры, таго ўзроўню культуры, які б адпавядаў высокаму ўзроўню сучаснай культуры і які быў бы гарантыяй таго, што пісьменнік, работнік мастацтва здольны навучыць чамусьці, узняць, узбагаціць чытача і гледача.

Такім чынам, пытанне аб павышэнні культуры мае непасрэдныя адносіны і да работнікаў мастацтва. Нам таксама трэба вучыцца, пастаянна, штодзённа.

Тут я хацеў бы сказаць некалькі слоў пра кіно. Я не першы раз гавару пра гэта і, на жаль, вымушан гаварыць зноў. Бясспрэчна, пэўныя зрухі ў апошні час у гэтым важнейшым мастацтве ёсць, але стан работы нашых кінематаграфістаў і ў цэлым студыі «Беларусьфільм» па-ранейшаму далёкі ад таго, каб лічыць яго хоць бы здавальняючым.

Мы можам нямала ўспомніць добрых дакументальных кінафільмаў, але ўспомніце, колькі сапраўдных, мастацкіх, хвалюючых фільмаў дала наша кінастудыя «Беларусьфільм» народу, што яна расказала гледачам пра багатае, гераічнае жыццё нашых людзей?

Такіх фільмаў вельмі мала. Фільмы нашай студыі і цяпер у большасці нізкай якасці, неглыбокія і нудныя і нярэдка яшчэ расказваюць пра выпадковыя з'я-

вы, што сведчыць аб звыклых заганах у сцэнарнай палітыцы студыі. Да нядаўняга часу рэжысёры студыі, абыякавыя да жыцця народа, ганяліся па ўсім свеце, падбіраючы ўсё, што другім нягожа.

У мастацтве, тым больш такім складаным, як кінамастацтва, не робіцца ўсё хутка, але хочацца спадзявацца, што таварыш Мацвееў, якому выпаў нялёгкі абавязак кіраваць кінапрамысловасцю нашай рэспублікі, выправіць становішча на лепшае.

Ёсць свае праблемы і ў тэатральным абслугоўванні насельніцтва рэспублікі. Як вядома, у гэтых адносінах многае робяць самадзейныя народныя тэатры, якія даволі шырока развіліся ў Беларусі. У нас ёсць самадзейныя тэатральныя калектывы, якімі мы можам ганарыцца. Я добра знаёмы з Мазырскім народным тэатрам, які ўзначальваў таленавіты энтузіяст Міхал Яфімавіч Колас, заслужаны работнік культуры БССР. Мазырскі народны тэатр — выдатны калектыў. Мы маем нямала добрых самадзейных тэатральных калектываў.

Але пашырэнне сеткі народных тэатраў не здымае з нас абавязку думаць пра пашырэнне прафесійнага тэатра. Я лічу, што такія гарады, як Полацк, Пінск, Мазыр, павінны мець свае прафесійныя тэатры. Гэтыя гарады сталі значнымі індустрыяльнымі цэнтрамі, хутка растуць, і ім патрэбны тэатры. Тэатры ў гэтых гарадах змаглі б абслугоўваць і значныя раёны з сельскім насельніцтвам, дзе тэатры — вельмі рэдкія госці.

Таварышы, я хацеў бы выказаць некалькі меркаванняў агульнага характару, што да тэмы пытання нашай сесіі.

Мне здаецца, што паняцце «культурна-масавая работа» некаторымі нашымі таварышамі разумеецца вузка. Памылковай я лічу традыцыйную думку пра тое, што культмасавая работа — гэта работа клубаў, бібліятэк, лекцыі і т. п.

Галіна культуры — гэта шырокая вобласць чалавечага жыцця, вобласць, якая фактычна ахоплівае ўсе бакі жыцця чалавека.

Будучы шырокай сама па сабе, у дачыненні да шырокіх мас народа культура становіцца надзвычайнай па сваёй мнагастайнасці, рознасці праблемаў. Яна ахоплівае ў такім плане, можа быць, усе сферы жыцця народа, рэспублікі.

Так, культура — узровень ведаў. Але культура таксама — і стыль работы людзей. Культура — і характар мыслення. Культура ў цэлым — характар жыцця чалавека, у самых розных галінах чалавечай дзейнасці.

Калі мы вядзём барацьбу з п'янствам — мы вядзём барацьбу за культуру.

Калі мы вядзём барацьбу з хамствам ва ўсіх праявах — мы вядзём барацьбу за культуру.

Барацьба з бюракратызмам — гэта таксама барацьба за культуру. Барацьба за ўздым культуры чалавека і грамадства ў цэлым.

Я хацеў бы адзначыць і яшчэ адну агульную асаблівасць характару культурна-масавай работы ў наш час. Мне здаецца, што мы спосабы, медаты гэтай работы часам уяўляем па-старому, мераем устарэлай меркай. Мы іншы раз нібы забываем, якія вялікія змены адбыліся ў гэтай галіне.

У матэрыялах сесіі, якія раздадзены нам, ёсць лічбы, на якія я хацеў бы звярнуць вашу ўвагу, таварышы дэпутаты. Вось гэтыя лічбы. У нашай рэспубліцы цяпер 4 млн. радыёпрыёмнікаў і радыёкропак, 1 млн. 400 тысяч тэлевізараў. 5 млн. 400 тысяч радыёкропак і тэлевізараў стала і звыкла жывуць у кватэрах і хатах нашых людзей. Радыё і тэлебачанне ўвайшло ў кожны дом, у кожную сям'ю.

Шырокае распаўсюджанне радыё і асабліва тэлебачання зрабілі цэлую, можна сказаць, рэвалюцыю ў гэтай галіне нашага жыцця. Агульная інфармацыя пра жыццё краіны, лекцыі, спектаклі, кінафільмы — здаецца, няма такой сферы чалавечых інтарэсаў, якую не змаглі б задаволіць радыё і яшчэ больш тэлебачанне з яго цудоўнымі магчымасцямі.

Гэта факт, з якім нельга не лічыцца. Гэты факт патрабуе ад нас асаблівых — дзейсных і сучасных — форм культурна-масавай работы. Я думаю, што ў гэтай галіне мы павінны больш удзяляць увагі лакальным, мясцовым праблемам, напаўняць сваю работу канкрэтнасцю і практычнасцю ў вырашэнні непасрэдных задач свайго раёна, сяла. У нашай рабоце тут павінна быць пабольш дзелавітасці.

Можна было б у гэтым плане гаварыць пра многія галіны культуры, але пра іх тут многа ўжо сказана. Я спынюся на адной. На культуры быту. Я лічу яе ад-

ной з самых важных і разам — адной з тых галін, у якіх многа нявырашаных і вострых праблем.

Мне здаецца, што мы часам усё яшчэ недаацэньваем значэнне культуры быту, многіх яе аспектаў.

Падобна на тое, што мы ўсё яшчэ нярэдка думаем, што культура абслугоўвання, напрыклад,— гэта толькі культура абслугоўвання, сфера гандлю. Між тым гэта — і галіна культуры ў цэлым, культуры дзейнасці грамадства. Свайго роду важная грамадская, палітычная праблема. З якой сустракаюцца мільёны людзей штодзённа.

Некалькі дзён назад я атрымаў пісьмо ад выбаршчыкаў з Конкавіцкага сельсавета Петрыкаўскага раёна са скаргай, што ў магазін вёскі не заўсёды прывозяць хлеб і што нярэдка прыходзіцца вяртацца дамоў з пустымі рукамі. У маёй дэпутацкай дзейнасці мне неаднойчы даводзілася сустракацца з такімі скаргамі. У прыватнасці, такія скаргі былі і ў выбаршчыкаў Жыткавіцкага раёна. Відаць, гэтыя факты далёка не асобныя.

Гэта такія факты, якія і тлумачыць няёмка. Гэта — абураючыя факты. Я гавару пра іх таму, што яны таксама маюць адносіны да культуры. Хлеб — аснова ўсяму, у тым ліку і культуры. Усё пачынаецца з хлеба.

Даўно хвалюе мяне і такое. Наша вёска моцна змянілася. Прыйшла тэхніка, стаў іншым характар працы людзей, над хатамі вырас лес тэлеантэн, будуюцца вылатныя жывёлагадоўчыя комплексы. Але — чаму яшчэ — нярэдка такімі непрыгляднымі застаюцца вуліцы нашых вёсак. Разбітыя грузавікамі і аўтобусамі, у калдобінах і гразкіх лужах, што ніколі не перасыхаюць, яны ўвосень і ўвясну становяцца проста бядою для людзей. Увосень і ўвясну па іх, бывае, ні праехаць, ні прайсці. Ды па некаторых з іх і летам праехаць цяжка. На многіх з іх поўна гразі і ўвосень, і ўлета!

Дзіўныя дзівы даводзіцца бачыць: едзеш полем, лесам па цудоўных асфальтавых дарогах, радуецца душа, уедзеш у сяло — адкрываюцца часам вачам карціны проста гогалеўскія! Я маю на ўвазе славутую лужу сярод вуліцы.

Пара, пара сур'ёзна заняцца нашымі вуліцамі ў вёсках! І заняцца не адным сельсаветам і калгасам, яны далёка не ўсё змогуць зрабіць: быт вёскі трэба наладжваць так жа, як ён наладжваецца ў горадзе.

У многіх вёсках у вельмі кепскім становішчы водазабеспячэнне. Калодзежы старасвецкія, неглыбокія, вада нячыстая, брудная. Артэзіянскіх калодзежаў мала. Мы так гаспадарліва клапоцімся, каб напаіць жывёлу (што вельмі правільна!), і так, бывае, мала думаем пра тое, якую ваду п'юць людзі! Мала робім для гэтага.

Гэта, таварышы, таксама праблемы культуры. Праблемы, якімі трэба сур'ёзна займацца.

Некалькі слоў пра іншае. Я гаварыў ужо, што радыё і тэлебачанне ўвайшлі ў кожны дом. Кожная сям'я мае тэлевізар, рэпрадуктар і радыёпрыёмнік, часам і па некалькі. Чаму ж дасюль грыміць на плошчах нашых і ў парках такая непатрэбшчына, як радыёдынамікі, якія ніхто не слухае. Грымяць гэтыя дынамікі ў зонах адпачынку, у жылых зонах, не даючы людзям ні адпачываць, ні працаваць. Грымяць у піянерскіх лагерах, дзе яны проста шкодны. Шкодны і таму, што псуюць нервовую сістэму дзяцей, і таму, што выхоўваюць абыякавасць у дзяцей.

Нікому на вуліцы не прыйдзе ідэя піхаць у рот усім прахожым падрад, скажам, якую-небудзь кашу. А дынамікі ж гэтыя ўсім падрад упіхваюць песенькі, якія надакучылі, перадачы, якія не цікавяць. Радыё, акрамя ўсяго, такая рэч, што яе добра слухаць на адлегласці да дзесяці, ну сотні метраў, а далей — на кіламетры агідны, гнусны шум, адзін з самых шкодных для чалавека шумаў.

Піша «Правда», «Известия» пішуць, часопіс «Здоровье» падымае цэлую кампанію супраць шумаў, інжынер на старонках «Советской Белоруссии» аб'яўляе: «Город просит тишины» (горад гэты — Мінск), усе заклікаюць да цішыні, але хто ў нашых гарадскіх ці сельскіх Саветах адгукнуўся на гэта! У Мінскім гарсавеце не пачулі нічога гэтага. Грыміць, грукоча радыё ў дзіцячым парку Мінска, у цэнтры горада, на цэлыя кіламетры вакол па-хуліганску грымяць дынамікі спартбазы «Спартак» у зоне адпачынку Мінска.

Калі ж мы нейкія меры пачнём — асабліва ў гарадах, і ў зонах адпачынку — прымаць супраць гэтага сучаснага бескультур'я!

Вярхоўны Савет прыняў год назад закон аб ахове здароўя, там ёсць пункт і аб барацьбе з шумам. Што зроблена за гэты час, каб выканаць гэты пункт? Нічога. Падпісалі і — забылі. Ці не пара б камісіі Вярхоў-

нага Савета БССР па ахове здароўя і нашаму паважанаму Міністэрству аховы здароўя, міністру М. Я. Саўчанка распрацаваць указанні, адпаведныя закону. І каб гэтае рашэнне не засталося толькі рашэннем, папераю, падключыць сюды органы грамадскага парадку. Пара нешта рабіць у гэтым напрамку.

Таварышы, у пытаннях культуры няма дробязей. Галіна культуры — галіна важная і ў вялікіх, і ў малых праблемах.

Гэта — шырокая галіна, якая закранае мільёны людзей.

Давайце ж усе мы адносіцца да дзейнасці ў галіне гэтай, як да вельмі важнай дзейнасці, што датычыць усіх нас. Давайце ўсе мы будзем работнікамі культуры, савецкай, камуністычнай культуры!

*1973*

## ДЗВЕ СУСТРЭЧЫ

Мне давялося быць удзельнікам Першай канферэнцыі пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі ў 1958 годзе. Да гэтага часу памяць мая беражэ тыя сонечныя дні Ташкента. Помню палымяную і мудрую прамову Назыма Хікмета, што вырваўся з турэцкіх засценкаў. Ніколі не забыць, як падняўся на трыбуну пагорблены гадамі і турботамі Уільям Дзюбуа, ён пераадолеў цяжкі і доўгі шлях, каб сказаць палымяныя словы ў абарону чалавека і гуманізму.

З той пары многа падзей прашумела на нашай неспакойнай планеце, падзей і радасных і сумных. У гэтыя дні яснай алма-ацінскай восені мы цешыліся добрым адчуваннем спакою, што нарэшце прыйшоў на спакутаваную, выпаленую бомбамі в'етнамскую зямлю. Усе мы з энтузіязмам і хваляваннем прымалі дэлегацыю в'етнамскіх пісьменнікаў, якая ўпершыню за многія гады ўдзельнічае ў міжнародным форуме як дэлегацыя народа, вольнага ад жахаў вайны.

Повен добрага сэнсу і той факт, што ў рабоце Пятай канферэнцыі прымае ўдзел куды большая колькасць дэлегатаў, чым у ташкенцкім форуме. Гэты факт для нас знамянальны яшчэ і таму, што Афрыка і Азія — кантыненты, народы якіх у значнай ступені вызначаюць рух гісторыі, што дзеецца на нашых вачах. Бясспрэчна, што роля гэтых народаў, якія абудзіліся да актыўнай дзейнасці, будзе ўсё ўзрастаць і ўзрастаць з году ў год.

Сёння як ніколі адчуваеш, што зямля наша невялікая і лёс свету адзіны: імкненне пісьменнікаў Азіі і Афрыкі, Еўропы і Амерыкі выступаць адзіным маналітным атрадам у барацьбе за мір і прагрэс не можа не поўніць нас аптымізмам, упэўненасцю ў заўтрашнім дні.

*1973*

# ПРА «ХАТЫНСКУЮ АПОВЕСЦЬ»

Беларускі пісьменнік Аляксандр (Алесь) Міхайлавіч Адамовіч нарадзіўся ў 1927 годзе ў вёсцы Канюхі Мінскай вобласці.

Яму споўнілася толькі трынаццаць гадоў, калі ва ўражлівую душу будучага пісьменніка ўварваліся непамерна цяжкія выпрабаванні вайны. Вёсачка, у якой жыў Алесь Адамовіч, раскінулася ля шашы на поўдзень ад Мінска, і перад вачамі хлопчыка ў першыя ж гадзіны вайны праходзіла ўсё велізарнае гора, якое яна прынесла.

Вайна патрабавала сваё, не пытаючыся пра ўзрост. Трымаць адказ давялося і нясталаму беларускаму хлопчыку, і трэба аддаць яму належнае: нягледзячы на малыя гады свае, ён пайшоў у агонь вайны, як і належыць грамадзяніну, сыну сваёй Радзімы. Спачатку падпольшчык, потым партызан, Адамовіч разам са сваім народам дзяліў і цяжар бязлітаснай барацьбы з ворагам, і радасць выпакутаванай перамогі.

Пасля вайны А. Адамовіч вучыўся, закончыў універсітэт у Мінску, аспірантуру пры універсітэце. Выкладаў беларускую літаратуру. Абараніў доктарскую дысертацыю, працуе ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі.

Навуковымі работамі «Шлях да майстэрства» (1958), «Культура творчасці» (1959), «Беларускі раман» (1961) А. Адамовіч заявіў пра сябе, як дапытлівы, таленавіты даследчык беларускай літаратуры, які востра і глыбока бачыць працэсы, што ў ёй адбываюцца, тонка адчувае эстэтычную сутнасць твораў мастацтва. Ён хутка заваяваў аўтарытэт аднаго з лепшых даследчыкаў беларускай літаратуры.

Для многіх было нечаканым яго ўтаржэнне ў мастацкую літаратуру з уласным творам. І тут А. Адамовіч пачаў смела — раманам «Вайна пад стрэхамі». Да

яго адразу ж прыйшло прызнанне: такой таленавітай і сталай кнігай дэбютаваў у беларускай прозе неспакойны яе даследчык. Акрамя бясспрэчнага таленту мастака дзве акалічнасці, на мой погляд, забяспечылі поспех маладому празаіку: вялікая пісьменніцкая сумленнасць у паказе лёсаў людзей і вайны і моцная адданая зацікаўленасць лёсамі герояў, жыццём, якое ён паказваў. Кніга А. Адамовіча — расказ пра тое, як жылі ў гады вайны радавыя людзі Беларусі, якой драматычнай і напружанай была вайна многіх тысяч сялян і гараджан пад роднымі стрэхамі. Тое, што ў цэнтры твора пісьменнік паставіў жыццё нібыта прыватнае — жыццё маці і двух яе сыноў,— не толькі не звузіла бачанне пісьменнікам вайны, але дало магчымасць яму паказаць лёс народны з рэдкай дакладнасцю і глыбінёй. Ёсць нешта эпічнае ў вобразе маці і яе сыноў, убачаных і намаляваных Адамовічам дакладна, буйна, усхвалявана.

Мы ведаем, што ў гэтым рамане, як і ў наступным «Сыны ідуць у бой» (1964), аўтар расказваў пра сваё юнацтва, пра перажытае. За вобразам Толі Корзуна добра праглядваецца шлях і воблік самога пісьменніка ў гады вайны. Дылогія А. Адамовіча спалучыла разам моцныя жыццёвыя ўражанні і творчыя імкненні пісьменніка, дала чытачам творы, кожная старонка якіх народжана жыццём, болем і надзеяй, сваім бачаннем і сур'ёзным роздумам.

Да дзвюх творчых стыхій А. Адамовіча неўзабаве далучылася трэцяя: пісьменнік захапіўся кіно. Па яго сцэнарыях зняты два фільмы, аснову якіх склалі раманы дылогіі. Але ў апошнія гады ён больш працуе ў галіне літаратуразнаўства і ў прозе. У першай ён стварыў цудоўную кнігу «Маштабнасць прозы», мастацкая творчасць яго ўзбагацілася дзвюма аповесцямі: «Вікторыя» і «Апошні водпуск», для якіх характэрны цікавыя пошукі і роздум над некаторымі праблемамі сучаснасці.

Да творчых дасягненняў пісьменніка, бясспрэчна, трэба аднесці яго новы твор — «Хатынскую аповесць».

Пра аповесць, хоць яна з'явілася нядаўна, ужо нямала напісана, аднак, думаецца, крытыка яшчэ не адзін раз будзе вяртацца да яе. Вельмі значныя тыя праблемы, якія хвалююць пісьменніка, і цікавая, таленавітая мастацкая рэалізацыя пісьменніцкай задумы.

Не ставячы перад сабой задачу ўсебаковага і дэта-

лёвага аналізу «Хатынскай аповесці», я хацеў бы падзяліцца некаторымі найбольш істотнымі чытацкімі ўражаннямі і меркаваннямі.

Перш за ўсё хочацца сказаць пра сур'ёзнасць думак, якімі напоўнены гэты твор. Пра тое вялікае, нявымушанае хваляванне, з якім аўтар звяртаецца да чытача. Пра сучаснасць, актуальнасць яго трывог і надзей.

Так, гэта таксама, як і вядомая яго дылогія,— твор пра вайну. Усе галоўныя, найбольш хвалюючыя яе падзеі адбываюцца ў ваенны час, на акупіраванай зямлі Беларусі, у блакіраваным фашысцкімі карнікамі партызанскім краі. Цяжкія, знясільваючыя баі партызан з атрада Касача, «хаджэнне па пакутах» адарваных ад свайго атрада воляю выпадку юных партызан: далікатнага хлопчыка Флёры Гайшуна і ўражанай складанасцю жыцця Глашы, іх блуканні ў вогненным пекле блакады, дзе адусюль пагражае смерць, амаль неверагодная па цяперашніх уяўленнях «адысея» ўбачанага і перажытага — усё гэта складае асноўны змест аповесці А. Адамовіча. З бязлітаснай праўдай піша былы партызан пра сваю родную зямлю: яна пакутуе, стогне, гарыць на старонках яго аповесці; спапяляючы агонь блакады, здаецца, яшчэ не астыў, жыве, дыхае на вас гарачынёй, абпальвае рукі, сціскае смяротным смуткам сэрца. Усё гэта, паўстаючы перад позіркам аслеплага Флёры, напісана вельмі выразна, адчувальна.

Але сіла гучання гэтых сцэн не толькі ў тым, як ярка, зрокава бачна паказвае аўтар пакуты людзей і зямлі, на якую абрушылася жорсткая лютасць карнікаў. Аповесць не выпадкова пачынаецца мірнай, амаль ідылічнай сцэнай паездкі ў аўтобусе групы ўвогуле бесклапотных людзей. Гэтыя людзі — былыя партызаны, яны з'ехаліся на адну з тых сустрэч, што сталі звычайнымі ў нашы дні. Звычайныя знешне і гэтыя людзі, што наладзілі сумесную паездку ў Хатынь,— паездку, якую сёння робяць многія, хто прыязджае ў Мінск. Пазней стане вядома, што яны шмат пабачылі, гэтыя людзі, але вайна ўжо далёка, былыя трывогі і баі прыціхлі, і яны, падобна, адчуваюць сябе лагодна, нават весела перагаворваюцца.

Паказваючы блакаднае пекла, аўтар не раз вернецца ў сённяшні час, у аўтобус, які ідзе па спакойнай дарозе ў Хатынь, пакуль ужо добра знаёмыя нам па іх цяжкім мінулым пасажыры не прыедуць да месца.

Гэтыя два рады падзей, звязаных і разам з тым працідзеючых, злучыўшы ў невялікай аповесці няблізкія і непадобныя часы, робячы яе нібыта больш прасторнай, надаюць твору неадназначнае, складанае гучанне; мірныя клопаты пасажыраў у аўтобусе бескампрамісна кантрастуюць з цяжкімі блакаднымі трывогамі, цеплыня дня, якую адчувае на сваім твары Флёра, з пранізлівай вастрынёй дае адчуць нам трагедыю чалавека, якому не суджана ніколі больш убачыць зіхатлівую красу свету, якому ўсю дарогу да Хатыні — ды, відаць, і ўсё жыццё — не даюць спакою трывожныя водбліскі блакадных пажараў. Неастываючая памяць Флёры Гайшуна пакажа нашаму мірнаму, лагоднаму позірку жахлівыя карціны зямлі, якая гарыць, здаецца, з самых нетраў; варварскіх акцый служак новага парадку, якія, здаецца, намерыліся спапяліць, знішчыць усё жывое на нашай зямлі.

«Хатынская аповесць» уключае ў сябе як бы некалькі пластоў. Малюючы ўсё, што адбываецца і адбывалася, такім, якім яго бачыў і адчуваў Флёра Гайшун, аўтар амаль заўсёды разам са сваім героем дапытліва аналізуе ўсё, разважае пра сэнс падзей, учынкаў людзей. Але ёсць у размове пра Гайшуна раздзелы, якія адзначаны асаблівым гучаннем, асабліва неспакойным роздумам. Раздзелы гэтыя складаюць як бы трэці пласт часу, дзея адбываецца ў іх у пару, вельмі блізкую да цяперашняй; але найважнейшая асаблівасць гэтых раздзелаў іменна ў напружаным роздуме, які выяўляе глыбінную, страсную думку пісьменніка. Гэта тыя раздзелы, у якіх вядзе спрэчкі з Фларыянам Пятровічам Барыс Бокій, яго «былы аспірант, а цяпер таксама кандыдат навук, псіхолаг». Фларыян Пятровіч ніколі не бачыў свайго маладога, насмешлівага і напорыстага калегу, мала, натуральна, бачыць яго і чытач. Але гэты вобраз вельмі важны і для Фларыяна Пятровіча, і для пісьменніка, адчуваецца, што аўтар аддаў яму самыя значныя, самыя запаветныя свае думкі. Дыскусіі, якія вядуць Гайшун і Бокій, далёка пашыраюць рамкі аповесці, клопаты герояў набываюць глабальны характар — яны заклапочана разважаюць пра лёс планеты.

Гэтым раздзелам уласціва напружаная філасофская думка, разам са сваімі героямі А. Адамовіч думае пра небяспеку, што нясе свету сённяшні мілітарызм і фашызм, які, адраджаючыся, маскіруецца ў разнастай-

ную мірную вопратку; небяспеку, якую хаваюць у сабе розныя формы сучаснага «культурнага дзікунства». У гэтых раздзелах з асаблівай выразнасцю адчуваеш: самае важнае, што хвалюе пісьменніка ў аповесці,— гэта нетрываласць спакою і міру на нашай зямлі. Ён імкнецца разабрацца ў тым, што тоіць у сабе пагрозу шчасцю, мірнай працы людзей, папярэдзіць аб ёй сваіх чытачоў. Гэта робіць аповесць А. Адамовіча вельмі значнай і сучаснай па яе накіраванасці.

Раздзелы, у якіх разважаюць Гайшун і Бокій, тлумачаць і тое, што не выпадкова, не для моднага ўпрыгожвання аповесць пачынаецца эпіграфамі-дакументамі, у якіх зведзены ў адно цэлае паведамленні пра ахвяры беларускага народа, споведзь амерыканскага лейтэнанта Коллі — ката Сангмі — і зварот з космаса савецкіх касманаўтаў. Ад гэтых эпіграфаў праз усю аповесць, дасягаючы асаблівага напружання ў раздзелах, дзе разважаюць Гайшун і Бокій, як бы ідуць вельмі адчувальныя нервовыя токі, якія трывожаць чытача, заклікаюць яго да сур'ёзнага роздуму.

Тое, што ў кнізе Адамовіча такое важнае значэнне набывае адкрыты роздум над вялікімі праблемамі нашых дзён, робіць натуральным уключэнне аўтарам у мастацкую ткань аповесці дакументаў, што скаланаюць душу: расказаў жыхароў спаленых беларускіх вёсак І. І. Камінскага, А. І. Грыцэвіч і іншых. Лёс гэтых людзей натуральна ўпісваецца ў лёс герояў кнігі: Гайшуна, Глашы, жыхароў вёскі Пераходы.

Але іх галасы ў кнізе «апраўдвае» не толькі агульнасць іх лёсу з лёсам герояў аповесці. Галоўнае, што злучае ў адно цэлае такіх розных герояў кнігі, і вымышленых, і рэальна існаваўшых, і намаляваных разнабакова, і толькі названых, жыхароў беларускіх вёсак і паселішчаў, далёкіх ад беларускіх,— гэта галоўная думка пісьменніка, якая адчуваецца ў аповесці на ўсіх яе старонках, думка, якая ненавідзіць тых, хто нясе вайну, смерць, разбурэнне, якая прасякнута клопатам аб міры, аб шчасці чалавека.

Разважаючы пра тое, як у развітай капіталістычнай краіне, што ганарыцца сваёй культурай, мог нарадзіцца такі забойца, як Уільям Коллі, як магло здарыцца, што забойцу хто-ніхто аб'явіў нават нацыянальным героем, і справядліва бачачы ў лейтэнанце Коллі малодшага брата тых, хто забіваў у Хатыні, аўтар, аднак, не ўпа-

дае ў роспач. Ён хоць і разумее небяспеку такіх з'яў, як лейтэнант Коллі, але бачыць паступальны рух гісторыі. Успомніўшы думку Гегеля пра тое, што гісторыя вучыць толькі таму, што яна нікога нічому не навучыла; Гайшун горача разважае: «Так і не навучыліся людзі нічому? Але ж мы не ведаем, так, Бокій, не ведаем, дзе б цяпер быў свет са сваімі бомбамі, каб не было горкага вопыту 30—40-х гадоў!» «Так, дзе-нідзе фашызм,— думае-разважае Гайшун,— ужо ўстаў з той лавы (нюрнбергскага суда), размінае зямелыя мускулы, змяніў пакорліва-здзіўленую, ліслівую міну на нахабную ўхмылку. Ён ужо рыкае сытым баварскім голасам: «Сёння Германія дастаткова моцная. Мы маем права патрабаваць, каб усё мінулае было забыта!» Але новыя фюрэры нервуюцца, дзе б яны ні аб'явіліся. Ім даводзіцца пад людскім праніклівым позіркам рабіць нават першыя крокі... Як бы нахабна ні трымалі сябе сёння пад апекай новай сілы ўлады, яны памятаюць, што тады была ў іх улада над палавінай свету, а потым, нібы прачнуўшыся, убачылі сябе адзін на адзін са сведкамі-суддзямі, якіх, здавалася, яны даўно знішчылі...»

Аўтар добра разумее, што атамная і вадародная бомбы ў пытаннях вайны і міру стварылі новую рэальнасць: гэтыя пытанні набылі незвычайную вастрыню, патрабуюць асаблівай пільнасці народаў, дынамізму дзеянняў супраць вайны: «Таму што ёсць бомбы, якой і малога часу дастаткова».

Не, гэта не Гайшун — пісьменнік разважае, заклікае: «Не спыняць намаганняў, нават калі здаецца, што ўсе магчымасці вычарпаны, што канчаткова прайграна бітва,— гэта заўсёды лічылася правілам, якасцю сапраўдных палкаводцаў. Але ж там на кон ставіўся лёс усяго толькі нечай улады або няхай нават дзяржавы. Тут жа, сёння — лёс чалавека на планеце на векі вечныя. У самым простым сэнсе: быць ці не быць? Вельмі многае пастаўлена, і — якая сітуацыя ні была б! — чалавек не мае права сказаць: «Баста! Безнадзейна!»

Тут, у гэтых словах,— галоўная думка аповесці.

Надзвычай вялікая ўдзельная вага роздуму ў агульнай будове аповесці, роздуму нярэдка прамога, адкрытага, дазваляе гаварыць пра «Хатынскую аповесць» як пра твор у значнай меры публіцыстычны. Так, у аповесці А. Адамовіча вельмі моцна адчуваецца публіцы-

стыка, усхваляваная, разумная, пераканаўчая, якая кліча да сур'ёзнага роздуму.

Гэтая якасць з'яўляецца адной з асаблівасцей «Хатынскай аповесці», але не разбурае яе мастацкай цэласнасці і, бясспрэчна, не змяншае яе мастацкіх вартасцей. Публіцыстычная ўсхваляванасць аповесці ўзмацняе яе гучанне і яе ўздзеянне на чытача. Гэта тым болей важна, што чыста мастацкія вартасці аповесці высокія. Можна сказаць, напрыклад, пра ўменне аўтара пісаць дакладна, лаканічна, адкідваць усё, што не апраўдана неабходнасцю, не служыць рашэнню галоўнай задачы. Думаецца, што гэтае ўменне выбіраць з жыцця самае неабходнае, выдатнае адчуванне якасці матэрыялу дазволіла А. Адамовічу ў яго невялікай аповесці стварыць карціны, якія хвалююць шырынёй кругагляду, грунтоўнасцю, значнасцю. Дзякуючы шырыні погляду на падзеі, на чалавека, шырыні і глыбіні роздуму «Хатынская аповесць» успрымаецца як твор эпічны.

Добра адчувае пісьменнік псіхалогію людзей, у тым ліку — што асабліва важна — у складаных абставінах. Дакладна, выразна напісаны ім галоўныя героі, перш за ўсё Глаша, Касач, запамінаюцца многія эпізадычныя героі, якія як быццам толькі прамільгнулі перад позіркам чытача. Не магу не адзначыць цудоўны вобраз партызана Рубяжа, у якім аўтар змог прыкмеціць столькі характэрна беларускага!

Трэба добрае слова сказаць пра мову аповесці, эмацыянальнае яе багацце. Усхваляваная думка, засяроджанае апавяданне-роздум, гумар, іронія, сарказм — шчодрая на фарбы мова пісьменніка.

Сур'ёзны, значны твор напісаў А. Адамовіч. Вельмі сучасны твор — «Хатынская аповесць», трагічная і гераічная, поўная трывожнага роздуму балада. Будучы па свайму зместу аповесцю-ўспамінам, яна ў сутнасці сваёй заключае напамінак. Напамінак пра тое, што такое вайна, што тоіць ваенную небяспеку ў нашы дні, як важна змагацца за мір.

*1974*

I

*У восьмы том уваходзіць кніга «Жыццёвыя клопаты»*[1], *за выключэннем некаторых матэрыялаў пераважна эпісталярнага характару («Вучням Гудзевіцкай школы Мастоўскага раёна», «Казанскаму музею А. М. Горкага», «Ліст да М. А. Абалкіна»), якія рэдкалегія палічыла мэтазгодным уключыць у т. 10 дадзенага выдання.*

*Тэксты друкуюцца па кнізе «Жыццёвыя клопаты». Выключэнні агаворваюцца.*

*Артыкулы, якія па тых ці іншых прычынах не ўвайшлі ў «Ж. к.», а таксама выступленні і публікацыі апошніх гадоў жыцця пісьменніка, змяшчаюцца ў дзевятым томе гэтага Збору твораў.*

*Увесь матэрыял падаецца ў храналагічным парадку, па даце першай публікацыі, калі артыкулы ўжо былі змешчаны ў друку, і даце напісання, калі друкаваліся ўпершыню ў «Ж. к.».*

*Перастаноўка матэрыялаў зроблена толькі ў тых выпадках, дзе былі памылкі і недакладнасці ў датаванні.*

*Усе рукапісы і машынапісы, часопісныя і газетныя выразкі з аўтарскімі праўкамі і парадкавымі нумарамі захоўваюцца ў архіве сям'і І. Мележа. Таму месца іх знаходжання ў кожным асобным выпадку не ўказваецца.*

*Пры падрыхтоўцы да друку дадзенага тома былі выкарыстаны наступныя матэрыялы:*

*1. Экземпляр кнігі, складзены і падрыхтаваны пісьменнікам для выдавецтва;*

*2. Уступ да кнігі «Ад аўтара» (машынапісная старонка з аўтарскімі праўкамі і подпісам, напісаныя сінім чарнілам).*

*3. «Змест кнігі» ў двух экземплярах: машынапіс № 1 (4 с. з аўтарскімі дапаўненнямі, напісанымі сінім чарнілам), машынапіс № 2 (5 с. з аўтарскімі праўкамі, зробленымі фіялетавым чарнілам і простым алоўкам).*

*4. «Паказчык публікацый і выступленняў» (машынапіс, 5 с. з вялікай колькасцю аўтарскіх правак і дапаўненняў, зробленых сінім чарнілам і простым алоўкам).*

---

[1] Мележ І. Жыццёвыя клопаты: Артыкулы, эсэ, інтэрв'ю.— Мн.: Маст. літ., 1975.— 608 с. Далей: «Ж. к.».

## II

Кніга «Ж. к.» была задумана Мележам яшчэ ў пачатку 60-х гадоў. У артыкуле «Трохі згадак і думак», апублікаваным у час. «Полымя», 1962, № 11, пісьменнік гаварыў аб жаданні «падзяліцца з чытачом думкамі аб літаратуры, аб жыцці, няспынным, неўціханым, цудоўным». Але так складваўся творчы лёс Мележа, што толькі ў 70-х гадах ён зноў вярнуўся да сваіх планаў, аб чым паведаміў у інтэрв'ю карэспандэнту газ. «Известия» ад 5 верасня 1972 года: «У планах і накідах — кніга пра літаратуру». Непасрэдна да ажыццяўлення задумы пісьменнік прыступіў, відаць, у 1973—1974 гг., але збіраў кнігу старанна ўсё жыццё. Праца па падрыхтоўцы да выдання «кнігі пра літаратуру» была складанай і працаёмкай. Нялёгкай аказаўся і яе выдавецкі лёс, на што Мележ неаднаразова скардзіўся ў сваіх лістах. Пісьменнік надаваў кнізе вялікае значэнне, ставіўся да яе падрыхтоўкі сур'ёзна, з пачуццём велізарнай адказнасці. Даstatкова пазнаёміцца са шматлікімі матэрыяламі сямейнага архіва І. Мележа, каб убачыць, колькі часу і працы было аддадзена гэтай кнізе. Пісьменнік правіў, дапісваў і сам перакладаў тыя артыкулы і выступленні, якія былі напісаны на рускай мове [1]. Захаваўся ліст з рознымі загалоўкамі кнігі, напісанымі рукою аўтара рознымі чарнiламі: «Кнігі, людзі, час», «Штодзённыя клопаты», «Сучасныя клопаты», «Абавязак перад часам», «Размова з часам», «След дзён», «Кнігі, людзі, жыццё», «Сучасныя думкі». Як бачым, Мележ упарта шукаў дакладную назву, якая б найбольш поўна адлюстроўвала змест кнігі. А калі нагадаць, што ў той самы час пісьменнік працягваў працаваць над трэцім раманам «Палескай хронікі» — «Завеі, снежань», то можна з упэўненасцю сказаць, што Мележ не лічыў сваю працу над кнігай крытыкі і публіцыстыкі другараднай. Наогул, за што б ні браўся пісьменнік, усё ён рабіў самааддана, у поўную сілу, таленавіта і грунтоўна. У гэтым характэрная асаблівасць Мележа-мастака.

Сваю крытычную дзейнасць пісьменнік пачаў у 1946 годзе рэцэнзіяй на першы зборнік апавяданняў вядомага беларускага празаіка М. Лупсякова «Першая атака» [2]. Цікавасць пачынаючага літаратара да творчасці другога пісьменніка тлумачылася не толькі тым, што галоўнай тэмай зборніка была вайна, а Мележ ужо выношваў задуму свайго першага рамана — «Мінскі напрамак». Не менш важнай была тая акалічнасць, што пісьменнік востра адчуваў неабходнасць павышэння сваёй літаратурнай адукацыі, на пачатку сваёй крытычнай дзейнасці, аб чым пазней шчыра пісаў у артыкуле «Знайсці сябе»: «Даўно прыйшоў я да невясёлага вываду, што пачаў пісаць, маючы вельмі цьмянае ўяўленне аб літаратурнай справе. Можна сказаць нават, што пачаў пісаць, будучы літаратурна малапісьменным чалавекам. Ужо ў працэсе работы прыходзілася спасцігаць асновы літаратурнага майстэрства».

---

[1] Сачанка Б. Іван Паўлавіч з Глінішч.— Маладосць, 1980, № 3, с. 183.

[2] Полымя, 1946, № 5, с. 167—170.

У першай сваёй рэцэнзіі Мележ звяртае ўвагу чытача на праўдзівасць адлюстраваных падзей, адзначае, што ў Лупсякова «добрыя здольнасці да псіхалагічнага аналізу». Цікавіць крытыка пабудова сюжэта, мова маладога празаіка, у якой ён убачыў уплыў выдатнага майстра прозы Кузьмы Чорнага.

У творчым лёсе Мележа К. Чорны адыграў значную ролю, па сутнасці ён даў яму пуцёўку ў вялікую літаратуру. Не выпадкова, што пасля заканчэння БДУ, займаючыся ў аспірантуры, Мележ абраў тэмай дысертацыі творчасць выдатнага беларускага празаіка К. Чорнага, якога лічыў адным са сваіх настаўнікаў. Спасцігаючы законы майстэрства, паглыбляючыся ў творчую лабараторыю вялікага майстра, І. Мележ паступова выпрацоўваў і сваю сістэму крытэрыяў і ацэнак. Супастаўляючы машынапісныя старонкі аднаго з першапачатковых варыянтаў манаграфіі пра Чорнага з раздзеламі, якія ўвайшлі ў «Ж. к.», можна заўважыць, што праўкі, унесеныя пісьменнікам пры падрыхтоўцы гэтых раздзелаў да выдання, красамоўна сведчаць аб узрослым майстэрстве Мележа-крытыка.

Прыгаданыя рэцэнзія і праца пра творчасць К. Чорнага былі толькі пачаткам актыўнай дзейнасці Мележа-крытыка. А далей, даволі часта выступаючы на старонках газет і часопісаў, з трыбуны пісьменніцкіх з'ездаў і пленумаў, ён выкарыстоўваў кожную магчымасць, каб шчодра падзяліцца асабістым творчым вопытам, расказаць пра тое, што хвалявала яго як мастака і грамадзяніна.

Ужо некалькі дзесяцігоддзяў аддзяляюць сённяшняга чытача ад часу напісання многіх артыкулаў і выступленняў І. Мележа, але і зараз яны не страцілі сваёй надзённасці, вастрыні высунутых праблем. Многія ацэнкі і тэарэтычныя палажэнні, якія вытрымалі выпрабаванне часам, можна разглядаць як пэўную эстэтычную сістэму, у якой знайшлі сваё адлюстраванне асноўныя прынцыпы ўсяго савецкага літаратуразнаўства, такія, як партыйнасць, народнасць, традыцыі і наватарства, пытанні майстэрства, мовы і шэраг іншых. Кнігу «Ж. к.» умоўна можна падзяліць на тры часткі: першая — артыкулы аб сучасным жыцці і бягучых падзеях, другая — партрэтныя замалёўкі беларускіх, рускіх і замежных пісьменнікаў, трэцяя — пытанні мастацкай творчасці і творчы вопыт Мележа. Але пры ўсёй разнастайнасці пытанняў, узнятых у кнізе, яна, як адзначыў у сваёй прадмове Мележ, «мае сваё адзінства». Кніга «Ж. к.» успрымаецца як своеасаблівая споведзь пісьменніка, яна хвалюе сваёй шчырасцю, страснасцю і пераканаўчасцю. У публіцыстычных артыкулах Мележ дае магчымасць адчуць напружаны рытм жыцця ўсёй рэспублікі ў цяжкія пасляваенныя гады, даведацца пра першыя працоўныя перамогі і героях працы, пра міжнародныя кангрэсы, з'езды, нарады, удзельнікам якіх быў пісьменнік.

Артыкулы, прысвечаныя творчасці іншых пісьменнікаў, напісаны з рознай нагоды, розныя па аб'ёме і форме, але ўсе яны ўяўляюцца значнымі, бо выяўляюць мележаўскае ўменне яскрава і даходліва расказаць пра тое, што прываблівала яго як мастака ў творчасці гэтых майстроў. Аўтар выявіў незвычайны талент у вылучэнні галоўнага, вызначальнага, што дазваляе ў кожным пісьменніку ўбачыць творчую індывідуальнасць. Ужо ў назвах гэтых артыкулаў знайшла сваё выражэнне асноўная аўтарская думка: «Чалавек чалавецтва» (пра Р. Ралана), «Вялікі

талент. Вялікі працаўнік» (пра М. Горкага), «Знайсці вобраз часу» (пра К. Федзіна) і інш.

Няцяжка заўважыць, што сярод артыкулаў, прысвечаных розным пісьменнікам, значнае месца займаюць прадстаўнікі адной з самых выдатных літаратур свету, французскай. І гэта не толькі таму, што І. Мележ доўгія гады быў старшынёй Беларускага аддзялення таварыства дружбы «Францыя — СССР». Паводле сведчання жонкі пісьменніка, Лідзіі Якаўлеўны, ён вельмі любіў і добра ведаў французскую літаратуру, гаварыў, што не любіць яе проста немагчыма. У інтэрв'ю, у адказах на шматлікія анкеты газет і часопісаў Мележ сярод любімых пісьменнікаў заўсёды называў прадстаўнікоў французскай літаратуры.

Трэцяя частка артыкулаў найбольш значная не толькі па аб'ёме, але і па шырыні ахопу праблем і пытанняў, якія закрануты Мележам у іх. Тут і гісторыя роднай літаратуры, і сучасны літаратурны працэс, і творчая лабараторыя пісьменніка, і пытанні майстэрства.

Кожны артыкул, у аснову якога лёг справаздачны даклад пісьменніцкаму з'езду, выступленне на юбілейным вечары, партканферэнцыі або проста нататкі па праблеме мастацкай творчасці — усё мае рэзка акрэсленую накіраванасць, у якой моцна адчуваецца актыўная грамадзянская пазіцыя аўтара, яго заклапочанасць развіццём роднай літаратуры, мовы і наогул мастацтва. Вялікую ўвагу ўдзяляў Мележ і маральнаму клімату ў Саюзе пісьменнікаў, змагаючыся за чысціню адносін і сапраўдную творчую атмасферу ў ім.

У кнізе «Ж. к.» знайшла сваё адлюстраванне ўся творчасць пісьменніка, пачынаючы з першых апавяданняў і завяршаючы апошнім раманам «Палескай хронікі». Творчы вопыт Мележа-раманіста, драматурга вельмі цесна звязаны з яго крытычнай дзейнасцю, якая настолькі значная сама па сабе, што дае магчымасць гаварыць аб асаблівасцях пісьменніцкай крытыкі ўвогуле. Яна мае свае адметныя рысы, якія неўласцівы прафесійнай крытыцы. Гэта перш за ўсё асабісты вопыт пісьменніка, вельмі карысны і павучальны; па-другое, яна дае каштоўны матэрыял для пранікнення ў творчую лабараторыю пісьменніка, дапамагае вывучэнню псіхалогіі творчасці.

Крытычная дзейнасць і мастацкая творчасць у Мележа цесна ўзаемазвязаны і ўзаемаабумоўлены. Дастаткова прыгадаць адказы на анкету часопіса «Вопросы литературы» («Ленінскія ідэі і літаратура»), каб убачыць, як творча засвойваў пісьменнік ленінскае вучэнне. У прынцыповасці і патрабавальнасці У. І. Леніна Мележ бачыў не толькі ідэйнае і метадалагічнае значэнне яго прац. «Мне здаецца,— пісаў Мележ,— рысы яго стылю, бачыць жыццё ва ўсёй складанасці, не задавальняцца тым, што на паверхні, пранікаць у глыбіню, да ісціны, не цешыцца ілюзіямі. Ацэньваць усё з пункту погляду інтарэсаў галоўнага і будучага, быць смелым у барацьбе».

Выступаючы на гарадскім вечары, прысвечаным 60-годдзю Мележа, А. Адамовіч справядліва адзначыў, што пісьменнік «з'яўляецца лаўрэатам Ленінскай прэміі па праву не толькі выключнага таленту, але яшчэ і таму, што вельмі ж асабіста ўспрыняў і кіраваўся ленінскім: ні слова на веру, нічога не рабіць без асабістай пераконанасці, без павагі да людзей, якім ты служыш».

Працяглая і ўпартая праца над першым раманам з'явілася для пісьменніка сапраўднай школай майстэрства. І не выпадкова, што праблемы эпічнага рамана займаюць у артыкулах Мележа значнае месца («Наш раман і яго крытыкі», 1954; «Раман і яго праблемы», 1967; «Раманы, аповесці, апавяданні», 1971). Сваю працу над «Мінскім напрамкам» пісьменнік разглядаў у цеснай сувязі з агульным літаратурным працэсам і тымі тэндэнцыямі, якія праяўляліся ў пасляваеннай беларускай прозе. Магчыма, таму Мележ так абараняў першыя спробы іншых пісьменнікаў у галіне вельмі складанага жанру — эпічнага рамана (П. Пестрак. «Сустрэнемся на барыкадах», М. Лынькоў. «Векапомныя дні»). Мележ здолеў убачыць у гэтых раманах заканамерны працяг традыцый Я. Коласа і К. Чорнага і, як сапраўдны крытык, прадбачыць далейшае развіццё эпічнага жанру. Мележ вельмі балюча ўспрыняў рэзкую і не зусім справядлівую крытыку свайго першага рамана, хоць недзе і сам адчуваў яго мастацкую недасканаласць. Можа быць, менавіта гэтая акалічнасць у некаторай ступені вызначыла творчы шлях пісьменніка. Вялікая дапрацоўка не толькі рамана, але і іншых сваіх твораў штурхала яго да новых пошукаў, да вывучэння асноў літаратурнага рамяства, пазнання законаў майстэрства. Мележ пісаў, што «ўсе загадкі майстэрства залежаць, урэшце, ад аднаго — ад асобы мастака. Багацце свету, багацце майстэрства пісьменніка — у самой яго асобе».

Паступова Мележ імкнецца не толькі асэнсаваць асабісты вопыт, але абагуліць і тэарэтызаваць яго. Так з'яўляюцца артыкулы «Знайсці сябе» (1965), «Праца пісьменніка» (1968) і «Майстэрства — гэта імкненне» (1968), якія сведчаць аб узрослым майстэрстве Мележа-крытыка. Напісаныя напярэдадні вельмі адказнага творчага этапа — завяршэння «Палескай хронікі»,— яны, безумоўна, уплывалі на творчы працэс. Раман «Завеі, снежань» уражвае глыбінёй пранікнення ў сутнасць жыццёвых з'яў, мастацкай праўдзівасцю і дакументальнай дакладнасцю. На жаль, ён застаўся няскончаным, магчыма, і таму, што Мележ паралельна рыхтаваў да друку кнігу «Ж. к.». Цяжка ўявіць сабе, што яе магло б і не быць. Нягледзячы на тое, што большасць артыкулаў ужо друкавалася, толькі сабраныя ў адной кнізе, яны даюць магчымасць па-сапраўднаму ацаніць той важкі ўклад, які ўнёс Мележ у беларускую крытыку і літаратуразнаўства. Выхад яе быў прыхільна сустрэты грамадскасцю і станоўча ацэнены крытыкай [1].

У 1976 годзе кніга «Жыццёвыя клопаты» атрымала Дзяржаўную прэмію БССР у галіне літаратуры.

У 1980 годзе з гэтай выдатнай кнігай пазнаёміўся ўсесаюзны чытач [2].

---

[1] Мушинский М. Литературный процесс и критика.— Коммунист Белоруссии, 1976, № 4, с. 69—77; Тычына М. Праўдзіва, мужна, чалавечна.— Літ. і мастацтва. 1976, 7 мая; Андраюк С. Клопаты мастака-патрыёта.— Літ. і мастацтва, 1976, 26 лістап.

[2] Мележ И. Жизненные заботы: — М.: Сов. писатель, 1980.— 381 с.

## ЛЮБІМЫ НАРОДАМ (с. 7)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1947, 22 лістап. пад загалоўкам: «Любімы пісьменнік». Артыкул напісаны да 50-годдзя з дня нараджэння і 25-годдзя літаратурнай дзейнасці Кандрата Крапівы.

Захоўваецца выразка з газеты з аўтарскімі праўкамі і скарачэннямі.

Змены, унесеныя ў першапачатковую назву, як і скарачэнні ў тэксце, належаць аўтару [1].

Пры падрыхтоўцы да друку зб. «Ж. к.» І. Мележ унёс даволі істотныя праўкі ў тэкст, якія значна паглыбілі дадзеную ім ацэнку творчасці К. Крапівы, дапамаглі вызначыць галоўную накіраванасць усёй дзейнасці любімага народам пісьменніка [2].

С. 7. Драма «Партызаны» створана ў 1937 годзе (пастаўлена тэатрам імя Я. Купалы ў 1938 годзе).

Сатырычная камедыя «Хто смяецца апошнім» напісана ў 1939 годзе (у гэтым жа годзе тэатрам імя Я. Купалы ажыццёўлена яе пастаноўка, у 1947 годзе прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР). Аднайменны фільм па сцэнарыю аўтара выйшаў у 1954 годзе.

Псіхалагічная драма «Проба агнём» напісана ў 1943 годзе, у пастаноўцы тэатра імя Я. Коласа гледачы ўбачылі п'есу ў тым жа годзе.

## НАШЫ ЗАХОДНІЯ БРАТЫ (с. 8)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1948, 3 крас. пад назвай «Слова пра дружбу».

Захоўваецца выразка з газеты з аўтарскімі праўкамі, зробленымі фіялетавым і сінім чарнілам. Першапачатковы газетны загаловак быў заменены аўтарам спачатку на «Нашы браты на Захадзе», а затым на «Заходнія сябры». На тэксце газеты ёсць і пазначаная пісьменнікам перастаноўка абзаца [3].

С. 8. Грунвальдская бітва 1410 адбылася ў час Вялікай вайны 1409—1411 паміж аб'яднанымі арміямі Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага з аднаго боку і войскамі Тэўтонскага ордэна — з другога. Закончылася поўным разгромам арміі крыжакоў. У арміі Вялікага княства Літоўскага, акрамя літоўскіх, рускіх, украінскіх атрадаў і татарскай конніцы, былі войскі з беларускіх земляў.

---

[1] На газетнай выразцы простым алоўкам закрэслены тэкст, які адсутнічае ў зборніку. У загалоўку «Любімы пісьменнік» апошняе слова закрэслена і зверху сінім чарнілам дапісана: «народам».

[2] Дадзенае выданне, с. 5, радок 16, замест: усе гады творчай дзейнасці // у сваёй творчай працы; радок 17, замест: верна // сумленна; радок 19, замест: у дасціпным сваім // простым зразумелым; радок 25, замест: нястомна // паспяхова; радок 26, замест: сыноўняга // сумленнага.

[3] Дадзенае выданне, с. 7, радкі 9—14. У газетнымварыянце гэтыя радкі былі ў канцы артыкула.

Чарнагорыя, Сербія, Харватыя, тры з шасці рэспублік, якія зараз уваходзяць у Сацыялістычную Федэратыўную Рэспубліку Югаславію (СФРЮ). У гады Другой сусветнай вайны ў гэтых раёнах актыўна дзейнічалі партызанскія атрады.

## ПАЭЗІЯ ІНДУСТРЫІ (с. 11)

**Упершыню** — Літ. і мастацтва, 1948, 27 лістапада пад загалоўкам «Індустрыяльная тэма ў пасляваеннай беларускай прозе». Гэта скарочаны варыянт даклада «Індустрыяльная тэма ў беларускай літаратуры» на пашыраным пасяджэнні праўлення СП БССР, якое праходзіла 20—21 кастрычніка 1948 г. і было прысвечана пытанням развіцця беларускай літаратуры на сучасным этапе і яе задачам напярэдадні 30-годдзя БССР.

Даклад І. Мележа на пленуме СП БССР з'явіўся першым адказным выступленнем маладога пачынаючага пісьменніка, які здолеў даць грунтоўны аналіз празаічных і паэтычных твораў, прысвечаных рабочай тэме.

Захоўваецца машынапіс (15 с., апошняя рукапісная). На першай старонцы зверху закрэслена паметка, зробленая простым алоўкам: **«Знайсці стэнаграму пленума»** («ЛіМ», 27.XI. 48 г.). Першапачатковая назва «Індустрыяльная тэма ў беларускай літаратуры» таксама закрэслена і зверху дапісана: «Паэзія індустрыі». Праўкі на тэксце зроблены сінім чарнілам і ўсе ўлічаны ў апошнім варыянце артыкула.

С. 12. Вершы М. Танка «Агні Мінска» (1948) [1], «Дружба» (1947). Верш П. Броўкі «Архітэктар» (1947). Вершы К. Кірэенкі «Ля вітрын» (1947), «Вуліца Красная» (1947) [2], «Цягнік» (1947).

«...нізку вершаў Міколы Аўрамчыка аб Данбасе — «Легенда пра залатую зямлю і іншыя».— У цыкл «Данбас» уваходзяць вершы «Данбас», «Радасць», «Беларуская сасна», «Шахцёрка», «Над магілай краснадонцаў», «Легенда аб залатой зямлі» і «...Як вулкан непатухшы, высокі». Усе вершы датуюцца 1947 годам.

С. 13. «...Прыслухайся толькі да сказаў людзей».— Радкі з верша М. Танка «Агні Мінска».

С. 13. «Мы хутка ўбачым на дзялянцы новы цэх...» — Радкі з верша А. Вялюгіна «Вершы пра трактараград».

С. 16. Паэма А. Куляшова «Сцяг брыгады» (1943).

«...Кацярыне ці Януку Сялібе...» — Героі паэмы П. Броўкі «Кацярына» (1937—1938) і М. Танка «Янук Сяліба» (1943).

«З драматычных твораў мы маем толькі п'есу В. Палескага «Песня нашых сэрцаў». Яна дагэтуль не надрукавана, не пастаўлена на сцэне».— П'еса «Песня нашых сэрцаў» («Што пасееш, тое і пажнеш») надрукавана і пастаўлена ў 1949 годзе.

С. 22. «Край балот...» — Радкі з паэмы П. Труса «Дзесяты падмурак» (1928).

---

[1] Да вершаў, паэм і апавяданняў у дужках даецца дата напісання, да раманаў і аповесцей — дата выхаду (у асноўным) першага асобнага выдання.

[2] Іван Мележ, відаць, меў на ўвазе гэты верш, назваўшы яго «Вуліца».

## ПРА ТВОРЧАСЦЬ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА (с. 23)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1946—1948 гг. У «Паказчыку публікацый і выступленняў» пазначана: раздзелы з манаграфіі.

Манаграфія пра К. Чорнага была напісана І. Мележам на працягу 1946—1948 гг. Гэта кандыдацкая дысертацыя, якую пісьменнік, аднак, не прадстаўляў да абароны.

Захоўваецца машынапіс (140 с.) з аўтарскімі праўкамі, зробленымі сінім чарнілам. Назва артыкула напісана рукою аўтара таксама сінім чарнілам. Справа закрэслены радок: «Даць эпіграф: Чорны пра сваю задуму».

Першыя 22 с. пісьменнік не ўключыў у «Ж. к.». Гэта ўступ, у якім даецца агляд крытычнай літаратуры пра творчасць К. Чорнага, робіцца спроба вызначыць асноўныя напрамкі развіцця жанру рамана ў беларускай літаратуры. На палях уступу ёсць аўтарскія паметкі, напісаныя простым алоўкам і сінім чарнілам: «Гэты раздзел пакуль не даваць. Устарэла многае. Няпоўна» і далей: «Уступ зняць. Зняць. Устарэла. Безнадзейна».

Машынапіс складаецца з 9 частак. Назвы частак узяты ў квадратныя дужкі. У трэцяй частцы («Бацькаўшчына») злева, насупраць двух першых абзацаў, паметка, напісаная простым алоўкам: «пазней (?)». Частка VIII мела назву «Мова і стыль», астатнія — па назвах твораў, якія разбіраліся.

На апошняй старонцы пад тэкстам дата: 1948.

Пры падрыхтоўцы да друку «Ж. к.» Мележ перапрацоўваў манаграфію, шмат дапісваў (асабліва ў шостай і сёмай частках), уносіў вельмі істотныя моўна-стылёвыя праўкі. Пісьменнік бачыў недасканаласць сваёй працы. За плячыма быў 25-гадовы творчы шлях, і Мележ, зараз ужо аўтар буйных твораў, здолеў падмеціць тое, што раней заставалася нераскрытым для яго ў выніку адсутнасці асабістага практычнага вопыту і майстэрства. Кампазіцыйна манаграфія не зазнала змен, творчасць Чорнага разглядаецца паэтапна, без вылучэння якой-небудзь адной праблемы. Але сутнасць дапрацовак Мележа вельмі істотна дапаўняе напісанае раней, закранаючы новыя аспекты чорнаўскага майстэрства: псіхалагізм, сістэму вобразаў, асаблівасці стылю. Калі ў першым варыянце даследавання вельмі моцна адчуваецца аўтарскае захапленне пісьменнікам, апісальнасць і некаторая прасталінейнасць у ацэнках твораў і характарыстыках герояў, то ў дапрацаваным варыянце пераважае грунтоўны аналіз мастацкіх вартасцей чорнаўскіх раманаў і вобразаў, падкрэсліваецца глыбокі сацыяльна-філасофскі змест і значэнне творчасці вялікага мастака.

С. 23. Першае маленькае апавяданне К. Чорнага «На граніцы» з'явілася ў газ. «Савецкая Беларусь», 1923, 5 мая.

Апавяданні «Буры» і «Начлег у вёсцы Сінегах» (1926 і 1927) упершыню апублікаваны ў зб. «Вераснёвыя ночы» ў 1929 годзе.

Апавяданне «На пыльнай дарозе» напісана ў красавіку 1926 года, упершыню апублікавана ў зб. «Хвоі гавораць» у гэтым жа годзе.

Апавяданне «Хвоі гавораць» напісана ў маі 1926 года. Упершыню ўрывак з яго надрукаваны ў час. «Чырвоны сейбіт», 1926, № 2, с. 9—10.

С. 24. Апавяданне «Максімка» напісана ў 1924 годзе і ўпершыню апублікавана ў газ. «Савецкая Беларусь», 1924, 1 і 2 кастрычніка. І. Мележ памылкова датуе яго 1925 годам.

С. 25. «...у рамане «Люба Лук'янская».— Мележ называе аповесць раманам.

С. 28. Апавяданне «Пачуцці» напісана ў 1926 годзе. У гэтым жа годзе яно ўпершыню апублікавана ў зборніку пад той жа назвай.

С. 29. Раман «Зямля» выйшаў асобнай кнігай у 1928 годзе. Раман «Сястра» ўпершыню надрукаваны ў час. «Узвышша», 1927, № 2—6; 1928, №№ 1 (7)—4 (10).

С. 39. Раман «Бацькаўшчына» ўпершыню апублікаваны ў час. «Узвышша», 1931, №№ 4—9.

С. 45. П'еса «Ірынка» ўпершыню апублікавана ў час. «Полымя рэвалюцыі», 1941, № 4. Сцэнічнае жыццё гэтай драмы пачалося ў 1941 годзе спачатку на сцэне Другога Беларускага дзяржаўнага тэатра ў Віцебску, а затым у Першым Беларускім дзяржаўным тэатры ў Мінску.

Апавяданне «Дарагуся» ўпершыню змешчана ў газ. «Літ. і мастацтва», 1939, 3 кастр.

С. 49. Раман «Вялікі дзень» няскончаны. Першай публікацыяй з яго з'явіўся ўрывак пад назвай «Навала», змешчаны ў час. «Беларусь», 1946, № 11—12. Большая частка з рамана была надрукавана ў час. «Полымя», 1947, №№ 4—6.

С. 52. Раман «Трэцяе пакаленне» ўпершыню быў надрукаваны ў час. «Полымя рэвалюцыі», 1935, №№ 2—6.

С. 67. Раман «Судны дзень» няскончаны. Рукапіс яго загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны.

«Да нас дайшоў толькі невялікі ўрывак з рамана «Судны дзень». Урывак быў надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва» 11 ліпеня 1940 г. пад назваю «Свая хата».— Мележ у той час не ведаў, што яшчэ адзін урывак з гэтага рамана пад назвай «Песня бою» друкаваўся ў газ. «Літ. і мастацтва», 1940, 3 сак. і ў газ. «Віцеб. рабочы», 1940, 12 крас.

Раман «Вялікае выгнанне» няскончаны, не друкаваўся. Рукапіс загінуў у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. К. Чорны працаваў над ім у 1927—1929 гг. і працягваў працу ў 1940—1941 гг.[1].

Драма «Ірынка» была напісана ў 1940 годзе. Упершыню апублікавана ў час. «Полымя рэвалюцыі», 1941, № 4.

С. 70. П'еса «Бацькаўшчына» мела сваю творчую гісторыю. Першы яе варыянт (драма ў 4-х дзеях) быў напісаны ў 1932 годзе і поўнасцю не друкаваўся. Другі — драма ў 3-х дзеях. Датуецца 1933 годам. Трэці варыянт — гэта тэкст, падрыхтаваны аўтарам да асобнага выдання (1933—1934 гг.). Канчатковы варыянт п'есы К. Чорны завяршыў у 1939 годзе. Упершыню апублікаваны ў час. «Полымя рэвалюцыі», 1939, № 10.

С. 88. «...беспадстаўнасць сцвярджэння А. Кучара, які гаварыў у артыкуле пра «Трэцяе пакаленне».— Артыкул А. Кучара «Трэцяе пакаленне» К. Чорнага» быў змешчаны ў час. «Полымя», 1936, № 7, с. 107—118.

---

[1] Чорны Кузьма: 1900—1944. Бібліяграфічны даведнік.— Мн.: Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна, 1954, с. 36.

С. 90. «Якуб Колас пісаў, што творчасць Чорнага з'яўляецца «вельмі паказальнай у адносінах моўнай дбайнасці, чыстаты, цікавай пабудовы сказаў».— І. Мележ тут і далей цытуе артыкул Я. Коласа «Развіваць і ўзбагачаць літаратурную мову»[1]. Наступная цытата прыводзіцца не зусім дакладна. У Я. Коласа: «Там ёсць шмат чаму павучыцца: пісьменнік умеў адкрыць новае гучанне слова, умеў выказваць усё, што турбавала яго, з вялікай дасканаласцю».

«Сачыце за чыстатой свае мовы. Займайцеся заўсёды сваёй беларускай мовай,— пісаў Чорны аўтару гэтай працы.— Ведайце, што мова гэта аснова літаратуры».— Мележ прыводзіць вытрымку з ліста К. Чорнага да яго ад 3 лютага 1944 года[2].

## АГНІ НАД РУІНАМІ (с. 106)

Упершыню — Звязда, 1949, 1 мая пад загалоўкам «Наша вясна». У зб. «Ж. к.» артыкул памылкова датуецца 1948 годам.

Артыкул быў змешчаны ў святочным нумары газеты і меў уступ, які адсутнічае ў «Ж. к.». Ва ўступе пісьменнік гаворыць пра вясну, што сімвалізуе радасны святочны настрой нашага народа, які перамог у цяжкай барацьбе з фашызмам і з вялікім энтузіязмам адбудоўвае гарады і вёскі. Гэтым можна тлумачыць і замену першапачатковага загалоўка.

Невыпадковым з'яўляецца і зварот пісьменніка да падзей Вялікай Айчыннай вайны. Ішоў ужо другі год працы І. Мележа над раманам «М. н.». У гэты перыяд пісьменнік вывучаў матэрыялы, звязаныя з гістарычнай бітвай за Беларусь. Ён добра ведаў кірункі франтоў, амаль кожную іх аперацыю. Таму ў пачатку артыкула аўтар апісвае сапраўдны гістарычны факт. Артыкул, змешчаны ў кнізе «Ж. к.», перапрацаваны: ёсць скарачэнні і дапаўненні, значная частка апошніх датычыцца сапраўдных падзей і пэўных людзей. Гэта акалічнасць дае падставы меркаваць, што частка матэрыялаў не ўвайшла ў газетны варыянт артыкула і была выкарыстана пісьменнікам пры падрыхтоўцы «Ж. к.»[3].

Захоўваецца машынапіс (6 с.) з аўтарскімі праўкамі, зробленымі фіялетавым чарнілам. Загаловак напісаны простым алоўкам.

С. 107. Гомельскі станкабудаўнічы завод імя Кірава заснаваны ў 1892 як чыгуналіцейныя майстэрні. У Айчынную вайну эвакуіраваны ў Свярдлоўск, дзе выпускаў прадукцыю для фронту. Першую пасляваенную прадукцыю ў Гомелі пасля аднаўлення выдаў у 1945 годзе.

Мінскі аўтамабільны завод — адзін з буйнейшых у нашай краіне па вытворчасці дызельных аўтамабіляў. Пачатак будаўніцтва ў 1944 годзе. Першую прадукцыю — аўтамабілі-самазвалы МАЗ-205 — выпусціў у 1947 годзе.

---

[1] Колас Я. Збор твораў: У 14-ці т. Т. 12.— Мн.: Маст. літ., 1976, с. 132—136.

[2] Ліст захоўваецца ў архіве сям'і І. Мележа.

[3] Дадзенае выданне, с. 108, радкі 9—14, 28—40; с. 109, радкі 17—27; с. 110—111, радкі 36—44, 1—18.

Мінскі трактарны завод пачаў будавацца ў 1946 годзе. Першыя колавыя трактары МТЗ-2 выпусціў у кастрычніку 1953 года. 5 лістапада 1972 г. МТЗ выпусціў мільённы трактар. Зараз трактары МТЗ працуюць на палях многіх краін свету.

С. 108. Пастанова Савета Міністраў СССР «Аб мерах дапамогі сельскай гаспадарцы Беларускай ССР у 1949 годзе» была прынята 8 лістапада 1948 года.

«Нядаўна мы сустракалі дэлегацыю Сталінграда ў нас у Мінску».— Дэлегацыя будаўнікоў Сталінграда прыязджала ў Мінск у 1948 годзе. Дагавор аб супрацоўніцтве паміж будаўнікамі двух гарадоў быў падпісаны ў 1947 годзе [1], і з гэтага часу пачалася працоўная дружба і спаборніцтва, якія сталі традыцыйнымі і працягваюцца да нашых дзён.

С. 109. Цэлюлёзна-папяровы камбінат «Герой працы» ў Добрушы аднавіў выпуск прадукцыі ў 1945 годзе.

«У гэтым годзе ў Мінску пачалося будаўніцтва новай Савецкай вуліцы».— Савецкая вуліца ў гады Вялікай Айчыннай вайны была вельмі разбурана, па генеральнаму плану рэканструкцыі Мінска была перайменавана ў Ленінскі праспект, які з'явіўся галоўнай магістраллю горада.

С. 110. «Наша рэспубліка вельмі бедная выкапнямі. У нас няма ні вугалю, ні нафты, ні жалеза».— Мележ у 1949 годзе яшчэ не мог уявіць сабе, што ўжо літаральна ў наступным дзесяцігоддзі ў рэспубліцы будзе атрыманы першы фантанны прыток нафты. У 1964 г.— адкрыта Рэчыцкае і іншыя радовішчы. У 1966—1968 гг. у межах Прыпяцкай упадзіны адкрыты сланцаносны басейн, у 1969 г.— першае ў рэспубліцы прамысловае радовішча бурага вугалю ў раёне г. Жыткавічы, у 1973 г.— Брынёўскае радовішча. У 1949 г. у раёне Старобіна выяўлена Старобінскае, а пазней Петрыкаўскае радовішчы калійнай і каменнай солей і Мазырскае радовішча каменнай солі. На іх аснове ў БССР створана горна-здабыўная прамысловасць.

Асінаўская ДРЭС, першая электрастанцыя на Беларусі, пабудаваная ў перыяд ажыццяўлення плана ГОЭЛРО. Будаўніцтва пачалося ў 1927 годзе каля в. Арэхі Аршанскага раёна на Асінаўскіх балотах.

## ІДЭАЛЬНЫ ВОБРАЗ РУСКАГА ПІСЬМЕННІКА (с. 112)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1953 годам. Уступнае слова на гарадскім вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння У. Г. Караленкі, які адбыўся 27 ліпеня 1953 года ў памяшканні Рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага. На вечары выступілі М. Паслядовіч, Я. Брыль і інш.

Захоўваецца машынапіс (3 с.) з аўтарскімі праўкамі, зробленымі сінім чарнілам. Назва артыкула, напісаная ад рукі, падкрэслена.

С. 112. «Караленка пачаў друкавацца ў 1878 годзе...» — Гэта быў газетны артыкул аб вулічным здарэнні, у якім пісьменнік разглядзеў праявы паліцэйскіх бясчынстваў над пецярбургскай беднатой.

[1] Советская Белоруссия, 1960, 18 верас.

Апавяданні «Сон Макара» (1883), «Рака гуляе» (1891); аповесці «Без языка» (1895), «Сляпы музыка» (1886), «Гісторыя майго сучасніка» (1905—1921).

С. 113. Мултанскі працэс.— Працэс 1892—1896 гг. над групай сялян — удмуртаў (вацякоў), якіх абвінавачвалі ў чалавечым ахвярапрынашэнні паганскім багам. Паклёпніцкае абвінавачванне было высунута паліцэйскімі ўладамі для распальвання нацыянальнай розні. У. Караленка з выключнай мужнасцю выступіў у абарону ўдмурдскага народа. Яго рэзкія артыкулы, якія выкрывалі царскі суд, ускалыхнулі грамадскасць і прымусілі перагледзець справу. У выніку ўдмурдскія сяляне былі апраўданы. У артыкуле «Аб літаратуры» ў 1930 годзе М. Горкі пісаў: «Мултанскае ахвярапрынашэнне» вацякоў — працэс не менш ганебны, чым «справа Бейліса»,— прыняў бы яшчэ больш змрочны характар, калі б У. Караленка не ўмяшаўся ў гэты працэс і не прымусіў друк звярнуць увагу на ідыёцкае цемрашальства самадзяржаўнай улады».

«Справа Бейліса» — пад такім агульным загалоўкам друкаваў У. Г. Караленка ў Кіеве ў 1913 годзе матэрыялы аб працэсе Бейліса. Пісьменнік выступаў у абарону М. Бейліса, прыказчыка завода, якога абвінавацілі ў забойстве хлопчыка з рытуальнай мэтай. Гэты працэс спатрэбіўся самадзяржаўю, каб выклікаць новую хвалю антысемітызму, разгул рэакцыі для распальвання нацыянальнай варожасці паміж народамі Расіі.

Справа Філонава.— Гаворка ідзе аб падзеях, якія адбыліся ў 1905 годзе, калі паліцэйскі карны атрад на чале з Філонавым учыніў расправу над сялянамі вёскі Сарачынцы Палтаўскай губерні. Пісьменнік выступіў у газеце «Палтаўшчына» з «Адкрытым лістом», у якім патрабаваў суда над Філонавым. Праз некалькі дзён пасля апублікавання гэтага ліста Філонаў быў забіты стрэлам з рэвальвера. Чарнасоценны друк пачаў траўлю пісьменніка, абвінаваціўшы яго ў падбухторванні да забойства. Адказы Караленкі склалі цыкл нарысаў пад назвай «Сарачынская трагедыя».

«...у артыкуле «Бытавая з'ява», які Леў Талстой лічыў важнейшым за любы трактат і любы раман.» — Маецца на ўвазе ліст Л. Талстога да У. Караленкі ад сакавіка-красавіка 1910 года: «Яго трэба перадрукаваць і распаўсюджваць у мільёнах экземпляраў. Ніякія думскія прапановы, ніякія трактаты, ніякія драмы, раманы не зробяць адной тысячнай таго дабратворнага дзеяння, якое павінен зрабіць гэты артыкул».

«Бог з імі, з Еўропамі і Амерыкамі.» — І. Мележ цытуе радкі з ліста У. Г. Караленкі да А. С. Караленка з Нью-Йорка ад 6 (18) жніўня 1893 г.

## НАШ РАМАН І ЯГО КРЫТЫКІ (с. 114)

Упершыню — «Ж. к.», дзе памылкова датуецца 1950 годам. Вывучэнне зместу дае ўсе падставы датаваць артыкул 1954 годам. Зусім відавочна, што гэты тэкст з'яўляецца выступленнем, падрыхтаваным да III з'езда пісьменнікаў БССР, які праходзіў 15—18 верасня 1954 года. Са справаздачным дакладам на з'ездзе выступіў П. Броўка.

Захоўваецца чарнавы рукапіс (9 с.), напісаны на жоўтых лістах паперы фіялетавым чарнілам. У тэксце ёсць праўкі, зробленыя сінім чарнілам. На некаторых старонках — шматслаёвыя праўкі. Аналітычная зверка рукапісу з асноўным тэкстам дае падставы сцвярджаць, што праўкі былі зроблены пісьменнікам пры падрыхтоўцы да выдання «Ж. к.».

С. 115. «...як марыў Кузьма Чорны створыць мнагатомную эпапею гісторыі беларускага народа — задуму, якую ён ажыццявіў толькі часткова».— Мележ тут гаворыць аб раманах «Трэцяе пакаленне», «Люба Лук'янская», «Судны дзень», «Вялікае выгнанне», што ўваходзілі ў задуманы К. Чорным цыкл раманаў, якія пісьменнік не паспеў завяршыць.

Артыкул Д. Палітыкі «Аб мастацкім асэнсаванні падзей» быў апублікаваны ў газ. «Звязда», 1954, 7 ліп.

С. 117. Матэрыялы з запісных кніжак П. Паўленкі былі змешчаны ў час. «Знамя», 1954, №№ 6—7.

С. 118. Першая частка аповесці «Высокі бераг» апублікавана ў 1950 годзе. Рэцэнзія В. Чыжэўскага «Ідэйны і мастацкі брак» (раман В. Вольскага «Высокі бераг») была надрукавана ў газ. «Літ. і мастацтва», 1950, 8 крас.

«Паставіў кропку і падаўся зноў у фальклор...» — Мележ, відаць, мае на ўвазе кнігу «На лясных сцежках» (1948).

## ВЯЛІКІ КЛОПАТ (с. 121)

Упершыню — «Ж. к.», дзе памылкова датуецца 1957 годам. Другі ўсесаюзны з'езд пісьменнікаў, аб якім ідзе размова ў артыкуле, адбыўся ў снежні 1954 года. Інтэрв'ю «Лит. газ.» дадзена пісьменнікам напярэдадні з'езда, і таму яно датуецца 1954 годам. Выказванне І. Мележа ў матэрыялах газеты пад рубрыкай «Чего мы ждем от съезда» не было апублікавана.

Захоўваецца машынапіс (3 с.) на рускай мове. На першай старонцы рукою Мележа сінім чарнілам напісаны загаловак. Ёсць паметкі: «Даць асобна», «Чего мы ждем от съезда». Абедзве паметкі закрэслены. Праўкі ў тэксце зроблены фіялетавым чарнілам. Пад тэкстам два подпісы: Іван Мележ і фіялетавым чарнілам: Ів. Мележ. У дужках простым алоўкам напісана: «інтэрв'ю карэспандэнту «Лит. газеты». Друк. упершыню».

С. 122. Аповесць Я. Брыля «У Забалоцці днее» выйшла ў 1950 годзе.

С. 123. «Некалькі гадоў назад Дзяржлітвыдавецтва выпусціла ў свет аднатомнік аднаго з лепшых пісьменнікаў Беларусі Кузьмы Чорнага».— Мележ гаворыць аб кнізе: Чорный К. Избранное: Рассказы, повести и романы./Пер. с белорус. М. Шамбадала.— М.: Худож. лит., 1950.

## МЫ ПОМНІМ (с. 124)

Упершыню — Настаўн. газ., 1954, 9 снеж. пад назвай «Папярэдзіць падпальшчыкаў вайны». У «Ж. к.» памылкова датуецца 1955 годам.

Артыкул быў напісаны ў перыяд, калі ва ўсім свеце разгарнулася барацьба ў абарону міру супраць падпальшчыкаў вайны. Гэты моцны рух прыхільнікаў міру знайшоў сваё адлюстраванне ў звароце да народаў Еўропы, які быў прыняты ў Вене 19 студзеня 1955 г.

Захоўваецца машынапіс (2 с.). Загаловак напісаны фіялетавым чарнілам. Апошнія два абзацы тэксту закрэслены простым алоўкам.

С. 124. «Дэкларацыя, падпісаная ў Маскве міралюбівымі еўрапейскімі краінамі разам з Савецкім Саюзам...» — Мележ гаворыць аб Дэкларацыі ў абарону міру, якая была падпісана 2 снежня 1954 года.

## ВАКОЛ ПРЫВЫЧНЫХ ІМЁН (с. 126)

Упершыню — «Ж. к.», дзе недакладна датуецца чэрвенем 1955 года. Выступленне пісьменніка на Першай усесаюзнай нарадзе па пытаннях развіцця ваенна-мастацкай літаратуры, скліканай СП СССР. Нарада праходзіла 27—31 мая 1955 года ў Маскве ў Цэнтральным Доме Савецкай Арміі. У яе рабоце прынялі ўдзел больш 300 літаратараў. Мележ выступіў 31 мая на вячэрнім пасяджэнні. 29 мая разам з П. Пестраком прымаў удзел у сустрэчы ўдзельнікаў нарады з воінамі Маскоўскага гарнізона.

Друкавалася ў частковым пераказе — Лит. газ., 1955, 2 чэрв.

Захоўваецца рукапіс (5 с.), напісаны на рускай мове фіялетавым чарнілам. Зверху закрэслена: «З выступлення на Усесаюзнай нарадзе па ваенна-мастацкай літаратуры, чэрвень 1955 г., Масква».

Аналітычная зверка рукапісу з асноўным тэкстам дала магчымасць выявіць некаторыя змены ў тэксце, зробленыя пісьменнікам пры падрыхтоўцы да друку «Ж. к.» [1].

Праўкі і дапаўненні носяць характар больш завостранай пастаноўкі рада канкрэтных пытанняў, звязаных з узмацненнем сувязей з пісьменнікамі краін народнай дэмакратыі, пераглядам няправільных адносін да твораў пра вайну «літаратураў з рэспублік» з боку ўсесаюзнага друку і асобных крытыкаў.

С. 126. Першая частка рамана «Мінскі напрамак» выйшла з друку ў 1950 годзе.

«...т. Рудны, гаварылі і пра гэтыя кнігі...» — Ул. Рудны на нарадзе ў Маскве выступіў з дакладам «Аб дакументальных кнігах і мемуарах».

«...да пераказу недарэчнасцей з рамана Васіля Кучара».— Размова ідзе, магчыма, пра раман «Чарнаморцы» (1948).

«У артыкуле ў «Литературной газете» т. Тарасенкаў...» — Мележ гаворыць пра артыкул Ан. Тарасенкава «С оружием в руках» (О военно-патриотических традициях советской литературы), змешчаны ў «Лит. газ.», 1955, 10 мая.

---

[1] Дадзенае выданне, с. 127, радкі 2—3: «ненармальна слабыя»; радок 5: «Але, на жаль, мы маем не толькі гэты недагляд»; радкі 6—7: «многіх крытыкаў»; радок 14: пераказу недарэчнасцей»; радкі 19—20: «Даходзіць да кур'ёзаў».

«Даходзіць да кур'ёзаў: у трохтомным выданні «Апавяданні савецкіх пісьменнікаў...» — Мележ мае на ўвазе кнігу: Рассказы советских писателей: В 3-х т. /Составители Н. С. Атаров и В. А. Ковалевский.— М.: Гослитиздат, 1952.

«...пра Пікуля, пра яго кнігу...» — І. Мележ, магчыма, мае на ўвазе раман «Акіянскі патруль» (1954).

«...Рачыя Качар, аўтар шэрагу цікавых ваенных апавяданняў і рамана...» — Раман «Дзеці вялікага дома» (1954).

«...Абдурахман Абсалямаў — аўтар двух раманаў...» — І. Мележ, магчыма, мае на ўвазе раманы «Арлята» (1949) і «Газінур» (1953).

## БЫЦЬ У ПЕРШЫМ ЭШАЛОНЕ (с. 128)

Упершыню — Сов. Белоруссия, 1955, 26 чэрв. пад назвай «Литература подвига и любви к Родине».

Захоўваецца выразка з газеты з праўкамі аўтара, зробленымі фіялетавым чарнілам. Першапачатковы загаловак закрэслены і напісаны новы: «Быць у першым эшалоне».

С. 128. Раманы «Разгром» (1927), «Жалезны паток» (1924), «Чапаеў» (1923), «Ціхі Дон» (т. 1—4, 1928—1940), «Блуканне па пакутах» (1920—1941), «Севастопальская страда» (1937—1939), «Порт-Артур» (кн. 1—2, 1940—1941), «Цусіма» (кн. 1—2, 1932—1935).

С. 129. Паэма «Васіль Цёркін» (1941—1945), п'еса «Фронт» (1942), аповесць «Народ бяссмертны» (1942), раман-трылогія «Сцяганосцы» («Альпы», «Блакітны Дунай», 1946—1947; «Злата Прага», 1948), аповесць «Звязда» (1947).

С. 130. Раман «Глыбокая плынь» выйшаў з друку ў 1949 годзе, раман «Згуртаванасць» (1951), аповесць Ул. Карпава «Без нейтральнай паласы» (1950), аповесці Ул. Шахаўца «Землякі» (1949) і «Насустрач» (1951).

«Дрыгва» выйшла з друку ў 1934 годзе.

П'есы А. Кучара: «Заложнікі» (1946, пастаўлена ў 1944), «Гэта было ў Мінску» (1950, пастаўлена ў 1949), «Неспакойныя сэрцы» (1953, пастаўлена ў 1952).

П'есы А. Маўзона: «Канстанцін Заслонаў» (1948, пастаўлена ў 1947), «Наталля Крыўцова» (апублікавана і пастаўлена ў 1954).

Кнігі «Людзі асобага складу» (1952), «Партызанскі край» (1950).

Кнігі Г. Шчарбатава «Партызанскія агні» (1950), «Камсамол Беларусі ў баях за Радзіму» (1950), «Неспакойныя сэрцы» (1951).

С. 131. П'еса «Брэсцкая крэпасць» (1952).

«Праз горы і стэп» (1932).

С. 132. «...А. Алешка, аўтар увогуле цікавай аповесці пра ваенных лётчыкаў...» — Мележ гаворыць пра кнігу «Раніца» (1949).

«Пра армію напісалі творы нашы рускія пісьменнікі — афіцэры — Пранякін, аўтар аповесці «Курсанты», і А. Іваноў, які выступіў з раманам «На Далёкім Усходзе».— Пронякин Ю. Ф. Курсанты.— М.: Воениздат, 1954.— 248 с.; Иванов А. В. На Дальнем Востоке.— Мн.: ДВБ.— 380 с.

«Сябрам-лётчыкам прысвечаны зборнік вершаў Н. Шамава «Дзяжурнае звяно».— Шамов И. В. Дежурное звено.— М.: Воениздат, 1953.— 64 с.

ЧОРНЫЯ СІЛУЭТЫ (с. 134).

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1956, 28 студз. Напісаны ў адказ на эпіграмы, змешчаныя ў час. «Беларусь», 1956, № 1, с. 28 пад назвай «Мастацкія сілуэты» (Л. Ржэцкая, К. Саннікаў, В. Пола, Я. Цікоцкі) і «Літаратурныя сілуэты» (А. Куляшоў, І. Мележ, Э. Агняцвет, А. Макаёнак). Аўтары эпіграм: А. Бялевіч, Э. Валасевіч і А. Вялюгін.

С. 134. «Беларусь», штомесячны ілюстраваны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс, орган Саюза пісьменнікаў БССР. Выдаецца са студзеня 1944 года.

«...Я. Цікоцкі зусім і не кампазітар — бо які ж ён кампазітар, калі ён «гняце сваю ліру»?» — Эпіграма на Я. Цікоцкага:

«Што за гул, што за гром у эфіры?
Што за музыка рвецца такая?
То Цікоцкі гняце сваю ліру,
Гукі-громы ■ яе выціскае!»

«...што артыстка В. Пола, відаць, незаслужана атрымала Дзяржаўную прэмію за ўдзел у спектаклі «Пяюць жаваранкі»...» — Дзяржаўную прэмію СССР В. Пола атрымала ў 1952 годзе за ролю Паліны Бохан у спектаклі па п'есе К. Крапівы «Пяюць жаваранкі».

«...бо з даўніх часоў, калі стварыла вобраз Агаты ў «Паўлінцы», яна, бачыце, не зрабіла ні кроку наперад: «ні тудэма ні сюдэма!..» — Эпіграма на В. Полу:

«З тае пары вады сплыло багата,
Калі стварыла вобраз ты Агаты.
Чакаем новых поспехаў усе мы —
Ты ж — «ні тудэма ні сюдэма»...»

«...што рэжысёр К. Саннікаў спіць на рэпетыцыях...» — Эпіграма на К. Саннікава:

«Багата роляў
За свой век сыграў.
У лаўрах чалавек...
Ды Костусь без амбіцыі...
Ён для мастацтва
Гэтак працаваў,
Што зморany
Часамі спіць на рэпетыцыі.»

«...што А. Куляшоў «пристаў» у «Грознай пушчы»...» — Эпіграма на А. Куляшова:

«Крыху пристаў у «Грознай пушчы».
Параду даць цябе мы рады:
Чарпні глыбей з народнай гушчы,
Нясі высока «Сцяг брыгады»!»

Паэма А. Куляшова «Грозная пушча» была напісана ў 1955 годзе.

«З гэтага ж аддзела я даведаўся, што раман «Мінскі напрамак» горшы за апавяданне «У завіруху», напісанае шмат год назад».— Эпіграма на І. Мележа:

«Напрамак Мінскі... Стук і грук...
Багата звону, шуму, руху...
Але прызнаемся, Янук:
Пісаў ты лепш «У завіруху».

Апавяданне «У завіруху» датуецца 1944 годам, упершыню апублікавана ў час. «Беларусь», 1945, № 1. Першы буйны твор пісьменніка «Мінскі напрамак» завершаны ў 1952 годзе.

«Праўда, часопіс у свой час (1953, № 6) даў раману добрую ацэнку».— Мележ мае на ўвазе рэцэнзію Р. Ярохіна «Мінскі напрамак».

С. 134. «...што ў гэтым жа нумары ў рэцэнзіі «Для самых юных» рукой услужлівага К. Іванюка намаляваны ружовы сілуэт самога рэдактара часопіса».— Гаворка ідзе пра рэцэнзію К. Іванюка на зборнік апавяданняў І. Гурскага[1], які з'яўляўся ў той час галоўным рэдактарам часопіса «Беларусь».

## СІЛА БРАТЭРСТВА (с. 135)

Упершыню — Московские новости, 1957, 28 ліп. на англійскай і французскай мовах.

Захоўваецца машынапіс (3 с.) на рускай мове. У канцы дата: VII.1957 г. Месяц і подпіс: І. Мележ закрэслены.

## СТАРАЖЫТНЫ І МАЛАДЫ (с. 138)

Упершыню — Правда, 1957, 4 кастр. пад назвай «Древний и юный город».

Захоўваецца выразка з газеты з праўкамі аўтара, зробленымі фіялетавым чарнілам. У назве артыкула закрэслена апошняе слова.

С. 138. «Слова аб палку Ігаравым» (1187) — помнік старажытна-рускай літаратуры канца 12 стагоддзя.

Паўночная вайна (1700—1721) — вайна Расіі супраць Швецыі за выхад да Балтыйскага мора.

Першы з'езд РСДРП адбыўся нелегальна 1—3 (13—15).3.1898 года ў Мінску, абвясціў заснаванне марксісцкай Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП).

Дом урада.— Пабудаваны ў 1933—1934 гг. па праекту Г. Лангбарда.

Палац піянераў.— Палац піянераў і школьнікаў пабудаваны ў 1936 годзе па праекту А. Воінава.

---

[1] Гурскі І. Неспакойныя характары: Зборнік апавяданняў.— Мн.: ДВБ, 1955.

С. 140. «У Мінску да сённяшняга дня захаваўся асабняк на адной з цэнтральных вуліц, у якім адважнымі партызанамі быў пакараны вярхоўны нямецкі «правіцель» Беларусі, гітлераўскі гаўляйтэр Кубэ».— Генеральны камісар Беларусі В. Кубэ быў знішчаны А. Мазанік у ноч на 22.9.1943 года магнітнай мінай па заданню камандавання партызанскага атрада «Дзімы». Асабняк стаяў на вуліцы Энгельса. Зараз гэтага будынка няма.

Былая Камароўка.— Зараз плошча імя Я. Коласа.

Далгабродская вуліца.— Зараз вуліца Казлова В. І.

С. 141. Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача быў адкрыты 8 красавіка 1956 года спектаклем «Як гартавалася сталь».

П'еса К. Губарэвіча «Галоўная стаўка» (1957).

С. 141. «Здымае фільм «Нявестка» кінастудыя».— Фільм выйшаў на экран у 1958 годзе пад назвай «Шчасце трэба берагчы». (Сцэнарый напісаны А. Макаёнкам па матывах аповесці А. Кулакоўскага «Нявестка»).

## СЛОВА ПРА ЯКУБА КОЛАСА (с. 142)

Упершыню — «Ж. к.», дзе недакладна датуецца лютым 1957 года. Прамова, з якой выступіў І. Мележ на вечары, прысвечаным 75-годдзю з дня нараджэння Я. Коласа. Вечар адбыўся ў Маскве, у ЦДЛ 26 лістапада 1957 года.

Захоўваюцца 7 машынапісных старонак (1—7) і 5 рукапісных (8—12) прамовы, на рускай мове з аўтарскімі праўкамі, зробленымі сінім чарнілам. Пад тэкстам дата: 1957. На першай машынапіснай старонцы паметка: «Уступнае слова на вечары, прысвечаным 75-годдзю з дня нараджэння Я. Коласа» і ад рукі фіялетавым чарнілам: Масква, 26.11.57 г.

С. 143. Верш «Не пытайце, не прасеце» Я. Колас напісаў у 1904 годзе.

С. 144. Верш «Будзь цвёрды» датуецца 1912 годам.

«Багачы і панства...» — Радкі з верша «Ворагам», які датуецца 1906 годам.

Верш «Мужык» напісаны ў 1909 годзе.

Зборнік вершаў «Песні-жальбы» выйшаў у Вільні ў 1910 годзе.

С. 144. Паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка» былі апублікаваны адпаведна ў 1923 і ў 1925 гадах.

«...Я веру цвёрда ў тое...» — Радкі з верша «Эй, скажы мне, небарача» (1912).

«У вершы, датаваным 1912 годам, ён заклікае рэвалюцыю «грымнуць дужэй».— Мележ гаворыць аб вершы «Будзе навальніца» (1912).

С. 145. «...калі ён вярнуўся ў Мінск.» — Я. Колас вярнуўся ў Мінск у 1921 годзе па выкліку ўрада БССР.

С. 145. «У палескай глушы» (1923), «У глыбі Палесся» (1927), «На ростанях» (1949—1954). Асобным выданнем палеская трылогія выйшла ў 1955 годзе.

С. 146. П'еса «Вайна вайне» была напісана ў 1938 годзе.

«...Беларускага універсітэта, створанага ў Мінску ў першыя гады Савецкай улады».— Беларускі дзяржаўны універсітэт заснаваны ў Мінску 11.7.1921 года.

«...з часу заснавання Акадэміі навук...» — Акадэмія навук БССР была заснавана 1 студзеня 1929 года.

С. 147. «Суд у лесе» (1943), «Адплата» (1946). Над паэмай «Рыбакова хата» Я. Колас пачаў працаваць у 1939 годзе.

С. 148. «У калгаснай беларускай газеце быў надрукаваны яго агранамічны артыкул...» — Мележ меў на ўвазе артыкул «Справа, якая заслугоўвае ўвагі», змешчаны ў газ. «Калгасная праўда», 1953, 1 верас.

«Незадоўга да смерці сваёй ён выступіў з заклікам «ачысціць беларускія палі ад камення...» — На XXII з'ездзе КПБ 25 студзеня 1956 года Я. Колас выступіў з прамовай аб ачыстцы палёў ад камення. Прамова была надрукавана ў газ. «Звязда», 1956, 27 студз.

«Некалі, гадоў 45 назад, Якуб Колас напісаў верш пра адзінокі колас, што «спее-даспявае сіратой».— Верш, аб якім гаворыць Мележ, называецца «Жытні колас» (1908). Пісьменнік перафразаваў першую страфу:

«На саломцы тонкай
У траве густой
Сінее адзінокі
Колас сіратой».

## РАДУЮСЯ І ГАНАРУСЯ (с. 149)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1958, 27 снеж. Артыкул напісаны напярэдадні святкавання 40-годдзя БССР.

Захоўваецца выразка з газеты з паметкай, напісанай сінім чарнілам: «ЛіМ», 27.12.58».

С. 150. Другім ордэнам Леніна рэспубліка была ўзнагароджана ў сувязі з яе 40-годдзем Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 22 снежня 1958 года.

## НАПЕРАД І ЎВЫСЬ! (с. 151)

Упершыню — Сов. Белоруссия, 1959, 3 ліп. Артыкул напісаны ў 15-ю гадавіну вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Захоўваецца выразка з газеты з паметкай, зробленай сінім чарнілам: «Сов. Белоруссия», 3.VII.59 г.»

## КАЛІ ГАРТАЕШ СТАРОНКІ... (с. 155)

Упершыню — як уступ да зб. «Што ён за чалавек».— Мн.: ДВБ, 1961.

Захоўваецца друкаваны тэкст (2 с.) з кнігі «Што ён за чалавек» пад загалоўкам «Гартаючы старонкі...». Сінім чарнілам аўтар закрэсліў першае слова і зверху дапісаў: «Калі гартаеш». Пад тэкстам дата і подпіс: 1960 г. Іван Мележ.

С. 155. Апавяданне «Сустрэча» («Сустрэча ў шпіталі») упершыню апублікавана ў газ. «Звязда», 1944, 25 лістап.; апавяданне «Апошняя аперацыя» — «Звязда», 1945, 17 лют.

Апавяданне-нарыс «Чулае сэрца» надрукавана ў газ. «Літ. і мастацтва», 1955, 3 снеж.

«У тым жа нумары «Звязды», дзе яго імя было абведзена жалобнай рамкай, паявілася ў друку першае маё апавяданне...» — Мележ мае на ўвазе апавяданне «Сустрэча».

С. 155. Апавяданне «У завіруху» ўпершыню змешчана ў час. «Беларусь», 1945, № 1, с. 49—53.

С. 156. Аповесць «Гарачы жнівень» упершыню апублікавана ў час. «Полымя», 1946, № 10, с. 71—76.

Нарыс «Дарогі на ўсход і на захад» (1947) пад назвай «Заўсёды наперадзе» ўпершыню апублікаваны ў час. «Полымя», 1948, № 4, с. 59—84.

Нарыс «Ліпень у дарозе» (1956) упершыню надрукаваны пад назвай «Вакол Еўропы» (з падзагалоўкам «Ліcткі з блакнота») у час. «Полымя», № 10, с. 117—134.

«...у гэтай кнізе, з вялікімі ці малымі «перапынкамі», якія аддадзены раману і п'есам...» — І. Мележ гаворыць аб рамане Мінскі напрамак» (1947—1952) і п'есах «Хто прыйшоў уночы» (1959), «Пакуль маладыя» (1956), «Дні нараджэння» (1958) і «У новым доме» (1971) [1].

С. 157. Апавяданні «Спатканне за горадам» (1956), «У гарах дажджы» (1956), «Што ён за чалавек» (1961); аповесці «Гарачы жнівень» (1946), «Зямля, якую любіш» (1954), «Дом пад сонцам» (1954).

«...ляжыць папка з новым раманам «Людзі на балоце». Раман ужо блізкі да завяршэння».— Раман «Людзі на балоце» асобным выданнем выйшаў у 1962 годзе ў Мінску ў Дзяржвыдаце БССР.

## ДОБРАЯ ПАРА! (с. 159)

Упершыню — Сов. Белоруссия, 1961, 17 кастр. Артыкул напісаны да адкрыцця 17 кастрычніка 1961 года ў Маскве XXII з'езда КПСС, які прыняў Праграму Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Захоўваецца выразка з газеты з аўтарскімі праўкамі, зробленымі фіялетавым чарнілам.

С. 162. «Новыя ноткі іншы раз улоўліваюцца і ў голасе амерыканскага прэзідэнта...» — Мележ мае на ўвазе 35 прэзідэнта ЗША Д. Кенедзі, які схіляўся да больш рэалістычнага курсу ў адносінах да Савецкага Саюза.

## ПРА ПРАВЫ І ПРА АБАВЯЗКІ (с. 164)

Упершыню — Звязда, 1961, 21 снеж. пад загалоўкам «Крыніца творчасці» пад рубрыкай «Пісьменнік і час». Артыкул напі-

---

[1] У дужках даты першых публікацый. Апошняя п'еса датуецца 1957, 1960 гг.

саны на матэрыяле выступлення І. Мележа ў СП БССР на адкрытым партыйным сходзе, прысвечаным вынікам XXII з'езда КПСС, які адбыўся 17 кастрычніка 1961 года.

Захоўваецца выразка з газеты. На тэксце артыкула першапачатковы загаловак заменены аўтарам на новы: «Пра правы і абавязкі». Ёсць нязначныя праўкі, зробленыя фіялетавым чарнілам, на асобнай старонцы рукою Мележа дапісана заключэнне артыкула [1].

Пад тым жа парадкавым нумарам (№ 24) захоўваецца яшчэ адна выразка з газеты з паметкай: «Выступленне на партсходзе 17 лістапада 1961 г.». Тэкст з інфармацыяй аб партсходзе і з пераказам выступленняў пісьменнікаў, якія прынялі ўдзел у абмеркаванні даклада, закрэслены простым алоўкам.

С. 166. «Нарысы гісторыі савецкай беларускай літаратуры», выдадзеныя ў 1954 годзе.— Гаворка ідзе аб кнізе «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры».— Мн.: Дзяржаўнае гучэбна-педагагічнае выдавецтва Міністэрства асветы БССР, 1956.

## ЗАЎВАГІ Ў СПРЭЧКАХ (с. 168)

Друкуецца па «Ж. к.» з праўкамі па рукапісу (5 с.), напісанаму сінім чарнілам. Ёсць праўкі (асабліва многа на 2 с.) і ўстаўкі. Пад тэкстам дата: 1961.

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1961 годам. Напісаны на падставе выступлення на Трэцім пленуме СП БССР, які праходзіў 18—19 сакавіка 1957 года. Пленум абмеркаваў становішча беларускай савецкай літаратуры пасля XX з'езда КПСС. З дакладам выступіў П. Броўка.

Захоўваецца чарнавыя накіды (с. 1—1 адв.), напісаныя фіялетавым чарнілам. Справа: «На пленуме». У накідах 5 пунктаў: 1. Даклад; 2. Гісторыя л-ры; 3. Л-ра і школа; 4. Нігілізм да бел. л-ры, культуры; 5. Аб грамадскай працы. У тэксце накідаў ёсць праўкі, зробленыя сінім чарнілам.

Захоўваецца выразка з газ. «Літ. і мастацтва», на якой Мележ памылкова паставіў дату: 23.3.61. На самай справе, гэта выразка з газеты ад 23 сакавіка 1957 года, дзе змешчаны матэрыялы пленума. Сярод іх вытрымкі з выступлення Мележа і часткова яго пераказ.

Артыкул пад назваю «Заўвагі ў спрэчках» быў напісаны на падставе накідаў і выразкі з газеты. Відаць, дата пад рукапісным тэкстам была перанесена пісьменнікам з газетнай выразкі.

Дакладную дату напісання артыкула цяжка ўстанавіць. Але вывучэнне архіўных матэрыялаў дае падставы меркаваць, што ён быў напісаны ў перыяд падрыхтоўкі да друку «Ж. к.». Тое ж можна сказаць і пра артыкулы «Раман і яго праблемы» (1967) і «На вышыні жыцця» (1968), якія напісаны таксама сінім чарнілам на аднолькавай паперы.

С. 170. «Я цалкам падтрымліваю пафас А. Адамовіча, які бачыць нашу літаратуру як «багацце творчых індывідуальнасцей».— Мележ мае на ўвазе артыкул «Багацце творчых індыві-

---

[1] Дадзены том, с. 166—167, радкі 40—47, 1—8.

дуальнасцей», які быў змешчаны ў газ. «Літ. і мастацтва», 1957, 9 і 13 сак.

С. 171. «...завальвае школьныя бібліятэкі выданнямі тыпу «Капитана Сорвиголова».— Мележ гаворыць пра кнігу: Буссенар Луи. Капитан Сорвиголова.— Мн.: Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва Міністэрства асветы БССР, 1956.— Тыраж 100 000 экз.

## АДКАЗНАСЦЬ ПЕРАД НАРОДАМ (с. 173)

Упершыню — Красная звезда, 1962, 22 лют.

Артыкул прысвечаны 44-й гадавіне Савецкай Арміі.

Захоўваецца выразка з газеты з нязначнымі праўкамі і некаторымі скарачэннямі, зробленымі сінім і фіялетавым чарнілам. Дата напісана Мележам ад рукі: 22.2.62 г.

## СЛАВА ПАЭТУ (с. 175)

Упершыню — «Ж. к.» [1]. Прамова, з якой І. Мележ выступіў ад СП БССР на ўрачыстым адкрыцці мемарыяльнай дошкі М. Багдановічу ў Ялце на вуліцы Камунараў 23 кастрычніка 1962 г.

Захоўваецца рукапіс (2 с.) на рускай мове, напісаны сінім чарнілам. Зверху ў дужках закрэсленая паметка: «Выступленне 23.10.62 г. (на открытии мемор. доски Богдан.)». Пад тэкстам: І. Мележ.

Ёсць і машынапіс (3 с.) на рускай мове з загалоўкам, напісаным ад рукі. Зверху: «Выступление 23.10.62 г. (на открытии мемориальной доски Богдановичу)» закрэслена. Машынапісны тэкст перадрукаваны з рукапіснага.

С. 175. «У адным з вершаў ён асуджана піша: «Шмат у нашым жыцці ёсць дарог, а вядуць яны ўсе да магілы».— Мележ гаворыць аб вершы, які так і называецца. Датуецца годам надрукавання (упершыню ў зб. «Вянок», 1909—1912 гг.).

С. 176. Мележ цытуе радкі з вершаў: «Маладыя гады». (Нап. 1915 або 1916); «...Беларусь, твой народ дачакаецца». (Датуецца прыблізна 1915); «...Ты не згаснеш, ясная зараначка». (Датуецца прыблізна 1915).

## ТРОХІ ЗГАДАК І ДУМАК (с. 177)

Упершыню — Полымя, 1962, № 11, с. 153—159 пад рубрыкай «Пісьменнікі пра сябе»; друкаваўся ў кнізе: 54 дарогі: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1963; Зб. тв., т. IV, 1971, с. 401.

Захоўваецца выразка з час. «Полымя». Скарачэнні і праўкі

---

[1] У «Паказчыку публікацый і выступленняў» памылкова датуецца 1963 годам.

зроблены сінім чарнілам. Пад тэкстам дата, напісаная ад рукі: 1962.

С. 182. «...у студзені 1939 года быў надрукаваны першы мой верш... у камсамольскай газеце «Чырвоная змена».— Гаворка ідзе аб вершы «Радзіма», які быў змешчаны ў газ. «Чырв. змена», 1939, 20 лют.

«З гэтай дывізіяй мы летам 1940 года перайшлі ўброд Чорны Чарамош, удзельнічалі ў вызваленні Паўночнай Букавіны...» — У жніўні 1940 года ў выніку мірнага вырашэння канфлікту паміж СССР і Румыніяй паўночная частка Букавіны, асноўнае насельніцтва якой украінцы, увайшла ў склад УССР.

С. 185. «...выдаў першую, а потым і другую кніжкі апавяданняў».— Гаворка ідзе пра кнігі «У завіруху» (1946) і «Гарачы жнівень» (1948).

С. 185. На японскі горад Хірасіма ў Другую сусветную вайну была скінута атамная бомба (6.8.1945).

## БЕРАГЧЫ ВЯЛІКІЯ СКАРБЫ (с. 189)

Упершыню — Літ. газ., 1963, 28 сак. Выступленне на IV пленуме Праўлення СП СССР з парадкам дня: «За высокую ідэйнасць і мастацкае майстэрства». Пленум праходзіў у Маскве 26—28 сакавіка 1963 года.

Захоўваецца рукапіс (16 с.) на рускай мове, 14 с. напісаны сінім чарнілам, 2 апошнія — фіялетавым. Адсутнічае канец выступлення (два апошнія сказы).

Ёсць і машынапіс (12 с., 6 с. рукапісныя) на рускай мове з праўкамі, зробленымі фіялетавым чарнілам. Загаловак напісаны сінім чарнілам, папярэдні — «IV пленум Союза писателей СССР» — закрэслены.

С. 189. «...у нядаўняй вялікай дыскусіі «Пісьменнік і час», што ішла на старонках «Літаратуры і мастацтва».— І. Мележ гаворыць аб дыскусіі, якая пачалася артыкулам М. Стральцова «Зробім традыцыяй пошукі» 23 кастрычніка 1962 года. У ёй прынялі ўдзел Б. Бур'ян, А. Кулакоўскі, В. Говар, П. Дзюбайла, В. Тарас, І. Навуменка, Я. Усікаў, М. Арочка, У. Варно. Дыскусія працягвалася і ў 1963 годзе. Выступалі: А. Мальдзіс, Ул. Жыжэнка, Я. Герцовіч, П. Пестрак, У. Юрэвіч, В. Быкаў, В. Івашын, Т. Хадкевіч, М. Гарбачоў, А. Зарыцкі, Н. Перкін, С. Гаўрусёў, В. Барысенка.

«...у артыкуле... перакладчыка Ул. Жыжэнкі. Артыкул называецца «Аднаго таленту мала!» — Мележ мае на ўвазе артыкул «Талент — гэта яшчэ не ўсё!», які змешчаны ў газ. «Літ. і мастацтва», 1963, 11 студз.

С. 194. «Па-народнаму мудры, інтэлектуальны і стары палескі дзед-партызан з аповесці «Дрыгва» Якуба Коласа...» — Мележ гаворыць пра дзеда Талаша.

С. 195. «Мы диалектику учили не по Гегелю, бряцанием штыков она врывалась в стих!..» — Радкі з паэмы У. Маякоўскага «Ва ўвесь голас» (1930).

С. 196. «Вельмі добра высмеяў яго Пімен Панчанка ў вершы «Размова з нашчадкамі», не так даўно ў перакладзе апублікаваным у «Известиях».— Верш П. Панчанкі быў змешчаны ў газ. «Известия», 1962, 30 снеж. у перакладзе Я. Хелемскага.

## ПЕРАД ПЕРШАЙ СТАРОНКАЙ (с. 197)

Упершыню — Вопросы литературы, 1963, № 5, с. 122—123 пад рубрыкай «Жизнь — источник творчества».

Зварот рэдакцыі часопіса «Вопросы литературы» да І. Мележа невыпадковы. Раман «Людзі на балоце» ў перакладзе на рускую мову М. Гарбачова выйшаў у 1962 годзе ў выдавецтве «Сов. писатель» і адразу звярнуў на сябе ўвагу чытачоў.

Захоўваецца машынапіс (3 с.) на рускай мове з праўкамі. Пад тэкстам дата: 1963 і подпіс: І. Мележ. Уступ напісаны ад рукі на асобнай старонцы фіялетавым чарнілам на рускай мове.

## АДКАЗ НА АНКЕТУ «ПРАВДЫ» (с. 200)

Упершыню — Правда, 1963, 16 чэрв.

Напярэдадні Пленума ЦК КПСС па ідэалагічных пытаннях, якія праходзіў 18—21 чэрвеня, рэдакцыя «Правды» правяла анкету сярод пісьменнікаў Масквы, Ленінграда і ўсіх саюзных рэспублік. У анкеце былі два пытанні: над чым Вы зараз працуеце? Якія Вашы творчыя планы? Пад загалоўкам «Літаратура жыве ідэаламі камунізма» газета апублікавала сто адказаў, якія з'явіліся своеасаблівым калектыўным пісьменніцкім рапартам надыходзячаму Пленуму ЦК КПСС. Адказы І. Мележа змешчаны ў раздзеле «Песня родных палёў» (Кнігі пра вёску і яе людзей).

Захоўваецца машынапісная старонка амаль без правак. Пад тэкстам дата: 1963 г. Справа паметка: «Правда», 16.VI. 63 г.

## З ДУМКАЮ ПРА НАРОД (с. 201)

Упершыню — «Ж. к.» з датай: чэрвень 1963 г. Выступленне па Усесаюзным радыё.

Захоўваецца машынапіс (4 с.) на рускай мове з праўкамі, зробленымі простым алоўкам і фіялетавым чарнілам. Пад тэкстам дата, напісаная простым алоўкам: 1963. Унізе паметка, напісаная сінім чарнілам і закрэсленая простым алоўкам: «Інтэрв'ю карэспандэнту Усесаюзнага радыё — май/1963 г.» [1].

## ВЯЛІКАЯ ДАЧКА УКРАІНЫ (с. 203)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца ліпенем 1963 года. Прамова на ўрачыстым вечары, прысвечаным 50-годдзю з дня смерці Лесі Украінкі. Вечар адбыўся ў Кіеве 1 жніўня 1963 года ў памяшканні Тэатра рускай драмы імя Л. Украінкі. Гэту падзею адзначала ўсё прагрэсіўнае чалавецтва па рашэнню Сусветнага Савета Міру.

---

[1] У папярэднім варыянце «Зместу кнігі» (у двух машынапісных экземплярах) артыкул ідзе пад назвай «Время раздумий».

Захоўваецца рукапіс (3 с.). Першая старонка напісана фіялетавым чарнілам, дзве другія — сінім. Першапачатковы загаловак «Пра Лесю Украінку» закрэслены і дапісаны новы: «Вялікая дачка Украіны».

С. 204. «...нялёгкае жыццё яе асветлена шчасцем харошага сяброўства з нашым суайчыннікам — мінскім марксістам Сяргеем Мяржынскім».— У ліпені 1897 года Мяржынскі пазнаёміўся з Л. Украінкай, якая пад яго кіраўніцтвам вывучала марксісцкую літаратуру. Украінка двойчы прыязджала ў Мінск да свайго сябра і апошні тыдзень правяла каля цяжкахворага Мяржынскага. У дзень яго смерці Л. Украінка напісала паэму «Апантаная» (1901).

## НЯХАЙ ЖЫВЕ ДРУЖБА (с. 205)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца лістападам 1963 года. Выступленне па ўкраінскім радыё.

Захоўваецца рукапіс (3 с.), напісаны сінім чарнілам. Пад загалоўкам паметка: «Выступленне па ўкраінскаму радыё (запіс 23.XI.63 г.)». Простым алоўкам закрэслены першы абзац тэксту, у якім пісьменнік звяртаецца да слухачоў і чытачоў [1].

С. 205. «Кабзар» — вядомы зборнік Т. Шаўчэнкі (1840).

С. 206. Раман «Людзі на балоце» на ўкраінскай мове ў перакладзе А. Пятроўскага выйшаў у Кіеве ў 1963 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве мастацкай літаратуры.

## СЛОВА ДА ТАВАРЫША, ЯКОЕ Я ХАЦЕЎ БЫ СКАЗАЦЬ НА ЮБІЛЕЙНЫМ ВЕЧАРЫ (с. 207)

Упершыню — Полымя, 1963, № 12, с. 158—159. Артыкул напісаны да 50-годдзя з дня нараджэння пісьменніка А. М. Кулакоўскага.

Захоўваецца машынапіс (4 с.) з праўкамі, зробленымі сінім чарнілам. Усе праўкі ўлічаны ў асноўным тэксце.

С. 207. «...упершыню мы пахадзілі разам і пагаварылі як мае быць у Маскве, на першай пасляваеннай нарадзе маладых пісьменнікаў».— Першая пасляваенная ўсесаюзная нарада маладых пісьменнікаў у Маскве праходзіла 3—10 сакавіка 1947 года. У ёй прынялі ўдзел 150 маладых празаікаў і паэтаў.

«Я і цяпер помню халаднаваты Арбат, першы поцемак між старых арбацкіх камяніц».— Арбат адна са старажытных і вядомых вуліц у Маскве.

С. 208. «Сад» (1947) — зборнік апавяданняў; «Гартаванне» (1949) — аповесць; «Да ўсхода сонца» (1957) [2] — аповесць; «Ня-

---

[1] «Я рады, што мяне папрасілі выступіць па ўкраінскаму радыё, што мне далі магчымасць сустрэцца з украінскімі слухачамі і чытачамі.

Я сказаў — рады — не таму, што так абавязвае прыстойнасць госця, а таму, што так хочуць гаварыць маё сэрца, мае пачуцці».

[2] У Мележа аповесць названа недакладна.

вестка» (1956) — аповесць; «Дванаццаты, жорсткі» (1951); «Расстаёмся ненадоўга» (1955) і «Сустрэчы на ростанях» (1961—1962) — дылогія.

## НЕ ЗАСТАЦЦА Ў ДАЎГУ (с. 210)

Упершыню — Дружба народов, 1964, № 7, с. 218—222 пад рубрыкай «Рассказывают писатели»[1]; на франц. мове — часопіс «OEuvres et opinions» 1965, № 12.

Захоўваецца машынапіс на рускай мове з праўкамі аўтара, зробленымі простым алоўкам і фіялетавым чарнілам. Пад загалоўкам «Інтэрв'ю карэспандэнту час. «Дружба народов». Пад тэкстам: 1.VI—64 г. Мінск і закрэсленая паметка: [Прочитал, завизировал — Иван Мележ]. Дата закрэслена, і над ёй напісана простым алоўкам: 1964. Збоку яшчэ адна паметка: «Дадзена ў гасцініцы «Масква», зіма 1963—64 года». У асноўным тэксце ёсць скарачэнні[2].

С. 214. «...з дыскусіяй, якая ў мінулым годзе разгарэлася на сімпозіуме еўрапейскіх пісьменнікаў у Ленінградзе, пра лёс рамана...» — Мележ гаворыць аб дыскусіі, якая адбылася на сесіі кіруючага савета Еўрапейскага супольніцтва пісьменнікаў у Ленінградзе 5—8 жніўня 1963 года.

## ПРЫКЛАД ШОЛАХАВА (с. 216)

Упершыню — Лит. газ., 1965, 22 мая пад назвай «Пример писателя». Друкаваўся ў кнізе: Михаил Александрович Шолохов: Сборник. (К 60-летию со дня рождения).— Состав.: М. Андриасов.— М.: Правда, 1965.— 319 с. Артыкул напісаны да 60-годдзя з дня нараджэння М. А. Шолахава.

Захоўваецца машынапіс (3 с.) на рускай мове з нязначнымі праўкамі, зробленымі простым алоўкам. Ёсць і другі машынапіс (3 с.) на рускай мове. Праўкі на ім зроблены сінім і фіялетавым чарнілам. Тэкст надрукаваны на машынцы з беларускім «і». Пад тэкстам дата: 1965. Усе праўкі другога машынапісу ўлічаны ў асноўным тэксце.

С. 216. «...чакала мяне мая Ільінічна, мая маці».— Мележ называе імя Ільінічна ў абагульняльным сэнсе, выкарыстоўваючы шолахаўскі персанаж з рамана «Ціхі Дон». Сапраўднае імя маці Мележа — Марыя Дзянісаўна.

## ПОРЫ ГОДА (с. 219)

Упершыню — Правда, 1965, 10 лістап.[3]. Артыкул напісаны з нагоды 48-й гадавіны Вялікага Кастрычніка.

---

[1] Ў «Ж. к.» пад назвай артыкула памылковая дата: 1965.

[2] Дадзены том, с. 210, радок 29, пасля: розныя // по своему характеру и мироощущению, с. 211, радок 38, пасля: людзей. // Ведь именно эти слабости и недостатки мешали им распрямиться.

[3] У «Ж. к.» памылкова датуецца лютым 1965 года.

Захоўваецца выразка з газеты «Правда». Праўкі на тэксце зроблены фіялетавым чарнілам. Ёсць скарачэнні [1].

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПАПЯРЭДНЕ (с. 222)

Упершыню — як прадмова да кнігі: И. Мележ. Люди на болоте: Роман. /Пер. с рус. Л. Хольм.— Москва — Петрозаводск: Прогресс, 1965. (на фінскай мове).

Захоўваецца чарнавы рукапіс (2 с.) на рускай мове, напісаны сінім чарнілам. Зверху закрэсленая простым алоўкам паметка: «Людзі на балоце» (Прадмова да фінскага выдання)». Пад тэкстам: 29.10.63 г. Іван Мележ. Ёсць і машынапіс (2 с.) на рускай мове без правак.

С. 222. Аповесць «Алеся» (1898); аповесць «Паездка ў Палессе» (1857).

## ЧАЛАВЕК ЧАЛАВЕЦТВА (с. 224)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1966, 26 студз. Даклад «Вялікі пісьменнік і друг», з якім Мележ выступіў на агульнагарадскім вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння Рамэна Ралана. Вечар адбыўся ў Мінску ў Акруговым Доме афіцэраў 25 студзеня 1966 года.

Захоўваецца рукапіс (7 с.), напісаны сінім чарнілам, з вялікай колькасцю правак, закрэсленых кавалкаў тэксту, з дапісанымі старонкамі і ўстаўкамі. Пад тэкстам подпіс: І. Мележ.

Ёсць і машынапіс (10 с.), надрукаваны з рукапіснага тэксту, у якім нязначныя праўкі зроблены простым алоўкам і розным чарнілам. Усе праўкі ўлічаны ў асноўным тэксце.

С. 224. «...пісьменніку давялося быць сведкам адной з самых трагічных падзей французскай гісторыі — гібелі Парыжскай камуны».— Парыжская камуна 1871 года праіснавала з 18 сакавіка па 28 мая.

Справа Дрэйфуса.— Судовая справа па несправядліваму абвінавачванню ў шпіянажы на карысць Германіі афіцэра французскага Генеральнага штаба яўрэя Альфрэда Дрэйфуса (1859—1935), сфабрыкаваная ў 1894 г. рэакцыйнай французскай ваеншчынай. Абвінавачванне супраць Дрэйфуса было высунута ваенным міністэрствам і, нягледзячы на поўную адсутнасць доказаў, ваенны суд прысудзіў Дрэйфуса ў снежні 1894 г. да пажыццёвай катаргі. У абарону і за апраўданне Дрэйфуса выступіў Э. Заля ў пісьме да прэзідэнта Ф. Фора («Я абвінавачваю», 13 студзеня 1898 г.), у якім пісьменнік абвінавачваў улады ў наўмысным асуджэнні невінаватага Дрэйфуса. 19 верасня 1899 г. прэзідэнт рэспублікі па хадайніцтву ўрада памілаваў Дрэйфуса. У ліпені 1906 г. Дрэйфус быў поўнасцю рэабілітаваны.

---

[1] С. 221, радок 34, пасля: надзеі. // Великий Октябрь, многое изменивший в мире, ввел в обиход новое летоисчисление, как бы сделал нашу землю моложе почти на две тысячи лет. Мы очень много видели и много сделали за минувшие сорок восемь лет нашей советской жизни. Но многое предстоит еще сделать.

С. 224. Раман-эпапея ў 10 тамах «Жан-Крыстоф» (1904—1912).

С. 225. «...дваццацігадовы юнак з Нармальнай школы ў Парыжы піша два лісты вялікаму мудрацу з Яснай Паляны...» — Мележ гаворыць пра лісты Р. Ралана да Л. Талстога.

«...германскія, гітлераўскія войскі прарваліся ў Францыю, захапілі Парыж».— Францыя была акупіравана фашысцкімі войскамі ў 1940 годзе.

С. 226. Цыкл «Трагедыя веры» («Святы Людовік», 1897; «Аэрт», 1898).

Цыкл «Драмы рэвалюцыі» («Ваўкі», 1898; «Трыумф розуму», 1899; «Дантон», 1900; «Чатырнаццатае ліпеня», 1902).

Цыкл біяграфій «Гераічнае жыццё» («Жыццё Бетховена», 1903; «Мікеланджэла», 1907; «Жыццё Талстога», 1911).

Аповесць «Кала Бруньён» (нап. у 1914, апуб. у 1919).

С. 227. Мележ цытуе з артыкула К. Федзіна «Ромен Роллан» (Писатель, искусство, время.— М.: Сов. писатель, 1973, с. 183).

«...імкнуўся злучыць у адно рэвалюцыйную ленінскую філасофію з філасофіяй Гандзі, з талстоўскім «непраціўленствам». — Гандзізм, рэлігійна-філасофскае і грамадска-палітычнае вучэнне, ідэалогія буржуазнага нацыяналізму і антыімперыялістычнага руху ў Індыі. Назва паходзіць ад імя яго заснавальніка М. К. Гандзі.

«...з талстоўскім «непраціўленствам».— Філасофія Талстога Л. М., якая выражаецца ў тым, што найвышэйшую мэту бачыў у яднанні і самаўдасканаленні людзей праз адмаўленне «служыць злу» («непраціўленне злу насіллем»), заклінаў да апрашчэнства — усё гэта атрымала назву «талстоўства».

С. 230. «...некаторыя з якіх — пісьменнікі — сустракалі Ралана ў Негарэлым...» — Гэта сустрэча адбылася 22 ліпеня 1935 года, калі Р. Ралан вяртаўся з Масквы на радзіму. Ад пісьменнікаў БССР з прывітаннем выступіў М. Клімковіч.

Раман «Зачараваная душа» (1922—1933).

## СПАДЗЯВАННІ І НАДЗЕІ (с. 232)

Упершыню — Вопросы литературы, 1966, № 1, с. 46—49 у падборцы «Предсъездовская трибуна. Ответственность художника» — да IV з'езда СП СССР.

Захоўваецца рукапіс (4 с.) на рускай мове, напісаны сінім чарнілам. Гэта чарнавік адказаў на анкету часопіса. У тэксце вялікая колькасць правак, скарачэнняў.

Ёсць машынапіс (5 с.) на рускай мове пад загалоўкам «Ожидания и надежды» з нязначнымі праўкамі, з подпісам і датай: 1965. Да машынапісу прыкладаецца асобны ліст з грыфам часопіса «Вопросы литературы». Анкета датуецца 20.VII.1965 г. і падпісана галоўным рэдактарам В. Озеравым.

С. 232. Першы Усесаюзны з'езд савецкіх пісьменнікаў праходзіў з 17 жніўня па 1 верасня 1934 года. Чацверты з'езд — з 22 па 27 мая 1967 года.

С. 233. «...гісторыі, якую мы чакаем з цікавасцю і надзеяй».— Мележ мае на ўвазе выданне: История советской многонациональной литературы: В шести томах.— М.: Наука, 1970—1974.

С. 236. Спасылка на «Литературную газету», 1962, 24 лют.[1] даецца ў сувязі з публікацыяй матэрыялаў, прысвечаных 70-годдзю з дня нараджэння К. Федзіна.

Артыкул Ф. Бірукова «Яшчэ раз пра Мелехава» змешчаны ў час. «Новый мир», 1965, № 5, с. 236—250.

С. 237. «Я закончыў раман «Подых навальніцы»...» — Мележ закончыў раман 27 жніўня 1965 года.

## І СЁННЯ, І ЗАЎТРА, І ЗАЎСЁДЫ! (с. 238)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1966 годам. Прамова, з якой І. Мележ выступіў у спрэчках па справаздачных дакладах і садакладах на V з'ездзе СП БССР, які праходзіў у Мінску з 12 па 14 мая 1966 года.

Вытрымкі з выступлення і пераказ яго змешчаны ў газ. «Літ. і мастацтва», 1966, 20 мая.

Захоўваецца рукапіс (12 с.), напісаны сінім чарнілам са шматлікімі праўкамі, устаўкамі, закрэсленымі кавалкамі тэксту. Гэты рукапіс з'яўляецца адным з першапачатковых варыянтаў выступлення.

Ёсць яшчэ два машынапісы (па 12 с.). Першы з праўкамі, зробленымі розным чарнілам, другі — без правак. Усе праўкі ўлічаны ў асноўным тэксце.

С. 239. «...які напісаны Карпавым і апублікаваны ў «Полымі».— Мележ гаворыць пра артыкул «Позірк назад», які быў змешчаны ў часопісе № 3 за 1966 год.

Фаўст — герой аднайменнай трагедыі Гётэ.

С. 243. «Некалькі дзён назад я з вялікай цікавасцю прачытаў у «Правде» вельмі разважны артыкул пра задачы грамадскіх навук».— Мележ мае на ўвазе артыкул С. Кавалёва «Требования жизни и общественные науки», змешчаны ў газ. «Правда», 1966, 6 мая.

С. 246. «Наше время трудновато для пера...» — Мележ парафразуе радок верша У. Маякоўскага «Сяргею Ясеніну» (1926): «Это время — трудновато для пера».

«Но скажите вы, калеки и калекши,— где, когда, какой великий выбирал путь — чтобы протоптанней и легше?!» — Радкі з верша У. Маякоўскага «Сяргею Ясеніну».

## БАЧЫЦЬ ГЛЫБОКА І ШЫРОКА (с. 247)

Упершыню — Маладосць, 1966, № 5, с. 138—142. Інтэрв'ю А. Гардзіцкаму ў сувязі з выхадам з друку рамана «Подых навальніцы»[2].

Захоўваецца выразка з часопіса з праўкамі. Зверху памета: «Друкаваць толькі тое, што напісана жырным шрыфтам!»

---

[1] У тэксце ўказваецца недакладная дата: 29 лютага.

[2] Мележ І. Подых навальніцы: Раман /З палескай хронікі.— Мн.: Беларусь, 1966.— 566 с.

Пад загалоўкам простым алоўкам напісана: «Інтэрв'ю А. Гардзіцкаму». Усе аўтарскія праўкі ўлічаны ў асноўным тэксце.

С. 248. Артыкул У. Карпава «Позірк назад» змешчаны ў час. «Полымя», 1966, № 3, с. 146—162.

С. 252. Артыкул В. Каваленкі «Герой мыслящий, действующий» (Вопросы литературы, 1966, № 2. с. 47—52).

## ЧАСОПІСУ «FREIE WELT» (с. 253)

Упершыню — Freie Welt, 1966, № 46, с. 26—27 як адказы пісьменніка на пытанні часопіса [1].

Захоўваецца рукапісная старонка на рускай мове. Пытанні напісаны фіялетавым чарнілам злева на палях, адказы — сінім. Зверху: «Ответы на анкету журн. «Freie Welt». Пад тэкстам закрэсленая простым алоўкам паметка: «Надо бы привести его («Ave Maria») текст и перевести».

С. 253. Верш М. Танка «Ave Maria» быў напісаны ў 1957 годзе.

## БАЛЮЧА ДУМАЦЬ... (с. 254)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1967, 7 сак. з выпадку смерці народнага артыста СССР Глебава Г. П.

Захоўваецца выразка з газеты, наклееная на ліст паперы. Збоку аўтарская паметка: «ЛіМ», 7.3.67 г.»

С. 254. Глушак — герой п'есы, пастаўленай паводле рамана І. Мележа «Людзі на балоце».

## ПРА СТЭНДАЛЯ (с. 255)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1967 годам. Уступнае слова на вечары, прысвечаным 125-годдзю з дня смерці Стэндаля [2], які адбыўся 22 сакавіка 1967 года ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР.

Захоўваецца чарнавы рукапіс (1 с.). Зверху закрэсленая простым алоўкам паметка: «Адкрыццё вечара — 125 год з дня смерці Стэндаля. 22.III.1967 г.» Тэкст поўнасцю супадае з асноўным.

С. 255. «Чырвонае і чорнае» (1830), «Пармскі манастыр» (1839), «Люсьен Левен» (апубл. 1894), «Ваніна Ваніні» (апубл. 1829).

Жульен Сарэль — галоўны герой рамана «Чырвонае і чорнае».

«Прагулкі па Рыме» (1829), «Італьянскія хронікі» (апубл. 1855).

---

[1] У «Паказчыку публікацый і выступленняў» недакладна пазначана: 4.II.1966 г.

[2] У «Паказчыку публікацый і выступленняў» памылкова адзначана: з дня нараджэння.

## РАМАН І ЯГО ПРАБЛЕМЫ (с. 256)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1967 годам[1].

Захоўваюцца чарнавыя рукапісныя накіды (5 с.), напісаныя сінім чарнілам, з праўкамі, зробленымі простым алоўкам. Справа: Дыскусія аб рамане. На палях злева паметкі аб перастаноўцы тэксту. Адна старонка напісана простым алоўкам.

Ёсць поўны рукапіс (16 с.), напісаны сінім чарнілам, з праўкамі. Першапачатковы загаловак: «Пра сучасны беларускі раман» закрэслены.

С. 256. «...ўзняты ў дыскусіі на старонках «ЛіМа».— Мележ, відаць, гаворыць аб дыскусіі, якая праходзіла на старонках газ. «Літ. і мастацтва» напярэдадні пятага з'езда СП БССР. Пачалася яна артыкулам В. Каваленкі «Пытанні, адрасаваныя часу і самім сабе» (25 лют.). У ёй прынялі ўдзел А. Вярцінскі «Мінск, Энгельса, 9, Саюз пісьменнікаў...» (15 сак.); Я. Семяжон «Праз свае — да чалавецтва» (Думкі аб беларускім перакладу, 22 сак.); П. Дзюбайла «Шматграннасць літаратуры і аднабаковасць крытыкі» (15 крас.); А. Лойка «Праблемы і клопат паэзіі» (19 крас.); В. Рагойша «І панясе яна дар усяму свету» (22 крас.); Н. Гілевіч «Радасныя надзеі» (Думкі аб паэзіі маладых, 26 крас.); С. Андраюк «Шукаць галоўнае ў сучаснасці» (6 мая); А. Клышка «Ці тыя праблемы, ці той клопат?» (9 мая).

Раман Я. Брыля «Птушкі і гнёзды» (1963), раман І. Шамякіна «Сэрца на далоні» (1963), раман У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» (кн. 1—2, 1968).

«Серадзібор» (1961—1963), «Сасна пры дарозе» (1962).

«...трылогія Р. Сабаленкі «Іду ў жыццё».— У трылогію ўваходзяць тры аповесці: «Юнацтва ў дарозе» (1958), «Выпрабаванне сталасці» («Іду ў жыццё», 1961) і «Былое застаецца ў сэрцы» (1965).

С. 263. Раман-хроніка «Засценак Малінаўка» (кн. 1 — 1964, кн. 2 — 1965).

Раман «На парозе будучыні» (1964).

С. 265. «...мы пра гэта адкрыта гаварылі Караткевічу пры абмеркаванні рамана на секцыі прозы».— Мележ гаворыць пра сумеснае пасяджэнне сакратарыята секцыі прозы і секцыі крытыкі Саюза пісьменнікаў, якое адбылося 22 лютага 1967 года, дзе абмяркоўваўся рукапіс рамана У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім».

## МАСТЫ ДРУЖБЫ (с. 269)

Упершыню — Дружба народов, 1967, № 11, с. 17—18. Адказы пісьменніка на пытанні рэдакцыі ў сувязі з 50-годдзем Савецкай улады былі змешчаны ў часопісе разам з адказамі іншых пісьменнікаў.

---

[1] Магчыма, што артыкул напісаны на падставе выступлення Мележа на сумесным пасяджэнні секцыі прозы і крытыкі, на якім былі абмеркаваны раманы, аповесці і апавяданні. Пасяджэнне адбылося 25 снежня 1967 г. Паведамленне аб ім змешчана ў газ. «Літ. і мастацтва», 1967, 29 снеж. пад загалоўкам «Не губляць вышыні».

С. 270. «Вялікую каларытную кнігу напісала Алена Васілевіч».— Мележ, відаць, мае на ўвазе аповесці «Расці, Ганька» (1966) ці «Доля цябе знойдзе» (1968).

Аповесць «У другую зіму» (1968).

С. 271. «...які вельмі многа сказаў мне сваім пісьмом і шматлікімі заўвагамі на старонках рамана «Мінскі напрамак», прачытанага ім у бальніцы».— Мележ гаворыць пра пісьмо А. Фадзеева ад 18 лютага 1955 года, якое напісана на кнізе «Минское направление». М., 1954.

## СПРАВА ЖЫЦЦЁВА НЕАБХОДНАЯ (с. 273)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1967 годам[1]. Прамова на гарадскім вечары, прысвечаным адкрыццю Дзён французскай культуры. Вечар адбыўся 5 снежня 1967 года ў памяшканні канцэртнай залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Трэцяя частка даклада пад назвай «У імя дружбы» апублікавана са скарачэннямі ў газ. «Літ. і мастацтва», 1967, 5 снеж.

Захоўваецца чарнавы рукапіс (10 с.), напісаны фіялетавым чарнілам. Зверху: «Даклад на вечары, прысвечаным адкрыццю Дзён французскай культуры». Пад тэкстам подпіс: Іван Мележ (старшыня таварыства «СССР — Францыя») — усё закрэслена.

Ёсць рукапіс часткі даклада (5 с.) на рускай мове, напісаны сінім чарнілам.

Захоўваецца і амаль без правак машынапіс (9 с.), які складаецца з 3 частак. Загаловак напісаны сінім чарнілам.

С. 278. «Нармандзія — Нёман», 1-ы асобны французскі добраахвотніцкі знішчальны авіяполк, які ў Айчынную вайну ўдзельнічаў у баях на савецка-германскім фронце супраць фашысцкай Германії.

## ЗЫЧЫМ ВАМ КНІГ (с. 280)

Упершыню — зб. «З'їзд письменників Радянської України».— Київ: Радянський письменник, 1967. На беларускай мове упершыню — «Ж. к.». Артыкул напісаны на падставе выступлення на V з'ездзе пісьменнікаў Украіны, які праходзіў у Кіеве 16—19 лістапада 1966 года.

Захоўваюцца чарнавыя рукапісныя накіды выступлення (с. 1—1 адв.), напісаныя сінім чарнілам, пад загалоўкам «На з'ездзе Украіны».

Ёсць і машынапіс (2 с.) пад загалоўкам: «Зычым вам кніг». Папярэдні загаловак: «Мы з любоўю сочым...» закрэслены. Пад тэкстам дата: 1966. Унізе рукою пісьменніка напісана: «Прамова на V з'ездзе пісьменнікаў Савецкай Украіны. Матэрыялы з'езда. Кіеў, 1967 г.». Усё гэта ў дужках і закрэслена простым алоўкам.

---

[1] У «Паказчыку публікацый і выступленняў» недакладна пазначана: 7.XII.1967 г.

НАШ САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ (с. 282)

Друкуецца па «Ж. к.» з праўкамі па рукапісе (9 с., якія чаргуюцца з газетнымі выразкамі, расклеенымі на асобных лістах паперы). Пад тэкстам дата: 1967. Першапачатковы загаловак: «Кірунак росту». Тэкст гэтага рукапісу папярэднічаў асноўнаму.

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1967 годам.

Захоўваецца выразка з газ. «Звязда», 23.III.1967 г. з часткай артыкула пад загалоўкам: «Нашы клопаты і надзеі». Зверху простым алоўкам напісаны новы загаловак: «Кірунак росту». Пад загалоўкам паметка: «Расклеіць на старонкі, дапісаць». Злева на палях: «Даць усё выступленне на нарадзе. Узяць за аснову гэты тэкст. Даць выпушчанае — пра мову. Больш пра — пераацэнку цяжкасцей».

Захоўваецца рукапіс выступлення на нарадзе (15 с.), напісаны розным чарнілам і з паметкай: «Праўка фіялетавым чарнілам — не мая. Зняць яе». З гэтага тэксту пісьменнік выкарыстаў толькі частку матэрыялаў.

Нарада-семінар ідэалагічных работнікаў, аб якой ідзе размова, праходзіла ў Мінску з 21—25 лістапада 1966 года.

Такім чынам, артыкул «Наш Саюз пісьменнікаў» быў напісаны Мележам пры падрыхтоўцы да друку зб. «Ж. к.» на падставе выступлення на нарадзе-семінары і артыкула, змешчанага ў газ. «Звязда».

С. 285. «...зрабіў сваімі артыкуламі зусім невядомы датуль дагестанскі крытык Ахед Агаеў».— Мележ гаворыць пра артыкул «Единство нашей цели», які быў апублікаваны ў газ. «Литературная Россия», 1963, 5 снеж.

«И если завтра мой язык исчезнет, то я готов сегодня умереть».— Мележ цытуе верш Р. Гамзатава «Родной язык», напісаны ў 1962 годзе. (Собр. соч. В 3-х т. Т. 1.— М.: Худож. лит., 1968, с. 234).

«И если мать родную ты забудешь, армянской речи не забудь».— Мележ не зусім дакладна цытуе верш «Слово сыну» (1944). У С. Капуцікян:

И если мать забудешь ты —
Армянской речи не забудь[1].

С. 285. «...развяжны артыкул у «Правде» ад 17 лістапада гэтага года,— «Ленинское учение по национальному вопросу и современность».— Гэты артыкул, аўтарам якога з'яўляецца Э. Баграмаў, быў апублікаваны ў газ. «Правда», 1966, 17 кастр. пад рубрыкай «Вопросы теории».

С. 286. «Крэсіва» (1966), «Дыханне» (1966), «Тры цішыні» (1966), «Мае мерыдыяны» (1965), «Яго вялікасць» (1965). «Пакуль не развіднела» (1966), «Апошнія і першыя» (1968), «Адзін лапаць, адзін чунь» (1970).

С. 287. «Плач Перапёлкі» (1972), «Жменя сонечных промняў» (1965), «Мост» (1965).

---

[1] Капутикян С. Избранные произведения: В 2-х т.— М.: Худож. лит., 1978, т. 1, с. 95.



20 Зак. 3069

«Часопіс «Полымя» пачаў друкаваць новы раман Міколы Лобана «Гарадок Устронь...» — Час. «Полымя», 1967, № 1—4.

«На прозе будучыні» (1964), «Свет Купалы. Думкі і назіранні» (1965), «На шырокіх шляхах жыцця» (1965).

## ПРА ТЭХНІЧНЫ ПРАГРЭС І ТВОРЧЫ НЕСПАКОЙ (с. 289)

Упершыню — «Ж. к.», дзе недакладна датуецца 1969 годам.

Прамова на XXI Мінскай гарадской партыйнай канферэнцыі, якая адбылася 6 лютага 1968 года.

У перakaзе апублікавана ў газ. «Веч. Минск», 1968, 7 лют.

Захоўваецца чарнавы рукапіс (9 с.), напісаны сінім чарнілам, праўкі зроблены фіялетавым. Зверху: «Выступленне на партканферэнцыі» закрэслена. Загаловак напісаны простым алоўкам. Ёсць злева паметка: «2 экз. Перевод на рус. мову».

С. 289. «...дэкада ўзбекскай культуры ў Беларусі...» — Дэкада ўзбекскай літаратуры і мастацтва на Беларусі праходзіла з 1 па 9 чэрвеня 1967 года.

«...Дні беларускай культуры ў Маскве».— Мележ мае на ўвазе Дні культуры і мастацтва ў Маскве, якія праходзілі з 30 жніўня па 4 верасня 1967 года.

«У самым канцы мінулага года Саюз пісьменнікаў правёў семінар маладых літаратараў...» — І. Мележ гаворыць пра рэспубліканскую нараду — семінар маладых празаікаў і паэтаў, які пачаў сваю работу 27 лістапада 1967 і праходзіў 10 дзён.

«У нас былі англічанін Уолтэр Мэй...» — У. Мэй знаходзіўся ў Мінску ў жніўні 1967 года. Вершы Мэя, прысвечаныя Беларусі, у перакладзе Я. Семяжона змешчаны ў газ. «Літ. і мастацтва», 1967, 29 жн.

С. 291. «...сход празаікаў нашага Саюза пісьменнікаў, на якім абмяркоўваліся вынікі мінулага года і на якім вельмі патрабавальна ацэньвалі нашы дасягненні крытык Дзюбайла, празаікі Адамчык, Стральцоў і іншыя».— Мележ мае на ўвазе сумеснае пасяджэнне секцый прозы і крытыкі СП Беларусі, якое адбылося 25 снежня 1967 года. Былі абмеркаваны раманы, аповесці і апавяданні, што з'явіліся ў гэтым годзе на старонках рэспубліканскага перыядычнага друку. Агляд раманаў, якія былі апублікаваны на старонках часопісаў «Полымя» і «Маладосць», зрабіў П. Дзюбайла. Пра аповесць гаварыў М. Стральцоў, апавяданне — В. Адамчык.

С. 292. «У часопісе «Маладосць», № 1 здольны крытык А. Яскевіч, па-мойму, ранавата піша пра таленавітага празаіка У. Караткевіча...» — Гаворка ідзе пра артыкул А. Яскевіча «Гэты дальні гарызонт» («Маладосць», 1967, № 1). Гэты артыкул быў абмеркаваны на пасяджэнні круглага стала часопіса «Маладосць», якое адбылося 6 лютага 1967 года. У гаворцы пра сучасную беларускую літаратуру прынялі ўдзел А. Асіпенка, Я. Брыль, А. Вярцінскі, В. Вітка, В. Каваленка, Б. Сачанка, І. Чыгрынаў, М. Стральцоў і інш.

Мастацкі фільм «Апошні хлеб» (рэж. Б. Сцяпанаў, выйшаў у 1963 годзе).

Спектакль па п'есе У. Іванова «Блакада» быў пастаўлены ў тэатры імя Я. Купалы ў 1967 годзе (рэж. Б. Эрын, Б. Ганага і Г. Уладамірская).

С. 293. Мастацкі фільм «Тысяча вокан» (1968, сцэн. і рэж. А. Спешнеў, М. Булінскі).

Мастацкі фільм «Ніхто не хацеў паміраць» (1966, сцэн. і рэж. В. Жалакявічус; Дзярж. прэмія СССР, 1967).

Мастацкі фільм «Лесвіца ў неба» (1967, рэж. Р. Вабалас).

С. 294. «...нет пророков в своем отечестве!» — Мележ выкарыстоўвае выраз з Евангелія: «Несть пророка в отечестве своем».

## НА ВЫШЫНІ ЖЫЦЦЯ (с. 295)

Друкуецца па «Ж. к.» з праўкамі па поўным чарнавым рукапісе (7 с.), які датуецца 1968 годам. Рукапіс напісаны сінім чарнілам. Паметкі на палях зроблены аўтарам фіялетавым чарнілам.

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1968 годам. Напісаны на падставе выступлення на нарадзе ў ЦК КПБ па пытаннях развіцця сучаснай беларускай крытыкі і літаратуразнаўства. Нарада адбылася 20 лютага 1968 года.

Захоўваюцца чарнавыя рукапісныя накіды (с. 1—1 адв.). Ёсць паметка: «Выступленне на нарадзе ЦК КПБ лета 1968».

С. 299. «...якіх цалкам задавальняе ўзровень рамана «І адзін у полі воін...» — Дольд-Михайлик Ю. И один в поле воин: Роман.— М.: Воениздат, 1957.— 510 с.

С. 300. «Навука і тэхніка», кніжна-часопіснае выдавецтва АН БССР. Заснавана ў Мінску ў 1924 г. пры Інбелкульце, з 1929 г. у складзе АН БССР, з 1932 г. выдавецтва АН БССР, з 1963 г. «Навука і тэхніка». Выпускае навуковую, тэхнічную і навукова-папулярную літаратуру, зборы твораў класікаў беларускай літаратуры, часопісы.

«Вышэйшая школа», кніжнае выдавецтва. Заснавана ў Мінску ў 1962 г. Выдае падручнікі, навучальныя дапаможнікі і навучальна-метадычную літаратуру для вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў сістэмы прафесійна-тэхнічнай адукацыі.

«Ураджай», кніжнае выдавецтва БССР, якое выпускае на беларускай і рускай мовах літаратуру па пытаннях сельскагаспадарчай вытворчасці, навуковую і навукова-метадычную літаратуру, плакаты, наглядныя дапаможнікі на сельскагаспадарчыя тэмы і інш.

Заснавана ў 1961 годзе.

С. 300—301. «Беларусь», выдавецтва ў Мінску, якое выпускае палітычную, сацыяльна-эканамічную, мастацкую, дзіцячую, медыцынскую, даведачную, музычную літаратуру, альбомы, плакаты і іншыя выданні. Заснавана ў лістападзе 1920 г. як Беларускае аддзяленне Дзяржаўнага выдавецтва РСФСР, са студзеня 1921 г. Дзяржаўнае выдавецтва БССР.

С. 301. Мележ цытуе пісьмо У. І. Леніна «К вопросу о национальностях или об «автономизации» (Полн. собр. соч., т. 45, с. 358».

## ВЯЛІКІ ТАЛЕНТ, ВЯЛІКІ ПРАЦАЎНІК (с. 304)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1968, 27 сак. пад назвай «Дарога да вяршынь». Артыкул напісаны да 100-годдзя з дня нараджэння М. Горкага.

Захоўваецца рукапіс (3 с.) без загалоўка, напісаны фіялетавым чарнілам. Гэта адзін з першых варыянтаў артыкула.

Ёсць машынапіс (3 с.) амаль без правак. Першапачатковы загаловак: «Пра Горкага» напісаны сінім чарнілам і закрэслены. Пад тэкстам подпіс: Іван Мележ (закрэслена простым алоўкам). Машынапісны тэкст поўнасцю супадае з асноўным.

С. 304. «...першыя грымоты дзевяцьсот пятага, зацятае чаканне ў змроку наступных гадоў».— Мележ мае на ўвазе рэвалюцыю 1905 года і наступіўшы пасля яе разгул рэакцыі 1906—1907 гг.

«Залітыя дажджамі і крывёй акопы...» — Гаворка ідзе пра першую імперыялістычную вайну 1914 года.

«...вуліцы вірлівага кастрычніцкага Петраграда семнаццатага года...» — Размова ідзе пра Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю.

С. 305. «Хай мацней грымне бура!» — Мележ цытуе заключныя словы славутай «Песні пра Буравесніка» (1901).

Раман «Жыццё Кліма Самгіна» — незакончаная эпапея (ч. 1—4, нап. 1925—1930).

«Дзесяткі гадоў не сыходзяць з тэатральных сцэн усяго свету спектаклі па яго п'есах.» — М. Горкі напісаў больш 10 п'ес: «Мяшчане» (1902), «На дне» (1902), «Дачнікі» (паст. 1904), «Дзеці сонца» (1905), «Варвары» (1906), «Ворагі» (1906), «Ягор Булычоў і іншыя» (паст. 1932), «Васа Жалязнова» (1936, 1-я рэд. 1910), «Апошнія» (1908), «Дасцігаеў і іншыя» (1933).

## ПРА ПАЎСТОЎСКАГА (с. 307)

Упершыню — Лит. газ., 1968, 17 ліп. пад загалоўкам «Не иссякнет криница нашей любви». Пад такім жа загалоўкам — Літ. і мастацтва, 1968, 19 ліп. Напісаны з выпадку смерці К. Паўстоўскага і змешчаны ў падборцы матэрыялаў аб ім разам з выказваннямі К. Федзіна, К. Чукоўскага, Я. Вінакурава, Г. Абашыдзе, Ю. Смоліча, Б. Кербабаева.

Захоўваецца машынапіс (1 с.) на рускай мове. Зверху паметка, напісаная ад рукі: «В «Лит. газету». Пад тэкстам дата: 15.VII.68 г.; подпіс: И. Мележ (усё закрэслена простым алоўкам).

## ДА ЧЫТАЧОЎ РАМАНА (с. 308)

Упершыню — Сов. литература, 1968, № 7, с. 3—5 на іспанскай мове[1]. Прадмова да публікацыі раздзелаў з рамана «Подых навальніцы».

---

[1] У «Паказчыку публікацый і выступленняў» указваецца і час. «Советская литература», 1972, № 10 на англійскай мове. Але англійскі варыянт не супадае з іспанскім. Таму рэдкалегія палічыла магчымым даць яго ў каментарыях.

Захоўваецца машынапіс (3 с.) на рускай мове пад загалоўкам, напісаным ад рукі: «К читателям романа». У тэксце ёсць праўкі і скарачэнні. Пад загалоўкам закрэсленая паметка: «Урэзка для публікацыі ў «Савецкай л-ры» (на іспанскай мове)».

## ДА МАІХ ЧЫТАЧОЎ

Сёння я вяртаюся ў думках да майго басаногага дзяцінства, што прайшло ў палескай вёсцы. У памяці паўстае мая непісьменная маці і многія аднавяскоўцы. Я думаю аб цяжкім жыцці народа, яго жаданнях і марах, якія былі такія маленькія ў параўнанні з сённяшнім узроўнем жыцця, але яны давалі сэнс яго жыццю. Тыя далёкія гады і тых блізкіх мне людзей я вярнуў да жыцця ў сваіх кнігах. Я адчуваю, што выканаў свой доўг (абавязак) перад імі, напісаўшы аб мінулым для сённяшніх людзей.

Хацелася б, каб нашы ўнукі і праўнукі ведалі гэтых людзей, іх жыццё і не забывалі наш пачатак, той цяжкі шлях, што прывёў нас да сённяшняга дня. Цяжкі, круты, доўгі шлях прайшоў народ пад кіраўніцтвам партыі Леніна.

Гэтыя раманы я павінен быў напісаць. Павінен, таму што многія гады цяжкая памяць мінулых часоў перапаўняла маю душу. Мне цяжка было б жыць, не сказаўшы маіх думак пра поступ нашага савецкага жыцця — здзіўляючага поступу наперад і ўвысь.

Гэтыя кнігі мне вельмі дарагія. Не толькі таму, што гэта плён больш як дзесяцігадовай працы, але таму, што ў іх я ўклаў сваю душу, свае самыя дарагія пачуцці і думкі. Дзесяць гадоў? Я пісаў іх усё сваё жыццё. Яшчэ ў тыя дні, калі мой дзіцячы свет быў абмежаваны балотамі і зараснікамі, што акружалі родную вёску, і тады, калі вывучаў буквар у школе, і на камсамольскай рабоце ў раёне, у 41—42-ім — дваццацігадовым салдатам Паўднёвага фронту, палітруком, і калі прарываўся з маёй батарэяй з варожага акружэння, і потым у Тбіліскім шпіталі, дзе я ляжаў і думаў пра сваё новае жыццё і літаратурную працу.

Так, я пісаў гэтыя кнігі ўсё жыццё. І таму мая радасць такая глыбокая і хвалюючая. Таму маё пачуццё ўдзячнасці такое бязмежнае. І таму ў мяне такое вялікае жаданне не быць у даўгу.

(Пер. з англ. мовы Л. Казыры).

## ВЕЛІЧ САДРЫДДЗІНА АЙНІ (с. 311)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1968 годам. Выступленне на вечары, прысвечаным 90-годдзю з дня нараджэння таджыкскага савецкага пісьменніка С. Айні. Вечар адбыўся ў Маскве ў Калоннай зале Дома Саюзаў 16 кастрычніка 1968 года.

Захоўваецца рукапіс (2 с.) на рускай мове з праўкамі, зробленымі фіялетавым чарнілам. Рукапіс напісаны чырвоным чарнілам, акрамя загалоўка. Зверху: «На вечере памяти С. Айни, Москва, Колонный зал, 16.X.1968 г.»

С. 311. «Адзіна» (1924), «Рабы» (1934), «Смерць ліхвяра» (1939); «Бухара» (1949—1954).

## У ЗДАРОВАЙ СІЛЕ (с. 312)

Упершыню — «Ж. к.»[1]. Часткова ў перказе — Літ. і мастацтва, 1968, 20 снеж. Выступленне на юбілейным вечары ў Маскве, прысвечаным 50-годдзю Савецкай Беларусі. Вечар адбыўся 18 снежня 1968 года ў Цэнтральным доме літаратара.

Захоўваецца чарнавы рукапіс (7 с.) на рускай мове, напісаны сінім чарнілам. Праўкі зроблены фіялетавым і чырвоным чарнілам. Пад тэкстам дата: 1969.

С. 314. Словы М. Горкага з артыкула «Пра пісьменнікаў-самавукаў» Мележ цытуе некалькі недакладна. У Горкага: «Я звяртаю ўвагу скептыкаў на маладую літаратуру беларусаў — самага забітага народа ў Расіі» (Собр. соч.: В 30-ти т., т. 24.— М.: ГИХЛ, 1953, с. 135).

## ПЯЦЬДЗЕСЯТ (с. 316)

Друкуецца па «Ж. к.» з праўкамі па машынапісе (4 с.) на рускай мове. Загаловак напісаны простым алоўкам. Шмат правак. Некаторыя абзацы выдзелены аўтарам. Пад тэкстам дата: 2.XII.68 г., напісаная чырвоным алоўкам.

Упершыню — Лит. газ., 1968, 25 снеж. пад загалоўкам «Дорогами борьбы и труда». Артыкул напісаны з нагоды 50-годдзя Савецкай Беларусі і змешчаны разам з іншымі матэрыяламі, прысвечанымі гэтай падзеі. Сярод іх артыкул М. Лынькова «Чудо преображения», вершы П. Броўкі, М. Танка, Г. Бураўкіна, К. Кірэенкі, А. Марціновіча ў перакладах рускіх паэтаў.

Пры падрыхтоўцы да друку «Ж. к.» аўтар дапрацоўваў артыкул, унёс некаторыя стылістычныя праўкі, якія зрабілі яго больш грунтоўным, паглыбленым[2].

## ПРАЦА ПІСЬМЕННІКА (с. 320)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1968 годам.

Захоўваецца чарнавы рукапіс (7 с., пранумараваны толькі першыя 5 с.) на рускай мове, напісаны розным чарнілам. Тэкст складаецца з 3 частак, якія пазначаны рымскімі лічбамі і ідуць пад аднолькавым загалоўкам: «Труд писателя».

Першая частка мае падзагаловак: «Заметки», справа закрэслена: «Художник и время».

У другой частцы адсутнічае канец, на першай старонцы яе зверху справа закрэслена: «Вопросы литературы».

Трэцяя частка мае закрэслены падзагаловак: «Угнаться за жизнью».

---

[1] У «Паказчыку публікацый і выступленняў» недакладна датуецца студзенем 1969 года.

[2] Дадзенае выданне, с. 316, радкі 17—29; с. 317, радкі 28—30; с. 318, радкі 18—22; радкі 31—34.

Першая і другая часткі цалкам увайшлі ў артыкул, трэцяя — адсутнічае [1].

Ёсць і машынапіс (5 с.) на рускай мове, які складаецца з 2 частак. Праўкі зроблены сінім чарнілам. Пад тэкстам дата, напісаная ад рукі: 1969.

## МАЙСТЭРСТВА — ГЭТА ІМКНЕННЕ (с. 324)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1968 годам [2]. Друкаваўся з нязначнымі скарачэннямі ў час. «Литературное обозрение», 1975, № 6, с. 108—110 пад рубрыкай «На пути к читателю». Да публікацыі артыкула І. Мележ напісаў невялікую прадмову: «В издательстве «Мастацкая літаратура» в Минске подготовлена к печати моя книга «Житейские заботы».

Книгу составляют публицистические работы, статьи и выступления о литературе, охватывающие двадцать пять лет моей творческой деятельности.

Разнообразные по форме, по темам, посвященные разным явлениям в общественной и литературной жизни республики, произведения эти вместе представляют своеобразный писательский дневник за четверть века.

Ряд статей книги посвящен проблемам психологии творчества, литературного мастерства. Одна из этих статей предлагается вниманию читателей «Литературного обозрения».

Захоўваецца чарнавы рукапіс (11 с.) на рускай мове, напісаны сінім чарнілам.

Ёсць два машынапіса (13 с.) на рускай мове. У першым — праўкі зроблены сінім і фіялетавым чарнілам. У другім машынапісе ўлічаны ўсе праўкі першага. Ёсць новыя праўкі. Пад тэкстам напісаная ад рукі дата: 1970 (папярэдняя дата сцёрта).

Захоўваецца трэці белавы машынапіс (13 с.) таксама на рускай мове, які з'яўляецца апошнім варыянтам артыкула. Датуецца 1970 годам.

С. 331. Мележ цытуе пісьмо Л. М. Талстога да А. Фета ад 17 лістапада 1870 года [3].

С. 332. «Вайна і мір» (1863—1869), «Анна Карэніна» (1873—1877), «Халстамер» (1885), «Хаджы-Мурат» (1904).

---

1 Прыводзім гэты тэкст: «Ныне за время, необходимое для создания крупного романа, строятся огромные электростанции, воздвигаются целые города.

Искусство ищет способа успеть за жизнью. Известны многочисленные попытки разрешить эту проблему — от предложений ввести телеграфный стиль до призывов бросить на свалку большие жанры — роман, особенно — эпический роман, пользоваться только мобильными жанрами — малой повестью, рассказом и т. п.

Увы, читатель не испытал восторгов от телеграфного стиля, а мобильным жанрам предпочитает многостраничные романы».

2 У тэксце пад загалоўкам памылкова пазначана: 1969.

3 Толстой Л. Н. Переписка с русскими писателями.— М.: ГИХЛ, 1962, с. 282.

## КЛОПАТЫ МІНУЛАГА ГОДА (с. 334)

Упершыню — Лит. ґаз., 1969, 29 студз. без назвы пад рубрыкай «ЛГ» знакомит с творческими планами писателей».

Захоўваецца рукапіс (2 с.) на рускай мове, напісаны сінім чарнілам, з праўкамі. Зверху паметка: «Для «Лит. газ.».

Ёсць і машынапіс (1 с.) на рускай мове пад загалоўкам: «Заботы уходящего года». Справа: «Для «Лит. газеты» закрэслена. Пад тэкстам: 17.XII.68 г.

С. 334. «Цяпер першы том маёй прозы адкрываецца вялікім урыўкам з дзённіка 41-га года».— Мележ гаворыць пра Збор твораў у шасці тамах. (Мн.: «Беларусь»). Урывак пад назваю «У пачатку вайны» (з успамінаў пра 1941 год) быў змешчаны ў першым томе, які выйшаў у 1969 годзе.

С. 335. «Я вярнуўся, таксама ў сувязі з падрыхтоўкай да выдання збору твораў, да рамана «Мінскі напрамак», перагледзеў усё: выкрасліў многае, іншае паправіў. Некалькі раздзелаў напісаў занава: раздзелы пра генерала Чарняхоўскага».— Аб вялікай працы Мележа над раманам «Мінскі напрамак» падрабязна расказваецца ў каментарыях да гэтага рамана. (Дадзенае выданне, тт. 3—4).

«Цяпер усе думкі і клопаты — з новым раманам».— Мележ гаворыць пра трэці раман трылогіі «Палеская хроніка» — «Завеі, снежань», які застаўся незавершаным. (час. «Полымя», 1976, № 3—5).

## У НАШЫМ СЕМІНАРЫ (с. 336)

Упершыню — Лит. газ., 1969, 9 крас. Інтэрв'ю газеце І. Мележ даў як адзін з кіраўнікоў семінара Усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў, якая праходзіла ў Маскве з 25 сакавіка па 1 красавіка 1969 года.

Захоўваецца выразка з газеты з праўкамі аўтара. Напісаны ад рукі загаловак і паметка: «Печатать только мою статью».

С. 336. Першы зборнік апавяданняў А. Кудраўца «На зялёнай дарозе» выйшаў у 1968 годзе.

С. 336. «...перад нарадай, у мінскім выдавецтве «Беларусь» у яго выйшла другая кніга».— Гаворка ідзе пра кнігу нарысаў В. Мысліўца «Мае заводчыкі» (1969). Першы зборнік прозы «Дубы не маўчаць» выйшаў у 1967 годзе, а першая кніжка нарысаў «Калі табе камсамолец імя» — у 1966 годзе.

## АПАВЯДАННЕ: СТАН І ЗАДАЧЫ (с. 338)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1969 годам. Выступленне на сходзе секцыі прозы і крытыкі ў СП БССР, які адбыўся 19 чэрвеня 1969 года.

Часткова ў перakaзе выступленне змешчана ў газ. «Літ. і мастацтва», 1969, 27 чэрв.

Захоўваецца машынапіс (11 с.) з вялікай колькасцю правак, уставак і новых кавалкаў тэксту. Загаловак напісаны сінім чар-

нілам. У канцы ў дужках: «Выступленне на пасяджэнні Прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, 19 чэрвеня 1969 г.».

Ёсць і машынапіс (2 с.) заключнага слова пад загалоўкам: «Абмеркаванне стану апавядання» (канец дыскусіі ў СПБ).

С. 338. Дыскусія на старонках газ. «Літ. і мастацтва», 1969, 28 сак. пачалася артыкулам В. Бурана «Вялікія праблемы малога жанру». У ёй прынялі ўдзел: В. Жураўлёў («Устойлівае і рухомае», 4 крас.; В. Каваленка («Ненатоленая прага духоўнасці», 11 крас.); С. Андраюк («Слухаць пульс часу», 18 крас.); Я. Герцовіч («Інфляцыю трэба прадухіліць», 6 мая); А. Яскевіч («Пахвала жанру», 16 мая); П. Дзюбайла («Выразнасць пазіцыі — актыўнасць формы», 23 мая); В. Поляк («Проба пяра — проба думкі», 30 мая); Б. Зубкоўскі («Менш сумнага рэзанёрства», 30 мая); І. Навуменка («Апавяданне мусіць шукаць», 6 чэрв.), Я. Адамовіч («Проза паэтаў», 17 чэрв.).

Апавяданне М. Стральцова «Свет Іванавіч, былы донжуан» было апублікавана ў час. «Маладосць», 1969, № 12, с. 7—28.

Апавяданне М. Капыловіча «Пустальга» было апублікавана ў час. «Полымя», 1968, № 8; «У ружовым тумане» — «Маладосць», 1966, № 8.

С. 344. Апавяданне Я. Васілёнка «Горкая радасць», змешчана ў час. «Полымя», 1969, № 6.

С. 345. Апавяданне В. Адамчыка «Хата» было апублікавана ў час. «Маладосць», 1969, № 3.

## ПАКАЛЕННЕ ЗА ПАКАЛЕННЕМ (с. 347)

Друкуецца па аўтарызаваным машынапісе (45 с.), які мае некалькі загалоўкаў, напісаных ад рукі: «Пад сцягам ленінізма», «Ідэі і жыццё». Апошні — з падзагалоўкам: «Беларуская літаратура да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна».

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1969, 21 лістап. з некаторымі скарачэннямі пад загалоўкам: «На шырокай плыні жыцця і часу». Прамова на Пленуме СП БССР, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна, з якой І. Мележ выступіў 19 лістапада 1969 года.

Захоўваецца рукапіс (41 с.), напісаны сінім чарнілам, з першапачатковым загалоўкам: «Пад сцягам ленінізма». У дужках падзагаловак «Беларуская літаратура да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна». У рукапісе адсутнічае апошні раздзел. У тэксце многа правак, уставак і скарачэнняў.

С. 348. «Дазволю нагадаць, што пісаў у 1906 годзе дваццацічатырохгадовы палескі настаўнік...» — І. Мележ цытуе верш Я. Коласа «Ворагам».

С. 349. «У 1909 годзе лірычны, як цяпер звыкла казаць, герой Якуба Коласа — мужык — заявіць з зусім не лірычнай пагрозай і цвёрдасцю».— Размова ідзе аб вершы «Мужык».

«...Янка Купала ў вершы «Там»...» — Верш «Там» быў напісаны ў 1906 годзе.

С. 352. «Гэй, пагарджаны народ...» — Мележ цытуе 2 страфы з верша «Сцяг ты чырвоны трымай» (1920).

«Ты, моладзь, смела і магутна...» — 2 страфы з верша «Да моладзі»[1].

«Селянін і рабочы — удвух...» — Цытуюцца 2 страфы з верша «На чырвонай дарозе» (1920).

С. 352. «Годзе пець песні нам сумныя...» — 2 страфы з верша «Даволі слёз» (1921).

С. 355. «Маладняк», літаратурная арганізацыя пісьменнікаў БССР (лістапад 1923 — лістапад 1928). Аб'ядноўвала пераважна маладыя літаратурныя сілы рэспублікі.

«Узвышша», творчае аб'яднанне беларускіх пісьменнікаў (26.5.1926 — 12.1931). Уваходзілі К. Чорны, Зм. Бядуля і інш.

«Полымя», літаратурнае аб'яднанне пісьменнікаў БССР, якое існавала ў Мінску ў 1927—1932 гг. Уваходзілі Я. Купала, Я. Колас і інш.

С. 356. Зборнік вершаў «Завіруха» (1922), паэмы «Ленін» (1926); «Беларусь лапцюжная» (1927), «Чырвонакрылы вяшчун» (1927); «Босыя на вогнішчы» (1922).

Зборнікі вершаў «Па беларускім бруку» (1925), «Угрунь» (1927), «Фабрыка смерці» (1929).

Зборнікі вершаў «Там, дзе кіпарысы» (1925), «Крэдо» (1926), паэма «Кругі» (1927).

Зборнік вершаў «Беларусь бунтарская» (1925); паэма «Шанхайскі шоўк» (1926).

Зборнік вершаў «Раніца рыкае» (1925), «Vita» (1926).

Зборнік вершаў «Вершы» (1925), «Ветры буйныя» (1927), паэмы «Астрожнік» (1925), «Дзесяты падмурак» (1928).

Першыя зборнікі вершаў: М. Лужаніна «Крокі» (1928), П. Глебкі «Шыпшына» (1927), У. Хадыкі «Суніцы» (1926).

С. 356. Кнігі сатыры і гумару «Крапіва» (1925), «Асцё» (1925), «Біблія» (1926), «Байкі» (1927).

Кнігі апавяданняў «У віры жыцця» (1925), «Дробязі жыцця» (1927), Р. Мурашкі «Стрэл начны ў лесе» (1926).

С. 357. Аповесць «Вінаваты» (1930), раманы «Сын» (1929) і «Сцежкі-дарожкі» (1928).

Апавяданні «Гой» (1927), «Над Бугам» (1927); «Андрэй Лятун» (1930).

Аповесці «Чалавек ідзе» (1927), «У краіне райскай птушкі» (1923), «Сын вады» (1928) і раман «Амок» (1930).

Паэма «Новая зямля» (1923), аповесці «У палескай глушы» (1923), «У глыбі Палесся» (1927), «На прасторах жыцця» (1926).

Аповесць «Салавей» (1928).

С. 358. Вершы «Арлянятам» (1925), «Сыходзіш, вёска, з яснай явы» (1929), «Дыктатура працы» (1930).

С. 359. «Дзе за пасёлкам лёг пасёлак...» — страфа з верша «Сыходзіш, вёска, з яснай явы» (1929).

«Калісьці, у 1913 годзе, паэт заклікаў: «Падымайся з нізін, сакаліна сям'я» — І. Мележ цытуе верш «Маладая Беларусь» (1913).

С. 361. Аповесць «Затока ў бурах» (1919), кніга нарысаў «Шугае сонца» (1930), кніга навел «Сустрэчы» (1935).

Аповесць «Межы» (1930).

С. 362. Раман «Мядзведзічы» (кн. 1, 1932), раман «На чырвоных лядах» (1934) і аповесць «Апошні зверыядавец» (1930).

---

[1] Упершыню апублікаваны ў зб. «Завіруха» (1922).

Аповесць «Спалох на загонах» (1930), раман «Праз гады» (1935).

Раман «Вязьмо» (1932).

Зборнікі вершаў «Прамова фактамі» (1930), «Гады, як шторм» (1930), «Цэхавыя будні» (1931).

Зборнікі вершаў «Хада падзей» (1932), «Чатыры вятры» (1935), паэмы «Мужнасць» (1938), «У тыя дні» (1957).

Зборнікі вершаў «Неаплочаны рахунак» (1930), «Аднагалосна» (1931), «Кастрычнікам, ліпенем, маем» (1931).

С. 363. Паэма «Над ракой Арэсай» была напісана ў 1933 годзе.

С. 365. «Другая палова трыццатых гадоў парадавала нас цудоўным ляўкоўскім цыклам Я. Купалы».— І. Мележ гаворыць пра цыкл вершаў, напісаных за перыяд з 21 чэрвеня па жнівень 1935 года ў Ляўках на Аршаншчыне. У яго ўвайшлі: «Сыны», «Сонцу», «Здаецца ж, было гэта ўчора...», «Старыя акопы», «Сосны», «Беларусі ардэнаноснай», «Госці», «Вечарынка», «Алеся», «Хлопчык і лётчык», «Як я молада была», «Лён», «Партызаны», «Дарогі», «Як у госці сын прыехаў», «Шоў я пушчаю...» і «Дзве дзяўчыны».

Лірычны цыкл вершаў «Юнацкі свет» быў напісаны ў 1938—1941 гг., паэма «У зялёнай дуброве» — у 1940 годзе.

Аповесць «Паляўнічае шчасце» (1950), раман «Будучыня» (1936); апавяданне «Пагібель воўка» (1939).

Зборнік вершаў «Упэўненасць» выйшаў з друку ў 1938 годзе. «Я — спакойны юнак, можа, нават крыху сарамлівы...» — І. Мележ цытуе радкі з верша П. Панчанкі «Радзіме» (1937).

С. 365. Аповесць «Магістральны канал» і раман «Паўстанне» выйшлі з друку ў 1940 годзе. У гэтым жа годзе «ўбачыла святло» першая кніга паэзіі П. Пестрака «На варце».

С. 367. «Партызаны, партызаны...» — І. Мележ цытуе верш «Беларускім партызанам» (упершыню быў апублікаваны на рускай мове ў газ. «Красная звезда», 1941, 28 верас.).

«Не шкадуйце, хлопцы, пораху...» — Радкі з верша «Не шкадуйце, хлопцы, пораху...» (1941).

«Краіна мая, радасць мая...» — Дзве страфы з верша «Краіна мая» (1942).

«Беларусь» (1943).

С. 367. Зборнік вершаў «Слуцкі пояс» выйшаў у 1943 годзе.

Сатырычная газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну» — выданне ЦК КП(б)Б. Выходзіла з ліпеня 1941 года па май 1945 года.

С. 368. Зб. «Кат у белай манішцы» ўпершыню быў надрукаваны ў выдавецтве газ. «Сав. Беларусь», 1942.

Апавяданні «Васількі», «Дзіцячы башмачок» былі напісаны ў 1942 годзе.

«Мне выпала на долю быць адным з тых, хто ў канцы 1944 года ў Мінску разам з П. У. Броўкам складаў першы нумар часопіса «Полымя» на 1945 год».— Аб гэтым расказаў П. Броўка ў сваім артыкуле «А колькі ён мог яшчэ зрабіць!», змешчаным у газ. «Літ. і мастацтва», 1978, 28 крас.

С. 368. Зборнікі вершаў «Ранак ідзе» выйшаў у 1945 г., «Поўдзень» — у 1946 г.

Зборнік апавяданняў «Першая атака» (І. Мележ недакладна называе яго «У атаку») выйшаў у 1946 годзе.

С. 374. «Адзін лапаць, адзін чунь» (1970).

«Трэцяя ракета» (1963), «Альпійская балада» (1966); «Сасна пры дарозе» (1962) «Вецер у соснах» (1967); «Вайна пад стрэхамі» (1961), «Сыны ідуць у бой» (1964); «Вогненны азімут» (1966); «Тартак» (1968); «Апошнія і першыя» (1968).

«...Л. Арабей, што напісала некалькі цікавых твораў аб вайне...» — І. Мележ, відаць, мае на ўвазе аповесці «Сярод ночы» і «На другой зіме вайны» (1968).

Тэатралогія «Вецер веку» (1966).

Раманы «Крэсы змагаюцца» (1966) і «Сонца за кратамі» (1968).

«Рудабельская рэспубліка» (1968), «Колас расказвае пра сябе» (1964).

С. 375. «За годам год» (1957) і «Вясеннія ліўні» (1961); «Абжыты кут» (1964), «Снежныя зімы» (1968).

Зборнік апавяданняў «Сцяпан Жыхар са Сцешыц» (1966).

«Думаю, што не толькі нарысы «Дзівасіл» і нарысы, сабраныя ў кнізе «Ключы ад Сезама» В. Палтаран, якія ўжо належна ацэнены нашай крытыкай...» — За першы зборнік нарысаў «Ключы ад Сезама» (1967) і нарыс «Дзівасіл» аўтару прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя П. М. Лепяшынскага (1969).

«Твор Я. Сіпакова «Акно, расчыненае ў зіму», толькі нядаўна апублікаваны ў «Полымі»...» — «Полымя», 1969, № 6.

С. 376. П'еса «Выклік багам» (1967).

С. 377. Кніга «Праблемы сучаснай беларускай прозы» (1967). «Гісторыя беларускай літаратуры», у 4-х тамах.— «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры». У двух тамах.— Мн., Навука і тэхніка, 1964—1966; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У двух тамах.— Мн.: Навука і тэхніка, 1968—1969.

Кнігі «Пяцьдзесят чатыры дарогі» (1963) і «Пра час і пра сябе» (1966).

С. 378. «А. Куляшоў выдатна пераклаў некалькі буйных твораў паэзіі».— І. Мележ гаворыць аб перакладах на беларускую мову: «Выбраная паэзія» М. Лермантава, паэмы «Энеіда» І. Катляроўскага і «Спеў аб Гаяваце» Г. Лангфела, якія выйшлі ў 1969 годзе.

## АБАВЯЗАК ПЕРАД ЧАСАМ (с. 382)

Упершыню — Правда, 1969, 23 лістап. са скарачэннямі. Поўнасцю на беларускай мове — у «Ж. к.» [1].

Захоўваецца рукапіс (8 с.) на рускай мове, напісаны фіялетавым чарнілам з вялікай колькасцю правак, уставак. Першапачатковы загаловак «Требования времени. Время требует» — закрэслены.

Ёсць машынапіс (8 с.) на рускай мове. Справа загаловак: «Художник и время» — закрэслены. Злева паметка, напісаная алоўкам: «Надрукаваць тое, што падкрэслена (вельмі важна). Уключыць у якое-небудзь выступленне ці артыкул». І далей сінім чарнілам у дужках: «У кнізе — Надрукаваць поўнасцю ў такім выглядзе». Падкрэсленыя абзацы выдзелены пісьменнікам.

---

[1] У «Паказчыку публікацый і выступленняў» недакладна датуецца 1968 годам.

## МЫ — ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТЫ (с. 388)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1970 годам. Прамова на сесіі прэзідыума Сусветнага Савета Міру 3 красавіка 1970 года. Сесія была прысвечана 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна.

Захоўваецца рукапіс (9 с.) на рускай мове пад загалоўкам «Ленинские принципы интернационализма», напісаны сінім чарнілам. У тэксце многа правак, уставак. Гэта першапачатковы варыянт выступлення.

Ёсць і машынапіс (8 с.) на рускай мове. Папярэдні загаловак «Ленинские принципы интернационализма» закрэслены. Новы загаловак напісаны пісьменнікам ад рукі. Пад тэкстам закрэсленая паметка: «Выступленне на пасяджэнні прэзідыума Сусветнага Савета Міру». Масква, 3 красавіка 1970 г.

С. 391. «Наша ніва», легальная штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета, якая выдавалася ў Вільні з 10.11.1906 да 7.8.1915 на беларускай мове. Першы рэдактар і выдавец С. Вольскі, з 22.12.1906 — А. Уласаў, з 7.3.1914 рэдактар, потым і выдавец І. Луцэвіч (Янка Купала).

Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт), навукова-даследчая ўстанова БССР, якая існавала з 1922 да 1929 года. Заснавана ў Мінску 30.1.1922 на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР.

С. 393. Першая польская пяхотная дывізія імя Т. Касцюшкі, сфарміравана Саюзам польскіх патрыётаў у СССР у маі 1943 года на тэрыторыі СССР (в. Сяльцы каля Разані) пры падтрымцы Савецкага ўрада. Першы бой правяла разам з воінамі Чырвонай Арміі 12—13 кастрычніка 1943 года каля вёскі Леніна Горацкага р-на Магілёўскай вобласці.

## ЛЕНІНСКІЯ ІДЭІ І ЛІТАРАТУРА (с. 394)

Упершыню — Вопросы литературы, 1970, № 4, с. 73—75 пад назвай «Неисчерпаемый источник вдохновения» сярод адказаў іншых пісьменнікаў на анкету часопіса ў сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння У. І. Леніна.

Захоўваецца чарнавы рукапісны варыянт адказаў (4 с.) на рускай мове пад загалоўкам: «Спадзяванні і надзеі» (На анкету «Вопросы литературы»). Ёсць і другі рукапіс (6 с.), напісаны чырвоным чарнілам з праўкамі і закрэсленымі мясцінамі ў тэксце. Загаловак: «Ленинские идеи и литература» (Ответы на вопросы журнала «Вопросы литературы»).

Захоўваецца машынапіс (4 с.) на рускай мове. Загаловак напісаны аўтарам фіялетавым чарнілам. Нязначныя праўкі зроблены простым алоўкам, сінім і фіялетавым чарніламі. Пытанні і першы абзац напісаны ад рукі.

## НАРОДНЫ ПІСЬМЕННІК (с. 398)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1970 годам. Прамова на ўрачыстым вечары, прысвечаным 70-годдзю з дня нараджэння

К. Чорнага, які адбыўся 23 чэрвеня 1970 года ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы.

Захоўваецца рукапіс (6 с.), напісаны фіялетавым чарнілам. У тэксце ёсць даволі значныя праўкі. Гэта першапачатковы варыянт выступлення.

Ёсць і машынапіс (5 с.). Першапачатковы загаловак «Пра Кузьму Чорнага» закрэслены. Зверху паметка, напісаная простым алоўкам: «(не падкрэсліваць пры перадруку!)». Праўкі зроблены сінім чарнілам. Ёсць устаўка на с. 3, напісаная фіялетавым чарнілам.

## НЕКАЛЬКІ ДУМАК (с. 402)

Упершыню — «Ж. к.» у форме адказаў на пытанні[1]. Датуецца 1970 годам.

Захоўваецца машынапіс (4 с.). На асобнай старонцы 6 пытанняў. Злева: «Алесю Адамовічу, доктару філалогіі і даследчыку — Іван Мележ, самавук-філосаф з Глінішчаў». Усё закрэслена простым алоўкам. Загаловак напісаны ад рукі. Перад адказамі зварот да А. Адамовіча: «Грамадзянін прафесар! Вашы пытанні аказаліся зацяжкімі для мяне, паколькі мы да такіх пытанняў непрывычныя, але паколькі Вы просіце, то я адказваю. Толькі прашу не смяяцца, калі што не так скажу». Пад тэкстам: І. Мележ 28.10.70.

## ЗНАЙСЦІ СЯБЕ (с. 405)

Упершыню — Вопросы литературы, 1970, № 10, с. 118—130 пад рубрыкай «Мастерство писателя»; на беларускай мове ўпершыню — «Ж. к.»[2].

Друкаваўся таксама ў кнізе: Советские писатели. Автобиографии.— М.: Худож. лит. 1972, т. IV, с. 399—412.

Захоўваецца рукапіс (18 с.) на рускай мове, напісаны сінім чарнілам на пажоўклых лістах паперы. Пад тэкстам дата: 18.XI.65 г. Старонкі паперы неаднолькавыя: ёсць пажоўклыя лісты і больш новыя, напісаныя пазней і ўстаўленыя пад дадатковымі нумарамі. Ёсць машынапіс з рукапіснымі старонкамі (машынапісных — 20, рукапісных — 8, са с. 19 па 26). У абодвух тэкстах вельмі многа правак, уставак і скарачэнняў. Параўноўваючы рукапіс з машынапісам, адразу відаць, што тэкст значна перапрацаваны, устаўленыя рукапісныя старонкі напісаны пазней.

Захоўваецца і поўны машынапіс (26 с.) на рускай мове. На палях заўвагі і праўкі Ф. Куляшова, напісаныя простым алоўкам. Некаторыя з іх улічаны І. Мележам. Аўтарскія праўкі зроб-

---

[1] У перыяд напісання і падрыхтоўкі да друку кнігі «Горизонты белорусской прозы» (М.: Сов. писатель, 1974.—320 с.) А. Адамовіч звярнуўся з пытаннямі да вядомых пісьменнікаў, творчасць якіх стала прадметам яго даследавання.

[2] У «Ж. к.» пад назвай артыкула ў тэксце стаіць памылковая дата: 1972.

лены фіялетавым і сінім чарнілам. Пад тэкстам дата: 18.XI.65 г.

Ёсць яшчэ адзін машынапіс (25 с.), другі ці трэці экземпляр. Тэкст амаль без правак. Адсутнічаюць с. 4—5.

С. 407. «У 1944 годзе, ужо ў Мінску, газета «Звязда» надрукавала першае апавяданне...» — Апавяданне «Сустрэча ў шпіталі» было змешчана ў «Звяздзе», 1944, 25 лют.

С. 409. «...невялікая аповесць, напісаная летам 1946 года ў роднай вёсцы,— «Гарачы жнівень».— Аповесць «Гарачы жнівень» упершыню была апублікавана са скарачэннямі ў час. «Полымя», 1946, № 10.

С. 410. «...паявіўся злосны разнос у нашай літгазеце».— І. Мележ гаворыць аб артыкуле І. Кудраўцава «Раман пра Мінскі напрамак» (Літ. і мастацтва, 1950, 3 чэрв.).

«...ўспамінаю я разумнае сяброўскае слова Янкі Маўра».— І. Мележ мае на ўвазе артыкул Я. Маўра «Ці так трэба падтрымліваць», які быў змешчаны ў газ. «Літ. і мастацтва», 1950, 12 жніўня.

С. 412. Раман-трылогія «Сцяганосцы» («Альпы», «Блакітны Дунай» і «Злата Прага» быў напісаны ў 1946—1948 гг. Пісьменніку за раманы прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР (за 1948 і 1949 гады).

Раман «Молодая гвардия» (1945, другая рэдакцыя 1951, Дзярж. прэмія СССР, 1946 г.).

С. 415. Аб рамане «Мінскі напрамак» Л. Нікулін напісаў у артыкуле «Раман аб Айчыннай вайне», які быў апублікаваны ў час. «Дружба народов», 1955, № 5.

Артыкул С. Смірнова «Мінскі напрамак» змешчаны ў час. «Военный вестник», 1955, № 10.

Артыкул Ю. Лукіна «Мінскі напрамак» апублікаваны ў газ. «Красная звезда», 1955, 7 студз.

Аповесці «Зямля, якую любіш» (першапачатковы загаловак «Блізкае і далёкае»), «Дом пад сонцам» (першапачатковы загаловак «Дом на праспекце») былі напісаны ў 1954 годзе.

П'есы «Пакуль маладыя» (1956) і «Дні нараджэння» (1958) былі пастаўлены Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатрам імя Я. Купалы ў 1957 г. і ў 1959 г.

С. 417. Апавяданні «Спатканне за горадам» было напісана ў 1955 годзе; апавяданне «У гарах дажджы» — у 1954 годзе.

С. 421. Аповесць «Алеся» (1898).

## ДА ПЫТАННЯ АБ ПРАВОБРАЗАХ (с. 424)

Упершыню — Лит. газ., 1970, 11 лістап. пад рубрыкай «Литературная мастерская» пад назвай «Так рождаются сюжеты. Люди из Полесья».

Захоўваюцца гранкі газетнага артыкула пад загалоўкам «Первооснова — жизнь», які напісаны ад рукі. Падзагаловак «Люди из Полесья» закрэслены. У тэксце ёсць перастаноўкі і аўтарскія праўкі, зробленыя сінім чарнілам.

С. 424. Аспірантка з Гомеля.— Смыкоўская Валянціна Іванаўна. Кандыдацкую дысертацыю абараніла па тэме «Творчая гісторыя «Палескай хронікі» І. Мележа».

## ПРА ГЕОРГІЯ МАРКАВА (с. 427)

Упершыню — Лит. газ., 1971, 21 крас. у падборцы матэрыялаў, прысвечаных 60-годдзю з дня нараджэння Г. Маркава.

Захоўваецца машынапіс (3 с.) на рускай мове з закрэсленым загалоўкам: «(К 60-летию)». Праўкі зроблены сінім чарнілам. Пад тэкстам закрэслены простым алоўкам подпіс: Іван Мележ.

С. 427. Раманы «Строгавы» (1939—1946: Дзярж. прэмія СССР, 1952); «Соль зямлі» (1954—1960), «Бацька і сын» (1963—1964), «Сібір» (1969—1973).

## РАМАНЫ, АПОВЕСЦІ, АПАВЯДАННІ (с. 430)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1971, 7 мая, як раздзел са справаздачнага даклада Праўлення VI з'езду СП БССР, які адбыўся 26—27 красавіка 1971 года.

Захоўваецца рукапіс (20 с.), напісаны фіялетавым чарнілам. Зверху паметка: «Для даклада М. Танка». У тэксце многа правак, дапаўненняў, зробленых аўтарам сінім чарнілам.

Ёсць і машынапіс (19 с.), у якім улічаны ўсе папярэднія праўкі. Загаловак напісаны ад рукі. Зверху тая ж самая надрукаваная паметка. Але і ў гэтым тэксце ёсць праўкі, дапаўненні і скарачэнні. Пад тэкстам дата: 1971.

С. 431—432. «...Века уж дорисуют...» — цытата з верша Мікалая Палятаева «Портретов Ленина не видно...» (1923). Аповесць «Канец сервітуту» (1966).

Аўтабіяграфічныя раманы М. Машары «Крэсы змагаюцца» (1966), «Сонца за кратамі» (1968) і «Лукішкі» (1970).

Раманы «На парозе будучыні» і «Гарадок Устронь» выйшлі з друку адпаведна ў 1964 г. і ў 1970 г.

С. 432. «Вецер у соснах» (1967), «Плач перапёлкі» (1970), «Праклятая вышыня» (1968), «Круглянскі мост» (1969), «Сотнікаў» (1972), «Тартак» (1968), «Пакуль не развіднела» (1965), «Апошнія і першыя» (1966), «На другой зіме вайны» (1968), «Іскры ў папялішчах» (1970), «Туман над стэпам» (1971).

С. 435. Аповесць В. Быкова «Мёртвым не баліць» была напісана ў 1965 годзе.

С. 437. Аповесць Г. Бураўкіна «Тры старонкі з легенды» (1968).

Дакументальныя аповесці І. Новікава «Руіны страляюць ва ўпор» (1962), «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску» (1964), «Тварам да небяспекі» (1968).

Дакументальная аповесць А. Ус і А. Уладзіміравай «Вікторыя» (1971).

Кнігі Р. Мачульскага «Вечный огонь» (1969), «Страницы бессмертия» (1972).

Кніга І. Вятрова «Братья по оружию» (1965).

Кнігі М. Джагарава «Днём і ноччу» (1967), «Костры партизанские» (1970).

«Варта адзначыць таксама з'яўленне калектыўных зборнікаў «мемуарнага характару — «Путь к победе» (сааўтар Н. Аляксееў)...» — І. Мележ меў на ўвазе кнігу «Навстречу Победе» М. І. Крылоў, М. І. Аляксееў і І. Р. Драган, 1970).

Кніга «Сквозь огонь и смерть» (складальнік У. Карпаў) выйшла ў 1970 годзе.

С. 437. «Жыта» (1968), «Расце мята пад акном» (1966), «Сотая маладосць» (1971), «Мсціжы» (1972), «Апошні водпуск» (1976), «Чазенія» (1970), «Зноў у Будневе» («Раданіца», 1971), «Палын — зелле горкае» (1967), «Самы высокі паверх» (1969), «Сталявары» («След пракладае першы», 1971), «Падзенне Хвядоса Струка» (1967), «Чужы хлеб» (1971), «Слабодскі парламент» (1973), «Летняя знічка» (1970), «Смена караулов» (1967), «Шаги за твоей стеной» (1971), «Ці варта было жаніцца» (1968), «Паўночны фарватэр» (1971).

Зборнік лірычных мініяцюр «Жменя сонечных промняў» выйшаў у 1965 годзе.

С. 439. «...аповесць А. Адамовіча «Апошні водпуск», надрукаваную ў часопісе «Дружба народов».— «Дружба народов», 1969, № 2, с. 122—158.

С. 442. Кніга нарысаў І. Сіпакова «Па зялёную маланку» выйшла ў 1971 годзе.

Нарысы Я. Брыля «Душа не падарожніца» (1967); «Сцежкі, дарогі, прастор» (час. «Полымя», 1970, № 3, с. 93—120).

## НАСТАЎНІК ЖЫЦЦЁ (с. 445)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1971, 7 мая са скарачэннямі. Выступленне на VI з'ездзе СП БССР, які праходзіў 26—27 красавіка 1971 г. у Мінску.

Захоўваюцца чарнавыя накіды выступлення (21 с.), напісаныя на лістах з блакнота дэпутата Вярхоўнага Савета БССР.

Ёсць і машынапіс (13 с.) з напісаным ад рукі загалоўкам. У тэксце вельмі многа правак, скарачэнняў і ўставак, зробленых фіялетавым чарнілам. Пад тэкстам: І. Мележ.

Машынапіс адрозніваецца ад першапачатковых накідаў і ўяўляе сабой частку са стэнаграфічнага запісу матэрыялаў з'езда.

Пры падрыхтоўцы да выдання «Ж. к.» пісьменнік істотна перапрацаваў сваё выступленне, унёс даволі значныя дапаўненні [1].

С. 448. Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага СП СССР заснаваны ў 1933 годзе. Прыём па выніках творчага конкурсу. Вывучэнне грамадскіх і філалагічных навук спалучаецца са спецыяльнымі заняткамі ў творчых семінарах (прозы, паэзіі, драматургіі, літаратурнай крытыкі, мастацкага перакладу).

С. 448—449. «Беларусь», выдавецтва ў Мінску, якое выпускае палітычную, сацыяльна-эканамічную, мастацкую, дзіцячую, медыцынскую, даведачную, музычную літаратуру, альбомы, плакаты і іншыя выданні. Заснавана ў лістападзе 1920 г. як Беларускае аддзяленне Дзяржаўнага выдавецтва РСФСР, са студзеня 1921 г. Дзяржаўнае выдавецтва БССР.

«...аб стварэнні асобнага выдавецтва беларускай мастацкай літаратуры».— Такое выдавецтва — «Мастацкая літаратура» — бы-

[1] Былі дапісаны наступныя радкі: с. 445, радкі 27—28; с. 446, радкі 25—33, радкі 36—40.

ло заснавана 6 сакавіка 1972 года ў Мінску. З выдавецтва «Беларусь» яму перадалі выпуск мастацкай і дзіцячай літаратуры.

«Советская Россия», цэнтральнае выдавецтва РСФСР. Створана ў Маскве ў 1957 годзе. З 1965 года з'яўляецца адначасова і органам СП РСФСР. «Современник», выдавецтва, заснаванае ў 1970 годзе ў Маскве. Выдае творы сучасных пісьменнікаў РСФСР, кнігі па літаратуразнаўству і крытыцы.

«На Украіне выданнем мастацкай літаратуры займаюцца чатыры выдавецтвы».— Мележ мае на ўвазе наступныя выдавецтвы: Держлітвидав України, Дитвидав УРСР, «Радянський письменник» і «Молодь».

## МЫ РАЗУМЕЕМ ВАША ГОРА (с. 452)

Упершыню — «Ж. к.» [1], дзе датуецца 1971 годам. Прамова на сустрэчы з грэчаскімі эмігрантамі ў час работы Асамблеі Сусветнага Савета Міру ў Будапешце 17 мая 1971 года.

Захоўваюцца рукапісныя накіды (тэзісы) прамовы, напісаныя сінім чарнілам на абароце 1 с. рукапісу артыкула «Салдаты міру». Лісток паперы падзелены на дзве вертыкальныя часткі. Справа — пачатак прамовы пад лічбай 1, злева — працяг пад лічбай 2. Злева зверху загаловак: «Привет от совет. делегации» і паметка: «На сустрэчы ў Будапешце з грэч. эмігрантамі. 17.V.1971 г.».

Захоўваецца і рукапіс (2 с.) на рускай мове, напісаны сінім чарнілам з загалоўкам: «Нам понятно ваше горе» і падзагалоўкам: «Слово к греческим эмигрантам». Пад тэкстам дата: 17.V.1971 г. Ёсць праўкі.

С. 452. «...з грэчаскім народам, які аказаўся пад уладай чорных палкоўнікаў...» — І. Мележ гаворыць пра падзеі 21 красавіка 1967 года, калі рэакцыйная ваеншчына ўчыніла дзяржаўны пераварот і ўстанавіла рэжым ваеннай дыктатуры. Многія прагрэсіўныя грамадскія дзеячы былі вымушаны пакінуць радзіму.

## САЛДАТЫ МІРУ (с. 454)

Упершыню — Лит. газ., 1971, 19 мая. Выступленне на Асамблеі Сусветнага Савета Міру ў Будапешце, якая праходзіла ў маі 1971 года.

Захоўваюцца рукапісныя чарнавыя накіды выступлення на рускай мове (6 с., адсутнічае 1-я), напісаныя на лістах блакнота [2]. Ёсць праўкі. Пад тэкстам: И. М. [3]

---

[1] У «Паказчыку публікацый і выступленняў» памылкова пазначана дата: 17.IV.1971 г.

[2] Гл. каментарый да папярэдняга артыкула.

[3] Варыянты рукапісу: с. 455, радок 31, пасля: дні.// Всеобщей симпатией пользовалась наша делегация, представитель страны Советов, которая идет во главе борьбы за мир; радок 40, пасля: будучыні! // И успехов всем, кто завтра — послезавтра покинет гостеприимный весенний Будапешт, чтоб далеко ли, близко ли отсюда, на своей земле, бороться за общее наше дело, за мир на земле.

Ёсць выразка з газеты з паметкай, напісанай аўтарам простым алоўкам: «Печатать эту мою статью (и ее продолжение)». Некалькі правак зроблены фіялетавым чарнілам. Пад артыкулам дата, напісаная простым алоўкам: 1971.

## ПРА ЗБОРНІК В. АДАМЧЫКА «ДЗІКІ ГОЛУБ» (с. 456)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1971 годам. Рэцэнзія для выдавецтва «Беларусь».

Захоўваецца машынапіс (3 с.). Праўкі зроблены фіялетавым чарнілам. Пад тэкстам закрэслены простым алоўкам подпіс: І. Мележ.

Зборнік «Дзікі голуб» выйшаў з друку ў 1972 годзе. Аўтар трох зборнікаў прозы: «Свой чалавек» (1958), «Млечны шлях» (1960); «Міг бліскавіцы» (1965).

За раман «Чужая бацькаўшчына» (1978) прысуджана літаратурная прэмія СП БССР імя Івана Мележа (1980).

## РАЗВАГІ ПРА НАШУ КРЫТЫКУ (с. 459)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1972, 18 лют. пад назвай «Крытыка — пярэдні край літаратуры». Выступленне на Пленуме СП БССР 16 лютага 1972 года. Пленум быў прысвечаны пытанням беларускай літаратурнай крытыкі.

Друкавалася ў час. «Полымя», 1972, № 6, с. 165—184 пад назвай «Клопаты і надзеі» («Развагі пра нашу крытыку»).

Захоўваецца рукапіс (32 с.), напісаны фіялетавым чарнілам без загалоўка. Зверху паметка сінім чарнілам: 4 экз. У рукапісу VII раздзелаў.

Ёсць і машынапіс (41 с.). Першапачатковы загаловак «Клопаты і надзеі» закрэслены. У тэксце шмат правак, уставак, зробленых сінім і фіялетавым чарнілам [1]. Пад тэкстам паметка: «(Перадрукаваць, арыгінал вярнуць — Іван Мележ)».

С. 460. Пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы» была прынята 21 студзеня 1972 года.

С. 460. «...з якой выступіў на VI з'ездзе пісьменнікаў Беларусі кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў».— П. М. Машэраў выступіў на з'ездзе 27 красавіка з прамовай «Разам з партыяй, разам з народам» (Апублікавана ў газ. «Звязда», 1971, 29 крас.).

С. 461. «...нарадах, якія праводзіліся ў Маскве і ў Рызе, у рабоце Пленума СП СССР, які абмяркоўваў праблемы крытыкі».— Мележ гаворыць пра нараду ў Маскве, якая была прысвечана разгляду крытыкі ў рэспубліканскіх часопісах. Нарада праходзіла 10—11 снежня 1971 года.

У гэтым жа годзе адбылася нарада ў Рызе (17—19 лістапада).

---

[1] С. 463, радкі 28—44; с. 464—465, радкі 43—44, 1—24; с. 482, радкі 8—29.

Пленум СП СССР па пытаннях літаратурна-мастацкай крытыкі праходзіў з 26 па 28 студзеня 1972 года.

Артыкулы В. Каваленкі «Думкі пра сучасную беларускую крытыку» («Полымя», 1971, № 11), Б. Сачанкі «Разумець адзін аднаго» («Маладосць», 1971, № 10), Ул. Юрэвіча «Чалавек буйным планам» («Полымя», 1971, № 6), Ул. Гніламёдава «Традыцыя даўняя і добрая» («Маладосць», 1971, № 12).

«Вялікую дыскусію аб крытыцы разгарнула на сваіх старонках «Літаратура і мастацтва».— У ёй прынялі ўдзел Я. Герцовіч «Салаўя байкамі не кормяць...» (1971, 17 верас.), М. Лобан «Калі б у мяне запыталі...» (1971, 17 верас.), С. Андраюк «Каб крытыка была крытыкай» (1971, 24 верас.), А. Лойка «Наша задача — ускладняць задачы» (1971, 24 верас.), М. Арочка «Як і сама паэзія...» (1971, 1 кастр., 12 лістап.), А. Вярцінскі «Крытык — талент асаблівы, або як быць з прынцыповасцю» (1971, 1 кастр., 26 лістап.), Р. Бярозкін «Толькі рэпліка» (1971, 15 кастр.), Р. Ліцвінаў «Дзіцячая літаратура просіць увагі» (1971, 15 кастр.), М. Ларчанка «Час патрабуе» (1971, 15 кастр.), В. Мыслівец «Найпершы завет» (1971, 29 кастр.), Х. Жычка «Пра «моцную плынь» і «слушныя заўвагі» (1971, 29 кастр.), Ул. Юрэвіч «Па-партыйнаму значыць прафесійна» (1971, 12 лістап.), А. Маўзон «Таксама жанр літаратуры...» (1971, 26 лістап.), В. Бечык «Тэмпературы і халоднае кіпенне» (1971, 26 лістап.), А. Кулакоўскі «Некалькі разваг і меркаванняў» (1971, 10 снеж.), П. Пестрак «Неабходная прадмова» (1971, 24 снеж.), Э. Гурэвіч «...і ўвагі, і падтрымкі» (1972, 7 студз.), Я. Шпакоўскі «Навуковы грунт, які ён?» (1972, 14 студз.) і інш.

«Цікавай, змястоўнай аказалася і размова, якая была арганізавана ў завяршэнне дыскусіі рэдкалегіяй газеты і кіраўніцтвам Саюза пісьменнікаў».— Сумеснае пасяджэнне адбылося 14 студзеня 1972 года.

С. 464. «...ў дыскусіі аб традыцыях і наватарстве, якая з дзесятак гадоў назад з незвычайным запалам грымела на старонках нашага «ЛіМа».— Дыскусія на старонках «Літ. і мастацтва» пачалася 23 кастрычніка 1962 года артыкулам М. Стральцова «Зробім традыцыяй пошукі». У ёй прынялі ўдзел 17 чалавек. Сярод іх: Я. Герцовіч, П. Пестрак, Ул. Юрэвіч і інш.

«Памяць зберагла разумны, з бляскам напісаны артыкул А. Зарыцкага...» — Артыкул «Кудысьці не туды...» быў змешчаны ў газ. «Літ. і мастацтва», 1963, 16 крас.

С. 466. Кніга «Беларускі раман» выйшла ў 1961 годзе, на рускай мове — «Становление жанра. Белорусский роман» выйшла ў Маскве ў 1964 годзе.

«Спадарожніца часу. Артыкулы аб паэзіі» (1961), «Свет Купалы. Думкі і назіранні» (1965).

«На шырокіх шляхах жыцця» (1965), «Час і песні» (1962), «Літаратура і мова» (1969), «Голас чалавечнасці» (1970), «Шматгалоссе жыцця» (1965), «Шматграннасць» (1970), «Эцюды аб прозе» (1964), «Ад слова да вобраза» (1968).

«Праблемы сучаснай беларускай прозы» (1967).

С. 467. «Беларуская савецкая проза. Апавяданне і нарыс». Аўтары: Л. Голубева, А. Лысенка, С. Андраюк, В. Жураўлёў (1971). «Беларуская савецкая проза. Раман і аповесць». Аўтары: П. Дзюбайла, Д. Гальмакоў, Л. Голубева, М. Мушынскі, Э. Гурэвіч (1971).

«...новыя артыкулы А. Лойкі і Р. Бярозкіна ў «Полымі» (у снежаньскім і лютаўскім нумарах) і артыкул А. Адамовіча ў «Вопросах литературы».— І. Мележ гаворыць пра артыкулы А. Лойкі «Наперадзе часу» («Полымя», 1971, № 12); Р. Бярозкіна «Купала, Багдановіч, руская паэзія» («Полымя», 1972, № 2); А. Адамовіча «Путь к большой прозе (пра К. Чорнага)» («Вопросы литературы», 1971, № 10).

«Гэта — «Гісторыя беларускай дзіцячай літаратуры» Эсфір Гурэвіч».— І. Мележ мае на ўвазе кнігу «Беларуская дзіцячая літаратура» (1917—1967), якая выйшла ў 1970 годзе.

С. 474. «...не хапае той баявітасці, бескампраміснасці, якая вызначала, напрыклад, артыкулы Р. Бярозкіна пра паэзію і артыкул Н. Пашкевіча аб прозе».— Мележ гаворыць пра артыкулы Р. Бярозкіна «Па законах красы» («Полымя», 1969, № 4), «Цётка» («Полымя», 1969, № 11), «Пра Юлія Таубіна» («Полымя», 1968, № 9), «Выпрабаванне агнём. Творчасць Пімена Панчанкі» («Полымя», 1967, № 5), «Лірыка Міхайлы Грамыкі» (1966, № 7) і інш., а таксама артыкул Н. Пашкевіча «Псіхалагічнае і эпічнае» («Полымя», 1963, № 5, с. 152—177).

С. 475. «Помніцца, была ў «ЛіМе» цікавая і вострая дыскусія...» — Мележ мае на ўвазе тэатральную дыскусію, якая пачалася артыкулам А. Звонака «Пагаворым шчыра» («Літ. і мастацтва», 1962, 26 студз.). У ёй прынялі ўдзел звыш 10 чалавек. Сярод іх: Р. Бярозкін, В. Каваленка, Б. Бур'ян, А. Клімава, Г. Колас і інш.

С. 475. Фільм «Я, Францыск Скарына» быў пастаўлены ў 1970 годзе рэжысёрам Б. Сцяпанавым.

Фільмы па дылогіі «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой» пастаўлены рэжысёрам В. Туравым, першы — у 1968 годзе, другі — у 1970 годзе.

«У апошнім нумары «ЛіМа» ў рэпартажы са студыі Р. Бакуновіч...» — «Пражыты дзень...» — Літ. і мастацтва, 1972, 11 лют.

«...артыкул Б. Бур'яна ў № 12 «Полымя»...» — Мележ гаворыць пра артыкул «Старонкі летапісу плюс старонкі даследавання» («Полымя», 1971, № 12).

«...у якім ён аналізуе кнігу У. Няфёда пра тэатр імя Я. Купалы».— Кніга «Беларускі акадэмічны тэатр імя Я. Купалы» выйшла ў выдавецтве «Беларусь» у 1970 годзе.

С. 481. «...і звыклыя маршруты нашы — ад кватэры да вуліцы Захарава ці Энгельса і да дома № 79 на Ленінскім праспекце».— Мележ мае на ўвазе рэдакцыі газеты «Літ. і мастацтва» і часопіса «Полымя» па вуліцы Захарава, 19 і дом № 9 па вуліцы Энгельса, дзе ў той час знаходзіўся СП БССР і рэдакцыі выдавецтваў, якія тады размяшчаліся ў Доме друку па Ленінскаму праспекту, № 79.

С. 485. З'езд пісьменнікаў СССР праходзіў з 29 чэрвеня па 2 ліпеня 1971 года.

С. 486. Аповесць «Чужыя страсці» (1971) і раман «Страчаны дом» (1973, Ленінская прэмія, 1976).

С. 487. Раман «Смерць Артэміа Круса» (1962, рускі пераклад 1967), раман «Сто гадоў адзіноты» (1967, рускі пераклад 1970).

## ЗНАЙСЦІ ВОБРАЗ ЧАСУ (с. 494)

Упершыню — Лит. газ., 1972, 23 лют. у падборцы матэрыялаў да 80-годдзя з дня нараджэння К. Федзіна.

Захоўваецца рукапіс (2 с.) на рускай мове, напісаны фіялетавым чарнілам з праўкамі і вялікай устаўкай. У рукапісе адсутнічае апошняя старонка.

Ёсць і машынапіс (3 с.), у якім улічаны ўсе праўкі рукапісу. У гэтым тэксце ёсць таксама праўкі, зробленыя сінім чарнілам. Пад тэкстам подпіс і дата: 10.2.72, якія закрэслены. Справа простым алоўкам напісана дата: 1972. Заключны абзац, дзе І. Мележ ад імя беларускіх пісьменнікаў жадае здароўя К. Федзіну, таксама закрэслены простым алоўкам.

С. 494. «Гадоў дзесяць таму назад, атрымаўшы першы том збору твораў Канстанціна Аляксандравіча Федзіна...» — Мележ, відаць, меў на ўвазе Збор твораў у 9-ці тамах, першы том якога выйшаў у 1959 годзе (М.: Гослитиздат).

Раман «Касцёр» (кн. 1—2, 1961—1965).

С. 495. Кніга «Пісьменнік. Мастацтва. Час» выйшла ў 1957 годзе.

## У СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ (с. 496)

Упершыню — Лит. газ., 1972, 26 крас. пад назвай «Чтоб узнали внуки и правнуки». Інтэрв'ю газеце ў сувязі з прысуджэннем Ленінскай прэміі за раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы».

Захоўваецца рукапіс (3 с.) на рускай мове, напісаны сінім чарнілам, з першапачатковым загалоўкам «Это ко многому обязывает». Зверху закрэсленая паметка: «Для «Лит. газеты». Ёсць праўкі. Пад тэкстам подпіс і дата: Иван Мележ 21.IV.72 г.

## ПРАМОВА НА ЎРУЧЭННІ ЛЕНІНСКАЙ ПРЭМІІ (с. 498)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1972 годам. Прамова на ўручэнні Ленінскай прэміі ў Крамлі 28 красавіка 1972 года.

Захоўваецца рукапіс (2 с.) на рускай мове, напісаны сінім чарнілам з праўкамі. На асобным лісце напісана: «Выступление на вручении Ленинской премии. 28 апреля 1972 года». (Черновой вариант. Писано в гост. «Москва», 28.IV). Слова «Выступление» закрэслена і над ім напісана: «Речь».

## РЭДАКЦЫІ ЧАСОПІСА «МОЛОДАЯ ГВАРДИЯ» (с. 500)

Упершыню — Молодая гвардия, 1972, № 5, с. 70 [1]. Віншаванне з 50-годдзем часопіса.

[1] У «Ж. к.» памылкова пазначана: «Молодая гвардия», 1971, № 5.

Захоўваецца машынапіс (1 с.) на рускай мове. Ёсць дзве праўкі, зробленыя сінім чарнілам. Зверху закрэслены адрас рэдакцыі часопіса. Тэкст надрукаваны ў выглядзе тэлеграмы. Пад ім подпіс: Іван Мележ і дата: 24.II.71 г. Справа простым алоўкам напісана яшчэ дата: 1971, а пад ёй надрукаваны дамашні адрас пісьменніка.

«Молодая гвардия», штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс ЦК ВЛКСМ. Заснаваны ў 1922 годзе ў Маскве.

## ПАМЯЦЬ ХАТЫНІ (с. 501)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1972 годам. Прамова на мітынгу ў Хатыні ў час міжнароднай сустрэчы прыхільнікаў міру, якая адбылася 15 ліпеня 1972 г.

Захоўваецца рукапіс (3 с.), напісаны сінім чарнілам, з праўкамі і ўстаўкамі. Пасля загалоўка ў дужках: (на мітынгу ў Хатыні, 15.VII.1972 г.).

С. 501. Хатынь, вёска Лагойскага раёна Мінскай вобласці, якая была спалена нямецка-фашысцкімі карнікамі ў 1943 годзе разам з жыхарамі (149 чал., у тым ліку 76 дзяцей).

У 1969 годзе быў адкрыты Мемарыяльны архітэктурна-скульптурны комплекс.

Лідзіцы, шахцёрскі пасёлак у Чэхаславакіі (непадалёку ад Кладна), поўнасцю разбураны гітлераўцамі 10.6.1942 года пасля забойства чэшскімі патрыётамі пратэктара Чэхіі і Маравіі, ката чэшскага і славацкага народаў, Гейдрыха.

Арадур-сюр-Глан, населены пункт у дэпартаменце Верхняя В'ена ў Францыі. У перыяд фашысцкай акупацыі 10.6.1944 гітлераўцы з дывізіі «Дас райх» расстралялі ўсіх мужчын, спалілі ў царкве жанчын і дзяцей (з 648 жыхароў загінула 642), зруйнавалі ўсе будынкі.

Асвенцім, горад у Польшчы (Кракаўскае ваяводства), паблізу якога ў Другую сусветную вайну нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі ў 1940 годзе гіганцкі канцэнтрацыйны лагер. Асвенцімскі лагер быў прызначаны для масавага знішчэння людзей.

Бухенвальд, фашысцкі канцэнтрацыйны лагер. Створаны ў 1937 (паводле некаторых звестак у 1934) на гары Этэрсберг непадалёк ад г. Веймар (Германія). Паводле няпоўных звестак, праз Бухенвальд прайшло 250 тыс. вязняў, з іх 56 тыс. загінула. Многія адпраўлены на катаванні і смерць у іншыя лагеры. Бухенвальд называлі лагерам павольнай смерці.

Сангмі, вёска ў В'етнаме. У сакавіку 1968 года амерыканскія агрэсары загубілі 567 яе жыхароў.

## ЖЫЦЦЁ, ЯКОЕ Я ЗВЕДАЎ (с. 503)

Упершыню — Литературен фронт, (Сафія), 1972, 27 ліп. Інтэрв'ю карэспандэнту газеты Элеаноры Пурлаковай.

Захоўваецца машынапіс (3 с.) з вялікай колькасцю правак,

зробленых сінім чарнілам. Першапачатковы загаловак, напісаны ад рукі: «Іван Мележ перад Літфронтам» — закрэслены. Першы абзац таксама закрэслены.[1]. Пад тэкстам дата: 1972 г.

## ЧАСТКА МАЙГО СЭРЦА (с. 507)

Упершыню — Известия, 1972, 5 верас. Інтэрв'ю карэспандэнту газеты М. Я. Матукоўскаму змешчана пад рубрыкай «Встречи по вашей просьбе».

Захоўваецца выразка з газеты з аўтарскімі праўкамі і скарачэннямі, якія з'яўляюцца вельмі цікавымі для разумення праблемы псіхалогіі творчасці, пытанняў майстэрства, месца і значэння пісьменніцкай працы для грамадскасці.

Ёсць і машынапіс (5 с.) на рускай мове амаль без правак. Пад тэкстам дата: 1972. У машынапісе ўлічаны ўсе праўкі, зробленыя на газетнай выразцы.

Інтэрв'ю значна перапрацавана пры падрыхтоўцы да друку «Ж. к.»[2].

## ПРА МАКСІМА ТАНКА (с. 511)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1972, 15 верас. пад назвай «Паэт, грамадзянін, чалавек». Артыкул напісаны да 60-годдзя з дня нараджэння.

Захоўваецца рукапіс (3 с.), напісаны сінім чарнілам, з праўкамі і ўстаўкамі. Пад тэкстам: Іван Мележ.

Ёсць і белавы машынапіс (3 с.). Загаловак напісаны простым алоўкам. Справа закрэслены подпіс: Іван Мележ.

С. 511. Зборнік вершаў «На этапах» выйшаў у 1936 годзе і быў канфіскаваны.

С. 512. «...сялянскі юнак з Пількаўшчыны, для якога універсітэтамі былі заходнебеларускія этапы і белапанскія краты...» — М. Танк нарадзіўся ў вёсцы Пількаўшчына Вілейскага павета Мінскай губ. За рэвалюцыйную дзейнасць неаднойчы арыштоўваўся ўладамі буржуазнай Польшчы.

## ШЧАСЛІВЫ ДАР ЛЁСУ (с. 513)

Упершыню — Литературная Россия, 1972, 22 верас. Інтэрв'ю газеце запісалі Л. Аганава і А. Гардзіцкі.

Захоўваецца машынапіс (8 с.) на рускай мове з загалоўкам, напісаным фіялетавым чарнілам. Падзагаловак: «интервью корреспонденту газеты «Литературная Россия» — таксама напісаны чарнілам. Зверху закрэсленая простым алоўкам дата: 11 июля

---

[1] Тэкст: «Размова з Іванам Паўлавічам, лаўрэатам Ленінскай прэміі ў галіне літаратуры — 1972, пачалася нязмушана. З непадробнай шчырасцю ён падзяліўся думкамі, якія яго хвалявалі».

[2] Дапаўненні, унесеныя ў тэкст: с. 507, радкі 17—24; с. 517, радкі 32—34; с. 518, радкі 6—9.

1972 года. Пад тэкстам паметка: «Беседа отредактирована и авторизована И. Мележем», якая таксама закрэслена простым алоўкам.

## АБ ГРАНІЦАХ, ПАМЯЦІ І ВОПЫЦЕ (с. 520)

Упершыню — Лит. газ., 1972, 20 снеж. пад назвай «Прекрасен наш союз» да 50-годдзя ўключэння Беларускай ССР у склад СССР.

Захоўваецца машынапіс (3 с.) на рускай мове з праўкамі, зробленымі сінім і фіялетавым чарнілам. Усе праўкі ўлічаны ў асноўным тэксце. Першапачатковы загаловак закрэслены: «Опыт народов дает мудрость и силу миллионам». Напісаныя фіялетавым чарнілам яшчэ тры загалоўкі таксама закрэслены: «Опыт в зрелом возрасте», «Необходимость единения» і «Прекрасен наш союз». Пад тэкстам закрэслены простым алоўкам подпіс: И. Мележ.

## НАСТАЎНІК, ВЫХАВАЦЕЛЬ, ШКОЛА (с. 523)

Упершыню — Учительская газета, 1972, 30 снеж. пад назвай «Прекрасная миссия на земле».

Захоўваецца скарочаны варыянт машынапісу (9 с.) на рускай мове з вялікай колькасцю правак. Загаловак «Прекрасная миссия» напісаны сінім чарнілам. Збоку паметка: «Для «Учит. газеты». Зверху іншым почаркам чорным чарнілам напісаны наступны тэкст: «Уважаемый Иван Павлович! Это вариант, подготовленный к печати. Будьте любезны посмотреть. Все поправки я возьму у Вас по телефону» і подпіс. Пад тэкстам паметка, напісаная ад рукі сінім чарнілам: «(Авторизация стенограммы) напеч. 30.XII.72 г.».

Захоўваецца і поўны машынапіс (17 с.) на рускай мове. Зверху закрэслена: «Расшифрован. запіс». Назва артыкула напісана сінім чарнілам. У тэксце вялікая колькасць правак, устаўак. Пад тэкстам: «Стенограмма расшифрована Р. С. 18—19 декабря 72 г.».

## ПРА КАРЫСЦЬ СУСТРЭЧ (с. 536)

Упершыню — Вопросы литературы, 1972, № 12, с. 85—86 пад рубрыкай «50 славных лет».

Захоўваецца ліст паперы з пытаннямі, прысланы з рэдакцыі час. «Вопросы литературы» і падпісаны галоўным рэдактарам В. Озеравым. Ёсць паметка, напісаная простым алоўкам: «Это печатать под заголовком «О пользе общения». Тэкст на палях закрэслены.

Захоўваецца і машынапіс адказаў (3 с.) на рускай мове. Загаловак напісаны ад рукі. Ёсць праўкі. Подпіс: Іван Мележ — закрэслены.

С. 538. Часопіс «Советская литература» выдаецца на англійскай, французскай і іспанскай мовах. Друкуюцца творы вядомых савецкіх пісьменнікаў.

«Прагрэс» — цэнтральнае выдавецтва, якое выпускае літаратуру гуманістычнага профілю на замежных мовах і перакладную літаратуру на рускай мове.

## ЖЫЦЬ ЗМЯСТОЎНА, ПАЎНАЦЭННА (с. 539)

Упершыню — Дружба народов, 1972, № 12, с. 21—23 пад рубрыкай «50 лет СССР». Адказы на анкету часопіса сярод іншых савецкіх пісьменнікаў.

Захоўваецца ліст, прысланы І. Мележу з час. «Дружба народов». Злева паметка: «Адк. 21.IX.72 г.». Ліст падпісаны заг. аддзела крытыкі А. Рудэнкам.

Ёсць адна рукапісная старонка з вялікай колькасцю правак. Захоўваецца і машынапіс (3 с.) на рускай мове. Загаловак напісаны ад рукі. У тэксце ёсць праўкі, зробленыя фіялетавым і сінім чарнілам. Пад тэкстам закрэсленая дата: 21.IX.72 г. і напісана простым алоўкам: 1972.

Ёсць машынапіс уступу (2 с.) на рускай мове. Увесь першапачатковы тэкст значна перапрацаваны, замест скарачэнняў напісаны новы тэкст. Зверху дата: 21.IX.72 г. і паметка: «Замяніў (1 варыянт)».

## НЕКАЛЬКІ ДУМАК ПРА ЧЫТАЧА (с. 542)

Упершыню — Литературное обозрение, 1973, № 1, с. 65—68 пад назвай «Чей дорог суд».

Захоўваецца машынапіс (7 с.) на рускай мове з закрэсленым загалоўкам: «Чей дорог суд» і падзагалоўкам: «Несколько мыслей о читателе». У тэксце ёсць праўкі, дапаўненні і скарачэнні, зробленыя фіялетавым чарнілам. На апошняй старонцы закрэслены некалькі апошніх абзацаў. Злева паметка, напісаная сінім чарнілам: «не давать — до конца» [1].

---

[1] Закрэслены тэкст: «Я бы назвал социальным завоеванием наших дней именно такого друга (маецца на ўвазе чытач), которому отдаешь на суд выстраданное и бесконечно важное. Рядом с «другом понимающим» писатель глубже постигает проблемы, связанные с временем, с обществом и личностью. Значит, становятся шире и масштабы его художественного использования жизни. К читателю это обогащение писательской кладовой возвращается новыми книгами. А они-то и есть новый импульс к повышению «квалификации» этой сложной «профессии» — читатель.

По моему убеждению, взаимоотношения писателя и читателя — это одна из самых серьезных проблем современной литературной жизни.

Было бы ошибкой думать, что читатель — это понятие единое. Одинаковых читателей по образу мышления, по восприятию прочитанного и «отдаче» себя книге,— не существует и быть не может. Все люди — разные. И литературные вкусы — тоже разные. Эта неодинаковость сказывается не только в пристрастии к тому...» (Далей тэкст абрываецца).

## ЧАСОПІСУ «РУССКАЯ РЕЧЬ» (с. 548)

Упершыню — Русская речь, 1973, № 1, с. 59 пад назвай «Слово писателя». Адказы на анкету, з якой часопіс звярнуўся да пісьменнікаў і паэтаў, прадстаўнікоў нацыянальных літаратур у сувязі з 50-годдзем утварэння Саюза ССР.

Захоўваецца рукапіс (2 с.) на рускай мове, напісаны сінім чарнілам, з праўкамі. Пад тэкстам закрэслены подпіс: И. Мележ.

Ёсць і машынапіс (2 с.) на рускай мове і старонка з пытаннямі, на якой простым алоўкам І. Мележ напісаў першы сказ адказаў. Праўкі зроблены сінім чарнілам, подпіс: Иван Мележ закрэслены простым алоўкам.

## НАКАЗ ПЕРАЖЫТАГА (с. 550)

Упершыню — «В мире книг», 1973, № 4, с. 46 пад рубрыкай «Писатель и его дело». Інтэрв'ю часопісу. Гутарку з пісьменнікам вёў спецкор Віталій Ламанаў.

Захоўваецца машынапіс (11 с.) на рускай мове. Загаловак напісаны сінім чарнілам. Машынапіс уяўляе сабой адказы І. Мележа на пытанні карэспандэнта. У тэксце вельмі многа правак, зробленых сінім і фіялетавым чарнілам. Пад тэкстам подпіс: Вит. Ломанов. Праўкі былі ўнесены ў машынапіс пры падрыхтоўцы да друку «Ж. к.». Усе праўкі ўлічаны ў асноўным тэксце.

У канцы машынапісу рукою Мележа напісана наступнае: «Прочитал. Прошу учесть поправки. И печатайте, «с богом». И. Мележ. 31.XII.72 г. P. S.: «Вит. Мих.! Мне кажется 1-ую часть надо разделить на части и связать вопросами Вашими. (Как оно, помнится, и было!) Так будет живее разговор и естественнее. Прошу это учесть. Все остальное не нуждается в пояснениях. С Новым годом! И. Мележ».

С. 552. «Сшытак з маімі апавяданнямі трапіў да Кузьмы Чорнага дзякуючы турботам аднаго з выкладчыкаў універсітэта, літаратара...» — Аб гэтым Мележ падрабязна расказаў у апавяданні «Чулае сэрца» [1].

С. 556. Раман «Мужыкі» (тт. 1—4, 1904—1909; Нобелеўская прэмія, 1924).

Раман «Сям'я Цібо» (1922—1940, Нобелеўская прэмія, 1937).

С. 556. «...якая панавала ў рэдакцыі часопіса «Дружба народов» у той час, калі там рыхтаваліся да друку мае раманы».— Мележ гаворыць пра раманы «Людзі на балоце» («Дружба народов» 1962, №№ 11, 12) і «Подых навальніцы» («Дружба народов», 1967, №№ 5—7).

«Вельмі ўдзячны я работнікам выдавецтва «Советский писатель», якім абавязаны тым, што яны адкрылі мне шлях да ўсесаюзнага чытача...» — Мележ мае на ўвазе раман «Мінскі напрамак», які выйшаў на рускай мове ў 1954 годзе ў гэтым выдавецтве.

«...нядаўна мною здадзены ў выдавецтва «Советский писатель» рукапіс рамана «Мінскі напрамак»...» — Раман выйшаў у 1973 г. Гэта было шостае выданне рамана на рускай мове.

---

[1] Дадзенае выданне, т. 1, с. 202.

## АНРЫ БАРБЮС (с. 558)

Упершыню — «Ж. к.», дзе датуецца 1973 годам. Уступнае слова на гарадскім вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння А. Барбюса, які адбыўся 17 мая 1973 года ў Мінску.

Захоўваецца рукапіс (2 с.), напісаны фіялетавым чарнілам, пад закрэсленым загалоўкам: «Уступнае слова на вечары Анры Барбюса». Апошні загаловак напісаны простым алоўкам. Ёсць нязначныя праўкі.

Раман «Агонь» (1916).

## ДАТЫЧЫЦЬ УСІХ НАС (с. 559)

Упершыню — Пятая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Восьмага скліканння. 28—29 чэрвеня 1973 года: Стэнаграфічная справаздача — Мн.: Беларусь, 1973. Выступленне на Пятай сесіі Вярхоўнага Савета БССР 28 чэрвеня 1973 года.

Захоўваецца чарнавы рукапіс (9 с.), напісаны фіялетавым чарнілам. Першапачатковы загаловак «Выступленне на Сесіі» закрэслены. У тэксце многа правак, перастановак, скарачэнняў і ўставак. Пад тэкстам паметка, узятая ў круглыя і квадратныя (пастаўлены простым алоўкам) дужкі: «Выступл. было 28.VI.1973 г.».

С. 560. Ансамбль народнай песні.— Мележ мае на ўвазе, відаць, Дзяржаўны народны хор БССР, які заснаваны ў 1952 годзе. Нязменны мастацкі кіраўнік народны артыст БССР Г. Цітовіч.

Акадэмічная харавая капэла.— Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР створана ў 1948 годзе ў Беластоку. Заснавальнік і мастацкі кіраўнік да 1970 года народны артыст СССР Р. Шырма.

Эстрадны ансамбль «Песняры».— Вакальна-інструментальны ансамбль Беларускай філармоніі. Створаны ў 1969 годзе. Мастацкі кіраўнік народны артыст БССР У. Мулявін.

«Пісьменнікі Беларусі прымалі ўдзел у паездках савецкіх пісьменнікаў у розныя раёны Сібіры...» — У жніўні 1972 года ў «Енісейскіх сустрэчах» прынялі ўдзел М. Аўрамчык, Я. Брыль, С. Грахоўскі.

«Пісьменнікі Беларусі выступалі... на Алтаі...» — Дні савецкай літаратуры на Алтаі праходзілі ў чэрвені 1972. У іх прынялі ўдзел С. Грахоўскі і В. Іпатава.

«Толькі нядаўна нашы таварышы вярнуліся з Алтая, дзе прымалі ўдзел у Днях беларускай культуры».— Фестываль беларускага мастацтва і літаратуры на Алтаі праходзіў у чэрвені 1973 года. У ім прынялі ўдзел А. Грачанікаў, Г. Бураўкін, В. Зуёнак, Я. Скрыган, Б. Спрынчан, А. Гардзіцкі і В. Нікіфаровіч.

С. 565. «Вярхоўны Савет прыняў год назад закон аб ахове здароўя...» — Мележ гаворыць пра Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб ахове здароўя, які быў прыняты Восьмай сесіяй Вярхоўнага Савета БССР сёмага склікання 4 чэрвеня 1970 года (артыкул 30. «Папярэджанне і ліквідацыя шуму»).

## ДЗВЕ СУСТРЭЧЫ (с. 567)

Упершыню — Лит. газ. 1973, 12 верас. пад рубрыкай «Пятая конференция писателей стран Азии и Африки. Говорят участники форума». Інтэрв'ю ўдзельніка канферэнцыі, якая праходзіла ў Алма-Аце ў верасні 1973 года.

Захоўваецца машынапіс (1 с.) на рускай мове амаль без правак. Загаловак напісаны ад рукі. Пад тэкстам — паметка: «12 сентября 1973 г. «Литературная газета». Усё, акрамя года, закрэслена.

С. 567. «Мне давялося быць удзельнікам Першай канферэнцыі пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі ў 1958 годзе».— Першая канферэнцыя пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі праходзіла ў Ташкенце з 7 па 13 кастрычніка 1958 года.

## ПРА «ХАТЫНСКУЮ АПОВЕСЦЬ» (с. 568)

Упершыню — як прадмова да кнігі А. Адамовіча «Хатынская аповесць» (М.: Худож. лит., 1974).

Захоўваецца рукапіс (5 с.), напісаны фіялетавым і сінім чарнілам, і машынапіс (4 с.) на рускай мове пад загалоўкам «Александр Адамович». Гэты тэкст з'яўляецца прадмовай да выдання «Хатынскай аповесці» ў «Роман-газете» [1] і пачаткам прадмовы да аповесці, выдадзенай выдавецтвам «Художественная литература» ў 1974 годзе.

Ёсць і поўны рукапіс (9 с.) на рускай мове. Пачатак надрукаваны на машынцы (2 с.). Першапачатковы загаловак закрэслены, і новы напісаны ад рукі сінім чарнілам, як і ўвесь рукапіс, у якім вельмі многа правак, скарачэнняў і ўставак. Пад тэкстам подпіс: И. Мележ.

С. 568. «І тут А. Адамовіч пачаў смела — раманам «Вайна пад стрэхамі».— Раман «Война под крышами» выйшаў у 1961 годзе.

«Маштабнасць прозы» (1972). Аповесці «Асия» («Виктория») і «Последний отпуск» выйшлі ў 1976 годзе.

[1] «Хатынская аповесць» у «Роман-газете» не выйшла.

## III

## МЕЛЕЖ-КРЫТЫК

Чытачы гэтага тома ўбачаць Івана Мележа ў новай творчай постаці — у ролі публіцыста, літаратурнага крытыка, заканадаўца культуры творчасці.

Літаратурна-крытычная дзейнасць пісьменніка з'ява наогул своеасаблівая ў многіх адносінах. Калі ў пісьменніка часамі ўзнікае патрэба выказацца ў крытычным жанры, няхай гэта будзе эсэ-партрэт пра любімага пісьменніка, рэцэнзія пра твор таварыша па пяру, нататкі пра свае назіранні над працэсам творчасці, урэшце, нават абагульняючы артыкул пра літаратуру, дык пішуцца яны крыху з іншай нагоды і з некалькі іншым падыходам да матэрыялу, як гэта робіць уласна крытыка.

Уся справа, відаць, тут у тым, што ў час выспявання творчай задумы і яе мастацкага ўвасаблення кожны сур'ёзны майстар прароблівае каласальную, для староннягa вока нават цяжка ўявімую, працу, пакутліва перабіраючы і ўзважваючы бясконцыя варыянты рашэнняў сваёй мастацкай задачы, адшукваючы для кожнага новага зместу найтанчэйшыя законы яго ўнутранай арганізацыі. І ў гэтым сэнсе кожны мастак проста вымушаны — у першую чаргу для самога сябе — рабіцца крытыкам, тэарэтыкам літаратуры.

Ва ўсякім выпадку Гётэ ставіў пытанне менавіта так. Паколькі ніхто не мае такога дакладнага ўяўлення пра цяжкасці мастацтва, як сам мастак, і паколькі гэтыя цяжкасці яму неабходна пераадолець любой цаной, пісьменнік самімі абставінамі творчасці вымушаны шукаць дапамогі ў навукі, непазбежна становіцца даследчыкам літаратуры. «Таму геній,— зазначае Гётэ,— па добрай волі набліжаецца да тэарэтыка, ад якога чакае скарачэння свайго шляху і ўсялякага аблегчання ў сваёй рабоце»[1].

У прыватнасці, калі гаварыць пра творчасць Мележа, дык гэтая крытычная рэфлексія, што мімаволі і часцей за ўсё зусім падсвядома суправаджае ўвесь загадкава-складаны працэс стварэння твора, была неад'емнай дарадчыцай у яго творчасці. І пра важнасць, проста незаменнасць яе празаік сказаў, можа, як ніхто, пранікнёна ў артыкуле «Праца пісьменніка» (1968). Гэтую няспынную крытычную работу памяці Мележ упадабляе другой справе, другой кнізе пісьменніка, што праз усё жыццё другім пабочным зрокам кантралюе працэс творчасці.

«Гэта другая кніга,— гаворыць Мележ,— тая ўнутраная работа, якая заўсёды папярэднічае напісанай і надрукаванай. Папярэднічае, суправаджае на працягу ўсёй работы за пісьмовым сталом і нярэдка — потым застаецца, разам з многімі пытаннямі. Ненапісаная гэтая кніга ўся складаецца з пытанняў. Пытанні гэтыя часцей за ўсё канкрэтныя, практычныя: пра галоўную думку кнігі, пра герояў, характары іх, узаемаадносіны паміж імі. З чаго пачаць, як развіваць, чым закончыць? Як будзе паводзіць сябе герой, якія словы скажа, што падумае?»

---

[1] Гёте И.-В. Собр. соч. в 13-ти т. Т. XI,— М.: Худ. лит., 1935, с. 470.

Пазней, калі кніга пойдзе да чытача, пытанні гэтыя будуць прыходзіць да пісьменніка трывожнымі сумненнямі: ці перака-наўча пададзены характары, ці лепшыя знойдзены рашэнні... І паводле сведчанняў пісьменніка, чым даражэй і сур'ёзней кні-га, тым больш гэтых пытанняў і тым даўжэй будуць трывожыць. Бо самакрытычная рэфлексія — ўнутраная патрэба творцы. На думку Мележа, кожны сапраўдны пісьменнік у глыбіні душы крытык.

Для нас жа, чытачоў, гэтая кніга ўнутранай работы памяці, што толькі часткова, урыўкамі знаходзіць выхад у крытычнай творчасці пісьменніка і бывае раскідана ў самых разнастайных, з рознай нагоды змешчаных публікацыях, уяўляе найкаштоў-нейшы матэрыял для даследавання таленту Мележа, для высвят-лення шматлікіх таямніц творчасці.

А Мележ сваёй выдатнай творчасцю сапраўды наставіў пы-танняў даследчыкам. Да гэтай пары ўяўляецца таямніцай, якім чынам у сярэдзіне 60-х гадоў, у час працы над раманам «Людзі на балоце», адбылося ў яго творчасці раптоўнае — інакш не на-завеш — узыходжанне да класічнай культуры творчасці, што ад-разу вылучыла пісьменніка на ролю сапраўднага заканадаўцы літаратурнага працэсу.

Што гэта быў за перыяд у творчасці празаіка, што надало яму сілы зрабіць гэтае дзіўнае намаганне над сабою, неяк адра-зу наблізіцца да прыроды свайго таленту і пранікліва тонка спасцігнуць сакрэты майстэрства,— не будзем утойваць, без сведчанняў пра гэта Мележа-крытыка, нашыя меркаванні тут наўрад ці маглі быць дастаткова пераканаўчымі і глыбокімі.

У свой час Іван Франко не выпадкова саманазіранні май-строў слова называў «паказаннямі першаступенных сведкаў» і разглядаў іх як папярэдне самы неабходны матэрыял для раз-гадвання сакрэтаў творчасці.

Так, са старонак гэтай скупой на вонкавыя праявы «кнігі» паўстае другі і, можа, найбольш у творчым плане цікавы Мележ, чым той, якога мы ведалі ў жыццёвай абыдзеннасці. Гэта Ме-леж «унутраны», засяроджаны ў сваёй пісьменніцкай «лабарато-рыі», увесь у творчым неспакоі і адвечным пісьменніцкім паку-таванні над словам.

Праз усю гэту кнігу творчай памяці праходзіць запаветная мара пісьменніцтва, творчасці, што з глыбіні маленства, адтуль, з самых першых імгненняў спасціжэння свету, няўмольным по-клічам клікала да ўзвышэння над самім сабой, шточаснага твор-чага самаўдасканалення. Хоць у падобных сведчаннях не было недахопу і раней, але разважанні Мележа аб вытоках творчасці для нас каштоўныя тым, што непасрэдна датычацца разгадван-ня фенамена «Палескай хронікі». Зусім шчыра дзелячыся мер-каваннямі аб найбольш пераломных момантах сваёй творчасці, Мележ прыходзіць да вельмі важнага ўрока, што сапраўднае спазнанне сябе, як пісьменніка, якое напачатку зацягвалася, ад-былося ў ім толькі тады, калі ён у пошуках сваёй галоўнай тэмы наблізіўся да вытокаў жыцця. Пазней у інтэрв'ю карэспан-дэнту «Известий» «Частка майго сэрца» (1972) ён вызначыць гэтую дыялектыку набліжэння да свайго таленту так:

«...Усякая значная жыццёвая з'ява — як дрэва: на паверх-ні толькі ствол ды крона. А каб пазнаць цэлае, пісьменнік па-вінен паглядзець карэнні».

Тут да месца будзе сказаць яшчэ пра адно прызнанне, пра якое мы нечакана даведваемся з яго нататак «Настаўнік, выхавацель, школа» (1972). У Мележа ў школьныя гады выяўляўся,— і відаць, даволі моцны,— талент да малявання. «Я тады сур'ёзна думаў пра тое, што стану мастаком. Марыў пра гэта. Зрэшты, аб чым мы тады ні марылі... Усё ж сярод многіх захапленняў тагачасных, бадай, адным з самых моцных была літаратура». Вось тлумачэнне проста дзівоснай малюнкавасці і амаль стэрыяскапічнай рэльефнасці прозы Мележа. Так, рэдкае пластычнае ўмельства ўзнаўлення ў гэтым другім «запасным» таленце пісьменніка.

Але як набываў гэтае найцяжэйшае ўмельства — культуру пісьменніцкай творчасці таленавіты юнак з балотнай палескай глушы, як кажуць, інтэлігент у першым пакаленні, што натуральна не магло забяспечыць не толькі больш-менш творчага асяроддзя, але нават і асяроддзя высокаадукаванага.

І ўсё ж у кожнага маладога аўтара ёсць тут надзвычай удзячная школа, пра якую пакінуў свае сведчанні амаль не кожны вядомы майстар сусветнай літаратуры. Школа гэтая — мастацтва сваіх папярэднікаў, вучоба на творах сусветнай класікі, ці, як гаварыў Ж. Расін, «праца па ўзорах».

Уся справа, бадай, тут толькі ў тым, наколькі сур'ёзна пачынаючы пісьменнік адолее гэтую ступень асэнсавання вопыту сваіх папярэднікаў.

Мележа ў гэтым сэнсе можна назваць дапытлівым і ўважлівым вучнем. Зноў жа скупыя сведчанні кнігі Мележа-крытыка даносяць да нас усю інтэнсіўнасць, мы б сказалі нават драматызм гэтай плённай вучобы ўжо ў самы ранні перыяд яго творчасці. Акрылены першымі сваімі спробамі ў літаратуры, якія шчодра блаславіў Кузьма Чорны, малады пісьменнік адразу ж у пасляваенныя гады распачаў працу над буйным эпічным палатном — раманам «Мінскі напрамак», ахвяраваўшы яму ўвесь свой аспіранцкі час. Як выявілася пасля, Мележ не закінуў і навуковыя справы, адначасова пісьменнік робіць накіды сваёй дысертацыі пра раннюю творчасць Чорнага (Гэтыя матэрыялы пазней леглі ў аснову артыкула «Пра творчасць Кузьмы Чорнага»).

І калі чытаеш нават гэтыя дысертацыйныя нататкі Мележа, міжволі кідаецца ў вочы, што для яго творчасць выдатнага беларускага майстра не столькі матэрыял для навуковых абагульненняў (безумоўна, у артыкуле ёсць і яны), колькі ў першую чаргу велізарны пісьменніцкі вопыт, з якога малады тады аўтар імкнуўся здабыць максімальную карысць для сваёй празаічнай творчасці. І колькі ж ён, гэты нетыповы навуковец, змог убачыць і ў мове, і ў стылі, і асабліва ў характары эпікі вялікага майстра, што не заўважылі нават у пазнейшых шматлікіх даследаваннях пра Чорнага, напісаных у пазнейшы час, калі і даследчая культура ўзрасла ды і сама пара дазваляла выказвацца больш шчыра і паглыблена.

А ўбачыў таму, што глядзеў на творчасць старэйшага празаіка поглядам пісьменніка, а гэта значыць, позіркам знутры самой справы, уважліва шукаючы ў творчасці майстра адказу на шматлікія пытанні, якія паўставалі і патрабавалі неадкладнага адказу ў яго ўласнай творчасці. Так, бясспрэчна, гады аспіранцкай вучобы былі для Мележа парой урокаў Чорнага.

З пазнейшых нататак Мележа пра сваю творчасць мы даведваемся, якіх цяжкасцей каштавала яму выпрацоўка эпічнага стылю, адпаведнага ўжо цалкам новаму пасляваеннаму светаўспрыманню. І тая проста магутная, ураўнаважаная ў жыццёвых прапорцыях Мележава манера, якой мы будзем захапляцца ў раманах «Палескай хронікі», бясспрэчна, далася празаіку не адразу. Яна вынік шматлікіх пісьменніцкіх спроб і аналізаў. І найбольш інтэнсіўна працэс яе выпрацоўкі, як мы пераконваемся, пачынаецца з чорнаўскіх урокаў.

Мележу вельмі імпануе патрабаванне Чорнага «суровага стылю», як найбольш прыдатнага сапраўднай эпіцы. Паводле выказванняў Чорнага, «гэта той стыль, які заўсёды дазваляў майстрам літаратуры ствараць чалавечыя вобразы. Гэты стыль не можа мець у сабе нават самых найменшых элементаў сентыменталізму». Бо сентыменталізм, на думку пісьменніка, гучыць як фальш[1]. А трэба сказаць, што спакуса паэтычна-сентыментальнага стылю была вельмі моцная па тым часе, больш таго, ён на нейкі час быў не запанаў ва ўмовах тэорыі бесканфліктнасці ў пасляваеннай прозе.

Спакусу гэтую не адразу адкінуў і Мележ, як ён сам потым прызнаваўся. Сентыменталізм, вядома, не як самамэта. Проста цяжка бывае па нявопытнасці вызначыць мяжу, дзе ён суседнічае з лірызмам, звычайнай чалавечай шчырасцю.

Мележ у гэтым сэнсе быў вучань наколькі дапытлівы, настолькі і самастойны ў пошуках свайго напрамку эпікі. Абапіраючыся на патрабаванне «суровага стылю» як на аб'ектыўную аснову эпікі, Мележ недзе ў душы прадчуваў сінтэз яе з лірыкай. Але гэта здарыцца пазней, ужо ў 60-я гады.

На гэтым зацікаўленым разглядзе твораў настаўніка надта добра заўважана, як удумліва тады яшчэ малады пісьменнік вучыўся ў яго цяжкаму майстэрству тыповасці, якая, паводле мастацкай канцэпцыі Чорнага, павінна быць праведзена праз будзённае, глыбока жыццёвае. Такога сур'ёзнага ўрока ў пасляваеннай прозе, якая прымала пад увагу герояў і выпадкі ў большасці выключныя, не мог маладому аўтару ніхто даць, акрамя Чорнага, ды яшчэ, магчыма, Коласа.

Мележа ў творчасці Чорнага, адчуваецца, таксама палоніць мудрая філасафічнасць прозы, як і яе глыбінны псіхалагізм. Маладога аўтара асабліва захапляе ўмельства Чорнага ў разгортванні пакручастых хадоў «дыялектыкі пачуцця».

Яго назіранні над стылем Чорнага ўскосна прыадчыняюць заслону і над уласна Мележавай «лабараторыяй» творчасці. Па скупым, але заўсёды трапным заўвагам мы адчуваем, якая аграмадная творчая работа адбывалася ў галаве гэтага, па сутнасці, яшчэ пачаткоўца ў літаратуры ў пару яго працы над вялікай сюжэтнай панарамай «Мінскага напрамку». Які лад аўтарскай мовы выбраць, каб раманнае апавяданне адпавядала адчуванням сучасніка. Адказу ён шукае ў Чорнага, уваходзячы ў глыбокае, амаль атамарнае даследаванне яго стылю.

Але малады пісьменнік зусім не падпадае пад гіпноз вялікага мастака, ён толькі аналізуе, узважвае вартасці, адчуваючы, што пойдзе, хоць і ў кірунку чорнаўскай традыцыі, але сваёй самастойнай пуцявінай. І мы гэта пазней адчуваем на раманнай

[1] Літаратура і мастацтва, 22 чэрвеня 1938 г.

структуры «Палескай хронікі», дзе ў аснове сваёй эпічныя пласты жыцця прасветлены, сагрэты глыбокім лірычным пачуццём, а аўтарская мова ўяўляе сабой якісьці дзівосны сплаў — сінтэз пісьменніцкага бачання з поглядамі на стан рэчаў саміх герояў твора.

На гэтым малекулярным разглядзе твораў Чорнага менавіта знутры творчай псіхалогіі (пісьменніка заўсёды цікавіць: як зроблена), Мележ, як нам уяўляецца, тады яшчэ змог разгадаць для сябе задачу пейзажу ў тканіне эпічнага твора. Ён тонка прыкмячае для сябе, што ў Чорнага «нярэдка праца і прырода жывуць разам, як роўныя, непадзельна з'яднаныя». Міма яго ўвагі не праходзіць і тое, што ў Чорнага функцыя пейзажу ў тканіне твора надта глыбокая, пейзаж удзельнічае ў самім руху сюжэта, бывае смела выкарыстаны нават для ўзмацнення інтрыгі.

Падгледжаныя ў Чорнага як творчы прынцып, гэтыя пашыраныя функцыі пейзажу ў пазнейшых найбольш спелых творах Мележа знойдуць сваё далейшае асэнсаванне, развіццё, паглыбленне. Бо нідзе, у такой меры як у творчасці Мележа, мы не сустрэнем гэткай арганічнай уключанасці прыроды ў раманную прастору твора, пейзаж тут ва ўсім найбольш арганічная частка сюжэта, магчыма, нават лепшыя, настраёвыя моманты жыццёвых абставін людзей на балоце, палешукоў.

Дарэчы сказаць, вучоба на ўзорах — школа надзвычай своеасаблівая, цяжкая. Да класікі ў дадзеным выпадку прыходзяць падрыхтаванымі, ужо са сваім, нарыхтаваным, не так з пытаннямі, як з тым, каб зверыць сваё, знойдзенае ўрэшце, каб атрымаць параду ў правільнасці выбранага шляху. Інакш урокі класічнага твора можна проста прагледзіць, аўтару, які сам не напакутаваўся, не мае нейкіх сваіх ужо рашэнняў, класіка нізашто не выдасць свае таямніцы.

Мележ ужо тады, адчуваецца, раўняўся на Чорнага, ці ва ўсякім выпадку меў прад сабою за ўзор для пераймання яго задуму стварыць мнагатомную эпапею гісторыі беларускага народа і гэтую пачэсную справу, як паказвала яго пазнейшая творчасць, ён, варты пераемнік чорнаўскай традыцыі, на новым узроўні мастацкай сталасці намагаўся пачэсна здзейсніць. Ды і, як нам уяўляецца, сам жанр рамана-хронікі, здаецца, такі кансерватыўны па форме, пакуль ён не атрымаў абнаўлення ў Мележавай творчасці, пісьменнік упадабаў з гэтай вучнёўскай для сябе пары, асэнсоўваючы найбагацейшую спадчыну Чорнага, у якой колькі здзейсненага, столькі ж яшчэ ледзь намечанага, адшуканага і пазначанага толькі ў прынцыпе. Ва ўсякім выпадку на ёмістасць гэтага жанру малады пісьменнік звярнуў увагу ў творчасці Чорнага, выдзеліў для сябе.

Чытаючы гэтую «другую» кнігу пісьменніка, кнігу Мележа-крытыка, не перастаеш здзіўляцца інтэнсіўнасці і, што адметна, сталасці пошукаў маладога празаіка. Але не забудзем, што гэта былі гады стварэння «Мінскага напрамку», пара здзяйснення задумы вялікага панарамнага твора аб толькі што адгрымеўшых ваенных падзеях.

Для Мележа, як мы цяпер даведваемся, гэта былі гады асаблівыя. Гэта быў перыяд у нейкім сэнсе ўжо станаўлення майстра — што бачна па вастрыні рэакцый, па тонкасці разважанняў, па яго засяроджанасці на пытаннях культуры творчасці. Вось як сам пісьменнік прыгадаў гэтую пару «Мінскага напрамку» ў

артыкуле «Знайсці сябе», напісаным для «Вопросов литературы» (1970, № 10): «З вялікім хваляваннем і адданасцю пісаў я свой раман. Пяць гадоў працягвалася гэтае нецярплівае, ліхаманкавае гарэнне. Я жыў сваёй кнігай днём і ноччу. Пазней, здаецца, нічога падобнага не было. Можа, усё было так таму, што гэта была першая мая, як мне здавалася, сапраўдная рэч. Першая вялікая любоў, першая надзея...»

Пра здаровы малады голад да пытанняў майстэрства, увогуле пра шырыню творчых інтарэсаў, якімі жыў у тую сваю ўзнёслую пару Мележ, ускосна сведчыць і яго выступленне, з якім ён меркаваў выступіць на трэцім з'ездзе пісьменнікаў Беларусі ў 1954 годзе (Гл. яго артыкул «Наш раман і яго крытыкі»).

Малады празаік тады, як мы ведаем, смела ўступіў у палеміку з Палітыкам, які дакараў Піліпа Пестрака за тое, што ён у рамане «Сустрэнемся на барыкадах» не змог зрабіць лёс галоўнага героя Андрэя Касцевіча сюжэтным цэнтрам твора. На думку крытыка, з-за гэтага пралiку раманіста, ролю арганізатара сюжэта час ад часу вымушаны на сябе браць «то Паддубны, то таварыш Васіль, то Вера, то нават Апанас Хмель».

Дарэчы будзе заўважыць, што і на наш сённяшні погляд заўвага Палітыкі ў найкіх межах па-свойму правамерная.

Аднак Мележ якімсьці ўнутраным пісьменніцкім слыхам адчуў, што ў шырока панарамным рамане аднаму галоўнаму герою ўвесь цяжар сюжэтнага ўпарадкавання вынесці не па сіле. З гэтымі цяжкасцямі малады пісьменнік досыць сутыкнуўся, працуючы над «Мінскім напрамкам», сюжэтабудова якога аказалася для аўтара найцяжэйшым «арэшкам». І вось малады празаік усё больш пачынае пераконвацца, што ў дастаткова буйнай эпічнай рэчы, а прача кампазіцыі падзейнай, арганізатарам якой звычайна бывае нейкі цэнтральны персанаж, дадатковым цэментуючым элементам становяцца асноўная думка, увесь унутраны настрой твора. Сабе ў дарадчыкі малады пісьменнік бярэ Льва Талстога, паводле меркаванняў якога, «каб твор быў добрым, трэба любіць у ім галоўную асноўную думку». Так, па яго словах, у «Анне Карэнінай» ён любіў «думку сямейную», у «Вайне і міры» натхненне мастака жывіла «думка народная».

А асноўным пафасам выступлення маладога празаіка, якое выгадна вылучалася на высокім форуме беларускіх пісьменнікаў 1954 года, быў заклік да авалодання нашымі пісьменнікамі сапраўднай культуры творчасці, шкадаванне пра тое, што «мы ў саюзе рэдка спрачаемся, дыскутуем аб праблемных пытаннях пісьменніцкага майстэрства, аб законах жанру, напрыклад, мнагапланавага рамана» ..

Перад намі тут увесь Мележ з яго тагачаснымі клопатамі над сваёй буйнамаштабнай рэччу, праца над якой так цяжка прасоўвалася, амаль знясільвала яго.

«Пачуццё заварожанасці не раз змянялася страхам: ці ўдасца мне ўтрымаць гэтае віраванне ў не вельмі ўстойлівых берагах, якія вызначаюцца законамі кампазіцыі, законамі мастацтва. Я не раз адчуваў, як лёсы і падзеі націскаюць на «берагі», пагражаючы разарваць раман»,— прыгадваў пазней пісьменнік свае колішнія турботы.

Прынята лічыць, што глыбокі перелом, а з ім і ўзыход на новую ступень творчай сталасці, што адразу адчулася са з'яўленнем у друку «Людзей на балоце», адбыўся ў Мележа недзе на

мяжы 1952—1953 гадоў. Меркаванне шмат у чым справядлівае. Толькі мне думаецца, што пералом у творчасці, у выніку якога Мележ стаўся як мастак, пачаўся крыху раней, менавіта ў пару яго апантанай працы над ваенным раманам.

Такія задачы паставіць перад сабой маладым, яшчэ юначым розумам, столькі перадумаць, перапрацаваць такі матэрыял, гэтак гарэць усе пяць год працы над раманам у несупынным творчым трансе — да самазабыцця, да зрыву, да страты смаку ў творчасці! Пасля такой творчай бязлітаснасці да сябе і такога пакутвання над матэрыялам, які ўсё ніяк не месціўся ў цеснай для яго сюжэтнай рамцы, яму псіхалагічна становіцца не страшны цяжар ніякай самай смелай і адказнай задумы, толькі б стала аўтару сілы асэнсаваць вопыт сваіх уздымаў і спадаў, здабыць урок з пройдзенага. Менавіта толькі ў перыяды такіх працяглых творчых пераадольванняў сябе выпрацоўваецца пісьменніцкі погляд на рэчы, вытончваецца адчуванне слова і мастацкай меры.

Сам Мележ добра разумеў гэта, прызнаючыся, што, мабыць, толькі з выхадам гэтак дарагой яму кнігі ён адчуў сябе пісьменнікам. Гэта было самае жаданае яго дзіця, твор самай адказнай пары яго станаўлення! Вось вытлумачэнне, магчыма, і той акалічнасці, чаму Мележ, маючы ўжо сапраўдныя ўзоры ў сваёй творчасці, пазней некалькі разоў перапісваў, паляпшаў свой першы раман, робячы працу ў чымсьці ўжо і няўдзячную, бо стварыць твор пра вайну, варты «Хронікі», можна было толькі пішучы яго нанова, з выкарыстаннем творчых і ідэйных магчымасцей, якія адкрываў пазнейшы час.

А потым быў ужо гэты скрыты, шмат у чым крызісны для пісьменніка перыяд 1952—1953 гадоў, вынікам якога і з'явілася новая, зусім сталая культура «Людзей на балоце».

«Пасля «Мінскага напрамку»,— прыгадваў пазней Мележ гэтую пераходную для яго пару,— я спыніўся нібыта на раздарожжы... Цяжкая работа над раманам так выматала мяне, што не было сілы брацца за вялікую кнігу. Я і думаць не хацеў, што гэта можа здарыцца яшчэ калі-небудзь. Тое, што я пісаў у гэтыя гады, магло здацца бессістэмным, вельмі стракатым: мяне як бы кружыла на вялікай вадзе...»

Уласна шлях Мележа ў літаратуры да нейкага часу быў тыповы, як і ў большасці яго паплечнікаў. Ужо ў першых надрукаваных творах адчуўся здольны, далёка не горшы за іншых талент, ■ ў паасобных рэчах, як «У завіруху», «Гарачы жнівень» і асабліва «У гарах дажджы» і «Спатканне за горадам», дык і з прыкметамі ярка выяўленай самастойнасці. Яго, як мы ведаем, шчодра абнадзеілі Чорны, а пазней Фадзееў. Здаецца, не было асаблівых падстаў непакоіцца за свой лёс у літаратуры. Але вось тут і прачнулася адчуванне мастакоўскай годнасці, пачуццё вельмі абвостранае ў сапраўднага таленту. Пазней Мележ убачыць у гэтым вельмі важны закон у мастацтве: «чым вышэй талент, тым, як правіла,— мацней яго патрабавальнасць да сябе. Слабыя пісьменнікі звычайна задаволены сабою, графаманы — проста ў захапленні» («Развагі пра нашу крытыку»).

Яго якраз ахапіў непакой. Пасля сапраўды танталавых пакут, якія яму давялося зведаць за час працы над «Мінскім напрамкам», калі ён сутыкнуўся з рэдкай непадатлівасцю матэрыялу, пісьменнік, здаецца, зразумеў, што без якогасьці дадатковага заходу, без нейкага новага, больш сталага паглыблення ў сябе

застанецца нявыказаным тое глыбокае, жыццёвае, з чым ён прыйшоў у літаратуру. А найперш, зразумеў ён, справа ў культуры творчасці, сапраўднай сучаснай пісьменніцкай культуры, якой так бракавала, бадай, усёй пасляваеннай прозе. Сам Мележ так пісаў пра гэта сваё адчуванне ў артыкуле «Знайсці сябе»: «Даўно прыйшоў я да невясёлага вываду, што пачаў пісаць, маючы вельмі цьмянае ўяўленне аб літаратурнай справе. Можна сказаць нават, што пачаў пісаць, будучы літаратурна малапісьменным чалавекам. Ужо ў працэсе работы прыходзілася спасцігаць асновы літаратурнага майстэрства. Усё гэта, вядома, не магло не адбіцца на якасці першых спроб у мастацкай прозе. Думаецца, аднак, што бяда гэта не толькі мая, яна, відаць, агульная для ўсіх нас, вучняў вясковых школ, людзей з «захалусця».

Што ж дапамагло пісьменніку зрабіць гэтае звышнамаганне, пераадоленне сябе, узвышэнне над сабою ранейшым? Яно ж самае пакутлівае ў росце кожнага пісьменніка...

Відаць па ўсім, Мележаву таленту была адведзена прыродай большая мера той залатой патрабавальнасці, што родзіць у душы творцы неадольнае імкненне да дасканаласці.

Была ў Мележа адна якасць, ён неяк умеў знайсці ў сабе сілы, каб зноў вярнуцца да напісаных рэчаў, яшчэ раз самым прыдзірлівым позіркам прайсціся па іх: ці так выказана, ці лепшы варыянт выбраў з магчымага... А апошняе найбольш і цяжка, на такое адступленне ў творчасці адважваецца далёка не кожны аўтар. І тым цяжэй прыкласці гэтую кладку назад, чым менш твор удаўся. Няма ні жадання, ні сіл варочацца да сваіх пралікаў, нават каб прызнацца самому сабе ў іх, на гэта аўтар не заўсёды адважваецца.

А Мележ змог, пайшоў на гэта. Магчыма, дапамагла тут і вельмі развітая ў яго таленце крытычная самарэфлексія, якая, паводле яго выказванняў, яшчэ доўга працягваецца пасля таго, як твор надрукаваны, пайшоў да чытача. А багацце крытычнай думкі пісьменніка, інтэнсіўнасць мастацкага самакантролю як у адносінах да сваіх твораў, так і творчасці калег,— яўны знак не толькі вышыні яго творчай культуры, але і патэнцыяльнай сілы яго таленту ўвогуле.

Гэта была вучоба на ўласным вопыце. Пазней Мележ гэты пераломны ў яго творчасці рубеж адзначыць як вельмі важную пару самапазнання, далейшага росту: «Хоць я пісаў у гэтыя гады без ранейшай адданасці і засяроджанасці, хоць рэчы мае сустракалі прыём даволі стрыманы, гэта быў вельмі важны для мяне час, час пошукаў, роздуму, расчараванняў, самапазнання. Я спрабаваў цвяроза ўзважыць усё, што зрабіў да гэтага часу, высветліць прычыны сваіх памылак і промахаў».

Так, вельмі адказны момант у станаўленні таленту, які звычайна дае аб сабе знаць пасля першага больш-менш значнага поспеху і выяўляецца ў вострай незадаволенасці сабой, Мележ не прагледзеў. Ад пісьменніка патрабуецца ў гэтым крызісным стане смелая пераацэнка каштоўнасцей, самы прыдзірлівы аналіз сваіх недахопаў. У Мележа хапіла творчай мужнасці, каб прарабіць усё гэта.

Як ён карпатліва ўсё перагледзеў, спрабуючы разабрацца ў сваёй творчай гаспадарцы. У выніку і адбылося гэтае нялёгкае набліжэнне «да самога сябе», сваёй творчай індывідуальнасці, а гэта значыць і да матэрыялу, да сваёй «тэмы», да чаго іншы

аўтар пакутліва ідзе, не могучы ўсё ніяк наблізіцца, праз усё жыццё. З гэтай абвостранай саманезадаволенасці, што даходзіць да недаверлівасці да сябе, да страты раўнавагі, якраз і бяруцца сілы для новага ўзыходжання, чаго ўсе іншыя, самыя спрыяльныя стымулы, часам даць не могуць.

«У гэтыя гады,— успамінае празаік,— я не раз вяртаўся да напісаных сваіх рэчаў, перачытваў, правіў нанова. Працуючы над старымі рэчамі, я адчуў немалое задавальненне: я бачыў, якая карысная гэта работа была і для мяне: гэта была вучоба, усеагульная пераацэнка зробленага, праз якую праходзіла ўсё напісанае ад першых рэчаў да апошніх».

У стане гэтай жорсткай самакрытычнасці, калі талент сам судзіць сябе, свае недахопы і пралікі, у пісьменніка з'яўляецца ўнутраная патрэба, не тоячыся ацаніць магчымасці: што ты можаш і што не па сіле, ці проста не ўласціва табе па прыродзе. На гэта, як на вельмі адказнейшы момант творчага самапазнання, указваюць многія пісьменнікі, у прыватнасці, Леў Талстой ставіў гэта рашучай прадумовай аўтарскага самавызначэння. Але, відаць, ісціна ў дадзеным выпадку ў тым, каб да такога ўсведамлення кожны пісьменнік прыйшоў сам, адчуў асабіста патрэбу ў самаабмежаванні.

Для Мележа, паводле яго ных прызнанняў, гэта было паваротным момантам у набліжэнні да сутнасці свайго творчага «я». Пазней у артыкуле «Знайсці сябе» пісьменнік як асабістае адкрыцце вызначыць гэты момант: «Я раптам адчуў, што магчымасці мае як мастака не такія шырокія, як мне здавалася раней па маладосці, што ў тым, чым надзяліла мяне прырода, ёсць не толькі добрыя якасці, але і слабасці. Я ўбачыў, што і ў выбары тэм, і спосабе паказу жыцця я хацеў здавацца як бы больш сталым, больш значным — як юнак, які хоча выглядаць старэйшым. Не верыў таму, што было ў мяне, не давяраў сабе».

Даруем пісьменніку прыбядненне сваіх магчымасцей, выказанае ў запале самакрытычнасці. Дыяпазон яго таленту на самай справе надзвычай шырокі — гэта магчымасці ўсеахопнага погляду эпіка. Для нас куды важней тут тое, што празаікам глыбока ўсвядомлены сам прынцып: аўтар зможа па-сапраўднаму раскрыцца, толькі застаючыся самім сабой, пры поўным даверы да прыроды свайго таленту. Для Мележа, па ўсім відаць, гэта надзвычай важны ўрок: «Як я шкадую, што часам браўся за тое, што не вельмі добра ведаў, браўся, хоць проста не меў права» («Трохі згадак і думак»).

Плён гэтай найскладанейшай унутранай работы не забавіў даць пра сябе знаць у творчасці пісьменніка. У выніку перад намі быў ужо фактычна другі мастак, з багажом зусім іншай творчай культуры, калі ён у 1956 годзе распачаў працу над вялікім эпічным палатном з палескага жыцця — раманам «Людзі на балоце».

Гады стварэння «палескіх» раманаў былі гадамі далейшай, магчыма, найбольш інтэнсіўнай выпрацоўкі і паглыблення мастацкага вопыту, хоць і адбывалася гэта ўжо на шмат у чым новай творчай аснове. Загадкавыя яны, законы творчасці! Тады, у пару «працы над «Мінскім напрамкам» ён высільваўся да знямогі, гарэў у творчым экстазе дзень і ноч, намагаўся штурмам адолець вяршыні культуры творчасці. А яна ўсё ніяк не давалася... Затое над раманам «Людзі на балоце», паводле слоў аўтара,

працавалася, «з нейкім асаблівым юначым захапленнем, з чыстай незвычайнай радасцю».

Гранічнае напружанне думкі, працяглая канцэнтрацыя творчых намаганняў у час, калі пісаўся «Мінскі напрамак», мелі, апрача ўсяго, пазнейшы вынік. Колькаснае неўзабаве пераходзіць у якаснае, у новы творчы стан.

Працуючы над «Палескай хронікай», празаік адчувае якуюсьці дзіўную падатлівасць матэрыялу і гарманічную ўзгодненасць формы.

З цягам гадоў гэтыя найбольш спелыя творы Мележа ўсё выразней вызначаюцца як новая сучасная класіка нашай літаратуры. І з тым большай адказнасцю ўсведамляецца патрэба ў тым, каб, карыстаючыся найудзячнейшай крытычнай Мележавай спадчынаю, прасочваючы ўвесь пакручасты ход думак Мележа-майстра, Мележа-крытыка, асэнсаваць гэты найкаштоўнейшы вопыт сучаснай класікі, увесці яе здабыткі ў арсенал сённяшняй культуры творчасці.

Калі задумваешся над сакрэтамі поспеху Мележа ў стварэнні «Палескай хронікі», непазбежна прыходзіш да думкі, што аснова Мележавай удачы была ўжо закладзена ў сур'ёзнасці задумы і ў дасканаласці яе ўвасаблення.

Выношваючы мару стварыць твор пра свой родны кут — Палессе, Мележ узяў у задуму напісаць «кнігу ў поўным сэнсе народную», паводле яго адказу на анкету «Правды» (1963).

Гэтая пастаўленая перад сабою мэта, мяркуючы па тым, як пісьменнік зноў і зноў вяртаецца да яе ў сваіх крытычных выказваннях, была той стрыжнявой творчай устаноўкай, да якой належала прыкласціся і падпарадкавацца ўсяму астатняму.

«Галоўная думка, якая вызначае сэнс маіх кніг — і той, якая выйшла, і той, над якой я працую,— гэта, калі карыстацца словамі Л. М. Талстога, думка народная» — яшчэ і яшчэ раз вытлумачвае нам пісьменнік асноўны ідэйны матыў задуманай трылогіі. Паўтарае, адчуваецца, з якойсьці занепакоенасцю, каб не прагледзелі, заўважылі. Усё гэта магло выглядаць крыху дзіўным для нашай даўно ўжо не беднай народнымі традыцыямі літаратуры. І тым не менш Мележ бачыў якуюсьці новую глыбіню і асаблівую цяжкасць у здзяйсненні гэтай задачы.

Цяжкасць, галоўным чынам, творчага парадку: як па-сучаснаму здзейсніць, як у сённяшніх умовах узняцца на тую вялікасную ступень народнага бачання, якой дасягнулі ў нашай прозе Колас, Гарэцкі, Чорны, узводзячы ў вышэйшым значэнні слова помнік працаўніку-селяніну з яго залатым сэрцам, мудрым жыццёвым поглядам на рэчы, з яго па-гаспадарску руплівай хадой па зямлі. Ды не толькі паўтарыць шляхі нашай класікі, бо мастацтва непаўторна, а, калі можна, пашырыць, узбагаціць яе здабыткі, сказаць новае слова пра свой народ.

І тут выявілася, ці, дакладней сказаць, пісьменнік сам для сябе на вялікае здзіўленне адкрыў і шчодра пра гэта падзяліўся з намі сваімі назіраннямі, што рэалізм, якога вымагае па-сапраўднаму, у гэтым глыбокім сэнсе, народная літаратура патрабуе такога адказнага, можа, у чымсьці нават зусім адрознага падыходу да пісьменніцкай справы, пра які творча нявопытны, неспрактыкаваны ў справе аўтар можа і ўяўлення не мець. І найперш патрабуецца карпатлівае адточванне майстэрства, няшчаднае адкідванне ў ім усяго вонкава-эфектнага, лішняга, што маг-

ло б падмяніць сапраўднае, глыбіннае і ўвесці ў зман і пісьменніка, і чытача, хоць, можа, у чымсьці і аблегчыць вырашэнне задачы.

Мележ, амаль як уздых заклапочанасці, прамаўляе услед за Хемінгуэем: «Што сапраўды цяжка — дык гэта стварыць нешта праўдзівае». Пісьменнік з той ці іншай нагоды звяртаецца ў сваіх крытычных нататках зноў і зноў да гэтае думкі амаль як да сваёй, самім выпакутаванай, настолькі яна ўяўляецца яму важнай, у чымсьці вызначальнай. У артыкуле «Майстэрства — гэта імкненне» пісьменнік дзеліцца з намі сваім цяжкім вопытам спазнання сакрэтаў сучаснай культуры творчасці.

Ён перш за ўсё ўбачыў недастатковасць ці, прынамсі, сур'ёзную аднабаковасць вызначэння праўдзівасці ў мастацтве, якое мы ад частых, хоць на справе далёка не заўсёды абавязковых прысяганняў ёй, зрабілі амаль ужо агульным месцам нашай эстэтыкі.

Бясспрэчная максіма: сцверджанне праўды патрабуе ад мастака вялікай, перш за ўсё чалавечай мужнасці. Мележ, як вельмі істотнае, дадае, што абыходжанне з праўдай патрабуе яшчэ мужнасці таленту. Бо праўду мала выкрыкнуць, яе трэба па-мастацку сцвердзіць, раскрыць у вялікаснай яе паўнаце, не замуціўшы, не заслізгаўшы яе той мастацкасцю. Урэшце, трэба ўтрымацца і адстойваць яе праз усю творчасць. Але ўласна не ў гэтым убачылася пісьменніку аднабаковасць нашых уяўленняў аб праўдзе.

«Справа яшчэ і ў тым,— пісаў Мележ,— наколькі *пісьменніцкае ўяўленне аб праўдзе адпавядае сапраўднаму вобліку праўды* (падкрэслена мною.— *А. Я.*)».

Істотнае дапаўненне! Урэшце гэта, бадай, самае галоўнае ў разуменні праўды, бо яно залежыць, дыктуецца ўзроўнем не толькі мастакоўскага, але перш за ўсё чалавечага разумення з'яў, і не толькі індывідуальна пісьменніка, а ўсяго грамадства ў цэлым на дадзеным этапе яго быцця.

І гэта адчуваецца, для Мележа надта сур'ёзна, каб быць якімсьці прыёмам для самаўзвышэння па прынцыпу, калі ты адшукаў ці назваў нейкую якасць, значыць, ты і галоўны валодальнік яе. Нельга не бачыць, што для Мележа яна таксама сутнасць цалкам шуканая.

Урэшце, тады, у канцы 70-х гадоў, калі выказваліся гэтыя думкі, Мележ, захоплены ўдачай «Людзей на балоце», магчыма, нейкі час і лічыў, што задачу гэтую яму ўдалося вырашыць — ліквідаваць разрыў паміж жыццёвай праўдай і пісьменніцкім уяўленнем аб ёй. Аднак далейшае паглыбленне і развіццё «Палескай хронікі» ў напрамку жыццёвай рэальнасці яскрава гаварыла пра тое, што для самога Мележа, не сказаць каб надта баявітага па складу характару, гэта было надзвычай праблематычна — утрымацца на вышыні бескампраміснай праўды жыцця. Пра гэта асабліва сведчыць праца над трэцяй часткай «Хронікі» — «Завеі, снежань», пра якую ён піша амаль з трывогай: «Раман увесь у накідах і нататках. Работа ідзе цяжка: кніга выходзіць вельмі складаная...»

І мяркуючы па тым, як паддавалася і не паддавалася асэнсаванню праўда вёскі часу калектывізацыі, вынікам чаго было пастаяннае адкладванне рэчы, пісьменніка, відаць па ўсім, не задавальняў твор і ў тым варыянце праўды, якою яна прадстала

перад намі з пасмяротнай публікацыі рамана. Тыя шчырыя да мніцельнасці, да страты нервовай раўнавагі, прызнанні, якімі пісьменнік не таіўся: «І зноў мітуслівыя пошукі і вострым адчуваннем: «Не тое, не выходзіць...»,— больш за ўсё можна аднесці да напісання яго апошняе рэчы. І перад тварам сённяшняй складанасці свету, перад пагрозай глабальных зямных крызісаў, прымусіўшых нас увогуле па-новаму паглядзець на справы чалавечыя і тым самым паглыбіўшых невераемна наша ўяўленне аб праўдзе зямлі, гэтага адзінага дома чалавецтва, думаецца, Мележ з уласцівай яму патрабавальнасцю да творчасці, яго здольнасцю перасільваць сябе і звяртацца зноў да зробленага, многае б дарабіў, удасканаліў бы ў «Палескай хроніцы» якраз у напрамку яшчэ больш паглыблена-праўдзівага адлюстравання падзей. А «Завеі, снежань...» у закончаным варыянце, бясспрэчна, выглядалі б сёння інакш.

Увогуле гісторыя напісання «Палескай хронікі», гэтай сапраўды «ў поўным сэнсе народнай кнігі», надзвычай павучальная. Крытычная творчасць Мележа якраз удзячная менавіта ў тым сэнсе, што ён з бясконцага кола пытанняў, з якімі паўсядзённа сустракаецца пісьменнік у сваёй творчасці, засяроджвае ўвагу на тым, бадай, самым патаемным стане, які задоўга папярэднічае напісанню твора. Уяўленне пра гэты творчы стан ці перыяд звычайна ў нас існуе пад досыць агульным азначэннем «вывучэння жыцця» ці збірання матэрыялу для будучай кнігі. А перыяд жа надзвычай важны ў творчым плане. Менавіта ён вызначае: ці адбудзецца ў аўтара паяднанне са «сваёй тэмай», і толькі тады адкрыецца яму сапраўды рэалістычнае бачанне і разам з тым паўнапраўнае валоданне матэрыялам, калі характары і іх становішчы, дэталі і словы зыходзяць знутры, ад справы, ад самога жыцця. Ці, наадварот, не вынасіўшы, не выпакутаваўшы «тэму» менавіта як сваю да такой ступені, што ты пра яе не можаш і не маеш права не пісаць, будзеш бясконца кружыць вакол зместу, так і не наблізіўшыся да яго па-сапраўднаму. Тады і словы нейкія ўсе непаслухмяныя, самыя яркія здаюцца бляклымі, недакладнымі, і адлюстраванне замест сапраўднай глыбіні слізгае па паверхні, пад руку ўсё больш трапляецца шумавінне, пена ад падзей.

Сапраўдныя пакуты набліжэння да «тэмы» палескіх раманаў перажыў Мележ, праз выбар бясконцага мноства варыянтаў прайшоў, пакуль не дапаў да жыццёвых асноў яе і не выбраў найзручнейшы пункт бачання.

Кніга ва ўяўленні аўтара ўсё больш пашыралася, ускладнялася, уцягвала ў сябе праблемы і лёсы, якія яму напачатку і не бачыліся ў ёй. Вось ужо дзеянне яе аддаляецца ў перадваенны час, напісаны нават раздзельчык, але «пакутлівая няўпэўненасць у тым, што рэч задумана добра, найлепшым чынам», прымусіла адкінуць і гэты варыянт.

І толькі пасля таго, як пісьменніцкая думка пайшла далей углыб, да самых вытокаў жыцця, дзе лёсы герояў, пра якіх яму хацелася паведаць у сваім творы, сплавіліся, нават у чымсьці істотным ідэнтыфікаваліся з яго асабістым жыццём і якраз той шчаслівай маладой пары, калі ён упершыню адкрываў для сябе свет, успрымаў яго натуральным зрокам простага сялянскага хлопца, а не з пункту погляду выйгрышнага сюжэта, што непазбежна будзе ў яго пазнейшага, пісьменніка,— падзеі раптам нібы

магічна ажылі, агромністая прастора задумы напоўнілася галасамі жыцця, рэальнымі аблiччамi людзей, сам сабой знайшоўся патрэбны тон эпічнага апавядання і гэтак жа нібы самі сабою прыйшлі дакладныя словы. Гэтыя якасныя пераходы ад найвышэйшай канцэнтрацыі ўвагі да творчай ненатужнасці добра перадае сербскі класік Іва Андрыч, які так апісвае творчы працэс: «Гэты пакутлівы стан можа працягвацца доўга, параджаць сумненні ў сілах, але калі пісьменнік не аслабіць напружання сваёй думкі і дзейнасці сваёй фантазіі, то настане момант азарэння, і ён знойдзе тыя некалькі патрэбных слоў, звязаных з ясным сэнсам. А далей усё стане ўжо лёгка, зразумела і проста, адно слова пацягне за сабой другое, фраза будзе ільнуць да фразы. I раптам уся карціна паўстане перад чытачом (а гаворка ідзе іменна аб ім!) — зусім рэальная, жывая і натуральная, такая, якою адзіна ёй і належыць быць»[1].

Пазней, калі Мележ у артыкуле «Знайсці сябе» падзеліцца радасцю сваіх творчых адкрыццяў у час працы над раманам «Людзі на балоце» мы будзем знаходзіць багата сведчанняў гэтага дзівоснага паяднання аўтара з матэрыялам: тут і ўлюблёнасць у тое, пра што ён піша, і грунтоўнае, амаль абсалютнае веданне матэрыялу, якое адзіна дае «магчымасць карыстацца ім з рэдкай свабодай».

А самае галоўнае, гэта было жыццё блізкіх людзей і шмат у чым яго ўласнае жыццё, ён пісаў пра іх і адначасова пра сябе. Усё гэта ўрэшце і стварала вельмі важнае для пісьменніка адчуванне «добрага ўзаемнага яднання герояў, часу і аўтара».

На старонкі чытацкі погляд, ды яшчэ калі ўспрымаеш творчую гісторыю рамана «Людзі на балоце» рэтраспектыўна, глядзіш на яго як на рэч здзейсненую, працэс набліжэння да матэрыялу ўяўляецца такім простым, што здаецца, няма тут ніякага сакрэту. Пісьменнік, нібы прадбачачы павярхоўнасць староннягa ўспрымання, піша, як ён марудліва доўга ішоў да сваіх кніг. «Гэта быццам так проста,— працягвае сваю думку пісьменнік,— але на гэта нярэдка ідуць гады. Іншы раз здараецца і так, што чалавек памірае, не раскрыўшы свайго таленту, не знайшоўшы сябе.

Калі я азіраюся назад, думаецца са смуткам: як многа праблукаў я за гэтыя два дзесяткі гадоў, колькі ўпусціў, недарабіў. Як многа і наколькі лепш я зрабіў бы, калі б напачатку бачыў вастрэй. Але, можа, гэта немінуча. Можа, у гэтым і ёсць галоўная цяжкасць творчасці і яе хараство. Шукаць, памыляцца, сумнявацца, каб знайсці» («Знайсці сябе»).

Гэтак жа проста, без эфектнага мудравання выкладае нам Мележ і ўрокі свайго мастацкага вопыту, урокі здабытай ім у пакутлівых пісьменніцкіх намаганнях культуры творчасці. I культура гэтая ў Мележа вельмі вынашаная, вельмі «асабістая». Тэмы яго размоў пра майстэрства як бы і не новыя, звыклыя — узаемаадносіны жыццёвай і мастацкай праўды, формы сённяшняй эпікі, культура сучаснай кампазіцыі, майстэрства дыялогу, партрэтнай характарыстыкі... Але якую глыбіню ён ім надаў, якія «цяжкасці» для сябе разгледзеў!

---

[1] Действительность: искусство, традиции (литературно-художественная критика в СФРЮ) — М.: Прогресс, 1980, с. 280.

Сярод многіх іншых праблем майстэрства адна, на думку пісьменніка, мае асабліване значэнне. Ён акрэслівае яе як пошук найлепшага варыянта ці «вызначэнне лепшай якасці». Прасочым уважліва за ходам пісьменніцкай думкі. «Задачы, якія ўзнікаюць у час работы перад пісьменнікам, выклікаюць у ім безперапынна розныя варыянты рашэнняў. Чым багацей талент, тым больш натхнёна працуе аўтар, тым больш гэтых варыянтаў.

Але тым важней і ўменне знайсці самы дакладны, самы лепшы варыянт. Як бы добра ні ведаў ты жыццё і людзей, пра якіх пішаш, гэтае веданне яшчэ — палова справы. Кожны раздзел, кожны эпізод, кожны радок будуць ставіць задачу за задачай, якія трэба вырашыць найлепшым чынам. Які варыянт галоўнай лініі кнігі дасць самае праўдзівае ўяўленне пра час і пра чалавека? Які герой зможа лепш выявіць час, галоўную думку кнігі? Які варыянт раздзела дапоўніць агульную карціну? Які стан героя ў дадзены момант найбольш праўдзівы? Які жэст яго найбольш натуральны? Якое слова яго найбольш дакладнае? Якая фраза лепш выкажа тваю думку? І г. д., і т. п.

Праўдзівасць, глыбіня, яркасць карцін, вобразаў — усё у той ці іншай меры залежыць ад умення пісьменніка выбіраць лепшае».

У гэтай, выказанай някідкімі словамі, паэтычнай максіме сапраўды, як у фокусе, увабраны ўсе сакрэты майстэрства.

Пасля гэтага мы, здаецца, лепш пачынаем разумець ход думкі пісьменніка, які ўвогуле і само майстэрства разглядае як творчы працэс, як аўтарскае імкненне да дасканаласці. Імкненне да завершанасці, да адшукання найлепшага варыянта ў кожнай вобразнай ячэйцы твора і ёсць тое пачуццё, што ўладарыць над творчым жыццём мастака. «Гэта пачуццё, паводле аўтарскіх сведчанняў, як лакатар, павінна дзейнічаць увесь час, пакуль працуеш. Сачыць, папярэджваць, вызначаць. Выйдзе са строю ці задрэмле гэты лакатар — і ўсё разладжваецца» («Майстэрства — гэта імкненне»).

Гэтым карпатлівым малекулярным адборам найлепшых варыянтаў на ўсіх узроўнях арганізацыі твора, як зусім справядліва лічыць пісьменнік, вызначаецца ўрэшце мастацкая мера, тое чароўнае «ледзь-ледзь», у якім у мастацтве — уся «соль».

І зусім зразумела, што з матэрыялам, які ведаеш ва ўсёй яго паўнаце і грунтоўнасці, калі не адчуваецца недахопу ў ім, а наадварот, яго збыткаванне, працаваць значна цяжэй і складаней. Бо магчымасці для выбару ўзрастаюць да бясконцасці. Леў Талстой у лісце да А. Фета, памятаеце, працэс папярэдняга абдумвання твора называў выбарам адной мільённай з магчымых спалучэнняў, што могуць «здарыцца з усімі будучымі людзьмі будучага твора». Але затое выбар з бясконца магчымага пры дасканалым веданні матэрыялу — гэта выбар самых найлепшых, адзіна дакладных рашэнняў, што раскрываюць з'яву знутры, з яе самай патаемнай глыбіні. І, безумоўна, гэта майстэрства — вышэйшае. Тут уся справа ў тым, што ў такім разглядзе майстэрства ўсё вернута ў свой натуральны рад, майстэрства дзеля найдакладнейшага выяўлення зместу, а не наадварот. Урэшце Мележ нават так ставіць пытанне: «Майстэрства — гэта не толькі ўменне намаляваць у кнізе свет, але і перш за ўсё — уменне разумець свет ва ўсёй яго разнастайнасці».

У такой пастаноўцы праблемы мы пазнаем далейшае раз-

віццё яго думкі пра адпаведнасць пісьменніцкага ўяўлення аб праўдзе сапраўднаму вобліку праўды, як яна ёсць у жыцці.

Гэтыя дапытлівыя назіранні над карэннымі праблемамі творчай культуры дапамагаюць нам, здаецца, штосьці большае ўсвядоміць у тых двух, бадай супрацьлеглых тыпах майстэрства, якія дае нам сусветная мастацкая практыка.

Сапраўды, відаць, кожны з нас неаднойчы лавіў сябе на думцы, што найлепшыя з узораў сусветнай класікі якраз тыя, якія пазбаўлены вонкавых прыёмаў, прынамсі, у якіх гэтых прыёмаў нябачна, уяўленне такое, што іх няма зусім.

«Сапраўднага рэаліста,— лічыў Міхаіл Прышвін,— можна так пазнаць, перачытваючы яго якую-небудзь рэч: калі ён не рэаліст, а прыдумшчык, то абавязкова адкрыецца чытачу сюжэтная канва, па якой ён распісваў. Калі ж ён сапраўдны рэаліст, то, колькі ні чытай, ніколі не знойдзеш канвы: ці ўмела выцягнута, ці мастак сам паверыў у праўду свайго адлюстравання, забыўся аб сабе канчаткова» [1].

Так, сярод майстроў слова распаўсюджана меркаванне, што сапраўднае мастацтва павінна ствараццца без тэхнікі. Такой думкі, прыватнасці, прытрымліваецца Э. Хемінгуэй, па яго выразу, гэта пісаць «без штучак». Таксама і Д. Фурманаў, зыходзячы са сваёй не такой ужо багатай практыкі, заклікаў не захапляцца адной тэхнікай: «Яна рэч фармальная, цуд можа быць і без яе» [2].

Зрэшты, пытанне мастацкай тэхнікі, як яго ставіць Мележ, дапамагае лепш зразумець яе паходжанне. Заўважана, што класічным творам, якія не кідаюцца ў вочы вонкавай тэхнікай прыёмаў, уласціва якраз магутная ўнутраная арганізацыя, ёсць у іх свая багатая тэхніка, толькі яна крыху іншакшай прыроды.

Арганізацыя іх заснавана не на штучных прыёмах, а на мадэлях, падгледжаных у самім жыцці і ўзгодненых з псіхалогіяй нашага эстэтычнага ўспрымання. Невыпадкова Мележа ў час працы над «Людзьмі на балоце» гэтак радуе абсалютнае адчуванне матэрыялу, калі ведаеш яго ў найдрабнейшых, часам нечаканых падрабязнасцях, у тонкіх, ледзь прыкметных, часта вельмі складаных сувязях. «У тых падрабязнасцях і сувязях,— тлумачыць пісьменнік,— якія амаль немагчыма вывучыць, але якія застаюцца ў памяці аб перажытым».

І гэтыя счапленні падзей, узаемаадносіны персанажаў, вузлы канфліктаў твора ён назіраў на лініях самога жыцця, бо, не будзем забываць, мастацкае дзеянне аналогам сваім ва ўсім мае жыццёвую плынь. Сведчанні гэтай плённай вучобы на мадэлях самой рэчаіснасці мы знаходзім у многіх яго артыкулах, дзе ім закранаецца гісторыя і творчая псіхалогія стварэння «Палескай хронікі». Але будаванне сюжэта паводле жыццёвых мадэляў, на чым так настойвае Мележ, патрабуе карпатлівага адбору, адшукання найлепшага рашэння з тых мностваў варыянтаў, якія дае бег падзей у натуры, у самім жыцці. І гэтая адзіная магчымасць дасягнуць таго, каб учынкі герояў, дэталі, словы ў творы ішлі знутры падзей, узнікала поўная ілюзія рэальнасці ў берагах на гэты раз ужо мастацкай прасторы.

---

[1] Пришвин М. Сказка о правде.— М.: Молодая гвардия, 1973, с. 369.

[2] Фурманов Д. А. Соч. в 3-х т., т. 3.— М.: ГИХЛ, 1952, с. 207.

Зрэшты, не павінна бачыць заганы і ў творах з багатым выкарыстаннем тэхнічных прыёмаў, калі толькі тэхніка іх не фармальная, штучна прыцягненая, а служыць раскрыццю іх глыбіннага зместу. Бо культура творчасці — гэта вопыт класікаў, мастацкая тэхніка, абагуленая імі перш за ўсё на аснове жыццёвых законаў, але якая пачынае потым жыць самастойным жыццём, абстрагаваная ад першапачатковага вопыту яе адкрывальнікаў. Але зусім зразумела, што майстэрства без «вонкавых прыёмаў», а паводле мадэляў самога жыцця, канцэпцыі якога прытрымліваўся ў сваёй творчасці Мележ, безумоўна, гэта вышэйшы паверх майстэрства, майстэрства першаснае.

Тады яшчэ ў 60-я гады, у пару шматлікіх дыскусій і размоў у друку пра традыцыі і наватарства, калі наша літаратура не такая ўжо багатая на тэхніку, пасля не вельмі спрыяльнай пасляваеннай паласы з маладой прагай засвойвала культурныя здабыткі, выпрацаваныя сусветнай мастацкай практыкай, паскорана развівала формы, адпаведныя сучаснаму жыццеўспрыманню, нас, крытыкаў, прызнацца, часам здзіўляла тая асцярожнасць, нават нервовасць, з якой Мележ то прымаў, то не прымаў тагачасныя спрэчкі. Дарэчы сказаць, Мележ глыбока разумеў усю дыялектычную супярэчлівасць уплываў крытыкі на літаратурны працэс і канкрэтна на творчасць асобнага пісьменніка і, здаецца, знаходзіў увогуле добрую меру паразумення з ёю. Ён справядліва лічыў, што ўздзеянне крытыкі на творчасць у значнай ступені апасродкавана. Сапраўдны талент, на думку пісьменніка, доўга, часам з цяжкасцю ўзгадняе меркаванне крытыка ці даследчыка са сваёй унутранай крытычнай канцэпцыяй, і уласным эстэтычным пачуццём, якое ў Мележа, як мы цяпер разумеем, было развіта на рэдкасць тонка. Цяпер нам добра зразумела пазіцыя і паводзіны Мележа падчас тых разгарачоных спрэчак. Гэта была мудрая абачлівасць, нават, можа, хітрасць вопытнага майстра, які ўважліва, з карысцю для сябе, сачыў за развіццём крытычнай думкі, уводзячы многае ад яе палемічных вынікаў у свой творчы вопыт. Ён толькі аднойчы, занепакоены папрокамі ў «несучаснасці» яго тэмы, баючыся, відаць, каб яго канчаткова не залічылі ў «архаісты», дапусціў раззлавана-павышаны тон, ацэньваючы дыскусію «Пісьменнік і час», што вялася на старонках «Літаратуры і мастацтва».

Дыскусіі 60-х гадоў па праблемах абнаўлення формы недзе ў творчым плане былі вельмі патрэбны Мележу, хоць ён сам, можа, не заўсёды мог сабе прызнацца ў гэтым. Бо для самога яго гэта была залатая пара ўзыходжання да новых гарызонтаў у творчасці, пара выпрацоўкі новай, адпаведнай сучасным адчуванням культуры творчасці.

І перш за ўсё ў працэсе стварэння «Людзей на балоце» перад ім з новай актуальнасцю паўстала праблема эпічнага стылю, працяг усё той загадкі, якую ён часткова спрабаваў спасцігнуць у час працы над «Мінскім напрамкам» і пры вырашэнні якога ён так пільна прыглядаўся, як мы бачылі, да вопыту Кузьмы Чорнага.

Але як ні прываблівала сваёй магутнай жыццёвай аб'ектыўнасцю лад чорнаўскай эпікі, пры выпрацоўцы той бясконца паслухмянай зместу, чуйнай да жыццёвага шматгалосся, манеры, у якой так суладна ўмяшчаўся матэрыял «Людзей на балоце», Мележ усё ж пайшоў па іншым шляху. Яго чамусьці

зноў прываблiваюць тыя элементы ў прозе, з якiмi ён, паланёны эпiчнай суровасцю прозы Чорнага i яго пiсьменнiцкiм аўтарытэтам, у пару працы над «Мiнскiм напрамкам» вёў упартае змаганне, iмкнуўся iх дашчэнту выкаранiць. Цяпер ён дзесьцi ўнутрана адчуў, што сучасная эпiка павiнна быць насычана лiрызмам, нават, можа, утварыць паўнакроўнае спалучэнне гэтых двух аднолькава важных бакоў бачання — аб'ектывiзаванага погляду з поглядам унутраным.

Аднак сiнтэз эпiкi i лiрыкi — утварэнне цяжка спалучальнае. Засваенне прозаю элементаў лiрыкi механiчна, толькi на ўзроўнi прыёму, калi памятаць у большасцi няўдзячны вопыт маладнякоўцаў, вылiваецца ў саладжавую, вонкавую ўзнёсласць. Вось чаму, выбiраючы берагi, у якiх цекчы сучаснай прозе, Мележ зноў i зноў гаворыць пра рэальную небяспеку ўпасцi ў сентыментальнасць пачуццяў.

Увядзенне ў эпiку лiрычнага элементу, адчуваў Мележ, пацягне за сабой значнае пераўтварэнне раманнай формы. Пазней пiсьменнiк, якi звычайна не таiўся сваiмi творчымi сакрэтамi, паспрабаваў сам вытлумачыць гэтыя змены, што адбывалiся пад вонкавай абалонкай эпiчнага рамана. Аўтарская мова аказалася цалкам узарванай знутры i нанова сфармiраванай з разнастайных элементаў.

«Вiдаць, да гэтага,— лiчыць празаiк,— прывяло iмкненне паказаць чалавека знутры, увага да таго, як мяняецца, жыве яго пачуццё, яго думка. Iмкненне наблiзiцца да героя патрабавала ў iншых выпадках як бы поўнага пераўвасаблення яго. Тады аўтарская мова злiвалася з суб'ектыўнай, унутранай мовай героя, на час нават зусiм саступала ёй месца. Апавяданне непрыкметна для мяне набывала невядомы раней маiм кнiгам унутраны рух, дзе ўвесь час як бы адбывалася змена танальнасцi апавядання. Калi дадаць да гэтага, што розны характар унутранага жыцця герояў выклiкаў суб'ектыўныя карцiны рознага гучання, то можна ўявiць, якi гэта зрабiла ўплыў на ўвесь стыль раманаў...

У вынiку i ўзнiкла гэтая новая для мяне манера апавядання — рухомая, вольная, што як бы ўключае ў сябе некалькi планаў...»

Але з якiх крынiц i з якiх нябачных субстанцый снаваўся гэты шчымлiвы, глыбока чалавечы лiрызм, што пранiзлiва-святлiстымi промнямi працiнае, мяккiм аблокам настрою ахутвае ўсе падзеi «Палескай хронiкi», даносiць дзiўную танальнасць балотнага краю? Тут, як нiдзе, дапамагае нам разабрацца ўважлiвае прачытванне багатых саманазiранняў празаiка над працэсам стварэння трылогii.

Музыка настрою, што кладзецца дадатковым змястоўным планам на такую сур'ёзную Мележаву эпiку, выклiкана, перш за ўсё, станам той шчаслiвай паядна насцi са сваёй тэмай, заканасцю ў сваiх герояў, на што празаiк звяртаў увагу, дашукваючыся каранёў сваёй творчасцi. Палескiя раманы азораны водсветамi яго маленства, юнацтва i маладосцi, бо гэта край яго першага самага агнiстага адкрыцця i спазнання свету.

А заўважана, што стан i настрой, у якiм ствараецца аўтарам твор, валодае дзiвоснай пераўтваральнай сiлай, якая здоль-

на па-новаму асвятляць, перайначваць фабульны матэрыял, надаваць яму дадатковае сэнсавае гучанне.

І яшчэ адзін змястоўны план наклаў вельмі моцна свой адбітак на прозу «Палескай хронікі». Гэта, мінулая страшэнная вайна, увогуле ўся рэальнасць пройдзеных гадоў нябачным водсветам прысутнічаюць ва ўзноўленых пісьменнікам падзеях, надаюць якуюсьці эмацыянальную шматзначнасць Мележавай прозе. Прычыну гэтай асаблівай замілаванасці да чалавека, нейкай новай маладой любові да зямлі і нават як бы ўстрывожанасць тону апавядання, што нельга не адчуваць ад судакранення з прозаю палескіх раманаў, пісьменнік ускосна дае нам адчуць у аўтабіяграфічных нататках «Трохі згадак і думак» (1962):

«Аб чым і аб кім не стаў бы ўспамінаць, непазбежна ступіш на гарачы, вечна пякучы прысак той вялікай усеабдымнай навалы.

Успомніш пра тую печ, дзе грэўся зімовымі вечарамі, тую хату, дзе сляпіў вочы над букваром, над першымі кніжкамі — і ажыве шкадаванне: няма тае печы, няма таго стала, той хаты — згарэла ў вайне. Успомніш таварышаў, з якімі бегаў басанож, з якімі лазіў па балоце,— зноў заные боль страты: няма тых таварышаў. Мала-мала каму пашчасціла пераважыць навалу. Няма многіх таварышаў, з якімі абганяў картоплю, з якімі хадзіў у школу ў Алексічы, з якімі вучыўся ў Хойніцкай дзесяцігодцы... Вайна была!»

Так, проза «Людзей на балоце» і ўвогуле ўсёй «Палескай хронікі» — гэта бачанне-ўспамін «праз завалоку вялікай нягоды — вайны» і таму яна такая настраёвая, змястоўна-насычаная.

Гаворачы пра манеру «Палескай хронікі», у прыватнасці, пра тое найскладанейшае ўтварэнне, што ўяўляе сабой яе «лірызм», нельга не сказаць пра ролю пейзажу, функцыі якога Мележ прыкметна пашырыў, развіў, прынамсі, у датасаванні да сваіх палескіх раманаў.

Тут звяртае ўжо ўвагу на сябе сама аўтарская трактоўка задумы, паводле якой ствараліся трылогія. А ў ёй Мележ адводзіць вельмі важнае месца прыродзе, гаворачы, што прырода ў яго рамана стала як бы важнай тэмай кнігі. Дарэчы, узнаўляючы творчую гісторыю «Палескай хронікі», пісьменнік выказвае, можа, нават крыху нечаканую для нас думку, яму ўяўляецца, што «карціны палескай прыроды, магчыма, першыя пачалі тую работу, якая прывяла да апошніх маіх раманаў».

«Любоў да роднага краю, да прыроды і людзей,— ужо непасрэдна піша ён пра гэта ў другім артыкуле,— гэта вечны агонь, з якога нараджаецца творчасць. Хваляванне, якое ўвайшло ў сэрца ад даўніх сустрэч з прыродай, было той першай іскрай, што падштурхнула да пісьменніцкай працы».

Знешне гэтую адметнасць Мележавых пейзажаў цяжка адрозніць, і тым не менш яна адчуваецца ва ўсім. І перш за ўсё ў якойсьці асаблівай паяднанасці чалавека з прыродай, для якога яна найбольш прывычныя тыповыя абставіны і адначасова яшчэ больш важныя абставіны для бясконца зменлівых станаў яго душы. У рэзанансе з яе неразгадана-дзіўнай гармоніяй знаходзіць паўнату-заспакаенне і адчуванне надзейнасці быцця дух чалавечы.

На адчуванні гэтай найважнейшай ролі прыроды ў жыцці чалавека ў ідэале і заснавана выкарыстанне пісьменнікам пейзажу ў сістэме мастацкага твора. (Ролю гэтаму, на жаль, вельмі спрасціла школьная нарматыўная крытыка.)

У Мележа функцыя пейзажу ў творы глыбока асэнсаваная, усвядомленая, і таму гэтая паяднанасць чалавека з прыродай у яго раманах асабліва арганічная, асабліва выяўленая.

Пасля вядомага ўжо нам абгрунтавання ролі пейзажу, якое Мележ рабіў у сувязі з разглядам творчасці Чорнага, празаік яшчэ неаднойчы вяртаўся да паглыблення сваёй канцэпцыі.

«Мне здаецца,— гаворыць пісьменнік у артыкуле «Майстэрства — гэта імкненне»,— пейзаж не толькі дапамагае стварыць у кнізе адчуванне *паўнаты* быцця (падкрэслена мною.— *А. Я.*), ён разам з тым — свет паэзіі, хараства, страту якога ў мастацтве не можа замяніць нішто...

Чалавек, вакол якога не жыве прырода, мне бачыцца нейкім жабраком, непрыкаяным. Я заўсёды павінен адчуваць героя свайго ў адзінстве з зямлёй і небам, таму звычайна вельмі ўважлівы да таго, як яны жывуць разам».

І гэтую дзівосную танальнасць, настрой роднага палескага краю, пісьменнік з якойсьці невядомай дагэтуль навізной, як не дзіўна, раскрыў, знаёмячы са сваёй кнігай замежнага чытача, у прыватнасці, ва ўступных нататках да фінскага выдання «Людзей на балоце», а таксама ў інтэрв'ю карэспандэнту балгарскай газеты «Литературен фронт». Відаць, погляд збоку, аддаленасць ад свайго матэрыялу часам дапамагае і нам самім лепш зразумець уласныя каштоўнасці.

На вытоках лірызму Мележавых раманаў мы гэтак падрабязна спыніліся не выпадкова. Са здольнасцю ўзнаўляць лірызм, даносіць настрой проза набывае велізарныя выяўленчыя магчымасці. А. Фадзееў гэтае ўменне ствараць настрой называў адным з самых магічных сродкаў у сучасным мастацтве.

Але майстэрства дадаткова праз настрой, мелодыю прозы даць адчуць пафас, ідэю твора — майстэрства невераемна цяжкое, яно патрабуе павышанай рытмічнай арганізацыі інтанацыйнага ладу, даецца толькі ўпартай працай над словам. Мележ-крытык пакінуў нам свае вельмі каштоўныя назіранні і над гэтым бокам творчасці.

«Я чую тое, што пішу, як музыку, з мелодыяй, з рытмам. Бывае, чытаю ўслых напісанае. Востра сачу, каб у мелодыі мовы твора не было фальшу. Ледзь пачую фальш, спыняюся, шукаю дакладныя тоны і словы. Імкнуся знайсці самыя дакладныя. Гэта не заўсёды хутка ўдаецца, але нарэшце ўсё ж знаходзіш. Часам сам не растлумачыш, чаму бярэш такі тон і слова, тут усё рашае дзіўнае адчуванне...» («Жыццё, якое я зведаў» — інтэрв'ю карэспандэнту газеты «Литературен фронт», 1972).

Аднак, што больш за ўсё ўражвае ў «Людзях на балоце», дык гэта якаясьці класічная кампазіцыйная завершанасць твора, дзе не праглядвае ніводнага шва, стыку, звязкі, хоць мастацкая тканіна, як вядома, бывае сточана з мноства самых разнастайных элементаў. Не перастаеш здзіўляцца той бясконца гарманічнай меры, з якой узгоднены статыка малюнкавых апісанняў з дынамікай сюжэтнага дзеяння. Сюжэт на сапраўдную эпічную шырыню разгорнуты ў малюнку, што стварае амаль фізічную

адчувальнасць раманнай прасторы, гэтак жа грунтоўна заглыблены ў псіхалагічным аналізе, і ў той жа час усё гэта захоплена якойсьці магутнай плынню мастацкага дзеяння настолькі, што нідзе не страчваецца момант займальнасці, апісаннямі не стамляецца ўвага чытача.

І толькі старонкі крытычнай кнігі пісьменніка, яго карпатлівыя назіранні над творчым працэсам у стане данесці нам тое, цаной якіх пісьменніцкіх намаганняў, выбару гэтых найлепшых мележаўскіх рашэнняў давалася яму залатая мера кампазіцыйнай узгодненасці.

Працуючы над раманамі «Палескай хронікі», Мележ уважліва вывучае празаічны вопыт Пушкіна і Талстога, Дастасўскага і Чэхава, пераконваючыся яшчэ раз у тым, што ў кожнага з іх «у многім розныя рашэнні гэтых задач». І прыходзіць да вываду, што і сённяшні пісьменнік, маючы за сабой такую багатую практыку сваіх папярэднікаў, павінен адшукаць гэтую меру для кожнае канкрэтнае задачы нанова, бо і сучасная проза, як ён пераконваецца, «не толькі не прымірыла адвечную спрэчку паміж апавяданнем і сюжэтам, але бадай нават абвастрыла яе».

Мележа вельмі непакояць страты, якія прыносяць прозе аднолькава як замаруджана-разгорнёныя апісанні, засяроджаны мікрааналіз, так і, наадварот, змястоўная аголенасць аблегчана-займальнай сюжэтнасці.

Вынікам гэтых упартых адшуканняў найлепшага варыянта быў прыход Мележа ў нечым да аналагічнага тыпу сюжэта, які аблюбаваў Талстой на схіле сваёй творчасці. Дарэчы, Мележ, здаецца, адным з першых звярнуў увагу на тое, што Талстой у такіх сваіх творах, як «Халстамер», «Хаджы-Мурат», «Смерць Івана Ільіча» значна адступіў ад сваёй улюбёнай манеры малекулярнага раскладання пачуцця, хоць крытыка, здаецца, і да гэтай пары лічыць псіхалагічны мікрааналіз за апошняе слова ў паэтыцы вялікага майстра.

Сам Талстой у дзённіку ад 25.XII/1903 г. адзначае, што працуючы над «Фальшывым купонам», ён пераходзіў на форму «цвярозую, ураўнаважаную», дзе паглыбленая псіхалагічная характарыстыка (школа мікрааналізу не прапала дарма) сапраўды ўраўнаважана гэткім жа моцным элементам дынамікі дзеяння. Псіхалагічная матэвіроўка паводзін героя, па-ранейшаму, глыбокая, трапная, становіцца гранічна сціслай, амаль імгненнай, тут жа пераходзячы ў справу, учынак. Талстога тады вельмі займаў сакрэт перадачы руху ў слоўным мастацтве.

І менавіта гэтыя, тады яшчэ не разгледжаныя крытыкаю знаходкі Талстога ўпадабаў Мележ, знаходзіў прыдатным для свайго вопыту.

Не трэба забываць, што Мележ меў на мэце стварыць кнігу «ў поўным сэнсе народную», таму зусім зразумела, што ні пераважванне ў малекулярны псіхааналіз, ні тым больш схіленне ў аблегчаную займальнасць не адпавядалі сур'ёзнасці пастаўленай ім задачы.

Дарэчы, хто больш-менш паглыблена займаўся вывучэннем мастацкай тканіны Мележавых раманаў, не мог не заўважыць, якое вялікае месца ў ёй займае дзеяслоў ва ўсім разнастайнейшым багацці яго форм. Можна бачыць, як ён літаральна ў кожнай малай ячэйцы сюжэта служыць асноўным сродкам «скрадання», пераводу статыкі ў дынаміку, уцягваючы па-свойму да-

волі разгорнутыя ў Мележавай манеры апісанні ў імклівую плынь раманнага дзеяння.

Цікавую гісторыю пошукаў паведаў нам Мележ-крытык, прыгадваючы, якім няпростым шляхам прыходзіў ён да выбару мовы сваіх герояў у «Людзях на балоце», той здзіўляючай мовы, дзякуючы якой персанажы выглядаюць настолькі натуральнымі, што, здаецца, перайшлі яны ў кнігу з самога жыцця.

У свой час, раздумваючы над выяўленчымі таямніцамі нацыянальнае мовы, выдатны рускі драматург А. Астроўскі, сапраўдны чарадзей народнага маўлення, па словах Горкага, пісаў: «Саслоўі, мясцовасці, народныя тыпы — усё гэта ярка абазначана ў мове і адбілася навекі» [1].

Маючы на мэце стварыць кнігу ў самым глыбокім сэнсе народную па духу, Мележ недзе ў душы добра разумеў, што задача гэтая будзе недасягальнай, пакуль ён не прымусіць гаварыць сваіх герояў гэтак жа, як яны размаўлялі б у жыцці.

Аднак культура мовы, як і залежнае ва ўсім ад яе ўмельства дыялога, — майстэрства надзвычай складанае.

Гэта цяпер, пасля таго як пісьменнікам у выніку ўзважвання многіх магчымых варыянтаў знойдзена дакладнае рашэнне, інакшай мову герояў у «Людзях на балоце», здаецца, і нельга ўявіць.

Але не адразу прыйшоў празаік да гэтага. Моўную праблему для сваіх твораў, як прызнаецца пісьменнік, яму па-сапраўднаму ўдалося вырашыць толькі пасля дзесятка год работы ў прозе. Яшчэ і ў працэсе працы над «Людзьмі на балоце» героі яго спачатку гаварылі хоць і кожны ў адпаведнасці са сваім характарам, але — агульналітаратурнай мовай. Так, як гаварылі ў іншых кнігах, як лічылася тады нормай.

«Я, аднак,— гаворыць пра свае тагачасныя пакуты празаік,— увесь час адчуваў нейкую дзіўную, непераадольную ненатуральнасць, фальшывінку ў іх мове. І чым далей, тым больш расло гэтае адчуванне. Гэта было падобна на тое, як адчуваеш фальшывы тон у музыцы. Тады ўсё настойлівей пачала браць мяне спакуса: а ці не паспрабаваць дазволіць героям гаварыць так, як яны гавораць у жыцці. Увесці ў раман іх сапраўдную, няхай, можа, і дзіўную для другіх мову. Не адразу адважыўся. Тады вельмі строгія былі ў нас ахоўнікі «чысціні» мовы. І ўсё ж адважыўся. І адразу адчуў, як мае героі ажылі, сталі тымі людзьмі Палесся, якіх мне хацелася бачыць і чуць».

І ўсё ж па меры таго як дзеянне яго раманаў захоплівала б неверагодна ўскладненыя падзеі другой паловы 40-х гадоў, а затым і ўсю нечалавеча-драматычную крутаверць Айчыннай вайны, мова твораў пісьменніка, хоць ён і залічваў сябе да традыцыяналістаў, думаецца, абавязкова прайшла б праз істотныя змяненні. Абсалютны моўны слых Мележа наўрад ці дазволіў бы яму ігнараваць тыя цяжкасці, у якіх неаднойчы прызнаваўся Васіль Быкаў: «Вось як мне паказваць свайго камбата? Якой мовай яго надзяліць? Народнай мовай, мовай нашай вёскі? Але ў арміі такой мовай не гаварылі, тым больш афіцэры. Браць за ўзор нейкую вайсковую, нівеліраваную мову? Таксама нельга.

---

[1] Островский А. Н. Полн. собр. соч., т. 12.—М.: ГИХЛ, 1951, с. 18.

Вось і шукаеш патрэбны эквівалент, такі моўны сплаў, каб герой гаварыў па-беларуску і каб у той жа час яго мова не была ні псеўданароднай, ні «статутнай»[1].

Думаецца, усю складанасць гэтай праблемы Мележ ужо адчуў пры пазнейшай пераробцы рамана «Мінскі напрамак». Праца відавочна зацягвалася, бо пры Мележавай творчай бязлітаснасці ў пошуку дакладных мастацкіх рашанняў гэтае дакладнае слова знаходзілася неймаверна цяжка, не адразу.

Увогуле гэтая «другая» кніга пісьменніка, кніга Мележа-крытыка — кніга вельмі асабістая, напісаная на ноце вялікай творчай усхваляванасці. У ёй уся яго творчая біяграфія, якую ён выказаў шчыра, не таячыся, з самых запаветных глыбінь сваёй багатай на крытычную рэфлексію псіхалогіі творчасці. Са старонак гэтае кнігі перад намі часам праступае нікольні не затоены «ўнутраны» Мележ з яго шчырай чалавечай адкрытасцю, якойсьці асаблівай кранальнасцю, іншы раз несхаванай крыўдлівасцю, і яны зразумелыя, бо вельмі адказна глядзеў на свой літаратурны абавязак пісьменнік, якога праз усё жыццё ажно спапяляла бязлітаснае імкненне да мастацкай дасканаласці.

Крытычна-эпісталярная спадчына пісьменніка, безумоўна, далёка не вычэрпваецца тэматыкаю культуры творчасці. Значную частку яе складае публіцыстыка, водгук пісьменніка на тыя ці іншыя падзеі грамадскага і літаратурнага жыцця свайго часу. І тым не менш Мележ, рыхтуючы яшчэ пры жыцці выданне сваёй крытычнай спадчыны, меў усе падставы бачыць арганічнае адзінства твораў гэтай сваёй «другой» кнігі. У аўтарскай нататцы да «Жыццёвых клопатаў» ён называе яе своеасаблівым дзённікам, справаздачай пісьменніка перад чытачом. Бо ў пісьменніцкім жыцці грамадская дзейнасць звязана з творчай мноствам самых разнастайных сувязяў. Пра непарыўную залежнасць жыцця і творчасці і пра небяспеку замутнення апошняй рознымі мітуслівымі бытавымі інтарэсамі лепш за ўсё скажа сам Мележ у артыкуле «Праца пісьменніка».

«Будучы адзінокай і інтымнай, праца пісьменніка ў той жа час поўна кіпення жыцця. Адчуваннем жыцця поўна сэрца пісьменніка, яго галава, усе яго пачуцці. Цішыня вакол самотнага рабочага стала поўная вялікага неспакойнага гоману жыцця... Адтаго, што ўсё ў рэшце рэшт вызначаецца жыццёвым вопытам, сэрцам пісьменніка, вельмі важна для пісьменніка, для яго таленту, як ён жыў і як ён жыве. Адкрыта ці замкнёна яго сэрца для радасцей і гора людзей, наколькі чула ловіць ён дыханне жыцця навокал сябе. Як глыбока ўспрымае ўсё, што адбываецца».

Праўда, папярэджвае пісьменнік, літаратурныя будні, мітусня будзённых клопатаў і інтарэсаў, ад якой, мы ведаем, не заўсёды мог засцерагчы сябе і Мележ (што бачна і на нераўнацэннасці яго літаратурна-публіцыстычнай спадчыны), «уцягваюць, зацямняюць, часам моцна заглушаюць голас вялікага жыцця».

Як важна тут, паводле аўтарскіх прызнанняў, паказаць «нораў», супрацьпаставіць усю сілу характару аблозе дробязнай

[1] Літаратура і мастацтва, 9 кастрычніка 1964 г.

штодзённасці. Асабліва важна тады, гаворыць пісьменнік, «не траціць адчування рэальнасці аб'ёмаў падзей, якія разгортваюцца паблізу і далей».

І нарэшце, з гэтай «другой», крытычнай кнігі пісьменніка мы нечакана для сябе даведваемся пра яшчэ адну запаветную мару Мележа. У інтэрв'ю карэспандэнту «Известий» пісьменнік мімаходзь кінуў прызнанне («Частка майго сэрца», 1972): «У планах і накідах — кніга пра літаратуру». І мы разумеем, што прыспешанае хваробаю выданне зборніка «Жыццёвыя клопаты» — гэта, безумоўна, усяго толькі нейкая частка ў рэалізацыі задумы кнігі пра майстэрства, той «другой кнігі», якая, паводле трапнага сведчання пісьменніка, неадступна суправаджае мастацкую творчасць. І можна сабе толькі ўявіць, якая б гэта была пранікнёная кніга пра сакрэты пісьменніцкай творчасці, што паведала б нам пра пакуты і радасці нараджэння «Людзей на балоце» і «Подыху навальніцы» і, можа, найбольш дарагога яго сэрцу твора «Завеі, снежань», які не паспеў закончыць...

*А. С. ЯСКЕВІЧ*

# АНАТАВАНЫ ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁНАЎ

## А

Б



---

[1] З 1966 года — Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы.

---

[1] З 1966 года — Дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа.

## В

## Г

## Д

## К

## М

Н

## Р



## С

## Т

## Ш



## Э



## Ю



## Я

## АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК

# ЗМЕСТ

## ЖЫЦЦЁВЫЯ КЛОПАТЫ

**Мележ І.**

М 47 Збор твораў. У 10-ці т. Т. 8. Жыццёвыя клопаты: Артыкулы, эсэ, інтэрв'ю.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 686 с., 4 л. іл.

У пер.: 1 р. 90 к.

Змест восьмага тома Збору твораў Івана Мележа склала яго кніга «Жыццёвыя клопаты». Творы гэтыя, як зазначаў аўтар, становяцца своеасаблівым дзённікам і пэўным чынам справаздачай пісьменніка перад чытачамі.

М $\frac{4702120200—129}{М302(05)—83}$ падпіснае

ББК 84Бел7
Бел2

Иван Павлович Мележ
Собрание сочинений
в десяти томах
ТОМ 8
Жизненные заботы
*Статьи, эссе, интервью*
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар П. З. Шаўцоў. Мастак Н. У. Сустава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктары Крукоўская К. А., Бялова Л. П.

ІБ № 1627
Здадзена ў набор 27.10.82. Падп. да друку 08.08.83. АТ 08685. Фармат 84×108[1]/[32]. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 36,12+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 36,54. Ул.-выд. арк. 37,03. Тыраж 40 000 экз. Зак. 3069. Цана 1 р. 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.